# МАКСІМ ГАРЭЦКІ



ТОМ
4

## КАМАРОЎСКАЯ ХРОНІКА
АПОВЕСЦЬ

## ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ



## ЗБОР ТВОРАЎ У ЧАТЫРОХ ТАМАХ

Рэдакцыйная калегія:

А. М. АДАМОВІЧ, С. А. АНДРАЮК, Д. Я. БУГАЁЎ,
Г. М. ГАРЭЦКАЯ, Г. І. ГАРЭЦКІ, В. А. КАВАЛЕНКА,
М. І. МУШЫНСКІ, І. Я. НАВУМЕНКА, Б. І. САЧАНКА

Рэдактар тома

А. М. АДАМОВІЧ

Падрыхтоўка тэксту і каментарыі Г. І. РЭУТ

Складанне «Летапісу жыцця і творчасці»
Т. М. ДАСАЕВАЙ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

ББК 84Бел7
Г21

**Гарэцкі М.**

Г 21 Збор твораў. У 4-х т. Т. 4. Камароўская хроніка: Аповесць; Летапіс жыцця і творчасці.— Мн., Маст. літ., 1986.—384 с., 4 л. іл.

У чацвёрты том уваходзяць «Камароўская хроніка» і «Летапіс жыцця і творчасці» М. Гарэцкага. Даецца гісторыка-літаратурны і тэксталагічны каментарый да гэтага твора. «Камароўская хроніка» — унікальная з'ява ў беларускай літаратуры, як па жанру, па задуме, так і па ахопу падзей і з'яў народнага жыцця.

Г $\frac{4702120200-132}{М 302(05)-86}$ 114—85 ББК 84Бел7

◇ ◇ ◇

# Часць першая (1863—1905)

## I. (ДА 1905 г.)

### 1772—1800

На аднэй геаграфічнай мапе, складзенай за часы Кацярыны,— значыцца, у блізкім часе пасля далучэння краю да Расіі (1772),— няма ні П'янава, ні Палянкі, хоць яны большыя за Камароўку, а Камароўка, хоць яна меншая, паказана. Можа, тут быў трыянгуляцыйны пункт.

Самыя старыя камароўскія дзяды не ведаюць, калі Камароўка пачалася. Але апавядаюць, што п'янаўскі пан, каб болей мець засеву, выганяў людзей з даўных вёсак на новыя месцы, глыбей, у лес, на ляды і расцяробы. І тады, кажуць яны, у ліку іншых новых вёсак, пачалася Камароўка. Нібыта выйшлі з Палянкі спярша чатыры двары, потым яшчэ два,— з таго яна і пачалася.

Усе двары спярша стаялі толькі з аднаго боку Віранкі, паўночнага. Хаты былі якраз на сонца, стаялі на ўзгорачку, па-над Віранкаю.

Віранка, што цяпер толькі гразная канаўка, тады была рэчкаю, з глыбокімі вірамі, чаму так і звалася. А на аколіцы, дзе цяпер улетку зусім высыхае і толькі ўвясну і ўвосень бывае топка,— кажуць, некалі стаяла возера.

І такое глыбокае, што ў ім залілася адна дарослая камароўская дзяўчына. Маці, у роспачы, укінула ў яго гарачую патэльню і пракляла яго: «Праклята будзь! Высахні, як гэтая патэльня!» Як сталі высякаць лясы, яно і высахла. Такая была легенда, цяпер ужо забытая.

Поле было маленечкае, толькі ля самых хат. Тут жа, з усіх бакоў, падступаў лес, кусты, балота. Мусіць, тады складзена гэтая сумная камароўская песня, у якой пяецца:

Выйду за вароты — махі ды балоты,
Мядзведзь кару дзярэць, камар песню пяець...

Дрэвы раслі спрадвечныя. Многа было такіх тоўстых, што два чалавекі, узяўшыся за рукі, не маглі абхапіць камля. Лес вечна гудзеў, цёмны і страшны.

Узімку цалютку ноч бегалі і вылі каля двароў галоднымі табунамі ваўкі. Улетку цэлы дзень звінелі камары сваім нудным спевам, і разам з безліччу мошак заядалі яны жывёлу і людзей.

Таму і назва — Камароўка.

### 1801—1861

Задумаўскі род у Камароўцы пайшоў ад двух братоў, якія, мусіць, і былі выселены з Палянкі.

Імя першага брата забыта. У яго сыноў не было, а толькі дочкі: Зося і Ганна. Ганну аддалі замуж у Палянку, за шапавала Міколу Брынду. Калі прыйшла воля, Мікола-шапавал з братам сваім усім дваром пераехалі жыць некуды пад мястэчка Шкрабава, дзе спрадвеку шапавальская старана. Тады Ганне далёка было да сваіх у Камароўку ў госці хадзіць. Але зрэдку прыходзіла, і ў Юркі Батуры (ён жа Кузьма Батура.— *Рэд.*) бывала. Раз прыйшла і Юрцы піражок прынясла. Юрка на печы ці на запечку быў, а Вусцінка і Тарас, унукі яго, малыя зусім, гулялі тут на палу. Ганна папрасіла нож, каб піражок свой рэзаць, а яны думалі, што яна дзеда іх Юрку рэзаць хоча: як заплачуць! Смеху з іх было. Баба Ганна, калі прыходзіла, дык Алёну Саўчыху ўсё лячыла. А да Зосі ўзялі прымака, дваровага чалавека з П'янава, Янку Вашэньку. Тодар Задума, што памёр у 1926 г., і брат яго Валента, што памёр даўно, гэта былі Зосіны дзеці. Прозвішча «Вашэнька» ім, мусіць, не падабалася, і калі сталі пісаць сялян у казённых паперах з прозвішчамі, яны запісаліся па матцы Батурамі (яны ж Задумы.— *Рэд.)*. Двор іх быў крайні ад лесу, ад Чортаўшчыны; стаяў там, дзе цяпер жыве Астап Задума (ён жа Сцяпан — *Рэд.*), Валентаў унук. Гэта самае старое задумаўскае падворышча ў Камароўцы.

Другога брата, задумаўскага продка, звалі Лукаш, а жонку яго — Хіма, або Аўхім'я. Яны абое памёрлі рана,— гэта і ўсё, што пра іх вядома. Кузьма Задума, што памёр у 1901 г., быў іх сын,— мусіць, ядыны. Ён застаўся сіратою і гадаваўся ў сям'і таго свайго дзядзькі, Лукашовага брата, а потым доўга жыў укучы, адным дваром, з Зосяю Вашэньчыхай і з сынамі яе — Валентам і Тодарам. Ён радзіўся ў самым пачатку XIX веку, можа, у 1801 годзе, бо калі памёр, дык палічалі яму сто гадоў. Французскую вайну добра помніў (1812), апавядаў, як ад французаў у канаплі хаваўся. Жылося яму ў чужой сям'і дрэнна. Яго

крыўдзілі. А як жаніўся — бедна аддзялілі. Жаніўся ж ён позна: маючы гадоў, можа, пад сорак.

Тады унію скасавалі (1839). Прыехаў начальнік з Гораду і загадаў, каб з абуходам ля царквы хадзілі не па сонцу, як дагэтуль, а пад сонца. А поп згаварыўся раней з парафіянамі: «Я пайду з ім, а вы — у другі бок». Выйшлі з царквы... Начальнік з папом павярнулі пад сонца, а людзі сталі, не ідуць за імі, стаяць. Поп кажа: «Дзеткі! Куды я, туды й вы». Усе й пайшлі пад сонца... І тады клопату набраліся, калі хто хацеў жаніцца, а не ўмеў маліцца па-руску. Поп не вянчаў або дужа вялікія грошы браў. Хадзілі да аднэй бабы, што ўмела маліцца па-руску, у яе вучыліся. Адзін вянчальнік хацеў ашукаць папа: пачаў мармытаць: «Міцца, сына... Міцца, сына... Верую, верую...» Поп прагнаў яго.

Жонку Кузьмову звалі Марына. Была яна з Нівішча, з двара Лісіц, з беднага двара. Цяпер з тых Лісіц у Нівішчы жывуць Марцін і Саўка, Цімохавы сыны; Цімох жа — гэта быў Марынінага брата сын, ці як; Марцін і Саўка ў гасцёх у Камароўцы ні разу ўжо не былі.

Жылося Марыне за Кузьмою цяжка. Ён нерупатлівы быў, неразбітны, і гарэлку любіў піць. Столькі ён і піў, больш людзі гаварылі. Калі выпіў за год рублёў на дванаццаць, дык тады гэта здавалася многа. Але ўсё ж траплялася Марыне самой вярхом на кані ў Целяпенічы па соль ездзіць, жывучы за такім мужам. Бо ў каго пасеяна, а ён не хапаецца. У карчомку пойдзе; трапіцца — вып'е, сядзіць задуманы, ціхія песні пяе... Аднаго разу прапаў у яго на прыгоне, на панскай сяўбе, мяшок жыта: украў нехта. А яго абсеклі... І то — выпіў з гора, сеў, задумаўся і ціхую песню сваю запеў. Мусіць, таму і празвалі яго Задумаю, калі гэтае прозвішча не было яшчэ за бацькам яго.

А прыгон жа трэба было служыць: за няўпраўку білі... Палута, Кузьмова дачка, што памёрла ў 1922 г., успамінала неяк, ужо ў старасці, як жала аднойчы Марына, маці яе, на сваім полі, недзе пад лесам, а прыехаў панскі лаўнік і абсек яе бізуном — «за няўпраўку ў рабоце»... І Палута з ёю была, тады яшчэ зусім маленькая дзяўчынка, і ручкі свае дзіцячыя выстаўляла, каб матку не біў. І хоць успамінала гэта праз многа-многа ўжо гадоў, у старасці, а й то слёзы ў яе па твары, па зморшчынах, як боб, сыпаліся: так горка ёй за матку было. А наогул жа яна рэдка плакала, хоць і невясёлае жыццё жыла.

Лаўнічаў тады ў п'янаўскіх паноў галапузы шляхціц Койдала з Вушова. Пра яго была складзена гутарка, у якой гаварылася:

А ў нашага лаўнічка — чорненькі брылёчак,—
Як прыедзіць на дзярэўню, мучыць яго жываточак...
А ў нашага лаўнічка — рабыя анучкі,—
Як прыедзіць на дзярэўню, жывот яго мучыць...

Бо ён быў франт: насіў чорны брыль, абуваўся ў лапці з рабымі анучкамі. І любіў, каб яечняю, гарэлкаю яго частавалі. Бабы яму гарлачамі малако насілі. Тады не б'ець, не сячэць.

Памёрла Марына гадоў за пяць да вольніцы, каля 1857 г., яшчэ ў маладым веку. На прыгон у П'янава ішла, увосень, лён мяць. І цяжкую мяліцу на сабе з Камароўкі нясла — тры кіламетры з гакам. Упацела і прастудзілася. Хварэла ўсю восень, і да каляд, перад калядамі памёрла.

Пасля яе смерці засталіся дзеці: Палута — гадоў сямі, Саўка — гадоў пяці, Адарка — гадкоў трох і Стахван — дзесяці месяцаў, яшчэ ад грудзі не адняты. Былі яшчэ Сідар і Сахвея, яны памёрлі маленькія, да маткінае смерці. Стахвана выкармілі сусолкамі.

Тады Кузьма Задума ізноў укучы з Валентам і Тодарам мусіў жыць. Яны нешта павінны былі выплачваць, дык ізноў узялі яго да сябе, каб лягчэй было выплачваць. А яму хоць троху лягчэй, з дробнымі сіротамі, што Тацяна Валенціха за гаспадыню была, дзяцей яго абмывала, абшывала.

Дрэнна жылося — і яму і дзяцём яго. Тацяна біла яго цугункам па галаве за кулеш. Самы першы ўспамін з малых гадоў у Стахвана застаўся, як ішлі Палута з Адаркаю ў ягады і ён за імі бег... А яны не хацелі, каб з імі ішоў. Палута злавіла яго, нашлёпала і ў крапіву ўкінула. А ён яе ўкусіў. Бабы стаялі на вуліцы, глядзелі і смяяліся... А то ў вішні яны з Саўкам лазілі. Дык ён, хоць меншы, але спрытнейшы быў: уцячэць. А Саўку Тацяна зловіць і адлупіць... А Саўка-нябожчык (памёр ён у 1924 г.) успамінаў, як залезуць яны бывала з Стахванам, малыя, на печ і адтуль украдня, каб Тацяна не ўбачыла, бульбу пякуць. Насодзяць на кійкі, прасунуць у дзірку і пякуць. Абы «заяц», ці іначай «жывец», з яе выскачыў: так, сырую, недапечаную, і хаўкаюць з голаду.

Калі і вольніца прыйшла (1861), было ў Камароўцы ўсяго шэсць двароў — за восемдзесят год ніводнага не прыбавілася. І поле было невялічкае. З аднаго боку, ад Чортаўшчыны, лес пад самыя хаты падступаў, і там, недалёка, за балотам, былі мядзведжыя логавы.

А з другіх бакоў, за полем, скрозь былі кусты, балоты, пні, а буйнога лесу ўжо не было. Бо яшчэ генерал П'янаў, як успаміналі старыя людзі, «агаліў пушчу», ці-тое сек дужа многа лесу. Ён сплаўляў яго малымі рэчкамі ў Дзвіну, па Дзвіне — у Рыгу, а адтуль цэлымі караблямі адпраўляў за межы. Многа секлі і яго наступнікі.

І калі наразалі сялянам зямлю,— гады праз два, як вольніца была абвешчана,— камароўцам адрэзалі іх малое поле і гэтыя пасечаныя месцы, з кустамі і балотамі, дзе лесу можна было набраць толькі на пуні ды на дровы. Толькі там-сям трапляліся дубкі ды пад Мохам і Засценкамі гусцей раслі буйнейшыя бярозы.

Наразалі па надзелу на мужчынскую душу, так што прыйшлося Задумам — 6, Сілункам — 6, Скнарыцам — 7, Будзьку — 2, Ножыкам — 12 і Смакунам — 7, а ўсяго на Камароўку 40 надзелаў зямлі. Надзелы ў розных вёсках былі розныя, гледзячы, якая зямля. У камароўскім надзеле было тры з нечым дзесяціны, так што на ўсю вёску нарэзалі гектараў паўтараста. Усё поле падзялілі на тры часці, у кожнай часці далі на двор па шырокай і вузкай паласе і па вялікаму і малому рэзу пры дарогах і пад лесам і па некалькі малых разочкаў пад Мохам, дзе самая няўдобіца. Так рабілі, каб не было крыўды, бо зямля няроўная.

І тады ж усе, па ўсіх вёсках, пачалі дзяліцца і рассяляцца, будаваць новыя двары і хаты, і дзяліць, і перанасіць старыя. І ў Камароўцы з кожнага двара стала два-тры двары. І тады ж перанесліся некаторыя двары з гэтага боку Віранкі на другі бок. Тут засталіся Валента з Тодарам Задумы, Сілункі, Скнарыцы, Будзька і адзін двор Ножыкаў (Арцём Ножык). А на другі бок перайшоў Кузьма Задума, два двары Ножыкаў і Смакуны.

Кузьма Задума атрымаў тры надзелы зямлі: на сябе надзел, на Саўку надзел і на Стахвана надзел, што па цяперашнюю меру складае гектараў 10—12. І цяпер жа падзяліўся з Валентам і Тодарам другі раз. Зямлю яму наразалі яшчэ разам з імі, 6 надзелаў на адзін двор. Цяпер

зямлю, палосы і разкі, вяроўкамі размерылі, напалам падзялілі. З двара яму часць выдзелілі, і гэтую часць і хату сваю старую перанёс ён на другі бок, на Максімаўшчыну (чаму «Максімаўшчына», ужо невядома). Гэта — між Ножыкаў і Смакуноў, дзе і цяпер жыве Стахван Задума, на тым самым падворышчы, болей як 70 гадоў.

Перанасіў хату Кузьме — Лук'ян Вашэнька, брат Янкі Вашэнькі. Ён сухарукі, але дужа крэпкі быў: аднаю рукою бервяно схопіць і панясець. І памёр Лук'ян, не дакрыўшы хаты: усю зіму на ёй кулі ляжалі. Хата была курная, без коміна. Тады яшчэ ўва ўсіх такія хаты былі. Як запаляць у печы, дым сцелецца пад столлю, вісіць ля вакон, плывець па хаце, выядае вочы. Выхадзіў дым у невялічкую дзірку над дзвярмі. Калі ў печы выпаляць, дым сойдзе,— дзірку затыкалі анучай. Цяпер гэта дзіўна: няўжо не маглі сяляне скласці сабе печку з комінам? А не маглі... На комін патрэбна абпаленая цэгла, бо сырэц размякне. А дзе й калі было ім абпаліваць цэглу? Так і жылі.

У той жа час задумаў быў Кузьма жаніцца ў другі раз, хоць было ўжо яму гадоў, мусіць, на шосты дзесятак. Хацеў браць Разалю Хведасенкаву з Палянкі. А яна была несамавітая, недабрэ бачыла. Саўка з Стахванам, хоць малыя, пачалі прасіць бацьку, каб не браў яе. Паслухаў іх. Так і звекаваў удаўцом. А каб было каму жаночую гаспадарку ў хаце весці, бо Палута яшчэ не вырасла, гадоў трынаццаць мела,— прыйшла да іх жыць родная сястра нябожчыцы Марыны, Палута Лісіца з Нівішча, тады яшчэ маладая. І жыла ў іх да смерці, замуж нікуды не зайшла. Стала тады ў іх у хаце дзве Палуты: цётка і пляменніца.

І пасля прыгону, яшчэ доўга, усе людзі жылі ў вялікай беднасці. Падаткі ўсіх душылі. А поля было мала: трэба ж было вырабіць яго з-пад пнёў, кустоў, балота. Праўда, першыя гады ляда радзіла добра. Але ж потым, без гною, перастала радзіць. А гною не было, бо скоту не было. А скоту не было, бо дастаткаў не было. Так яно і йшло... Елі пушны хлеб і бульбу. Хлеба не хапала. Стахван Задума ўспамінаў, як ставіў ён дзіцячыя млынкі на страсе і пацяшаў бацьку свайго Кузьму, што хлеба намеле. Арцём Ножык, Стахванаў хросны бацька, перагнаў іхнюю кабылу, і яна здохла. Купілі другую. Тую другую, якраз на Хрышчэнне, у іх укралі. Толькі злодзей трапіўся добры: кабылу ўкраў, а жарабочка пакінуў. Жарабочка таго Кузьма прамяняў целяпеніцкаму Шульману на аднавокую кабылу. І курыцу ў прыдачу даў. Саўка з Стахванам аж пла-

калі па тым жарабочку, каб не мяняць, а бацьку не перацягнулі. Усё багацце ў іх было: аднавокая кабыла (яна пасля жарабіла жаробачку) і дзве авечкі. Дык адну авечку, з ягнём, прадалі Шульману, на хлеб, хлеба не было. А потым і другую мусілі прадаць. Ляснік панскі, Давыд Гаеўскі, шляхціц з Палянкі (там шляхта асобна, за рэчкаю, жыла), і начаваў часам у Кузьмы, як позна з абходу ішоў, а кабылу іх з жаробачкаю ў панскім лесе забраў. Яны і другую авечку Шульману прадалі, за паўтара рубля! Рубля штрафу заплацілі за кабылу, а паўрубля за жаробачку. Не было каровы, дык умовіліся з панам Алёхнавічам, у якога Саўка і Палута скот пасвілі, што ён дасць цёлачку. А ён даў бычка. Адарка і Стахван малыя былі, ім не ў голаве, а Палута Лісіца не дагледзіла: пайшоў бычок піць і ўтапіўся. Большыя дзеці, Саўка і Палута, з малых год у наймы пайшлі. У пана Алёхнавіча ў Слабодках скот пасвілі, а Саўка потым і ў Горадзе, у купцоў Зярэніных, гады два батраком служыў.

Стахван Задума пайшоў служыць гадоў трынаццаці. Бацька папрасіў яго, каб Саўка і Палута — дамоў, а ён — служыць. Спярша аддалі яго ў Чэрнеўку, да мужыка Дручка, у якога сваіх хлопчыкаў не было. Праслужыў там адзін тыдзень, перад самым панассем (18 студня па ст. ст.), і затужыў па дому. Ехалі людзі з кірмашу, з Целяпеніч, ён ускочыў у сані і ўцёк дамоў. Тады аддалі ў Слюнькаўшчыну, да шляхціца Раскірэкі. Праслужыў два тыдні. Там хацелі, каб у лес ужо, у дровы ездзіў. І адтуль адышоў. І тады ўжо, перад вясною, наняўся ў П'янаве, у паноў.

## 1870—1877

Тады гэта вялікі маёнтак быў: тысяч пяць гектараў ворнае зямлі і лугу, тысяч пятнаццаць гектараў лесу, вялікі панскі двор у П'янаве і некалькі фальваркаў.

Належаў ён цяпер не П'янавым, а Шклянскім. Гадоў за пятнаццаць да вольніцы ўся П'янаўская эканомія, разам з унучкаю генерала П'янава, перайшла на ўласнасць да багатага адкупшчыка Шклянскага. Пан Шклянскі быў родам невялікі шляхціц. У маладосці служыў ён прыказчыкам у кіеўскага мільянера, яўрэя Палякова. Потым забагацеў, асабліва калі перайшоў з каталіцтва на праваслаўную веру і калі яму пачалі даваць вялікія казённыя падрады. П'янавы тым часам, хаця і шмат грошы былі вінаваты і Палякову і Шклянскаму, доўга ўпіраліся, не ха-

целі мець зяцем Шклянскага, што ён з невялікай шляхты і кампаньён яўрэя Палякова. Тады Шклянскі раздабыў нейкія паперы ці лісты, з якіх было відаць, што баба яго была палюбоўніцаю ў князя Целяпені, замуж зайшла за нейкага старэнькага і беднага шляхціца Шклянскага толькі дзеля вока людскога, а сына мела целяпеніцкае князеўскае крыві. П'янавы гэтым лістом паверылі ці захацелі паверыць, баючыся, што Палякоў і Шклянскі забяруць іх маёнтак за даўгі, і тады ўжо згодзіліся парадніцца з панам Шклянскім.

Шклянскі замардаваў людзей прыгонам. Ён па ўсіх фальварках парабіў пруды, пабудаваў млыны і сукнавалкі, а ў лясох — лесапільні, дзягцярні, смалакурні. Ён жа разабраў у Пацкаве зачынены касцёл на цэглу, перавёз гэтую цэглу ў П'янава і збудаваў з яе вялікі бровар. Завадзіў новыя фальваркі. І з Камароўкі хацеў зрабіць фальварак, ды не паспеў: вольніца наступіла.

Наняўшыся ў П'янаве, Стахван спачатку, да вясны, паганяў коні на кругу ў малатарні. Плацілі яму 25 рублёў па год. І цішком набіраў у кішэні намалочанага збожжа і прынасіў дамоў. Малолі на ручных жорнах, пяклі хлеб і елі. Вясною паставілі яго пасвіць свіней і авечак. Пасвіў з Грышкам Лазінкаю з Нівішча, адкуль і Марына-нябожчыца, маці Стахванава, родам была. Грышка добра яе знаў, апавядаў яму пра маці. І ўсё добра ў іх ішло. Але аднаго разу, у канцы лета, вялікі вапер кінуўся на Грышку, паваліў на зямлю і пачаў ірваць яму клыкамі спіну. Стахван жа не спалохаўся. Падбег, схапіў вяпра за хвост і біў пугаўём між вушэй, пакуль і не адагнаў. Якраз наехаў на здарэнне эканом Бізуноўскі і ўсё бачыў. Яму спадабалася, што хлопчык не спалохаўся, ён гэта запомніў. Грышка Лазінка быў ужо чалавек немалады, лячыўся-лячыўся ды скора і памёр, бядача. А Стахвана ўзімку Бізуноўскі «павысіў»: пераве́ў у абору, у падмогу кароўніку, даглядаць кароў. Потым, пасля каляд, калі захварэў кухонны хлопчык, эканом Бізуноўскі ізноў выбраў Стахвана і паставіў яго на месца кухціка. Было гэта праз год пасля яго службы ў п'янаўскіх паноў, і служыў гэтым разам Стахван у П'янаве сем гадоў, да прызыву (1870—1877). Навучыўся катлеты смажыць і пірагі пячы, у карты гуляць і гарэлку піць.

У гэтым часе (1874) жаніўся Саўка. Жонка яго, Алёна Куляшоўна, была з Палянкі, з беднага двара. Была яна і разумная і працавітая, натуры добрай і даволі прыгожая,

але з першых жа гадоў жылі яны з Саўкам не дужа дружна. Сварыліся. Ён часам біў яе. Упрочкі яна ўцякала... Саўка быў чалавек справядлівы, сумленны, але замкнуты і надта крыўдлівы. Ён змалку цярпеў многа паніжэнняў, потым доўга служыў батраком, дык, можа, таму блізка прымаў да сэрца ўсякую няўдачу і ў кожнай драбніцы бачыў сабе крыўду.

З сёстраў замуж пайшла спярша меншая — Адарка, праз год пасля Саўкінага вяселля (1875). Зайшла ў Палянку, за Марку Бондара, у бедны двор. Марка быў надта добры чалавек, і даволі вясёлы, прыгожы. Ён быў высокі, рыжабароды, а Адарка — невялічкая, чорненькая, худая. Жылі яны дружна. Толькі дзеці ў іх усё ўміралі. Вырас адзін сын Стратон, што і цяпер жыве ў Палянцы. Радзіўся ён каля 1881 г., адных гадоў з Вусцінкаю Саўкінаю і Тарасам Палутавым.

Гады праз два, як Саўка жаніўся, задумалі яны ставіць новую хату. Стахван выслужыў, паны на трыццаць рублёў макушак далі. Прыйшоў Саўка ў П'янава, узяў у Стахвана грошы на вядро гарэлкі — макушкі гэтыя таласкою з лесу вывазіць. Гарэлку тады прадавалі паны ў сваім бровары, эканом Бізуноўскі. За вядро гарэлкі бралі 4 р. 20 кап. І калі быў Саўка ў П'янаве, на вёсцы,— там нехта ўкраў у яго гарэлку. Прыйшоў ён ізноў да Стахвана — і плакаў... Ад крыўды і страты. Стахван пазычыў у повара 4 р. 20 кап. і даў яму яшчэ. Хату гэтую збудавалі ўжо з комінам.

Ці тады, ці пазней — празвалі Саўку «Тужыкам». Што — усё, аб усім тужыў. Бедзен быў, хацеў разжыцца. І нават уночы бегаў на Узмошча шуркі ставіць. Каб дровы прадаць і каб поля болей мець. І Алёну туды з сабою вадзіў. Дзень працуюць — ды яшчэ і да паўночы. Ад цяжкой работы Алёна адно дзіця скінула. Першае дзіця ў іх было — сын Аўдашка. Пражыў Аўдашка трошку, з год ці болей, і памёр ад канвульсій. Пасля Аўдашкі Алёна адно дзіця скінула, ад цяжкой работы. Баба імя налажыла, і пахавалі. А тады ўжо радзілася ў іх Вусцінка, што і вырасла... Сумны канец яе быў. Бедная, бедная Вусцінка!

У 1877 г. набываў Стахван на прызыве. Выцягнуў лёс з вельмі вялікім нумарам. І калі падхадзіла чарга да яго, падагналі целяпеніцкіх яўрэяў, што ад трох год, як пачалі яўрэяў у салдаты браць (1874), хаваліся ад рэкрутчыны. Падагналі іх многа, і з другіх мястэчак, дык іх здалі, а Стахван і ўсе, хто з вялікім нумарам, засталіся па сіняму

білету. Вярнуўшыся ў П'янава, папрасіў ён у паноў прыбаўкі. Але Княгіня і за ёю Паненка не далі. Прыбавілі яму толькі два сажні дроў. Ён надумаўся адысці ад іх, застаўся толькі да вясны... А вясною (1878) не сам адышоў, а Княгіня і Паненка прагналі.

Гэта былі дочкі пана Шклянскага. У яго было пяць дачок. Тры выйшлі замуж пры жыцці бацькі. Адна — за генерала Рындзіна, якога потым забіў п'яны казак на Каўказе. Застаўшыся ўдавою, яна прыехала з трымя дзяцьмі ў П'янава і жыла ў сясцёр. Другая — за пана Нерада, што меў маёнтак Грэшнае ў Аршанскім павеце. І трэцяя — за таго пана, што падавіўся калдуном і з такой прычыны памёр. Але гэта ўжо пазней было. Сам пан Шклянскі памёр ад незлячонае хваробы і мужскога патомства па сабе не пакінуў. Пабожныя людзі бачылі ў гэтым помсту з неба, за разбураны касцёл, хаця Шклянскі, яшчэ да вольніцы, збудаваў драўляную царкву ў Харошым. У харошаўскай царкве, у склепе, яго і пахавалі. Княгіня ішла замуж па яго смерці. Выскачыла яна за нейкага нявіднага князька Аслінскага. Князёк пажыў у П'янаве года паўтара і збег ад мілае жонкі назаўсёды. Вось яна і была злая і нічога не саромелася: лаяла сялян у полі мацернымі славамі і рабіла там пры іх тое, дзеля чаго сабака і то пад куст адвернецца... Пятая Шклянская засталася ў дзеўках. Яе да смерці звалі Паненкаю.

У П'янаве панскі двор і вёска былі побач. Сялянскія гароды падхадзілі пад самае возера, дзе панскія поплавы. І вось аднойчы, той вясны, п'янаўцы на начлезе запусцілі коні ў панскія поплавы. І калі панскія вартаўнікі з эканомам Бізуноўскім забіралі коні, Стахван ішоў знедкуль міма. Эканом Бізуноўскі паставіў яго ў сведкі. Другім сведкам ад паноў быў п'янаўскі мужычок Міхей Сучачка, празваны так за тое, што любіў пайсці да паноў і нашаптаць ім на людзей, каб убіцца ў панскую ласку. Суд быў у Целяпенічах. Сучачка сведчыў, што п'янаўцы наўмысля запусцілі коні ў панскае і што ўсе коні былі ўзяты на панскім. Задума сведчыў, што коні маглі самі ўзысці на панскае, калі начлежнікі заснулі, і што бралі коні на панскім, у паплавох, і на мужыцкім, па сухім. Мужыкоў усё роўна засудзілі. А калі Стахван прыйшоў з суда ў П'янава, Княгіня ўдарыла яго па галаве кулаком і жменю валасоў з галавы яму выдрала... Людзі смяяліся: чаму ён большы не падрос, дык бы не дастала! Бо і яна была нізенькая, два нізенькіх сабраліся.

Стахван падаваў на яе ў суд. І суд быў — у П'янаве, у міравога. Паклікалі яе, сорамна ёй,— не з'явілася. Дала праз Бізуноўскага дроў і сена,— на тым «памірыліся»...

## 1878—1884

Пажыў ён троху ў сваім двара. Тады ў іх якраз Аўдашка Саўчын хвараў і памёр ад канвульсій. Пажыўшы троху ў сваім двара, пайшоў Стахван ізноў шукаць службы. Пайшоў у Воршу, пехатою, за сто кіламетраў. Паступіў там у гасцініцу багатага яўрэя Палыкаўскага, што быў родам з Целяпеніч. Паступіў другім поварам. Аднойчы заехаў у гасцініцу пан Нерад, сваяк п'янаўскіх паноў. Убачыў там Стахвана, пазнаў яго, распытаўся, як гэта ім здарылася ў П'янаве, і сказаў: «Ідзі да мяне поварам, дам 50 рублёў на год». Стахван згодзіўся і пайшоў на службу ў маёнтак пана Нерада.

Маёнтак зваўся па-старому «Грэшнае», а па-новаму «Багемія». Знаходзіўся ён кіламетраў за сто ад П'янава, у Аршанскім павеце. Нерады атрымалі яго ад цара ў падарунак, за тое, што стары Нерад, бацька гэтага Нерада, вылечыў цара. Старога Нерада тады ўжо не было, памёр, толькі аб ім сярод панскіх слуг і ваколічных сялян хадзіла, што быў ён незвычайны лекар, царыца па яго ў Грэшнае з Пецярбургу прысылала, калі другія дактары не маглі вылечыць цара, і што быў ён чарадзей, астралог, фармазон, голаю нагою ніколі на зямлю не станавіўся і па начох з будкі над домам сачыў зоры... Сын старога пана Нерада, гэты ўжо пан Нерад, што наняў Стахвана, служыў міравым пасрэднікам. Жонка яго, родам Шклянская, была лепшай натуры, чым яе сёстры Княгіня і Паненка, толькі ўспыльчывая была дужа. Дзяцей у іх было чацвёра: тры хлопчыкі — Бора, Толя і Віця, і адна дзяўчынка — Міла.

І калі служыў Стахван у Грэшным, гады праз два (1880) пайшла замуж большая сястра яго Палута, і яго на вяселлі не было, без яго гулялі. Палуту доўга ніхто замуж не браў, мела яна гадоў 30 і болей, Кузьма хацеў ужо прымака да яе ўзяць, на свой надзел. А тады пайшла, за Банадыся Зюзькевіча, у Большую Слабодку. Ён быў пастух, удавец. Ад першае жонкі хлопчык у яго быў, на імя Сільвей. Пасагу ёй далі: хлеба троху, авечку далі.

У тым жа часе, скора, як Палута замуж пайшла, радзілася ў Саўкі дачушка, Вусцінкаю назвалі (1882). А калі Палута пражыла замужам год і тры месяцы, радзіўся ў

яе хлопчык, Тарасам назвалі (1882). Быў Тарас маладзейшы за Вусцінку меней года. І Стратон Адарчын быў тых жа гадоў (радз. 1881 г.). І калі радзіўся Тарас, памёр бацька яго, Банадысь Зюзькевіч. Палута прыйшла з малым дзіцянём назад да бацькі ў Камароўку і ўсё жыццё там сваё невясёлае пражыла.

У тым жа часе, пражыўшы гадоў 55, памёр пан Нерад (1881), ад гемарою, прастудзіўшыся на Дзвіне, калі пераязджаў на чаўне, у часе разліву, вясною ці восенню. Стахван застаўся служыць у пані Нерадзіхі. Праслужыў яшчэ гады два і задумаў жаніцца. Ішоў яму 28-ы год (1884). Падабалася яму Каралёва. Каралёвы жылі аднадворцамі, недалёчка ад Грэшнага, па шляху на мястэчка Ідзя́лы. Матка Каралёвай была гадоў 12 палюбоўніцай у пана. Калі пан жаніўся, ён даў Каралёвым гектараў 12 зямлі. І так яны і жылі. Каралёва была дзяўчына высокая, рыжая, уся ў вяснушках, а Стахван быў нізенькі, маленькі, чорненькі. І дужа хацеў ён узяць яе замуж за сябе, і яна пайшла бы за яго, бо хоць і панская дачка па бацьку, але была простая і непісьменная, як і ён. Аднак жа паня Нерад не дапусціла, каб дзяўчына панскае крыві магла жыць у яе доме ці ў маёнтку жонкаю повара... І сватала яму сама другую — дачку старшыні, толькі што троху калекую. Ад дасады разлічыўся ён і дамоў паехаў, каб пашукаць сабе дзяўчыну ў сваёй старане. П'янаўскі кучар, прыязджаючы ў Грэшнае, раіў яму ісці ў сваты ў Харошае, сватаць дачку багатага Тамаша Ваяводы.

## II. (ГІСТОРЫЯ РОДУ ВАЯВОД)

Дзед Тамаша Ваяводы быў панскім пастухом у П'янаве. Звалі яго Мікола, або Мікалай, а па бацьку — Грасімавіч. А «Ваяводаю» празвалі яго ў насмешку, затое што пастух. Жыў ён дужа доўга, гадоў 115, і памёр ужо ў Харошым, каля 1870 г.

Бацька Тамаша Ваяводы, Стахван Мікалаевіч Ваявода, быў панскім ткачом у П'янаве. Сукны ткаў, шырокія дужа, па аршыну ў дзень. Два чалавекі стаялі, адзін з аднаго боку, другі з другога, і чаўнакі яму падавалі. Утраіх так ткалі. Каля ткачоў быўшы, ён сам, з-за пляча, і грамаце навучыўся. Потым сам і дзяцей сваіх грамаце навучыў. Першую сваю жонку Мар'ю ён дужа любіў. І перад смерцю яе сніў сон: яблынька ў садзе пахінулася-пахіну-

лася і з кораня вывернулася... І так яе любіў, што да самае смерці блюў ад яе сарочку, штаны і посцілку. І перад смерцю папрасіў, каб тую сарочку і штаны надзелі яму ў труну, а посцілкаю тою, каб труну яму заслалі. Так і зрабілі. Ад Мар'і выраслі ў яго сыны: Янка, Тамаш і Максім. І там жа яшчэ, у П'янаве, гадоў за дзесяць да вольніцы (1851), жаніўся ён другі раз. Другую жонку яго звалі Зяноўя Раманаўна. Была яна невялічкая, складненькая, русявая, чырвоненькая. А Стахван Мікалаевіч менш яе любіў, чым першую, Мар'ю. І яна тое знала. Ад Зяноўі Раманаўны выраслі ў яго два сыны: Хомка і Лукаш, і тры дачкі: Луцэя, што ў Івоны замуж зайшла; Мар'я — што ў Маскалёўку, і Любка, што ў Гаршчыну. Усе радзіліся за прыгонам, у П'янаве, і толькі Любка, здаецца, радзілася ў Харошым, ужо вольная.

Калі прыйшла вольніца і пачалі даваць зямлю, Стахван Мікалаевіч, з бацькам сваім старым і з усёю сям'ёю, з панскага двара выйшаў і пайшоў на зямлю, у сяло Харошае. Там нарэзалі ім сем надзелаў зямлі, па надзелу на мужчынскую [душу]. І збудаваліся яны там на высокай гары, над ракою, водаль ад іншых хат, у прыгожым месцы. Але выйшаўшы на земляробства з панскага двара, яны каля зямлі добра хадзіць не ўмелі і гора нацярпеліся. Янка Стахванавіч, самы старшы сын, мусіў, праз нястаткі, у заробкі пайсці, таго ж году ў Пецярбург паехаў, там служыў. І хоць сям'я была вялікая, рабочай сілы было мала. Праўда, другога сына, Тамаша, скора жанілі, каб мець памочніцу Зяноўі Раманаўне. Але работнікаў-мужчын было мала: сам Стахван Мікалаевіч і Тамаш, бо Мікола Грасімавіч за старасцю не мог рабіць. Максіма скора ў салдаты забралі (1866), у Горадні ён служыў, ротным пісарам быў, а меншыя хлопцы, Хомка і Лукаш, толькі падрасталі. Аднак жа ў сям'і было, без Янкі і Максіма, дзесяць чалавек. А потым і ў Тамаша пачалі дзеці радзіцца.

На вялікую сям'ю хлеба не хапала. З вясны і да нові пяклі хлеб з кашкі ды лебяды, падсыпалі мякіны. Развальваўся такі хлеб. У печ у місцы садзілі ды абарачвалі. Содзяць-содзяць, ніяк не ліпіць, дык у міску. А то чашку такую зрабілі, з ручкаю. Цеста ў чашку ды ў печ, і аберне... Грыбы елі. І ўсякія грыбы, нават валуі, калі добрых грыбоў яшчэ не расло. Валуі гэтыя варацьварацЬ, ваду сальюць, ізноў варацЬ. Тады горстачку мукі аўсянае ўсыплюць, прытруць і ядуць. І смарчкі елі, толькі баяліся, каб

не атруціцца... Рыбу лавілі. Цяпер і ў Харошым невялікая рэчачка, як канаўка. А тады гэта вялікая рэчка была,— глыбокія віры і колькі альшэўніку, карчэўя! Сілкамі рыбу ў ёй лавілі. З конскага воласа, пяцелічка, хлопец каторы пойдзе, падвядзець ды на бераг махіль! Яна троп-троп, а ён яе ў торбу... І ракаў лавілі. Увечары пойдуць, пучкоў саломы з сабою набяруць, адзін свеціць, другі ловіць. Ракі выпаўзаюць жыравацца: жабу штук пяць смокчуць.Наловяць іх, выхаласцяць, кішачку, трыбушок выцягнуць. Наварацъ, пасоляць і жыжку ядуць. Ды без хлеба: няма хлеба. Дык з роту на другі дзень смярдзіць-смярдзіць. Ад валуёў не так смярдзела... Увосень бялянак дужа многа было. Тады іх елі, а цяпер яны не растуць. Гэта самыя позныя грыбы. Калі бульбу капалі, дык яны гужам раслі. Кіпяцілі іх доўга, потым на рэчку ў рэшаце, памыюць, цыбулі, крошачку сала — і ядуць... У самую позную восень у рыжыкі хадзілі, і нават ездзілі, на вазох прывазілі, на зіму саліць, бо яны і па сваіх лядах, пад сасновымі кусцікамі, па лугу, па канаўках — усюдых раслі... А ў панскім лесе, калі панскія леснікі нападалі, дык абдзіралі, а грыбы забіралі ў панскі двор. Адбіралі хусткі, хвартухі, шапкі і нават світкі. Самыя лахманы ў лес людзі напраналі. А калі адбяруць — і то шкода. Бо беднасць.... Тады яшчэ ў Камароўцы і ў Харошым белыя світкі насілі. Пасля белае чорным пачалі абкладаць. А пазней і шэрае сталі шыць. Цяпер усе чорнае носяць. І ўсе тады ў лапцях хадзілі. Стахван Мікалаевіч — ткач быў, а й то ў лапцях хадзіў.

Тамаш жаніўся, мусіць, таксама ў той жа год, калі пераехалі яны ў Харошае (1862). Жонка яго, Палагея Мацвееўна, была родам з вёскі Картыжоў, дачка Мацвея Мароза і жонкі яго Гапкі. Яны спярша нічога жылі, сад у іх вялікі быў, а пасля збяднелі. Пасагу за жонкаю Тамаш не ўзяў, дый не давалі тады пасагу,— так пасаблялі, чым маглі: у рабоце, хлебам... У Гапкі ад Мацвея Мароза была Палагея Мацвееўна і сын Іван Мацвеевіч, што служыў у салдатах 25 гадоў. Палагея, ужо замужам быўшы, ездзіла яго праваджаць. У Віцебск заехалі. Завязлі яму хлеба, палатна на парцянкі, на рушнікі. Мароз-мароз быў, шчокі яны памарозілі, калі ездзілі праваджаць. І жонка ў яго засталася, яшчэ бяздзетная, маладая, Рыпіна, была яна з Вярбы. І чакала яго 25 гадоў, спярша жыла ў яго двары, а потым да бацькі перайшла. А калі Іван Мацвеевіч вярнуўся, яна ізноў прыйшла к яму, і дзеці ў іх бы-

лі... А Ганка Марозіха, калі сын у салдаты пайшоў, а муж Мацвей Мароз памёр, узяла к сабе прымака, і ад таго прымака былі ў яе дзеці: таксама Іван (другі ўжо Іван), і яшчэ адзін сын, і адна дачка, Наталля, што ў Белабокаўцы замужам была за Аўдзеем Рагавым.

Першае дзіця ў Тамаша Ваяводы ад жонкі Палагеі была дачка Ганна. Яна радзілася на самае купалле (24 чэрвеня па ст. ст.), у 1863 або 1864 годзе. Потым, пакуль яшчэ Тамаш укучы з бацькам жыў, на старым падворышчы, радзіліся ў яго Паўлюк, Палагейка і Міхалка. Палагейка не пражыла і году і памёрла. На новым двары, пасля падзелу Тамаша з Стахванам Мікалаевічам, радзіўся Іван Фаміч (Тамашавіч) і дзве Мар'ічкі. Абедзве Мар'ічкі памёрлі малыя: першая гадкоў трох, а другая гадкоў дванаццаці.

Дзяліліся Тамаш з бацькам, калі Ганне гадоў пяць было, яна ўжо помніла (1869). Стахван Мікалаевіч даў Тамашу тры надзелы зямлі: яго надзел, дзеда Міколы надзел і Максімаў надзел. А сабе з тымі сынамі пакінуў чатыры надзелы. Дзед Мікола тады яшчэ жыў быў. З печы злез і на паперы крыжык паставіў, за свой надзел, што дастаецца ўнуку яго Тамашу. А дажываць веку застаўся ў сына, Стахвана Мікалаевіча. Максім жа тады ў салдатах быў, у Горадні, пісарам. Калі дзяліліся, Стахван Мікалаевіч захацеў, каб Максім лічыўся ў Тамашовай сям'і, сем'янінам яго... Удзень хлеб дзялілі, у клеці ў мяшкі рассыпалі. І Ганна помніла, як бацька, Тамаш, сказаў ёй ціхенька на падворку, калі мяшок на свой новы двор нёс: «Ідзі пастой, дзетка, каб яны сабе не перасыпалі»... Вячэру багатую зварылі. І гарэлку пілі. Потым Стахван Мікалаевіч адрэзаў хлеба, солі пасыпаў і даў Тамашу. А Тамаш і Палагея пакланіліся да зямлі і яму і мачысе, Зяноўі Раманаўне. Заплакалі ўсе... Узялі абраз, хлеб гэты — і пайшлі на свой новы двор, на новае шчасце... Ганна і Паўлюк самі ішлі, нешта няслі, а Міхалку Палагея на руках з абразом несла, ён яшчэ маленькі быў. Тамаш наперадзе з хлебам-соллю ішоў. Удзень туды, па звычаю, пеўня і кошку занеслі... Уранні, на другі дзень, ідзець Стахван Мікалаевіч: «Добры дзень, дзеткі!» — і заплакаў.

Праз год, прыблізна (1870), памёр Мікола Грасімавіч Ваявода, на 115 годзе жыцця, убачыўшы вольніцу, маючы ўнукаў і праўнукаў. Старэнечкі быў, увесь беленькі-беленькі, і галава і барада беленькія. Ляжаў на печы, на сувалачцы канаплянай. Ні падушкі там, нічога не было.

Знялі яго мыць, а Ганна Тамашова, тады гадоў шасці дзяўчынка, прыбегла з свайго двара, узлезла на печ і на тую сувалачку, што аслабанілася, лягла. Сагналі яе скарэй і насварыліся: баяліся, каб не памёрла, што паляжала на тым цёплым месцы, дзе нябожчык ляжаў. Прыкмет баяліся.

Калі Ганне гадоў дзесяць было (1874), памёрла яе сястрыца, першая Мар'ічка, на трэцім годзе жыцця, вясною, на вялікдзень. Вельмі ўцешная дзяўчынка была. У чысты чацвер скот запасывалі, яна хварасток у хату насіла, гуляла. У пятніцу гуляе і не гуляе. У суботу лягла. На ўсеначную ў царкву сходзяць і назад прыйдуць, што яна хворая. А царква ж толькі ў канцы гародаў, блізка. А ў Мар'ічкі гарачка... Кліча: «Мама! А мама!» І сядзе, за шыю матку абшчэпіць: « Я цябе жале-е-ю, мама!» Яечкі дакрасныя ў ручкі бярэць, качае. А відна, што худа ёй. Дарослы не падняўся б, а яна ўсхопіцца. У сераду, ранянька, памёрла... І калі капалі ямку каля сястры яе Палагейкі, што таксама памёрла маленькая, гадоў шэсць перад тым, дык дошчачка залежала на караньку, а Палагейка ляжыць пад дошчачкаю, як жывая. Хто капаў, сказалі: «Ідзіце-ка, паглядзіце»... Пайшлі. Ляжыць, як жывенечкая. Стукнулі — абсыпалася...

Гады праз два (1876) забралі ў салдаты Хомку Ваяводу, па новаму ўжо закону (1874) на 6 гадоў, а не на 25. Хомка на Турэцкай вайне быў (1877—78), пад Плеўнаю біўся, а потым гады тры ў Плеўне гарадавым быў.

І калі не было ў двары ні Янкі, ні Максіма, ні Хомкі, памёр Стахван Мікалаевіч Ваявода, бацька іх (1880). Ён пад старасць вартаўніком пры царкве быў. Біблію любіў чытаць. Дзяцей богу маліў. Табаку сеяў нюхаць. Чашка ў яго такая была, з шырокімі хвастамі. Сядзе, ногі на гэтыя хвасты — і трэць табаку. Мялёнчык дубовы быў. Сіцечка невялічкае. На гэтае сіцечка сее. Нюхаў табаку. А карэнне аддаваў таму, хто папросіць. І салату любіў сеяць. Цяпер і раней ніхто ў Харошым салаты не сеяў і не знаюць сеяць. А ён салату сеяў. Еў яе, любіў. Памёр ад прастуды. Хадзіў у грыбы, і вельмі цямкі быў, хоць які лес выхадзіць. А то заблудзіў, увосень было, доўга хадзіў, прастудзіўся. Хварэў з восені і да каляд, і каляды. Памёр перад панассем (18 студня па ст. ст.). Дзве ночы ў хаце начаваў, а ноч у царкве. Яго закапалі і на кірмаш у Целяпенічы паехалі. Ганна ўспаміпала. Ёй тады гадоў 16 было, на вяселлі і на кірмашы ўжо ездзіла. (1880).

Скора к ёй і сватацца пачалі, таму што бацька яе Тамаш тады ўжо заможным лічыўся. Было ж у яго тры надзелы зямлі, і брат Янка Стахванавіч грошы яму з Пецярбургу прысылаў. Тамаш усіх сыноў грамаце ў школе навучыў, спярша ў Харошым, а потым у Целяпенічах, у народным вучылішчы, а Міхалку на настаўніка выўчыў, у семінарыі ў Полацку. Дачок жа ён не ўчыў; ні Ганну, ні потым Мар'ічку-другую, калі падрасла. Казаў: «Гэта не дзявоцкі занятак, гэта трэба ўсё галавою». І засталася Ганна непісьменная. Ад братоў, слухаючы, як яны чыталі, наўчылася на памяць колькі вершаў. Ад папоўнаў пераняла многа песень. Песні дужа любіла пець, і дужа многа іх ведала. Толькі гаварыць па-руску саромелася, што «папанску», і так і не наўчылася. Белую світку насіла. І шубачка ў яе белая была. Спадніца добрая набіваная з Горак. Спадніцы тады набіваныя насілі. У Горках прыгожыя набіўкі рабілі: і лапатачкамі, і падкоўкамі, і ўсяк, ды ў колькі фарбаў. Спадніцу з Горак у свята насілі. А потым ёй ружовае плацце купілі. Хадзіла ў ім у свята. Дзве доўгія русыя касы ў яе былі...

Сваталіся к ёй з Гаршчыны, з Ходаравіч. Андрэй там быў, старшына, дык сватаў за свайго сына Мілляна. Цэлае лета ездзілі. Толькі яны пасагу вялікага хацелі, а Тамаш быў скуп... А ў Галёнкі чуць і не засваталі. Але паехаў Тамаш туды ў розгляды: там гэтыя людзі маліліся-маліліся, увечары, уранні. Ён, вярнуўшыся, хваліў: «І хата ладная, і скоту многа, і хлопцы добрыя. Ну моляцца дужа многа, дужа доўга, і ніхто нічога не еў да самага абеда». А ён там у нядзелю быў, і гэтыя людзі хацелі пахваліцца, што аднаго сына на папа думаюць вучыць.— «Дык паплоцім,— кажа,— усё, што гарэлку пілі, а не аддадзім, а то замоляць дзеўку». Так і не аддалі туды.

## III. (ШЛЮБ СТАХВАНА ЗАДУМЫ І ГАННЫ ВАЯВОДЫ І НАРАДЗІНЫ ІХНЫХ ДЗЯЦЕЙ). 1884—1902. 18 ГАДОЎ

### 1884

Увосень прыехаў Стахван Задума з Грэшнага дамоў. Пайшоў у Харошае, у царкву, і там зайшоў к Тамашу Ваяводзе. Усе ў хаце былі. Ён прычыну выдумаў: «Прый-

шоў адрас папрасіць брата вашага Янкі Стахванавіча,— сказаў Тамашу; — думаю ехаць у Пецярбург службы шукаць».— «Добра, напішу»,— адказаў Тамаш. Ён пісьменны быў. Разгаварыліся. Паглядзеў Стахван на нявесту: нічога, спадабалася.

Прыйшоў дамоў і кажа бацьку Кузьме: «Тата, я ў сваты пайду».— «Куды?» — «У Харошае».— «Да каго ж там?» — «Да Тамаша Ваяводы». Бацька і за галаву схапіўся: «Што ты?! Куды ты лезеш!»

Як ісці ў сваты, запрасілі да сябе Арцёма Ножыка, Стахванавага хроснага бацьку. І Мікіту Смакуна, суседа і Стахванавага таварыша. Ён жа тады і старастам хадзіў. І самі — Кузьма, Саўка, Стахван — селі за стол. Пляшку гарэлкі выпілі. Пагаманілі, параіліся. І пайшоў Стахван з Арцёмам, дзве пляшкі гарэлкі ўзялі з сабою...

Гэтым першым разам Тамаш сказаў: «Нічога не будзе». А матка, Палагея, сказала: «Другім разам прыйдзіце». Адну пляшку выпілі... І другім разам з Арцёмам, хросным бацькам, пайшоў. Ізноў — нічога. Усё раяцца. І трэці раз пайшоў, Мікіту Смакуна гэтым разам узяў, старасту: можа, той лепей разгаворыцца... Ізноў — ні тое ні сёе. Раяцца ўсё... І хадзіў так пяць ці шэсць разоў. Апошні раз адзін пайшоў. Тады ж, увосень, каля змітравак. Бацька і дачка ізноў ні так ні гэтак, а матка прыхільна. Браты, Паўлюк (яму гадоў 17 было) і Міхалка (гадоў 14) — маўчалі. Аж-ткі бацька думаў-думаў і кажа: «Гарэлку пап'ём, заручыны зробім, а вяселле да ражства». Арцём, Мікіта — заручыны рабіць. Прывялі скамарохаў. Скакалі ў Лукаша Ваяводы, нявесцінага дзядзькі.

Як заручыны згулялі, меўся Стахван да каляд яшчэ паслужыць. Аж наказвае Тамаш Стахванавіч: «Вяселле можна зараз»... А Ганна пасля заручын голасам выла, каб не ісці ёй у Камароўку, за Стахвана. Спаміж людзей ён — як камлыжачка, чорненькі, маленькі. Усе смяюцца: «Выбірала-выбірала, а каго выбрала»... Дзядзіна яе, Куліна Лукашыха, бачучы, што яна так плача, і жалеючы яе, кажа: «Плаціце грошы». А Тамаш: «Я ўжо плаціўплаціў, больш не буду плаціць». І гаршчыня тыя прачулі, яшчэ прыкацілі. Кузьма (ён жа Андрэй.— *Рэд.*) — старшыня з сынам Міллянам. Палагея Мацвееўна не хацела аддаваць дачку ў Гаршчыну. Адзежа ў іх: усё тонкае, кужэльнае, трэба тоненька прасць. У іх, каб замуж пайсці, трэба дзяўчыне 12 кужэльных сарочак. А ў Харошым ці ў Камароўцы — з аднэю пойдзе, і то з ільняною... Палагея

ў Гаршчыну Ганне не раіла. Так і паехалі ні з чым. А каб вялікага пасагу ў скупога бацькі не прасілі, то, мусіць, не ў Камароўку б яна пайшла...

І справілі вяселле. Звянчаліся на Кузьму-Дзямяна. Скамарохі былі — скрыпка і бубен. Гарэлкі многа было. Але ніхто не пабіўся, не пасварыўся... Прывязлі маладую ў Камароўку ўвечары. Увайшла яна ў іхнюю хату, дзе жыць ёй. Хата маленькая, столь высокінькая: «Як школка яўрэйская». Без падлогі, на зямлі, і нічога не насыпана, дык з высокага парогу шалоп! Уніз, як у яму, і калодка нейкая пад парогам ляжала. І гразі па калена, аж цвякчыць. Бо хата маленькая, а свадзьба. Пасля свае хаты дутут ёй страшна стала. Села яна на лаўку і заплакала дужа. А Тацяна Куляшоўна, Алёніна Саўчыхі сястра, прысела к ёй і плача-плача... Што плакала, дык аяяй! І скрозь слёзы гаворыць ёй: «Мая ты дзетухна! Мая во сястра гаруе тут, і табе тое будзе»...

Павячэраўшы, спаць клалі. Хоць восень была і сцюдзёна ўжо — у клеці пасцелю паслалі, як звычай вялеў. У клець бабы маладую прывялі, раздзелі зусім, і косы расплялі, каб не было якой фальшы, падробкі... А наша маладая з сваім маладым, пакуль пад вянец не сходзілі, дык не цалаваліся і не лашчыліся, бо ўдваіх нідзе і не стаялі... На другі дзень прывялі іх у хату, за стол пасадзілі і далі ім гарэлкі салодзенькія, чырвоненькія. І ў сарочку яе, у якой у клеці начавала, у адзін рукаў насыпалі жыта, у другі грошы-серабра, і ўсё ў кашэль паклалі. І яшчэ туды ў кашэль дзве пляшкі віна паклалі, пернікаў і цукерак самых лепшых насыпалі. А ўжо коні запрэжаны стаялі. І дугу чырвоным поясам абкруцілі, чырвоных стужак усюдых начаплялі, і коням у грывы паўплятталі — везці той кашэль з яе кашуляю к бацьку ў Харошае. А з хаты свашкі беглі, у ладкі плёскалі і пялі:

Добрыя нашы марозы,
Не змарозілі нам ружы!..

Пасаг Ганне далі: карову рабую рублёў на 15, дзве авечкі, рублі па 2 кожная; свінню рублі на 4. Гэта тое, што ў агульную гаспадарку ідзе, і Саўка потым не раз прытыкаў, што багаты бацька каня Ганне не даў... З адзежы ёй далі: шубу белую на заборах і тулуп чырвоны, світку суконную чорную і світку суконную шэрую. Матка дала тры падушкі, коўдру суконную, дзяругу, 3 посцілкі, абрусоў, набожнікаў, рушнікоў. А грошы абяцаў Тамаш зяцю

500 рублёў, дый зацягнуў, не даў.— «Я з сабою на той свет не вазьму»,— казаў. Ганна бацьку вельмі шанавала і грэхам лічыла паказаць крыўду на яго ці асудзіць яго. І калі пра пасаг свой каму казала, дык старалася адзначыць, што авечкі былі абедзве старыя, што чорная світка была з кішэнямі, што потым, калі дзеці ў яе нарадзіліся, бацькі давалі ёй — з адзежы і так што...

А ў мужавым двары яна знайшла: тры кані, тры каровы, тры свінні і шэсць падсвінкаў, курэй штук дванаццаць, кошку і сабаку... Гэта ўжо за 20 год пасля прыгону стольні дабра яны прыдбалі. Адалеў, нарэшце, Саўка кусты і балоты, вырабіў ніву. А тужыць не перастаў, тужыў да смерці... І Стахван грошы падсылаў, хоць любіў і гарэлку піць, і ў карты гуляць. Сям'я ў іх тады была такая: дзед Кузьма (ён ужо гадоў пад восемдзесят меў, слепнуць ад цяжкой работы пачаў), Саўка, Алёна, Палута-пляменніца і Палута-цётка і двое дзяцей: Вусцінка ў Саўкі і Тарас у Палуты (годзікі па тры ім было). І на лета батрачка наймалі: коні пасвіць. А часам у іх і Марка Бондар трохдзёнку служыў (два дні дома, дзень у іх), Саўцы пасабляў. Багатыя ўжо сталі...

Пажыўшы троху ў двары, Стахван ізноў паехаў у Грэшнае служыць у паноў. Паня Нерад яму адкрытку прыслала: «Прыязджай, і з жонкаю, на яе пагляджу». Калі яны прыехалі, паня дала Ганне адрэзу на хвартук, і частавалі іх смачнымі стравамі. І паня сказала Ганне: «Ты говоришь чётко и хорошо, только не благородно». А Ганна па-руску гаварыць не ўмела, гаварыла «па-дзеравенску»... Стахван застаўся там служыць, а Ганна назад у Камароўку паехала. У двары жыла, толькі ў госці к яму ездзіла,— зрэдку, што далёка, а коні слабыя.

1886

Калі Ганна зацяжарыла, дык клала сабе кніжку пад падушку, з Харошага прынясла. А калі 17 тыдняў стала, дык пільнавалася, як вучылі яе, каб пасцеля чысценькая была, і сама, калі кладзецца, каб сарочка чысценькая. Бо пад палавіну падходзіць, дык анёл прылятае,— вучылі яе,— душу прыносіць. Калі чыста, ангел дасць душу харошую. А калі нячыста,— ён толькі махане душу і сам паляціць... Перад Іллёю, у пачатку ліпня, была яна ў нядзелю ў гасцёх у Харошым. Матка сказала ёй: «У тую нядзелю ты ўжо не ідзі, я прыйду». У пятніцу пайшлі пад

Засценкі сена грабіць, што ў папоў бралі. І пайшоў дождж, дос сена грабіць, пайшлі ягад набралі. Рана ўдвору ісці — пайшлі лён палоць. Лёну выпалалі кусок і ўдвору пайшлі. У Алёны галава забалела, Палута ў Палянцы ў Адаркі была, а цётка Лісіца з дзяцьмі сядзела. Сама Ганна скот загнала, кароў падаіла. Павячэралі, ляглі спаць. Уранні, у суботу, Ганна ўстала, не ведала, як родзяць людзі. Забалела галава, і жывот, пачало ірваць. Пытаецца ў Алёны: «Ці не радзіць гэта мне?» — «Не... Як радзіць, дык губкі ссінеюць, а зубкі счарнеюць. А ў цябе і губкі красненькі і зубкі беленькі. Дык яшчэ не радзіць». Напранула Ганна світку шэрую, і хустку чорненькую завязала на галаву, каб не запыліцца, і пачалі авёс таўчы на аўсянку. Таўкла-таўкла, баліць... Таўкач кінула ды ў пуню... У хаце печ тапілася, а яна ў пуні комкалася. Алёна авёс пылала, а яна у пуні ляжала, на гнаі, дзе авечкі. І стаяла, і хадзіла... А дзіця выкацілася, адарвалася і ляжыць на гнаі... Глядзіць яна, не ведае, што рабіць. Стаяла-стаяла, ніхто з хаты не ідзець. Прысела ля яго. Рукамі баялася браць, што слізкі. Прыпол паслала бачком і ўскаціла на світку. Ён не кугакае, глядзіць... Панясла ў хату. Алёна і Параска Мікіціха дзівяцца: «А-я-я! Што ета ты?!» Дзівіліся, што скора радзіўся. Мікіціха ўдвору пабегла. Алёна хлеба адрэзала, свёкру Кузьме дала, каб па бабу, Хоўру Міхасіху, ішоў. Кузьма тады яшчэ бачыў троху, не зусім сляпы быў. Пайшоў, бабу прывёў. Баба дзіця мыла, а Ганна сядзела, глядзела. Хлопчык радзіўся. Ладненькі, здаровенькі. Баба перабабіла, удвору пайшла... Дзень Ганна сядзела, не хадзіла. Адвечара бабіна дачка, бабы Хоўры, Аўдуля, маліны прынясла. Просіць Ганна Саўку з'ездзіць у Харошае матку яе прывезці. З'ездзіў, прывёз. А ў Нупрэевых вяселле пачалося (так іх звалі тады, па Нупрэю, Мікітавым і Васілёвым бацьку). Аўдуля іхная тады замуж ішла, у Белабокаўку. Саўка з Алёнаю ў Белабокаўку ездзілі... Радзіла Ганна ў суботу, а праз тыдзень, у другую нядзелю, былі хрэсьбіны (перад Іллёю, як бываюць Уладзімеры). Па Стахвана ў Багемію з'ездзіў Марка Бондар, на іхным кані. Саўка падсвінка забіў, купіў гарэлкі. І Стахван прыехаў. Справілі хрэсьбіны. Кумам быў бабы Хоўры сын Максім. Кумою — Аксёна Мамэнціха з Палянкі, жонка Алёнінага дваюраднага брата. Тады ў кумы бралі таго, каго сям'я хоча, а не бацькі дзіцяці выбіралі. На хрэсьбіны звалі ўсю Камароўку. І была ўся радня з Харошага, з Палянкі. Былі з Глінні, Алё-

ніна радня (там яе сястра замужам была). Сабралася людзей многа. Драчоп паняслі поўну саламянку. Паняслі мяса, яец, кашы, блінцоў,— усяго, што бывала на хрэсьбіны насілі. Баба Хоўра «курачку» добрую спякла: згары курачка і вакол яе пісклятки, як жывыя... Хрысцілі ў Цотаве,— у Харошым папа тады не было. Імя далі — Васіль. Згулялі хрэсьбіны, пераначаваў Стахван і паехаў у Грэшнае... Пасля хрэсьбін палола Ганна на гародзе з Алёнаю. І чуе, што ў хаце плача дзіця. Пытаецца ў Алёны: «Чый гэта дзіцёнак плачыць?» Забылася, маладая маці, што яе дзіця там плача...

## 1887

Пражыў Васілёк год, два месяцы і два дні. І пасля здзвіжання, як авёс жнуць, на другім годзе памёр. Ён не спаплаклівы быў. Ніхто яго не калыхнуў ні разу. Дужа спакойны хлопчык быў, крэпкі дужа. Ні люлькі яму, нічога не трэба было. І вось ужо бегаў, гаварыў. Што ўроніцца, падніме, падасць, пакладзе. Харошаўскі дзяк Дабрамыслаў казаў раз, як Ганна ў Харошым была: «Не па ім галава... Памрэць». І панасіў яго, а то не насіў дзяцей. Пасля здзвіжання, як авёс жнуць, прыехаў з Грэшнага дзед Сымон, што з Зазер'я, каб ехала Ганна з ім у Грэшнае, к Стахвану. А якраз Васілька прыхварэў, не дужа еў, пачаў кавырацца. Казалі потым: шкарлятына, але ён піў і еў, толькі не дужа. І не ведала Ганна: ехаць з дзедам — дзіця не дужа здаровае, і не ехаць — шкода, што каня гнаў. Думала-думала, і паехала-ткі. У Ліцвінаве, мала не даязджаючы Грэшнага, дзед Сымон кажа ёй: «Накрывай дзіцёнка, тут дзеці ўміраюць». І тут заўважыла яна ў Васількі залозку пад барадою... Праз тры дні, у Грэшным, і памёр. Фэршал з Ідзял, здаецца, быў нейкі, глядзеў. Пахавалі ў Гаюках, каля Хоўбняў. Крыж фарбаваны паставілі, церамок зрабілі. Колькі Ганна плакала! Думала: можа, сама вінавата, што паехала з двара з хворанькім.

Пасля яго смерці засталася яна ў Грэшным, у паноў служыць. Цяжка было вярнуцца без яго... Засталася. Плацілі ёй 5 рублёў у месяц, і харчы. Хадзіла кароў даіць і масла біла. Кароў у пані было 120. Чэраз дзень масла пуды па тры набівалі. А тварог забіралі ідзяльскія яўрэі, па $1^{1}/_{2}$ капейкі за хунт. Білі ў кадушках-маслабойках.

І калі яна там была, памёр у Харошым дзядзька яе па бацьку Хомка Ваявода і прыйшоў у Картыжы з салдатаў дзядзька яе па матцы Іван Мароз.

Хомка Стахванавіч адслужыў у салдатах па новаму закону 6 гадоў і яшчэ гарадавым у Плеўне пабыў, а тады вярнуўся дамоў і дома яшчэ да смерці гадоў 6 пажыў. Жаніўся, жонку браў з Палянкі, з Шляхоцкага боку. І дзяцей трое меў. Падзяліўся з братам Лукашом, зямлю разагналі, і хату ён сабе на тым самым падворышчы, але асобна паставіў. А тады памёр. Жонка яго зайшла замуж за другога, у Касмынічы, і з'ехала туды, а надзел Хомчын прадала Тамашу. І стала ў Тамаша чатыры надзелы зямлі, многа зямлі.

Іван Мацвеевіч Мароз адслужыў у салдатах 25 гадоў і ў гэтым годзе вярнуўся. Жонка яго Рыпіна прыйшла к яму з Вярбы ад бацькі, і дзяцей яшчэ мелі, трое: дачку Васю і двух, здаецца, сыноў. І памёр Іван Мацвеевіч, таксама скора памёр. Дачка Вася плакала-плакала па ім і памёрла. Рыпіна-маці дужа сыноў жалела, малаціць малых не будзіла, сама адна малаціла, каб толькі яны жылі.

І тады ж, калі Ганна з Стахванам у Грэшным абое былі, радзілася ў Саўкі і Алёны другая дачушка — Адарка. І вырасла. А больш у іх дзяцей не было. Выраслі дзве дачкі: Вусцінка і Адарка. Сыноў жа не вырасла.

## 1889

Жаніўся Паўлюк Ваявода.

Памёрла Мар'ічка (2-я).

Радзіўся Раман.

Нарадзіўся ў Стахвана і Ганны сын Раман.

Калі пасля Васількавае смерці мінуў год і яшчэ каля году, тады, у ліпні, жывучы ў Грэшным, радзіла Ганна другога сына — Рамана. І ў той дзень работала. Тры пуды масла збілі, злажылі, гарлачы вымылі. Увечары Стахван грэцкае кашы ёй прынёс. Яна кашу з'ела,— сарвала, галава забалела. Яна дзверы на кручок, каб ніхто не ўлез, і дужа скора радзіла. І паня ідзець.— «Масла біла?» — «Біла».— «Можна к табе?» — «Можна».— «Ці радзіўся, ці не?» — «Ужо»... А ў пані Нерадзіхі «вока ўрочлівае было». Калі падзівіцца на парасятак, дык запаршывеюць ці здохнуць. Пасля яе вадою пырскалі. Яна і сама старалася ўжо не глядзець... Быў у паноў вучыцель, Аляксандр Аляксандравіч. Дзяцей па-французску ўчыў.— «Няхай ён

будзе кумам, а я буду кумою»,— сказала паня. Папа прывязлі. І шампанскае пілі. Ганна хацела, каб і гэтага Васільком назваць. Паня сказала, што нельга тым самым імем называць, каб не памёр. Назвалі Раманам. Ён спярша здаровы рос, а потым захірэў. Жывот яму балеў, не аставаўся ад маткі, гадоў сем Ганна на руках яго насіла. А і меншыя ж дзеці нарадзіліся. Ёй цяжка было. Вялікіх дзяцей у лазню з сабою бабы тады бралі.

Скора пасля хрэсьбін Раманавых прыязджалі к Ганне ў госці ў Грэшнае маці і брат Міхалка (ён у тым годзе скончыў настаўніцкую семінарыю ў Полацку). Пабылі і паехалі. І Ганне захацелася дамоў. Міхалка ёй казаў: чаго яна батрачкаю ў паноў служыць, калі ў яе свая гаспадарка ёсць. І не захацела яна ў паноў жыць. Разлічылася і паехала ў Камароўку з малым, пражыўшы ў Грэшным каля двух гадоў. Тады паня дала аднаму ўжо Стахвану 15 рублёў на месяц. Але троху пагадзя і ён разлічыўся і паехаў дамоў.

Каля таго часу памёр у Пецярбурзе Янка Стахванавіч Ваявода. Жонка ў яго была, але памёр бяздзетны. Грошы адказаў на харошаўскую царкву, каб памяналі тры разы ў год — яго, бацьку і матку. Па 50 рублёў прыслаў: мачысе Зяноўі Раманаўне, сястры Луцэі (што ў Івонах замужам была) і нявестцы Палагеі Тамашысе. Па 25 рублёў: сястры Мар'і (што ў Маскалёўцы замужам была), сястры Любцы (што ў Гаршчыну замуж зайшла) і пляменніцы Ганне Тамашоўне. А Кандрату, што з Глінні, таварышу свайму, 500 рублёў адказаў.

## 1890

Памёр Міхалка Тамашавіч Ваявода, настаўнік,— памёр неспадзявана і жаласна... Ён першы з сялян ува ўсёй акрузе, можа, у цэлым павеце, такую адукацыю атрымаў. Цяжка яму жылося, пакуль вучыўся. Бацька скупіўся і мала грошы даваў. У Целяпенічах стаяў Міхалка на кватэры ў яўрэяў, сам сабе есці варыў — з сваіх прадуктаў, што бацька прывазіў. Пасля ў Полацак за дзвесце кіламетраў на конях трэба было ездзіць. А хлопец быў вельмі добры. Прыязджаючы з семінарыі, не гуляў, як паповічы і дзяковічы. Яны гулялі, працаваць саромеліся, а ён і кніжкі чытаў — і араў, скарадзіў, сена касіў. К іхнаму двару цяжка ваду насіць, высока на гару, дык ён і ваду насіў, каб матка не насіла. А калі яна пойдзе, ён падбя-

жыць і паднясець. І ў ступе тоўк, каб матцы памагчы. Спаміж братоў ён быў прыгажэй за ўсіх. Іван быў высок ды тонак, а ён таўсцейшы. Прыехаўшы з семінарыі, выйдзе бывала на вуліцу ці ў сад, пяе:

Я и ростом велик,
Я и станом красив,
И грудь широкая,
Молодецкая моя!

На скрыпцы прыгожа іграў. Іх жа ў семінарыі вучылі. І сам любіў іграць. Не любіў ён свайго прозвішча.— «Ваявода... Які ваявода? Над кім ваявода?..» І дужа хацеў перамяніць на «Коласаў» ці «Каласкоў», што каласок — гэта прыгожа і сялянскую працу наўпамінае. Ці — «Салаўёў». У іх у семінарыі вучні былі Каласкоў і Салаўёў, дык яму спадабалася. Тамаш, бацька яго, не захацеў мяняць. У той час перамяніць прозвішча цяжка было: трэба было падаваць прашэнне на царскае імя і шмат грошы патраціць... У канцы лета паехаў ён у Хоцімск, куды яго назначылі вучыцелем. І захварэў там на скарацечныя сухоты. Сухоты былі кішкавыя, на кішках. Прывязлі яго, паміраў у дварэ. Казаў: «Як чорная хмара найшла — і забіла мяне... Раней я і еў горш і ў горшай адзежы хадзіў, а цяпер усё лепшае, і паміраю»... І калі ўцяшалі яго, казаў: «Не ўцяшайце, ведаю, што памру»... Перад смерцю папрасіў: «З'ездзіце ў Целяпенічы, купіце сітцу такога, каб сам быў чорны, а па ім красачкі белыя, і аббіце ім труну ўпасяродку і згары». І купілі, і ён яшчэ паглядзеў. Калі паміраў, сказаў брату Паўлюку: «Чытай канон на ісход душы»... Паўлюк чытаў, а ён яму пальцам паказваў, дзе трэба прыпыняцца, бо гаварыць яму ўжо цяжка было. Пашаволіць пальцам і ўніз прыткне... І як прасіў: «Прыгожа прыбярыце мяне на той свет»,— так і зрабілі. Пару чорную, новую, што справіў, як семінарыю скончыў, надзелі яму. Пахавалі на старым кладзішчы. Потым каля яго Мар'ічку-другую паклалі, а пасля і матку, Палагею Мацвееўну. Матка пасля яго смерці толькі пэсць гадоў і пажыла. Плакала дужа па ім, жалела. І бацька, Тамаш, тады яшчэ болей скамянеў. І ўсе людзі вельмі жалелі беднага Міхалку... Кніжкі яго засталіся. Спаміж кніжак была «Белоруссия и Литва» пад рэдакцыяй Бацюшкава. Відаць, цікавіўся Міхалка родным краем сваім... [...]

У гэтым годзе Задумы новую хату сабе паставілі. Тамаш Ваявода ўзяў за доўг у Якуба Кандратовіча ў Харошым зруб (сын гэтага Якуба, Ціток, пасля рэвалюцыі быў бандытам, расстралялі яго). Стахван Задума заплаціў Тамашу 40 рублёў і перавёз зруб сабе на хату. Пераваэіў Саўка і з ім на сваіх конях брат Ганнін Паўлюк Ваявода. Талакою паставілі. Плотнічаў Ёзка Радчонак з Палянкі. І Стахван павінен быў кожны дзень работаць з ім. Ёзцы далі 12 рублёў. Рубілі запечкі, вокны прыстаўлялі. А самі жылі ў старой хаце. Новая хата стаяла гадоў 18—20, згнаілі яе. А старая прастоіла гадоў 50. Ужо Раман Задума, Стахванаў сын, падзяліўшыся з бацькам, прадаў яе ў Чэрнеўку за свінню, і цяпер яна стаіць, на новым падрубе, Шпачок жывець у ёй.

У тым жа часе памёр Максім Стахванавіч Ваявода. Прыйшоўшы з салдатаў, ён пісарам у Далёкім Сяле быў. І жаніўся там. Надта прыгожы мужчына быў: высокі, стройны, з чыстым тварам, валасы цёмна-русыя, вочы шэра-блакітныя. Па бацьку сваім быў, толькі ў Стахвана Мікалаевіча вочы былі сінейшыя, а валасы цямнейшыя. І памёр Максім скора, у Далёкім Сяле. Пахавалі яго, нікога родных не было. Пасля пачуў Тамаш і схадзіў туды. І прыняў блізка к сэрцу, што і не ведаў, і не бачыў, як паміраў Максім, брат яго любы, аднаго бацькі і аднае маткі з ім, і сем'янін яго. На шасціны ізноў пайшоў туды, у Далёкае Сяло. Максімава цешча кажа яму: «Ты так гаруеш, што ў сухоты ўпадзеш». І раіла яму піць настой з шышак яловых і руні. А ён плакаў і там і ў дварэ, жаласлівы дужа быў к брату. Памёр Максім бяздзетны, і надзел яго дастаўся Тамашу. Максіміха другі раз замуж не пайшла і жыла ў Далёкім Сяле ўдавою да смерці.

Аб духу 1889 г. жаніўся Ганнін брат Паўлюк Ваявода. Жонку сваю Юльку браў ён з Загацця, з двара Зайчыцкіх, з вельмі заможнага двара. Ішла Юлька замуж на 16 годзе. Ганна на вяселлі была, потым апавядала: выйшла маладая з застолля — і з вянком з усім, на скрынку лягла і заснула. Матка яе кажа: «Ідзіце, маладым у клеці пасцелю сцяліце». Хомчыха Мар'я (дзядзіна Паўлюкова) і Ганна-сястра паслалі. Паўлюк узяў маладую на рукі, як дзяўчынку, і панёс у клець. Вянчаліся ў Быстрыцы. З-пад

вянца к маладой як паехалі, дык там і начавалі — хто ў сене, хто дзе. Пасагу далі маладой: 500 рублёў грошы (спярша тры, потым дзве сотні), каня сівага, і яшчэ ўсякага дабра далі. Зайчыцкія гэтыя дужа заможныя былі.

У 1891 у яравое жніво, у пачатку месяца верасня, памёрла ў Задумавых Палута Лісіца, родная сястра нябожчыцы Марыны Задуміхі. Жыла ў Камароўцы да смерці, гадоў трыццаць, і памёрла, маючы гадоў 50 ці болей. Была яна вялікая, здаровая, троху даўганосая, не дужа прыгожая. Натуры была добрай, не сярдзітая, бывала ўсё гамоніць і гамоніць, смяецца. З пляменніцаю Палутаю калі троху сварыліся. Толькі ўсё ж было ў ёй нешта недалужнае. Ніхто яе замуж не ўзяў. Так у дзеўках і звекавала.

Раману Ганнінаму на трэці год было, і яна ізноў цяжарная хадзіла. І думала, што родзіць дзяўчынку, бо мяса есці не магла, ірвала яе, а як хлопцамі хадзіла, дык не. Радзіла каля Большае прачыстае, канаплі ўжо бралі. Якраз на шасціны па нябожчыцы Палуце Лісіцы. У нядзелю праскурку пяклі і мяса варылі. Ганна пайшла ў пуню і радзіла дзяўчынку. Адна там была, гукала Алёну, Стахвана. Унясла ў хату, паклала на печ. Вады прасіла, а ў хаце не было нікога. Злезла з печы і мякнулася, самлела... Потым матку яе Палагею з Харошага прывязлі. Кумам быў Ганнін брат Іван, а кумою Антаніна Мамантоўна з Палянкі. Іван тады памочнікам пісара ў Целяпенічах служыў, ужо Іванам Фамічом (а хто — Тамашавічам) звалі яго... Спярша адышоў жалобны стол па нябожчыцы Палуце Лісіцы, а тады ксціны пачалі гуляць. Гулялі спакойна, не сварыліся, як цяпер. Калі вып'юць — цалуюцца. Імя далі — Марына. І рады былі, што пасля хлопчыкаў і дзяўчынка радзілася.

## 1892

Пажыла Марынка ад Большае прачыстае да вялікадня. Перад вялікаднем памёрла. Жыла сем з паловаю месяцаў. Памёрла з водры... Калі яна радзілася, Ганна так рада была, што дзяўчынка ў яе. І з Харошага маці ёй наказвала, каб нічога не рабіла, каб Марынку сваю даглядала. Так Ганна ўсю зіму праседзіла, і не прала, сцерагла яе... А яна памёрла. І Раман, і Адарка Саўчына хварэлі, але

палепшалі, троху пагарэлі. А яна адзін дзень гарэла, другі высыпáла, а на трэці кончылася. Слабенькая была, слабейшая за ўсіх дзяцей Ганніных. І не лячылі, думалі — так пройдзе. Ні яе, ні к ёй нікога не прывазілі, бо водру тады не лячылі. Семечкі рэпныя бывала варылі, з малаком давалі, каб водра выхадзіла. У той дзень, як памёрла, Стахван дошкі пілаваў з Піліпам Скнарыцаю на тым баку, у Банадыся Ножыка (Арцёмавага сына). Грошы заараблялі. Яны тую вясну і ў Немярэчу (Буліна) хадзілі пілаваць. Памёрла прымеркам, як сцямнелася. На руках у Ганны памёрла. Палута пабегла гукаць Стахвана, а Ганна ёй кажа: «Не трэба было гукаць, няхай бы павячэраў». Бо растрывожыцца — вячэраць не будзе. Вячэралі пільшчыкі ў таго, у каго пілавалі. І без папа Марынку схавалі. Самае разводдзе было. Цяжка прывезці папа. Курыла Скнары (Піліпаў брат) чытаў па ёй. І маткі Ганнінае, Палагеі Мацвееўны, не было з Харошага за вадою. Мастоў тады ў Жаб'і не было, як цяпер. Ідзі па ўсім лагу, па вадзе. А каб з маткаю — хаця б лягчэй было ёй гараваць. Гаравала Ганна страшэнна. Не ведала, бедная, дзе ад гора дзецца. А перад святам (вялікаднем), вясною. Бабы з дзяцьмі на ўлонні ідуць, а ў яе Марынкі няма... Вясна прыйшла, зязюлькі кукуюць, а яна слухае-слухае смутак іх,— Марынкі ў яе няма... Свёкар Кузьма (ён тады ўжо вельмі стары быў і сляпы), седзячы з ёю адзін у хаце, суцяшаў яе сваімі развагамі, каб так не сумавала, не плакала, каб у самую пару цвету свайго сябе так не сушыла...

## 1893

Памёрла Марынка перад вялікаднем, а ў маі, месяцы прыгожым, а для Ганны ў тым годзе гэткім сумным, Ганна яшчэ зачала,— як у задуме якой, нічога каля сябе не ведаючы. Мінула лета, восень пачалася,— Ганна паспакайнела, цяжарная хадзіла. І палова зімы прайшло. Ужо блізка было радзіць ёй. Гэта — чацвёртым разам. Пасля Каляд, у канцы мя́саеда, на стрэчанне, яна яшчэ ў Харошым была. А пасля стрэчання, на маслепку, у суботу, радзіла сына. Масленка тады дужа ранняя была. У пятніцу ўвесь дзень мычкі мыкала, пражу матала. У лазню ўвечары схадзіла. Удосвета мужчыны ўсталі гарох выбіраць на семя, на стол насыпаўшы, а бабы — мычкі мыкаць. І начаваў у іх тады Стратон Адарчын з Палянкі,

малы яшчэ хлопец. Алёна Саўцы сказала, агонь загасілі. Мужчыны палеглі. Наўчыла Алёна Ганну разагнацца ды каленямі дзогнуцца аб падлогу, «спатрахнуцца»... Ганна дзогнулася. Мужчыны спалохаліся: «Ці не забілася яна?» І на печы з Алёнаю ляжала. Мучылася. Злезла з печы, пайшла ў другую хату,— ужо віднелася на дварэ. Прыходзіць туды Стахван: «Чаго тут мерзнеш?» А ў іх старая хата ўзімку халодная стаяла.— «Маўчы, бяжы па Алёну, дзіцёнак радзіўся»... Была Ганна не рада, што хлопец, а не дзяўчынка. Бабіла Хоўра Міхасіха. У нядзелю ўранні акхрэсьбіны былі. Кумы — Максім, бабы Міхасіхі сын, і Аксёна Курыліха, Курылы Скнарыцы жонка. Палагея Мацвееўна з Харошага прыйшла. Стаўбун масла, стаўчык блінцоў прынясла. Хрысцілі ў Харошым. Імя далі — Лявон (ён жа Кузьма Батура.— *Рэд.*).

І таго ж году, 10 мая (па старому стылю), на другі дзень пасля свята Міколы, памёрла ў Харошым Палагея Мацвееўна. Прастудзілася ў лазні і памёрла ад запалення лёгкіх. Было ёй усяго гадоў 50. Была яна жырная, разагрэлася ў лазні. Ёй бы пасядзець, а яна пахадзіла,— ёй і стала. Іван Фаміч, сын, доктара Дарашэнку з Целяпеніч прывазіў і назад завазіў. Ганна з Камароўкі прыйшла, тры дні пры хворай была. Палагея Мацвееўна ёй казала: «Ты па мне дужа не плач, у цябе дзеці цяпер. Адзежу пабяры, а то бацька ноды не аддасць пасля». Уранні Юльцы-нявестцы сказала: «Паглядзі, колькі ў нас хлеба. Прынясі дзежачку і ўчыні хлеб». І калі ўчынілі хлеб, яна ўстала, паглядзела, як садзілі хлеб у печ. Хадзіла, сядзела. І яшчэ Ганне сказала: «Гукні Мар'ю з калавуркі калыхаць Лявона, а сама ўжо ад мяне не адхадзі. Можа, сама свечку не запаліш, як спужаешся, дык Наталлю Хрытоніху гукні». (А Наталля сама прыйшла.) Юльку і Ганну вучыла: «Схадзіце ў клець, там у лазобачцы пляшка, а ў тэй пляшцы разведзеныя дрожджы. Вазьміце гэтыя дрожджы, дзежачку памыйце і на гэтых дражджох учыніце бліны з пшанічнае мукі. Яны вам заўтра патрэбны будуць: людзі к вам папрыйдуць». Сказала ўсё, паглядзела ў акно: «Во і кароўкі йдуць». Мужчыны з поля прыехалі. Цямнелася на дворы. Лягла яна, пераксцілася: «Цяпер і ўсё...» З усімі прасцілася, хлеба адрэзала, усіх блаславіла. І памёрла. Яе і бацька, Мацвей Мароз, так паміраў. Памыўся сам, надзеў тую адзежу, што на смерць, лёг на лаўку і памёр.

І не стары яшчэ быў, хадзіў. Пахварэў троху і памёр. На другі дзень, як яна памёрла, прыйшла з Белабокаўкі Наталля, сястра яе, што аднае маткі Гапкі і розных бацькоў з ёю. Ёй наказалі, што хварэе. Пахавалі побач з Міхалкам і з Мар'ічкаю, у адзін рад. Была яна даўгалічанькая, даўганосенькая, шчокі чырвоныя, каса доўгая, валасы светла-русыя, святлейшыя, чым у Ганны. Хустка ў яе чырвоная, вялікая была. У свята, бывала, як завяжа, дык нават свае дзеці любуюцца на яе, што матка прыгожая.

Вясною памёрла яна, а ўвосень Тамаш другую ўзяў... Было яму тады больш за 50 гадоў. Звалі яе Верка. Яна спярша замужам у Вярбе была, за старцам, на імя таксама Тамаш. Ён спярша здаровы быў, а тады ногі забалелі, дык ездзіў, прасіў. Калі ён памёр, яна засталася бяздзетнаю ўдавою, служыла на фальварку п'янаўскіх паноў Астраўку батрачкаю. Астравок жа — побач з Харошым, там Тамаш і нагледзеў яе. Вяселля не было, таму што абое ўдаўцы. Дзяцём не люба было, што ён жэніцца, але сабраліся,— і Ганна прыйшла, і Іван Фаміч быў. Івану Фамічу было тады гады 22. На прызыў ужо Ганна яго выпраўляла. І ён, як што, дык і прыбяжыць у Камароўку к Ганне. Ганна матку яму замяніла... Прывёз Тамаш мачыху. Прыехалі яны. Ганна, Паўлюк, Іван Фаміч выйшлі, вароты адчынілі, вынеслі хлеба-солі і абразок. Тамаш сказаў: «Дзякуй вам, дзеткі, што стрэлі». І пацалаваліся з ім і з мачыхаю. Толькі не кланяліся — ні «маладыя», ні «маладым», бо ўдовым не кланяюцца. Ганна мачыху ўжо ведала і ўсю радню яе. Не рада была, не любы былі яны ёй... За стол пасадзілі, павячэралі, выпілі гарэлкі. Ганна ў другой хаце пасцелю ім паслала, завяла іх туды. Назаўтрае бліноў напякла, паснедала і пайшла ў Камароўку. І не падвязлі,— пяшком дамоў прыйшла. Прывяла мачыха карову, калёсы прывязла, сала яшчычак.

### 1894

Неўзабаве пасля бацькі, сяткамі 1893-94 гг., жаніўся Іван Фаміч, у мястэчку Багамолаве, калі стаў ужо там пісарам у воласці (у Целяпенічах ён памочнікам быў). Узяў Мар'ю Іванаўну Спаскую, дачку тамтэйшага дзяка. На вяселле ездзілі з яго радні толькі бацька і Ганна. Вяселле было на панскі лад, вянчаліся ўвечары. Перад вян-

цом сабраліся ўсе ў маладой. Радні сабралася многа. І быў у маладой дзядзька — земскі. Тады земскія толькі пачыналіся. І яшчэ адзін нейкі важны дзядзька быў — Арцемі. Сталы стаяць накрытыя, пляшак настаўлена многа і мяса ўсякага. Усе госці самі за стол селі, а Ганна з бацькам не ведаюць, дык іх падвядуць, пасадзяць. Бацьку пасадзілі з земскім, а Ганну — з тым дзядзькам Арцеміем. Музыка зайграла, музыкантаў чалавек сем: і кантрабас, і дудкі, і скрыпкі, і бубны, і цымбалы. Прыгожа дужаігралі. Госці пачалі піць і есць. А маладой не давалі, што — вянчацца. Маладая не еўшы самлела. Была яна чырвоненькая, русая. Абед адышоў, выйшлі. Пачалі блаславуляць маладых. Знялі абраз. Маладыя падышлі, побач на калені сталі. Усе як заплачуць! Ганна думала: «Я плачу, што брат жэніцца не ў дварэ і ды без матчынага блаславенства, а яны чаго?» У царкву паехалі, з'ездзілі. Усе маладых праздраўляюць. Ізноў за стол заселі. Пачалі гасцей частаваць. Дзядзька Арцемі Ганну ўсё частаваў. Тамаш гарэлкі дужа не піў, каб не ўпіцца на такіх людзях. А Іван падышоў к Ганне: «Глядзі, мам! (Ён яе пасля смерці маткі «мам» зваў.) Глядзі, мам! Ты тут сцясняешся, галодная будзеш». А ёй сумна было, і мала ела, а віна і зусім не піла. Думала: «У Харошым маладому-сіраце сіроцкую песню спелі б, матку ў свежанькай магілцы ўспомнілі б... А тут усё не так». Потым хадзілі з талеркамі, фрукты разнасілі — спярша тым, хто старэйшы ці госць важнейшы. І крычалі «горка». Ганна першы раз гэта чула. Крыкнуць-крыкнуць, тады маладыя тут жа, пры ўсіх, за сталом, пацалуюцца. А ім крычаць: «Салодка!» Ізноў сядзелі-сядзелі: «Горка!» Маладыя ізноў ім падсалоджваюць. І так многа разоў. Пасля столу — скокі. Скокі былі панскія: вальсы, мазуркі і такія, што не выгаварыць... Потым па мястэчку каталіся. І Ганну пракацілі. А тады маладыя сабраліся, коні ім запраглі, і Тамашовага каня запраглі, і паехалі ў воласць, на кватэру к маладому. Там маладая з маладым у бакоўцы ляглі, а Тамаш і Ганна ў другім пакоі начавалі. На другі дзень ізноў у дзякавых пабылі — і ўдвору. Ганна брату рушнікоў завязла, абрус. Тамаш рублёў 10 падараваў, як маладых даравалі.

## 1895

Чатыры гады Стахван пражыў у двара, у Камароўцы. Але як ні трымаліся за сваю гаспадарку, прыйшлося ізноў служыць. Асабліва цяжка было з дрывамі і з сенам. Лес на сваёй надзельнай зямлі даўно неравялі, поле зрабілі, каб болей хлеба сеяць. Лугоў жа было мала, а тра́вы сеяць тады не ўмелі. І вось узялі яны ў п'янаўскіх паноў абкатады не ўмелі. І вось узялі яны ў п'янаўскіх паноў абкашываць лугавінкі ў лесе на 20 рублёў і дроў у Чортаўшчыне два ці тры сажні — пад асець, снапы сушыць, і ў хату, печ тапіць. За гэтае сена і за гэтыя дровы паехаў Стахван ізноў у Грэшнае, вясною 1895 г., на ўсё лета. Паня Нерад так дагаварылася з сваімі п'янаўскімі сёстрамі, Паненкаю і Княгіняю. Ганна з дзяцьмі лета ў Камароўцы жыла, а ўвосень і яна ў Грэшнае к Стахвану паехала, з Раманам і з Лявонам. Раману тады гадоў шэсць было, а Лявону два, трэці ішоў. І засталася там — ізноў кароў даіць і масла біць.

## 1896

І тады, у Грэшным, тэй зімы, пад вясну, у вялікі пост, радзіліся ў Ганны двайняткі — Марцін і Панаська. Радзіліся ўвечары. Пры Ганне Арына была, свінушніца. Як радзіўся адзін, тады Стахван з кухні прыбег. Першы Марцін радзіўся. Грубка вялікая была. Ганна там есці варыла. Узлезла яна, радзіўшы першага, на гэтую грубку, чуе — нешта ў яе ў жываце троп! Тропнула і перавярнулася.— «Хадзі-тка, Арына, нешта ў мяне ў жываце перавярнулася»... Ажно і другі радзіўся. Панская пакаёўка Маша іх бабіла. Марцінавы кумы — Хока і Гапка. Хока цялятнік быў, цялят прыглядаў, з вёскі Гарэлікаў быў. А Гапка — з Зазер'я, кароў даіць прыхадзіла, даенніцаю ў паноў была. Панасавы кумы — Саласцей-канюх і Наста, што абедаць батракам варыла. Мужык яе — Цімох. Былі яны бяздзетныя. І пачалі прасіць Наста і Цімох Ганну і Стахвана, каб аддалі ім Панаську. Наста дужа ў Ганны прасіла.— «І служыць не буду, гадаваць будзем».— «Не, не аддадзім. Калі жывы будуць, хай растуць,— казала Ганна.— Сама як буду дык буду, удвору паеду, а не аддам». І Стахвана прасілі: «Аддай, вы ж і бачыць яго ў нас будзеце». А Стахван кажа: «У майго брата сыноў няма, дык лепей яму аддадзім». А так гаварылі, што два радзіліся. Без люлькі яны ў іх ляжалі. Не было ні нянькі.

Спакойныя былі. Спаўець Ганна і як падумае, што Панаську Насце аддаць, дык дужа шкода. У той год благавешчанне і вялікадне ў адзін дзень было. І памёр Панаська... Плохенькі быў, ад хваравітасці памёр, пражыўшы чатыры тыдні. Згарэў-згарэў, і памёр. Дужа шкода было яго. Ганна казала: «Лепей бы Насце аддалі,— хоць так, каб і не бачыць яго, быццам і не свой ужо зусім,— каб толькі жыў». Нанач, перад вечарам памёр. Начаваў. Тую ноч не спалі. Чыталі па ім. Пахавалі побач з Васількам.

Потым яўрэйка-малочніца і Маша-пакаёўка нашапталі пані, што Стахван даець дзяцём з кухні ад паноў. Стахван пусціў у Машу талеркаю, як пагневаліся. А яна ж і бабіла ў іх... На купалле паехала Ганна дамоў з дзяцьмі. Ездзіў па яе Саўка, дзевер. Стахван ізноў служыў. Прыязджаў удвору. А Ганна там больш не служыла. Толькі так у госці ездзіла туды к Стахвану, у Грэшнае.

## 1899

Праслужыўшы ў пані Нерад гэтым разам гады чатыры, Стахван зусім ад яе адышоў (1899) і болей у Грэшным не служыў. Паня Нерад дала яму атэстат за 19 гадоў. Адышоў таму, што панічы пачалі сварыцца між сабою і з маткаю. Цяжка было ў іх служыць. Боры было гадоў 25, Толі гадоў 23, Віці гадоў 18. Усе яшчэ халастыя былі. А паненка, Міла, замуж выйшла, за пана Багдановіча, афіцэра. Ён небагаты пан быў, сусед іх недалёкі. У Маскве вяселле спраўлялі. З панічоў Віця, хоць не сварыўся, але змалку самы свавольны быў. Чаго ён не рабіў! Раздзіраў посцілкі на доўгія шматы і сабак запрагаў. І тады, у гэтай запрэжцы, на сялянскія падводы любіў імчацца. Коні кідаюцца з аглабель ад такой неспадзяванкі, а яму пацеха... Бутэлькі ў маткі са склепу краў і страляў у іх. Паня, ад скупасці, шкадавала бутэлек, хапалася за сэрца, хоць там бутэлек гэтых сабралася тым часам вазоў на пяць. А то — хрушчоў за каўнер дзяцём панскіх слуг садзіў. Касцюмы сабе з газет шыў, усё з газет,— і пінжак, і штаны, і жылетка, і нават капялюш,— і ў такім касцюме гуляў. Любіў-такі падурэць. Без бацькі раслі, матка слабога характару, успыльчывая, яны рана волю пачулі. Вучыліся ў Віцебску, у Пецярбурзе, у вучылішчы правазнаўства, дачка ў гімназіі. Былі ў іх гувернёры і гувернанткі. А вось падраслі і як пачалі сварыцца — горш за мужыкоў. Бора, як большы, забраў сабе ключы. Толя, як самы

гаспадарлівы і матчын улюбёнчык, хацеў адабраць іх у Боры. Бора яго кіем па галаве. Толя за ім з рэвальверам. Бора — на стайню, хавацца ў сена, а Толя і туды за ім. Бора — вярхом на каня ды галопам у поле. А Толя — таксама на каня ды ўслед, і рэвальвер усё ў руцэ. Ляцелі кіламетраў пяць, коні запарылі. Бора — з каня далоў і ў жыта, схаваўся і сядзеў, пакуль гарачы брат не астыў-такі... Во як сварыліся. І слугам у гэтых войнах улятала.

Стахван разлічыўся і прыехаў дамоў. З год ці болей пажыў без службы. Саду ў іх не было, дык пачала Ганна казаць, каб сад садзіў, што дзеці падрастуць, захочуць яблычка, хай будзе сваё. Стахван дульку з Чэрнеўкі прынёс, ад Максіма Саўчанка, дзе Матруна, Мікітава сястра, замужам. Яблынькі з Касішчава браў і з Палянкі ад Федасенкі. Потым пайшоў служыць у П'янава.

## 1900

### Лаўрыкавы нарадзіны

Радзёмшы Марціна і Панаську, Ганна думала, што больш і не будзе ў яе дзяцей. Аж потым, праз чатыры гады, радзіўся яшчэ сын — Лаўрын. Ёй было тады 36 гадоў, а Стахвану 44. Гэта было ў іх сёмае дзіця, а радзіла Ганна ў шосты раз. Раману было 12 г., Лявону 7 г., а Марціну 4 г. Радзіўся Лаўрын у месяцы марцы, вялікім пастом, у сераду, як ідуць на андрэева стаяніе. Кросны стаялі ў хаце. Ганна ткала. Увечары, дзеля свята, у хаце прыбралі. Ганна хадзіла па хаце, дужа мучылася, стагнала, плакала. А Раман з Лявонам ляжалі на засланай пасцелі і сварыліся: чый будзе брат... Алёна кажа: «Мае вы дзетухны, не сварыцца вам цяпер, а богу маліцца». Раман,— каб падражніць Лявона, кніжачку падраў. Стахван у П'янава тады на работу хадзіў. І ў той дзень хацеў ісці, Ганна не пусціла: «Ноды самлёю радзёмшы». І ў той дзень яна плацце адцёрла, на падол хацела ісці. Стахван не пусціў: «Ноды родзіцца на падоле». Папрала ёй Параска Мікіціха, а сама Ганна павесіла... Ужо цёмна было, як радзіўся. Якраз пад ставы, пад навой, выкаціўся. На другі ці на каторы дзень хрэсьбіны былі. Бабіла Хоўра Міхасіха. Кумам быў сын яе Сяргей, паштальён. Ён адбыў вайсковую службу ў Рэвалі і там жа паштальёнам паступіў. Прыязджаў у госці. Кумою была Аксёна Курыліха. Сядзелі за сталом... Сяргей быў дужа прыгожы, высокі, чысты, белы з твару,

быў у чорным салдацкім мундзіры з чырвонымі пагонамі. Гулялі і ўвечары. Стахван і Паўлюк Ваявода выбрабляліся, выпіўшы, скакалі «Таццяну» з прыпеўкамі. І Марка Бондар з імі скакаў. Тамаш з мачыхаю былі... А дзе цяпер хто з гэтае бяседы? І дзе маладзенец-нараджэнец? 32 гады таму назад... Колькі часу і колькі змен!

Баба Наталля белабокаўская і маці на печы гаманілі. Баба казала: «Ну, цяпер ужо дос табе радзіць. Дос нарадзіла». А Ганна хацела мець яшчэ хоць адну дачушку.

Лаўрык дужа крыклівы быў. Ганна мала спала за ім. Раз — грады трэба палоць. І вочы ёй забалелі. Пайшла палоць. А ён крычыць, плача... І яна загаласіла, седзячы з ім у градзе. Пазней людзі наймаць навучыліся — ці за хлеб, ці за пазыку. А ёй тады і ў галаву не прыходзіла, што магла ж бы наняць каго, што самой так цяжка з дзіцёнкам. Лячылі яго ад крыксаў. Курыла Скнарыца вады яму нагаварываў. К Габрыелю ў Слабодкі насілі. Салдаціха, жонка «Салдата» (Лявона Сілунка), сполахі яму выбірала. Думалі — спужаны ён. Бо раз прыйшоў Стахван з П'янава ўвечары, а Лаўрык той вечар крычыць і крычыць. Ганна насіла яго, насіла: крычыць без сціхання. І Стахван узяўся насіць. А тады загневаўся ды як махане яго на пасцелю, на падушку.

## 1901

### Памёр Кузьма Батура

Увосень, на Кузьму-Дзямяна, памёр Кузьма Лукашавіч Батура, у глыбокай старасці, пражыўшы каля ста гадоў. Пад старасць аслеп, гадоў 18 сляпы быў. Рукі за сталом дужа трасліся: пакуль лыжку данясець, усё разліецца. Сядзіць бывала на запечку, дзяцём што-небудзь расказвае, боб лушчыць. І да самае смерці хадзіў. Дзяцей калыхаў. Улетку надзене світку, шапку сваю — «ксяндзоўку», па двару, па вуліцы, а то часам і па дарожцы да гумна з кіёчкам дойдзе. А нічога не бачыў. У хаце толькі там, дзе вокны, казаў, чуць яму святлееццa, а то цёмна... Пад канец усё хварэў. Запоры яго мучылі. Стахван з П'янава прыхадзіў, лякарства яму ад Міны Карпаўны (панскае эканомкі) прынасіў, ды ўжо пользы не давала. Памёр увечары, як леглі спаць. Перад смерцю захацеў на двор, з печы злез, да парогу дайшоў, на парозе асунуўся. Палута пачула, Ганну гукнула, на пол яго прынеслі, па-

клалі. Уздулі лучынку, узбудзілі ўсіх. Саўка з другой хаты прыбег (на дзве хаты жылі), прыбег: «Тата! Тата!» Не адгукнуўся... Свечку запалілі скарэй, у рукі ўлажылі. Тры разы ўздыхнуў, пацягнуўся і кончыўся... Уранні прыйшоў з Пґяпава Стахван, нічога не ведаючы, яшчэ яму сотку гарэлкі прынёс, а бацька ляжыць ужо на лаве прыбраны. Паставіў гарэлку на акно. Надзелі нябожчыку «на той свет» світку шэрую, у лапці новенькія абулі яго. Падушачку бярозавым лісцем з венікаў набілі. Пратэсы прынеслі з царквы з Харошага, на вуліцы пад акном паставілі. Пайшлі яму капаць. У той жа дзень хавалі. Лаўрык падходзіў к лаве: «Дзед, устань!» Ляжыць, не ўстане болей... Папа прывязлі. Труну ўнеслі. Добрую труну зрабіў зяць Марка Бондар. Усе па Кузьме вылі: і Палута з Адаркаю (дочкі), і Ганна з Алёнаю (нявесткі), і Вусцінка з Адаркаю (унучкі). Псалтыр Курыла Скнарыца чытаў, і ўнукі патроху чыталі. Свечкі ўва ўсіх гарэлі, калі Кузьму адпявалі. Ад людзей цесна ў хаце было, і ў сенцах стаялі, дзверы адчынілі. І на дварэ многа людзей было. Запелі «Надгробное рыдание»...— усе ў хаце заплакалі. Палута ў вялікай роспачы заенчыла: дужа бацьку любіла, думала, як ёй цяпер без яго ў братоў жыць. Нябожчыка ў труну паклалі, труну з хаты на двор вынеслі, на калёсы паставілі. Гняды конь запрэжаны быў, гняды конь вёз. І Лявона на воз пасадзілі, каб каню лягчэй везці было (звычай такі). Даехалі да шляху, пераехалі масток, управа на лог завярнулі, на кладзішча... Многа людзей ішло. Дзень быў пахмурны, восеньскі, але ціхі, цёплы, дажджу не было. Яма... Палута з Адаркаю прыпалі да труны. Іх адвялі, умаўлялі. Труну на вяроўках спусцілі. Сыпнуў кожны горстачку зямелькі. Узяліся мужчыны за лапаты. Забарабанілі камкі па труне... Пачалі людзі расхадзіцца. І пайшлі ўсе, свежую магілку насыпаўшы. Толькі Палута, бедная, горкая, засталася там плакаць адна. Прыйшоўшы дамоў, прыкладалі рукі к печы, к чалесніку, і малых прыкладаць вучылі, хоць ужо і не ведалі, нашто гэта... Быў стол жалобны, памінальны. Клёцкі елі, псальмы пелі.

З другам я ўчора сядзеў,
Яго смерці не дазрэў...
О, гора, гора мне вялікае!

Успаміналі нябожчыка цёплым словам, хвалілі. Вылічалі гады. Сто гадоў ці болей пражыў. Добры чалавек быў, ціхі, спакойны. Гадоў 18 сляпым пражыў. Удаўцом быў га-

доў 45. За прыгопам гора пацярпеўся... Палута пасля яго смерці доўга і многа плакала, маўклівая. Дзяцём толькі жаль свой павярала. Дзён праз колькі ля вяпроў у хаце прымеркам яна стаяла з хлабасцінкаю. Кароткі восеньскі дзень мінуўся, цёмна ў хаце, вяпры з карыта чаўкаюць, а яна стаіць ля іх і плача... З сям'і хто дзе, толькі Лявон тут к ёй падышоў, не хацеў, каб плакала.— «Як мне цяпер жыць, Лявонічка? Няма ўжо ў мяне татухны». Перад дзяцьмі гора сваё паказаць не баялася, у дзяцей спачуцця шукала, да таго ўжо была жыццём затукана...

## 1902

### Вусцінкіна вяселле

Увосень дзед іх Кузьма памёр, а ў калядны мясаед (1901—1902) яны Вусцінку Саўчыну замуж аддалі. Сваты к ёй даўно ўжо ездзілі, дужа многа ўсякіх перавярнулася. У Быстрыцу чуць і не аддалі, праз пасаг рассохлася. Аддалі Вусцінку ў вёску Калюжнае, Цотаўскае парахвіі, кіламетраў за дзесяць ад Камароўкі, за Цераха Саладуху. Саўка ў розгляды туды ездзіў. Не дужа спадабалася яму, што хата старая, дужа маленькая, цесненькая, і без падлогі. Сыноў у старога Саладухі, ад другой жонкі, што з ім жылі, было тры. І зямлі на іх тры надзелы. Але адзін сын, самы малодшы, Лёшка, у горадзе на пошце служыў. Яму зямлі, казалі, не трэба будзе. Апрача таго, жаніх Церах быў хрэснік калюжанскае пані, а стары Саладуха, нібыта, троху і панскае крыві. Спадзяваліся, што і ад пані, калі будзе прадаваць зямлю ці ўміраць, што-небудзь будзе: або дзешава прадасць, або троху і так дасць — затое што будуць прыглядаць яе на старасці. Яны й цяпер пані і хлеб пяклі, і карову даілі. Церах часам і начаваў там у яе, у доме, калі ёй аднэй сумна ці страшна было. Яна адзінокая жыла: брата яе пасля польскага паўстання 1863 г. у Сібір саслалі, ён там жыў і жаніўся там. Калюжанскія паны палякі былі, каталікі. Паня была раней акторкаю, цяпер жыла ў глушы, у беднасці і адзіноце. Брат быў у Сібіры чыноўнікам, у Калюжнае не прыязджаў. І калі дзяліліся, дык ён не прыехаў, а замест яго быў давераны з гораду. Паня зямлю сваю пасля раздзелу з братам прадала. Сабе пакінула гектараў 12. Садок мела, гародчык, сенажатку, пчол. Жыла ў старым доміку над рэчкаю. У касцёл богу маліцца ездзіла. Церах і ў касцёл яе вазіў. Церах быў ужо

ў гадох, гадоў 28 яму было, гадоў на восем ці болей старэйшы за Вусцінку, вусы рыжыя, сам чырвоны, прыгожы, усё смяецца і з усімі дужа ласкавы, далікатны. І з твару як бы нечым падобны да Вусцінкі: нос такі, як у яе, вочы такія і голас, як і ў яе, прыемны, мяккі. З людзьмі абхадзіўся ветліва, трошку жартліва, але ўмела, разумна, усё ведаючы. І да Вусцінкі ўмеў падысці. Вусцінцы ён адразу спадабаўся. А Саўцы тое спадабалася, што людзі мяккія, абыходлівыя, за пасагам не гналіся. Не так бацька і жаніх яму спадабаліся, як матка. Была яна добрая, зюклівая, гасцінная, ветлівая. Была яна невялічкая, дробненькая, але рухавая, руплівая. Скоту ў іх было даволі, у сваты прыязджалі на рыжым кані; невялікі быў конь, ну крэпкі, гладкі. Вазок у іх быў просты, а таксама і крэпкі і шырокі, у чорнае афарбаваны. І засваталі Вусцінку ў Калюжнае... Пачалі рыхтавацца к вяселлю. Вяпра забілі, кілбас начынілі, хлеба напяклі. Скамарохаў нанялі: Вірыса з Івон са скрыпкаю, і бубен павінен быць — каго сам Вірыс прывядзець. У суботу пачаліся заручыны. Вусцінка, як звычай вялеў, усім кланялася. Дзеці яе дужа любілі, і яна дзяцей. К Лявону падышла. Ён на палу, з крайчыку, стаяў. І яму ў пояс скланілася, і жартуе, і сумна ўсміхаецца. Пацалавала яго. І заплакала...— «Ты ж не ідзі, калі плачаш»...— кажа ёй Лявон (гадоў восем яму было).— «Трэба, Лявонічка, трэба»...— кажа, і нібы жартуе, і разам так жа сумна кажа... Ах, якая дзяўчына была! Ні з кім яна ніколі не пасварылася, нікому няласкавага слова не сказала, а як з дзядзінаю сваёю Ганнаю дружыла. Дзве яны ў сям'і былі — залатога характару і залатыя рукі. Вечны спакой абедзвюм... Скокі пачаліся. Скора і маладога прывязлі. Ноч гулялі. Пад ранне — паблаславілі, на дзяжу Вусцінку сярод хаты пасадзілі, пакрыўшы дзяжу шубаю з воўнаю паверх. Касу ёй расплялі, вянок на галаву надзелі.

— «Ёсць у гэтай хаце айцец і маці, блаславіце вашаму дзіцяці заручыны зайграці»...— пачаў Вірыс, і паліліся сумна-паэтычныя мелодыі заручын... Усе ў хаце заплакалі, а хто і жартаваў, дзеля весялосці, то як сонца праз хмары...

Гэта ж вялікі пераход у жыцці. Што там доля суліць ёй? З'ездзілі пад вянец, ізноў к маладой у двор прыехалі. І пілі, і елі, і скакалі, усім гарэлкі давалі, хто толькі ў хаце быў. На славу вяселле было. Пяклі яны 10 булак хлеба, каля паўпуда кожная (гэта ўспамінаецца, калі есці хочацца, а хлеба няма). Былі кілбасы, мяса, тварог са смята-

наю, сцюдзень, парасяціна, пірагі (булкі), пасыпаныя цукрам. Каша з маслам. Бліны. Пяклі ў суседзяў.

Свашкі і дзяўчаты несупынна песні вясельныя пялі. А Вусцінка ўжо смяецца. У вянку з каснікамі, 12 каснікоў розных колераў: чырвоны, ружовы, сіні, зялёны, маліновы, васільковы, кары, жоўты, вішнёвы, брузэлёвы, белы і чорны... Прыгожая, харошая, кожнаму любая Вусцінка была! Малады — у чорным пінжаку, у добрых ботах, чырвоны, вясёлы. Гарадскі брат яго быў у манішцы, такі чысценькі, да А. В. Кальцова з твару падобны. І на скрыпцы іграў, Вірыса падмяняў. І ўсе былі добра прыбраныя. Хто не ў ботах, дык у новенькіх лапцёх. Палута, цётка маладой, і то чорныя суконныя анучы для вяселля такога абула... Гора ты наша! Увечары стол адышоў, падаравалі нявесту, пагулялі — і павязлі Вусцінку. Камароўскія хлопцы «зайца» каля Міхасёвых закінулі. Дзве пляшкі гарэлкі далі ім пярэкупу. І яны спакойна прапусцілі. Ціха, спакойна ўсё вяселле прайшло. Там, у маладога, таксама добра пагулялі. Калюжанскія свашкі хацелі там перацягнуць камароўскіх. І тыя і тыя выбіралі песні найцікавейшыя, рэдкія. І тады камароўцы навучыліся ад калюжанцаў колькі новых песень, а калюжанцы ад камароўцаў. А ўсяго за вяселле спялі песень сот пяць, на сто розных мелодый. Калі малады з перапоем прыязджаў, давалі ўсім цукерак, гарэхаў, віна. Паехалі, сціхла ў хаце... Алёна зайшла ў старую хату, села там адна — і плача, плача, горкімі слязамі льецца-абліваецца. Пайшла Ганна туды.— «Ну чаго ты, Алёна, ну чаго?» А яна чуць вымавіць скрозь слёзы: «Упёрлі Вусцінку ў балота, упёрлі»... І што ёй у галаву прыйшло, хто яе ведае... Дужа нервовая была яна, задумлівая. Усе Вусцінку любілі. Пасагу далі ёй: 25 рублёў грашмі, каня (на адзінаццатуху ў Целяпенічах Саўка купіў), карову і хлеба. Стахван хацеў, каб Вусцінцы і Адарцы пасаг даць грашмі рублёў па 100 ці болей, а зямля Саўчына, каб яго сыном засталася. Ну — Саўка думаў-думаў, не захацеў, пабаяўся на старасці на «чужым» хлебе быць... Так што потым да Адаркі прымака Саўка ўзяў, і з Стахванам падзяліліся.

Вясною таго ж году пайшоў Стахван Задума служыць к пану Толі Нераду, у яго новы маёнтак Блонне. Паня Нерад доўга хварэла і памёрла ад паралюша сэрца. Дзяцей яна падзяліла. Боры адказала Грэшнае, Толі — Блонне, дачцэ фальварак Слісакоўшчыну, а Віці — лес. Віця з год яшчэ ў Грэшным жыў, пакуль у лесе будаваўся, а Толя

адразу ў сваё Блонне пераехаў. Гэта быў стары, запушчаны, але вельмі багаты маёнтак: над Дзвіною, пры чыгунцы на Пецярбург, за кіламетры два ад станцыі, многа залiўнога лугу, лесу,— «залатое дно». Паня Нерад недарма скупавата была,— гэта яна ўжо гэты маёнтак прыкупіла. Паніч Толя адразу за гаспадарку ўзяўся і стараўся сцягнуць да сябе ўсіх лепшых старых слуг. Таму і Стахвана да сябе пацягнуў. Пайшоў Стахван пехатою, з беленькім вузельчыкам у руках. Выходзячы, пераксціўся на абразы, а на двары, прашчаючыся з Палутаю, капеек трыццаць серабра ёй даў. Ад Камароўкі да Блоння кіламетраў сто.

## Марынкіны нарадзіны

І калі ён там быў, перад восенню таго ж году (1902), як жыта адсяваць, на Івана Галаварэза, радзіла Ганна дачушку, і назвалі, як і першую, што маленькая памёрла,— Марынкаю. Стахван і на ксціны дамоў не прыязджаў. Ксцін вялікіх не рабілі, што на адным годзе многа выдаткаў: памінкі па Кузьме, Вусцінкіна вяселле і яшчэ — нарадзіны. Іван Галаварэз быў тады ў чацвер, поснае елі, і ў пятніцу поснае елі, толькі Ганна малако піла. Кумам быў Максім Ножык, а кумою — Аксёна Курыліха. Сліўкі тады ў Міхасёвым (Міхась — бацька Максіма Ножыка.— *Рэд.)* садзе дужа салодкія былі. І ўжо як ён кумам, а матка яго бабаю, дык слівак і яблык Задумавым давалі.

[...]

Калядамі 1902—3 салдацік у прымы да Аўрама Смакуна прыйшоў. На вуліцы ўвечары каля варот іхных стаяў, у сваты прыйшоўшы. Пуста на вуліцы, снег, марозік. Ён стаіць, у бокі ўзяўшыся, боцікі бліскучыя, мундзірчык чорненькі, шапка касматая. Быў ён з П'янава, Карпа Жабракоў. Быў такі здаволены сабою, бадзёры, поўны надзей, прыгожанькі, хітры, замкнуты.

## Школа

З восені 1902 школа ў Палянцы другі год была. І пайшло ўжо не тое вучэнне, што раней: другія пастаўнікі. Настаўнік Іван Іванавіч Мудрык з'ехаў улетку ў свет. Казалі, раскідаў гной на паласе, а ў яго адна рука калекая, брат нечым упікнуў яго, і ён уваткнуў вілкі ў нераскіда-

ную кучку і сказаў: «Я вам болей не работнік». І паехаў у свет. Казалі, што паступіў у манахі ў Маскве. На яго месца прызначыў харошаўскі поп у Палянку спярша Плакіду Мікіцінага Смакуна з Камароўкі. Плакід тады са свету быў прыехаўшы. І хоць сам мала чаго на навуках умеў, але стараўся ўчыць. Паўчыў мала, да прызыву толькі. Забралі яго тэй жа зімы ў салдаты, у гвардыю, у Пецярбург. Тады, перад калядамі, прызначыў поп у Палянку настаўнікам Мурлу з Харошага. Мурло толькі з салдатаў прыйшоў. Штаны ў яго былі шырокія чорныя, з сінімі кантамі, гузікі з арламі. Боты вялікія, цяжкія, хадзіў як вол. Валасы ежыкам. За дзеўкамі паганяў і вучыў дрэнна. Сам нічога не ўмеў, а натура злая. Біў дзяцей лінейкаю і сваім раменным салдацкім кушаком з бражкаю. Даваў у лоб шчаўчкі таўшчэразным пальцам, як даўбнёю. Без абеда пакідаў, на каленях цэлы дзень мучыў. Не любілі яго, наўмысля дражніліся. Пакахаўся з Валянтоўнаю, прапушчаў заняткі, выціраў завуголле. Пасля каляд жаніўся — і так і сцёр дзецям зіму. Лаялі яго.

## IV. (1903—1913). АДЗІНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ. ДА ВАЙНЫ

### 1903

Ад масленкі Лявону 11-ты год ішоў. Два гады праўчыўся ён у Палянцы, у школе граматы. Вучылі там, пасля Мудрыка, дрэнна, вучыцелі ўсё мяняліся. А Стахван хацеў выўчыць гэтага сына, што зямлі мала, а сыноў чатыры. Пан аблонскі, Толя Нерад, параіў Стахвану аддаць сына ў Крушню. Крушня — сяло, кіламетраў за 12 ад Аблоння. Там была так званая «второклассная» царкоўнапрыходская вучыцельская школа, а пры ёй — «образцовая» царкоўнапрыходская школа. Завязла Ганна Лявона ў Аблонне, а бацька завёз яго там у Крушню. Пасадзілі ў другі клас, бо хоць Лявон добра чытаў, але правілы правапісання па рускай мове і арыфметыку дрэнна ведаў пасля палянкаўскага вучэння. Пабыў там Лявон два дні і прыбег у Аблонне, занудзіў дужа адзін спаміж чужых, думаў — матку яшчэ заспее ў Аблонні. А яна ўжо паехала. Бацька пажурыў яго троху, што так скора ў госці ўжо прыбег, і на другі дзень адаслаў назад, загадаўшы, каб прыходзіў не часцей як раз у тыдні два-тры. На кватэры яго паставі-

лі там на вёсцы, у Рыпінкі, бабулі, што есці вучням у абшчажыцці пры школе варыла, а сталавацца бацюшка дазволіў у абшчажыцці. За гэта трэба было плаціць за зіму 32 рублі грашмі і даць сала 10 фунтаў.

## 1904

Улетку гэтага году п'янаўскія паны чаркеса нанялі. Быў гэта дзікі чалавек з Каўказу. На кані, увесь у чырвоным, увесь абвешан зброяю. Шапка касматая. З аблічча худы, чорны, гарбаносы, вочы налілісся крывёю і гарацць, як у хворага. І — як п'яны ці здурнелы. Злосна крычыць, гойкае, каня па рэбрах бізуном хлешча і гоніцца за людзьмі па лесе і нават па полю, як за зверам. І ўвесь час нейкая трасца яго калоціць, як чалавека, што зараз задрацца хоча ці баіцца, што з ім задзяруцца. На мужыцкае поле далёка з панскага лесу баяўся выязджаць, толькі нешта раз так узвярыўся, што гнаў Курылу Скнарага з венікамі з Чортаўшчыны аж да Тодаравага двара. А тады ўжо крайні двор — Тодараў быў, бо калі яны падзяліліся з братам Валентам, дык Тодар збудаваўся побач з Валентам, далей у поле. Тады ўжо ў Тодара гадоў 10 прымак быў, Іван Баран (ён жа Раман Казёл.— *Рэд.*) з Лысага Логу, добры чалавек і майстар на ўсе рукі. Дык двор іхны і Іванавым патроху зваць пачыналі. Паны чаркесам дужа даражылі. Жырных бараноў яму рэзалі і салодкім віном паілі. Згаварываліся тады бабы з сваім камароўскім пастухом, каб падганяў скот бліжэй к панскаму лесу. Яны мяшкі травы нарвуць, і калі чаркес наскочыць, дык яны з мяшкамі скарэй к статку — і між кароў палягуць, каб ад яго схавацца. З такою бабскаю тактыкаю і каўказскі ваяка рады даць не мог...

Улетку Курыла Скнары кніжачку ад папа з Харошага прынёс. Прыйшоў да Стахванавых, прынёс яе Стахванавым хлопцам чытаць. Казаў з паповых слоў: «Дужа-дужа важная кніжачка. Пра Думу. Думу цар будзе збіраць». Але так ніхто гэтую кніжачку, здаецца, і не чытаў: нічога ў ёй сцяміць не маглі. Поп быў Юдзеніч.

У гэтым годзе ў п'янаўскіх паноў казакі стаялі. Але ўсё ж самавольных парубак у лясох было нямала. Панскі двор сяляне, аднак жа, не разбілі — казакоў баяліся, і наогул народ тутэйшы быў дужа ціхі, пакорны. А к пану Нераду ў Аблонне раз прыйшлі натаўпам герасіменцы, красняцы... Пан схаваўся. Выслаў ім праз Стахвана грошы на вядро гарэлкі. Яны грошы ўзялі і пайшлі. А праз колькі дзён забралі стражнікі і ў Герасіменках і ў Красным усіх, каго на падазрэнні мелі. Стахван хацеў кінуць службу,— пан не разлічыў. А Стахван баяўся, што калі пачнуць панскі двор разбіваць, дык і яму пападзець. У пана ў кладоўцы 10 баявых салдацкіх вінтовак стаяла. Невядома толькі, хто з іх страляў бы разам з панам па людзёх? Мусіць, гэты пан таксама меўся выпісаць казакоў ці якую другую падмогу сабе. Ну, так у яго абышлося. Бо і вакол Аблоння народ жыў даволі забіты, цёмны, баязлівы. А пан Нерад дужа баяўся. Стахван расказваў, што аднойчы ўвосень гэтага году прыехаў пан з Воршы не чыгункаю, а з балаголамі, у балагольскім балахоне, каўнер паставіўшы, шапку на нос насунуўшы. Балаголы, жартуючы, апавядалі, што ад Воршы да маёнтку гаварыў пан з імі па-яўрэйску. У тыя гады быў пан Толя Нерад у Партыі Прававога Парадку. А брат яго Віця ні ў якіх партыях не быў і, мусіць, не дужа баяўся, бо маёнтак свой ён паспеў амаль што рашыць. Сядзібу збудаваў ён сабе ў лесе, у Закапаным. Дом сабе там ладны збудаваў, толькі ён у яго праз гадоў 6—7 згарэў. Дом быў напалову каменны, напалову драўляны. Тады ўжо невялікі паставіў. І пачаў лес высякаць, зямлю сялянам па вельмі таннай цане прадаваць. Аўтамабіль завёў. І паром свой асобны, проціў станцыі. Пажыў раскошна. Дзве рыжыя ангельскія кабылы ў яго былі і жарабец. На прызы ездзіў з імі. Хадзіла пра яго слава, што ён і барцом быў.

## Часць другая (1905—1917)

Калядамі 1904—5 Кузьма, прыехаўшы са школы дамоў, зрабіўся быў вельмі свавольны. Крыўдзіў Пракопа (ён жа Марцін.— *Рэд.*) і Лаўрыка. Марынку ўвечары сценем палохаў, і запалохаў быў раз да таго, што баяцца сце-

пяў пачала... Ёй жа яшчэ каля трох гадоў было. І аднаго разу, жартам-жартам, па шчочцы яе так ударыў, што заплакала дужа. Яна на лаве стаяла, а ён каля лавы, сценем палохаў і ўдарыў. Аж маці з печы злезла, Марынку ўзяла, а на яго пасварылася: такі «госць»... Пракопа ў шашкі гуляць паўчыў, а гуляючы — так махляваў, з Пракопа здзекаваўся, што да слёз яго даводзіў. Лаўрыка на палу аб сценку галавою ўдарыў: усё жартуючы. І ў Лаўрыка, пасля дзіцячага радаснага смеху, слёзы на вачох павярнуліся. А раней Кузьма ўсё «ціханькім» лічыўся. Са школы гэтыя «жарты» прывёз. Што там з ім большыя вучні рабілі, то ён тое ўдому з дзяцьмі пачаў рабіць...

## 1905

Здаецца, улетку гэтага ж году ці раней Паўлюк Ваявода хадзіў ад сялян «хадаком» к цару. Збіралі яму на дарогу з кожнага двара грошы. І ён «хадзіў», але «да цара паны не дапусцілі». Яшчэ і тады ў сялян думка была, што не цар вінават, а паны, што яны «і царом круцяць». Думалі, што і цара, які прыгон скасаваў, забілі паны з помсты... Яшчэ верылі ў цара. Толькі Мяход з Глінні лаяў і паноў і цара. Паўлюк Ваявода, як пакрыўджаны сваім заможным бацькам, зрабіўся вялікім рэвалюцыянерам супроць п'янаўскіх паноў. Лаяў іх і на бацьку наракаў. Тамаш быў скуп. Ганна ўзяла ў яго аўчынак Лявону на шубачку. Тамаш, мусіць, як для дачкі ацаніў іх у два рублі. Адразу Ганна не магла аддаць, сказаў: «Пасля аддасі». І аддала, узяў. Але Ганна ніколі не судзіла бацьку, хоць і рада была б узяць тыя аўчынкі дарма.

У Паўлюка штогод дзеці радзіліся. Дзеці былі брудныя, саплівыя, у каросце. І рукі, і пальцы, і твар, і шчокі, і нос — усё ў каросце. Спярша Паўлюк, і падзяліўшыся з бацькам, на адным з ім падворку жыў, толькі ў розных хатах. Потым Паўлюк паставіў хату на рагу, побач з старым кладзішчам. І крамку адчыніў. Але не хапала грошы на зварот. Справа ішла дрэнна. І самі многа бралі з крамы і елі. Пазней нехта падпаліў яго крамку, і ўсё згарэла, а толькі прывёз тавары з Віцебску, улетку, якраз перад Іллёю. Думаў ён на целяпеніцкіх гандляроў.

З бацькам ён усё не ладзіў. Мачыху дужа лаяў, апошнімі словамі панасіў. І казаў, што дзеці ў яе не ад бацькі яго Тамаша, а ад другіх мужчын. Быццам з тэй прычыны, што Тамаш стар, дык дзяцей у яго ўжо не можа быць.

А мачыха білася з Тамашом. І аднойчы так яго каромыслікам пабіла, што і рабро яму зламіла. Але вылечыўся. Людзі ад злой радасці смяяліся. Найбольш было прыкра Ганне: яна бацьку любіла. Тамаш жыў адзінока, замкнута, маўкліва. Бывала стаіць у царкве каля правага крыласа, на бачным месцы, у сіняй паддзеўцы на заборах, і медаль нейкая ў яго на грудзёх прышпілена. Бровы павіслыя, сам нібы насуплены. Але шэрыя вочы яго былі чыстыя, ясныя. І ў вачох — правата, супакой, троху тужлівасць. «Багачом» тады ўжо ўсе звалі яго. Ён нават п'янаўскім панам грошы пазычаў. А сам, у сваёй хаце, жыў па-мужыцку, насіў усё простае, еў нават не дужа багата, толькі хлеб чысцейшы, чым у другіх, ды мяса часцей. Мёд быў, бо пчол многа ў садзе развёў, калод 40. І сам усё рабіў, не любіў наймаць. Падзяліўшыся з Паўлюком, ён жыў на 2 надзелах зямлі, і больш зямлі не купляў. Адкуль яго багацце было? Людзі тлумачылі, што браты яму грошы прысылалі і каля царкоўнай касы хадзіў. Ну, я не думаю, каб ён з касы мог што набраць, свечкі прадаючы, а вось грошы ён пад працэнты пазычаў, а сам скнара жыў, не расходаваў, капеечку к капеечцы прыкладаў, так і расло.

Каля таго ж часу хадзіў Паўлюк у Кіеў, к мошчам, богу маліцца.

А Іван Фаміч спярша ў Багамолаве пісарам быў, потым перавялі яго ў Далёкае Сяло, дзе некалі і Максім Ваявода, дзядзька яго, пісарам быў. Ну, Максіма сяляне хвалілі, а Івана Фаміча, здаецца, не. Мусіць, панаватыя замашкі былі ў яго. Жончына радня ўгару яго цягнула. Нейкі час ён нават абавязкі станавога прыстава выконваў. Нарэшце асяліўся ў Віцебску і ў земскай управе служыў. Прыязджаў у Харошае дужа рэдка. Аднаго разу жонка Івана Фаміча была на кірмашы ў Целяпенічах. Ганна Стахваніха там яе ў кірмашовым натаўпе ўбачыла, але падысці к ёй пасцяснялася. І хацела падысці к братавай жонцы — і не падышла. Была Іваніха ў саламяным капелюшы, у сукенцы, тоўстая, важная, з парасонам... Дык, можа, таму Ганна пасцяснялася. Ну, як гэта не падысці к жонцы роднага брата, доўга з імі не бачыўшыся? Вось, нешта разгараджала...

1907 (?) Вясною прыходзіў к Батурам Рабэй з Забор'я (Раздзел) сватаць Тараса Палуцінага да свае дачкі, каб ішоў у прымы. Рабэй — чалавек бедны, прыйшоў у сваты, а ў старым жупане, у лапцёх, і нейкі ён слінявы. З кійком прыйшоў, пасядзеў на лаве, а тады бліжэй к печы

адышоў, на калоду сеў, піпку закурыў. Так і сядзеў сват сярод хаты на калодцы: дачку сваю хваліў, жыццё сваё хваліў. І гаманіць з ім доўга не захацелі... Тараса не было, ці быў, ды маўчаў.

## 1908

Калядамі 1907—1908 памёрла Адарка Бондарыха ў Палянцы. Была яна ростам невялічкая, складам кволенькая, з віду худая, чорненькая, з глыбокімі чорнымі вачмі, з чорненькімі вусінкамі на верхняй губе. Але рухавая была, за сястру Палуту здатнейшая да ўсяго. У шэрым палусвітачку, саматканая спаднічка, хусцінaчка на галаве, у лапціках. У палусвітачку кішэнька збоку нашыта, арашкоў адтуль дастане, маломy дасць. Ласкавае слова скажа, шпарка пойдзе... З свякроваю дужа згодна жыла. І свёкар дужа любіў і паважаў яе. Працавітая была. Адно лета баравікамі жаробку вынесла. Баравікі на адзінаццатуху ў Целяпенічах прадалі за 18 рублёў і на гэтыя грошы жаробку купілі. Жылі бедна. Марка ўсё служыў, плотнічаў, бандарыў. У Алёхнавіча служыў і ў Задумавых, у братоў жончыных, пазней трохдзёнку служыў (два дні ў дварэ, а трэці ў іх). Дзяцей многа было, ды ўсё маленькія ўміралі. Была Аўхімка, колькі Адарка з ёю панасілася, а Аўхімка гадкоў 7—8 і памёрла. І Курылка памёр, і дачка Кацярынка. Чалавек сем памёрла, хлопчыкаў і дзяўчат. Толькі Стратон і вырас. І праз яго мела Адарка многа гора і непрыемнасцей. Таму яна і чакала яго так перад смерцю, каб апошняе слова яму сказаць. Сварыўся ён і з ёю, і з бацькам. Уцякаў ад іх. У Аблонне к дзядзьку Стахвану ўцякаў, хацеў служыць там. Стахван адправіў яго дамоў. Ужо быў жанаты Стратон, калі Адарка памёрла. Памёрла перад васіллем (Новы год). Ніякае хваробы не прызнаў ніхто. Захварэла і памёрла. Прастудзілася, хварэла. Хворая ўжо дужа была, калі Стратон з палянкаўцамі пяньку ад целяпеніцкага Шульмана ў Віцебск павёз (а адтуль з таварамі павінны былі прыехаць). Як стала ёй худа, крапілася, каб з ім перад смерцю ўбачыцца. Палута пры хворай сястры была. І Ганна, ішоўшы з Харошага, захадзіла. Адарка на печы сядзела, і Ганна каля яе пасядзела. Адарка казала: «Як слова палягчэла троху». Як паміpала, дык гаварыла, каб не хавалі, пакуль Стратон не прыедзе. Казала: «Няхай хоць на мёртвую паглядзіць на мяне». І ляжала тры дні, тады пахавалі. Удосвецця, як памёрла, прыйшоў Марка ў Камароўку, к Задума-

вым, засмучоны і няшчасны, але стараўся схаваць свой жаль. Прыйшоў, прыхінуўся к лаўцы... Пытаюцца ў яго: «Ну, як Адарка?..» — «Казала Адарка доўга жыць»... Марка, бывала, на руках яе насіў, як дзіця насіў, калі, бывала, вып'е, жартуе, вясёлы. Ён быў высокі, здаровы мужчына, з вялікаю барадою і з вялікімі вусамі. А яна — дробненькая, чорненькая. Казаў пра яе: «Ну, ці яна мне жонка? Яна мне — друг». І калі памёрла, усё гэтыя словы паўтараў: «Яна мне першы друг была. Я на другую жанчыну і не зірну. Друг мой памёр!» — скажа і як заплача! Сам і труну ёй зрабіў. Дошкі выбраў самыя лепшыя, сухенечкія. Выстругаў гладка-гладка. Прывазілі папа. Людзей многа сышлося. Чыталі па ёй пляменнікі (Тарас, Раман, Лявон), суседзі. Палута плакала не перастаючы, рукі сабе з гора ламала. Гэта ж і ў яе самы блізкі чалавек памёр. Толькі з сястрою гора сваё і дзяліла. Дужа жалела Адарку. Алёна, Ганна вылі па ёй, і пляменніцы, і нявестка Арына Стратоніха дужа плакала, што цяжка ёй цяпер аднэй будзе. Адарка з ёю жыла, як не ўсякая матка з роднаю дачкою жывець. Усе жалелі нябожчыцу і хвалілі за дабрату. Калі хто папросіць бывала ў яе што,— астатнім падзеліцца. За ўсё жыццё нікому яна худога слова не сказала. Дзяцей дужа любіла. Бывала, суседскім дзяцём то морквінку, то рэпку з свайго гароду дасць. А якая працавітая ды старанная была! І памёрла без пары... Ляжала з прыгожым венчыкам на лобе, як нявеста. І адпускную малітву, «пашпарт на той свет», спакойна трымала ў худых руках на грудзёх. Свечкі густа гарэлі. Ладанам пахла. Пра Стратона людзі гаманілі. Чакалі яго. І заспеў ён яшчэ матку на лаве. Прыехаў разжалены, спалоханы, замкнуты ў сабе. Казаў, што сніў сон у дарозе, калі начавалі ў Леплі. Матка вады ў яго прасіла, казала: «Паліць мяне». І падумаў ён, што пэўна памёрла. Гнаў каня. Усе пазней прыехалі, а ён наперад адзін. Тавар на іх сані пераклаў. Прыехаў — матка на лаве прыбраная ляжыць... Пахавалі побач з бацькам Кузьмою і дзяцьмі. Там усе магілкі іхныя ўкучы. Стол па ёй добры быў. Сабралася радня, суседзі бліжэйшыя. Спамянулі. Псальмы спялі... Стахван-брат у Аблонні быў, як схавалі яе. Павёз Раман Лявона ў школу, дарогаю раіліся, як бацьку сказаць, што цётка Адарка памёрла. Прыехалі ў Аблонне, скора яму і сказалі. Спалохаўся Стахван: «Што вы? Памёрла?» Пераксціўся: «Ну, няхай свята ляжыць... Без пары памёрла...»

Таго ж году (1908) у Крушні ў школе, дзе вучыўся Лявон, забастоўка была. У настаўніцкім класе ножка ў стале расківалася і адламілася. І зусім яе не стала: ці вучань Конан Гузноў, сын старшыні, у печы спаліў яе, ці, можа, сторож куды дзеў ды на вучняў сказаў. За гэта поп Арсені Рубец загадаў не даць настаўніцкаму класу селядца раніцою, у панядзелак. Гэта ў пачатку вялікага посту было, пасля масленкі. Лявон у нядзелю ў бацькі ў Аблонні быў, а ранелька ў панядзелак у Крушню прыехаў: нейкі пан з Аблоння ў Хіславічы ехаў і яго да Крушні падвёз. Прыехаў Лявон, а ўвесь яго клас сядзіць у спальні, на ўрокі не ідзе. І яго туды гукнулі, і ён не пайшоў. За іх класам і малодшыя ўзбударажыліся. І ўся школа дні тры не ўчылася. Прыязджаў з Лепля інспектар, поп Шафранскі, разбіраць справу. «Бунтаўнікоў» так-сяк ашукалі, каго застрашылі, каго ўмовілі. Мусіць, і прадажныя душы знайшліся. Некалькі вучняў, і ў тым ліку таварыша Лявонавага, Наўмена Бабскага, звольнілі, даўшы права прыехаць вясною трымаць іспыты, некалькіх з абшчажыцця на кватэры ў сяло выгналі на пэўны час, а Лявону нічога не было, толькі поп Арсені Рубец зганяў яго з пісьмом да бацькі ў Аблонне. У пісьме поп жаліўся Стахвану, што сын яго паслухаў таварышаў і на ўрокі не пайшоў. Стахван не лаяў Лявона, а палаяў папа і настаўнікаў і адправіў Лявона назад у Крушню.

Тэй жа вясны скончыў Лявон школу, прыехаў на лета дамоў у Камароўку і не ведаў, што яму далей рабіць. Вучыцелем быць — молад яшчэ (16-ты год яму ішоў). Далей вучыцца — не ведаў, куды падацца, і грошы патрэбны. І бацькі ходаў не ведаюць, бо самі цёмныя, непісьменныя. Пан аблонскі Нерад раіў Стахвану ў рамесніцкую школу ў Горкі аддаваць, Стахван ужо і хацеў так зрабіць, а Лявонава сэрца не ляжала, ён хацеў вышэй вучыцца. Тады якраз прыязджаў у Нівішча з Масквы былы палянкаўскі вучыцель Мудрык і да іх у Камароўку святам зайшоў. Людзі раней казалі, што Мудрык звар'яцеў: баб з дарогі ў снег піхаў, людзей у лазні падпіраў, на бога недарэчы казаў. Цяпер гэтага не відаць з яго было, толькі зусім не той ён стаў, што быў раней: ужо гарэлку піў, на дзяўчат заглядаўся... Ганна яечню яму спрагла, паўбутэлькі гарэлкі яму паставіла. Толькі не з кім было яму сядзець, сама ж яна не піла, Стахван у Аблонні быў, а Саўка не да гэтай кампаніі, ды ён, здаецца, у полі тады быў, ён поле сваё святам любіў абысці, паглядзець. Ганна Лявона ўжо

з вучыцелем садзіла. Мудрык выпіў, яечні з'еў, вясёла пагаманіў, успамінаў, як ён раней у іх вучыцелем быў. Потым у садзе ў іх пахадзіў, там пчала яго ўкусіла, і ён кідаўся-кідаўся, дужа баяўся, што губа ўспухне, дык не зможа ён да дзяўчат к Мікітавым пайсці. І між іншым так Лявону сказаў: «Женщины, вино и папироска — счастье для человека». Толькі сам, здаецца, і тады не курыў. Пра слова «рэспубліка» нешта казаў: быццам нехта сказаў: рэспубліка! — а другім пачулася: рэж публіку! Лявон мала чаго зразумеў з некаторых яго гутарак, і хоць любіў ён Мудрыка, але не ўсё ўжо ў цяперашнім Мудрыку яму падабалася. Дык вось Мудрык, быўшы ў іх, раіў Лявону ехаць у Баруны, у настаўніцкую школу, вышэйшую, чым у Крушні. Лявону адразу паказалася, што гэта не да выканання: стыпендыю там, можа, дадуць, а можа, не, а трэба ехаць далёка чыгункаю, аж у Віленшчыну, а там ад станцыі да Барун на конях... колькі трэба грошы! І ён чыгункаю і не ездзіў. Аднак жа згаварыліся з Мудрыкам, што ў тую нядзелю будуць абодва ў Харошым, спаткаюцца каля царквы, і Мудрык дасць Лявону ўзор прашэння ў Баруны і дакладны адрас, як туды ехаць. У тую нядзелю Лявон не знайшоў Мудрыка каля царквы і пайшоў да яго ў Нівішча. Хатка там у іх бедная. Брат Мудрыкаў сустрэў Лявона неяк падазрона. А Мудрык спаў па абедзіве. Устаў сонны. Сказаў, што пераслаў прашэнне Лявону праз нейкую камароўскую маладзіцу, якая родам з Немярэчы, а сястра яе замужам у Нівішчы. І яшчэ хацеў частаваць Лявона, паўбутэлька на стале паявілася. Мудрык брата гукаў, той неахвотна ішоў. Лявону сумна стала, захацеў дамоў ісці. Мудрык правадзіў яго за вёску.

Лета праходзіла, і бачыў Лявон, што нічога ў яго з Барунамі не будзе. І прашэння не пасылаў. Думаў пра Горкі, сумаваў. Аж раз прыходзіць матка яго, Ганна, з Харошага і вясёла кажа яму, што ўсё будзе добра... Спаткалася яна ў Харошым, у царкве, з цёткаю сваёю белабокаўскаю Наталляю. Наталля была родам з Картыжоў, з Ганнінаю маткаю Палагеяю былі яны дочкі аднае маткі, Гапкі, а бацькі ў іх былі розныя: Палагеін бацька — Мацвей Мароз, а Наталлін — той прымак, што ўзяла Гапка, калі Мацвей памёр. Наталля любіла Ганну, прыязджала і прыхадзіла к ёй у Камароўку. Пасля матчынае смерці Ганна дала ёй матчын андарак, а яна Ганне свінню добрую прывязла (у іх, у Камароўцы, свінні тады падохлі). Яна часта к Ганне ў Камароўку прыязджала. У Сцюдзя-

нец ісці, богу маліцца,— накажа праз людзей, каб і Ганна ішла, убачуцца там. І заўсёды ці парася прывязець, ці курачку прынясець, ці рушнік які Ганне дасць. Арахоў у іх у Чорнай Пушчы многа было, — арахоў ім, прыязджаючы святкамі ў Камароўку, прывазіла. Усё Ганне дапамагала. Калі дзіця захварэе, яна прыйдзе і дапаможа, палечыць, раду дасць. І без нічога не ідзе,— гасцінца нясець, хоць курыцу, хоць піскляёнка. Калі Саўка пачаў казаць, што дзяліцца будзе, яна Ганну пацяшала: «Не бойся, будзеш жыць». Была яна троху гарбатая, пад барадою — яйцо (ад застарэлае свінкі, ці што), невысокая, але самавітая, здаровая. Нос з гарбінкаю, ніжняя губа — трошку наперад. Хадзіла паважна, супакойна. І ў твары ў яе — самастойнасць, супакой, упэўненасць у сабе, і некаторая іронія... Гэтым яна адрознівалася ад многіх нашых вясковых жанчын, у якіх такой чалавечай годнасці ў выразе твару мала было. Агей Рагавы, мужык яе, кульгаў на адну нагу, але быў вясёлы, жартлівы. Любіў пасядзець у бяседзе, выпіць, добра пад'есці, пажартаваць, пасмяяцца. Кульгік, кульгік! — а ўсё ўсміхаючыся, усмешка з твару ў яго не сходзіла. Шмат чаго ўмеў рабіць: і каткі, і сані, і дугі, і калёсы. І шапавал, і аўчыннік. І нічога не баяўся, ні аб чым не тужыў. Не так ужо багата і жылі яны там, у Белым Баку, але рамяством займаліся, недародаў не баяліся, без хлеба ніколі не сядзелі. Мусіць, рамяство і рабіла іх такімі ўпэўненымі і вясёлымі. Ганна, і Стахван, і дзеці іх любілі сваю белабокаўскую радню. У госці туды ездзілі, хоць і рэдка, што далёка. І Лявон з бацькамі там бываў малы. Бывала, заўсёды «трубак» адтуль сабе прывазіў. Гэта як колы з дуба робяць, дык трубкі такія конусападобныя доўгія выкручваюць. Ён любіў з імі гуляць. Агей завядзе малога на двор, пад страху, дзе трубкі, і смяецца: «Бяры, колькі хочаш! Выбірай, якія найлюбей табе! Бяры, дзетка, бяры!» А ў Лявона і вочы разбягуцца: якое багацце! Колькі трубак! І адна за адну лепшая!

Цётка Наталля сказала Ганне, што даўно трэба было Ганне прыйсці з Лявонам параіцца з яе сынам Хвядосам. І Ганна шкадавала, што чамусьці раней пра гэта не падумала. Хвядос, самы меншы сын цёткі Наталлі, таксама скончыў «второклассную» школу, як і Лявон, цяпер вучыўся ў Горках на каморніка. Цётка абнадзеіла Ганну, што ўсё будзе добра...

Перад самым гэтым Іванам, што жыта адсяваюць,

пайшла Ганна з Лявонам у Белы Бок, к Хвядосу. Ганна лён дабрала, і пайшлі. Выйшлі з двара позна, сонца садзілася. П'янава перайшлі — цямнела, а ў бярэзнік, што ў Нівішчанскіх канцах, увайшлі,— зусім цёмна стала. Месца тут было для іх страшнае, частка Чорнай Пушчы, а Чорная Пушча цягнецца на дзесяткі вёрст. Тут ім трэба было перайсці лесам усяго кіламетры два, але месца такое — самы воўчы перасмык між палёў. І дробны асіннік, аграмадныя кусты арэшніку, непралажы ельнік-гушчэча... Уздоўж дарогі шмат балот, лазы, канаў з вадою. Дарога была ўся ў калюгах з вадою. Ганна баялася ваўкоў, разбойнікаў, цямноты, лясных страхаў. Ішла і малілася. А Лявон, калі матка нагамі шыбка коўзь-коўзь,— падтрымае, падвесяліць. Наўмысля голасна размаўляў. Хацеў нават песню запяяць. Але потым сціх: страшны лес прыгнёў і яго. Перайшлі, аднак, памысна. Выйшлі на поле, лягчэй стала. Там зараз і Рэмество. Ганна кажа: «Заначуем». А Лявон: «Пойдзем, а то Хвядос у Горкі паедзе». Дайшлі да Брыжоў (Картыжоў), а там за Брыжамі ізноў трэба лесам ісці. Шахаўшчына, дубы, канавы, гразка, дарога дужа дрэнная і дарог у лесе дужа многа: і ў лес дарога, і туды дарога, і сюды дарога. Як там уночы, у такой цямноце, ісці? І Лявон падаўся. Не пайшлі ўночы далей, а зайшлі к Адарцы, Ганнінай дваюраднай сястрэ, дачцэ Тодара Мароза. Яна тут замужам была.

У Мацвея Мароза і яго жонкі Гапкі былі дзеці: Палагея Мацвееўна, Іван Мацвеевіч, яшчэ Іван (меншы) і Хвёдар[1]. Іван Мацвеевіч (большы) праслужыў у салдатах 25 гадоў. Жонка яго, Рыпіна, была родам з Пакуцця. Троху ў Брыжах пажыла, а тады назад к бацьку ў Пакуцце перайшла і чакала мужа 25 гадоў. Ён і на войнах быў — і вярнуўся. І калі вярнуўся, былі ў іх з Рыпінаю дзеці: дачка Бася і два сыны, большага звалі Якаў. Іван Мацв. падзяліўся з братамі, з Іванам-меншым і з Хвёдарам, на 3 двары. І пажыў мала, і памёр. Дачка яго Бася плакала-плакала і памёрла ў маладых гадох, дзяўчынаю. Матка Рыпіна што жалела Якава! Пойдзець на гумно, усю асець абаб'ець, а яго не будзіць, а тады людзей гукнуць малаціць. І Якаў цяпер ужо памёр, таксама маладым, траіх дзяцей пакінуў. Дзеці жывуць у Брыжох.

[1] Аўтарская недакладнасць (гл. с. 20, 21, 58).

Жонка другога ўзяла. Хвёдар, бацька Адаркін, к якой мы зайшлі начаваць, быў самы малодшы і памёр раней за большых братоў. А дзеці яго выехалі ў Томск (у 1908 ці 1910 г.). Тут зямлю сваю прадалі, і скот прадалі,— і паехалі. І матка іхная (Тодарава жонка, Матруна) там ужо памёрла. Яна раз была прыязджала, у Белым Баку начавала, хацела Адарку ўзяць. Казалі, Адарка там, у Томскай губерні, была, але там на іх навялі, што яны нешта ўкралі, дык яны і вярнуліся.

У Мацвея Мароза і жонкі яго Гапкі былі дзеці: Палагея (Ганніна матка), Іван Мацвеевіч (што 25 гадоў у салдатах служыў), яшчэ Іван (меншы) і Тодар (Хвёдар.— *Рэд.*). Адарка і была дачка гэтага Тодара. Ён самы малодшы быў і памёр раней за старэйшых братоў. Дзеці яго выехалі ў Томск, толькі Адарка тут засталася, замуж тут зайшла. Адчыніла Адарка Ганне з Лявонам, пачалі гаманіць... Адарка пытаецца: «Ці будзеце вячэраць?» Ганна кажа: «Я не хачу, а Лявону дай малака стакан». А ў Лявона і вусны пасмяглі, выпіў ён малако, як нектар жыватворчы... Пагаманілі пра цётак, пра дзядзек, дзе Домна, Хрысцёна (Адарчыны сёстры). І леглі спаць. Адарка дзіцёнка калыхала. Муж быў на начлезе, нядаўна прыехаў з шахтаў. Бедна жылі... Адарка хваліла Лявона, што хоча ўчыцца. І казала: «На чым не стане, а і мы свайго, хоць аднаго, вучыць будзем». Хвалілася, што справы іх цяпер троху папраавіліся. Мужык яе грошы з шахтаў прывёз. Жаробку на адзінаццатуху ў Целяпенічах купілі. Дзіцёначак яе ўночы ўсё плакаў. Лявон спаў на лаўцы, пад акном. Спаў трывожна. Думаў, ці ўдасца яму вучыцца далей, думаў, калі ж гэта людзі лепей жыць будуць... І скрозь сон увесь час чуў, як плача яе дзіцёначак — то ў люльцы, то ў яе на руках. Раненька ўсталі, не елі, не пілі,— скарэй пайшлі (бо Адарка ад людзей чула, што Хвядос яшчэ ў мінулую нядзелю меўся паехаць).

Як ні спяшаліся, а Лявон не мог уцерпіць — і дарогаю, у вялікім пышным старым лесе, дзе пад высачэннымі дубамі было многа арэшніку, і высокага старога і нізкіх кустоў,— на хаду шчыпаў арахі, еў і матцы даваў. Арахі былі буйныя, спелыя, лузгацы, і смачныя-смачныя. Ды Ганна не ела, што свята, рана, грэх есць. І так прыйшлі ў Белы Бок. Прыйшлі, а Хвядос ужо тыдзень таму назад паехаў... Было ў іх дзве цешчы ў гасцёх: Куры-

Лава і Папасава. Лузгалі арахі і Лявону з Ганнаю давалі. Лявон яшчэ ад Адарчыных спакойна-разумных гутарак павесялеў, і тут радаваўся, што ўчыцца будзе. Баба Наталля ўсё рады давала, каб Лявон канечне ўчыўся, за Хвядоса трымаўся, і па кватэры разам з ім можна жыць, і весялей. Казала: «І сала калі больш дам». Хвядоса яна надта любіла, хвалілася ім. Гэта была яе пыха і надзея. Нявест яму ўжо наглядала. Гаварыла з Ганнаю (ціханька, важна) пра настаўніцу Крылову, харошую дзяўчыну, што недалёка ад іх настаўнічала, і ўлетку з Хвядосам у арахі разам хадзіла, і ў іх у хаце была... Надзеі вы, надзеі! Мары нашы!..

Тады Ганна з Лявонам узялі Хвядосаў адрас, а праз месяц павёз Лявона Раман у Горкі. Гразная восень была. Прыехалі ў Горкі якраз на пакрова, калі там кірмаш. Знайшлі вуліцу, двор. Ідуць праз сад. Ужо цёмна, вечар. Дарожка к флігяльку. Агонь у акне, белая фіраначка, сіні абажур на лямпе. Ідуць, торбы свае нясуць. Уваходзяць. Сустрэў іх Хвядос. Ён таксама храмы, як і бацька яго. Па пакою ходзіць, прыхрамывае, але вясёлы, смяецца, жартуе. Трошку насмешлівы... Ахрамеў ён у дзяцінстве, праворны дужа быў, з варот зваліўся. Ну, калеку — вучыць трэба. Скончыў народнае вучылішча ў Брындзіне, потым утаракласную школу ў Шышках. І падрыхтаваўся ў Горках, у рэпетытара Крэера, паступіў у таксатарскія класы. Чорная сарочка-касаваротка, зялёным вышываная. Сінія дыяганалевыя штаны. І такая ж тужурка з пятлічкамі. На штанох і на тужурцы зялёныя канты. Тут з ім і заставаўся Лявон — рыхтавацца ў гэтыя самыя класы. Хвядос зіму вучыў яго, дыктанты пісалі, задачкі па алгебры і геаметрыі рашалі. Хвядос быў надзвычай здольны чалавек. Паўгадзіны над геадэзіяй пасядзіць і ўжо ўсё ведае. У карты гуляў. Збяруцца да яго — і прэферанс, пулька. Ідуць выпіваць. Потым у яго мала сабіраліся. Так і ўчыўся. Быў сацыял-дэмакрат. «Былое» чытаў. Пуліха[ва] ведаў і ўспамінаў. Пуліхаў — каморнікам быў. Потым яго павесілі пад варотамі ў турме ў Менску. Хвядос картачку яго фатаграфічную меў: у касматай японскай папасе Пуліхаў на ёй быў. Хвядос песні любіў пець, на скрыпцы іграў. Рамансы, студэнцкія і рэвалюцыйныя песні. Да беларускае мовы адносіўся адмоўна (хоць і не дужа быў супроць яе, але не падзяляў і Лявонавага захаплення). А ў Лявона гэта ўжо з Крушні было.

## 1909

Калядамі 1908—1909 Хвядос з маткаю к Задумавым у Камароўку прыязджаў. І начавалі. Хвядос на курчыне на руках паднімаўся, як добры гімнаст. Ганна правяла іх аж за Палянку, да мастка. І Хвядосу дала 10 рублёў, і рушнік, і панчохі з нітак. Плата, што ўчыў Лявона. Узяў і дзякуй сказаў. Не горды быў чалавек, хоць і вучоны. Але ўчыць Лявона ён не дужа меў ахвоту. Пісалі дыктанты, разбіралі.

Пасля каляд жаніўся брат яго Стахван. Ездзілі ў Горкі па Хвядоса, і ён быў на вяселлі. Дзень пажыў, паехаў. Лявон здзівіўся, што ён пагуляў на свадзьбе ў брата мала. А ён кажа: «А што мне там? Усе браты з жонкамі ў пары, і бацька з маткаю, а я адзін».

Вясною пайшоў ён на практыку, а ў пачатку лета скончыў класы і паехаў на пасаду каморніка ў Курскую губерню. Улетку Лявон займаўся ўжо не з ім, а ў Крэера. Плаціў Крэеру рублёў пяць у месяц. Хадзіў займацца разы тры на тыдзень, па гадзіне. А ўвосень паступіў у каморна-агранамічнае вучылішча, якое адчынілі замест каморна-таксатарскіх класаў. Як вытрымаў іспыты, Лявон так быў рад, што ўночы дамоў прыбег. Яшчэ троху дома пабыў да пачатку заняткаў. Скора яму, як пачаў вучыцца, стыпендыю вызначылі і ў пансіён узялі. Так ён і праўчыўся там чатыры гады.

Гэтым жа летам падзяліўся Саўка з Стахванам.

У калядны яшчэ мясаед, калі Стахван выязджаў у Аблонне ці Князеўшчыну, Саўка кажа: «Спытайцеся ў Стахвана, к якому боку зямлю будзеце браць». Ганна выбегла ўслед за Стахванам: «Стахван! Саўка кажа спытацца ў цябе, к якому боку зямлю браць, калі дзяліцца будзем».— «Бярыце к Мікіце!» — і паехаў. Чэраз колькі дзён і рассыпаліся — без асаблівага скандалу. Раней троху сварыліся. Раман з дзядзькам сварыўся, не паважаў яго. Ганна старалася ладзіць. Адзін раз пасварылася, дык Саўка з палкаю за ёю бег. А пасля казаў: «Добра, што ты ўцякла, а то стыдна было б мне». Ганна потым шкадавала, што доўга жылі не падзяліўшыся. Стахван грошы на гаспадарку даваў, Дарка купляе сабе, а ў Ганны часам грыванніка няма. Не жылі праўдаю. Саўчыны ўсё казалі: «Гэта ўсё вам застанецца». Ганна цяжка працавала. А Саўка

наракаў на Стахвапа, што гарэлку п'е, а мала грошы яму даець. Сам жа Саўка, аднак, прадаваў лішкі з гаспадаркі. Скупіўся на ўсім. Соль была дарага, дык бараноў, калі хто рэзаў, падвешвалі пад страху не салёмшы. А ў іх завадзіліся чэрві. Чарвей выберуць, мяса абмыюць, вараць. Так і ў Задумавых было, калі жылі ўкучы. Бывала, Саўка шкадуе мукі, калі Раман ці Лявон сцены ў хаце газетамі аблепліваюць,— шкадуе мукі на падклейку. І елі дрэнна, сала шкадавалі на затаўку, селядцоў не куплялі. Саўка складаў грошы. Ганна расказвала, што раз паехаў Стахван па талаку ў Немярэчу, вазіць хату некаму, а Саўка ў Целяпенічы паехаў, ячмень прадаваць. І калі насыпа́ў ячмень, дастаў з ячменю і забыўся грошы, што хаваў там, укруціўшы ў ашмётачку ад дзіцячае сарочкі. Ганна ў клець пайшла і знайшла іх, і бязмен тут быў, зважыла — тры хунты і ўсё па 20 капеек, чысценькія. Цэлы дзень яна думала, сказаць Стахвану ці не. І не сказала. Другім разам пайшла ў старую хату награбаць «сваячку» свінням. Выкаціўся вузёл паперак, грошы. Ганна дальш іх пасунула, і не ўзяла, і нікому не сказала. Саўка хаваўся з грашмі і ад жонкі Алёны. Ён пазычаў яе радні, а радня не аддавала. Дык перастаў даваць і пачаў хавацца.

Вясною зямлю падзялілі, напалам, па $1^1/_2$ надзелы. Мяжу разагналі, размераўшы вяроўкамі. Хата старая Стахвану і яму затое чуланчык пад павеццю. А Саўцы — клець. (І хату і клець Стахван потым адкупіў у Саўкі.) Саўцы — конь, а Стахвану — кабыла. А вараны жарабок — Палуце (на Тараса). Кароў папалам, і Палуце карову. І свіней так — Саўцы больш на Палуціну долю. Хлеб рассы́палі, сала разважылі... Пад яр гаралі асобна, а засявалі разам. А што засталося пасля засеву — рассы́палі. Хлеба булку разрэзалі... І Саўка забыўся свой краец на куце, дні тры краец ляжаў. Палута плакала, што дзеляцца. Хацела, каб ёй з Тарасам далі надзел і паставілі хату. Калі ж яе не паслухалі, трэба было выбіраць ёй, к каму пайсці. Пайшла к Саўцы. Сама захацела: што ў Саўкі сына няма, дык, можа, Тараса прыме. Падзяліўшыся, Саўчыны жылі ў аднэй хаце, а Стахванавы ў другой. Ганна хлеб ім мясіла, калі Дарка з маткаю сварыліся... Саўка хацеў двор дальш адпіхнуць і шулы сабе ставіў. Стахван ураднiку (Людагоўскаму) заявіў. Ураднік не дазволіў, што двор з дваром будзе блізка. Тады Саўка збудаваўся на ніжнім гародзе, пры сянніцы.

У калядны мясаед, блізка пад масленку, было Адарчына вяселле. Узяў Саўка прымаком Вавілу Вусатага з Сачылава. Яна хацела за Юрку Скнарыцу, што пісарам у горадзе. І той, што стражнікам быў, а потым у Горках фурманам стаў, таксама ёй падабаўся. Ён курыць яе наўчыў. Перад запоінамі наказвалі Юрцы ў горад: ці будзе браць? Як не, дык тады ўжо за Вавілу. Яны білі Адарку, каб Вавілу прыняць. Вавіла быў рыжы, вусаты, вусы навіслыя, бровы калматыя. З-пад броў — добрыя шэрыя вочы, крыху наіўна-хітраватыя, а больш — нясмелыя. Быў на японскай вайне. Куляю валенкі прабілі яму, але не ранілі. Малітву ад калюжанскае пані меў. Стараўся гаварыць далікатненька: папенька, дзядзенька. Адарку — «Адашанькай» называў. Вяселле было нецікавае. Адарка ўпілася. Вянок скаціўся... Ірвала яе. Тры дні ў Сачылаве жылі. Адарка і абраз свой туды вазіла. Думалі ў свет, у Омск ехаць, дзе ён раней у чыгуначных майстэрнях служыў. Але не паехалі. Жылі так сабе. Бывала пачнуць жартаваць і паб'юцца. Раз паехалі ў горад. Вавіла, Адарка, Тарас... Юрка там, пісар, падвярнуўся. Выпілі піва. Вавіла кінуў іх у горадзе і адзін прыехаў удвору, на сваёй сівой кабыле. А яны, Адарка з Тарасам, пяшком у Калюжнае. Церах, ведаючы, што дабра ў дварэ не будзе, запрог каня і прывёз іх скрозь ноч, Адарку і Тараса. А ранекька паехаў назад. А Алёне адразу праўды не сказалі, а сказалі, што вырвалася кабыла, дык яны засталіся. Алёна ўсё дзівіцца: «Дык як ета яна вырвалася? А чаму ж ён, дагнаўшы кабылу, не падаждаў іх?»

Таго ж году, вясною ці ўлетку, прыязджаў у госці ў Камароўку Хвядос Рагавы з маткаю. Яго звольнілі ў Курску з пасады, затое што быў каморнік, а ішоў супроць хутароў (як сацыял-дэмакрат). Ён не тужыў. Раз'еўся: тоўсты, твар круглы, гладкі. Відаць, не адмаўляў сабе ў ядзе.

Пасля таго паехаў ён у Сібір. Жыў у Хабараўску, у Благавешчанску, перабраўся на Сахалін і там і пагінуў (1928).

Гэтага ж году ўвосень Раман Задума прызыў перайшоў. І таму што Лявону не было яшчэ 18-ці год, Рамана пакінулі ў запасе. Толькі на месяц хадзіў ён на ўчэнне ў горад.

## 1911

Зараз пасля каляд (1910—1911) жаніўся Раман Задума на Гашцы Лесніковай з Палянкі.

Раз вазіў ён каваля ў Палянку і заехаў к Курыле Лесніку, там і спазнаўся з яго дачкою Гашкаю. Кахаўся з год ці болей. Хадзіў туды часта. Абрыдла яго бацьком, што так сохне за дзеўкаю, і пастанавілі жаніць. Ганна баялася, каб не акалечылі яго там хлопцы. Увосень на прызыве быў.— «Паглядзім, к каму перш з прызыву пойдзе»... А ён міма двара ды ў Палянку. Прыйшоў удвору і начаваў у садзе пад акном: стукаў-стукаў, не дастукаўся.— «Ну, жаніць трэба». Казалі людзі: яны бедныя, матка гарэлку п'ець, Гашка нічога рабіць не ўмее.

Ходзіць Раман, павесіўшы галаву. Ганна пацяшае: «І ўсе п'юць гарэлку, і радня ў іх добрая, і працаваць Гашка наўчыцца, яшчэ ж яна маладзенькая» (ёй 18 гадоў было). Павесялеў Раман. У салдаты не ўзялі. У каляды засватаўся.

Курыла Ляснік быў бедзен. Стахван узяў у яго вексаль на 200 рублёў і даў яму гэтыя грошы на талерку, на пасаг дачцэ. Лявон вазіў іх у сватаву хату і клаў на талерку. Вяселле справілі зараз пасля хрышчэння, каб Лявон да ад'езду ў школу на вяселлі пабыў. Ён жа быў і паджапішнікам. А Рыгор Мікіцёнак, суседзе добры, прычапіўся да Лявона ў сватавай ужо хаце з гарэлкаю і ўпаіў яго. У царкве стаяў Лявон белы-белы, нехта за яго і вакол століка за жаніхом пахадзіў, вянец над жаніховаю галавою трымаючы, а Лявон ля сценкі прыхінуўся. Вянчалі з панікадзілам. За вянец поп узяў 25 рублёў. Пасварыліся троху з папом,— а не ўступіў. Было многа гасцей. З Белага Боку цётка Ганніна Наталля з Агеем сваім былі і сыны іх з жонкамі. Лявон ездзіў запрашаць, ды паехаў у сваёй вучнёўскай шынельцы, перазяб дужа, адно што — кабыла бегла дужа шыбка. На вяселлі баба Наталля прысела на лаву к Лявону, жартуе: «Ну, пакажы ты мне, каторая ж тут твая скача?» Ён паказаў. А яна: «Ну й выбраў жа ты... курносая дужа!» На масленку ён не прыязджаў.

На вялікадне прыйшоў... Хата не падмецена. Гашка — марудная... Пакуль да парогу дойдзе, пакуль за венікам сагнецца. Ці такую нявестку трэба было б матцы яго — думаў. Так мы разважаем, а што самі возьмем — не ведаем.

У Паўлюка Ваяводы радзілася дачка Алеся. Волька Паўлюкова паехала к дзядзьку Івану Фамічу ў горад. Думалі: у горадзе пажыве, разаўецца, а што будзе жыць у іх, дык дзядзіне ў рабоце пасобіць, дзяцей паняньчыць. А яны яе там за прыслугу мелі. На дзядзьку не крыўдзілася, а на дзядзіну. Прыехаўшы ад іх, казала, што пакуль яшчэ дзядзіна спіць, як паня, дзядзька раненька ўстане, сам самавар наставіць, сам і пакоі падмяце. Вольку не садзілі з сабою за стол разам, а давалі есці на кухні, хоць і родная пляменніца. Большыя дзеці Івана Фаміча вучыліся ўжо ў гімназіі. У жонкі Івана Фаміча радня была «благародная», а ў яго — «мужыцкая». З усяе яго радні яны, можа, толькі б з Кузьмою Ганніным маглі б роўнымі быць, што ён вучыцца. Так гэта Волька ўсё, здаецца, казала, ці праўда яно, ці не... Тамаш Ваявода захацеў свайго большага сына ад мачыхі, Васіля, у горадзе вучыць, у гарадскім вучылішчы.

## 1912

Улетку дужа доўга ў Горках у Лявона практыка была. Хацелася яму скарэй ужо ўдвору.

7 ліпня пісалі яму з Камароўкі ліст. Пыталіся, як ім ставіць новую хату. Ганна хацела так, як спрадвеку было, а Раман хацеў так, як у людзей бачыў. Збудаваліся — Лявона ў двары не было.

У канцы лета Лявон, здаецца, пабыў троху ў дварэ.

Увосень радзілася ў Рамана і Гашкі дачка Аксанка (Клаўдзя).

5 снежня пісалі яму з двара. Пыталіся, калі па яго прыехаць. Паведамлялі, што Лаўрык на гэтым тыдні троху прахварэў. Марцін (ён жа Пракоп.— *Рэд.*) пайшоў шыць, прабыў ужо тыдні два і не прыйшоў яшчэ. Лаўрык з Марынкаю вучыліся. Лаўрык з Ігнатам Сілунком і Міхалкам Скнарым хадзілі ў школу ў Раздзел. Хадзілі туды і назад кожны дзень. Пісалі, што лён прадалі. Было $7^1/_2$ пудоў. Пабралі па 4 р. 35 к. за пуд.

Курылу Смакуна пагналі ў салдаты ў Сібір, у Іркуцк.

8 снежня Лявон бачыў, як па Аршанскай вуліцы вялі гандляры іхнага бычка. Гэтыя дні часта снілася яму Камароўка, двор. Снілася яму, што ён у дварэ.

19 снежня, у сераду, быў у іх водпуск. Прыязджаў па Лявона Марцін. Прыехаў ён 18-га ўвечары. Начаваў на Зарэччы. А 19-га паехалі.

## 1913

Каляды 1912—13 прайшлі ціха і спакойна. Прыехаўшы з Горак, Лявон кніжкі чытаў, пісаў. Лявон прыедзе з Горак — чакае, калі Лаўрык і Марынка са школы прыйдуць. Рад ім. З імі яму весялей. І яны яму дужа рады. Як цямнее, ідуць са школы, бягуць хутчэй у хату, Лявона ўбачыць. Гавораць, пытаюцца, апавядаюць,— рады, шчабечуць. Лаўрык у Забор'і (Раздзеле) вучыўся, а Марынка яшчэ ў Палянцы. Лаўрыку было гадоў каля 13-ці, Марынцы 11-ты год ішоў. Марціну было ўжо каля 17 гадоў. Ён з Тарасам Палуціным шыць хадзіў, падмайсцёркам у яго быў; каляды ў двары быў, бо не шыюць у каляды. Раман за гаспадаркаю глядзеў. Дашка з маленькаю Аксанкаю на ўлонні сядзела. Толькі бацькі, Стахвана, у двары не было. У Князеўшчыне ў пані служыў, грошы зарабляў. Калядамі, вечарамі, гуляць хадзілі. Святамі ў царкву, у Харошае ездзілі. А Лявон не едзе, не хоча... Антырэлігійны настрой у яго быў, і харошаўскую радню сваю не любіў. А прычын гэтых нікому не казаў. І дзівіліся, чаму ён усё ў хаце сядзіць. А можа, і другія прычыны былі, што і сам іх не разумеў. І хацелася яму быць тут з імі, з усімі, як і раней, даўно. І ўжо не было таго. У далёкі бок адыходзіла яго дарога. Сумна было яму. А Лаўрык тады яшчэ зусім камаровец быў і суму таго яшчэ не ведаў (ці ведаў яшчэ зусім мала, толькі пачаткі). К Саўчыным Лявон хадзіў, к дзядзьку свайму. Частавалі там яго. А цётка яго Палута тулялася ля печы, ля парогу, як і ўсё сваё жыццё. Тукалі на яе... Толькі пры Лявону не тукалі. Хворая яна была. Тарас шыў, грошы зарабляў.

Вялікдзень... Прыйшоў Лявон дамоў. Саўка з другога боку вуліцы жыў. Лявон да Саўчыных пасядзець хадзіў, але рэдка, і яны крыўдзіліся. А ён жалеў і любіў старых — дзядзьку, і дзядзіну, і цётку. І Тарасу-сіраце спачуваў. У Адаркі маленькія дзеці ўміралі, і ўсё ля полу люлька вісела з хворым дзіцянём. Адарка кашляла і курыла. Міхалка (Вавіла, Рыгор), рыжавусы мужык яе, на лаве сядзеў, курыў. Ласкавым словам і поглядам Лявону дагаджаў. І сябе гэтым паказаць хацеў: і ў свеце быў, і далікатнасць разумее. А што ён думаў? Ці задаволены жыццём сваім быў? Погляд у яго, мусіць, спадчыны: такі ж погляд, з шэра-блакітнымі, добра-наіўнымі і троху нясмела-хітрымі вачыма і ў Якава Хведасенкі палянкаўскага быў. Яны ж радня. Вавілаў бацька з Палянкі ў Сачылава пераехаў.

У панядзелак пасля Іллі памёр Тамаш Ваявода. У нядзелю ездзіў у Целяпенічы па доктара, сын Васіль (Іван) быў хворы. Доктара прывёз, доктара частавалі, Тамаш выпіў з доктарам і павёз назад. І Ганна, дачка, там у бацькі была. Позна ад іх пайшла. І яшчэ казала мачысе, што нехай бы хто-небудзь другі доктара завёз, што бацьку, старому чалавеку, цяжка туды і назад. Пасля людзі казалі, што, завёзшы доктара ў Целяпенічы, Тамаш хадзіў там па мястэчку, бачылі яго там. Вавіла Вусаты з Камароўкі відзіў яго там. А ў панядзелак прыходзіць у Камароўку к Ганне Дадон Паўлюкоў (Паўлюк), прыходзіць па яе, кажа: «Дзед памірае. Конь у дарозе забіў. Ляжыць чуць жывы». Мусіць, ехаў назад выпіўшы, з доктарам выпілі, конь скінуў яго, у лесе каля Паддуб'я ці Свіной, каля дварэцкага поля, за паўвярсты ад хаты. Конь пайшоў к панскім коням, што начавалі тут. А ён ляжаў на зямлі. Мачыха ждала-ждала, пайшла шукаць. Знайшлі яго. Прывязлі чуць жывога. А Тамаш усё казаў, што яго нехта біў.— «Хто біў?» — «Білі ўдваіх. Адзін вышэйшы, другі ніжэйшы...» І казаў, што білі й білі ў шыю, а больш нідзе не білі. Цяпер нельга было яму павярнуць галавы. Нельга дакрануцца да патыліцы. Казаў: «Як косці пабіты й паламаты... Трашчыць усё». А рукі прасіў яму махаць, і не баялелі, калі яму махалі. Ганна яму махала, пры ім была. Памёр у той жа дзень, у панядзелак, пад вечар. Поп прыйшоў. Але ён раптам галаву закаціў — і ўсё... Калыхалі, бунтавалі, поп гукаў: «Фома! Фома!» Не адгукнуўся. Пахавалі, а потым адкапвалі. Доктар Фрумкін з гораду прыязджаў, агледзеў і сказаў, што ніякіх пабояў няма, толькі аслаблены ўнутранасці: селязёнка, сэрца. А мачыха ўсё казала, што яго нехта біў. На Паўлюка і сына яго Дадона намякала. І паны п'янаўскія яшчэ прывалаклі доктара, другога, яшчэ раз Тамаша адкапвалі. І зноў і гэты доктар сказаў тое самае, што і Фрумкін.

Іван Фаміч прыязджаў, каб часць сваю пасля смерці бацькі ўзяць. А Паўлюк не даваў яму. Страляцца хацелі. Іван Фаміч настойваў, каб і яму часць і Ганне часць. Прыязджаў нейкі Някрасаў, каб яму далі даверанасць дзяліць. Пчол падзялілі: Паўлюку 6, Івану Фамічу 6, Ганне 6, а мачысе з двумя сынамі 17 ці 18. Усяго было калод 35. Стахван купіў у Івана Фаміча яго пчол за 30 рублёў.

І пачалі спадкаберцы судзіцца, цягацца...

# V. (1914—1917).
# ЧАТЫРЫ ГАДЫ. ВАЙНА, ДА РЭВАЛЮЦЫІ

## 1914

Улетку 1913 г. Кузьма Батура (Лявон Задума.— *Рэд.)* скончыў школу і паехаў на каморніцкую службу ў Віленскую губерню, і дамоў са школы не заехаў. Дамоў прыехаў ён толькі ў каляды 1913—1914.

У Вільню (Воўчую Гару) са школы прыехаў ён 30/VII. Спярша ў чарцёжнай троху працаваў, а тады паслалі яго на вёску, зямлю мераць. 17/VIII, у суботу, прыехаў ён у вёску Гасперанцы Маляціцкай воласці, Віленскага павету (вёрст 60 ад Вільні), да каморніка Міхайлава, што там ужо працаваў. Там горы, азёры, камяністае поле, народ бедны, ціхі. Жывуць ліцвіны, палякі, стараверы. У полі жнеі песні пялі, дык мелодыі мазурскія, ці якія. Тут Міхайлаў якраз скончыў работу, і 18/VIII пераехалі яны вёрст за 30, у в. Квакшы Мейшагольскай воласці. Ад пошты 15 вёрст, глухамань. У гэтай вёсцы жывуць ліцвіны і рускія стараверы. Пасля, скора, непраменны член папрасіў, каб Кузьму правялі да каморніка Зарубіна: той закапаўся з работаю. І Кузьма паехаў на Вільню, адтуль на Яшуны, а ад Яшун убок вёрст на 15, у шляхоцкія ваколіцы Мантвілаўшчызну і Сакалаўшчызну. Тут ужо і працаваў Кузьма да снегу. Жывуць тут беларусы-каталікі, але шляхта прызнаецца да палякаў, а сяляне не ведаюць, хто яны: «тутэйшыя», «польскай веры». Недалёка мястэчка Салечнікі. У полі — ялінкі, кусты яленцу, грунт пяшчысты. Жывуць людзі бедна, брудна. Многія, і старыя, і хлопцы, і дзяўчаты, дэкламуюць вершы Мацея Бурачка, а хто напісаў — не ведаюць. Газеты — каталіцкія, польскія, з Вільні.

23/XI прыехаў Кузьма ў Вільню.

І калі быў ён у двара, прыязджаў Іван Фаміч у Харошае і ў Камароўку заехаў. Раней Лявон ніколі гэтага дзядзькі свайго не бачыў. Іван Фаміч быў бландын, з белым тварам, рыжымі навіслымі вусамі, з высокім, пакатым назад ілбом. Валасы стрыг нізка. Вочы былі шэрыя, спакойныя, як бы добрыя (ці троху сумныя).

Ён ехаў у Целяпенічы ў воласць, даведкі нейкія ўзяць, угаварыў Лявона з ім паехаць. Дарогаю ўспамінаў, як вучыўся ён з сваім нябожчыкам братам Міхалкам у Целяпенічах, стаялі на кватэры ў целяпеніцкіх яўрэяў і самі сабе есці варылі. Казаў, што бацька іх, бывала, лішняе

капейкі ім не дасць. Але, успамінаючы, хваліў свайго бацьку: «Хоць і прыжымісты быў чалавек, але разумны мужык: умеў дабро нажываць». Пра сябе Іван Фаміч казаў, што, скончыўшы народнае вучылішча ў Целяпенічах, ён быў там жа ў воласці памочнікам пісара, потым перавялі яго на пісарскую пасаду, а цяпер ён служыў чыноўнікам у земскай управе. Мусіў здаваць экзамен на класны чын. Апавядаў пра гэты экзамен у стылю чэхаўскага апавядання на тую ж тэму. Аднак перачытаў ён усіх рускіх класікаў: Пушкіна, Лермантава, Гогаля і іншых. І з гутаркі з ім Лявон бачыў, што дзядзька яго сапраўды і чытаў, і шмат знае, і наогул даволі інтэлігентны чалавек. Кідалася толькі Лявону ў вочы, што дзядзька яго ганарыцца сабою, сваёю кар'ераю, трымаецца ў думках высока над сялянамі, з якіх сам выйшаў. Ужо нібы нічога не звязвала яго з сялянскаю масаю. І хоць пра палітыку яны нічога не гаварылі, але ўчуў Лявон, што і ў сваіх поглядах палітычнага парадку то даволі радыкальны (у адносінах да паноў), то занадта рэакцыйны (у адносінах да яўрэяў). Між іншым, спытаўся ён, нарэшце, у Лявона, чаму Лявон увесь час гаворыць па-беларуску.— «Ну, дома, у сваёй хаце, з сваімі, я яшчэ разумею,— казаў Іван Фаміч,— але ж ты вось і са мною... Няўжо і ўсюдых так?» Лявон не ведаў, ці чуў што дзядзька пра беларускую справу і пра тое, што і ён, Лявон, друкуецца ў «Нашай ніве». Відаць, дзядзька не ўсё яму адкрыта казаў, дык і ён, апрача таго, што сцясняўся як малады,— не дужа хацеў усё казаць дзядзьку, пра якога змалку прывык думаць не дужа прыхільна. Троху расказаў пра беларускую справу. Іван Фаміч запытаўся: «І якая табе карысць, што ты далучыўся да гэтае справы?» Ён быў супроць беларускае мовы, як і Хвядос Рагавы, толькі той злева, а гэты — справа. І Лявон, невядома нашто, зманіў, што правадыры беларускага руху — відныя людзі і багатыя, дык вось з імі і карысна мець справу.— «Ага, ну, то гэта іншая рэч»,— згадзіўся Іван Фаміч. Але што ён сапраўды думаў, засталося Лявону невядома. У воласці трымаўся Іван Фаміч упэўнена, бадзёра, усё ведаючы, усё разумеючы і чуючы сваю сілу. І старшыня і пісар былі з ім вельмі ветлівы, дагодлівы, засадзілі яго з Лявонам у асобны пакойчык, што за канцылярыяй, прывалаклі яму туды на стол усе патрэбныя кнігі. А ў той жа час сяляне, як бачыў Лявон, нясмела паказваліся, спярша галавою, у дзверы канцылярыі, баючыся што-небудзь спытацца. І Лявону зрабі-

лася сорамна і за сваё гарадское пальто з коцікавым каўпяром, і за сваю коцікавую шапку, і за тое, што ён паехаў і сядзіць тут з гэтым сваім дзядзькам, якога ж сяляне ведаюць і не любяць... «Вось ужо і я не з імі, а ў варожым для іх, панскім, стане»,— думаў Лявон свае думы і хацеў скарэй вырвацца адгэтуль. Дзядзьку ж яго, відаць, ні гэткія думкі, ні тое, што Лявон можа так думаць,— відаць, і ў голаў не прыходзіла. Ён шыбка лістаў кнігу, шукаючы патрэбнае, крытыкаваў работу тутэйшага пісара, крытыкаваў земскага Рындзіна і наогул п'янаўскіх паноў. Характар яго здаўся Лявону вясёлым і дабрадушным, але вось нейкая жыццёвая ўпартасць, закаранеласць і з ёю палітычная рэакцыйнасць ужо моцна заселі ў ім і рабілі яго чужым і варожым для Лявона. Дзеці яго вучыліся ў гімназіі. Жонка яго трымалася паняю,— усё гэта настрайвала Лявона супроць дзядзькі. І сумна было Лявону, што дзядзька ў яго не такі, якім мог бы быць...

## 1914

Кузьме (ён жа Лявон.— *Рэд.*) у гэтым годзе трэба было ісці на прызыў, бо адтэрмінаванні для каморнікаў скасавалі. Каб не трапіць на службу звычайным салдатам, на тры гады, Лявон мусіў падацца вольнапісаным. Для вольнапісаных прызыў быў не ўвосень, а ўлетку, служба пачыналася з 1-га ліпня.

Да гэтага часу Кузьма працаваў каморнікам. Як толькі снег растаяў, так і выехалі каморнікі з горада ў вёскі. Кузьму паслалі з памочнікам каморніка латышом Сілынем (але Сілынь пісаў сябе на рускі лад — Сіліным). Сілынь быў не такі добры, як Міхайлаў ці Зарубін. Ён крыўдзіўся, што задзельная плата ідзе Кузьме як каморніку, а яму — як памочніку каморніка. І калі не ўсе сяляне хутароў хацелі, дык Кузьма не налягаў, каб рабіць, хацеў ехаць далей, а Сілынь казаў: «Так мы нідзе за ўсё лета нічога не зробім». І муштраваў сялян усякім спосабам, каб прымусіць на хутары.

У канцы чэрвеня Лявон прыехаў дамоў, а з дому павёз яго Раман на агляд у Лепель. Дактароў было два: стары гарадскі доктар Турчыновіч і яшчэ нейкі малады. Прызывалася ўсяго два чалавекі: адзін лепельскі гімназіст і Лявон. Гімназіста выклікалі першага і аслабанілі па слаба-

сці здароўя. Ён сказаў Лявону, што прасіў загадзя доктара Турчыновіча, а Турчыновіч яго знаў, як і ўсіх гарадскіх гімназістаў. У Лявона з'явілася надзея, што і яго могуць аслабаніць. Аднак прасіць ужо было позна. Гімназіст сказаў яму таксама, што старшынёю камісіі — лепельскі павятовы прадвадзіцель дваранства Рындзін. Гэта быў п'янаўскі пан, брат таго Рындзіна, якога застраліў пан Віця Нерад. Бацька Стахванаў быў сведкам з боку Віці Нерада, і п'янаўскія паны не любілі яго бацьку. Лявон, разздзеўшыся зусім голы і ўвайшоўшы ў прыймовы пакой, убачыў за сталом, пасярод, рыжага Рындзіна з яго вільгельмаўскімі вусамі і яшчэ нейкіх членаў, а стары Турчыновіч і малады доктар зараз прыступіліся да Лявона з сваімі трубкамі. Малады доктар нешта запытаўся ў яго пра здароўе, і Лявон пачаў так адказваць, каб доктар зразумеў яго жаданне аслабаніцца. Доктар быў, мусіць, ліберал і спачуваў Лявону. Ён знайшоў у яго нешта ў лёгкіх і ў сэрцы. А Турчыновіч знаходзіў і не знаходзіў. Камісія пачала раіцца. Лявона паклікалі бліжэй к столу. Рындзін спытаўся ў яго нешта ці то пра бацьку, ці то пра яго самога,— відаць, ён дагэтуль і не ведаў, што такі Лявон ёсць на свеце. Гаварыў з Лявонам спакойна, даволі безуважна і нудна. Малады доктар не гаварыў проста, каб аслабаніць Лявона, але даваў зразумець, што такая яго думка. Турчыновіч, ці хто падаў думку паслаць Лявона на іспытанне ў Віцебск, у губернскую земскую бальніцу. Рындзін згодзіўся. І ў Лявона яшчэ не зусім згасла надзея на аслабаненне... Але толькі дарма звёў ён час і патраціўся на гэтую паездку. Пабыў ён там тры дні ў больніцы, і галоўны доктар, злы мужчына з нямецкім прозвішчам, прызнаў яго годным. Лявон ізноў паехаў у Лепель, да воінскага начальніка, і той накіраваў яго ў артылерыйскую брыгаду ў Вільню.

Якраз на Пятра-Паўла, 29-чэрвеня па стараму стылю, выязджаў Лявон у салдаты, а з ім ехаў Лаўрык у Горкі, рыхтавацца ў каморна-агранамічнае вучылішча, у падрыхтоўчы клас. Раман іх вазіў. Ехалі на пары, з прысцяжкаю. Паклалі Лаўрыкаў набіты сяннік, мяшок бульбы, паставілі скрыначкі — воз вялікі. Селі высока. Праваджаючы, усе плакалі. І Марынка смяялася спярша, а потым і яна заплакала. Волька Паўлюкова з Харошага прыхадзіла, і начавала ў іх, і яна дужа плакала па Лявону, яна дружыла з ім. Саўка на вуліцы ўжо пацалаваўся з Лявонам, сумны, маўклівы, як заўсёды, і даў пляменніку сярэбраны ру-

бель — блаславенства. Ганна-матка ішла аж да ваколіцы, бадрылася, праваджала. Бацькі, Стахвана, не было: быў у Князеўшчыне... Гэта быў сімвалічны і знамяніты выезд. Канец і пачатак... У Горках Лявон пабываў у сваіх былых настаўнікаў — Тушканцава (ён жа Бяссонаў.— *Рэд.*) і Кашыцкага,— прасіў за Лаўрыка. І ўвечары паехаў на Воршу з балаголамі. Раман паставіў Лаўрыка на кватэру на Азёрнай вуліцы, дзе і Лявон з Хвядосам Рагавым некалі жыў. Рэпетытарам хацеў наняць Крэера, але Крэер запрасіў 25 рублёў і наогул неахвотна браўся, што хлопчык з вясковай школы, а тэрмін кароткі. Раман тады звярнуўся да Лявонавага таварыша Мікалая Мокрага. Мокры ўзяўся быць апекуном Лаўрыкавым. Сам ён гэтым летам канчаў ужо і меўся скора выязджаць, дык дагаварыўся з добрым вучнем Лінкевічам, і той узяўся рыхтаваць Лаўрыка.

Гэты год наняўся леснікам у п'янаўскіх паноў Домка з Палянкі. Стаў ён леснікам, людзі кажуць: «Пойдзем у лес усёю дзярэўняю, не будзем уцякаць». На сёмуху пайшлі. Усе пабеглі, і ляснік пабег, а Ганна Стахваніха засталася. У дварэ спужаліся, што яе няма. А яна нарвала мех травы, маю наламала. Другі раз з Даркаю Саўкінаю бралі яны баравікі, дзядзіна і пляменніца. Раптам — акружны (Васіль Вол) і Домка, ды за імі. Яны спужаліся ды ўцякаць. Дарка бегла і крычала: «Ляснік! Ляснік!» Дагнала Ганну, дзядзіну сваю, ды кулаком ёй у спіну. Ад страху. І ладна мякнула. Тады ўцяклі. А яшчэ адным разам Домка адабраў у Ганны хвартук, перабіраны, белы з чырвоным, добры хвартук. І практыкант панскі Аўгінню Мікіціну ганяў. Практыкант — гэта што вучыўся дзе-небудзь у школе на агранома ці ляснічага, а потым прыязджаў у панскі двор практыкавацца. Аўгіння ў балота вялікае ўлезла і стаіць. А ён кругом ездзіць. І конь у балота не ідзець, і сам ён не ідзець. Ездзіў-ездзіў і паехаў. Уцякалі ад леснікоў на поле, ды на станавішча, дзе скот стаіць. І там з мяхамі лягуць.

А потым скора і неспадзявана пачалася вайна... На Іллю камароўцы ехалі ў Сцюдзянец богу маліцца. І ў дарозе, у Целяпенічах, прачыталі абвестку аб мабілізацыі. Так і звялі ўсе... Так ужо і ехалі і не ехалі. Вавіла Вусаты сядзе-сядзе на воз, ізноў бяжыць к Раману, к калёсам, і

другія мужчыны пазлязаюць, ідуць, гамоняць, охаюць, уздыхаюць, думаюць, што яно, як яно цяпер, адкуль ні з тога ні з сёга такое вялікае ліха навалілася... А самая работа, жаць пачалі... Аха-ха! І Раману як апалчэнцу 1-га разраду ісці. Павесіў ён галаву, затужыў, толькі бадрыўся. І Лявона нядаўна правадзілі. Ганна ехала ў Сцюдзянец, яшчэ ўсяе бяды не ўяўляла, і ў трывозе той яшчэ заўважыла, як ехалі міма Пнеўшчыны і хаўтуры бачылі, што людзі тыя прыняслі на кладзішча гаршчок гарачага вугалля. І з тым чалавекам, што хавалі, тое вугалле ў магіле закапалі. У Камароўцы гэтага звычаю не было. Можа, і быў калі, а цяпер ужо не было.

У час мабілізацыі Стахван прыязджаў з Князеўшчыны на два дні дамоў. Рамана праваджалі. Гарэлкі не было. Стахван паслаў Лявону тэлеграму ў батарэю. Паведамляў, што Рамана ўзялі, і прасіў паведаміць, як яго, Лявонава, здароўе. Адказу ніякага не атрымалі. Дужа клапацілі пра Лявона. Думалі — забіт.

Рамана забралі як апалчэнца 1-га разраду. Спачатку ён у сваім жа павятовым горадзе Леплі (Ціхаслаўлі) стаяў, у дружыне. Там і дзядзька яго па жонцы, Кузьма з Сохана, узводным быў. Раман быў у яго ўзводзе. Потым выбралі Рамана арцельшчыкам (на 228 чалавек). У Леплі ў дружыне сабраўся ўвесь павет: тры гады звычайнае службы і чатыры гады апалчэнцаў, усяго каля тысячы чалавек. Калі выдавалі абмундзіраванне, дык таму, у каго заставалася сваё плацце і свае боты, плацілі грашмі. Да 10 жніўня пастаялі ў Леплі, а тады пагналі каго куды. Рамана пагналі ў Віцебск. У Віцебску ён к дзядзьку, Івану Фамічу, захадзіў. І там у іх дзве начы начаваў. Дзядзька казаў яму, што суд зацвердзіў мачысе 1/4, Ганне 1/7, а капітал пароўну (потым гэта перарабілася). 17 жніўня выехаў Раман з Віцебска на Воршу. Дзядзькавы яго праваджалі і блаславілі, і дужа плакалі. Наогул Раман быў байчэйшы за Лявона і за іншых сваіх братоў. З Воршы паехалі яны на Менск. Там, у Менску, зайшоў ён у рэдакцыю «Сахі» і купіў адзін нумарок. Можа, думаў, што, ходзячы так, дзе-небудзь і ў тылу на даўжэйшы час зачэпіцца праз знаёмства. А можа, пацягнула яго ў беларускую рэдакцыю, што па Лявону дужа тужыў. Нумарок гэты вольным часам прачытаў, спадабалася яму. Але з Менску мусіў ехаць далей, на Нова-Вілейск і Вільню. Каля віленскага тунелю зрабілі яны і ўмацавалі пазіцыю: зрабілі агароджу з елак і сосен, і пастаўлена было

дзве гарматы збіваць нямецкія аэрапланы. У Вільні ізноў усё думаў Раман пра Лявона. Хадзіў па гораду і ў беларускую кнігарню. І вялікая трывога пала яму там на сэрца пра Лявона. Напісаў ліст у Лявонаву батарэю, пытаўся ў таварышоў Лявонавых, ці жыў Лявон, ці забіты. Прасіў, каб паведамілі. Пісаў і плакаў. Бо ад Лявона з самага пачатку вайны не было ні слуху ні духу... З Вільні паехалі на Еўе, потым у Граева. 26—27 жніўня галадаваў. Наша армія адступала. Раман бачыў злавесны дым пажараў, як гарэлі вёскі, слухаў жудасны гуд стрэлаў з цяжкіх гармат, што аж маць-зямля гудзела, бачыў страляніну па аэрапланах з кулямётаў і вінтовак і сам страляў,— і тут пазнаў вайну і пракляў яе. Немцы забралі Граева. Раман з сваёю дружынаю выехаў...

16 жніўня пачаліся ў Горках прыймовыя іспыты. Лаўрык вытрымаў вельмі добра і быў прыняты. Як ён быў шчаслівы! Ды каб не вайна... У верасні разнесліся чуткі ў школе, што Лявон Задума забіт на вайне. Лаўрык перажыў жудасныя хвіліны... Горка-горка аплакаў ён свайго любага брата.

У верасні прыйшоў ліст у Камароўку, што Ляксея Скнарага (Піліпенка) забілі пад панскім дваром Кончава ў Люблінскай губерні. Гэта была першая ахвяра вайны з Камароўкі. Плакала яго матка Піліпіха, плакалі з ёю ўсе маткі. Потым дайшлі чуткі, што забілі Міколу Сілунка (Паўлючонка) з Камароўкі і Архіпа Хведасенку з Палянкі. Яны абодва былі звычайнае службы, 102 Вяцкага палка. За гэты час забралі з Камароўкі Івана Мікіцёнка, Міхалку Піліпенка і Сцяпана Аўдакіменка (ён жа Астап.— *Рэд.*). Якаў Раманёнак таксама з імі прызываўся, але застаўся па першай ільгоце. Казалі, што ў Дальнім злавілі восем нямецкіх шпіёнаў: два ўцяклі. У П'янаве былі ўжо палонныя аўстрыякі, работалі ў паноў.

14 верасня к мачысе ў Харошым уварвалася два разбойнікі ў масках, з нажамі і рэвальверамі. І два разы стралялі, вымагалі грошы. Яна аддала 24 рублі, пяць хунтаў воску і копію суда. І адзін няўмысля парэзаў сабе руку. Іх шукалі.

Ад Рамана Задумы прыходзілі лісты акуратна, ад Лявона не было лістоў. Стахван паслаў камандзіру батарэі (называючы яго ў лісце ротным) запытанне пра Лявона.

Лаўрыку паслалі 15 рублёў грошы. Марцін ездзіў па бацьку ў Князеўшчыну, але Стахван не мог паехаць, бо не было пані. Потым ён паехаў у Маскву даглядаць раненага мужа пані, ротмістра Багдановіча. Дома працаваў Марцін. З работаю патроху ўпраўляліся. Бульбу пакапалі, канаплі пабралі. Пяньку намачылі. За работаю барзджэй праходзіў невясёлы, трывожны час. Ганна была дужа невясёлая, і плакала, і малілася богу. А з ёю і Алёна, любячы і жалеючы пляменнікаў. Лявону паслалі пасылку, але не ведалі, ці атрымаў ён. Марына хадзіла вучыцца ў Забор'е.

Раманавай сям'і давалі дапамогу: жонцы 3 р., Аксанцы 2 р. і Антанінцы 1 р. 27 кап. у месяц. Пісаў Раман дамоў, каб Гашка слухала Ганну, і каб не было нічога нядобрага, і каб не сцяснялі дзяцей.— «А мама каб не крыўдзіла Гашку і каб настаўляла на ўсё добрае»,— пісаў ён, як быццам Ганна магла каго-небудзь пакрыўдзіць, а злашча Гашку...

Раман быў ужо ў крэпасці Асавец. Ён прыслаў жонцы 45 рублёў. 24 верасня дружыну іх прыгналі ў Беласток. У іх былі старыя бярданкі, адным патронам зараджаць. 29 верасня Раман выехаў з Беластоку. Усяго іх ехала з дружыны 50 чалавек, у Сібір, па навабранцаў. Выязджаючы, атрымаў ён ад Лявона два лісты, першыя ад яго з пачатку вайны: адзін ад 8 верасня, а другі ад 15 верасня. І быў ён бясконцу рад-рад, што Лявон жыў і здароў. Бо і з двара яму пісалі, што ад Лявона няма адказу ні на тэлеграму, ні на лісты, ні на той ліст, што бацька пасылаў камандзіру. І Раман думаў, што Лявон забіт ці ў пляну. Пісаў Раман, што камандзір іх — успыльчывы і гарачы чалавек, кожны месяц мяняў арцельшчыкаў, кашавараў. І Раман з арцельшчыкаў трапіў у веставыя, а цяпер нашылі яму яфрэйтара і зрабілі інструктарам [1].

На змітраўку, дні чэраз тры пасля пакрава, ездзілі ў Целяпенічы варажыць Ганна з Гашкаю. Доўга лістоў не было. Варажылі ў кучаравае яўрэйкі. Яна сказала: «Адзін во-во каля смерці. Але гэты яго ўратуе. А другі ваш убачыць яго неспадзявана». У Целяпенічах і ліст атрымалі,— павесялелі.

---

[1] Лявон (гл. «На імп. вайне», с.). (Зноска аўтара.— *Рэд.*).

## З Лявонавага дзённіка

*7/VIII.* Нашы страты: 1 забіт пры аруддзі парахавым газам (Грэцкі), 3 памёрла ад ран (Грэцкі і яшчэ два), 25 ранена (фельдфебель, Дурач і інш.).

*17/VIII.* Атрымаў адкрытку ад таты. Не пішуць, узялі Рамана ці не,— не ведаю.

*7/IX.* Лаўрык паступіў! З нецярплівасцю чакаў ад яго лістоў — і атрымаў толькі сяння.

*8/IX.* Свята... Кропіць невялічкі дожджык, з лісця сыплецца ён на палатку, у якой я ляжу — каля вялікага казённага лесу. У лесе салдаты кладуць цяпло, вараць бульбу, падсмажываюць кавалачкі сала,— дзесьці вось раздабылі-ткі. Гамоняць пра мір,— калі ён будзе? Трэба было б мне змяніць плацце, але як вымыць? Учора тэлефаністы купілі ў лесніка мёду і малака. Я добра пад'еў, а аддаў усяго 25 к. Мы недалёчка ад Нёмну, у Віленшчыне. Адпачываем... Стаю каля раскладзенага агня і чую, у палатцы салдат па маліцвеніку: «Беззакония моя выну...»

*9/IX.* Наша батарэя на ахране — і такім чынам як бы на адпачынку. Ці пойдзем яшчэ ў бой і калі,— невядома. Аўстрыя разбіта, і можна чакаць міру ў недалёкай будучыні, калі толькі Нямеччына не перашкодзіць гэтаму.

*18/IX.* Толькі сяння атрымаў ад Рамана першы ліст. Піша: «І пытаюся ў цябе, калі жыў, і ў тваіх таварышаў... Пажаласта, не пріміце за труд даць мне ответ, когда он убіт, і прі каком сраженіі, которого чысла, пожалуйста, дайте ответ, буду благодарен. А калі жыў, то ня прымі ў гнеў і дай атвет...»

*27/IX.* Атрымаў тэлеграму: «Романа взяли. Сообщи состояние здоровья». Дужа спужаўся, калі прыняслі тэлеграму. Прачытаў — не разумею. Гляджу: тэлеграма ішла больш 2 месяцаў.

*25/X, субота,* позні вечар, ноч. Ляжу ранены ў нямецкім доміку, куды завязлі мяне казакі. Зайшоў пісар з упраўлення дывізіёну — Русанёнак з Хацян. Я напісаў ліст дамоў і аддаў яму, на ўсякі выпадак, паведамляючы, што ранены і што ў палон, пэўна, не пападу. Пасылку не атрымаў. Пісаў а 9-й гадзіне ўвечары.

*30/X.* Вільня, шпіталь яўрэйскае абшчыны «Мішмэрэс хойлем», на Кіеўскай вуліцы.

*29/XI.* Пахмурна, снегу няма.

Пасылку маю з пазіцыі даставілі (падпрапаршчык Смірноў). Пернікі раздавіліся ў дарозе.

Сяння я сніў, што еду з мамаю некуды, а ўсё ў нас нейкія перапынкі і перапынкі. А твар у мамы такі стары, невясёлы.

Прачнуўся — прыходзіць нейкі высокі незнаёмы чалавек. Называе сябе — Костусь Дзянісенка з Белага Моху, мамін дваюрадны брат. Ездзіў к брату ў Менск, брата не знайшоў, гасцяваў у нашага Рамана. Раман папрасіў яго, каб заехаў ён да мяне. Ён фельчарам у коннай батарэі.

*30/XI.* Піша Марынка: «Кланяюцца ні-ні-ні-зі-ні-нічка. Красненькі паклончык».

*5/XII.* На кавялах праходжваюся па ўсім шпіталю. Шпіталь на 48 чалавек. Я ў 9 палаце.

*6/XII.* Рана мая не сяння-заўтра зусім закрыецца. Хаджу на кавялах. Хутка адправяць у Пецярбург ці ў Маскву. Мама хворая, мусіць, прастудзілася (паведамляе тата).

*10/XII.* Ён ляжыць на мяккай, чыстай пасцелі; мяняе бялізну чэраз дзень-два; есць па-панску: булачкі, масла, яечкі, катлеткі; п'е па-панску: малачко, каву, гарбату з канфітурамі і рознымі салодкімі сухарыкамі; «ухаживают» за ім і ўдзень і ўночы паслужлівыя «міласэрныя сястрыцы» і лазарэтныя служкі і ходзяць за ім, як за малым дзіцяткам; дактары лечаць яго, як пана, аглядаюць, перавязваюць штодня; і ўсяго тут яму досыць, чаго хочаш: газеты, кніжкі і ўсякія гасцінцы; так вось яму...

А маці яго ў той жа час ляжыць на брудным сянніку, пад грубаю дзяругаю і ў непадмеценай, непрыбранай хаце; гарыць у гарачцы, шэпча перасохлымі, засмяглымі вуснамі нешта пра сваіх дзяцей; мучаецца ад фізічнага і душэўнага болю, а доктара няма: па яго толькі яшчэ «збіраюцца» з'ездзіць; есць... адламлівае кавалачак рэдкага ў сваім жыцці «пірага», купленага на мінулым тыдні за 5 капеек у Мэндаля ў Целяпенічах; п'е... Але досыць, досыць!

*20/XII.* Хаджу без кавёл, але сабаку не даганю.

Лявон ляжаў у шпіталі да пачатку новага году (два месяцы з днямі). Яму далі потым водпуск на паўгода для папраўкі здароўя. У шпіталь к яму ездзіў бацька і заязджаў Раман. Потым бацька быў у двары; у лісце ад 28/XII (пісаў Лаўрык) віталі Кузьму з Новым годам.

Праз дзён сем пасля Новага году прыехаў удвору Лявон. Ездзіў па яго на станцыю Вясёлае Марцін. Спыняўся Марцін не на станцыі, а ў Аблонні, у панскага кучара Восіпа. І калі сустрэў ён Лявона і прывёз са станцыі ў Аблонне к Восіпу, і сядзелі яны там, гамапілі, гарбату пілі,— запрэжаны конь уцёк ад ганак. Марцін загаманіўся з дзяўчынаю, выйшлі: няма каня. Кінуўся Марцін даганяць, бег-бег, кінуў на дарозе ліхтар, кажух, бег наперарэз, па полю, к Дзвіне і дагнаў толькі на Дзвіне. Калі паехалі, Марцін так змарыўся, што зараз задрамаў і чуць неываліўся з саней.

Калі прыехаў Кузьма (ён жа Лявон.— *Рэд.*), сышліся людзі паглядзець на яго, распытацца пра вайну. Ён жа быў першы, што з вайны дамоў трапіў. Стахван Валянцёнак прыйшоў, і Саўка, дзядзька Кузьмоў, і другія, Вавіла Вусаты. Але Кузьма быў маўклівы, мала гаварыў. Пасядзелі яны троху і пайшлі, каб даць яму адпачыць. Перад тым забралі Івана Мікіцёнка, Міхалку Піліпёнка і Сцяпана Аўдакімёнка. Калі Кузьма прыехаў, іх ужо не было.

Калі Лявон прыехаў, Лаўрыка ўжо не было ў двару, паехаў у Горкі ўчыцца, і Лявон гневаўся, што ён не пачакаў яго прыезду. Быў Лявон невясёлы, ездзіў на перавязкі ў Целяпенічы, рана яго яшчэ гнаілася. Бацька быў тады ў двару.

Марынка хадзіла вучыцца ў Забор'е. Яна рада была, што Кузьма ў двару, і гарнулася да яго, гутарку з ім пачынала. А ён не дужа быў з ёю ні ласкавы, ні ўважлівы, хоць і любіў яе. Больш чакаў Лаўрыка з Нізінак.

Бацька паехаў раней, а чэраз тыдзень пасля яго паехаў і Лявон.

І так ішлі дні. У Курылы Скнарага здохла карова, а ў Мікіты Смакуна — цёлка. Дні тры цягалі сабакі здыхляціну па гародах, гаркаталі кожную ноч на вуліцы і па загуменню. А потым яшчэ спраўлялі вяселле з Карпінаю сучкаю. Ніякай вайны ім не было, і не ведалі. Толькі радаваліся, што каровы здыхаюць, ім — каб і часцей здыхалі, на іх шчасце...

Панассе ў гэтым годзе было ў нядзелю (18 студзеня). Першы дзень ездзілі Стахван, Ганна, Гашка з сваім бацькам і харошаўская мачыха. На другі дзень ездзіў Пракоп (ён жа Марцін.— *Рэд.*). Меўся паехаць з ім і Кузьма,

ды так і не сабраўся: сядзеў усё ў хаце ды капаўся з сваімі кніжкамі ды паперамі. Нават ліст Лаўрыку ў Нізінкі загадзя не напісаў. А як Пракопу ехаць, тады сеў пісаць.

Раман быў у Бабруйску. Баяўся, што пагоняць скора на пазіцыю. Гашка збіралася ехаць да яго ў госці. Стахван збіраўся ехаць у Князеўшчыну. Масленка ў гэтым годзе была ранняя (25 студня — 1 лютага стар[ога] ст[ылю]). 1 лютага былі загавіны.

На масленку прыязджаў з Горак Лаўрык, пабачыліся з Лявонам, пагаманілі. Запрашаў ён Лявона з'ездзіць у Горкі, але Лявон не паехаў. На другі дзень завёз Пракоп Лаўрыка ў Нізінкі. Потым паехаў Стахван у Князеўшчыну. І Кузьма не захацеў быць у двapэ, і скора за бацькам, 9 лютага, у панядзелак на другім тыдні вялікага посту, выехаў. Пабыў у двapэ ўсяго з месяц. Падвазілі яго да Гораду людзі, што ехалі туды на кірмаш, на зборніцу. А там да станцыі паехаў у балагольскай будзе. Бацька не раіў яму нікуды ехаць, і матка ўмаўляла, каб пабыў з імі ў двapэ.

Лаўрык жыў у Горках на Азёрнай вуліцы ў Кідалінскіх, дзе некалі жыў і Кузьма (Лявон). Першы тыдзень, як прыехаў ён з двара пасля масленкі, было яму ў Горках сумна. Усё здавалася нудным, брудным, настаўнікі-рамеснікі... І атрымаў ён двойку па заалогіі. Машкін, паставіўшы двойку, сказаў Лаўрыку: «Мне говорили, что вы неуязвимы, а я поймал вас». Зайздросныя вучні злараднічалі. Лаўрыку была вялікая крыўда, і Кузьме нічога не напісаў. 17-га лютага было пасяджэнне школьнае рады, і Лаўрыку прызначылі стыпендыю на два месяцы па 10 рублёў. З гэтых 20 руб. трэба было заплаціць 5 р. за прававучэнне, таму што ад платы не аслабанялі. У справе стыпендыі дапамог Лаўрыку Кашыцкі (Горскі): гарою за яго стаяў. Лаўрык вельмі радаваўся, а то было яму вельмі крыўдна, што ў першы раз другім далі, а яму не. І ён выпісаў сабе часопіс «Жизнь для всех», з дадаткамі (27 тамоў Л. М. Талстога). У Горках у гэты час адпраўлялі навабранцаў. Лаўрык хадзіў глядзець на іх, і яму было вельмі іх шкода. Ён глядзеў на іхныя белыя кажушкі, ільняныя штаны, лёгенькія лапці — і думаў: вось, можа, тысячы такіх пагінуць за хвіліну. Яны прашчаліся з бацькамі, з братамі, што прывязлі іх у Горкі, і так жа было гэта жалка... Скрыначкі, торбачкі палатняныя,— «дзірявеньськія пріснады», як сказаў адзін навабранец. Лаўрык думаў, верачы газетам, што справы нашы

на франтох значна палепшалі, а Раман напісаў яму: «Справы нашы на фронце — дрэнь». Аб былых вучнях казалі ў вучылішчы, што з Кузьмовых аднакласнікаў — Дзянісава і Піліповіча забілі на вайне. І сумна было ў Лаўрыка на сэрцы, баяўся, што як забяруць ізноў Кузьму, дык заб'юць і яго. Бацька прыслаў яму з Князеўшчыны 5 рублёў — заплаціць за праванучэнне. І пісаў, што і ўдвору паслаў 15 рублёў.

Падыходзіў вялікдзень. Вучыўся Лаўрык добра, меў за гэты час чацвёркі і пяцёркі. Па рускай мове напісаў працу «Природа Пушкина» на 5. Казалі, што ў гэтым годзе экзаменаў не будзе, а будуць перавадзіць па гадавых балах. У Нізінкі прыехала нейкая міласэрная сястра і казала, што на вайне ўжо халера. У Сенькаве, каля Нізінак, была пошасць тыфусу. 14-га сакавіка, у вербную суботу, прыязджаў па Лаўрыка ў Нізінкі Пракоп (Марцін). На другі дзень, на вербніцу, прыехалі яны ўдвору.

У дварэ ўсё ішло па-даўнейшаму. Нарэзалі рэзі. Сена было яшчэ вазы на тры. Думалі купляць карову. Вялікадне праводзіў Лаўрык у дварэ нецікава. Хадзіў часам гуляць к Паўлюковым, глядзеў, як мужчыны і хлопцы гуляюць у карты. Паўлюк Трахімёнак, прайграўшы, кажа апалым голасам: «Ну падажджыце, гаспада, у шурках разлічымся». Якаў Раманёнак выйграў — аж дрыжыць ад радасці. А ад брата яго Рыгора з самага пачатку вайны не было ні слыху ні дыху: ці забіты ён, ці ў палоне... 25 сакавіка, у сераду, уранні, напісаў Лаўрык лісты, і атрымалі ліст ад бацькі, ад дзядзькі Івана Фаміча і ад Косці Дзянісенкі. Пісалі ўсе так радасна, што і ў хаце ўсе павесялелі. І ў гэты ж дзень, увечары, неспадзявана прыехаў з Князеўшчыны бацька. Яшчэ на санях і на панскім кані. Прабыў ён у дварэ два дні, а 27 сакавіка, у пятніцу, паехаў назад у Князеўшчыну, і з ім паехаў да Нізін Лаўрык. У Нізінах ён заначаваў, таму што ішоў дождж, на Лугаватцы разарвала грэблю, разлілася вада, і на Нізіны-Нізінкі няможна было прайсці. А бацька, Стахван, паехаў далей, на Лугвенева, з гэтага боку ракі. І яго ў Кісялёх вада чуць не знясла, за вербінку ўхапіўся... Лаўрык начаваў у Нізінах на хутары ў Івана Пагуляя. На другі дзень, 28 сакавіка, у суботу, ездзіў з Стэсем на Лугаватку. Вада... Назад. Ізноў заначаваў: яшчэ нельга было прайсці, усю грэблю размахала. Але нанач узняўся марозік. Толькі 29 сакавіка, у нядзелю, выйшаў ён з Нізін і памысна дабраўся да Нізінак. Прыйшоўшы, да-

ведаўся, што экзаменаў у гэтым годзе не будзе і што адпусцяць іх з вучылішча 8 мая. І вось ішла вясна, сэрца радавалася... Але потым доўга яму ніадкуль не пісалі, і ён бедаваў, клапаціў. У спецыяльных класах ішла ўжо практыка.

## Хірамант

*16/II.* Нарэшце паступіў чарцёжнікам. Доўга шукаў працы. У Маскоўскай губернскай чарцёжнай не прынялі. У газетах чытаў абвесткі: патрэбны тэхнікі, бухгалтары. Для сябе нічога не знаходзіў. Занёс два сваіх рукапісы ў «Русское слово». У адным апісваў перажыванні жывёлы ў часе бою, асабліва пачуцці курапаткі, якую я злавіў у канаве, хаваючыся ад абстрэлу. У другім рукапісе маляваў змаганне салдатаў з паразітамі. Ніводнага не надрукавалі. Прыняў на работу Зм. Аляксеевіч Свірэлін, знаёмы Яўг[ена] Міх[айлавіча] Бяссонава, у Чарцёжн. Удзельн. Вед.

Прыехаўшы ў Маскву, знайшоўшы кватэру і службу, але не маючы нікога знаёмых, захацеў Лявон схадзіць да свайго былога настаўніка Івана Іванавіча Мудрыкава. Казалі ў Камароўцы, што Мудрыкаў жыве ў Маскве і стаў хірамантам. Смяяліся з яго, што быў такі «багамаленны», а цяпер — варажбіт... Лявон узяў яго адрас у адрасным стале. Сеў на трамвай і паехаў. Ехаў дужа доўга, заехаў на ўскрай горада. І яшчэ доўга ішоў па пустой вуліцы, кучы снегу на ёй, дамы як у глухім гарадзе, драўляныя, невялікія. Сустрэў барадатага, з чырвоным тварам, мужчыну ў сіняй купецкай паддзеўцы, у лакіраваных ботах «бутылкамі». Ішоў гэты тоўсты па тратуару важна, але задумана, не гледзячы, сапеў, думаў сваё... Вось і дом, з ганачкам. Выходзяць дзве простыя жанчыны, у хустках: старая з зазлаваным тварам і маладзенькая, засмучоная. Дзверы за імі былі не зачынены. Увайшоў Лявон... Пусты бедны пакойчык. Столік. Люстэрка на стале. Далей — дзверы. Адчыняюцца яны. Паказалася галава Івана Іванавіча, але, мусіць, не пазнаў Лявона: сем год мінула (1908—1915). Лявон да яго з ціхаю радасцю, вітаецца... А Іван Іванавіч, сцяміўшы з гутаркі, што за госць,— здэтанаваўся, юркнуў назад: «Зараз, зараз!» Нават і не завёў у той пакой, зараз сам

сабраўся, папрануўся — і выйшлі. Троху саромячыся, пачаў казаць Лявону, што тут ён прымае «посетителей», а жыве каля Брэсцкага вакзалу. Пакуль ішлі ўдваіх, да трамваю, расказаў пра гэтага барадатага мужчыну: у яго быў, і Іван Іванавіч угадаў яму, што ў яго дзве палюбоўніцы, з яго можна садраць за візіт. А жанчыны гэтыя таксама ў яго былі, называў іх дурамі, казаў: усур'ёз вераць варажбе і нясуць апошнія капейкі. Шкадаваў, што не можа «развярнуцца» і што ці ў яго раней было, ці ў нейкага другога, знамянітага, хіраманта, «усё было пастаўлена на шырокую нагу»: багаты кабінет, каўры, люстры, кандэлябры... «Посетительницы» — са знаці, з купецтва, па сто рублёў за візіт не шкадуюць, калі добра ім угадаць. Але чуў ён сябе перад Лявонам ніякава. Лявону было сумна. Было ўжо позна ехаць да яго на кватэру, ён даў свой адрас, прасіў Лявона захадзіць, і на гэтым развіталіся. Паехалі на розных трамваях у розныя канцы. Потым Лявон заходзіў да яго, але не заставаў дома.

*1/III.* Газетны завул[ак], 5, кв. 3. Жыву з Аляксеем Маркіянавічам, аршанскім чалавекам. Пазнаёміліся выпадкова, разам шукаючы кватэру. Сышліся на вуліцы, знайшлі гэты пакой і пасяліліся. Гаспадар — італьянец Барталіні. Жонка — руская. Магазін іх, залатых рэчаў, разбілі ў пачатку вайны патрыёты-чэрнь. Увесь час марозы. Хаджу на перавязкі. Шпіталяў тысячы паўтары, на кожнай вуліцы, на кожным завулку.

*9/III.* Перамышль узят... А 4-й гадзіне дня, калі ішоў з працы, па ўсіх вуліцах луналі сцягі, бегалі, як шалёныя, газетнікі — іншы аж ахрып, крычучы, што Перамышль узят. А з дахаў капала, пабеглі цуркі. Недзе музыка равела «Коль славен наш господь в Сионе». Увечары пацягнуліся аграмадныя натаўпы маніфестантаў, без шапак, са сцягамі. Ішлі па вуліцах, стаялі на пляцы каля помніка «Беламу генералу», пялі гімны, крычалі «ўра». Вячэрнія газеты выйшлі двумя выпускамі. Сустрэўшы груд маніфестантаў, з віду рабочых, якія ішлі і пялі «Спаси, господи, люди твоя и благослови достояние твое, победы даруя благоверному государю нашему»...— я жахнуўся, прыгадаўшы, **што** пялі рабочыя на гэтых самых вуліцах 9 гадоў таму назад. Рана ўсё яшчэ цячэ, хаджу на перавязкі.

Перад вялікаднем прыязджаў у Маскву Раман, прывозіў палонных аўстрыякаў, забратых 8/III пад Пера-

мышлем. Быў у Кузьмы. Кузьма праводзіў яго на вакзал. Сказаў, што недалёка ад вакзалу жыве Іван Іванавіч Мудрыкаў. Раман захацеў з ім пабачыцца, ды хапаўся на вакзал, каб эшалон не пайшоў без яго. Кузьма развітаўся з ім і зайшоў да І[вана] І[ванавіча]. Ён якраз быў дома. Зараз пайшоў з Кузьмою на вакзал. Але Раман ужо паехаў. Ів[ан] Ів[анавіч] запрасіў Кузьму да сябе на вялікдзень, «разгаўляцца». Вялікдзень быў 22 сакавіка (марца), а гэта было 20 сакавіка. Перамышль быў узят 8 сакавіка, і калі Кузьма ішоў на кватэру, бачыў, як па Цвярской вялі шмат палонных аўстрыякаў. Былі яны ў шараватых шынельках з тонкага сукна, у чубатых шапачках. Усе — худыя, чорныя, абшарпаныя. Толькі афіцэры — франты. На другі дзень, 21 сакавіка, у суботу перад вялікаднем, пайшоў Кузьма да Ів[ана] Ів[анавіча] — «разгаўляцца». Стол быў панскі, гарадскі, шмат было ўсяго настаўлена: куліčоў, паскі, мяса, фарбаваных яец, бутэлек з віном. Толькі не было ў Ів[ана] Ів[анавіча] ладу з жонкаю. Ів[ан] Ів[анавіч] ужо палысеў, пастарэў, запусціў бараду, ды ўсё яшчэ быў прыгожы, з бліскучымі чорнымі вачыма, энергічны, гаманлівы. А жонка яго была — высокая, грузная, старэйшая за яго на колькі год дама. І, відаць, бурчлівая, хоць і ласкавая. Да іх прыйшоў яшчэ малодшы брат Ів[ана] Ів[анавіча], Дзямід, і не адзін, а з таварышам. Жонка Ів[ана] Ів[анавіча] была нечым нездаволена, за нешта як бы вымаўляла мужу (за выпіванне, ці што, бо спаслалася, што Кузьма вось адмаўляецца сесці за стол выпіць. Ів[ан] Ів[анавіч] адказваў ёй далікатнымі колкасцямі, спрачаўся з наўмыснаю вясёласцю. Дзямід з таварышам маўчалі, пасядзелі трошку і зараз пайшлі. І Кузьма пасядзеў трошку і зараз пайшоў разам з Ів[анам] Ів[анавічам]. Прайшліся, пастаялі каля бліжэйшае царквы. Ів[ан] Ів[анавіч] у царкву не захацеў ісці. І разышліся.

Пасля вялікадня Кузьма пайшоў у адзін шпіталь на агляд. Там яго напалохалі дактары-жанчыны, што трэба канечне легчы, бо рана гнаіцца. А накіраваць у шпіталь, аказалася, мог толькі маскоўскі воінскі начальнік. Кузьма пайшоў у ўпраўленне воінскага начальніка, думаючы, што яму дадуць накіраванне ў добры прыватны шпіталь, а пісар, не размаўляючы, накіраваў яго ў воінскі шпіталь у Ляфортаве. Кузьма не ведаў, што гэта яму будзе не «Мішмэрэс хойлем», а турма. Да тэлефону і то не дазвалялі падысці пагаварыць. 29 сакавіка, у нядзелю, яго

запісалі на эвакуацыю ў Саратаў, ці яшчэ куды. Кузьма пратэставаў, тлумачыў, што ён жа ў адпуску,— не сталі слухаць. Вывелі вялікую партыю, пастроілі, абкружылі салдатамі са стрэльбамі, як арыштантаў, і павялі на вакзал. Кузьма заўважыў, што вельмі пільнуюць, каб хто не ўцёк: значыцца, уцякаюць... І ён набраўся такой смеласці і ў людным месцы, каля трамваяў і магазінаў, непрыкметненька адцёрся, скарэй на тратуар і ўцёк... Пайшоўпайшоў, на трамвай — і ходу, хоць сэрца і білася, як барабан, бо вельмі ўжо быў дысцыплінаваны і баяўся. А быў ён у вольным: спаміж раненых быў прыкмецен, а змяшацца з натаўпам было лягчэй. Прыехаў на кватэру,— гаспадыня кажа: толькі што заходзіў брат (гэта быў Раман) і паехаў у шпіталь. Кузьма баяўся, што Раман са шпіталю не прыйдзе болей на кватэру і паедзе. Аж толькі Кузьма выходзіць, і Раман ізноў ідзе. Абдумалі, што трэба Кузьме кінуць усё і ехаць дамоў і там, у сваім Горадзе, з'явіцца да воінскага. З раны ў Кузьмы яшчэ лезла нешта, як хлоп'е-вата. Праводзіў Раман яго на вакзал, сам застаўся да вечара: чакаць воінскага цягніка (ён ізноў прывозіў палонных). Кузьма паехаў збянтэжаны, прыгнечаны, раздражнёны сваёю няўдачаю... І чаго баяўся, чаго нерваваўся, як на пазнейшы розум... 30 сакавіка прыехаў у Смалу. Увечары, цёмна, сеў на цягнік і прыехаў у Аснову пад раніцу. Выпадкова быў падводчык з Гораду, згаварыліся за 3 рублі. Дарога была санная, але ўжо дрэнная. Нанач дабраліся да Сожа, заначавалі ў вёсцы ці на хутары, у доме на высокім месцы, на беразе. Хлопчык там рысаваў добра конікаў і налепліваў свае малюнкі на сценку. 31 сакавіка, на радуніцу, пераехалі праз Сож, на чаўнох з памостам. Усе дрэвы ў вадзе былі да вярхушак. Паехалі... Снег яшчэ, разліў, прагаліны, жаваранкі, халаднавата. Сум веснавы ў паветры. Ехалі міма кладзішча,— адзінокая бабуля плакала ці малілася на пустынным могільніку. Увечары, позна, прыцягнуліся ў Горад. З аднэй гасцініцы — у другую, там знайшоў Кузьма пакой. Лёг, супачыў... На другі дзень, 1/IV, раніцою, калі пастаяльцы яшчэ не ўсе ўсталі, прыходзіць ізноў падводчык (Марцін нейкі з Слабады), вымагае, каб Кузьма даў яму яшчэ тры рублі: мусіць, дома свае ці нехта яму сказаў, што мала ўзяў пры такой дарозе. Кузьма дае яму, а ён яшчэ лаецца. Кузьма кінуў паперку на падлогу. Падводчык: «А, ты царскі партрэт нагамі топчаш, вось я табе пакажу...» Пачаў пагражаць.

Кузьма зачыніўся. Кузьма быў дужа раздражнёны. 2-га красавіка, у чацвер, быў ён у воінскага. Там яму сказалі, што калі захоча легчы ў шпіталь, дык накіруюць у (Яму). Бачыў там Міхалку Піліпёнка, Міхалка пісарам там быў. Цяжка было падводчыка знайсці, нікога з вёсак у Горадзе не было. Прыехаў удвору толькі 3 красавіка, у пятніцу, з селянінам з-за Белі, вельмі ласкавым і дагодлівым. І браць нічога з Кузьмы не хацеў, прыемна было яму, што дапамог салдату дамоў прыехаць. Прыехаў Кузьма з Гораду — усё ў двары будзённае, нецікавае, сумнае. А рад. А надвор'е хмарнае, бруднае. Прыехалі пад вечар. У хаце кросны. Сабраліся да іх людзі, распытацца, як, што дзеецца на свеце.

У Нізінках дырэктар выходзіў у адстаўку. Хрысцёнку меліся забраць на вайну, але вызваліўся. Дуцман меўся некуды пераязджаць. У 4-м спец[ыяльным] класе сёлета было толькі дзве чацвёркі, а то ўсе пяцёркі. Нарэшце атрымаў Лаўрык ліст ад Кузьмы, з двара, калі ён прыехаў з Масквы. Кузьма пісаў, што пасылаў яму ліст з Гораду, але Лаўрык таго ліста не атрымаў. А Кузьма гневаўся, чаму Лаўрык не адказвае. І наогул пісаў Кузьма неяк злосна, раздражнёна, і Лаўрыка гэта дзівіла, непакоіла, і было яму сумна. Старэйшыя вучні апавядалі Лаўрыку, як Кузьма некалі «распякаў» нейкага надзіраццеля, б[ылога] афіцэра. Цяпер Лаўрык чытаў «Войну и мир» Л. Талстога і ўсё болей разачароўваўся ў вайне 1812 г. У Нізінках ізноў былі апалчэнцы. 14-га красавіка партыю іх адправілі ўжо на Воршу. 15-га красавіка ў Нізінках быў страшэнны холад,— вучні на практыку не пайшлі. Лаўрык пісаў Кузьме, раіў яму не нудзіцца. Але самому Лаўрыку было цяжка. Памёр вучань Жукаў. 17 красавіка памёр вучань Высоцкі, ад прастуды. Бацька — бедны мешчанін. Маці млела. Сястра, дзядзька стаялі ў глыбокім смутку. Хор пяяў: «Помилуй мя, бог мой, бог!» Поп узгалашаў: «Упокой, господи, душу усопшего раба твоего Павла!..» Лаўрык бачыў Паўла жывога... І цяпер жахнуўся смерці. А хацелася радавацца вясне, цёпламу сонейку.

Жыў Кузьма ў двары ад 3 красавіка да 20 траўня. Бацька быў у Князеўшчыне, Лаўрык вучыўся ў Нізінках, Марынка — у Раздзеле, а Рамана з Бабруйску пераігналі ў Менск. Пракопа запісалі на прызыў на травень,

але праз абмылку, бо ён радзіўся ў 1896 г., а прызывалі роджаных у 1895 г. Ён хадзіў з метрыкаю ў Целяпенічы, і пісар выкасаваў яго з прызыўнога спісу. Марынку з Забор'я павінны былі адпусціць 18 красавіка.

Скора ізноў прызывалі апалчэнцаў. З Камароўкі прызвалі толькі Максіма Салдацёнка. 11-га красавіка павязлі іх, і з гэтымі падводамі ехаў Кузьма ў Целяпенічы, на перавязку, а адтуль прыйшоў. Іх конь і Саўчын ішлі ў пары, ехаў Тарас Палуцін да Нізін. А потым матка лячыла рану Кузьме прысыпкамі. Увесь час быў ён сумны, раздражнёны, але вясна сагрэла яго, адчуваў яе глыбока. Хадзіў у Дубраўкі, сядзеў у садзе пад акном, чытаў, вывучаў нямецкую мову па самаўчыцелю. Хадзіў на Міколу на кірмаш у Цотава. Рана адтуль прыйшоў, раней за ўсіх. Бачыў там Граську Краўчанка з Палянкі, пасядзелі каля царквы, у садзе, на траўцы. Граська пра Льва Талстога казаў з вялікаю пашанаю, як быццам талстоўцам зрабіўся, хоць, мусіць, і не чытаў нічога з яго твораў. І пра Каўказ нешта казаў, як там добра жыць, цёпла, вінаград расце... Граська раней у Маскве жыў, з Ів. Ів. Мудрыкавым сябраваў. Гаварыў па-руску. Сваё, роднае, палянкаўскае — не падабалася яму. Перасяляцца хацеў... Кузьма чэраз Дубраўкі, адзін, дамоў прыйшоў. Не знаходзіў ён сабе людзей. Дваццаць два гады было яму. Лёкса падабалася яму, ды была яна замужам. І дужа сарамлівы, нясмелы быў. Рана ўсё гнаілася. Гналі з маткаю канапляную гарэлку. Узялі, насыпалі поўны гарлач канапель і прабілі дзірку на дне (свярдзёлкам пракруцілі), і тады выкапалі ямку, і паставілі гаршчок, і на гэты гаршчок паставілі гарлач з канаплямі, і кругом абмазалі, каб дух не ішоў, згары пакрыўшы чарапком. І разлажылі агонь, і гналі канапляную гарэлку. І гэтаю гарэлкаю мазалі рану... Яшчэ ссеклі ліпавы сук, аблупілі. І тады сук трошку засох, мяздра мокрая засохла. Тады ўзялі і ўвесь гэты сук пасеклі дробненька — і ў гаршчок. І таксама гналі гарэлку, як з канапель, толькі там гаршчок і гарлач, а тут два гаршкі (што ў гаршку больш ліпніку). Расклалі былі ў садзе, а тады перанясліся ў канец вышняга гарода, дзе аборак, каб не спаліць хату. Нагналі болей соткі з гаршка, гарэлка была жоўценькая-жоўценькая. Ад канаплянае было горш, а ад ліпавае дзве ранкі зарасло, дужа памагла гэта ліпавая гарэлка. Ганна навучылася

каля людзей, яшчэ быўшы ў бацькі, да замужжа: кабылу так лячылі, калі яна на лапатку так мяса прапарола, што кулак хаваўся, скокнуўшы на пень. І мазалі ёй канапляную гарэлкаю, і мухі не кусалі, і зарасло. (Перанесці ў даўнейшы час, год 1874—1884, там жа наогул пра даўнейшае лячэнне.) Маладзіцы ўсё хадзілі варажыць. І прыходзілі да Кузьмы — прасіць пісаць адрасы іх мужыкам у палон. І Лёкса прыхадзіла, каб напісаў яе Якаву.

19 траўня паехаў Кузьма ў Яму, Пракоп падвёз яго да Расны.

*20/V.* Прыхадзіла мачыха. Жалілася, як і заўсёды, на Паўлюка, на свайго нябожчыка мужа, на земскага (што ён пераслаў яе прашэнне на разгляд у валасны суд). Прасіла Стахвана, каб ён з'ездзіў з ёю ў Концеўку к земскаму. (Ездзілі, але нічога не выездзілі.) І казала, што гэта Паўлюк з сынам Дадонам забілі Тамаша, а не конь разнёс у дарозе. І дужа лаяла Івана Фаміча.

Вясною Паўлюк Ваявода хадзіў у Кіеў богу маліцца.

А дзён праз пяць пачалі яны вазіць гной пад жыта. Адзінаццатуха была 31 траўня. Прайшла добра. Скот быў дзешаў. Баравікі былі дужа дарагі: рубель за хунт, а на другі дзень — рубель дваццаць.

Быў папугай-варажбіт. Варажыла Ганна Стахваніха і яе Марынка. Выцягнулі персцень і завушніцы. І Пракоп варажыў. Яму сказала цыганка, што ён пойдзе ў салдаты і праз год вернецца.

Тым часам ужо ў садзе ў Задумавых зацвёў гарох. Авёс каля лескі рос. Смурода, што пасля перасадкі была ўсохла, цяпер распускалася. Цвілі краскі. Сланечнік быў ужо даволі высокі. Чаромха і шура (на вуліцы) усохлі. Гной ужо ўвесь вывезлі. Купілі сенакос у Камароўшчыне Стахванавы з Саўчынымі за 30 рублёў. Цяпер пасвілі там коні, касілі каровам траву. Скоту іхнаму сёлета было ладна. Залужжа ў гэтым годзе п'янаўскія паны, улашчыліся, аддалі камароўцам і ўсім, хто возьме, касіць з палавіны. Падходзіла касьба, а касцоў у вёсках засталося мала: пайшлі на крывавыя росы... Карову Стахванаву палавую запісалі і сказалі весці ў Целяпенічы. Але прыйшла тэлеграма, што скот не патрэбен, і карова іх засталася ў двары.

Выйшаў у іх яшчэ адзін рой. Хварэла Нінка. Вазілі яе ў Целяпенічы. Доктар сказаў, што ў яе запаленне лёгкіх. Было два раі, але ў адным матка згубілася, і іх пасадзілі ў адну калоду. 9 чэрвеня адсеялі ярыну.

У палове чэрвеня прыходзіў у Камароўку з Нізінак Мікола Мокры. Ён не ведаў, што Кузьма ўжо не ў двары, а ў Яме. Гасцяваў у іх паўтара дня. Іграў на дудках, на гармоніку, хадзіў у Дубраўкі, з Лаўрыкам гамапілі.

16 чэрвеня пачалі гараць папар. Перад гэтым вывезлі гной на папар у палянк. полі.

20 чэрв[еня] быў прызыў. Забралі Андрэя і Дадона. 23 чэрвеня з Гораду выганялі навабранцаў. Перад гэтым да Задумавых у Камароўку заехаў спярша Андрэй Лукашоў Ваявода, а потым зайшоў Дадон Паўлюкоў Ваявода. Стахван і Ганна далі Дадону 3 р. грошы і блаславілі. Хлопцы казалі, што пагоняць іх з Гораду на Цвер.

Да купалля Нінка палепшала. У ноч з 23 на 24 чэрвеня, у купальскую ноч, нехта пачапіў некалькі кусцікаў цыбулі на шуру перад акном Саўкі Тужыка,— у тым сёлета і ўсё купалле было... Лаўрыку было сумна. Бацька ехаў у Горад, Лаўрык папрасіў яго выслаць грошы ў «Биржевые ведомости». Бацька спярша згодзіўся, а потым сказаў: «Ану цябе з газетаю... Калі-небудзь выпішам». Лаўрык напісаў Кузьме ў Яму, каб выпісаў ім газету Кузьма. Улетку Лаўрыку было дужа некалі. Ён гараў, касіў і яшчэ рыхтаваў хлопчыкаў у школу ў Нізінкі. Толькі нядзеля была ў яго вольная. Пракоп чакаў прызыву. Кузьма пісаў злыя лісты. Адмовіўся выпісаць ім газету. Падкрэсліваў у Лаўрыкавых лістох памылкі і ў такім відзе прысылаў яму назад. Пра вайну пісаць Лаўрыку нічога не хацеў.

На фронце ішлі безупынныя баі. Нашы ўсё адступалі. Сцяпан Аўдакімёнак пісаў з фронту, што іх батарэям прыслалі новыя, японскія, аруддзі, вельмі спраўныя,— адно дрэнна: не хапае снарадаў. У Целяпеніцкую воласць назначылі 5 тысяч бежанцаў-ліцвіноў. У Камароўку — 38 чалавек. На Стахванаў двор — 6 чалавек. Бежанцаў яшчэ не было. Казалі, што ў Магілёве халера. У Целяпенічах былі расклееены абвесткі, каб не пілі сырой вады, не елі гародніны і наогул ніякае сыравізны, глядзелі б за чыстатою ў вёсцы. У П'янаве ў аднаго чалавека дужа за-

балеў жывот, але якая гэта хвароба — ніхто не ведаў. Камароўцы насыпалі кала свайго калодзежа зямлі і перакапалі канаўку — сцякаць вадзе. Вавілу Вусатага (Мацвея Рыжавусага) прызначылі санітарам: павінен быў глядзець, каб была чыстая вуліца, калі хто захварэе — каб вязлі ў больніцу. 3 ліпеня пачалі гараць папар. Жыта налівала: тыдні праз два жаць. А каго яшчэ не ўзялі на вайну, думаў: ці давядзецца мне яго вазіць ды малаціць... Жыта было добрае. Ярына ў гэтым годзе паказвала сярэдняя. Праходзілі дажджы, і ўсе радаваліся: паправіцца ярына, і трава пойдзе расці. І ў гэты цяжкі час вайны ў П'янаве было вяселле. Хадзілі ўсе камароўскія хлопцы. Пракоп Задума і Курыла Смакун (Шопік) усю ноч рэзаліся там у карты з Жакам і Юркам. Пракоп выйграў 4 р. 50 к., а Курыла 8 р. Пайшлі на другі дзень, і п'янаўцы абчысцілі іх. Пракоп прайграў і сваіх 1 р. 50 к. 8-га ліпня ў Камароўцы быў вялікі дождж з громам. І пасля дажджоў пачалі расці баравікі, раслі так, што і старыя не памяталі такога лета. Чакалі новага набору — на 7 жніўня. І Пракоп Задума чакаў... Бацька, Стахван, быў у двары. Да 7 жніўня Стахванавы жыта дажалі і звязлі, усяго 54 вазы. Такога ўраджаю ніколі не было. Звычайна было ў іх вазоў 25—30. Але ў гэтым годзе яны рандавалі сватаву паласу, Гашкінага бацькі. Пшаніцы было 400 снапоў, ужо яе да 7-га абмалацілі. Сена з паджыцця таксама звязлі. Троху гаралі пад жыта. І тады прыйшоў Пракопаў прызыў. Ён чакаў ужо. Набор яго году (1896) павінен быў пачацца 7 жніўня,— на два гады раней мірнага часу. Ніякіх сямейных ільгот і адтэрмінаванняў не давалі. Пракоп чакаў, што яго возьмуць. 7-га жніўня прызываўся. Спадзяваўся на медыцынскую камісію, але прызналі годным. Запісалі ў палявую артылерыю (ён прасіўся ў кавалерыю). 8-га жніўня, у суботу яго выпраўлялі. Уранні змалацілі першы раз сёлетняга ўраджаю. Паснедалі і пачалі збіраць яго ў дарогу, ехаць у Горад. Богу памаліліся. Саўчыных гукнулі. Сабралі ўжо Пракопа... Ён стаў на каленечкі, памаліўся. Вось запрог ужо бацька і каня. Паклалі ўжо і гэтыя торбачкі на калёсы. І выйшлі ўсе з хаты. К іхнаму двару прыйшлі Восіп Максімаў Ножык і Антон Салдатаў Сілунок, што ішлі з ім разам. І маткі іхныя прыйшлі. Стаў Пракоп каля вугольчыка хаты, што к Мікітаваму боку: «Заставайся, дом!» — і заплакаў. Усе заплакалі. Уся вёска заплакала. Дайшлі да таго мастка, што на шляху на

палянкаўскім полі супроць Задумавых гароду. Тут быў скошан абарочак у Стахванавых на гародзе, Пракоп кажа: «Лаўрык, падвярні ж сена на аборачку». Усе яшчэ горш заплакалі. І Лаўрык плакаў, і Марынка плакала. Домна выла па Восіпу... Ганна, правадзёмшы Пракопа, пайшла жаць у поле, і там жала ўвесь дзень, як Пракоп з бацькам паехалі, і нічога не нажала, плакала, думала. Ідуць Мікітавы бабы, пасобілі ёй кусочак дажаць. І пайшлі ўдвору разам. Ідзець Адарка Саўчына. Сустрэўшы яе, Ганна кажа: «Ці не відзіла ты дзе нашага Пракопа? Ці не гуляець ён у вас? Скажы ты яму, Адарка-сястрыца, каб ужо двору ішоў». І Адарка заплакала: ад тых ад слоў Ганніных, матчыных, аб сыне, што на вайну сына пагналі, і, можа, ніколі ўжо не вернецца... А ўвечары прыйшоў ліст ад Кузьмы з Ямы. Стахван у Горадзе начаваў. Пракопа пагналі ў Смаленск. Грошы яму ў дварэ далі 10 руб., ды як хадзіў па блаславенству, сабралася 4 р. Потым прадаў боты старыя, у якіх паехаў з двара, узяў 2 руб. Калі Пракопа забралі, Лаўрык увесь час гараў, пагараў усё сваё ў Камароўцы і сватаву паласу ў Палянцы. Дагараў 13 жніўня. Малаціць і касіць наймалі. Сенакосу ў полі да гэтага часу засталося на 1 воз, можа. 16—20 жніўня быў Лаўрык у Нізінках, ездзіў з сваімі вучнямі на прыймовыя іспыты. З вучняў яго паступіў у школу толькі адзін Румянак (Жырны Ліс). Шэйлачэнкаў (Ліхвярэнка) паехаў пасля медыцынскага агляду (за блізарукасць). Пілюта прарэзаўся па матэматыцы. Пракапенка (Алёнін пляменнік) паступіў у рамесніцкае вучылішча. Ланеўскі прарэзаўся. Ваўка ўзялі на вайну. Паступала ў гэтым годзе ў іх вучылішча 137. Паступіла 37. Пабыўшы ў Нізінках, Лаўрык вярнуўся дамоў, быў у дварэ да 31 жніўня. За гэты час сена сваё яны звязлі ўсё, жыта адсеялі і барозны паганялі. Рассеялі жыта 50 пудоў. Сеяў ім Мікола Саўчын (Вавіла Вусаты, Рыжавусы). Лёну троху набралі. Авёс дажалі. Ячмень яшчэ не, не паспелі. Усяго аўса не звязлі: перашкодзіў дождж, не пераставаў апошнія дні перад Лаўрыкавым ад'ездам. Перад яго ад'ездам была іх чарга пасвіць скот. Лаўрык пасвіў толькі $2^1/_2$ дні, рэшту дзён пасвіць засталося на долю баб, калі ён ужо паехаў. Калі ён выязджаў, стала пагода. Коні цяпер прыходзілася пасвіць Марынцы, а на начлег вадзіў бацька. Ад Рамана не было вестак з 11 жніўня, дваццаць дзён. І з тым Лаўрык і паехаў. Матка і Гашка плакалі па Раману.

Кузьма выехаў з двара 20 траўня. Да Расны падвёз яго Пракоп. Ад Расны да Ямы паехаў Кузьма з балаголамі. У Яму прыехаў раніцою на другі дзень. З'явіўся да воінскага начальніка. І тут не здагадаўся нічога даць пісару, і яго накіравалі ў 299 шпіталь, што змяшчаўся за горадам, у казармах, каля вакзалу. У гэтым шпіталі пралежаў ён да жніўня (каля трох месяцаў). [...] 29 чэрвеня Кузьма атрымаў Лаўрыкаў ліст з адрэзаным канцом, лоўка заклееным[1]. Лаўрык пытаўся, што думае Кузьма пра бягучы момант. Кузьма сярдзіта адказаў, што нічога не думае, а што і думае, таго не напіша, каб і ў яго лісце не адрэзалі канца... Кузьма быў вельмі раздражнёны, што яму рэдка пішуць з двара, і напісаў Лаўрыку злы ліст, пералічаючы зробленыя Лаўрыкам у лісце памылкі. Лаяў яго, што нядбайна піша. Адмовіўся выпісаць ім у Камароўшчыну газету. Спярша лячылі Кузьму ад глістоў (доктар Гормэер), потым доктар Лычкоўскі зрабіў яму аперацыю: без наркоза, вельмі хутка і спрытна забарабаніў у ране шчыпцамі аб асколак і ўмомант выцягнуў яго. Рана Кузьмова пачала цяпер хутка зарастаць. Ён не ведаў, дзе яму будзе камісія: у Яме ці ў сваім горадзе. Ён надумаўся прасіцца на турэцкі фронт. У Яме паспелі суніцы. Каля іх шпіталю стаялі рэквізаваныя каровы. Міласэрныя сёстры даілі іх і парным малаком паілі салдат у шпіталі. Кузьма быў вельмі рад просценькім і паэтычным Марынкіным лістам і прасіў яе, каб яна напісала яму пра гарох, смуроду, вінаград...

І яна пісала (15/VI): «З красак, што я прынясла з Цёмналешчыны, прыняліся толькі ландышы. Касацікі скора будуць цвісць, ружа і боцік таксама. А краскі, што я садзіла прарашчываць, не ўзышлі яшчэ, але адзін вазон узышоў, і я пасадзіла яго ў садзе. Горкія струкі ўжо чэраз дзень зацвітуць. Сланечнікі ўзышлі ўсі і ўжо вялікія. Мак я палола і прарэдзіла». І яшчэ пісала: «Гарох наш увелькі з аршын, і ўжо адцвіў, ёсць стручкі-лапатачкі, уздоўжкі вяршкі ў два. Смародзіна сілная і ўжо спее. Вінаград (шура) дзядзькін паспеў, і буйны-буйны, а наш нейкі і сохленькі і дохленькі, і чаго ён такі, я не ведаю. Слівак дужа многа, і дужа буйныя. Краскі, якія я з табою садзіла з міскі, ужо цвітуць,— калі б ты ведаў, як прыгожа! Адна жоўценькімі цвецікамі, а другая красненькімі, а трэцяя яшчэ не цвіцець. Суніцы паспелі»...

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «29 чэрвеня ~ заклееным».— аўтарская паметка: «Марынцы канчаўся 13 год».

Раман прыслаў Івану Фамічу Кузьмоў адрас, і да Кузьмы ў шпіталь [прыйшлі] Іван Фаміч з сваёю большаю дачкою Мілаю. Міла — цёмнавалосая, з карымі вачыма, даволі харошая. Кузьма і яна бачыліся першы раз у жыцці. Міла сказала яму слоў пяць. Пасядзелі хвілін 25. Іван Фаміч аб знішчэнні даверанасці ад Кузьмовае маткі Ганны і ад мачыхі казаў мала: «Было непрыемна, а так мне ўсё роўна». Ён нядаўна быў у Горадзе. Казаў Кузьме, што матка дужа пастарэла... Праз тыдзень Кузьма павінен быў зайсці да іх, да Івана Фаміча, яны запрасілі. Але не пайшоў. І яшчэ праз тыдзень, у нядзелю, па абедзе, прыйшлі да яго яны: Іван Фаміч, дзядзіна, Міла і Толя. Кузьма выйшаў да іх за агараду. Размесціліся на траўцы пад бярозаю. Яны селі, Кузьма перад імі прысеў, выцягнуўшы раненую нагу. Яны прынеслі Кузьме апельсін і плітку чакаляды. Кузьма не здагадаўся тут жа пачаставаць іх гэтымі дарамі. Дзядзіна — у саламяным капелюшы, тоўстая, даволі дародная, і з бойкім языком. Яна выказвала сваю крыўду, што вясковая радня Івана Фаміча, калі прыязджае да іх, дык скандаліць іх перад суседзямі, п'яная і няп'яная. Кузьма слухаў і трымаўся ветліва-сцюдзенавата. Іван Фаміч быў у белым кіцелі, з казённымі гузікамі і ў чыноўніцкай шапцы. Вусы рыжыя. Лоб высокі, пакаты назад. Міла і даўгавязы Толя маўчалі. Дзядзька і дзядзіна запрашалі Кузьму прыйсці да іх. Ён ухільна дзякаваў. У канцы ліпня Кузьме ў шпіталі зрабілася вельмі нудна. На фронце было кепска. З двара пісалі рэдка. Пракопа забяруць. Лісты Лаўрыку пісаў Кузьма злыя. У пачатку жніўня раптам прыйшла тэлеграма аб эвакуацыі ўсіх раненых са шпіталя. Уночы перавялі Кузьму спачатку ў горад, у Софіеўскія казармы, а адтуль на вакзал: эвакуіравацца ў Маскву. На вакзале чакалі дзень, ноч, і адзін хворы памёр. Нарэшце пагрузілі і павязлі ў Маскву. Там Кузьму накіравалі ў шпіталь Маскоўскага біржавага і купецкага общчаства на Валхонцы № 8. Кузьма прабыў у гэтым шпіталі. З Магілёва сястра Рачынская пераслала яму шмат лістоў адразу, і ён пра ўсё даведаўся і ўсім сам напісаў. Пытаўся ў Лаўрыка, куды перасялілася «Наша ніва». Не ведаў, што яна зачынена, і думаў чамусьці, што і яна эвакуіруецца. Ён чытаў у газетах, што ў Вільні над цэнтральным сельск.-гаспадарч. складам звалілася бомба з аэраплану, а гэта ж якраз побач. З дому пісалі аб новых наборах, шмат яшчэ людзей пайшло на бойню. Вельмі

клапаціў аб Рамане, што даўно нічога не чуваць пра яго. Было ўжо 7 верасня, а ліст апошні ад яго быў 5/VIII. Думаў, што пэўна ён у баі,— як-то прыме гэта бедная Гашка і маці. Клапаціў, што матка, пэўна, зусім задушыла сябе працаю. А бедны Пракоп цэлых тры тыдні ні ад кога не атрымліваў весці. Кузьма напісаў адкрытачку Ів. Ів. Мудрыку, што ляжыць тут у шпіталі. У бліжэйшае свята Ів[ан] Ів[анавіч] прыйшоў да яго. Пытаўся ў Кузьмы пра іх сям'ю і пра сваіх родных. Кузьма пра яго родных нічога не ведаў. Здаецца, у гэты ж дзень ці пазней ездзілі Кузьма з Ів[анам] Ів[анавічам] у Пятроўска-Разумоўскае. Ів[ан] Ів[анавіч] шмат апавядаў Кузьме пра сваё мінулае жыццё, гаварыў пра рэвалюцыю і асабліва пра «рэвалюцыю духа». Ів[ан] Ів[анавіч] лічыў, што ён рабіў гэтую «рэвалюцыю духа» яшчэ ў Нівішчах, калі прыязджаў туды пасля свайго паслушніцтва, а яго за гэта сяляне палічылі «дурным»... Потым Кузьму паставілі на камісію, прызналі здаровым і накіравалі на фронт.

Лаўрык 31 жніўня, у панядзелак, а 1-й гадзіне дня, выехаў у Нізінкі. Вазіў яго Стратон з Палянкі. А 7-й гадзіне ўвечары прыехалі ў Нізінкі. 1-га верасня, як і заўсёды перад пачаткам заняткаў, быў школьны малебен. Дырэктара змянілі. Новы дырэктар С. С. Мечык усім дужа падабаўся, што надта ласкавы. Вучні прывезлі розныя чуткі: Вільня ўзята, цар у Магілёве. Некаторыя бачылі самаго цара і яго акружэнне («світу», а світа па-беларуску — сярмяга). Некаторыя ўцяклі ад наступу немцаў. Браты Бойкі прывязлі з сабою матку і сястру. М. Мокрага яшчэ не было. Кузьма пісаў Лаўрыку з Масквы, каб ён менш чытаў газет і часопісаў. Накіроўваў яго на чытанне прыродазнаўчае літаратуры. Пісаў, што ратунак нашага народу не ў паэтах і кніжніках, а ў плузе і фабрычнай машыне. Гэта было яго новае захапленне. А Лаўрыку хацелася чытаць мастацкую літаратуру, часопісы, газеты, хацелася ведаць, што дзеецца на свеце. Да прыродазнаўчых навук Лаўрык чуў у сабе меншы нахіл, хоць і разумеў, наколькі яны важны і патрэбны ў нашым далейшым развіцці. 31 кастрычніка, у 5 г. 25 хв. увечары, з'явілася на чыстым небасхіле камета. Яна мела форму цыліндра з вузейшым канцом уніз. Праз пяць хвілін з'явілася другая камета, у форме падковы. Гэтая камета была меншая за першую і знаходзілася між месяцам і першаю каметаю. Абедзве каметы плылі ў кірунку

да Сірыуса і праз 10 хв. (5 г. 35 хв.) схаваліся і ўжо больш не з'яўляліся. Публіка, што гуляла на Аршанцы (галоўная вуліца ў Нізінках), каметы не бачыла. І на Лаўрыкавы запытанні корчылі кіслую міну. А ў Лаўрыка, пад уражаннем таго, што ён бачыў на небе, з'явіліся ўвазвышаныя думкі аб адзінстве Сусвету і аб мізэрнасці войнаў, людзей, і гора, і няшчасця...




Раман прыслаў Лаўрыку песню:

Полночь наступает,
Луна горит светло,
Отряд наш выступает
С бивака своего...
Горы, вершины,
Я вас вижу вновь,—
Карпатские долины —
Кладбище удальцов...

16 лістапада, у панядзелак, ехаў Раман дамоў і заехаў да Лаўрыка ў Нізінкі. Лаўрык ляжаў. Не паспелі пагаманіць,— трэба ехаць. Нанялі падводу (мужычка), за 4 рублі. Чакаў Лаўрык Рамана назад к чацвяргу 19 лістап. Але з двара Раман паехаў з бацькам на ст. Вясёлае. Лаўрыку ішоў 16-ты год (з вясны). Гэтую восень Лаўрык пісаў вершы (інтымнага характару). Думаў пра Кузьму, вайну, народ... У пансіён Лаўрыка не прынялі, а давалі па 15 р. у месяц.

Калі Лаўрык паехаў у школу (31/VIII), з работаю ўпраўляліся патроху. Жыта памалацілі сырамалотам, машынаю, за два дні. Прыязджаў з сваёю машынаю Васіль Румянак. Лён памялі таксама машынаю, машыну бралі ў Вушове (Высокае). Карову, што купілі, зарэзалі. А Гашка прывяла карову ад свайго бацькі, чорную. У той час гналі многа скоту бежанцаў. Марынка вучылася ў Забор'і. Жыла там на кватэры. Іхнага новага настаўніка звалі Нічыпар Максімавіч Новік. Настаўнік быў дужа добры. Асабліва добра тлумачыў геаметрыю, казала Марынка. Геаграфію яна вывучала па кнізе Варанецкага, што выбраў Лаўрык у Нізінках, а бацька купіў. Івана Мікіцёнка не чутна было — ці ў палоне быў, ці забілі.

Паўлюк Леванёнак быў у Смаленску. Якаў Рамапёнак, Раман Аўдакімёнак і Хомка Грышчанок знаходзіліся ў Туле. Ігнат, Андрэй і Паўлюк былі ў шахтах. Антона Салдацёнка і Восіпа Максімёнка пагналі з Краснага сяла на пазіцыю.

Раман быў у Лаўрыка 16 лістапада. Ехаў з Маладзечна. Пабыў у Лаўрыка, уночы, не болей гадзіны: спяшаўся ўдвору. Вёз з сабою дзве чвэрці спірту ў 92°. У Маладзечне пры адступленні загадалі выпусціць увесь спірт у ваду. 17/XI прыехаў Раман удвору.

Стала адліга, слізка. З Камароўкі ссыпку ў Целяпенічы вазілі, у хлебны магазін. І Стахван павёз, на карым кані Цыганку. Раман паехаў з ім і вярнуўся, а Стахван заначаваў там. Думалі ў двара: ці мала чаго заначаваў. Сядзіць Ганна з Гашкаю, пірагоў напяклі, наварылі кашы з канапляным маслам: чакалі радзін. А Стахвана няма і няма.— «Каб і другую ноч не заначаваў... Пайду ў Целяпенічы»,— кажа Ганна. Узяла кій і пайшла. У Целяпенічах яўрэі ёй кажуць: «У Галубцоў, на Вушоўскай вуліцы, гуляе ў карты». Пайшла яна туды. Конь Цыганок, усё паеўшы, стаіць. Яна гамоніць з канём: «Мой ты канёчак»... Выскачыў Стахван... Селі, паехалі.— «Яны мяне змусцілі»... Ехаў і плакаў. А яны, Галубцы, такія: як абгуляюць, вон выкінуць, ні гарэлкі, ні есці не дадуць.— «Я зусім захварэў. Можа, памру».— «Цэл будзеш, не памрэш»,— кажа Ганна. Прыехалі ўдвору. На печ ён. А бабы ідуць: карцёжніка свайго Ганна прывязла. Лазню тапілі. Прыйшоў Мікола Рыжавусы: «Дзядзенька, у баню!» Стогне на печы і есці не пайшоў. А Гашцы дрэнна. Але з Ганнаю ў лазню пайшла, каб бабы не падумалі, што ўжо родзіць (тады кепска парадзісе, калі ведаюць і думаюць). Каля палка Ганна венікам яе троху пацёпала. Прыйшлі з лазні. Карцёжніка з печы сагналі. Гашка лягла там. Уночы Раман скарэй па Курыліху. Аксанка свяціла. Пакуль выхадзіў,— радзілася. Ганна выскачыла: «Раман! Ідзі назад! Ідзі!» Ён назад чэраз парог бразь — і заваліўся, спалохаўшыся. Але ўсё добра. Адрэзалі хлеба, пайшоў па Курыліху. На другі дзень матка кажа: «Вазьмі воску, дай на царкву, едзь у Харошае, прывязі мачыху». І мачыха была, пакуль і хрэсьбіны не адышлі. Назвалі Толя.

Прабыў Раман пяць дзён, і ў нядзелю, 22/XI, выехаў. Вёз яго бацька на ст. Вясёлае. Там Раман паехаў на Мал., а бацька, пакінуўшы каня ў Аблоні, паехаў у Смалу да

Пракопа. Завёз Пракопу грошы і яды. Казаў Пракопу, што ў двары многа работы: вазіць ваду, глядзець за скацінаю, няма дроў. Ён з Ганнаю ездзіў у Мох і там насеклі два вазы лазы. І часта непакоіла мачыха, прыходзіла з Харошага. Наогул дрэннае было іхнае цяпер жыццё.

28/XI Саўка вазіў лапа́тнікаў у Сянно і там працаваў на Сіўчыку з тыдзень. Прыехаў з акопаў прастуджаны (і пасля таго ўсё хварэў). Дарка радзіла сына, імя далі Сяргей.

З Масквы Кузьму накіравалі ў Пскоў. Ад Масквы да Пскова давалі па 33 кап. у дзень. У Пскове пражыў ён тыдні тры. Начаваў у фанерных футлярах з-пад аэрапланаў, начаваць было сцюдзёна, мёрзлі як сабакі [1]. Усё было дорага. У Пскове ля дзвярэй пякарань цягнуліся вялікія хвасты, чакаючы хлеба. Падаваў Кузьма дзве дакладныя запіскі з просьбаю, каб хутчэй накіравалі яго ў сваю часць або ў запасны дывізіён. Адказу не было. Пайшоў асабіста да ад'ютанта. Падпалкоўнік, высокі, павярнуўся да Кузьмы.— «Ваша высокаблагародзіе, я жадаю паступіць у...» — «А я жадаю табе адправіцца к чортавай мацеры...» Кузьма хутчэй змёўся з яго раздражнёных воч, і тым скончылася. Настрой у Кузьмы ўвесь час быў пакутны: лістоў ніадкуль не было, і ён думаў, што Раман трапіў у палон, калі немцы прарваліся каля Нова-Свянцян у абход Вільні, бо ён быў дзесьці там, што Пракопа пагналі на пазіцыю, што ў доме смутак і гора... 19 кастрычніка, у панядзелак, выехалі з Пскова ў кірунку на Воршу (а куды — невядома, бо тады салдатам не казалі, куды іх вязуць,— так жа сама вывазілі і з Масквы невядома куды). У Старой Русе хадзіў ён па гораду, хацеў купіць што-небудзь з'есці з хлебнага і купіў толькі горкія гарохавыя ляпёшкі. 27 кастрычніка, уночы, прыехалі ў Гомель (ад Пскова ехалі 8 дзён!). Ад Пскова давалі ўжо па 56 кап. у дзень. І цэны, калі заехалі далей на паўдзён, у Беларусь, сталі ніжэйшыя. Але ўсё ж хунт белага хлеба каштаваў 10 кап., хунт чайнай кілбасы 45 кап., хунт сала 45 кап., хунт цукру 30 кап.,— усё разы ў два і болей супроць мірнага часу. З паўдня вязлі многа палонных аўстрыякаў. Аўстрыякі былі абадраныя, у лахманох, брудныя, галодныя. Ім выдавалі парцыён — 25 к. у дзень: толькі не ўмерці з голаду. У Гомлі было добрае,

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Начаваў... ~ сабакі».— аўтарская паметка: «Сняжок, пахмурна».

яснае, цёплае восеньскае надвор'е. Тут звадзілі ў лазню і прышчапілі тыфус. А лістоў не меў Кузьма ўжо другі месяц, бо ўсё пераязджаў. 27 кастрычніка позна ўночы выехалі з Гомля — ізноў невядома куды. 28 кастрычніка прастаялі амаль цэлы дзень на станцыі Жлобін. Далей павязлі на Бабруйск і Асіпавічы. У Асіпавічах перасялі на ветку, што на Урэчча. У Урэччы чыгунка кончылася. Далей пагналі пехатою, на Слуцак. У Слуцку, мусіць, быў штаб арміі (ці фронту). Са Слуцку гналі ад этапу да этапу, пехатою, кіламетраў па 20 у дзень. У Слуцку былі 1 лістапада, а ў сваю батарэю прыйшоў Кузьма толькі 15 лістапада.

## 1916

На каляды (1915—16) у П'янаве, у новай школе, быў спектакль. Ладзілі вучні Заборскае (Раздзельскае) школы. Зрабілі памост, павесілі заслону — зусім тэатр. Настаўніца палянкаўская была ўжо цяпер міласэрнаю сястрою. На каляды прыязджала ў госці. Яна сказала Лаўрыку, каб і ён узяў адну ролю. Ён вывучыў і выканаў ролю салдата. Апрача таго, дэкламаваў «Тарас на Парнасе». І Ганна, матка яго, была на тым спектаклі, і Марынка,— ездзілі. І Верка Маманцёнкава з Палянкі, што вучылася з Марынкаю ў Забор'і, была на спектаклі.

Святы праводзіў Лаўрык у дварэ як зазвычай. Чытаў. Хадзіў гуляць. Ездзіў у Харошае. Чытаў ён цяпер Поссе: «Счастье и смысл жизни». Хадзіў гуляць да Мікітавых, Паўлюковых, Салдатавых. Мікіта — гаспадар, уладца, пакрыквае. Каму дазволіць сесці, каму не. Жартуе, сварыцца на дзяцей. У Салдатавых — лучынка. Зена: «Запалілі б мы хоць раз лямпу». Перад людзьмі ёй хочацца. А іхныя: «Багачка такая праявілася». Зюкня пра дурных, пра вайну. Курыла Скнары — пра кандакі, трапары.

У дварэ, асабліва ўранні, крык бацькі, маткі. І зрабілася тым часам Лаўрыку ў Камароўцы нудна. Мужчыны ўвесь час рэжуцца ў карты. Бабы дурэюць, пляткараць, зводзяць языком, махаюць языком. І здавалася яму, што нідзе няма нічога жывога, светлага, адхлапнага... Быў ён у дварэ да 10 студня. 10-га паехаў у Нізінкі.

Святкамі (1915—1916) прыязджала ў Камароўку ў госці Вусцінка з Калюжнага, з сынам Мішкам. Мішка быў ужо ўвелькі з Лаўрыка і вучыўся ў Далёкім Сяле. Рос панічком. Высокі, тонкі, з негім, як у дзяўчынкі, тварам,



Ганна Гарэцкая — сястра пісьменніка. 1919 г.

даволі прыгожы. Натуры вясёлае, бесклапотнае — па бацьку. І жартлівы, як бацька. Вусцінка апавядала, як ішоў у салдаты швагер яе Яхім, як усе жалелі яго і плакалі, а найбольш за ўсіх, вядома, жонка яго Дунька.

Святкамі ж ізноў з'ехаліся «наследнікі». Але не было ладу: то той, то той не згаджаўся. Мачыха наняла адвака-та Хазанава. Васіль яе вучыўся ў гарадскім вучылішчы. Ён надумаўся ісці ў салдаты. Матка сварылася на яго, а ён стаяў на сваім. Вучыўся так сабе. Вырас вялікі. І такі ж, як яна: чарнавокі, з арліным носам. Толькі картавы. Дадон Паўлюкоў ляжаў у шпіталі ў Полацку. Волька, сястра яго, казала: «Наш Додзік у шпіталі, але не раніты, а па слабасці здароўя». Потым Додзік прыйшоў на месяц удвору (пасля апендыцыту) і біўся з Васілём мачыхіным. Паўлюка Ваяводу прысудзілі на тры месяцы, што зняважыў папа. А ён пачаў справу супроць брата — Івана Фамі-ча, «за падлог рукі». Івану Фамічу таксама пагражала турма.

Стахванавы прадалі карову за 103 р. Пяньку ад сажалкі перавязлі, усё збіраліся яе распушчаць. Работы было многа, клопату многа, а радасці — не дужа. Як лістоў ад каторага з вайны доўга не было, Алёна прыхадзіла к Ганне — пасядзець, пагаманіць і паплакаць. Раман быў у Гарадку каля ст. Алёхнавічы і ў Валожыне. Пісаў, што іх, апалчэнцаў, будуць замяняць у дружыне раненымі, а іх пашлюць на фронт. Пракоп з 13 лютага быў у вучэбнай камандзе. Кузьма — у Петраградзе. У сакавіку нанялі Івана Зюзькевіча з Слабодак, увелькі з Лаўрыка. Корму жывёле было даволі. Пчол завеяла дужа снегам. Стахван адкапаў іх. Але тры калоды памёрла: дзве леташнія і адна сёлетняя.

Заборскі настаўнік Нічыпар Максімавіч Новік паслаў Марынку і Верку Мамацёнкаву дамоў, сказаць бацьком, каб перавялі іх на другую кватэру, бо іхны гаспадар захварэў. Скора ён сам паехаў у Петраград і паступіў у Паўлаўскае ваеннае вучылішча. Лаўрыкавага былога настаўніка ў Далёкім Сяле, Івана Паўлоўскага, забілі на вайне. 11 сакавіка згарэў панскі млын у П'янаве, ад неасцярожнасці ў качагарцы.

12 студня была ў Нізінках школьная вечарынка. Прапаршчыкаў і салдатаў з былых вучняў — чалавек дзесяць. Вейка, іхны вучань, цяпер прапаршчык, таксама быў. Ля дзвярэй стаяў гарадавы, паклаўшы рукі ў кішэні. Вейка, адбіваючы тахт нагамі, бразгаючы банькамі на ботах і сту-

каючы шабляю, падышоў да яго і важна: «Рукі па швам! Дысцыпліны не ведаеш». Лаўрык падумаў: «Ці той гэта Вейка, што быў яго старшым таварышам? Вось табе й прапаршчык»... Дэкламавалі, igралі на балалайках, на раялі. Кржывіцкі пяяў слаўна. Толькі вучні гарадского вучылішча дэкламавалі дрэнна... Лаўрык слухаў, спярша дзівіўся, а потым адчуў, як расце ў яго непрыемнасць... Са сцэны, з вуснаў дэкламатара-хлопчыка, ляцелі выразы: «Уничтожить тевтонов! Стереть с лица земли! Зверские тевтоны с сатанинским взглядом... Святое дело братьев-славян... Лавры погибшему солдату, которого сталь расколола, огонь уничтожил»... І плёскалі за ўсё гэта. А Рамашкін корчыў пры гэтым такія грымасы, быццам сапраўды некага сакрушаў. Потым паказвалі «Провинциалку» Тургенева і «Дорогой поцелуй» Чапыгіна. Настрой у Лаўрыка ўсе гэтыя дні быў вельмі цяжкі, прыгнечаны. Часам было яму так нудна — хоць галавою аб сцяну бíся. Здавалася яму, што і ён, і ўсё наўкол яго — адна фальш... Ён думаў, што было б яму вясёла і добра, калі б ён ведаў, да чаго імкнуцца, калі б у яго быў адзін вызначаны ідэал. Быць каморнікам увесь час, усё жыццё — здавалася нецікавым, а яго да гэтага рыхтавалі. Ён выпісаў «Жизнь для всех». Гэты часопіс быў для яго цяпер адзінаю праўдзіваю ўцехаю. Потым пайшло сваім шляхам штодзённае школьнае жыццё. Але не было лістоў, і ад гэтага было сумна. Толькі адна прыемная навіна ўсцешыла яго: Рамашкін казаў на лекцыі, што цераз Нізінкі будзе ісці чыгунка і што быццам распачалі ўжо работу. Казалі, што на Слабадзе будзе станцыя.

Кузьма быў на пазіцыі. 20 студня ён атрымаў ад Лаўрыка ліст, у якім Лаўрык выліваў той свой сум. Кузьма напісаў яму суровы ліст супроць яго нуды. Але што ж мог ён яму параіць, калі і сам не ведаў добрага лякарства. І ён пісаў, каб Лаўрык не зачытваўся лёгкаю белетрыстыкаю, ад якой развіваецца павярхоўнасць у поглядах і нездаволенасць у настроі, а каб разнаабразіў сваё чытанне кнігамі па прыродазнаўству, сельскай гаспадарцы, гісторыі, геаграфіі. Каб ён вывучаў чужаземныя мовы. Каб ён быў рэпетытарам, вучыў якога-небудзь беднага хлопчыка, хоць бясплатна. Каб заняў увесь свой час,— тады не будзе нудна. Купіў бы канькі, вучыўся б на чым-небудзь іграць, навучыўся б скакаць... Кузьма раіў яму зблíжацца з тава-

рышамі, пазнаёміцца з дзяўчатамі, развіваць у сабе да іх таварыскае, брацкае пачуццё, а не ідыёцкае, уздыхальнае. Вінаваціў яго, што ён піша свае лісты чужымі фразамі... Прасіў пісаць шчыра, сціпла, па-свойму... Так раіў яму, каб што-небудзь раіць, і адчуваў, што і сам хварэе тэй жа хваробаю суму і нуды і што няма лякарства.

24 студня паслалі Кузьму ў Петраград. Прыехаў туды 27 студня. Ехала так многа людзей, што прыходзілася вылязаць праз акно, каб набраць кацялок вады.

У лютым Лаўрык знайшоў сабе прыемны занятак: выпілоўванне лобзікам з фанеры розных рэчаў [1]. Выпілоўваў рамачку на Кузьмову фатаграфію. Рамачка здавалася яму прыгожаю, і ён цешыўся з свае работы. Потым меўся ўзяцца за цукерніцу. Вучні старэйшых класаў і іхнія (II і I падрыхтавальныя класы) арганізавалі «Общество самообразования». І Лаўрык запісаўся. У суполку выпісвалі літаратурныя і, галоўным чынам, навуковыя часопісы («Сельский хозяин», напрыклад, дзе змяшчаліся артыкулы іхнага выкладчыка М. В. Рытава). Чыталі артыкулы ўголас і разбіралі. Выпісвалі «Вестник знания», «Современный мир», «Неделю». Потым Лаўрык узяўся вывучаць эсперанта. Чытаў: спярша «Путешествия Пржевальского», а пасля ўзяўся за «Воскресение» Талстога. І пастанавіў чытаць толькі тады, як пачуе пільную патрэбу ў чытанні, а больш налягаць на лекцыі. Яму давалі стыпендыю. Хадзіў ён у тым самым шынялі, што і раней, у новых ботах, у чорнай кашулі і ў сініх дыяганалевых штанох. Шапку насіў старую. Жыў на тэй самай кватэры, на Азёрнай вуліцы, у Кідалінскіх, і ў гаспадыні браў абеды. Часта было яму нудна. Не хапала грошы, пазычаў у таварышаў. Зняўся з Сяргеем Ваяводаю. У сакавіку прыязджаў да Лаўрыка бацька, прывёз яму харчоў. Дзеля дарагоўлі, у вучылішчы значна павялічылі плату за праванавучэнне і плату ў пансіёне з сваякоштных пансіянераў. Лаўрык чакаў, што і стыпендыю павялічуць. Давалі яму 15 руб. За кватэру і за тое, што варыла страву, плаціў ён гаспадыні 8 руб. Так мала брала, што даўны кватарант. На абед быў у яго суп ды бульба, часам з мясам. І малочны суп бываў. На вячэру — бульба. Заставалася 7 руб., на якія ён купляў хлеб, цукар, гарбату, газу, паперу. І часопіс жа выпісваў. Грошы не хапала, а ён выпісваў. І Кузьма пасылаў

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «У... ~ рэчаў».— аўтарская паметка: «гл. стр. 117 А».

не яму, а ўдвору... Дурні абодва. Кузьма не ведаў, што Лаўрыку так жывецца, а Лаўрык праўды не пісаў. Прыйшоўшы са школы дамоў, Лаўрык абедаў, потым чытаў кніжку ці рысаваў (па анатоміі і тушоўка), а часам ішоў да таварышаў. А 6-й гадзіне ішоў пагуляць па Аршанцы, з кім трапіцца, больш з Байком і Цыганоцкім. Таварышаў блізкіх у яго не было. Увечары не заўсёды паспяваў падрыхтаваць лекцыі, таму раніцою ўставаў шыбка, каб яшчэ троху падчытаць. На кватэры з ім былі: Румянак, Песцік, Палазок, Амелька (два смаленцы) і рамеснік Мачулка (зямляк). Адказваў Лаўрык па ўсіх прадметах добра: рас. мова 5, геагр. 5, заалогія 5, батаніка 5-, алгебра 5. З алгебры праходзілі дзяленне дробаў. З рас. мовы прайшлі Ганчарова і ў палове сакавіка праходзілі: «Бедные люди» Дастаеўскага. За гэты час Лаўрык прачытаў «Преступление и наказание» Дастаеўскага (яно вельмі яму падабалася) і «Фаўст» Гётэ. А чытаць вялікія тамы па сельскай гаспадарцы, як раіў Кузьма, не было ахвоты. «Лепей у вёсцы папрацаваць з плугам і бараною»,— разважаў ён. Кузьме пісаў рэдка, а той там трывожыўся, чаму ён не піша. Сонца ў Нізінках свяціла ўжо па-веснавому. Спіну за сталом прыгравала як улетку. 23 і 24 сакавіка было палетняму цёпла. 25-га, на благавешчанне, ішоў дробны дождждзык са сняжком, вокны плакалі. 26-га, у суботу, ганялі вучняў спавядацца. Шумела вясна, снег раставаў. Меліся вучыць у Нізінках вучняў вайсковаму строю. Казалі, што настаўнікаў іх, Бекарэвіча (ён жа Цытовіч.— *Рэд.*) і Чалдона, забяруць з першым наборам сінебілетнікаў. 2-га красавіка, у вербную суботу, быў роспуск, і адпусцілі дамоў аж да восені і без іспытаў. Казалі, што беззямельных вучняў паставяць рабіць салдаткам. Казалі, што яны будуць у іх і есці, і жыць,— адным словам, хоць троху заменяць іхных мужыкоў. Лаўрыка перавялі з 2-га падрыхтавальнага класа ў 1-ы спецыяльны. Мікола Мокры канчаў сёлета вучылішча і таму заставаўся ў Нізінках пазней. Увосень Лаўрык яго ўжо не ўбачыў бы. Мікола прынёс яму «Нашу ніву» за колькі год, усе беларускія кніжкі (на некаторых быў Кузьмоў надпіс) і аддаў іх Лаўрыку, каб беларушчына ў Нізінках не звадзілася. Былі ў пансіёне хлопцы, што беларускімі кніжкамі цікавіліся... Была ўжо праўдзівая вясна. Снег блізу ўвесь растаў. У іншых месцах і зямля прасохла. А на вуліцы, па дарозе была вялікая патапеча. Блізка быў вялікдзень, і думалася: як-то трапіцца яго сустрэць?

На вялікдзень Лаўрык быў ужо ў двары. 5 крас[авіка], у аўторак, мыўся ў лазні. Ішлі гутаркі пра кабыл, жарабкоў, куплю, злучкі, бежанцаў. Пяньку Стахванавы яшчэ не мялі.

9 красавіка, у вялікую суботу, увечары, прыйшоў Раман... Колькі было радасці і мімавольнага смутку! На чацвёрты дзень бацька завёз Рамана ў Лугвенева, а адтуль Раман пехатою пайшоў на станцыю Вясёлае.

У Камароўцы старыя людзі знаходзілі прымету, што скора скончыцца вайна.— «Калі была японская вайна, дык светавой заранкі не было, а потым, перад канцом японскае вайны, яна стала. І цяпер так: усё яе не было, а цяпер ёсць яна». Светавая заранка бывае перад днём — светлая, светлая зорка, вялікая.

16 крас[авіка] запаслі статак. Пастухом наняўся Гаўрыла Афіцэр. Гаралі ўжо. Ішла вясна. Камароўшчына зазелянелася, траўка і красачкі расці пачалі. Рабіна, агрэст, смуродзіна да 20 крас. ужо распусціліся. Зязюлька прыляцела.

22 крас[авіка] ездзіў Лаўрык у П'янава, на талаку да паноў: вазілі бярвенне з Чорнае Пушчы на новы млын. Шумела вясна, лес быў зялёны, і зязюлька кукавала... А Лаўрык, за працаю, не адчуваў гэтага вялікага хараства і разважаў: чаму гэта ўзімку так яно адчувалася, а цяпер не?

У траўні Лаўрык узяў рыхтаваць у сваё вучылішча пяць хлапцоў: Шэйлачэнку (сына п'янаўскага фурмана Фэба), Масолку (сына п'янаўскага млынара), Пракапенку, Чарнячка з Івон і Аўсеенку (Алёнінага пляменніка). 3 траўня (перад пераплаўнаю серадою) Стахван і Ганна пайшлі ў Сцюдзянец богу маліцца. Цяпер народ усё ішоў варажыць да Гнідаўскае настаўніцы, за 30 вёрст ад Камароўкі. Яна, казалі, многа праўдзіць. (Напрыклад, сказала Ганне Петраковай, што яе сын памрэць.) Угадвала, колькі сям'і і шмат чаго такога. Іван Мікіцёнак прыслаў адкрытку з палону. Яхім Саладуха калюжанскі (швагер Вусцінкін) прыходзіў дамоў на 6 дзён. Пра вайну нічога не было чуваць. Бацька дэкляраваў Лаўрыку выпісаць «Біржавыя ведамасці».

Марынка здала экзамен у Заборскай 2-класнай школе. Ішоў ёй 14-ты год. Цяпер працавала ў двары. Думала паступаць у Аршанскую семінарыю. Але каб пачаць рыхтавацца — не мела некаторых кніжак. Лаўрык пісаў Кузьме, каб ён у сваіх лістох падбадрываў Марынку. Рыхта-

ваццa мелася ў харошаўскай настаўніцы, бо там павінна была вучыцца і Верка Мамашчёнкава.

Памёр стары Міхась у Палянцы. Гаўрылу Мікіцёнка пагналі на пазіцыю. Сцяпан Аўдакімёнак быў у разведцы і зламіў руку. Лячыўся ў Магілёве, потым некуды перагналі. З 1-га траўня і доўга была сцюжа. Да гэтага часу Стахвапавы ў сваім полі даскарадзілі ўсё, а ў Палянцы на сватавым — адну паласу. Аставаўся рэз і гарод. Ужо сеялі бульбу, боб, квасоль. Сад пачаў цвісць. Дулька была ў поўным цвеце, а шура і сліўкі ўжо адцвілі. Пчол пяць калод памёрла. Коні жылі. Цыганок пастарэў. Было дзве каровы, малака было даволі. Свіння парасілася, парасіла 4 штук. Авечак гэтую вясну было 9 штук. Плятні ў полі ўсе паламаліся. Леска вакол саду была яшчэ цэла. Тыя кусты шуры, што Кузьма садзіў на вуліцы, прыняліся і зацвілі два, трэці не прыняўся. Лужыну каля варот засыпалі мяллем, але з-пад свінарак бегла троху на вуліцу. Ніна даўно ўжо пачала гаварыць, картавіла троху [1].

На Міколу Лаўрык хадзіў у Цотава на кірмаш. Бачыў там Польку Паўлюкову. Яна зрабілася худая, чорная, смутная нейкая. Вучні Лаўрыкавы прыхадзілі а 1-й гадзіне, калі адпрагалі на абед. Займаліся $3^1/_2$—4 гадзіны. Пісалі дыктоўку (і Марынка з імі), дыктоўку ў два лісты. Рабілі некаторыя па 20, а некаторыя і па 30 граматычных памылак. Рашалі па лісту задач, вучыліся арыфметыцы і геаграфіі. Дыктоўку пісалі кожны дзень, пераказ цераз дзень, праца па арыфметыцы была праз два дні. Плацілі па 7 рублёў у месяц, а калі паступяць — павінны даць па 10 руб. наградных. Хату старую, дзе займаліся, Лаўрык і Марынка блюлі ў чыстаце. Лаўрык часам на дудках іграў.

Ішоў Лаўрыку 17-ты год. І гэтаю прыгожаю вясною, так многа працуючы, выбраў ён час закахацца ў сваю прыгожую швагерачку Надзю... 17 траўня — абед, а яму есці не хочацца, сумна яму. 18 траўня гараў. Прырода, лес, птушкі. Коні стаяць, спусціўшы галаву. Гаруць людзі. Лаўрыку прыемна — і цяжка на сэрцы. Удод супакоіўся. Зязюля кукуе: ку-ку! ку-ку! Лаўрык успамінае варажбу. Быў у Палянцы. Наваражылі яму, што памрэ ў 1952 г. (52 гадоў)... Маладым такія гады вялікімі здаюцца, ім не хочацца старымі быць. Жэніцца ў 1926 г. Паступіць пяць яго вучняў у школу. Надзя... Людзі ідуць богу маліцца ў

---

[1] У тэксце, на палях, справа, насупраць слоў: «..., картавіла троху».— аўтарская паметка: «Рапей?»

Мазалаўшчыну. І Надзя ідзе. Чаму б і яму не пайсці? Пайшоў... Прыгожы гай перад Горадам, хараша там пасядзець, супачыць. У Горадзе ў салдацкіх казармах брудна. Бачыў там Міхалку. Горад. Бессаромнасць камароўскіх баб. А ў вёсцы так бы не зрабілі. Чаму? Тут — перад гарадскімі, чужымі. Ад Горада да Мазалаўкі 12 вёрст. Змарыліся. Сядзяць, гамоняць. Манашкі ў чорных клабуках і з доўгімі кіямі. Многа жанчын. Крыжыкі прадаюць. Свечы. Людзі гуляюць. Старая архітэктура. З лесу відаць гарадскія цэрквы. Возера. Гутаркі ў манастырскім гумне. Піск, смех. Звоняць на вячэрню. Усе дзяўчаты пасыпалі з гумна. Хмары, цёмна. Лаўрык думае: у жыцці змаганне паэзіі і прозы. 19 траўня, ушэсце, добрае веснавое надвор'е. [...] Уночы было халаднавата, але затое вясёла. Нясмелыя зірканні... У манастырскім пакоі абламілася падлога. Усе начлежнікі праваліліся. Сустрэча абразоў. Урадпік на рыжым кані, напірае на багамолаў, крычыць: «Асадзі! Асадзі!» Манашкі ў чорным стройна пяюць. На абразы з усіх бакоў пасыпаліся палотны. Як мухі ляцелі. Было сем папоў. Гаршчынцы, галынцы. Ідуць дамоў. Манастыр блішчыць адзаду. Бярэзнік. Лаўрык разуваўся, пываліліся цукеркі. Не пазнаў, што свае, і кінуў іх. Надзя сядзіць задуманая. Лаўрык закахаўся...

20 траўня пісаў Лаўрык Кузьме, пытаўся, на якую станцыю па яго ехаць: на Воршу ці на Вясёлае? Раіў, каб ехаў Кузьма на Воршу і заехаў бы ў Нізінкі, пабачыўся бы там са знаёмымі, з Міколам Мокрым. Але гэты яго ліст не дайшоў да Кузьмы, бо ў той дзень, як яго занеслі ў Целяпенічы, згарэла ўся Вушоўская вуліца, на якой пошта, і пошта, і пісьмо згарэла... Работа ў двары патроху пасувалася наперад. Ужо пачалі сеяць авёс. Пшаніца і вык узышлі дужа ладна. Зялёненька, роўненька. Але ўвесь май быў сцюдзёны. Бывала, што ўночы вада пакрывалася тоненькім лёдам.

30 траўня Стахван і Ганна ездзілі ў Горад браць сваю часць. Прабылі два дні. Атрымалі 132 рублі. Быў там Іван Фаміч, Паўлюк, мачыха, апекуны.

2 чэрв[еня] Лаўрык на палянкаўскім полі. Ідзе дождж. Баляць яму ногі. Сумна яму, што не бачыў Надзі. 3 чэрв[еня] была ў іх Надзя. Лаўрыку вясёла. Яе ж бацька ка-

жа яму замову ад кахання.— «Хадзі к нам гуляць»,— сказала яна.

9 чэрвеня (?) выехаў Кузьма з Камароўкі ў Іркуцк. 10 чэрвеня быў ў Смале. Заходзіў да Пракопа. Але яго не знайшоў (?). Пракоп быў на касьбе.

24 чэрвеня, на купалле, Лаўрык спаў ў пуні. Пайшоў вялікі дождж, нацякло скрозь страху, усяго яго абмачыла. 29 чэрвеня ляжаў ён пад кустом і думаў. У Харошым, у садзе дзеда свайго нябожчыка Тамаша Ваяводы. Запусценне. Мала пчол.

Сніўся Лаўрыку сон. Кажуць, што Надзя ў манашках. І ён пазнаў яе. Многа чорных манашак, і яна між іх. Твар малады, прыгожы, вочы галубыя, задумлівыя, валасы русыя, узбітыя, як і раней. Ува сне ў яго накруціліся слёзы, расціснулася сэрца. І яна пераҗывае тое самае: ён гэта разумее.— «Божа, што, калі гэта спраўдзіцца?»

Лаўрык праводзіў лета, як і заўсёды. Узяўся быў вывучаць нямецкую мову, але цяжка было разбірацца ў гатыцкіх літарах. Вывучаў эсперанта. Ужо чытаў кніжку па эсперанта і перакладаў.

Марынка мелася хадзіць у Забор'е яшчэ год, а потым думала паступаць у настаўніцкую семінарыю. Канчаўся ёй чатырнаццаты год.

Васіль мачыхін думаў паступаць ў Паўлаўскае вайсковае вучылішча. Улетку Карпа прыходзіў дамоў на 18 дзён. Міхалка Піліпёнак прыходзіў дамоў. Якаў Раманёнак хварэў на тыфус.

Раслі яблыкі, спела маліна, канаплі былі ўжо вялікія. Лён Стахванаў у гэтым годзе быў лепшы за ўсіх. Да 23 ліпня паджыцце (сена ў жытнім полі) ўсё пакасілі, ды пасушыць і вывезці не справіліся: перашкодзіў дождж. Пачаўся дождж 21 ліпня, ішоў 22 і 23 ліпня. Праца ў полі спынілася. Жыта зжалі ў Палянцы і дзве сваіх вузкіх паласы. Жыта так і ляжала ў снапох пад дажджом. Жнеі бралі ў дзень па 1 р. 25 к., а касцы па 3 руб. Але Стахванавы не наймалі. Жалі Ганна, Гашка і Марынка. Касілі Лаўрык і бацька. Лаўрык ужо і вазы навучыўся класці. Хлопчыкі яго вучыліся нішто сабе. Да паловы ліпня прайшлі задачнік Малініна-Бурэніна, браліся за некаторыя задачкі з Верашчагіна.

24 чэрвеня часць, у якой быў Раман, стаяла на пазіцыі на паўночны ўсход ад Баранавіч, вёска Скробава. У гэты дзень, а 7-й гадзіне раніцы, яны наступалі і выгналі немцаў з акопаў. І Раман наступаў. Пра гэты бой ёсць арты-

кул Саянскага «Два боя» ў газеце «Русское слово» за 10.VI, № 159, дзе апісан ўвесь бой падрабязна, толькі скрыт № 3 Каўказскага корпусу, 52 дывізія, і дадзены толькі пачатковыя літары палкоў: С.— Саянскі, № — Новабаязецкі, Ш.— Шамахінскі. У гэтым баі ранілі Рамана ў кісць левае рукі, навылёт, куляю, з раздрабленнем косткі безыменнага пальца.

Раман, як забралі яго на вайну, служыў у Горадзе, быў у Яме, Ксенеме, Вільні, Радзівілішках (у чэрвені 1915 г.), адкуль чакаў адпраўкі на пазіцыю ў 10 армію, вазіў у Панявеж маладых салдатаў, быў там з тыдзень, Гашцы прыслаў грошы 20 рублёў, у жніўні быў у Бабруйску, з 11 жніўня, калі пісаў, што іх пагоняць канечне затрымаць немца, ад яго не было лістоў удвору аж да пачатку верасня. У пачатку верасня ад яго атрымалі ліст, пісаны яшчэ 17 жніўня, што яго пагналі на пазіцыю і «загадалі затрымаць ворага».

Потым быў у 267 зап[асным] бат[альёне] у Бранску, адкуль — крок на пазіцыю. 12 сакавіка паехалі на Бабруйск. У палове сакавіка былі ў Барысаве.

13 ліпня Стахван і Гашка паехалі ў Смалу даведацца раненага Рамана. Мезенец левае рукі застаўся ў Рамана сагнуты. Пракопа не бачылі, бо ён быў на касьбе. Пракоп заходзіў да Рамана.

6 жніўня быў Лаўрык у Харошым, сядзеў на дзедавай магілцы і думаў аб жыцці. Бярозкі, ціха... Едзе кучар на пары панскіх рысакоў...

У палове жніўня прыязджаў ў Харошае і ў Камароўку Іван Фаміч. Наследнікі, нарэшце, памірыліся. Падзялілі рухомае і паехалі ў Горад дзяліць нерухомае. Цэлы тыдзень думалі атрымаць грошы, але мачыха не згадзілася. [...] У яго [Івана Фаміча] прывычка лічыць сябе вышэйшым за другіх. Такое ўражанне засталося ў Лаўрыка.

Скора Пракопа адправілі на фронт. Калі ён быў на касьбе, салдаты хадзілі на вёску гуляць з дзяўчатамі. І Пракоп хадзіў. Камандзір батарэі загневаўся і паслаў на фронт. Выехаў Пракоп з Смалы 17 ліпня. Накіравалі яго ў 2-гі грэнадзёрскі корпус. 21 ліпня прыбыў ён у сваю часць (грэнадзёрскі мартырны дывізіён, 1 батарэя, 1 ўзвод). Стаяла батарэя ў раёне Сіняўкі. Назначылі Пракопа тэлефаністам.

Хадзіў ужо дзяжурыць. 26 ліпня цэлую ноч ехалі, батарэя перабіралася на другую пазіцыю. На фронце было зацішна, была толькі артылерыйская перастрэлка. Нашы

батарэі стралялі дужа часта, а нямецкія зрэдку. Першы раз хадзіў Пракоп па лініі злучаць дрот перад вечарам. Стрэлы далёка, а яму здавалася, што блізка. Як толькі выбух, ён — бабух на зямлю. У варонкі хаваўся. У пачатку жніўня было яму цяжка і сумна. Ніхто яму яшчэ не напісаў сюды. І прайграў грошы ў карты. Да пазіцыі было яшчэ далёка, хацелася есці, а грошы няма. Прадаў гадзіннік за 8 руб. Але ўсё было страшэнна дорага, і ён напісаў Кузьме, каб выслаў яму троху грошы. Але што прайграў — не прызнаўся, а напісаў, што на ст. Замір'е, дзе яны начавалі, укралі ў яго 20 руб. У батарэі абжыўся, ведаў усіх сваіх тэлефаністаў, разведчыкаў і так таго-сяго. Кожнага дня было ў іх дзве гадзіны заняткаў: гімнастыка і пешы строй, а ў дрэннае надвор'е — славеснасць. 6-га жніўня, калі Лаўрык сядзеў у Харошым на дзедавай магілцы, Пракоп дзяжурыў на наглядальным пункце, глядзеў у трубу Цэйса і бачыў немцаў: яны касілі траву. Нашы ім не давалі: як толькі дзе ўбачуць чалавека, дык зараз наша артылерыя пачынала пускаць агонь. Часам было ўжо сцюдзёна ўночы пад шынялём. Боты былі ў яго брызентавыя, прамакалі. А былі ўжо салдаты, што хадзілі ў лапцёх. 6 жніўня дзяжурыў Пракоп у заставе, у перадавым пяхотным акопе. Тут ужо з акопу не выходзь, кулі так і свішчуць, а найбольш уночы. Пабачыўшы жыццё пяхоты, напісаў Кузьме, каб сядзеў ён у запасным, калі троху сядзіцца. І прасіў у Кузьмы грошы: хоць і сорамна, пісаў, прасіць, але пільная патрэба. 8 жніўня скончыўся яму год на вайсковай службе, сядзеў ён на пазіцыі ў акопе каля тэлефону і думаў пра гэты свой год: было горкага і салодкага, а найбольш горкага, і шмат чаму навучыўся... 10 жніўня, не пабыўшы на пазіцыі поўнага месяца, захварэў ён на крывавы мыт. Паклалі ў акалодак пры батарэі. Кроў ды слізь! — як ён мучыўся... Ляжаў з месяц. Потым разлічаў на $1^1/_2$ месяца ў вучэбную каманду, бо з мартыраю былі яны мала знаёмы. 2 кастрычніка выехаў Пракоп з часці ў тылавы рухавы шпіталь. 8 кастрычніка быў у Маскве, у эвакуацыйным шпіталі. Там прызналі ў яго сухоты. 10-га кастрычніка адправілі ў Сімбірск. 14 кастрычніка прывязлі ў Сімбірск. Не было доўга лістоў, ён дужа сумаваў.

Прызналі яму не сухоты, а катар вярхушак лёгкіх, чаму ён быў вельмі рад. Але карімілі дрэнна, у тры змены, у шпіталі было брудна, доктарскі агляд быў нядбайны, сёстры абходзіліся з салдатамі груба. Горад невялікі, брудны,

жывуць найбольш татары, рускіх мала. Дарагоўля была страшэнная. У водпускі дужа доўга нікога не пускалі, таму што быў карантын.

Там ляжаў ён да канца году і потым быў адпушчаны дамоў на два тыдні. Пражыў дома каляды і панассе.

1-га верасня Кузьма цягаўся па Смале. Шукаў Рамана. Быў у шпіталі, адтуль — у Софіеўскія казармы, за горад, і чакаў там гадзіны тры Раманавага ротнага. Выпрасіў Раману водпуск да 12 верасня. І ў той жа дзень яны з Раманам паехалі на Аснову (Пачатак). У Аснове нанялі балагола-тройку да Горада за 25 рублёў. Лаўрыка не заспелі: яго завёз у Нізінкі бацька. Вярнуўшыся, бацька перамяніў каня і паехаў па іх у Горад. Кузьма гневаўся на Лаўрыка, чаму ён не спазніўся на дзень у вучылішча, каб пачакаць іхнага прыезду. Вучні Лаўрыкавы праваліліся. Аб Пракопе нейкія хлопцы з Нівішча, што прыехалі на пабыўку, распусцілі чуткі, што ён вялікі картэўнік. У двары было — як і кожнае лета. Яблыкі сёлета былі, але малавата. Дулькі гэтым часам блізу паспелі, слівак троху яшчэ было. Пчол Стахван глядзеў, дастаў для сыноў мёду. Кузьма хадзіў у поле. Пасабляў браць лён і касіць гарох. Зрабіў шафку і паставіў у яе кніжкі. Жалі матка, Гашка і Марынка. Касіў бацька, Раман і Кузьма з імі. Гарох быў добры, касіць яго было цяжка. Жыта ў гэтым годзе не ўрадзіла, было ў іх вазоў 30. Пшаніца была неўмалотна. З работаю наогул спраўляліся добра. Жнеі бралі ўжо па 6 руб., але яны ўсё сваё пажалі. Была ў іх і побач з Кузьмою за абедам сядзела сарамлівая і прыгожанькая сваццця Надзька. А Кузьма і не ведаў, што гэта Лаўрыкава сімпатыя.

Кузьма пабыў у двары дзён восем. Потым Раман падвёз яго да Нізінак. У Нізінках Кузьма быў 9—11 верасня, у Лаўрыка. Лаўрык жыў тады на другой кватэры, на Малай Аршанцы, з сваім таварышам Марозам. Перад выездам з Нізінак купіў Кузьма Марынцы стужачку ў касу і пакінуў у Лаўрыка. Прасіў пераслаць ёй.— «Затое што плакала, праваджаючы мяне»,— казаў жартуючы. Сеўшы за стол у Лаўрыка перад самым ад'ездам, Кузьма напісаў: «Сэрца шчыміць і млее ў мяне чамусьці».

У Смале заходзіў ён да Рамана. А Раман, завёзшы Кузьму ў Нізінкі да Лаўрыка, сам паехаў назад удвору. І з двара — на Кадзіна, а адтуль у Смалу. Калі прыехаў

Кузьма, ён быў ужо ў Смале. Кузьма ізноў заходзіў да яго. Раман праводзіў яго. З Смалы Кузьма паехаў у Вязу, а з Вязы яго накіравалі ў Гзак. Там, у Гзаку, і прабыў Кузьма месяцы тры, амаль да канца году, чакаючы адпраўкі на пазіцыю.

22 верасня выехаў Раман з Смалы яшчэ раз у водпуск дамоў. Да Татарска ехаў, заплаціў усяго 1 руб., а 15 в[ёрст] прайшоў пехатою. 24 вер[асня] быў ён у дварэ, браў канаплі. Рана яго яшчэ мела гнаенне. Аксанка і Антанінка дужа хварэлі. Меў Раман крыўду і на бацьку. Прыезд яго саўпаў з мабілізацыяй. 24 вер[асня] узялі Нічыпара Петрачонка, Нічыпара Хліманёнка ды яшчэ двух Атрахімёнкаў. Але Паўлюк Атрахімёнак аслабаніўся з белым білетам. Колькі было слёз, жах! Казалі: што будзе, зусім старых бяруць. А яшчэ — як не сорамна было гэтым старым: набраўшыся ханджы, пелі, гулялі і плакалі не сваімі слязьмі, забываючыся на ўсё. А асабліва выдаваў з сябе Змітрок Маманцёнак (Веркін бацька) і Ігнат Карпячонак (староста), абодва з Палянкі. Наракаў Раман за п'янства і на бацьку. Выехаў Раман з двара 29 верасня. Ішоў пехатою 50 вёрст, а то ехаў. На другі дзень, 30 верасня, а 4-й гадзіне, вярнуўся ён у Смалу. Бульбу ў дварэ дакапалі на другі дзень, як ён паехаў. З кастр[ычніка] назначылі яго ў нестраявыя — у вешчавы склад на Шкляную гару.

9 лістапада памёр Мірон Скнары. Паехаў у Камароўшчыну ў дровы, там бервяно цяжкое падняў, ці што, і адразу яму стала. Здаецца, удвору прывязлі яго ўжо мёртвага. На другі дзень (10-га) яго хавалі. Дзеці дужа-дужа плакалі, а асабліва Іван, а пра яе то ўжо і казаць няма чаго: залівалася гаручымі слязамі. Хомчыха, у якой таксама нядаўна памёр мужык, Хомка Ножык, таксама дужа плакала.

У Маманцёнка нядаўна перад гэтым памёрла дачка Гашка, Аксанкіна равесніца. А потым — і хлопчык Коля. Памёрлі з дыфтэрыту.

Камароўка чуць была не згарэла. Дземанка ўзялі на вайну, а Надзьцы, яго жонцы, прыходзілася ўжо мяць лён аднэй. Каб менш было мяць у лазні, яна прынясла лёну жмень на 60 і паклала на ноч сушыць у печ, а сама лягла спаць. А печ яна чыста не вымела, і лён, троху падсохнуўшы, пачаў гарэць. На шчасце, заплакаў яе сын, Сямён. Яна ўсхапілася: лён гарыць. Спалохалася, не ведае, што

рабіць,— схапіла тры кажухі і паклала ў печ на агонь. А потым пабегла ўзбудзіла Паўлюка Трахімёнка. Той прыйшоў, дастаў кажухі, дык два былі яшчэ цэлыя, а адзін папсаваўся. Агонь Паўлюк неяк затушыў.

Марынка была ў дварэ. Рыхтавалася ў палянкаўскае настаўніцы. Дзядзька Саўка апавядаў, як яго бацьку, Кузьму, білі за тое, што ўцёк з прыгону. Аднаго разу Марынка пайшла да іх увечары. Яны жылі цяпер чэраз вуліцу, на ніжнім гародзе. Яны вячэралі за сталом, а Вавіла (Мікола) вячэраў, лежачы на палу, бо яму балела сярэдзіна, і ён не мог устаць, ісці за стол і сядзець. Тады Марынка і распытвалася пра прыгон. Дзядзіна Алёна сама прыгону не служыла, толькі чула пра яго, але многа ўжо чаго забылася. Яна раіла Марынцы схадзіць калі да яе сястры Куляшыхі ў Палянку. Куляшыха сама служыла і шмат чаго ведала пра той час. Але ў Куляшыхі цяпер ляжаў пры смерці сын Іван. 10 лістапада яго ўжо спавядалі. Скора ён і памёр. Калі ён паміраў, дык чулі, быццам нешта ходзіць па вышках, шуршыць па страсе. Марынка пыталася Кузьму ў лісце, ці можа гэта быць. Дужа ўсе плакалі, як ён памёр. Куляшоўна штодня на магілку хадзіла, там плакала.

21.XI пісала Марынка Кузьме: «Здароў табе, мілы і дарагі братка Кузьма! Лісты твае мы атрымалі, і пасылаем мы табе пасылку: мёду, масла, дуль і 2 пары панчох. Панчохі былі зроблены, і мама пасылае іх табе хапаючыся, што настае ўжо зіма, а пасля мама зробіць табе панчохі вышэй калена і прышле, а ты напішы, колькі табе трэба: дзве пары ці адна. Раману пасылку мы пасылаем праз яўрэяў і думаем...»

«На дулі мяшок шыла Гашка, і пасылку зашывала яна, і казала, калі зашывала, што, можа, ты ёй за гэта прышлеш стужачку, дык ты ўжо павінен прысладь». «Іван Куляшоў памёр. Дужа жалка было на хаўтурах. Усе дужа вылі. Аўдуля не выла, а ўсё, плакаўшы, крычала: «А тата, тата, а татачка! Няма ў нас ужо татачкі...» А тады ізноў так. А пасля ахрыпла і не магла гаварыць, дык яна ўсё плакала і нешта крычала, але разабраць няможна было нічога. А назаўтра ўстала яшчэ раненька, было яшчэ цёмна, і пайшла на могільнік,— не ведаю, што яна там рабіла».

«А ці можа гэта быць, што ў іх, калі быў ён хворы і калі паміраў, уся хата хадзіла, як кажуць, ходырам, а найбольш па столі, так, што лісце шурашэла? А сваццы каза-

ла, што ў Куляшовых цяпер так бывае часта». «Коля, будучы інжынер, дужа балаўны хлопчык, сам бегае, так што трэба яго глядзець і глядзець. Ён ужо ўсіх заве і гаворыць «дай» і «на». Мама кажа, што ён увесь, як Лаўрык».

І пісала Марынка, што заўтра (10?) трэба ёй аддаць настаўніцы 10 руб. грошы, і яна не ведала, ці дасць бацька. А ў пятніцу трэба занесці яшчэ грошы на кніжкі... Кузьма, заняты сваімі пісаннямі ды каханнямі, забываўся, што трэба падумаць пра Марынку. Гэта ж можна было б падрыхтаваць яе ўлетку ў семінарыю: можа б, і паступіла. Ад Марынкіных лістоў з'яўляўся ў яго лірычны настрой і сум. Расчараванне ў Камароўцы. Любоў і пагарджанне...

Увосень у двары кожны дзень вылівалі з-пад асеці 100 вёдзер вады. Дзяўчаткі Раманавы палепшалі. Хварэлі на дыфтэрыт. Пяньку намачылі. Не малацілі за вадою. Яны яшчэ і адрасу Пракопавага не ведалі: паведаміў Кузьма. Звінеў сцюдзёны ветрычак па зялёнай руні. Хрупалі камароўскія школьнікі па лёду на балоце. Адна па аднэй праходзілі там без хлопцаў радзіцельскія суботы. Капашыліся паціху старыя і чакалі каляд і добрых навін ад бога. У Ганны балеў зуб, яна мучылася і мучыла другіх, а з'ездзіць палячыцца не хацела ці збіраліся, ды так і не сабраліся...

Кузьма быў у Гзаку. Сэрца яго ныла па Марусі ці па адсутнасці ідэалаў і ад свядомасці, што робіцца ён грубей, гадзей і драбней. Прасіў Лаўрыка, каб пісаў яму часцей: як вобраз Марусі ўстрымліваў яго ад нечыстаты, так Лаўрыкавы лісты ад аскудзення... Нарэшце атрымаў ён лісты ад родных, і пераслалі яму іркуцкія лісты. З іркуцкіх лістоў не было ніякае яснасці: тая ж горыч туманных адносін. Пракоп пісаў яму (у верасні), што ён ізноў у акалодку. У канцы верасня пайшоў дождж і снег, было дужа сцюдзёна. Кузьме хацелася на фронт. Сумна было яму, дужа сумна... Дождж, гразь... Заняткі сурова па гадзінах, але толькі пустая трата часу, а не заняткі. Нават дзён тых восеньскіх, ядраных, з позняю павучынкаю, з лістам жоўтым, апалым, што так мілы былі яму,— і іх не было. Чытаць было нечага і некалі. Людзей няма. Толькі думкі адны, то добрыя, то жудасныя, саромныя і пошлыя. Так думалася яму... А чаго яго хапала?

А матка прасіла Марынку спытацца ў яго ў лісце, колькі ў Гзаку каштуе хунт мёду на рынку. Ён не ведаў,

бо не бачыў, каб прадавалі, а ў магазінах прадавалі па 1 р. 50 к. хунт. Бульбу прадавалі мерамі, па 1 р. за меру. Яблыкі па 10—15—20 к. штука. Красіц па 8—9 кап. хунт. Масла 2 р. і болей за хунт. Цэны былі дужа не цвёрдыя. З паўгода не пісаў Вандзе. Яна паведаміла яму навіны, што Цётка памёрла... Пісаў яму Хвядос Рагавы 27.XI 16 г. Жаліўся на адзіноту і рэўматызм. Нарэшце, у канцы году, калі ён найменей чакаў, раптам адправілі яго на фронт. Дамоў заехаць не хапала часу. Заехаў толькі, здаецца, да Рамана, у Смалу.

## 1917

Каляды (1916—1917) і частку мясаеда Пракоп быў у дварэ. І Лаўрык з Нізінак прыязджаў. Марынка была рада, а то ёй сумна было аднэй без братоў. Раман быў у Смале, адзін Кузьма на фронце.

На панассе (18 студня) Пракоп быў на кірмашы ў Целяпенічах. У Харошым быў на ігрышчы. Заляцалася да яго Зена Таквялёўна з Нівішча і Сашка Мікітоўна з Харошага. Сашка была дужа слаўная дзяўчына. Хлопцаў было многа. Пялі вайсковыя песні. І ўсе пялі «Знаю, ворон, твой обычай...» Песня гэтая была тады папулярная сярод людзей. Яе пялі, пялі без канца (як воран прыляцеў з крывавага бою з рукою мерцвяка, і нявеста пазнала па пярсцёнку, чыя ў ворана рука). Пражыўшы дома з месяц, Пракоп паехаў у Горад, прызналі яго здаровым і накіравалі ў Смалу, у 201 цяжкую артылерыйскую брыгаду. Быў ён там капцёрам — амуніцыя, скуры, абмундзіраванне... Жыў у цёмным падвальчыку з гэтым барахлом. З Раманам бачыўся. І так аж да рэвалюцыі і потым да лета.

У дварэ жыцце ішло сваім парадкам. У Саўкіных хварэў Тарас. У яго быў катар жывата. Ходзячы краўцом па вёсках, па людзёх, еў ён там, што дадуць, і набыў хваробу. Няможна было яму цяпер есці цяжкой яды. А яму жалелі. І ў пост еў ён бульбу, хлеб, каноплі. Было яму цяпер гадоў 36, а дужа пастарэў, ціхі стаў, на вечарынкі, як бывала, цяпер ніколі не хадзіў. Саўка і Алёна таксама дужа пастарэлі. Вавілу на вайну не бралі, у іх было тры мужчыны, нават зайздросцілі другія. Алёна часта ўспаміналa пляменнікаў сваіх,— Стахванавых сыноў. Сваіх жа сыноў

не мела. У гэтым годзе яна дужа плакала па сваёй пляменніцы (?), што нядаўна памёрла.

Саўка быў неяк у Калюжным, у Вусцінкі, дзён пяць. Не спадабалася яму, як яны жывуць. Церах заўсёды то ў Горадзе, то ў Далёкім Сяле, ляпуецца. Батракі скора кідаюць, таму што работы многа, а Мішка, хоць і вялікі хлопец, ляпуецца. Саўка казаў: «Не магу глядзець на ўсё гэта...» Паненка калюжанская жыла дужа бедна. Сама сабе варыла, бульбу таўкла, хадзіла нячыста, ела дрэнна. Жыла ў адным пакойчыку, каб дроў меней ішло.

Кузьма быў на пазіцыі ў пінскіх балотах, каля станцыі Парахонск. Пабыў троху ў акопах, і вызначылі яго як агранома ў камісію рэквізаваць сена ў сялян, у недалёкім тылу. Рэквізаваць не прыходзілася: самі сяляне-палешукі вязлі цэлымі вазамі і ахвотна прадавалі па вызначанай цане (80 кап. за пуд). Складалі яго ў вялізныя стагі каля панскіх будынкаў, дзе былі панскія вагі. І важылі на вагах цэлым возам. Прымалі ў дзень тысячы дзве пудоў сена. Абрыдла Кузьме гэтая работа, і ён папрасіўся назад у акопы. Там у акопах сустрэў і рэвалюцыю.

# Часць трэцяя (1917—1921)

## 1917

Старэйшы брат, Раман, быў у Смале, служыў каптэнармусам у вешчавым складзе. Як ён прыняў Лютаўскую рэвалюцыю, невядома. Яму ішоў 28-ы год.

Другі брат, Кузьма, якому зраўнялася 24 гады, прыняў Лютаўскую рэвалюцыю ў акопах. Яшчэ калі быў ён у камісіі, што прымала сена, і абедаў у сталоўцы Земскага саюзу, дык чуў там за сталом вольную гутарку. Гамanілі чыноўнікі і доктар — пра цара. Нехта прыехаў з Пецярбургу ці з Масквы і прывёз нейкія навіны. Кузьма быў тады здзіўлены вольным тонам і нейкімі скрытымі намёкамі. Скора ён падаў заяву, каб яго адклікалі з камісіі ў полк. Не падабалася яму ў камісіі. Апрача таго, імкнуўся ў роту, каб атрымаць лісты. Яго просьбу здаволілі, і ён яшчэ пасядзеў у акопах, пабыў пад артылерыйскім і кулямётным агнём. І вось, калі змяняліся з перадавых пазі-

цый, калі адышлі некуды за лясок, у глыбокі снег, тут іх пастроілі і абвясцілі ім, што «государь император, желая принять командование над войсками всех союзников, т. е. французов, англичан и других, отказался от престола в пользу сына цесаревича Алексея и назначил его опекуном и руководителем государства брата своего великого князя Михаила Александровича»... Далі тры залпы ў паветра, у бок немцаў. Скора, аднак, салдаты даведаліся, што ад іх хаваюць праўду. Скора пачуў Кузьма, што салдаты сілаю вытрабавалі з штаба палка загад № 1, у якім сказана, што афіцэры павінны называць салдатаў на «вы», а салдаты афіцэраў — «гаспадзін», а не «благародзіе». Некаторыя афіцэры крывіліся і не дазвалялі сваім дзеншчыкам называць іх «гаспадзін». Далей — болей... Некаторыя афіцэры, баючыся помсты, пераваяліся ў другія роты ці ў другія палкі. Калі полк адбыў свой адпачынак, салдаты адмовіліся ісці на стары ўчастак, кажучы, што на той гіблы ўчасток павінен ісці цяпер іншы полк. Вясною пачалося братанне. Прыязджаў генерал Кандратовіч умаўляць, стаяў на пні... Ніхто яго слухаць не хацеў. Адбыліся выбары ў салдацкія саветы. Спаміж афіцэраў знайшоўся адзін афіцэр — татарын, які выступаў за бальшавікоў. Яго выбралі. Ад'ютант палка выступаў процiў бальшавікоў,— і яго выбралі... У палітыцы разбіраліся слаба, а ваяваць не хацелі. Вясною Кузьма захварэў вострым гастрытам, праляжаў месяц з нечым у палявым шпіталі, а тады яго эвакуіравалі ў Арол. У Арле прызналі яму кліматычнае лячэнне і накіравалі ў Маскву. У Маскве ляжаў ён цэлае лета. А потым паслалі яго ў Жалезнаводск. Больш ён фронта і не ўбачыў. Так што за ўсю сваю вайну, з 1914 па 1917 г., прабыў ён на пазіцыі месяцаў 10, а то ўсё ці лячыўся, ці ў тылу бадзяўся... Але чатыры гады жыцця прапала.

Трэці брат, Пракоп, якому зраўняўся 21 год, прыняў рэвалюцыю таксама ў Смале, як і Раман. І таксама быў там нейкім каптэнармусам, толькі не ў вешчавым складзе, а ў батарэі. Атрымалі загад, што цар адрокся і афіцэраў зваць не «благародзіе», а «гаспадзін». Абвяшчаў сам брыгадны. Рады былі. Але ў памяці слаба засталося. Былі на нейкім пляцу, шмат людзей, нехта нешта казаў, крычалі «ўра», выбіралі дэлегатаў. І Пракопа некуды выбралі, але яго там тады не было, як выбіралі.

Улетку ізноў паехаў ён на пазіцыю, на заходні фронт, перад наступленнем Керанскага. Бачыў Пракоп на фрон-

це Керанскага, як ён здароўкаўся з салдатамі, заклікаў наступаць, ездзіў на аўтамабілі сярод салдацкага натаўпу. У натаўпе крычалі: «Мертвому свобода не нужна!» Пачалося братанне з немцамі. І Пракоп бачыў братанне з наглядальнага пункту. Артылерыя страляла па братанніках. Пехацінцы нападалі на артылерыстаў і білі іх... Батарэя вярнулася ў Смаленск.

Чацвёрты брат, Лаўрын, якому канчаўся 17-ты год, прыняў рэвалюцыю ў школе.

4-га марца ў школе разнесліся самыя разнастайныя чуткі пра петраградскія і маскоўскія падзеі. Лаўрыка вы́клікалі па геаметрыі. Але было не да геаметрыі... Узняты настрой ува ўсіх. Бяжыць Вусцінаў, падае Лаўрыку руку: «Вітаю! Цар адрокся»... Усе — верацъ, не верацъ... Буйная радасць ахапіла Лаўрыка і ўсіх. Але настаўнікі трымаліся асцярожна, стрымана. Вучні сабраліся ў рысавальні, чыталі газеты. Інспектар Пуйдэ не даваў чытаць. Не слухалі, не расхадзіліся. Лекцыі збунтаваліся. Рэвалюцыя прыйшла!

5 марца было прыгожае надвор'е. На вуліцы — натаўп. Вучні хочуць рабіць маніфестацыю. Настаўнік мовы і літаратуры Цытовіч адмаўляе. Паліцэйскіх на вуліцы — ніводнага... Прыйшла Пуйдзіха, інспектарава жонка. Умаўляе вучняў не хадзіць: «А то будет плохо»... І вось — маніфестацыя... Дырэктар умаўляе разысціся. Настаўнік Красік не ішоў у маніфестацыі, баяўся. Казаў прамову воінскі начальнік Лейтнэр: за сялян і ўсякае глупства. Выступаў Крэер: «Рэвалюцыя толькі пачынаецца. Бяскроўных рэвалюцый не бывае»... Малебны за паўшых рэвалюцыянераў. Яўрэі маліліся асобна. Прысяга Часоваму ўраду. Вестка, што Вільгельм у Нямеччыне забіт. Сяляне, што на рынку, нічога не разумеюць. Фальш...

12 марца вучні ў сябе на кватэры знішчалі партрэт цара і генерала Іванова. Лаўрык бачыў, як яны саромеліся чагосьці... З'явілася думка ісці на вёску «прапаведваць». Выдаваць часопіс. А ў Лаўрыка не было грошы на жыццё. Пазычыў 5 рублёў. Гаманілі пра Распуціна, «Сашку» і яе дачок. Прыйшоў Лаўрык да сябе на кватэру, глядзіць: бацька прыехаў. Радасць, гутаркі. Хлеб аддалі новаму ўраду. Паліцыя без зброі. Выходзіў Лаўрык глядзець каня пад павеццю. На падворку была Стася. І голас у яго задрыжэў ад хвалявання. І было сорамна ад думак. Потым пайшоў на пост — міліцыянерам. Бацька перана-

чаваў і на другі дзень, 13-га, паехаў удвору. Былі прыкрыя матэрыяльныя рахаванні.

З 15-га марца ізноў стаяў Лаўрык на пасту міліцыянерам, ад 1 да 3 гадзіны. Красік — пачальнік міліцыі. Стоячы на пасту, ёсць час падумаць. Радасць ад рэвалюцыі і сум ад асабістага жыцця. Маральная пакута за жаданні цела. Вінавата выхаванне. Споведзь у школьнай царкве была, як і раней.

20-га марца — гульня ў карты, каянне, заракание на тры гады. Асвісталі Цытовіча.

29-га марца выйшаў Лаўрык дамоў. Ішоў з Пракапенкавым. 30-га быў дома.

Дома — жыццё, як заўсёды. Працаваў Лаўрык з жарам. Думаў ісці на вутак. Бацька: «Не смей! У такі вечар, у такую страсць... І боты таптаць...» У суботу хадзіў Лаўрык на страсць. Прырода ажывала, раставаў снег, вада, гразь, туман у Жаб'і. 13-га. Удзень балела Лаўрыку галава, быў у нейкім сонным стане... Забіў рыбіну з хунт. Traslі салому. Пуста было на сэрцы... На радуніцу на могільнік не хадзіў. Бачыў Надзю. Бледная, прыгожая сярод другіх. Чагосьці было сорамна...

Марынка, якой ішоў 15-ты год, прыняла рэвалюцыю дома... Рыхтавалася ў палянкаўскай настаўніцы ў гімназію. Рыхтавалі яе дрэнна. І раней, у школе, вучылі дрэнна: вайна, не тое ўжо вучэнне, і вучыцелі мяняліся. І не было куды паступаць у школу бліжэй да дому, як братом. У Нізінках жа дзяўчат не прымалі. А далей куды ехаць — нязвычна гэта было, і грошай бацькі шкадавалі...

Вясною Марынка ездзіла ў Горад, трымала за 4 класы гімназіі ў 5-ты. Правалілася па рускай мове. Далі пераэкзаменоўку, але на гэта трэба было папрасіць дазволу ў папячыцеля. Падалі прашэнне... Папячыцель адмовіў, бо далі дрэнны водкліч аб Марынцы з гімназіі,— што не было «падмазкі». У гэтай гімназіі бралі ўзяткі. Лаўрык гэта ведаў і ў злосці думаў у газету напісаць, ды раздумаўся. Шкода, што не напісаў.

Перад макаў'ем цэлы тыдзень ішоў дождж, але работа ў жыце ўжо скончылася. Макаўе было 1/VIII. У нядзелю Лаўрык з Сяргеем хадзіў у Целяпенічы. Дарогаю ілгаў Сяргею пра вайну — каб зюкаць. Быў на пошце, у бальніцы (слаўная там дзяўчынка). Пасведчанне. Чытаў газету, і нечаму было радавацца. У гарэхах, у гаросе. Хма-

ра, гром. Сяргей хацеў прагнаць яе. Прыйшлі да дожджу. У іх госці. І Надзя. Абедалі. Кадрыль. Думкі пра беларускую граматыку.

У жніўні прыйшлося Марынцы трымаць экстэрнам за тры класы, каб паступіць у 4-ты. Вытрымала. Падалі прашэнне, каб далі вакансію Марынцы. Чакалі адказу з гімназіі. У Нізінках панаваў тыфус, і таму Лаўрык быў адпушчан да 1-га кастрычніка. Пасабляў у дварэ працаваць.

13 верасня былі выбары ў валасное земства. Ніякае агітацыі не было. Ніхто не ведаў, каго і нашто выбіраць. У Харошае пайшлі толькі мужчыны, і то не ўсе. Выбралі Лявона Барысёнка, пісара. Яго ў марцы прагналі з Піран, дзе ён, быўшы пісарам, браў узяткі і рабіў усякія машэнствы. Настаўніца палянкаўская глядзела ў бок ад сялян. Сяляне не цікавіліся грамадскімі справамі. Бедныя былі не асвечаны, а заможныя глядзелі на іх коса, кажучы, што цяпер «іхнае права». Бабы нічым не цікавіліся...

З гімназіі адказу ўсё не было, і 20-га верасня Лаўрык сам паехаў у Горад. Да гэтага часу канаплі дабралі, бульбу дакапвалі, заставалася на дзень. Малацілі ячмень. Усяго заставалася малаціць вазоў на 10. 20-га верасня, устаўшы, Лаўрык пайшоў малаціць. Змалацілі асецъ ячменю, у кучу звязлі. Паснедалі, і Лаўрык паехаў у Горад. Ехаў ён з Ягорам Мікіцёнкам і Яхімам Леванёнкам. Яны на камісію ездзілі. У гімназіі даведаўся Лаўрык, што вакансію Марынцы далі. Быў ён дужа рад. Ішоўшы з гімназіі, сустрэў Ягора і Яхіма. У іх няўдача: прызналі годнымі, узялі. Лаўрык знайшоў Марынцы кватэру, на Млыннай вуліцы, дом Васіля Шамоўскага, № 4. Там ёй узяліся і варыць. Дагаварыўся за 7 рублёў. Кватэра была добрая, і ад гімназіі не дужа далёка. З Марынкаю там яшчэ жылі адна гімназістка, 5 кл[ас] і Пілюціна з Вушова, 4 кл[ас].

Аглядаў Горад. Хадзіў на горы Траецкую, Дзявоцкую, Замковую, Панявойскую. І думаў: «Толькі яны і сведчуць аб мінулай славе нашага Гораду». Быў у кніжнай краме Фрумкіна. Купіў Марынцы кніжкі, заплаціў 10 р. Там спытаўся: «Ці няма ў вас кніжкі: «Описание Города?» — «А какой дурак про такой гадкий город писал? Фи!..» Вось якая пашана да роднага Гораду. Купіў дзядзіне Алёне пачак табакі нюхаць і ўдвору гасцінцаў. І стаў збірацца ўдвору ехаць. Зайшоў на былую Марынкіну кватэру, часовую, дзе Марынка была, пакуль выпыты трымала. Там напісаў Кузьме ліст.

Марынку завязлі ў Горад. Пачала вучыцца. Кватэра

ёй спадабалася. Відаць была ад іх Дзявоцкая горка, відаць Віхра.

Да Лаўрыкавага ад'езду ў Нізінкі работа ў двары была скончана. Малацьбы засталося толькі на 5 вазоў, аднаго аўса, а ячмень і жыта ўжо памалацілі. Сёлета супроць леташняга менш было ўсяго на адну асець. Жыта, ячмень і канаплі былі сёлета ўмалотны. Пукі абразаў бацька і Лаўрык. Тады абсеклі іх і якраз у суботу, перад пакровам, памачылі. Усяго 600 пукоў. Пянька была дужа добрая, вялікая і затанула добра. Мачылі ўтрох: Раман (?), Лаўрык і Мікола Саўчын. Лён быў пасланы ўжо даўно, так што праз тыдзень-другі меліся паднімаць яго.

1 кастрычніка Лаўрык паехаў у Нізінкі. Ехалі на пары (з кім?). Была вялікая гразь, бо ўночы ішоў дождж. Але свяціла сонца. Прыехалі ў Нізінкі. На Мсціслаўскай вуліцы насілу выехалі з каўдобін, якія там заўсёды бывалі. Быў у Нізінках кірмаш. Людзей — паўнюткія Нізінкі. Бачыў Лаўрык чалавека з П'янава, бачыў з Раздзелу. І з Харошага — дзеда Лукаша Ваяводу з дачкою. Пачаў Лаўрык вучыцца (пасля такога даўгога перапынку). Гэта ўжо ён у 2-м спецыяльным класе.

3 кастрычніка паслаў Кузьма Марынцы тэлеграфам 25 руб. грошы, каб не галадавала і не сумавала. Грошы паслаў на гімназіяльны адрас, бо свайго кватэрнага яна не прыслала. І напісаў ёй ліст — у адказ на яе сумны ліст. Яна бедавала, што паступіла не ў 5-ы, а ў 4-ы клас. Кузьма пісаў ёй, што трэба радавацца ёй, што ву́чыцца ў гімназіі, а не плакаць. Бо клас жа, ці пяты, ці чацвёрты, не мае значання,— абы толькі была магчымасць вучыцца. Ён пісаў ёй, што ён нават здаволены, што, седзячы ў 4-м класе, яна будзе мець магчымасць больш чытаць кніжкі і развівацца, лепш вучыцца, лепш вывучаць мовы. Асабліва ён настойваў, каб вучылася мовам. Бо ён па сабе чуў, як вузка без ведання моў. Яна запісалася вучыцца скокам, і гэта ён хваліў, пісаў ёй, што скокі навучаюць манерам. І каб чытала кніжкі з выбарам. І каб добра разбірала, як гаварыць па-беларуску і як па-руску (яна напісала ў сваім лісце: «абманіл»). Ён даваў ёй прыклад ад дзеяслова **хацець:** па-беларуску **хочаш, хочаце,** а па-руску **хочешь, хотите.**

У гэты ж дзень, 3 кастрычніка, быў Кузьма на медыцынскай камісіі і ездзіў у П. на агульны сход.

16 кастрычніка, у панядзелак, прыехаў Кузьма ўдвору. Ехаў на Аснову, Горад. У Смалу не заязджаў. Быў у Горадзе ў Марынкі. Яна была вельмі рада, заклапацілася, смажыла яму яечню. Бачыў Шэйлачэнку (Ліхв.). Начаваў Кузьма ў Горадзе і ў Калюжным. У Калюжным хацеў зайсці да паненкі. Церах адраіў: «Яна будзе саромецца». У Цераха двор быў новы, але невялікі, з цесным падворкам і без варот. Стаяў на новым месцы, вокнамі на луг, на раку. Хата пяцісценка. З братам Яхімам Церах жыў тады, здаецца, падзяліўшыся. Кузьма начаваў у Цераха. Вусцінка была рада Кузьме, але ўсё бегала за работаю. Частавалі так сабе. Большыя дзеці былі, мусіць, у школе. Меншыя гулялі ў хаце. У хаце было не дужа чыста. Церах падвазіў Кузьму да Камароўкі. У дарозе апавядаў, як яго выбралі нейкім прадстаўніком ад сялян на нейкі з'езд у Яму, як там таварыш Гольдман кіраваў імі, прымалі іх добра, частавалі. Апавядаў пра ўсё гэта Церах з сваім пасмейваннем. Па дарозе, у полі між Пуцятамі і Слабодкамі, сустрэлі Тараса. Ішоў шыць некуды. Кузьма пагаварыў з ім троху. Тарас стаяў водаль ад калёс, не праявіў ні асаблівай радасці, нічога. Быў ужо немалады, вясковы чалавек. І гаварыў: «Каю? Каіць (кажа)...» І як бы глухаваты. З машынаю, здаецца. З аршынам. Пагаварылі тры хвіліны. І паехалі. А ён пайшоў далей, як ішоў... Кузьме было шкода Тараса. А Церах казаў: «Ат, што яму... Жыве. Капейку якую заробіць шыццём. Ён такі чалавек. Натуры не пераменіш». Тарас, Марынка, Вусцінка — яны памёрлі найраней з маладога пакалення.

Бацька з маткаю дужа пастарэлі, паслабелі, бо вельмі многа прыходзілася ім працаваць. Бацька перад тым ездзіў у Смалу. Гашка лячылася. Хвароба яе не была запушчана. Казала, што ёй лягчэй. Хадзіла, працавала. Але дзень была здарова, другі — не. То галава ёй балела, то жывот, то была слабасць. Маці была здарова, толькі дужа многа працавала. Уранні яна амаль што адна хату вытапіць, вады наносіць, наварыць яды. Удзень шмат работы знойдзецца. 19 кастр. бацька з маткаю ездзілі ў Горад. Па Кузьмоваму загаду завязлі Марынцы харчоў.

На другі ці на трэці дзень па прыездзе быў Кузьма ў Стратона ў Палянцы і ў настаўніцы. Цераз дзень пасля гэтага быў у свата, а да настаўніцы не зайшоў, бо казалі яму, што яна баіцца плётак. У сераду ўвечары быў у настаўніцы. Там былі яшчэ харошаўская настаўніца і п'янаўская. Глінская добра гаварыла па-беларуску. Там жа

бачыў Кузьма Лаўрыкаву адкрытку, ды разумеў, што нічога яна там не паможа. Спісак беларускі быў Кузьме блізу што невядомы. Ён ведаў толькі троху пра Коху, бо Коха ездзіў на з'езды і быў вядомы як прыхільнік яшчэ за старым рэжымам.

Займаўся Кузьма дома тым, што перабіраў свае старыя паперы і што-якое апрацоўваў. Не ведаў, дзе дзеліся яго іншыя, леташнія, рукапісы. Хацеў усё ўпарадкаваць. Чытаў нізінкаўскі «Вестник» і напісаў Лаўрыку, пытаючыся, хто гэта піша ў гэтай газеце пад псеўданімам «Сын». А гэта быў ён сам. І вельмі трапна і разумна вёў ён палеміку ў беларускім пытанні з сваім настаўнікам кадэтам і вялікадзяржаўным шавіністам С. Г. Бекарэвічам, ворагам беларускае мовы і наогул беларушчыны.

У панядзелак (16/X) прыехаў Кузьма. У гэты ж час прыехалі Раман і Пракоп, пад вечар. Спярша Раман у хату, а за ім і Пракоп у сваёй доўгай шынелі. Не паспеў Пракоп пераступіць парога і сказаць нешта адмоўнае пра вайну і прыхільнае пра бальшавікоў, як бацька, замест радавацца, што ўсе сыны сабраліся, раптам узлаваўся, пачаў сварыцца, напаў на Пракопа і чуць не гнаў яго з хаты за бальшавіцкія гутаркі. Ён хацеў ваяваць... А яны ўсе, і Раман, і Кузьма, і Пракоп, былі за бальшавікоў, не хацелі ваяваць. Сам на вайне не быў, дык не ведаў, што гэта такое. І нават дзіўна было, адкуль раптам у яго такі «дзяржаўны» розум. Ну, сабраліся ўсе ў кучу — першы раз ад пачатку вайны...

У той жа дзень, як прыехалі Раман з Пракопам, быў увечары ў Мікітавых вясковы сход. І Кузьма пайшоў. Карпа там быў. І хоць пра бальшавікоў ведалі мала, але зрабілі ўсё «па-бальшавіцку» самі, а Кузьма дапамагаў. Галасаваннем пастанавілі высячы на дровы палову Камароўшчыны ўздоўж свайго поля. Цэны вызначылі: сажань бярозавых 6 р., асінавых 4 р., елкі — на вяршкі і г. д. Усё пераходзіць у рукі зямельнага камітэту, які пастанаўляе, колькі каму сячы ці браць лесу на рамонт, бярэ грошы, выдае квіткі, уваходзіць у зносіны з суседнімі камітэтамі і даносіць павятоваму камітэту. Многа было гоману і шуму, сіні дым вісеў ад махоркі, але наконт лесу ўсё прайшло даволі дружна. Карпа даваў надта практычныя прапановы. Тут жа абвінавацілі эсэра Клімчынскага, старшыню павятовага зямельнага камітэту, чаму ён даўно гэ-

таксама не рабіў, а вёў буржуазную палітыку Часовага ўраду па лініі «соглашения с владельцами».

У Кузьмы была стычка з гэтым эсэрам. Ён ехаў у Камароўцы па вуліцы і сварыўся ці пагражаў сялянам. Да Кузьмы прыбег Стахван Леванёнак. Кузьма выскачыў у хатнім кажусе. Клімчынскі быў верхам на кані, стаяў на вуліцы каля гарода Задумавых, дзе цяпер іх хата. Кузьма так пагаманіў з ім, што ён хутчэй завярнуўся і паехаў. Відаць, баяўся. Перад тым у Жытняй, стрэлам праз акно, невядомыя людзі забілі Васіля Вала, былога панскага аб'ездчыка.

Пражыў Кузьма ў дварэ тыдні тры (16 кастр[ычніка] — 2 лістап[ада]?) і паехаў на Вясёлае. Завёз яго Стратон з Палянкі. Начавалі ў Лугвеневе. Там селянін на вуліцы паказаў Кузьме спісак № 2 і прасіў рады. Кузьма растлумачыў яму, колькі сам ведаў, розніцу ў зямельным пытанні між эсэрамі і эсдэкамі, і яму спадабаліся эсдэкі, што даюць волю ў землекарыстанні самім сялянам. Селянін казаў, што іх настаўнік хваліў спісак № 8 (беларускі). Эсэраў Кузьма не любіў, бо яны праводзілі ненавісную яму расійскую абшчыну з вечнымі перадзеламі. Ён калісьці чытаў нейкае апавяданне, як цярпелі пры гэтых перадзелах маламожныя сяляне. Сам ён галасаваў бы за бальшавікоў, каб яго голас не прапаў за пераездамі. Сорамна было яму, што ён слаба разбіраўся ў партыйных праграмах. Але душа яго да палітычнай дзейнасці не ляжала. У Вясёлае прыехалі ў чацвер (9 лістап.?), пад вечар. Там Кузьма неспадзявана сустрэўся з сваім школьным таварышам па Крушні — Навумам Прыгаворкаю. Навум ехаў з Смалы, дзе ён ляжаў у шпіталі. Ехаў дамоў і меўся, здаецца, паехаць і ў Нізінкі, дзе вучыўся яго брат (у гарадскім вучылішчы, ці што). Навум раіў Кузьме ехаць да іх у шпіталь; казаў, што скора і ён туды вернецца. Кузьма не паслухаў і паехаў у Кучку, на камісію [1]. Там жа ў яго нічога не выйшла, і ён, як і раіў яму Навум, прыехаў у Смалу (11 лістапада?). У Смале быў Кузьма на камісіі, і вызначылі яго ў нестраявыя.

Рамана прывёз у Вясёлае бацька. Потым яны абодва

---

[1] У тэксце, на палях, справа, насупраць слоў: «Начавалі... ~ камісію».— аўтарская паметка: «У сераду выехаў; 15 нядзеля; 16 панядз., 17-а. 18-с, 19-ч, 20-п, 21-с, 22 нядзеля, 23 п, 24 а, 25 с, 26 ч, 27 п, 28 с, 29 нядзеля, 30, 31, 1 серада, 2, 3, 4, 5 нядзеля, 6 п, 7 а, ╳ 8 серада, 9, 10».

прыехалі ў Смалу, але не ведалі, што і Кузьма тут, бо ліст яго Раману (дамоў?) спазніўся. Пайшоўшы да Рамана, Кузьма бачыў там Паўлюка Леванёнка. Паўлюк вясёла і з моцаю казаў Кузьме, як быў пераварот у Смале, і каб не здаліся, дык пачалі б граміць па гораду адгэтуль з артылерыі, усё б разнеслі.

Марынка вучылася ў гімназіі. Ні па аднаму прадмету яе доўга не выклікалі. Часу вольнага было ў яе многа, яна рыхтавала лекцыі і чытала кніжкі. Спярша чытала Тургенева, потым Дастаеўскага. А пісала яна па-руску з памылкамі, галоўным чынам, беларусізмамі. У лістох да братоў мяшала рускія і беларускія фразы, рускія словы пісала на беларускі лад. У гімназіі адбываліся сходы вучняў, дзе разважалі, што бог — буржуй і яго не трэба, але меншых вучаніц туды не пускалі. [...] Нямецкую мову ў гімназіі выкладала сястра былой палянкаўскай настаўніцы, Надзеі Мікалаеўны, і Марынка была рада ёй. На кватэры, дзе стаяла Марынка, было чатыры дзяўчынкі, бо туды перайшла яшчэ Вера Маманцёнкава. Разам усім спаць стала цесна, і Марынка спала ў гаспадынінай спальні, з маленькаю дачкою гаспадыні, а гаспадар паехаў, і гаспадыня не хацела спаць адна. Так што ложак Марынцы купляць было не трэба. Было блізка 14 лістапада — апошні дзень выбараў у Учредительное Собрание, і Марынка пыталася ў лісце ў Кузьмы, за каго ёй галасаваць. Кузьма адказаў, што ні яна, ні Люба, ні Вера, ні Маша галасаваць не будуць, бо ім яшчэ мала гадоў. 11 лістапада Кузьма паслаў ёй ліст. Гэты ліст атрымала яна 15 лістапада, прыйшоўшы з гімназіі, была вельмі рада і села зараз адказваць, бо ведала, што Кузьма доўга быць у шпіталі не разлічае. Яна пісала пра сваё жыццё. Яна пісала, што як добра было б, каб яго, Кузьму, адпусцілі месяцы на тры дамоў, і дадавала: «Паложым, гэта памойму так, а па-твойму — не ведаю як: думаю, што наадварот, таму што ты цяпер зусім не такі, які быў раней, і нешта ты пагарджаеш у дварэ. Напішы-ка мне, чаму гэта ты такі стаў?» Яна пыталася пра Гурыка (ён жа Лаўрык.— *Рэд.*) і г. д. А падпісалася: «Твая няшчасная сястра Марына...» З двара да яе ніхто яшчэ не прыязджаў. Ёй было нудна ў Горадзе. 14 лістапада Кузьма паслаў ёй 10 руб. грошы і ліст. І даваў ёй рады ў лісце, у адказ на яе ліст, каб пашыла сабе лепш дзве добрыя гімназіяльныя сукенкі, чым шмат блузак, каб прывязлі з Камароўкі сукна і пашылі пальто, каб старалася вучыцца, каб выпісва-

ла «Вольную Беларусь». Хадзіў да Рамана і чытаў з ім разам той яе ліст.

19 лістапада чакалі пачатку перамаўленняў аб міры, хоць не ўсе хацелі прызнаваць бальшавікоў. У многіх мясцовасцях Беларусі стаялі польскія ўланы. А палякі хацелі далучыць Беларусь да Польшчы. І цяпер ужо польская вайсковая ўлада заяўляла, што не дазволіць беларускім сялянам адбіраць зямлю ў паноў польскае нацыянальнасці.

Гэтым жа часам разбілі панскі двор у П'янаве. Паны праведалі, што збіраюцца іх біць, і ўцяклі ўночы ў Яму. Сяляне згаварыліся ісці разбіваць. Хадзілі чуткі, што ў паноў у склепе схавана зброя. Паўлюк Ваявода з Харошага казаў, што нават пушка там схавана. Пайшлі натаўпам шукаць. З гэтага і пачалося. Некаторыя салдаты казалі, што не трэба разбіваць, што ўсё гэта цяпер народнае, трэба стварыць камітэт, усё паспісаць і перадаць у народнае карыстанне. Але як пачалося, то і салдатаў гэтых ледзь не пазабівалі, яны ўцяклі. Як урынуліся ў склеп пад домам, а там віно. Пабілі ўсё; люстры, партрэты, посуд, раяль. Пачалі хапаць і несці ўсё, хто што ўрваў. Кінуліся разбіраць коні, кароў. Слугі, канюхі разбегліся, пахаваліся, а каторыя таксама бралі. Каровы ўпіраюцца, равуць, бо ноч, цёмна. А потым спалілі дом. Пракоп Задума таксама хадзіў, толькі трымаўся «нэўтральна». Прынёс сподак, кубачкі, прэс-пап'е. Кнігі да яго расхваталі ці папалілі. Пасля Кузьме Задуме трапілі ў рукі слоўнікі, «Повесці Белкіна» Пушкіна з надпісам «Княгіня Брасова». Паўлюк Ваявода сабе карову прывёў. Домка з Палянкі — фаэтон прыцягнуў. Хто што.

Перад калядамі памёрла Гашкіна матка, Хадосся. Ці яна прастудзілася, ці яна што.

Матку пахавалі, Надзька занездаровела, дык прыехаў бацька і ўзяў Гашку к сабе, і з усімі дзяцьмі, каб пабыла ў яго, пакуль Надзька палепшае. Пракоп ехаў з пруду, Аксанка ўбачыла: «Вазьмі мяне, вазьмі!» Ён яе і прывёз удвору. А тады і Гашка вярнулася. Не спадабалася ёй там. А бацька яе думаў, што яна там прыжывецца, дык будзе ў яго з Раманам жыць. Бо яму ўсе роўна зяця прымаць.

Хворую Надзьку хадзіла даведавацца Марынка. Лаўрык ішоў з П'янава і зайшоў туды нечага, і толькі ў хаце пабыў. Надзька ўжо хадзіць пачынала, лепшала,

1 студня ў Харошае ездзіў Пракоп і Гашка [1]. Надвор'е было дрэннае. Лаўрык быў у дварэ. Даваў скоту. 2 студня надвор'е стала лепшае, без ветру. Дарога блішчала. Лаўрык хадзіў у Камароўшчыну (у лес), любаваўся хараством зімовага лесу, прыбранага марозам у бліскучае серабро. Вярнуўшыся, даваў скоту, вучыў нямецкую мову. 3 студня была страшэнная пурга, якой Лаўрык ніколі не бачыў. Снег круціўся шалёна, засыпаў вочы, мокрым халадам абдаваў твар. Не прайсці, каб скоту падаваць. У хаце гулюшкі, гутаркі. 4 студня — гульні, Лаўрык гаварыў з Наўменам. Прыехаў бацька. Ён быў тры дні ў Целяпенічах. Прыехаў — і поўнае застолле п'яных. Самагонка. Мікалай каля грамафона. Якое зло ад карт! — «Ці прагулялі? Без гадзінніка...» У Лаўрыка — злыя і пакутныя думкі пра сваю сям'ю. Прыйшоў ліст ад Кузьмы. Прыйшла «Вольная Беларусь». Бальшавікі разагналі Беларускую раду.

Раман і Кузьма былі ў Смале. Раман займаў невялічкую баковачку ў кватэры чыгуначніка Перагончыка (здаецца, на Данской вуліцы), а Кузьма, з Навумам Прыгаворкаю, жыў у тым жа, прыблізна, квартале, але ніжэй, на Віцебскай шашы, супроць вакзальных ліній, у доме 126, Чарнічкіна. Кузьме вельмі не падабалася праца ў канцылярыі склада, і ён, калі чыноўнікі пачалі патроху звальняцца ў парадку дэмабілізацыі, папрасіўся на аслабанёную пасаду прыёмшчыка ад складу на вакзале. Там была цяплушка, у якой ён і яшчэ некалькі салдатаў рабілі сваю працу: прымалі грузы, што прыходзілі з фронту ў склад, разгружалі рэчы і складалі іх тут на падворку, вартавалі іх, адпраўлялі ў склад або далей куды. Кузьма хадзіў з дублікатамі накладных па вакзальных касах і ўсякіх канцылярыях, глядзеў, куды пагоняць яго вагоны, дзівіўся на вялізны стог усякіх лахманоў, папах, ватовак, які ўжо навалілі каля іхнай цяплушкі, або сядзеў у цяплушцы з салдатамі, піў гарбату ды слухаў гамонкі.

У студні прыехалі ў Смаленск Лаўрык і Гашка. Прывёз іх, здаецца, Пракоп. Гашка прыехала да Рамана ў госці ці лячыцца, а Лаўрык прыехаў служыць: у школе іх адпусцілі блізу на цэлую зіму. Гашка жыла ў Рамана,

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «1 студня ~ Гашка».— аўтарская паметка: «1917?»

а Лаўрык у Кузьмы (Навум Прыгаворка потым на нейкі час выязджаў дамоў). Усё было добра, Кузьма паслаў Марынцы грошы, яна вучылася ў Горадзе, у 4 кл[асе]. Шкода толькі было, што Лаўрыка адпусцілі так надоўга. Аж цераз колькі дзён па прыездзе ў Смалу Лаўрык захварэў. Ён доўга не паддаваўся хваробе, хадзіў на службу ў горад у Саўнархоз, казаў, што гэта толькі прастуда, і Кузьма лячыў яго ад прастуды рыжскім бальзамам. Рады не было, і не пацеў. Нарэшце лёг і ўжо не мог хадзіць. Насілу дайшоў да вакзалу, дзе стаялі візнікі, і Кузьма павёз яго ў гарадскую больніцу. У больніцы знайшлі ў яго плямісты тыфус і зараз паклалі ў заразны барак. Больніца была за горадам, у лесе, каля нейкае шашы, з вакзальнага боку горада. Кузьма набраўся страху і трывогі за Лаўрыкава жыццё. Думка аб тым, што Лаўрык можа памерці, прыводзіла яго ў жах. Ён стараўся не думаць, захаваць спакой. Хадзіў да яго кожны дзень. Але ў барак не пускалі, і Кузьма глядзеў на яго толькі праз шыбу ў акне. Пісаў яму адкрыткі і перадаваў праз прыслужніцу. Прыслужніца была ўжо перахварэўшая на тыфус, і таму хвароба гэтая да яе не прыставала. І Лаўрык яму адпісваў. Яго пісулькі Кузьма, прыйшоўшы дамоў, абліваў шкіпінарам, як і свае рукі. Спярша Лаўрык пісаў разумна, а потым часам незразумела і без сэнсу,— відаць, у непрытомнасці. У пакоі, дзе жыў Кузьма, зрабілі такую дэзінфекцыю фармалінам, што няможна было і хвілінкі ўседзіць, выядала вочы і горла, і Кузьма начаваў недзе ў другім месцы. 3-га лютага Лаўрык запісаў: «Хварэю ўжо 14-ты дзень. Учора і сёння нікога не было. Нудна. Чакаў К. Успомніў, што ён дзяжурны па складу. Усё палепшала, толькі ў вушох шуміць...» Кузьма ўжо насіў яму печаныя яблыкі, сушаныя баранкі, паведамляў яму аб навінах. За час яго хваробы, калі ён лепшаў, быў, як казалі, 12 лютага, падпісаны мір. А раней, у 20 днёх студня, у нядзелю ўвечары, была ў зале Гарадской думы лекцыя дырэктара Маладзечанскае семінарыі Ярашэвіча аб Беларусі. Гаварыў ён па-руску. Былі найбольш вучні. Пасядзеў і Кузьма. Хварэў Лаўрык, пры такой хваробе, нядоўга і 20 (7) лютага выпісаўся з бальніцы. Мусіць, ён частку хваробы перахадзіў, пакуль не злёг. Дзе мог набрацца ён хваробы? Кузьма думаў, што, можа, ён, Кузьма, перанёс ад гэтых лахманоў, што прымаў на вакзале з фронту. І толькі пазней ужо даведаўся, што ў Палянцы хварэла сваццяя іх Надзя, а да хворае хадзіў і Лаўрык і,

здаецца, Марынка. Потым пісалі, што і Надзя палеппала. Дык набраўся ён, відаць, хваробы ад свае мілае сімпатыі.

Якраз у той дзень, калі Лаўрык выпісаўся з больніцы, 20(7) лютага, Раман звольніўся ад вайсковай службы. Пайшоў пасылаць тэлеграму, каб па яго прыехалі. Адслужыў $3^1/_2$ гады... Была пакалечана рука, але застаўся жывы і вярнуўся дамоў.

22 лютага начою ў Марынкі стала пухліна на шыі, гаспадары параілі ёй не ісці ў школу, яна паслухала і, маючы вольны час, села пісаць Кузьме ліст. Ліст яе быў сумны. Жыла яна на тэй самай кватэры, плаціла 6 руб. у месяц. Вучылася сярэдне. Выклікалі яе па закону божаму (атрымала 4), па нямецкай мове выклікалі два разы (першы раз атрымала 3, другі раз 4), па прыродазнаўству атрымала 3+, а па матэматыцы — вельмі дрэнна, 2—. Па прыродазнаўству яна адказвала няважна, але, ведаючы яе даўнейшыя адказы, выкладчык паставіў ёй 3+. Яна прасіла яго выклікаць яе другі раз, паправіцца на 4, і ён дакляраваў. Па арыфметыцы быў дужа суровы настаўнік і шмат вымагаў. Ён у чацвер даў ёй адно пытанне, яна не адказала, і ён паставіў ёй 2-. Доўга Марынка плакала, але нічога не зробіш. Яна прасіла яго выклікаць яе к дошцы, рашаць задачы; ён дакляраваў. Цяпер яна ўвесь час рашала задачы і чакала, калі ён яе выкліча. Але задачы на працэнты яна слаба разумела. Сумна ёй было, што рэдка пішуць. Трывожылася за Лаўрыка. Прыязджаў да Веры Маманцёнкавае бацька, казаў Марынцы, што сват іх жэніцца на Аніссі Хомкінай. У мужчынскай гімназіі стаяла цяпер Чырвоная гвардыя. Яны часта стралялі, асабліва ўвечары; хадзіць цяпер было небяспечна.

24 лютага разнесліся былі чуткі, што ідуць польскія легіёны. Усе перапалохаліся. Вучаніц гімназіі, якія займаліся па абедзе, распусцілі раней 3 лекцый. У многіх месцах Гораду стаялі кулямёты. Каля Марынкінае кватэры таксама стаяў кулямёт. Яна хадзіла глядзець. Але ніякіх легіёнаў не было. Праўда, праязджалі салдаты, але толькі нашы. Яны ехалі з Магілёва і паехалі ў Арол ці яшчэ куды. У сераду мелася Марынка ехаць дамоў і быць там да панядзелка. Марка на адкрытцы цяпер налеплівалася за 20 к.

У дварэ жылося Марынцы вясёла, як яна пісала. Вярнулася, і пачалося ізноў тое самае жыццё. Уставала, збі-

ралася і ішла ў гімназію. А 2-й гадзіне прыходзіла, абедала, троху гуляла і ўзноў за лекцыі. На гэтым тыдні думала яна гавець. З беларусаў тут выпісваў «Вольную Беларусь» Войцік. У жаночай гімназіі чырвонагвардзейцы занялі падрыхтавальны клас. Хацела Марынка аддаць шыць свой касцюм, але запрасілі дужа дорага: 25 рублёў! Яна не аддала. Сукенку ж аддала за 9 рублёў.

Пракопа ад вайсковае службы аслабанілі зусім.

18 сакавіка ездзілі ў Смалу Раман з Стратонам. Кузьма таксама аслабаніўся ад вайсковае службы зусім, па беламу білету. І перайшоў на працу ў жылішчны аддзел гарсавета, агентам па адшуканню кватэр. Апрача таго, працаваў у газеце. І складаў слоўнік. Лаўрык працаваў у Саўнархозе. Ехаць дамоў на вялікдзень спярша не збіраліся, потым раптам надумаліся. У пятніцу выехалі на Аснову. Ад Асновы знайшліся пешыя падарожнікі, і яны таксама пайшлі пехатою. Цэлую ноч ішлі. У дарозе пяхцер знайшлі, няслі яго, а потым кінулі. Зямляк з Асмалавіч ішоў.

На вялікдзень сабралася ўся сям'я, усе былі ў дварэ — першы раз пасля 1913 г. Елі курыцу. Кузьма з Марынкаю цягнулі пальцамі вілачкі: чыя палавінка адломіцца, хто раней памрэ. Кузьма пацягнуў мацней, і Марынкіна палавіначка адламілася... Жартавалі. А Марынка паглядзела пакорнымі свайму лёсу вачыма, неяк вінавата і жаласна, хоць і смяялася, і зрабілася Кузьме шкода, што ён, не падумаўшы, пачаў гэты жарт. Ён, мусіць, думаў, што Марынка перацягне.






Кузьма ўсё яшчэ глядзеў на Марынку, як на маленькую дзяўчынку. Дый быў заняты сваёю беларускаю справаю, слоўнікам, літаратураю, працаю ў газеце, дый сваімі асабістымі справамі, і мала думаў пра сваю сястру, мала і гаварыў з ёю, больш з Лаўрыкам.

Гэтым жа часам дапамог Кузьма адабраць хутар у Сівянка, што купіў ён у паноў у Засценках. Максім Салдацёнак прыходзіў да яго, і Кузьма напісаў такую заяву ў воласць, у Целяпенічы, што там пыталіся: хто гэта пісаў? Мусіць, спалохаліся. І заўладалі камароўцы Сівянкоіўым хутарам, як і ўсёю панскаю зямлёю вакол. Хоць некалькі хутарцоў у Чортаўшчыне, здаецца, засталося.

Пабылі ў двары і Кузьма і Лаўрык мала, некалькі дзён. Ізноў паехаў Кузьма ў Смалу, а Лаўрык ці ў Смалу, ці ў Нізінкі, а потым у Смалу. Вучыўся Лаўрык у гэтым годзе мала. Жылі з Кузьмою ў Смале. Потым Кузьма захварэў там на гішпанку, дужа цяжка хварэў. Як пайшоў да доктара, той кажа: сухоты, напалохаў Кузьму. Яшчэ Кузьма троху паслужыў, і ў Маскву ездзіў (да хваробы ці пасля), а потым, як звольнілі яго з пасады, прыехаў удвору і ўсё лета, аж да восені, жыў у двары. Лаўрык быў у Смале. Прывязлі з Смалы Кузьму цотаўцы, здаецца, Цотаўскі Мікіта, аднавокі, ехаў.

Харошаўскае таварыства спажыўцоў абакралі на 3000 рублёў. Думалі на Васіля Ваяводу. Волька Паўлюкова была ўжо замужам, зайшла ў Чамярыцу, у Гаршчыну, за даволі заможнага, здаецца, селяніна, але далёка. Часам прыходзілі к Задумавым меншыя Паўлюковы дзяўчаты, у садзе гулялі, Кузьма любіў жартаваць з малою Машкаю, яна была вясёлая дзяўчынка. І ён хадзіў часам, рэдка, у Харошае. Там цяпер у Лукаша Ваяводы крамка была, на гародзе, недалёчка ад царквы. Каля гэтай крамкі людскі прыпынак тады быў, моладзь збіралася, гулялі, семечкі лузгалі. І настаўніца п'янаўская, Марго, што з папом любілася, часам бывала там. У Камароўцы тады Ігнат Петрачонкаў жаніўся, зусім яшчэ малады хлопец. Гуляюць, бывала, дзеўкі на шляху, за Паўлюковым Леванёнка гумном. І Ігнат там з сваёю сядзіць. Яна была беленькая, кволенькая. І пасля і памёрлі абое ад сухот, і яна, і ён за ёю, і ўвалілася гэтая хвароба ў іх хату на доўгі час, аж і дагэтуль. Васіль Какста, Банадысёў брат, жыў тое лета ў Камароўцы, у брата Банадыся, пры-

ехаў з Смалы. Тоўсты, сіваваты ўжо, у пінжаку, у ботах, з кіёчкам. Стахван Задума паважаў яго, гэта ж быў яго таварыш у маладыя гады, бацька Какстаў, Арцём, хрысціў Стахвана. Яны ўдваіх з свайго пакалення пайшлі ў свет, служыць. Стахван неяк казаў пра сябе і пра Каксту: «З усяе Камароўкі толькі Васіль Арцёмавіч ды я пінжакі насілі...» А маладыя ж гэтага ўжо не ведалі, Стахван часам кажа Кузьме: «Схадзіў бы да Васіля Арцёмавіча, яго б к нам папрасіў, чаго б выпілі...» Кузьма не ў той бок глядзіць. Кузьма змалку не любіў Каксту, бо змалку чуў, як камароўцы пасмейваюцца з такіх гарадскіх, як Какста. Недарма ж і прозвішча яму далі, што гаварыў на панскі лад: как-ста... А выходзіла, што Кузьма многа аб сабе думае, пагарджае людзьмі. У душу яму не ўлезеш, а сам ён свае думкі не выказваў: думаў, мо́жа, што не зразумеюць яго. Сядзеў усё ў сваёй старой хаце, слоўнік складаў, ад цямна да цямна слоўнік Насовіча лістаў, а рабіць гэта добра не ўмеў. Нават гной накапаць не выйдзе, хоць бацька там стары накапвае. Лячыўся пілюлямі ад малакроў'я, маўчаў за сталом, навадзіў нуду. Ці так трэба было яму тады жыць? Матка яму ўсё дагаджала, а ён і з маткаю гаварыў, надуўшыся, хоць і любіў матку. За сталом сядзіць, з'есць троху, усе крупеню ядуць, а ён сядзіць, маўчыць, наеўся. Не ўнасіў у сям'ю радасці і вясёласці. Ну, вядома ж, не заўсёды аднакавы быў,— быў і весялейшы. А толькі — не як чалавек, а як прыродны «тужык». Спытайцеся ў яго цяпер, як ён тое лета пражыў, як жыла Марынка і ўсе іхныя,— дык ён і не помніць, толькі жыццё адкрыла яму вочы на яго паводзіны (хоць і не зусім яшчэ...). Часам у садзе сядзеў, кніжкі чытаў. А яны ўсе працуюць.

Жыў Кузьма доўга ў дварэ, увосень паехаў, мусіць, у пачатку кастрычніка, разам з Какстаю. Марынку ўжо ў Горад завязлі да Кузьмовага ад'езду. Развіталіся яны, а яна дні праз тры прыбегла з Гораду дамоў: можа, хацела з ім яшчэ пабачыцца. І наогул у дварэ пабыць. А ён: «Чаго ты прыйшла?» Можа, хацеў сказаць, што далёка ж ёй так хадзіць: 25 вёрст. А яна нічога не сказала, паглядзела вінавата. І гэта ўжо апошні раз бачыў ён сваю Марынку. Больш не ўбачыў, бедную, светлая памяць яе...

У Смалу вёз Каксту пляменнік Ілля, і з імі ехаў Кузьма. Прыехаўшы, начавалі ў старэйшае К346ставае дачкі



Максім Гарэцкі з маці
на магіле Ганны Гарэцкай.
1924 г. Масква.



Парфір Іванавіч, Ганна Іванаўна
і Гаўрыла Іванавіч Гарэцкія. 1921 г.

Машы. Маша — душэўная жанчына, трошку экзальтаваная натура. Любіць пагаманіць, без концу будзе апавядаць і разважаць. Муж яе тады недзе згінуў, ці што. Жыла яна з маткаю і з хлопчыкам сваім, нейкім спуджаным. Жылі на ўскрайку горада, далёка — далёка ад цэнтра. Жалілася Маша на Лізу, малодшую сястру, што абхадзілася з яе мужам не як сястра: згледзіла іх, як лашчыліся ў бяседцы. Ліза была цяпер швачкаю, жыла з маленькаю дачушкаю, чакала мужа з палону. Жыла асобна, у цесненькім палупадвальным пакойчыку, бліжэй к цэнтру горада. Даў ёй Кузьма шыць сарочку, пашыла вузка і каротка, а Пракоп, ён жа кравец, ён жа і дастаў гэты матэрыял Кузьме ў каапературыве, казаў: досыць будзе, аж надта [1]. А Ліза апавядала Кузьме аб сваёй сям'і, пра бацьку, прост жудасныя рэчы. Бацька любіў гуляць. А яна цяпер бегала на вечарынкі ў казарму. Дзяўчынка яе была дужа плаклівая, сіратлівая. Скора муж яе вярнуўся. А ў Іллі першая жонка была яўрэйка. Пажыла яна ў Камароўцы і зачахла, памёрла, пакінуўшы сірот. Тады Ілля другую ўзяў.

Кузьма паступіў на сталую працу ў газету. Далі яму па ордэру пакой, ложак, стол, пару крэслаў. Пачаў працаваць [2]. Паступіў быў у інстытут вучыцца, ну некалі было хадзіць на лекцыі і не дужа спадабаліся яму лекцыі. 31 кастрычніка хадзіў на медыцынскі пераагляд, у казармы. Пабачылі яго сляды ад раны, прызналі нягодным, далі белы білет.

18 кастрычніка ездзілі ў Нізінкі к Лаўрыку бацька і матка. Завязлі яму два пуды мукі, кавалак сала, хунт масла. Марынка была тады, мусіць, ужо ў Горадзе. Зняліся тады: бацька, матка, Лаўрык і Сяргей.

У двары ўсё было добра, толькі былі нелады з Раманам; к дзяльбе ішло. Аксанка пайшла ў школу. Ёй быў 7-ы год.

Марынка вучылася ў Горадзе, ужо ў 5 кл[асе] гімназіі. Лаўрык вучыўся ў Нізінках, ужо ў 3 спецыяльным класе. Леташні год у яго блізу прапаў, дый у гэтым годзе такая ўжо была навука: часу не хапала за грамадскімі

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «...пашыла ~ надта».— аўтарская паметка: «Сінюю, сацінетавую, у палоскі».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Кузьма ~ працаваць».— аўтарская паметка: «Адразу не пазналі: вырасціў вусы».

справамі. Марынка была цяпер на другой кватэры: на Правальна-Пірогаўскай вуліцы, дом Яськіна, кв[атэра] Новіка. Кватэра была горшая за леташнюю. У гімназію хадзіла цяпер а 1-й гадзіне і займалася да 4—5 гадзіны. Настаўнікі, апрача В. Нікал. Лед., што выкладала нямецкую мову, усе былі новыя і многа лепшыя за старых. Лекцыі былі 40 хв. Вучаніцы зрабілі свой камітэт і школьны кааператыў. Пісала Марынка Кузьме цяпер па-беларуску. Жалілася, што яна і Кузьме і Лаўрыку піша, а яны ёй рэдка. З двара прыязджалі рэдка. Адпушчаць у гэтым годзе меліся 1 студня (па новаму стылю) да 15 студня. Хацелася Марынцы, каб і Кузьма і Лаўрык прыехалі на каляды дамоў. У горадзе ж тады вучыўся ў Панявежскай настаўніцкай семінарыі Шэйлачэнка (Ліхв.). Спярша Марынка не ведала, дзе ён на кватэры, а потым, праз адну семінарыстку, даведалася. Кузьма прасіў, каб Шэйл. узяў у Ланькі слоўнік, што з панскае П'янаўскае бібліятэкі. Слоўнік гэты потым Марынка выслала Кузьме.

Пракоп вучыўся на кааперацыйных курсах у Чэрыкаве. Кожны курсант павінен быў прывезці свае прадукты: 2 п. мукі, 2 п. бульбы, 6 х. сала, 10 х. мяса, 20 х. капусты, 10 х. буракоў. Гарбату і цукар даваў іх саюз дарма. Чыталі: тэорыю кааперацыі — праф[есар] Кільчэўскі, гісторыю кааперацыі — свяшч[эннік] Носал, практыку і справаводства — інструктар Зорын, камерцыйную арыфметыку — студэнт Квяткоўскі, лічэнне — бухгалтар Кальчэўскі, аграномію — павятовы аграном Бенгерскі.

З курсаў прыехаў Пракоп 23 лістапада. Скончыў з поспехам. Набыў званне рахункавода і арганізатара спажывецкіх таварыстваў. Бацька быў цяпер надта ласкавы з ім.

У палове снежня Пракоп прыязджаў к Кузьме ў Смалу. Прывёз яму троху ежы. Пракоп чакаў цяпер прызначэння ў якое-небудзь т-ва спажыўцоў рахункаводам, але чакаў таксама, што прызавуць яго ў Чырвоную Армію.

## 1919

Калядамі 1918—1919 усе былі ў двары, апрача Кузьмы. Каляды праходзілі звычайна. Нічога асаблівага не было. Не хварэлі і не сварыліся. Усе былі здаровы, хлеб

мелі. Але цемень як панавала раней, так панавала і цяпер. У цэлай вёсцы — ні газеты, ні часопіса, ні якіх лекцый, ні якіх дакладаў. I не было тут ніводнага інтэлігента народнага, бо настаўніцаю ў Паляпцы была цяпер Манька Маслакоўна з П'янава — панепка ў горшым разуменні гэтага слова. Курыла Шопік Зену кінуў, а ездзіў у сваты ў Слабодку к Васілю Васцяронку. Але тая не пайшла, і ён пакуль асеўся. Шукаў жонкі і нідзе не мог знайсці. Мархва Піліпоўначка ішла замуж, і Лаўрык напісаў Кузьме, каб Кузьма ўжо «не спадзяваўся». А яна ўлетку, як яны ішлі з лесу, з Чортаўшчыны, міма Піліпавага двара, гарэхамі іх частавала: брала з свайго падолу малымі прыгожымі ручкамі і ласкава ўсміхалася.

Кузьма калядамі выехаў у Менск. Даведаліся аб гэтым у двара ад Рамана. Раман быў у Смале зараз пасля яго ад'езду, яго ўжо там не заспеў, і сказалі яму, што паехаў у Менск. Потым Кузьма пісаў, што яго запрасіў у Менск на газетную работу таварыш Кнорын. Немцы адходзілі, у канцы 1918 г. Чырвоная Армія заняла Менск. Была абвешчана Беларуская рэспубліка, часовы рабочасялянскі беларускі ўрад паехаў у Менск, думалі выдаваць там беларускую газету, дык таварыш Кнорын запрасіў Кузьму, бо ён ведаў, што Кузьма ўмее па-беларуску. Кузьма і паехаў.

У студні месяцы стараннямі Пракопа адчынілася ў Камароўцы таварыства спажыўцоў пад назваю «Беларус». Пачаўся гандаль. Мелі пакуль што 100 пайшчыкаў. Справа пайшла б добра, ды мала было свядомых людзей, шкадавалі сродкаў, а без сродкаў такая справа пайсці не можа. Усюдых трэба было даваць авансы, тады толькі і можна было атрымаць тавары. Пракоп быў памочнікам раённага інструктара спажывецкіх таварystваў, зарабляў 600 руб. у месяц. На службе знаходзіўся з 20 студня, але пакуль што заводзіў рахунковыя кнігі ў сваім таварыстве. Потым пачаў ездзіць па раёну, даваў інструкцыі, вучыў, як весці кніжкі рахункаў. Бачыў шмат людзей, спатыкаўся з інтэлігенцыяй: настаўнікамі, настаўніцамі. Кааперацыйнаю працаю сваёю ён вельмі захапіўся: не шкадаваў ні часу, ні сіл...

Перад масленкаю жаніўся Васіль Ваявода. Вянчаліся, здаецца, 2 лютага. Узяў жонку з Пацаўкі (Суслаўкі), палячку Ядвігу, гадоў 22-х. А яму было гадоў 19. Пасагі ўзяў: тысячу рублёў грашмі (што цяпер значыла тысяча!), каня, карову. Вяселле было так сабе. З яго боку бы-

ла ўся радня, Паўлюковы, Лукашовы, і Ганна з Пракопам ездзілі. На масленку быў Пракоп па настаўніцкай вечарушцы. Шкадаваў, што не ўмее скакаць, бо настаўніцы вельмі запрашалі. І ён так добра трымаўся, што, хто не ведаў яго, не давалі веры, што ён просты вясковы хлопец-кравец, з адукацыяй пачатковай школы: лічылі яго інтэлігентам. На першы дзень вялікага паста (гэта было 3 сакавіка) ездзіў ён к Лаўрыку ў Нізінкі. У гэты час Пракоп зарабляў ужо 900 р. Служба яго была лёгкая, толькі ўвесь час у раз'ездах. Не было пакуль што кватэры. Ужо ён меркаваў, як бы адчыніць у Камароўцы народны дом. І праект і план быў у яго гатоў.

Лаўрык вучыўся ў Нізінках, займаўся грамадскімі справамі, а потым паступіў яшчэ на службу ў гарсавет. Беларускі вучнёўскі гурток ставіў у Нізінках п'есы Галубка, выязджаў і ў мястэчкі ставіць іх. А друкаваных п'ес не было, трэба было іх дабываць у Менску і перапісваць. Вучні браліся за ўсё: за ўкладанне беларускай тэрміналогіі, за апрацоўку кніжачак па сельскай гаспадарцы для сялян на беларускай мове, за выданне свайго часопісу. Гэты імпэт падаграваўся ў іх тым, што скрозь бачылі яны варожасць і пагарду да беларускае мовы. Не толькі такія настаўнікі, як С. Г. Бекарэвіч (Цыт.), але і многія вучні ў вучылішчы і настаўнікі па вёсках непрыхільна глядзелі на беларускую мову. На службе Лаўрыка абакралі. Укралі ў яго кніжачку, грошы і шапку, так што прыйшлося яму начою ісці дамоў без шапкі. Надта шкадаваў ён усяго, а асабліва сваёй запісной кніжачкі. Часу вольнага было ў яго мала, і ён рэдка пісаў Кузьме і Марынцы. Лаўрык паслаў Марынцы грошы і напісаў пару слоў на купоне.

Жыла цяпер Марынка на новай кватэры, у доме Фрумкіна, кватэра Шчапілы (Щепилло). Кватэра была добрая. Быў там раяль і дзве скрыпкі. Марынка хацела вучыцца іграць на раялі і «чыжыка» ўжо ўмела... Вучылася скакаць. Кракавяк, польку-какетку, «зялёную рошчу» ўжо навучылася, цяпер вучылася вальс. Меўся быць у мужчынскай гімназіі спектакль, а потым, у зале іхнага гаспадара, скокі і пачастунак для аматараў. У каго ж гэта яна жыла? Мусіць, там яна ўбачыла буржуазна-чыноўніцкі быт з яго вонкавага боку, падсвядома раўнавала яго з сваім сялянскім бытам: тут было ўсё чыста, акуратна, далікат-

на, а ў дварэ — брудна, неахайна, груба... Цікава, што і ліст Кузьме з гэтае кватэры напісала яна па-руску, але прасіла Кузьму скарэй выслаць ёй беларускі лемантар і граматыку, каб хутчэй навучыцца правільнай беларускай мове. У гімназію хадзіла яна цяпер а $2^1/_2$ г. і займалася да 7—8 вечара.

На стрэчанне была Марынка ў дварэ. Якраз было вяселле Праскоўі Грышкінае. Зайшла Праскоўя ў Несцерава. Прыязджаў у госці ў Камароўку Васіль Ваявода з жонкаю. Марынка бачыла іх. Жонка Васілёва ёй спадабалася. На масленку Марынка была ў дварэ (?), а Лаўрык не прыязджаў. Каля гэтага ж часу пераехаў Кузьма з сваёю газетаю з Менску ў Вільню. У дварэ аб гэтым давedaліся пазней. [...]

Мачыха не любіла Ядвігу, сварылася з Васілём. Андрэй за матку заступаўся, з Васілём сварыўся. І не было міру ў іхнай хаце.

Мачыха ў Камароўку ўсё хадзіла, к Ганне. Калі сала ёй дадуць, калі круп. Макарон варылі, ёй гаршчочак налілі, панясла. У яе каровы не было. У Мікіціхі булачку хлеба выпрасіла. Перад благавешчаннем таксама ў Камароўцы была. Начавала начы дзве. Хадзіла к Адарцы Саўчынай канаплі таўчы. У іх з Саўкам адна ступа была, «кучавая» (сумесная): калі дзяліліся, дык ступу ж не падзелілі. А жылі блізка, чэраз вуліцу, дык перакачвалі: то ў Саўкі стаяла, то ў Стахвана. Цяпер, вясною, Адарка к сабе пакаціла: кросны тоўч. Мачыха і хадзіла к ім у ступу, канаплі Стахванавы таўчы: Ганне пасабляла. Там, у Саўчыных, мачыха пра сына і нявестку гаманіла: «Во ўвідзіця, я ад іхных кароў малака есць не буду»...— «Як жа ты, у ваднэй хаце жывучы, малака іхнага не возьмеш?» — «А во не вазьму, і не буду, і не трэба яно мне»... Адарка дала ёй міску бобу, канапель, кавалачак мыла. На самае благавешчанне,— 25 сакавіка па стараму стылю, а 7-га красавіка па новаму, ува ўторак, была яна ў дварэ. Васіль і Андрэй гулялі. Андрэй выхадзіў, яна ключы яму аддала. Ён думаў, што яна ў Камароўку, к Ганне, пойдзе. Прыходзіць Андрэй дамоў, а яна вісіць на аборыне ў хаце. Нікога няма. Ён перарэзаў аборыну,— матка яшчэ цёплая была.

Але да жыцця вярнуць ужо не ўдалося. Ногі сабе перад смерцю памыла. Андрэй думаў, што Васіль яе задавіў. К Паўлюку жыць перайшоў. А Васіль счарнеў увесь ад гора і думак.

Марынку адпушчалі з гімназіі 12 ці 17 красавіка па 4 траўня (н. ст.). Рада была, што хутка пойдзе ўдвору. Надта дакучыў ёй гэты паганы Горад. Хоць сабе і ў дварэ не дабро... Вялікадне мелася быць гразкае. 5 красавіка ў Горадзе ўвесь дзень ішоў дождж, а туман снег так і еў. Рака ўжо рушылася, і заўтра Марынка з таварышкамі хацела ісці глядзець. Хацелася ёй, каб і Кузьма прыехаў на вялікдзень удвору. Ён быў ужо ў Вільні. Прыслаў ёй адтуль сваю кніжку. Яна напісала яму, што ад душы вітае яго, пыталася, над чым ён працуе цяпер і ці хутка выйдуць у свет яго слоўнікі. Тыя, што былі ў Зака, пісала яна, усе разышліся. Прасіла яго прыехаць і прывезці беларускіх кніжак. Лаўрыка яна чакала ўдвору. Лаўрык прыслаў ёй грошы.

## З Марынкінага дзённіка

*5 мая 1919 года.*

Як мала пражыта, а многа перажыта. Сэрца ныіць, душа баліць, падзяліцца няма з кім. Даю сабе слова з сённяшняга дня ізліваць усі скорбі і пячалі ў сію кніжку.

Галава трашчыць і кружыцца.

Думкі аб №-е і Х-е не даюць чытаць «Новые люди» соч. Мордовцева; хачу не думаць, но не саўладаю з сабою, думкі плывуць і плывуць адна за адною.

Пісала б большы, но чую — часы б'юць 11 ночы, січас прыйдуць С.., Л.., і ўсі нашы.

Нада лажыцца спаць.

*6 мая.*

Галава яшчэ баліць. У гімназіі сказалі, што 7 адпусцяць. Надта не хочацца ісці ўдвору. Там толькі і будзеш чуць ад таты ўсякія пакасныя словы, як, нап[рыклад], «гарадская шлюха», «патаскуха» і т. п., а як абідна іх пачуць ад свайго роднага бацькі. Хадзіла ў «Люкс». Там ставілі «Волна, что разбилась об утёсы», карціна не дужа добрая.

Дачытала «Новые люди» і аддала Ст.

Гулялі цэлаю кампаніяй ў саду Купчына. Было вясёла. Січас нада лажыцца. Люба ўжо лягла. Заўтра, хаця не хаця, нада ісці ўдвору.

*7 мая 1919 года.*

Сяння прыйшла ўдвору. Сэрца дужа баліць, гледзя на ўсю чуш, што дзелаецца ў нас. Нашы падзяліліся. Як пагана звучыць гэта слова, каб яно згінула. Ногі баляць, а

ўсё-ткі ж я троху работала. Дзень прайшоў так сабе: ні то ні сё.

*8 мая.*

Увесь дзень драла мох у Камароўшчыне і ў Салаўёвым маху, успамінаючы ўсё ранейшае.

Работы многа, работаць некалі.

*9 мая. Нікола.*

У Пацолтава не хадзіла, плакала многа; чытала «Жизнь для всех».

## З Лаўрыкавых нататак

*25 чэрвеня.* Практыка ў полі. Праз месяц скончу школу і... куды ехаць, што рабіць?

*2 ліпня.* У двар. Марынка — новая, Пракоп і салдаты. Раман. Нейкі з Цотава, труба, бінокль. У садзе. Пестун — хворы целам і духам. Кааперацыя.

Маці і яе заўсёдныя клопаты: «Без жыру схудаў».

*14 жніўня.* Пайшоў удвору, справіўшы вечары-спектаклі.

*15 жніўня.* Вечар. Тая хата. Арахі. Вегетарыянства. Марынка, Пракоп, маці, бацька — падзеленыя. Кузьма ў Вільні.

Жнівень у Нізінках. Падлічваў свае сілы. Выбіраў і не мог выбраць сцежку жыцця. Скончыў залікі і, значыцца, сярэднюю школу. Меў 19½ гадоў. Куды павядуць жыццёвыя сцежкі?» [1]

Няма грошы.

*25.IX.* Ізноў думкі, якую спецыяльнасць, які шлях выбраць.

*26.IX.* У панядзелак, 29-га, Лаўрык едзе ў Нізінкі. «Павернемся крута і застанёмся ўсе тута».

Кіеў, Масква, Горад, уземаддзел, каморнік, Смаленск, Нізінкі, Кіркор, інстытут.

Ідзём чысціць дошкі каля Раманавае хаты. Чытае «Жалезную пяту» Д. Лондана. Захапляецца.

«Сяляне адхінуліся ад рэвалюцыі праз сваё эканамічнае становішча, калі яны з'яўляюцца ўладарамі зямлі і прадуктаў яды».

«А кругом зяваюць бабы, спіць хворы Пракоп, няма нічога выдатнага, шалёна расстралялі некага і сам хвор...»

---

[1] «Чаму скончыў на год раней, чым звычайна?» (Пытанне аўтара.— *Рэд.*).

*2.X*, у панядзелак, прыехаў з Пракопам у Нізінкі. У дарозе думкі, як і ў 1914 г. Размовы з Пракопам («хата», «пабудую»).

Падаў заяву на пасаду настаўніка.

З фронту ідуць дрэнныя весткі. Белыя наступаюць, рабуюць, паляць, разбіваюць, нішчуць.

А тут вакол — бюракрацтва, несумленнасць, інерцыя, клопат пра кавалак хлеба. [...]

*20.X.* Абарона Савецкае рэспублікі пашыраецца. Вярнулі Арол. Разбілі 12 палкоў Мамантава. Радасць!

Лаўрык паехаў дамоў.

17 лістапада Пракоп пайшоў у Чырвоную Армію. З Камароўкі ехаў з бацькам да Смаленска. Дужа пазяб. У ботах ехаў, а мароз-мароз быў.

Узялі яго ў Чырвоную Армію, здаецца, пад вясну ў 1919 г. Хоць можна было яшчэ месяцы два праваладзіць у кааперацыі, але жыццё гэтае дакучыла яму, і ён пайшоў дабравольцам. Пайшоў у Горад, з Горада накіравалі яго ў Гжацк, у запасную лёгкую батарэю. Прыехаў туды. Спачатку было дужа дрэнна. Давалі аўсяны хлеб і пахлёбку, нейкую бурду. Спалі на голых нарах, хто на чым мог. Так жыў нядоўга, можа, месяц, можа, болей. Потым забралі ў Гжацкі ўпрадком. Быў чырвонаармеец і жыў у казармах, але нарадаў не нёс, а працаваў у ўпрадкоме і атрымліваў там пенсію і паёк. Купіў матрац і спаў на матрацы. Людзі ў гэты час галадавалі. Пракоп меў два пайкі: чырвонаармейскі і грамадзянскі — і з'ядаў, і было мала. Грошы пасылаў Марынцы. «Грамадзянскі» паёк — гэта 7—8 хунтаў аўсянае мукі, 2 х. цукру, капусты, круп...

7 снежня пісаў ён дамоў з Гжацку, што атрымлівае 1½ х. хлеба, ½ х. мяса і 15 залатн. цукру ў дзень. Атрымаў мундзір, фуфайку, цёплую фуфайку, рубашку і пару нацельнага плацця.

21 снежня ён пісаў, што цэлы месяц не меў з дому лістоў.— «Якаў Казлоў расказаў мне, што ў нас хацелі забраць карову па мабілізацыі, а вы нават ніводнага слова не хацелі напісаць пра дом. Няўжо ў вёсцы няма каму напісаць хоць трохі? Пасылку вашу, пасланую Казловым, атрымаў, за якую вялікае дзякуй, бо яна прыйшлась мне акурат у той час, калі я дужа хацеў есці. Дарагі братка

Раман, зварочуюся да цябе трэці раз з просьбаю. Калі ласка, пішы ты мне лісты, ты ж ведаеш, якую прыемнасць дае ліст салдату, жывучаму на адным хунце хлеба ў суткі. Магу табе паведаміць, што маё жыццё цяпер такое хуцдое, як ніколі, і ты ў гэты час не хочаш напісаць мне ніводнага слова. Хлеб тут каштуе 100 р. хунт».

Кузьма быў у Вільні. За цэлы год ён здолеў паслаць родным, цераз фронт, толькі два лісты. Першы ліст паслаў 30 траўня. Цераз колькі месяцаў даведаўся, што ліст дайшоў. Другі ліст паслаў 14 снежня, таксама праз фронт. Праз многа часу даведаўся, што і ён дайшоў. А Кузьме напісаць з дому не мелі спосабу, і ён не ведаў, што дзеецца ў дварэ, не ведаў года паўтара, пакуль Чырвоная Армія ізноў не заняла Вільню. Кузьма зрабіўся там настаўнікам у беларускай школе. Жаніўся ўлетку, жонка яго таксама была настаўніца.

### 1920

15 траўня атрымалі Стахванавы ліст ад свайго Кузьмы з Вільні. І картачку. Ліст быў пасланы пяць месяцаў таму назад. Былі вельмі рады, бо за гэты час дужа клапацілі аб ім. І навіна ж была: жаніўся Кузьма! У той жа дзень Марынка напісала адказ.

Навін асаблівых,— пісала яна,— за гэты час у Камароўцы не было. Пракоп быў у Чырвонай Арміі ў Гжацку. Лаўрык працаваў у пададдзеле землеўпарадкавання ў Уфе. Раман гэтымі днямі меўся ўжо пераходзіць у сваю новую хату. З пераходам Рамана з сям'ёю заставаліся ў хаце бацька, маці і Марынка. «І я, грэшная»,— пісала Марынка Кузьме. Ёй было дужа сумна, і яна хацела і прасіла Кузьму ў лісце, каб ён з жонкаю хоць пісалі ім часцей. Лаўрык улетку меўся прыехаць на месяц. І Марынка пісала, што як бы добра было, каб і Кузьма з Мілаю прыехалі на той час. «Разам бы радаваліся, весяліліся і елі б яблыкі і ягады, якіх сёлета дужа сільна зарадзіла»,— пісала яна. Прасіла выбачэння, што дрэнна піша па-беларуску, прасіла, каб яны дужа сурова не судзілі яе за гэта. Ліст яе атрымаў Кузьма 5 жніўня — гэта была яму з двара першая вестачка за паўтара года.

Раман збудаваўся каля аколіцы, за Максімавым садам. Бацька з маткаю хадзілі к яму на ўлазіны. Булку хлеба, мёду занеслі, рубель далі.

Пракоп жыў у Гжацку лета, зіму, блізу год. Быў чырвонаармейцам, але працаваў рахункаводам у Гжацкім упрадкоме. Улетку прыязджаў на два тыдні ў Камароўку. Якраз на адзінаццатуху. Хлопцаў не было, дык ад дзевак адходу не было. Зацягнулі яго з Целяпеніч, з кірмашу, у Вушова. Ад Валоўны Алёны адходу не было. Яна і ў Камароўку яго праваджала. Тады, здаецца, і з Рыпінаю Смакуноваю звязаўся. Час быў вольны ад работы, ярыну адсеялі. Цягаўся па лесе і не пачаваў у двары. У ягады з Рыпінаю хадзіў. Бацька і матка вельмі крыўдзіліся за гэтыя яго справы. Людзі тады гаравалі, але жылі не бедна (у Камароўцы). Пабыў Пракоп тыдні два і паехаў у Гжацк. Там, як ён прыехаў, камісар батарэі хацеў, каб ён працаваў у батарэйным клубе, а ў упрадком на працу не пусціў. Тады Пракоп падаў рапарт аб адпраўцы на фронт. Ехала на фронт партыя, і ён паехаў. Трапіў у 18 цяжкі артылерыйскі дывізіён, на Заходні фронт, зараз за Полацкам. Быў ён тэлефаністам. 1 ліпня выехалі яны на пазіцыю каля вёскі Бандары. 2—3 ліпня ўмацоўвалі пазіцыю, рыхтаваліся да генеральнага наступу. Ува ўсіх быў бадзёры настрой, усе былі ўпэўнены, што палякаў выб'юць і пагоняць.

А гэтым летам у Маху і ў Засценках хаваліся камароўскія і немярэцкія (булінскія) дэзерціры. У Чорнай Пушчы была цэлая банда «зялёных». З Гораду выязджалі лавіць іх. Яны забілі старшыню павятовага выканкома, ён пахаван у Горадзе, над магілаю стаіць помнік. Ездзіў лавіць Шастак. Расстралялі Стахванёнка з Глінні. Жонка ўночы паехала, выкапала яго, прывязла ў Глінню і пахавала.

Пракоп апавядаў, што бачыў у Гжацку, як вялі расстрэліваць дэзерціраў. Удзень. У горадзе. Вялізны натаўп. Бацькі, маткі. На кожнага па тры штыкі; спераду адзін з наганам. За горадам натаўп разагналі. Самі выкапалі сабе ямкі. У адных кашулях. Залп... Твар у гэтага, што ішоў спераду,— жудасны. А чырвонаармейцы — звычайныя.

Улетку Лаўрык быў у двары і напісаў Кузьме пра Камароўку. Камароўка, пісаў ён, расла... Дзялілася, завадзіла новыя будоўлі, клапацілa. А новага жыцця як не было, так і не было... Забудавалі зрубамі ўсё аж да дарогі на Залужжа. Людзі радзіліся, паміралі...

Памёрла баба Міхасіха, што бабіла Кузьму, Лаўрыка

і Марынку. Памёрла і Анісся Курыліха, хросная матка іх. Памёр Яхім Смакун, Лаўрыкаў сябар па дзяцінству і гульнях, памёр бядача... Прыйшоў з Чырвонае Арміі хворы пасля тыфусу. Ішоў, застудзіўся. У дварэ дрэнны догляд, Вулька-нявестка наракае за хлеб: «Прыйшоў аб'ядаць», маральная адзінота, думкі аб няўдалым жыцці, жальба. Часам бачылі ў Яхіма слёзы, ціхія, буйныя. Нарэшце — магіла. Пахавалі яго на новым могільніку, што завялі ў 1918 г. у Гайку, на былой панскай зямлі, ля канавы ад поля. Дрэў там ніякіх не было, пасеклі яшчэ паны: толькі тры крыжыкі ды колькі магілак. Дзяўчаткі зрабілі прыгожы курганок, яны ж і плакалі па Яхіму на хаўтурах, бо ні бацькі ўжо ў яго, ні маткі, а бедныя сёстры зайшлі замуж у далёкія вёскі, ім нават не наказалі, што брат памёр. Пасадзілі дзяўчаты на магілцы красак, на радуніцу касацікі там ужо красавалі. А найболей жалела і сумавала Марынка, хоць не быў ён ёй ні родны, ні блізкі, толькі сусед. Цяпер, улетку, калі быў Лаўрык у дварэ і спытаўся ў людзей, хто ў вёсцы за гэты час памёр, яму адказалі: «Ніхто». А калі пабыў цяпер на могільніку і спытаўся ў Марынкі: «Чыя гэта магіла?» — Марынка сказала: «Яхімава». І сумна-зло зрабілася Лаўрыку. Вось яно жыццё:

Ни сказок о нём не расскажут,
Ни песен о нём не споют...

Дзед Тодар Задума быў яшчэ жыў і нават крэпак. І Лаўрык пісаў Кузьме: «Едзь, браце, і выпытай у яго пра ўсё старасвецкае; ён усё памятуе — унію, напрыклад». Курыла Скнары хварэў цяпер, балелі ногі, хадзіў з кіёчкам ды ўсё стагнаў, лежачы ў брата Пііпа на палу. Непрыгожая старасць,— разважаў Лаўрык,— лепш зрабіць, як Петроні ў рамане Сянкевіча «Qwo wadis?» [1]. Старыя Банадысь і Мікіта былі яшчэ як дубы.

Якаў Раманёнак, Іван Мікіцёнак, Міхалка Піліпёнак, Антон Салдацёнак былі ў Чырвонай Арміі. Пракоп пайшоў на фронт з Гжацку сваёю ахвотаю. «Добры хлопец!» — хваліў Лаўрык свайго любага брата. Усе іншыя хлопцы былі ў дварэ.

Міхалка Смакун, Яхімаў брат, жаніўся, узяў Ганну Сілункову. Вяселле нядаўна было. Казалі Лаўрыку людзі, што ладнае было вяселле. Сцяпан Задума жаніцца

[1] «Куды ідзеш?» *(лац.)*.

збіраўся. Дзеўкі хлопцаў з арміі чакалі, бо ўжо замуж хацелі. Аўгіння Мікітава, Марынкіна таварышка, была яшчэ ў двары.

Змены ў камароўскім жыцці былі, але яны не вельмі кідаліся ў вочы. Гаспадарылі як і раней,— троху горш з прычыны вайны і рэвалюцыі. Плугоў жалезных як было два на ўсю вёску, так і цяпер не пабольшала. Чвертку Камароўшчыны пасеклі, ляды карчуюць, дзёгаць гоняць. Мох, гэтае вялікае балота з лазою і дробным, але густым-густым балотным лесам, пасеклі, паглумілі булінцы. Жаб'е (лес) само вы́гарыла. У Салаўёвых машкох вялася выбарачная эксплуатацыя. Торф у балотах усюдых палілі, і гінула «чорнае золата», а саломы мала, і гною было мала, бо торф не скарыстоўвалі. Травы сёлета было мала: павыпякала сонца. І красак было ўжо мала, толькі рэдзенькія васількі лашчылі душу. Арахоў было шмат, але шмат жа іх і папсавалі. Цяпер усе былі лузганцы, ды нечага было лузгаць.

У двары Лаўрык знайшоў надворны выгляд як і раней, толькі троху пастарэла ўсё. Гаспадарка не апусцілася, дзякуючы энергіі і старасвецкай працавітасці маці і бацькі. Быў конь і жаробка-стрыгун, дзве каровы з добрым малаком і маслам, цялё, свінні-падсвінкі, шэсць авечак, качкі, куры. Сад сёлета вельмі ўрадзіў — яблык было многа, усюдых у садзе стаялі падпоркі, і яблыкі былі незвычайна салодкі: мусіць, ад сонца. Даспявалі сліўкі. Пчол было дзевяць калод, выйшлі два раі і былі асаджаны. Мёду можна было спадзявацца пуды два. Жыта ўрадзіла ніштто сабе, нажалі 13 вазоў, пудоў 70. Ярына пагінула: ураджай сам 2—3. Быў авёс, гарох, ячмень, трошку лёну. Пшаніцы было 2 вазы, пудоў на 8. Бульба была не буйна і ад гарачыні пачала пускаць расткі: калі яна разрасцецца, крахмальнасць павінна была надта зменшыцца. Наогул жа, на сям'ю хлеба павінна было хапіць. Зарэквізаваць мелі пудоў 7 жыта, 6 аўсу, 7 сена. Сена ў гэтым годзе было мала. Троху выгарыла — зіму прыходзілася перабыць 8—10 вазамі. З работаю была ўпраўка. Калі Лаўрык выязджаў, ужо ўсё дажалі, і жыта і ярыну. Лаўрык давазіў ярыну, апрача аднаго вазу ячменю. Аборкі ў полі таксама пакасіў; засталася толькі адна дзесяціна ў лядах, там сена вазы на 2—3. Яе меліся дакасіць сяння-заўтра. Троху малацілі. Гэткае ўборкі, як сёлета, дый ґоду гэткага не памяталі найстарэйшыя з дзядоў. З работаю ўпраўляліся самі: бацька, маці, Марынка. Троху дапама-

галі ім збоку: адрабляні ім людзі за тое, што бацька вазіў іхнае сукно валіць у Аблонне.

З Раманам падзяліліся, і ён жыў у новай хаце, каля Максімавага двара. Жыў даволі добра, бо троху падзарабляў пабочнымі заробкамі. Дзеці яго раслі. Аксанка і Антанінка вучыліся ў Палянцы. Толя ведаў колькі літар. Пабедзька пазіраў разумнымі чорнымі вочкамі. Надзя жыла ў Рамана. Яна ўжо зрабілася сталая вясковая дзяўчына-нявеста. Пакінула сваю нясмеласць і сарамлівасць і да ночы жартавала са Сцяпанам. Узімку мелася быць іхнае вяселле. Мадонны ў яе поглядзе і феі-русалкі ў яе поступе Лаўрык ужо не бачыў...

Пракоп быў у Чырвонай Арміі. Ён, бышы дома, меркаваў будаваць новую хату, «чыстую», двор — на англьскі манер. А Лаўрык раіў яму тады — насадзіць сад на вышнім гародзе, а ўпасяродку сада пабудаваць «флігель». Бярвенне было навезена, меліся пачаць рубіць.

Бацька пастарэў троху, пацішэў, але застаўся самім сабою. Гледзячы на яго, Лаўрык чуў крыўду і жаль, хоць частку бацькі ён чуў у сабе і ўва ўсіх дзяцёх. З паганаю часткаю хацеў Лаўрык змагацца, добрую — развіваць...

Маці ўсё клапаціла і ўнасіла ўва ўсё нейкі дым-флёр гаспадарнасці. Зморшчкі ў яе на твары паглыбелі, відаць было пражытае, а ў вачох — захаванае жаданне сабраць сям'ю ў кола, зрабіць сыты лад. «Добрая наша маці,— пісаў Лаўрык,— толькі гэтая яе цярплівасць ды эксплуатацыя сябе дзеля агульнага ладу — няладны».

Шмат ужо было прынята бацькамі новага, што раней яны б гналі. І бацька і маці дужа многа працавалі. Любілі яны ўсіх сваіх дзяцей, кожнага паасобку. Хацелі б яны бачыць Кузьму і Мілу, а маці пашчупаць Кузьмову раненую нагу...

Марынка жыла, імкнулася, радавалася і сумавала... Ёй было ўжо 18 гадоў, а ў ёй усё яшчэ многа было свайго мясцовага прымітывізму. Навука і браты пасеялі ў ёй няясныя жаданні, а канкрэтна ёй не паказалі. Яна шукае, не знаходзіць і часам сумуе. Сфера ў яе была вельмі мяшчанска-інтэлігенцкая, жыццёвых завірух не было. Яна чагось шукала... Маці хацела б зрабіць з яе добрую гаспадыню, якая б жыла пры ёй і працавала, без усякіх паганых, лішніх навук. Бацька казаў, што няхай кожнае дзіця яго само выбірае сцежку, толькі няхай параіцца з ім. А тым часам Марынцы было калі горка — толькі праз бацьку і праз яго асабісты светапогляд. Пара б вырваць

Марынку на паўгода з двара,— меркаваў Лаўрык. Яна павінна была скончыць у гэтым годзе працоўную школу 2-й ступені. Ёй трэба было меркаваць, як Лаўрык ёй раіў і як сама яна пастанавіла, меркаваць, куды падацца далей. На выбары стаяла: аграномія, настаўніцтва. І Марынка хацела пагаманіць з Кузьмою і Мілаю шчырым сэрцам.

Пасля заняцця Воўчае Гары (Вільня) Чырвонай Арміяй, дома з нецярплівасцю чакалі ад Кузьмы вестак. Пракоп пісаў з Мелкага, што быў у Цараўцы, адкуль Міла родам, і што потым меў бліжэйшаю мэтаю знайсці Кузьму ў Воўчай Гары.

14 жніўня Раман прынёс з Целяпеніч тры лісты. Адзін ліст яшчэ ў дарозе, на разку пад Засценкамі, узялі чытаць Марынка і маці, яны жалі там ячмень. Два другіх лісты захапілі чытаць Лаўрык, Раман, бацька. Потым Марынка прынясла Лаўрыку і той ліст, што яна захапіла. А Лаўрык скарадзіў парыну на шырокай паласе. З гэтых лістоў, ад 27, яшчэ раз ад 27 і ад 29 ліпня, даведаліся яны пра Кузьмова жыццё ў Воўчай Гары. Усе ўзрадаваліся, асабліва маці. Бацька і Раман зараз жа пачалі меркаваць, як бы даехаць да Кузьмы, і калі праекты валіліся, бацька пастанавіў: «Не пісаць нічога, тады скарэй прыедуць». На другі дзень, 15 жніўня, павёз бацька Лаўрыка ў Целяпенічы, і ў Целяпенічах атрымалі яны ад Кузьмы яшчэ ліст, ад 4 жніўня.

## З Пракопавага дзённіка

4 ліпня ад 7-й гадзіны Пракоп быў на наглядальным пункце артылерыйскае групы. Камандаваў групаю камандзір іхнага дывізіёну Гатцук. У групу ўваходзілі лёгкія, цяжкія і гаўбічныя батарэі. Група была падначалена начальніку баявой дзялянкі фронта, ён даваў загады Гатцуку, куды накіроўваць агонь. Гатцук быў родам з Валагодскае губерні. Рускі, відаць, ці чухонец. Высокі-высокі, вышэй за Пракопа, сухі, чарнявы. Гадоў яму пад 35. Быў афіцэр старой арміі, беспартыйны. Цяжка было яго раскусіць, дзе яго душа, але біўся ён з белымі добра. Чырвонаармейцаў любіў. Тэлефаністы не чулі, што ён начальнік: быў як таварыш. І Гатцук і тэлефаністы, наглядальнікі, з якімі быў Пракоп, былі людзі абстрэленыя, біліся ў Архангельшчыне з ангельцамі. Адтуль пераехалі на гэты фронт. Былі большасцю ў ангельскім абмундзіраванні:

ангельскія карыя мундзіры, гімнасцёркі, рэмні, фляжкі, сумкі — усё вельмі добрага ангельскага матэрыялу.

У гэты дзень ад 7 гадзіны раніцы пачаўся з нашага боку ўраганны артылерыйскі агонь. З наглядальнага пункту Пракоп бачыў работу групы: разрывы былі вельмі ўдачныя, асабліва першай ці другой батарэі, ірваліся акопы і людзі ляцелі ў паветра... Ураганны агонь цягнуўся да 10 гадзіны раніцы. Пяхота наша пайшла ў наступ. Занялі дзве вёскі. А 1-й гадзіне ўдзень артылерыйскі агонь спыніўся. Праціўнік, прыкрываючы адступленне, упарта адстрэльваўся. А ўвечары панічна пабег... А 8-й гадзіне ўвечары зняліся з пазіцыі і паехалі наперад. Сяляне хацелі, каб чырвоныя хутчэй пайшлі наперад, каб ім вызваліцца ад вайсковых пастояў. Але ў чырвонаармейцаў быў настрой, каб прагнаць белых, і гэты настрой адбіваўся і на сялянах. [...]

Вось далей яго штодзённыя запісы:

*8 ліпня.* Выехалі з Рагозіна, начавалі ў полі, ноч была ядраная.

*9 ліпня.* А 7 г. раніцы выехалі з начоўкі. 12 г. і 20 хв. прыехалі ў Глыбокае.

Па дарозе шмат валялася арудзійных снарадаў, ад 6 да 3 дзюймавых гармат, шмат ружэйных патронаў, кухань, кіпяцільнікаў, павозак і інш.

*10 ліпня.* Увесь дзень былі ў дарозе. Праехалі м. Дуніловічы, начавалі ў в. Сіманы.

*11 ліпня.* Да нямецкіх акопаў засталося 6 вёрст.

*12 ліпня.* Прыехалі ў в. К. Была чуваць артыл[ерыйская] страляніна за р. Свір. Праціўнік быў каля м. Свір. Загад наш быў страляць па м. Свір, але страляць не прыйшлося, бо праціўнік адступіў. Я цягаў провад, і так мне гэта дакучыла...

*13 ліпня.* Прыехалі ў м. Засвір'е.

*14 ліпня.* Выехалі з Засвір'я, а 12-й г. начы, пераехалі р. Свір уброд, дрэнная была пераправа, памачыліся. І гарматы вязлі ўброд. Рэчка не шырокая, але глыбокая. Сяляне паказалі брод, аб'езд. Мост разбурылі палякі.

*15—16 ліпня.* Прастаялі ў в. Бабічы, не даязджаючы $1^1/_2$ в. да м. Міхалішкі, дзе быў зломаны мост праз р. Вілію.

*17 ліпня.* 7 г. раніцы, выехалі ў дарогу, у кірунку на м. Варняны, Астравец. Начавалі ў панскім двары Каменка. Тут багаты панскі палац, багатая мэбля, добрае скуры, чырвонаармейцы яе здзіралі, валяліся кніжкі з бага-

тае бібл[ія]тэкі. Тут касцёл ці царква. Сяляне маліліся богу. Адносіны з сялянамі былі добрыя.

У адной вёсцы былі настаўнікі, якія ведаюць Кузьму. Вельмі левыя. У іх на кватэры стаяў Гатцук. Я ішоў, і Гатцук мяне паклікаў. Яны пачулі прозвішча і з гэтага даведаліся, што я Кузьмоў брат. Ад іх даведаўся пра Кузьму. Гаварылі яны па-беларуску. Былі на настаўніцкіх курсах у Вільні. Сяляне тут праз увесь час адносіліся да Чырвонае Арміі вельмі добра. Апрача заможных.

*18 ліпня.* Раніцаю выехалі на Ашмяны. А 2-й гадзіне ўдзень былі ў Ашмянах. Начавалі ў панскім двары Ашмянка-Мураванка.

*19 ліпня.* 10 г. р., выехалі. Ехалі на п. дв. Жодзіна, праз м. Табарышкі. Начавалі ў в. Дайнаўка.

*20 ліпня.* Даехалі да п. дв. Бартынікі, дзе і начавалі.

*21 ліпня.* Мястэчка Радом.

*22 ліпня.* Новы Двор.

*23 ліпня.* Ехалі праз м. Острына. Чуваць была ўлева артыл[ерыйская] страляніна. Начавалі ў в. Каневічы (Горадз. губ.).

*24 ліпня.* А 4 г. удзень выехалі з в. Каневічы, праз в. Абухава, п. дв. Будоны, тут і начавалі, з прычыны няспраўнасці мосту праз Нёман.

*25 ліпня.* 8 г. 20 хв. раніцы, пераехалі Костру. 9 г.— Зоміна. Прыехалі да Нёмну. Адзін селянін з калёсамі ехаў праз Нёман уброд. Яго панясло і панясло ўніз, але неяк выкарабкаўся і выехаў. Мы наспех збудавалі паром ці мост няважны — пераехалі. Ехалі на панскі двор Свіслач, сяло Агародзішкі, в. Лоша, м. Індуры, в. Дубава, в. Лужкі, в. Грэбні. У гэтых Грэбнях і начавалі.

*26 ліпня.* Вёска Толча, Чапёлы, пан[скі] дв[ор]. Талочка, в. Куцілкі, горад Саколка. Ехалі вёрст па 40—60 у дзень. З Саколкі паляк выйшаў учора. У горадзе яшчэ не патухлі пажары. Адзін разведчык дастаў у горадзе віна і мне троху даў. Начавалі ў панскім двары Верхняя Ядліна.

*27 ліпня.* Праехалі в.в. Старыя і Новыя Мачаліны, в. Баркагель, 7 г. увечары пад'ехалі к сялянск[аму] двару Паныркі, не даязджаючы да Беластоку 9 в., дзе праціўнік пачаў абстрэльваць гару, па якой прахадзіла наша войска. Тут батарэя маментальна стала на пазіцыю і адкрыла агонь па Беласточках.

Начою праціўнік вёў моцны агонь па нашай наступаючай пяхоце. А раніцаю адступіў. Наша войска пераправілася праз р. Нарова.

*28 ліпня.* 7 г. ран[іцы], зняліся з пазіцыі, прыехалі ў рэзервы. Адпачылі, паехалі на в.в. Залатая Весь і Рударэчка, у якой і начавалі.

Рударэчка — вельмі чысценькая вёска, добрыя будынкі, крытыя чарапкамі. Толькі дрэнныя адносіны сялян да чырвонаармейцаў.

*29 ліпня.* Цэлую ноч у дарозе. Праехалі м. Васількова. Не даязджаючы 2 вёрст да Беластоку, павярнулі ўправа. Сталі на пазіцыю. Цэлы дзень правадзілі тэлефонную лінію. Ішоў вялікі дождж. Лазілі пад чыгуначны мост (цягнулі дрот). Баяліся, каб не абстраляў праціўнік. Перад вечарам я пабыў у Беластоку. Шмат мануфактуры, сукна. Куплялі боты. Усё дзешава. Некаторыя чырвонаармейцы лаяліся з гандлярамі (за боты). У 7 г. увечары праціўнік адступіў. Нашы часці пераправіліся праз р. Нарова. Начавалі ў вёсцы Лыскі.

*30 ліпня.* Пераехалі на новую пазіцыю. Аператыўны штаб арт[ылерыйскай] групы спыніўся ў в. Залатарка, Ломж[анскай] губ[ерні], на беразе р. Нарва, якая тут служыць граніцаю між Горадз. і Ломж[анскай] губ[ернямі].

Нарву разы два ці тры то аддавалі, то бралі. Там топка. Доўга біліся.

*31 ліпня.* 8 г. увечары, зняліся з пазіцыі, зматалі лінію. Схаваліся ад дажджа ў в. Жоўткі, Гор. губ., дзе і начавалі (тэлефаністы).

*1 жніўня.* 10 гадзін увечары, выехалі з в. Жоўткі. Пераехалі в. Бамбіна, Жандзяны (польскія ўжо назвы), Радуля, Ёжава, Папіца-Ліпнікі, дзе і начавалі ў палякаў і дрэнна адзін аднаго разумелі. Цяжка было звярнуць і сімпатыі сялян да чырвоных, не так, як на Беларусі. У Ліпніках шмат садоў, вельмі смачныя дулькі, ад пераспеласці іх выядалі восвы.

*2 жніўня.* Цэлы дзень стаялі ў Папіца-Ліпнікі.

*3 жніўня.* 10 г. раніцы, выехалі на пазіцыю, праехалі в. Цэханава Гара, Залессе, Кажулі, дзе і была наша артгрупа. Увечары праняслісе чуткі, што 1-га і 2-га наша дывізія была ў колцы, але памысна выбралася.

*4 жніўня.* 2 г. начы. Нашы часці ўзялі шмат палонных і перабежчыкаў, да 600 чалавек. Настрой у іх у некаторых быў бадзёры, а большасць вельмі змучаныя. Цікавіліся, як у нас жывуць. А 2-й гадзіне ўдзень выехалі ў дарогу. Праехалі в.в. Старыя Гродскія, Старая Літва, Чарнова-Біка, Інды, Чарнова, Чахі-Калякі, Лесніцэ-Беся, тут і начавалі.

*5 жніўня.* Рана выехалі ў паход. Праехалі м. Вігода. Начавалі ў в. Падлужжа, за 7 в. ад Ломжы.

*6 жніўня.* 2 г. дня, праехалі Ломжу, даехалі да в. Заруж'е, тут і начавалі.

*7 жніўня.* Начою выехалі на пазіцыю. Праязджалі в.в. Куляшы, Лунец, Буднік, Разварахі (дзе была наша артгрупа). Раніцаю праціўнік адступіў. Пераехалі ў в. Новая Весь, якая 5 разоў пераходзіла з рук у рукі. Валяліся яшчэ непадабраныя трупы палякаў. Вёска была ўся разбіта, разграблена. Галавы былі паразбітыя, вочы выкачаныя, твары цёмна-сінія. Парфір (ён жа Пракоп, Марцін.— *Рэд.)* бачыў трупаў 15, у розных месцах.

6 г. удзень — ад'ехалі ў в. Лескавец, дзе і начавалі. У гэты дзень чырвоныя забралі горад Астраленку.

*8 жніўня,* 10 г. 40 хв. раніцы выехалі ў паход. А 3-й гадзіне ўдзень прыехалі ў г. Астраленку, дзе я дастаў плітку чакаляды, без грошы, і купіў сабе каструлю варыць есці. Праехалі в.в. Наклы, Жабры-Астравы, Жабры-Вірхляс.

*9 жніўня* ўвечары прыехалі ў г. Макаў. Начавалі ў беднага чалавека, яўрэя. Дужа кусалі клапы.

*10 жніўня* ў Макаве купіў бумажнік з кракадзілавай скуры, 4 катушкі нітак, 2 алоўкі, солі і люстэрка. Увечары прыйшоў у рэзервы.

*11 жніўня* ехалі з усёю часткаю праз г. Макаў, потым праз в.в. Карнеева, Усаціна, с. Галоміна, в. Гогалева, ф. Госткіно, ф. Грыблёва, в. Паможа, дзе і начавалі.

*12 жніўня.* Выехалі з в. Паможа ў кірунку на г. Цэханаў, Плоцкае губ.

*13 жніўня.* Праехалі вёскі Асціслава і цукраварню Гліналеск.

*14 жніўня,* 12 г. дня, выехалі з бівака ў кірунку на м. Рацыонеж і г. Дробін, дзе спыніліся адпачыць, у нейкім панскім двары, елі варэнне, дасталі жыроў і коні добра накармілі. Раптам атрымалі загад абамунічваць. Чырвонаармейцы не ведалі, што назад. Прывёз загад казак. Я павёў яго да камандзіра. Загад: «Тяжёлую артиллерию спасти во что бы то ни стало». Камандзір сказаў, не казаць чырв[онаармейцам], што назад. Дрэнны настрой, але я храбрыўся і не паказваў віду.

Адступаем... Заехалі за м. Раціонеж, разведка паведамляе, што нам шлях па шашы адрэзан. Узнялася суматоха. Была пададзена каманда ўзяць карабіны і быць напагатове да бою...

Увечары, гадзіне а 8-й, не даязджаючы цукраварні Гліналеска, нас абстралялі (хто — невядома). Быў загад ізноў ехаць наперад. Павярнулі, даехалі да м. Рацінеж, павярнулі ўправа, каб аб'ехаць месца прорвы. Цэлую ноч ехалі. Дарога была дужа дрэнная, коні змарыліся, усю ноч ніхто не спаў.

Калі ехалі ўзад і ўперад, кожнага стрэчнага-папярэчнага забіралі з сабою. Сабраўся велічэзны абоз. Забіралі, каб не данеслі, што тут едзе цяжкая артылерыя.

Камандзір пасля казаў, што каля цукраварні дывізіёны ледзь не папаліся ў палон. [За м. Рацінеж, дзе елі варэнне, пад'ехаў яшчэ гаўбічны дывізіён, і абодва дывізіёны ўвесь час разам адступалі].

[...]

У гэты ж дзень, былі чуткі, наша войска заняло г. Плоцк.

*15 жніўня.* Рана прыехалі ў в. Бабінава, дзе сталі бівакам адпачываць пасля ўчорашняе суматохі. Увечары выехалі, цэлую ноч ехалі, усе хапаюцца.

*16 жніўня.* Уранні прыехалі ў горад Млаву, 7 в. ад Нямеччыны. У горадзе я страціў усе апошнія грошы. А другой гадзіне ўдзень выехалі. Пад вечар прыехалі ў с. Дзежгава Плоцкага павету. Пранесліся чуткі, што в. Бабінава, дзе мы начавалі, занята белымі.

У аднэй вёсцы, калі адзаду праходзіў наш прадуктовы абоз з быдлам, сяляне абстралялі каманду і забралі быдла і дабро наша. На ратунак былі пасланы разведчыкі, прадуктаў троху прывязлі, а быдла не. [...]

*17 жніўня.* Уранні прыехалі ў м. Хоржэлы, 2 вярсты ад Нямеччыны. Добрая вёска, чыстата, любасць. А 3 г. дня выехалі на вёскі Солтус, Брызасол, Мілавіджа, Паганджэла, Едзінарожжа, Дрождзева, дзе спаткалі аддзел сваё пяхоты і кавалерыі, які ішоў на падаўленне рэштак белых бандаў. У вёсцы рабілі рэвізію, шукалі зброі і казённых рэчаў. У гэтай жа вёсцы Дрождзева адпачывалі ў бяспецы.

*18 жніўня.* Выехалі з Дрождзева, праехалі г. Астраленку і спыніліся за 2 в. ад Астраленкі ў п[анскім] дв[ары] Лавы.

*19—20 жніўня.* У Лаве на адпачынку. 20 жніўня адступілі да Ломжы.

*21 жніўня.* 10 г. 25 хв. увечары праязджалі Ломжу. Усе вуліцы запруджаны абозамі. Усюдых паніка. Усе суяцца, хапаюцца. Горад — вуліцы пусты, у вокнах ні душы, калі хто ідзе — бяжыць, горад мёртвы. [...]

За Ломжаю ёсць насып-шаша і нейкі мост. Быў камендант пераправы. Цяжка было праехаць. Паехалі праз мост супроць волі каменданта. Каго прыдавілі, хто сам скаціўся ў роў. Нарабілі яшчэ большую паніку. Прыскакаў казак і сказаў, што палякі блізка, вярсты 2—3 за Ломжаю.

Тут дзесьці да нас падышоў, адкуль — хто яго ведае, аддзел чырвоных нямецкіх франтавікоў, узброеных, але ў цывільным адзенні, чалавек 30. Ішлі на падмогу, але і ў іх нешта было на граніцы, ці што, непрыемнасць. Гаварылі праз пераводчыкаў і ўсяк. Прыйшлі ратаваць чырвоных. Пайшлі з казаком, туды, дзе, ён казаў, ёсць белыя, а каб мы ратаваліся. Гледзячы на іх, хацелася плакаць ад пачуцця, што ідуць за чырвоных на смерць.

Ішлі тут і грамадзянскія палонныя, і абозы, куламеса. Асабліва шмат ішло яўрэяў.

*22 жніўня.* Уранні прыехалі ў м. Шчучын.

*23 жніўня.* Праехалі г. Аўгустоў. Ехалі па вялікім лесе, па шашы, шыбка. Разведчыкі, прыслуга — усе былі напагатове, ехалі шыбка, сядзелі і глядзелі ў правы бок, гатовыя біцца. Казалі, што палякі будуць з правага боку. Вялікае напружанне. Ехалі ўдзень. Ціха ў лесе, а ўсё толькі тарахцела ў лесе. Беглі, ішлі адзіночныя пехацінцы, абарваныя, босыя. Прыкрыцця, здаецца, у батарэі і не было... і сувязі ніякай.

Дзесьці, калі разведчыкі пайшлі ў сянніцу браць сена, дык знайшлі асядланага польскага каня ў сене, каля сцяны.

Уключылі былі свой апарат у тэлеграфныя драты для сувязі, дык чулі толькі польскую гутарку. Гэта нагнала яшчэ больш жудасці. Спыніліся на якую хвіліну і паехалі хутчэй.

Гатцук і камісар дывізіёну спыніліся ў аднэй вёсцы паесці. Ехалі яны на павозцы. А часць паехала наперад. Пакуль елі, у вёсцы пачалася страляніна. Яны кінулі павозку ды на конях у лес. У лесе таксама нарваліся на немага. Кінулі і коні... Толькі цераз 5 дзён дагналі часць на сялянскіх падводах.

*24 жніўня.* Начавалі ў в. Булда.

*25—26 жніўня.* Стаялі ў 5 в. ад г. Гродні.

*27 жніўня* — в. і м. Каменка.

*28 жніўня* — в. Дымаўцы.

*29 жніўня* — г. Ліда. З Ліды хацеў дабрацца да Кузьмы, але пабаяўся застацца ад часці.

*30 жніўня* — м. Тракелы.

*31 жніўня* — Ліпнішкі, Субатнішкі.

*1 верасня* — Багдапава, Трабы, Вішнева, Філіпятнікі.

*2 верасня* — м. Забрэззе, Дворышча, Дубіна, Літва Новая і Старая, Палачаны, Груздзёва.

*3—4 верасня* прастаялі ў в. Груздзёва.

*5 верасня* пераехалі ў м. Лебедзева. Салдаты расквætараваны цесна, сяляне адносяцца да чырвонаарм[ейцаў] дрэнна, часта чуваць спрэчкі — то за сена, то за дровы, то за бульбу.

*З 5 па 11 верасня* стаім усё ў той жа вёсцы. Часта сплю пра двор. Сніў, што малаціў. Гумно пачало крахцець і валіцца, чуць не задавіла маму. То мяне жэняць, а я не хачу, аднеківаюся. Сніў, што я ў лесе, сек дровы, не то дуб, не то бяроза, знайшлі мярлогу мядзведзя, хацеў яго забіць, і было мне дужа страшна.

*12 верасня.* Напісаў два лісты, дамоў і Рыгору Лукашавічу ў Харошае. Вельмі нудна. Літаратуры няма ніякае. Хадзіў як непрытомны. А 10-й г. увечары кладуся спаць, хоць побач у хаце вечарынка. Людзі весяляцца, а мне хочацца плакаць, гледзячы на ўвесь малюнак чырвонаармейскага жыцця.

*13 верасня.* Устаў рана, спёк 10 бульбін, трошку падмацаваўся, пасля варылі бульбу, дасталі хлеба, пад'елі, неяк стала вельмі весела. Хадзіў у м. Лебедзева. А ў 6 г. увечары пайшоў дзяжурыць. Настрой увесь дзень добры. Начою сніў, што мяне хацеў забосці сівы бык.

*14 верасня.* Пераехалі ў в. Хадкевічы і размесціліся па кватэрах.

*15 верасня.* Навязалі сувязь з нач[альнікам] арты-л[ерыі] дывізіі і батарэямі. Абедаў я і яшчэ 1 тэл[ефаніст] з гаспадаром.

*16 верасня.* Увесь дзень вольны. Мыў плацце, сплёў мату (спаць).

*17 верасня.* Зрання ездзіў з гаспадаром у лес, прывязлі сасну на лучыну. З капустаю елі бульбу, а хлеба па маленькім кавалачку. А 6 г. увечары пайшоў дзяжурыць. Быў у добрым настроі.

*18 верасня.* Балела троху галава. Увечары быў зусім здароў. Надвор'е вельмі добрае.

*19 верасня.* Уранні, а 10-й г., устаў, памыўся. Гаспадар накарміў блінамі з смятанаю. Хадзіў гуляць. Няскора вярнуўся ўдвору. Панейкі (сялянкі) трымаюцца не так, як у нас. Гавораць абы-што і не саромяцца.

*20 верасня.* Ездзіў з гаспадаром у дровы. Мыўся ў лазні. Дужа балеў жывот. Увечары ішоў невялічкі дождж.

*21 верасня.* Разыгрывалі сукно. Я свае $^3/_4$ аршына прайграў таварышу (значыцца, цягнулі нумаркі, я не выцягнуў, і мне таварыш выплаціў грашмі). Гадзіне а 5-й удзень быў невялічкі сход, потым займаліся пешым строем.

*22 верасня.* Надвор'е хмарнае. Ездзіў з гаспадаром у дровы, пасабляў насыпаць бульбу. Увечары рэзалі і білі дровы з Палянкіным. Настрой — як заўсёды.

*23 верасня.* Уранні ішоў дождж. Пад абед праяснела. А 12 г. дня заступіў дзяжурыць. Да 6-й дзяжурыў. Змяніўся, павячэраў і пайшоў па лініі ў в. Заскевічы. Паправіў лінію (тэлеф[онную]) і пайшоў на вяселле.

А 12 г. начы прыйшоў у канцыл[ярыю] і лёг спаць. Спаць было дрэнна: дужа вузкая лаўка і кусалі блохі.

*24 верасня.* Добрае надвор'е. Ад рання і да 3 г. маляваў шашкі і гуляў у іх. Пасля пайшоў на вяселле. Прыехаў жаніх. Адпраўка пад вянец. Па абедзе жаніха і нявесту, разам з шаферам і шаферкаю, вадзілі вакол стала з хлебам з соллю, потым нявеста стала на лаўку, паплакала, па чарзе кланялася і цалавала абразы. Потым перад ад'ездам нявеста кінула ў натаўп народа булкаю хлеба. Дзеўкі і хлопцы справілі тузганіну за аўладанне гэтым хлебам. Усе пайшлі дамоў, чакаючы прыезду з-пад вянца, калі павінна была пачацца ізноў гульня. Настрой у мяне на вяселлі быў прыгнечаны, і я аб 11-й гадзіне ночы пайшоў спаць.

*25 верасня.* А 9-й г. снедаў. Потым гуляў у шашкі. А 1-й г. удзень ізноў пайшоў глядзець вяселле. А 2-й мыў плацце, потым ізноў пайшоў на вяселле і быў там да канца. А 6-й пайшоў на мітынг у м. Лебедзева. На мітынгу была ўся дывізія. Выступалі прадстаўнікі камуніст[ычных] партый Амерыкі і Англіі, якія ў яскравых рысах абрысоўвалі рух заходнееўрап[ейскага] пралетарыяту і заклікалі ісці наперад да перамогі камунізму.

*26 верасня.* А 9-й г. снедаў. Елі бліны. Раптам падалі каманду: «Запрагаць!» Суматоха. А 1-й г. выехалі на Лебедзева, у в. Мойсічы, дзе і начавалі. Аб 11-й г. уночы ў в. Слабодка згарэў дом, падпалены салдатам, які сам уцёк.

*27 верасня.* Пераехалі ў в. Улапаўшчына. Вельмі брудная і бедная вёсачка, знаходзіцца за 6 в. ад Красна.

*28 верасня.* Стаялі ва Улапаўшчыне. Нудна. Чытаў кніжку Горкага пра жыццё Канавалава.

*29 верасня.* А 9-й ураніцы выехалі з Улапаўшчыны, праехалі м. Гарадок, спыніліся ў в. Навасёлкі, тут і начавалі.

*30 верасня.* А 5-й удзень, па загаду начарта выехалі з Навасёлак у кірунку на Гарадок і Мойсічы, дзе і начавалі. Між людзьмі насіліся чуткі, што рэўком з м. Валожына эвакуіруецца. Быццам бы белыя ўжо 40 в. па гэты бок Ліды. Настрой у сялян в. Мойсічы прыгнечаны. Рэўком гарадка таксама эвакуіруецца. На станцыі Маладзечна быў аэраплан з боку белых і скінуў 2 бомбы.

*1 кастрычніка.* А 8-й г. ур[анні] выехалі ў кірунку Маладзечна, Вілейка і в. Цынцэвічы. Тут і начавалі. У Мойсічах, хапаючыся, забыўся свой ножык.

*2 кастрычніка.* Цэлы дзень у Цынцэвічах. Чысціў буракі і моркву ў гаспадара. Па абедзе атрымаў чорныя суконныя брукі. Дзень прайшоў вясёла і супакойна.

*3 кастрычніка, нядзеля.* Снедалі, пілі гарбату. А 12-й г. пайшоў дзяжурыць і чуў, што белыя занялі Кацярынаслаў, а [бела]палякі — Пінск.

*4 кастр[ычніка].* А 8-й уранні выехалі на м. Куранец, в. Рэчкі. У наступнай вёсцы начавалі.

*5 кастр[ычніка].* А 8-й раніцы выехалі, было вельмі сцюдзёна, быў мароз. Праехалі м. Даўгінава, начавалі ў в. Абытацыя. Балела галава, ірвала. Ноч прайшла спакойна. Насіліся чуткі аб міры.

*6 кастр[ычніка].* Быў з раніцы мароз. Я ішоў наперадзе абозу, каб сагрэць ногі, бо былі рваныя бацінкі і тырчалі пальцы. Удзень пад'язджаў з Ручкіным (ездавы). Праехалі вёрст 18 і ў в. Атрубок начавалі, разам з разведчыкамі, бо ў кватэры, якая была (неразборліва.— *Рэд.*) тэлефаністам, быў тыфозны хворы.

*7 кастр[ычніка].* Даехалі да в. Верацеі. Доўга не знаходзілі кватэры. Тут і начавалі.

*8—10 кастр[ычніка].* Праехалі м. Глыбокае і начавалі ў в. Гваздзёва, за 7 в. ад Глыбокага. Тут ад гаспадара даведаўся, што Жашэўскі жыве ў Цараўцы. Пры першай магчымасці пайду, каб даведацца аб Кузьме.

*9 кастр[ычніка].* Цэлы дзень шыў падштанікі з сарочкі, бо казённых пакуль не выдаюць, а свае ўсе парваліся. Плацце як змяніў — ужо 2 тыдні. Пачынаюць з'яўляцца паразіты.

*10 кастр[ычніка].* З раніцы атрымаў бацінкі і гімнасцёрку. А 12-й удзень пайшоў у Цараўку. Але схадзіў

дарма. Жашэўскіх нікога не знайшоў. А 6-й увечары прыйшоў дамоў, павячэраў, а ўвечары хадзіў па ігрышча.

*11 кастр[ычніка]*. А 5-й раніцы знімаў лінію да начарта, потым снедалі, а 8-й выехалі на с. Плісы, Порахава, Празарокі. Начавалі ў п. дв. Зарэнкі і в. Барткова.

*12 кастр[ычніка]*. Праехалі м. Арэхаўна, м. Ветрына. Дзень стаяў хмарны. Ішоў дробны дождж. Начавалі ў в. Рабушкі. Абоз стаяў у в. Вераб'і, 18 в. ад Полацка.

*13 кастр[ычніка]*. Праехалі Полацк. У горадзе гандаль у поўным ходу. Таргуюць нават ненармаванымі прадуктамі. Усё вельмі дорага. Увечары выехалі з Полацка. Праехалі 20 в. да с. Шацілава, дзе і спыніліся.

*14 кастр[ычніка]*. А 2 г. начою леглі спаць. Удзень была суматоха. Раскватараванне чырвонаармейцаў па кватэрах, і высялялі салдатаў 333 этапа.

*15 кастр[ычніка]*. З раніцы навязвалі сувязь. Пасля пілі гарбату. Я мыў плацце на р. Аболь.

*16 кастр[ычніка]*. Спіў Ксеню Раманаўну, што залягаўся да яе, потым быццам сяло Слаўнае ўжо ў белых. Заняўся арганізацыяй белых, за што тата вельмі лаяў. А 12-й удзень пайшоў дзяжурыць, а 2-й мыўся ў лазні, піў гарбату, еў ляпёшкі, і а 8-й пайшоў ізноў дзяжурыць. Тут чытаў загад, дзе было сказана, што перамірэнне з Польшчаю падпісана на 21 дзень.

*17 кастр[ычніка]*. Нядзеля. Хмарна. Да 12-й дзяжурыў. Потым гуляў 9-тку. Увечары т[авары]шы пайшлі на вечарынку, а я лёг спаць.

*18 кастр[ычніка]*. Начою выпаў першы снег. Дзень прайшоў у бяздзеллі. Чуў ад Мачалава (нач[альніка] сувязі), што палякі 15 кастр. раніцою занялі Менск.

*19 кастр[ычніка]*. А 10-й раніцы пайшлі на заняткі, а 3-й абедалі, потым чысцілі калодзеж, увечары купілі пуд яблык, за 6.000 руб.

*20 кастр[ычніка]*. Ад 10 да 2-й на занятках. Потым абедалі, таўклі гаспадару пшаніцу. На Беларусі найчасцей карміліся з гаспадарамі і дапамагалі ім. Увечары быў на спектаклі. А 12-й пайшоў спаць.

*21 кастр[ычніка]*. Устаў позна. Пасля ўчор. вечара хацелася спаць. Цэлы дзень прайшоў без працы. З 6-й заступіў дзяжурыць, думаў аб тым-сім, надвор'е добрае, «хутка змянюся і пайду спаць».

*22 кастр[ычніка]*. А 6-й устаў, змяніў Якубоўскага. На маім дзяжурстве была перанесена цэнтральная на гэ-

ты бок р. Аболь. На абедзе быў у калектыве (парт[ыйнай] арг[анізацыі]), быў вясёлы, пяяў песні.

*23 кастр[ычніка]*. Атрымаў кашулю. Увечары быў у лазні. Пасля лазні — гутарка.

*24 кастр[ычніка]*. Нядзеля. Хадзіў у царкву. Прабыў там да 1-й. Пасля быў па вёсцы. Газет не было. Дзень прайшоў нудна.

*25 кастр[ычніка]*. Яшчэ да света хадзіў малаціць авёс. Потым — пешы строй. Было дужа сцюдзёна, вецер і мароз. А 5-й атрымаў першыя лісты за час быцця на фронце. Быў вельмі рад. Вялікае дзякуй Марынцы, што яна хоць троху асвятліла жыццё родных і знаёмых.

*26 кастр[ычніка]*. Займаўся, дзяжурыў. Чуткі аб пераездзе на паўдзён. Мяцеліца, усё бела ўвечары. Напісаў лісты ўдвору, Марынцы і Лаўрыку.

*27 кастр[ычніка]*. Устаў а 8, заступіў дзяжурыць, да 12-й дзяжурыў. «Займаўся крытыкаю Насці з Лаўрова». (Лаўрову падабалася тут дзяўчына Насця.)

*28 кастр[ычніка]*. Нічога асаблівага.

*29 кастр[ычніка]*. Рыхтаваліся выязджаць. А 8-й увечары і да ночы знімалі лінію. Вялікі мароз.

*30 кастр[ычніка]*. Знімалі лінію. З 1 да 3 (начы?) знімалі лінію. А 4-й лёг спаць. А 7-й выехалі з в. Шацілава. А 12-й удзень пагрузіліся ў вагоны. А 6-й г. 40 хв. выехалі з ст. Гараны. Начою былі ў Віцебску. У вагонах цесна, сцюдзёна, вельмі нудна, апатыя да ўсяго, што дзеецца.

*31 кастр[ычніка]*. Праехалі ад ст. Віцебск два ці тры пралёты і на ст. Лёзна атрымалі фураж. Тут купіў яблыкаў па 50 руб. штука. Увечары, начою, прыехалі ў Смаленск. Начою выехалі з Смаленска.

*1—2 лістапада.* Ехалі на паўдзён. [...] Праехалі ст. Ельня, Спас-Дзямянск, Сухічы і інш. На ст. Астапава, дзе правёў апошнія дні свайго жыцця вялікі пісьменнік Леў Талстой. Гэта скромны пакой, дзе стаяць два сталы, 1 ложак і кушэтка. На кушэтцы ляжыць гумовы круг. Усе дзверы і сцены пазапісаны імёнамі людзей, якія аглядалі пакой. Праехалі ст. Раненбург і Качэтаўка, дзе стаялі да раніцы 4 лістапада.

*4 лістап[ада]*. Праехалі ст. ст. Сястрычка, Ізабэрдзі, Гразі.

*5—6—7—8—9 лістап[ада]*. Праехалі шмат станцый і вялікія адлегласці. Да ўсяго чуецца ні то радасць, ні то агіда, хоць мясцовасць, якую праязджалі, была прыгожая, асабліва каля Растова. Злева рака, справа ўзорнае сада-

водства, вінаграднікі і шмат прыгожых дач. Растова бачыць не прыйшлося, бо мы былі ў ім начою, атрымлівалі прадукты. Венедиктов украў у капцёра прадбазы буханку хлеба.

Прыехалі на ст. Ціхарэцкую, дзе і прастаялі да раніцы 10-га лістапада.

*10-га ліст[апада].* Выехалі з Ціхарэцкае, праехалі г. Кацярынадар і на ст. Алфійскай згрузіліся. Прыехалі ў ст. Нова-Дзмітрыеўскую начою. Спыніліся ў аднаго селяніна Арлоўскай губ., гасціннага. Ён нас пакарміў, і мы спакойна заснулі.

*З 11 па 16* зрабілі некаторую перагрузку (перавязлі ўсё са станцыі), пераехалі на другую вуліцу, наладзілі сувязь, і мне прыйшлося ўжо два разы дзяжурыць. Увесь час сню сны пра двор, пра Кузьму. Напісаў лісты ўдвору, Марынцы, Лаўрыку.

*17 лістап[ада].* Устаў а 8-й гадзіне і ўспомніў, што сёння роўна год, як я ў Чырвонай Арміі. Прыйшлося многа галадаць, халадаць, бачыць няпраўды, пераносіць нязгоды, і ўсё гэта дрэнна адбілася на маім жыцці. Я сам гэта чую, асунуўся гадамі, няма таго вяселля, радасці, якая была раней. Я помню таску і горасць мамы, пячаль таты і Марынкі, той холад, які я перанёс па дарозе да Смаленска. Мне робіцца так цяжка, але я змагаюся з сабою і стараюся быць вясёлым. І вось якраз у дзень гадаўшчыны ад'езду з дому, у дзень сонечны, каўказскі была раздача падаркаў, і мне дасталося $^1/_8$ х. лёгкага тытуню. І былі разыграны боты, якія дасталіся на каманду. Я акурат выйграў боты (замест бацінак), хоць і няважныя. У гэты дзень я ўспомніў усё, што дзеелася са мною за мінулы год.

*18-га лістапада.* Дзяжурыў у канцылярыі, застаўся без абеда за сваю лень. Увечары быў мітынг з прычыны перамогі пад Урангелем. А 8-й гадзіне ішоў дамоў, вельмі балелі ногі, бо цесныя боты націснулі.

*19 лістапада.* А 10-й г. уранні паверка. Я сумеў на паверку не пайсці і ў гэты час сядзеў у канцылярыі і перапісваў тэлефанаграмы. Пад вечар сек дровы. Прыхадзіў Гаруськоў (сакратар калектыва), спрачаўся з ім за палітычныя перакананні.

*20 лістапада.* А 10-й уранні паверка, пешы строй, ч[ырвонаармей]цы хвалююцца, не хочуць займацца. Дый запраўды, чыр[вонаармей]цы і так знаходзяцца праз суткі ў нарадзе, апрача таго, абавязкі па займанай пасадзе.

Усе брудныя, некаторыя і вашывыя. У лазні былі месяцы $1^1/_2$ таму назад. А 12 гадз. ездзіў на ваду на рэчку Шэлшу, разам з Варкаю (гаспадароваю дачкою). Прывязлі 4 бочкі вады.

*21 лістап[ада], нядзеля.* Прыхадзілі гуляць дзеўкі, спявалі песні. Я праседзіў цэлы дзень у гаспадара, было весела і сумна, усяго патрошку.

*22 ліст[апада].* А 8-й раніцы пайшоў на суботнік (хоць быў гэта панядзелак), сячы і прывазіць дровы ў школу і ў рэўком.

*23 лістап[ада].* Зрання хадзіў к капцёру, спазніўся на паверку, атрымаў выгавар ад начкома, прырыхтаваў мяшок абшываць штаны.

*24 лістап[ада].* А 3-й (раніцы) трывога. Сабраліся людзі. Часць людзей была адпраўлена ахоўваць станіцу, а часць — на ўнутраную ахову дывізіёну.

П-р (Парфір — сапраўднае імя прататыпа Пракопа Батуры [Марціна Задумы].— *Рэд.*) трапіў у ахову станіцы. Кусты, немярэч, ноч цёмная, адзін ад аднаго далёка, так што трэба крычаць. Розныя думкі, забабоны. Паставіў стрэльбу на прыкметным месцы, адышоў у кусты, разрэзаў палец, каб распісвацца крывёю, і пачаў гукаць чорта, каб прадаць душу. Але ніхто не прыйшоў. Зрабіў вывад, што калі няма чорта, дык няма і бога, і перастаў з таго часу маліцца і верыць у бога.

*25 ліст[апада].* Дзяжурыў на цэнтральнай. У гэты час абшываў штаны. Пранесліся чуткі, што будзем пераязджаць на бераг Каспійскага мора, у Баку.

*26 ліст[апада].* Зранне на млыне змалоў 7 п. 30 х. пшаніцы для гаспадыні. Гаспадаром забаранялася малоцьці куца нешта было перамалваць, а чыр[вонаармей]цам дазвалялася малоць і пасылаць сваім на бацькаўшчыну (вядома, трэба было купляць). А 12-й пайшоў у каравул, ахраняў пад'езд станіцы, правяраў дакументы.

І так ад 26 па 27, да 12-й г., ён быў на варце дывізіёна ад зялёных.

*27 ліст[апада]*, а 7-й увечары, сабраліся дзяўчаты і парабкі ля нашае хаты і гулялі ў нейкі «чайнік». Пялі песні, жартавалі, весяліліся. І я весяліўся. Моладзь тут грубая, няразвітая, але вельмі балованая. Гульняў і скокаў блізу зусім не ведаюць.

*28—29 ліст[апада].* Абодва дні прайшлі ў аднакавым настроі. У панядзелак прыязджаў начарт (нач[альнік] артыл[ерыі]), рабіў апытанне прэтэнзій. Адзін ч[ырвопа-

армее]ц заявіў, чаму камсастаў змалоў 150 п. мукі, камісар 30, а ч[ырвонаармей]цу нельга змалоць 30 ф. Быў адказ камісара артылерыі, што на тое быў загад па гарнізону — на права памола кожнаму ч[ырвонаармей]цу 6-ці пудоў. «Што і гаварыць, яны заўсёды правы, ім можна, а нам нельга». Фактычна, тут мела месца — чарга.

*30 ліст[апада], аўторак.* Займаліся ўранні пешым строем. Пасабляў гаспадыні пераўняваць пшаніцу. А 2-й удзень пайшоў на дзяжурства і дзяжурыў да 12 г. дня.

*1 снежня.* Змяніўся і пайшоў у лазню. Напісаў запіску Вары, але ніяк не смеў перадаць.

*2 снежня.* Цэлы дзень дома, чытаў. Штосьці было сумна.

*3 снежня.* Прызначылі ахраняць тэлеф[онную] лінію ў штаб дывізіі (верхавым). Ездзіў на развод. Атрымаў пропуск і сядзеў дома, «ахраняў» (ездзіў перыядычна). А 3-й г. памяняў пояс з гаспадыняю на пярчаткі, хутчэй аддаў на памяць (прыгожы беларускі тканы пояс, з кутасамі). Усю ноч па дзяжурстве. [...].

*4 снежня.* Развітальны абед (у гаспадыні). Зборы к ад'езду. На ўсіх найшла журба. Вельмі не хацелася выязджаць з такой добрай сям'і. Начавалі на ст. Афіцебская. Дужа было сумна, ды што рабіць? Доля такая салдацкая. Выязджаючы з Нова-Дзмітр., пакінуў гаспадыні пару плацця, 2 катушкі нітак, за што яна наклала на дарогу поўную торбу есці. І так усе выехалі. Замест спадніц хадзілі тут у мяшкох, бо самі не вырабляюць.

*5 снежня.* Пагрузіліся і начою прыехалі на ст. Кацярынадар. Памыліся тут у лазні (у горадзе) і паехалі далей. Сум мяне чамусьці не пакідаў.

*6—11 снежня.* Увесь час у дарозе. Ехалі дужа марудна, падоўгу стаялі, сум і клопат аб доме залезлі па сэрца і грызуць. Па дарозе снег, холад такі самы, як і на Беларусі. У дарозе напісаў лісты Марынцы, Лаўрыку.

*7—23 снежня.* Апатыя напала да ўсяго, не хацелася весці запісы.

*19 снежня* прыехалі ў нямецкую калонію Еленендорф. Дужа чысценька, домікі каменныя, з тэрасамі, падлогі фарбаваныя, электрычнасць, водаправод, свой клуб і тэатр у калоніі. І свой аграном. Немцы нядаўна ж сюды і пераехалі. А армяне як жылі спрадвеку кратамі, так і цяпер жывуць. Баптысты, як жылі па Русі, так і тут жывуць. Займаюцца не вінаробствам, як немцы, а зернявымі культурамі. І месца іх тут, праўда, горшае. Бываюць гады, што

замест хлеба зародзіць пешта тэрае ці чорлае, змалоць, спячы хлеб, дык п'яны робішся ад яго.

[...]

*21 снежня* — канцэрт. Выступалі артысты Бальшога Дзярж[аўнага] тэатра (Мельнікава, Лебедзеў, Лепін, Ролапей). Я быў на канцэрце.

*22 снежня.* Выбралі мяне членам кантрольна-гаспадарчага савета часці.

*31 снежня.* Увесь час заняты працаю. Кожны просіць атрымаць што-небудзь у першую чаргу. Баліць галава, млявіць, а есці не хочацца. Хадзіў — як дурны. Дзённіка больш весці не мог. Расчараваўся ўва ўсім.

Пачалася дэмабілізацыя арміі. Хочацца ехаць дамоў. Едуць чыр[вонаармей]цы дамоў. Такія вясёлыя, а тут — трэба яшчэ служыць.

## Верачкіна смерць

Памёрла ў Адаркі дачушка Верачка, гадкоў 2—2½ дзяўчынка. У яе на назе быў кастаед. У Міхайлаўска к Гашкінай цётцы вазілі. У Міхайлаўску свякрова Гашкінае цёткі людзей лячыла. Накуравала нечым. Зена і Аўгіння лячыліся ў яе, насы лячылі, ад кастаеду, ці што. Па тры рублі заплацілі. Не давала сольнага есці, хлеба. Праснушкі пяклі і елі. І вылечыла. І казалі, што тая баба пазнае: калі на жывоцце, калі на смерць. Сказала Адарцы: «Калі не будзеш гневацца, хоць бы і памёрла, дык буду лячыць». Думалі-думалі і згадзіліся. І баба тая накурыла яе. Сказала, каб хлеба не давалі і салёнага нічога не давалі. А як адтуль ехалі, дык Верачка хлеба ўсё прасіла. У Слабодкі заязджалі, і ці далі хлеба — невядома. І ў двары ўсё хлеба прасіла. Ноч пераначавалі там, дзе лячылі, і ноч пераначавалі ў двары, а да абеду і памёрла. Сядзела і гаварыла ў люльцы. У Ганны Стахваніхі піць прасіла: «Дзядзіна, я хачу, каб ты дала з свае чашачкі». Ганну дзядзінаю звала, як чула — матка завець. І Стахван з Ганнаю туды хадзілі. Ганна хадзіла авёс таўчы (ступа ў іх з Саўкінымі была «кучавая»). Прыбег к ім Саўка і кажа: «Хадзіце к нам, ратуйце нашых, Верачка памёрла... Дарка завалілася, Алёна над ёю вые, Вавіла над Верачкаю вые». Не далі веры, што памёрла. Пабеглі, а яна ляжыць: беленькая, беленькая... Разгоўталі іх троху. А Тарас тады быў хворы, ляжаў ужо на палу. Дык ён глядзіць на гэта на ўсё. А Верачка бывала прасіла: «Дзядзь-

ка, пашый мне шубачку». Як яе вынасілі, дык і ён выйшаў, да Мікіціных дайшоў. Пасля Дарка дужа плакала. Што ад закуркі дачушка памёрла. Наракала, чаму бацька не аддаў яе замуж, а прыпяў, што тут радасці ёй, з гэтымі старымі, ніякое не было.

### 1921

Калядамі 1920—21 Лаўрык прыязджаў дамоў. Ад Пракопа доўга не было вестак, але ведалі, што ён не ў палоне. Марынка вучылася ў Горадзе, хутка мела скончыць школу 2-й ступені. Лаўрык раіў ёй паступаць потым у інстытут у Горкі, зрабіцца аграномам-практыкам, а разам і настаўнікам. Бацька, маці былі здаровы, былі рады Кузьмовай картачцы. Пісаў Лаўрык Кузьме і не спадзяваўся, што ліст яго дойдзе да Кузьмы.

### З Лаўрыкавых нататак

*15.I.* Другі дзень пасля старога «Новага году». Праз два месяцы мне 21 год. А я — калека... Цяжкі настрой і змаганне з сабою.

У Зазер'і. Адносіны таты і Наўмена-Мяхвода. Чую сябе чужым спаміж усіх гэтых мужыкоў.

*16.I.* Марознае ранне. Холад, ветрык. І чужасць. Лупаюць нябожчыкі па зямлі. У белай труне...

Школа. Ці заехаць? Навум і яго жонка. Псіхалогія гультайства і бытавыя драбніцы...

### Марынкін дзённік. Н. Р.    Ф. Г.

Во ўжо і Новы год прыйшоў [1]. Ай, як шыбка і няўпрыцям бягуць гады і як шыбка яны адзін за адным ідуць у вечнасць. Год прайшоў і ўжо болей не вернецца... І так — гэта ўжо колькі гадкоў прабегла, а я, на вялікі свой сорам, застаюся ўсё такою, якою і была раней. І калі толькі я ўжо пераканаю сябе, калі толькі вазьмуся будаваць новае, добрае і прыгожае жыццё. Калі ўжо будуць жыць як мае быць, поўным жыццём, калі буду працаваць на ўсю сілухну і працаваць не абы-як, а як-такі патрэбна. Эх! гады

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Марынкін~прыйшоў».— аўтарская паметка: «Мусіць, ініцыялы, хто яе цікавіў».

мае, гадочкі, як нагнаць мне вас. Прабеглі вы дарма... Так, многа пражыта, мала толькі перажыта. Сорам, сорам. Ну, ладна. Забудуся на ўсё, разам з старым годам.

Бывай, стары год! Ты ўжо болей не вернешся...

Хадзі да мяне, Новы год, з новым жыццём і новымі думкамі.

*7 студня.* Ізноў бягуць дні, адзін па адным, і так шыбка, што аж не хапае часу падзяліцца думкамі з табою, мая даражэнькая кніжачка. Усё некалі. Гэты тыдзень усё то шыла, то парола, то шыла, то мыла. Ну, як-такі і заўсёды перад калядкамі. Ну, калядамі, можа, яшчэ і папрацую. Перш-наперш мне трэба падагнаць матэматыку. За яе я і вазьмуся. Пачну з самага пачатку і паўтару ўсё, і алгебру, і геаметрыю, і пачну трыганаметрыю. А тады ўжо пагляджу, што буду рабіць далей. Думала гэты тыдзень, а таксама і раней, чым мне быць. Распытвалася ў Лаўрыка пра агранамічнае аддзяленне. Ён мне шмат пра што казаў, і я пастанавіла быць аграномам-садаводам ці пчалаводам. Але вялікае прывязанасці да гэтага не чую. Баюся, што гэтая праца мяне не задаволіць. Чуць-чуць не паехала ў Горкі. Але тата і мама не пусцілі. А як бы ладна зрабіла б, каб паехала.

Ну, даволі, пайду прыбіраць ёлку дзеля дзетак.

Няхай яны павесяляцца.

*10 студня.* Учора была ў Пацолтаве на спектаклі. Шмат знаёмых, у тым ліку і N. Што гэта за дзіўная натура? Ніяк не зразумею. Чытала «Белы клык» Д. Лондана. Думала аб жыцці, як сваім, так і іншых людзей. Трохy супастаўляла сваё жыццё з жыццём іншых. Дзівілася, чаму гэта, як я, так блізка, што і ўсе людзі стогнуць, гнятуцца, а паправіць жыццё ніяк не возьмуцца. Толькі сядзяць ды стогнуць, тужаць. А чаго, каб у іх хто спытаўся, дык бы яны нічога і не сказалі, бо самі не ведаюць добра, чаго яны стогнуць. У мяне ж гэтыя дні было супакойна на душы. Адпачывала як мае быць. А цяпер нешта ізноў заварушылася, заскрабло. Ізноў нуда з'явілася. Не ведаю, ці надоўга. Чую толькі нейкае вялікае нездаваленне сабою, шкадую дарма праведзенага часу і чую вялікі недахоп энергіі і сілы волі.

*15 студня.* Эх, нуда, нуда! Залягла ты і, як відаць, залягла надоўга. Адбіла мяне ад працы і ад ахвоты жыць. І чаго толькі падагнала цябе? Згінь ты, прападзі, адчапіся ад мяне. Я хачу пяяць, скакаць, весяліцца і працаваць. Наогул, жыць я хачу і жыць поўным жыццём здаровага і

добрага чалавека. А ты, ты, нуда праклятая, душыш мяне, не даеш прасторы мне, не даеш жыць. Жыць так, як жывуць іншыя.

Сяння паехаў Лаўрык. Як хочацца мне таксама паехаць у Маскву, а ці яшчэ куды. Паглядзець болей свету і пазнаць болей жыццё. Каб крылле лёгкай птушачкі мне мець і паляцець далёка-далёка... Там, можа, у вышы пад небам, я забылася б на ўсё, а можа б, і лягчэй мне стала, а можа, і адпачнула б я душою і целам.

*23 студня.* Суборы ехаць у Горад. Матэрыяльныя рахункі. Татавы крыкі. Перад вачмі ўся драбязлівасць жыцця. Сэрца сціскаецца ад жалю, што людзі такія дробныя. Драбніцы нарэшце рэшт даводзяць мяне да слёз. Я плачу. Мама, добрая і мілая мама, умаўляе мяне, просіць не зварочваць увагі на ўсё гэтае мяшчанства, а ў самае слёзы так і сыплюцца. Слаўная мамачка! Як магла ты жыць столькі і з такім чалавекам, як тата. Як хапіла ў цябе сілы і здароўя ўзгадаваць нас у такой катарзе?

*25 студня.* Прыехала ў Горад. Устроілася. Ізноў пацяклі шэранькія, нудненькія дзянькі, так падобныя адзін да аднаго. Ізноў пачалася дармавая трата часу і бескарыснае хаджэнне з кватэры ў школу і цераз некалькі, 1—2 гадзіны часу, ізноў з школы па кватэру. Ізноў пачаліся незразумелыя, нудныя мармытанні старэнькага, сівенькага, надта жалкага Разум. Даўно была б пара пайсці яму на спакой, пакінуць ужо мучыць, як нас, так і самаю сябе. Такія педагогі, як ён, не даюць нічога новага, не падбаюць ахвоты слухаць іх і разумець навуку, а наадварот, унушаюць жаласць да іх і да сябе і адбіваюць ахвоту ад усяго. І чаму гэта я толькі ніяк не вырвуся з гэтае паганае вадаверці? Чаму не паехала ў Горкі, а ці яшчэ куды, дзе б магла пазнаваць навуку як мае быць? Эх, чалавек я, чалавек, хворы я чалавек. Ніяк не магу я зрабіць так, каб быць **маладою ў маладыя гады.** А жыццё не чакае, так і бяжыць, і бяжыць, і нясе, як смяцціпкі, чалавекаў.

*29 студня.* Чакаю і ніяк не дачакаю ліста ад Лаўрыка і ад Пракопа. Чаму яны не пішуць? Няго не ведаюць, што іх лісты дзеля мяне радасць? Асабліва Лаўрыкавы лісты. Так прыемна іх чытаць. Ён заўсёды што-што дыпіша новае, цікавае, навуковае. Хоць бы скарэй пісаў. Учора атрымала пісульку ад Г. Г., адпісала і яму. Чытаю «Собор Парижской богоматери» В. Гюго. Як шкода Эсмеральду. Вывучаю літаратуру XIX века. Час бяжыць шыбка, незаметна.

**Тарасава смерць** (У канцы студня ці ў пачатку лютага 1921 г.).

Пасля Верачкінае смерці Тарас пажыў тыдняў шэсць. У Целяпенічы вазілі. Доктар сказаў: «Усё роўна памрэць». На кішках быў рак. Ляжаў ён яшчэ ў піліпаўкі: з Міколы так, пачаў хварэць. Дні 3—4 на двор не ідзець і не ідзець. У Каменцы ў пілінаўкі шыў. Спюдзёная хата. Застудзіўся, больш ужо і не шыў. Як ляжаў, дык стагнаў, трудзіўся дужа, усё так: ны-ы-ы... Цяжка было слухаць. Пасля Целяпеніч, як ужо доктар сказаў, што не палепшае, дык прывазілі папа з Харошага. Спаве́дывалі. Ганна Стахваніха, дзядзіна, праснушкі пякла і насіла яму есці. Палута, матка, усё плакала. І каля дроў, і пад павеццю знахадзілі яе. Акалее плачучы, дык к Стахванавым прыхадзіла на печ грэцца. Казала: «Лепей бы я сама памёрла. Няхай бы ён мяне пахаваў...» Краўцом быў, яда была ўсякая, можа, так і папсаваў жывот. Пракоп з ім троху хадзіў. Казаў, што ў адным дварэ яны кралі хлеб, як гаспадар выходзіў з хаты. Тарас дужа не хацеў паміраць. У яго быў сіряк. Прыйшла Хадосся і кажа: «Прадайце гэты сіряк, Тарас усё роўна памрэць». Дык як яна пайшла, страшэнна гневаўся. Лячылі яго ад спужання,— здаецца, тая ж Хадосся. Паміраў, здаецца, уранні. Прывазілі папа. Пахавалі на новым могільніку. Перш-наперш на гэтым могільніку пахавалі Хомчыху. Поп Пітуховіч. Вядро вады паняслі туды, асвяціў, месца пабрызкаў. А Хомку пахавалі ў старым кладзішчы. А Хомчыху — бо яна чужая, а кажуць: першага трэба хаваць чужога. З Задумаўскага роду на гэтым могільніку спярша пахавалі Насту і Сяргея, дзяцей Адарчыных, а тады Верку. Пасля Веркі тады ўжо Тарас.

## Хрэсьбіны ў Рамана

Зараз пасля Тарасавае смерці былі ў Рамана хрэсьбіны. Марынка была кумою. Назвалі Ляксеем.

## Марынкін дзённік

*5 лютага.* Атрымала ліст ад Лаўрыка. Які ён добры, які слаўны. Колькі рад мне раіць. Як шчаслівa я, што маю такога брата. Раіць праяўляць свае здольнасці, не запіраць на замок іх, не хаваць іх ад другіх, баючыся, што другія здольнасць не зразумеюць і пасмяюцца. Раіць болей чы-

таць, займацца самаадукацыяй, вучыцца так, каб ведаць, разумець і не завучваць; будаваць працу на эканамічным прынцыпе: «максімум дасягнення, мінімум сродкаў і панатрат». Піша пра хаўтуры П. Крапоткіна. Раіць прачытаць яго «Запіскі рэвалюцыянера». Піша і пра сябе. Бедны, колькі ён працуе, працуе. Цяпер слухае лекцыі і рыхтуе адну працу: «Вылічэнне народнага прыбытку Беларусі».

*6 лютага.* Хадзіла доўга па Горадзе. Шукала падводу, каб паехаць удвору. Знайшла камароўцаў, паеду з імі. Пабуду ў дварэ. Пагляджу на жыццё бацькоў, пасоблю ім троху, а тады ізноў сюды. Чаго?.. Не трэба б было мне зусім сюды ехаць. Хоць бы хутчэй прыйшоў час, калі б можна б было ўжо ехаць адгэтуль і болей не варочацца сюды...

*7 лютага.* Учора гадзіне а 12-й уночы прыйшла ўдвору. Ішлі цэлым грудам. Усе былі на спектаклі. Дарогаю апавядалі мне пра Тарасавы дзядзькінага хаўтуры... Бедны Тараська! Вечная памяць табе! Жыў ты жыў, нічым вады не замуціў. Любіў і жалеў бедных, уніжоных і аскарблёных. Памагаў усім, чым мог, і яны дзякуй табе казалі, а цяпер плачуць па табе. Паплачуць дзень-другі і забудуць, так і не стала цябе і слуху аб табе. Як быццам цябе і не было. Што за жалкая твая доля. У дварэ ўсё па-даўнейшаму. Нашы капошацца патроху, ну і добра.

*10 лютага.* Хрэсьбіны ў Рамана. Была кумою. Як брыдка стаяць пад храстом і выконваць увесь абрад, не веруючы ў яго. Якое жалкае стварэнне гэты маленькі чалавечак, Ляксейка. Што-то ён тады думаў і адчуваў, як абмаквалі яго ў ваду? Жыві, новы чалавеча, расці, набірайся сілухны і змагайся з жыццём і выхадзі пераможцам з усякіх стычак! Былі на ксцінах усе целяпеніцкія дзяржаўныя дзеячы. [...]

*14 лютага.* Масленка прайшла незаметна, і я ізноў ужо ў горадзе. Ізноў усё ідзець па-даўнейшаму. Адна розніца, што ўжо зіма на сходзе. Сонца ўжо пячэ ўва ўсю. Бягуць ручайкі з горак. Дарога зусім папсавалася. Вясна ідзе,— не ведаю, што яна дзеля мяне прынясе. Атрымала ліст ад Лаўрыка. Піша, што на той год забярэ мяне з сабою ў Маскву. Што за шчасце, што за радасць! Я лікую і цалую Лаўрычка, добранькага, на ўсю сілухну.

## Пракоп на Каўказе

Пракоп быў у калоніі Еленендорф, за 7 вёрст ад Елізаветполя (які цяпер зваўся Ганжа). З 4 сакавіка ён ізноў пачаў весці кароценькія штодзённыя запісы.

*4/III.* У камісіі па агляду мяса, атрыманага з прадмагу 18[1]. Забракавалі 1 п. 12 х.— гніллё і моцны смарад.

*6/III.* У камісіі па ўскрыццю паўшага каня. Ветфельчар заключыў: вострыя колікі.

*7/III.* Паверка грашовых сум часці. Ітогі і запісы правільныя. Але ёсць памаркі. Не вядзецца ведамасць аб утрыманні 5-кратнай стоімасці з чырвонаармейцаў і камсаставу. Прасіў Гарбунова затрэбаваць грошы за недабор цукру, фуража і іншых відаў давольствія. Ён дакляраваў усё зрабіць.

*8/III.* У камісіі па агляду годнасці абмундзіравання па чырвонаармейскаму дывізіёну. Нягодных рэчаў: шынеляў 125, ботаў пар 28, бацінак 86, гімнасцёрак 65„ шараварaў 118, кашуль 206, кальсон 288. Абарудавана кухня. Купіў бутэльку віна за 1700 руб. і выпіў з Марозам. Ад яго атрымаў 16 600 р., з якіх ахвяраваў на музык. інструм. 1000 руб. Запрыходавалі рэвальвер Кукаверава і выдалі яму на рукі. Пагода добрая, дзень прайшоў увесь у рабоце, настрой добры. Выйшаў загад аб выдачы тлушчу: замест 4—2 залатнікі.

*9/III.* Быў на раздачы абеда. Атрымалі 8 галоў быдла, з якіх 3 забілі. Чыстая вага мяса 10 п. 5 ф., збою — 2 пуды (з трох). Увечары быў у камісара. Гамаціў у справе службы кантрольна-гаспадарчага савету часці.

*10/III.* Быў у камісіі па ўскрыццю трупаў паўшых коні. Паздыхалі ад катару жывата і псоты грудной клеткі. Пасля — у камісіі па прыстрэлу каня 2-й батарэі, у якога пералом пазавых касцей. А 2-й гадзіне дня атрымаў ліст ад Лаўрыка. Паслаў даклад і выпіску з пратакола ў рабоча-сялянскую інспекцыю.

*11/III.* Дождж. На вуліцы гразь. Сядзеў дома і нудзіўся. Паслаў ліст удвору і Лаўрыку. Член камісіі Кукавераў аглядаў абмундзіраванне. Увечары гуляў у шашкі.

*12/III.* Уранні камісія — агляд фуража. Потым знімалі дазнанне з чырвонаармейцаў Корабава, Жаркова, Лапаціна, Фенікава, Холадзілава і пам[очніка] кам[андзіра]. I бат[арэі] Іогансона ў справе псоты арудзійнага каня і

---

[1] Прадуктовы магазін 18-й дывізіі.

бат[арэі]. Іогансон даць паказанні адмовіўся. Падпісаў акт на 20 п. 35 х. мяса і 4 п. 20 х. збою. Увечары з'еў 2 бліны і выпіў 1 шклянку віна.

*13/III.* Надвор'е дрэннае, настрой прыгнечаны. Атрымаў лісты ад Лаўрыка за 13/II, 21/II, 23/II і 24/II. І напісаў яму, Марыпцы і Якаву Казлову. Увечары правяраў увах[одзячыя] і вых[одзячыя] паперы гаспадарчае часткі. Нічога падазронага не знайшоў. За швейную машынку аванс не атрыман. [...]

*14/III.* Шчагутоў паверыў наяўнасць кансерваў. 1002 банкі. Не хапае 3 банкі. Можа, хто з'еў, можа, згубіліся.

А 5 г. быў у І бат. Высвятляў замену мяса селядцамі. Лішак селядцоў 16 х. і рэшта на 1/III.— 24 х.

*15/III.* Грэе сонца, тае снег, гразь. Мыў плацце. Падпісаў акт на паўшага каня (ветраныя колікі). Кукавераў з Андрэевым паехалі атрымоўваць прадукты на 15 дзён. Андрэеў (капцёр) аблаяў Кукаверава.

*16/III.* Першая батарэя едзе на пазіцыю ў г. Дзіліжан. З ёю едзе Шчагутоў. Камісар дывізіёну даручыў мне падпісваць загады па гаспад[арчай] часці дывіз[ii].

*17/III.* Добрае надвор'е. Устаў рана. Дужа баліць жывот. Хадзіў да доктара. Ён параіў не піць сырой вады і як можна лепей есці. Парашкі ачысціць жывот і парашкі закрапіць жывот. Прыняў і лёг спаць.

*18/III.* Прыязджаў нач[альнік] арт[ылерыі]. Інспектарскі агляд. Апытанне прэтэнзій. Перайшоў на другую кватэру. Чытаў «Арабескі» Гогаля.

*19/III.* Нач[альнік] парка Фенікаў прамяняў каня грам[адзянам] гэтай жа калоніі.

*20/III.* Дазнанне з 10 чалавек, па заяве Мілкова, аб выдачы звыш пайка аднаго селядца. Вывучаў нямецкую мову.

*21/III.* Ладзіў боты. Хадзіў у лазню. Балела галава. Капцёры прыставалі, купіў 2 бут[элькі] віна.

*22/III.* Аляксееўка. Конь здох ад катара жывата і кішок. Выдача мыла мыць карослівых коні. Паверка катушак нітак. Недахоп па опісі медыкаментаў.

*22/III.*, з калоніі Аляксееўкі, напісаў Пракоп Марыпцы вельмі цёплы ліст. Пытаўся, як ёй жывецца, як поспехі ў навуках, як адзета, абута, ці сыта, якая кватэра і г. д. Прасіў, каб не крыўдзілася на яго выгавары ёй у лісце, бо

піша гэтак — любя, каб паўчыць яе, уплываць маральна. Пасылаў прывет Любе, Насце і ўсім знаёмым і ўлажыў галінку ад аднаго каўказскага дрэва. І пісаў:

«Тут ужо вясна, цёпла, немцы сеюць авёс, ячмень, папраўляюць вінаграднікі, сады. А мы, найбольш, гультая ганяем. Немцы гэта такі народ, што на нас глядзяць, як на чарцей, і ніякія ўсовещания ім не памагаюць. Дзеля гэтага і прыходзіцца вольны час бавіць гульма. Калі былі на захадзе, там мы пасаблялі сялянам, а яны нам. А тут не тое. Хоць і гавораць, што немцы культурныя і да таго падобнае, але сэрца чалавечага ў іх няма, а замест яго — у іх камень. Гэта самыя зачарсцвелыя людзі. У іх няма ні на адну кроплю спачуцця да бліжняга. Яны хцівы на грошы, што свінні на бульбу.

*26/III.* Балела галава, ірвала.

*27/III.* Нямецкі вялікдзень. Гаспадар паднёс па чарцы спірту, хлеба, яец, мяса і віна. Было выдана кансерваў па $^1/_3$ банкі на чалавека па загаду камісара часці. Сход не адбыўся, бо не было людзей. Паехалі рэквізаваць сена, бо коні 3-і дзень без фуража, і ў лятучкі нічога няма. Кукавераў пёк бліны і ладачкі. Я атрымаў ліст з Еленендорфа ад Атыліі. Напісаў удвору.

*28/III.* Прыстрэлілі шэрага каня. Прыняў балюмрыцыні (касторкі). У жываце гурчыць. Нуда і сум. А каланісты весяляцца, святкуюць. Ходзяць кавалеры, дзяўчаты, гармонік. Жаль, што мінула маладосць... Бадзёрасць, што аддаў яе за рэвалюцыю. Думкі аб перамозе працы над капіталам.

*29/III.* Рыхтаваліся выязджаць. Купіў 4 шклянкі малака.

*30/III.* Выганяў падводы. Шмат п'яных. Суматоха. Прыдзіркі п'яных да далжнасных ліц. Выехалі з Аляксееўкі на ст. Акстафа. Дождж.

*31/III.* Выехалі з Акстафы. Праехалі Казахі, начавалі ў Караван-Сараі. Дождж. Спалі ў хатцы адзін па адным. Даў днявальным хлеба, каб не лезлі пад брызент і не ламалі буханак.

**Марынкін дзённік**

*25 сакавіка.* Даўным-даўно не пісала. Не было часу, нечага было пісаць, а к таму ж вясна, хоць і не так, як у былыя гады, а ўсё ж ткі, дае сябе знаць. Ужо ўсюдых

усё красуе. Ўчора цэлым гуртком хадзілі на рэчку, на кладзішча, на Пячкоўку і нарэшце рэшт у лес. Было дужа вясёла. А прырода, што за дзіва! Дрэвы ўжо пачынаюць раскідацца. Траўка зелянее, птушачкі пяюць. На могілках ужо паказваюцца красачкі з светла-зялёненькімі, негінькімі, і слабенькімі, і кволенькімі лісточкамі. Хмурымі здаюцца і красачкі на могілках, як бы і самі могілкі. Спяць у гэтых ціхіх могілках людзічкі... Спіце, вечная памяць вам. Вы нічога не бачыце, што вакол вас, куды ні глянь, усё зелянее, расце, жыве і змагаецца за жыццё, як калі-то змагаліся і вы. Буду і я жыць, буду любіць і даражыць жыццём, і змагацца за жыццё, і памагаць жыць другім. І так жыві, Марына, красуй, пакуль не позна.

*28 сакавіка.* Дагэтуль жыла, адпачывала душою і працавала ўва ўсю. Прачытала «Уніжанныя і аскарблённыя» Дастаеўскага; «Абыкнавен[ная] гістор[ыя]» Ганчарова і «Накануне» Тургенева. Што за прэлесць гэтыя кніжкі. Колькі пераадчуваеш, перадумаеш, чытаючы іх. Чытала, думала і была шчаслівая і нешчаслівая з героямі разам. Але цяпер нешта залягла нуда. Я ўжо думала, што яе ўжо ніколі не будзе, што пакінула яна мяне назаўсёды, аж не. Ізноў заскрабло, забалела, зашчаміла на сэрцы. І чаго толькі? Чаго баліць яно, беднае? А ці таго, што наўкол бачыць няпраўду, гора, слёзы і наогул усе бядоты бедных людзей.

*20 красавіка.* Я ўжо ў двары. Жыву ўжо другі дзень. Перамены ў двары не бачу ніякія. Усё старое, усё гразна, непрытульна, тасклівa. Тата не мяняецца. Ходзіць па-даўнейшаму хмуры, тасклівы, маўклівы, адзін з сваімі думкамі. Хацелася б ведаць, што яго мучыць. Мама заметна старэе, але весялосць, дабрата, ласка яе не пакідаюць, яна заўсёды з імі. Дзіўлюся, як гэта маглі жыць столькі гадкоў разам такія дзве супрацьлегласці, як тата і мама. Сяння ўвесь дзень працавала на агародзе і троху ў садзе. Чую сябе як найлепей. Адна на ўлонні ў прыроды, з любаю працаю і з сваімі думкамі,— што яшчэ патрэбна? Учора хадзіла з дзяўчатамі на той бок гуляць. Прагулялі ўвесь вечар. Было вясёла, пялі песні вясноўскія. Некаторыя з маіх улюбёных. Чакаю Лаўрыка з Масквы, павінен прыйсці. Дурэю з дзеткамі; скачу, гуляю у «цюзіка», «пераскочкі», «я ў яблычках» і інш. Дзеткі здаволены мною і дужа дружны са мною. Сяння нанасілі мне шмат красак. Хацелася б мне панастаўнічаць з гадок, пазнаць гэтыя мілыя істоты лепей. Але не, нельга ж мне з сваімі

ведамі заставацца назаўсёды, а калі стаць шкрабстваваць, тады ўжо ўсё прапала. Ды і што я магу даць дзеткам? Ці ж я магу выхоўваць іх як мае быць, не быўшы сама добра выхавана. Паеду ўчыцца.

*1.V. Вялікдзень.* Свята — вясноўскае, прыгожае, добрае. Так радасна і спакойна на душы. Нідзе і ні на кім не відаць нуды. Дзеткі носяцца з красненькімі яечкамі, растуць, цвітуць, набіраюцца сілухны. Прыходзілі хрыстосавацца, як крэпка я іх усіх расцалавала. Лаўрык зрабіў ім некалькі яец «Ванька-встанька». Рады. Учора была на спектаклі ў Пацолтаве. N — глядзіць ваўком, ухмыляецца, гамоніць мала. Не разумею, што гэта за чалавек.

**Пракопаў дзённік**

*1.IV.* Начавалі ў дарозе. Праехалі Дзіліжаны. Увечары прыехалі ў армянскае сяленне Бізыкант. У дарозе атрымалі 12 галоў быдла. Начою хадзіў шукаць карову, якую кінуў канваір, прыйшоўшы па падводу, каб яе прывезці, бо не магла больш ісці.

*3.IV.* Ездзіў у г. Каракліс. Знаёміўся з аулам і бытам армян.

*6.IV.* Добрае надвор'е. Коні 4-ы дзень без корму. Начаваў у Караклісе. Ездзіў па фураж. Частку мяса забракавалі, пагніло. Здохлі 2 кані ад бяскорміцы і катару жывата. Прыстрэлілі каня ў 1-й батарэі.

*10.IV.* Прапалі коні. Пісаў лісты. Гуляў у шашкі. Размяркоўваў абмундзіраванне. Абмундзір[авання] не хапае.

*12.IV.* Малаканскае сяленне Васкрасенаўка. Цесна на кватэры, але гаспадары дужа добрыя. Мыўся ў лазні. Балела галава. Арганізавалі пральню.

*15.IV.* Чытаў Эміля Заля «Домашний очаг». Прыняў два парашкі какаіну.

*17.IV.* Выбралі ў рэд[акцыйную] кал[егію] насцен[най] газеты дывізіёна. Рабіў даклад на агульным сходзе. Вынеслі падзяку, выбралі членам раб.-сял. інспекцыі для часовых работ.

*18.IV.* Хадзіў у горы на паляванне. Страляў у лісіцу. Рыхтаваўся выязджаць (у інспекцыю).

*19.IV.* Выехаў з Васкрасенаўкі. Развітаўся з т.т. Дзень і ноч прастаяў у Караклісе.

*20.IV.* Ехаў. Тунелі. Ст. Мхтала. Паравоз пайшоў назад. Чакалі другога паравозу. Лес па гарах зелянее. Пры-

гожа. Увечары — ст. Садохла. Цвітуць сады. Пасуцца статкі.

На ст. Сандар — прадавалі зялёную цыбулю.

*21.IV.* Тыфліс. Быў на рынку. Страшэнныя цэны. З Тыфлісу назад. Грузіны хваляваліся. Ехаў на вагоне.

У Акстафе, у зале 3 кл[аса], людзей поўна, святло дрэннае. А побач — чайпункт, светла ад газу, але з 5 г. зачынена... Нашто псуюць святло? Галавацяпства. Крыўда.

*22.IV.* Ганджа (Елізаветполь). Інспекцыя. Спаць сцюдзёна, няма пасцелі. Нудная праца: падбор справаздач за год.

Хадзіў на рынак. Прадаў чай і мыла за 6.500 руб., каб купіць хлеба. Чуў пра адпускі. Пісаў лісты ўдвору і ўсім.

*26.IV.* Дождж. Рэвізія у 157 пях[отным] палку. Чытаў «Братья Карамазовы». Мыўся ў лазні. Вялікія бакі. Улезуць чалавек 5 і пялешчуцца. Ваду спусцяць — лезуць другія.

Атрымаў цукру і прадаў за 8250 руб.

*28.IV.* Чысты чацвер. Дождж. Брудна. Пісаў лісты. Гадаўшчына Азербайдж[анскай] рэвалюцыі.[1]

*29.IV.* Дзень прайшоў таксама, як і ўчора. Увечары выпіў кухаль віна і цэлую ноч прагуляў у карты. Хоць і разумеў, што раблю нядобра, але азарт узяў сваё, і я прайграў больш 3000 р.

*30.IV.* Напіўся гарбаты і пайшоў у горад пабрыцца. Чакаючы чаргі, троху падрамаў. А першай гадзіне паабедаў, выпіў віна і лёг спаць. Купіў 2 ф. чурэкаў і гарэхаў. Увечары чытаў Дастаеўскага.

*1.V. Вялікдзень* (?). А першай гадзіне начою я, Зіматаў і Мурысаў разам разгаўляліся. Выпілі 3 бут[элькі] віна, закусвалі яйцамі, сырам і кансервамі. Потым леглі спаць. Начою захварэў Бандзаў, а ўранні Мурысаў. Я хадзіў па лекпома. Потым піў гарбату. Хадзіў на парад, глядзеў спорт, гуляў у садзе. Прыйшоўшы дамоў, ад нуды выпіў віна. Кончыў «Братья Карамазовы» (а першай гадзіне начою).

*2.V.* Аўторак. Устаў вельмі позна, нават не паспеў і гарбаты напіцца, пайшоў на рэвізію 157 палка. У паня-дзелак зрання чытаў, пасля абеда хадзіў гуляць у сад і з саду зайшоў у клуб, чытаў газеты, гуляў у шашкі і застаўся на спектакль. Ішла драма «Мы победим» — пра жыццё і цярпенні рэвалюцыянераў-рабочых.

---

[1] Маецца на ўвазе гадавіна ўстанаўлення савецкай улады ў Азербайджане.

*З 4 па 6 траўня* работа ў 157 палку. Цягнецца жыццё аднастайна, за выключэннем таго, што атрымаў лісты з двара, ад Лаўрыка і С. Папова (ён жа Андрэй Ваявода.— *Рэд.*), С. Пілюты і адпісаў у той жа дзень. З лістоў з двара даведаўся, што памёрлі Панас і Верачка і радзіўся Якаў (ён жа Саўка.— *Рэд.*) і Аляксей. Даведаўся, што 21 красавіка паехаў удвору Лаўрык. Вельмі ўзрадаваўся, што ён хоць трохі ды пасобіць працаваць старому бацьку.

*7 траўня.* Як і ўчора, працаваў у 157 палку. На рабоце ад таварышаў даведаўся, што ў хуткім часе будуць адпускаць у бестэрміновы водпуск 1896 год нараджэння. Дужа ўсцешыўся такой вестцы. Пасля заняткаў хадзіў у валёначную майстэрню па боты. Два дні прахадзіў у валенках, а сёння надзеў добра паладжаныя боты. Напісаў лісты ўдвору і Лаўрыку.

*8 траўня.* Да 2-й гадзіны заняткі. Пасля хадзіў у сад гуляць. Быў у клубе, чытаў і гуляў у шашкі. Увечары гуляў у 501. Выйшла маленькая сварка з Зіматавым.

*9 траўня.* Заняткі як і заўсёды. Настрой добры. Ішоўшы з клуба, выпадкова прадаў гадзіннік за 20 тысяч. Чытаў кнігу «Протопоп Аввакум» Бороздина.

*З 10 па 16 траўня* скончылі работу ў 157 палку. Абрэвізавалі Р. В. Т. 18 ст. дывізіі. Час прайшоў: удзень займаешся, увечары чытаеш ці гуляеш у карты ў 501. І я за тры вечары прайграў 7000 руб. Але затое ўбачыў, наколькі чалавек хцівы да нажывы. Памяць аб гэтым надоўга застанецца, так што не шкода і прагулянага. Час затое прайшоў дужа весела. Атрымоўваў лісты ад Ганны (яна ж Марына.— *Рэд.*), Гаўрылы (ён жа Лаўрык.— *Рэд.*), і Сяргея Пілюты, і Сяргея Папова (ён жа Андрэй Ваявода.— *Рэд.*), на якія зараз жа адказаў. Апрача таго, напісаў ліст дамоў. Чуецца апатыя да ўсяго вакол. [...]

*16 траўня, нядзеля.* Зранку быў у гарнізоннага доктара, які знайшоў у мяне бранхіт, але не высветліў які. Даў парашкоў і сказаў прыйсці яшчэ раз дзён праз некалькі. Быў у клубе, у саду, увечары чытаў Салтыкова-Шчадрына і пяяў песні.

*17 траўня.* З раніцы работаў у 157 палку, дзе выяўлены часам упушчэнні. За абедам даведаўся аб дэмабілізацыі 1896 года, за выключэннем кавалерыстаў і іншых спецыяльнасцей. Чытаў тэлефанаграму аб безадкладным адкамандзіраванні 1896 году ў штадыв. Не хочацца ні чытаць, ні гуляць. Сам тут, а думы ўжо блукаюць па дарозе. Думкі, што прадаць і што купіць у дарогу і дамоў. Заўтра кан-

чаткова даведаюся, еду я ці не. А так хочацца дамоў, што і выказаць цяжка.

*18 трайня.* А 10 г. 45 хв. быў у начальніка інспекцыі. Ён сказаў, што 1896 год выдзяляецца ў рабочы полк пры дывізіі ладзіць дарогі і ўбіраць сена. А мне раіў пакуль пачакаць. А 4-й г. у чайнай чуў гутарку, што дэмабілізаваныя накіроўваюцца ў Баку ці ў Астрахань, на рабочыя промыслы. Хочацца паехаць і мне, але не ведаю, што рабіць. Думаю, пакуль не высветліцца справа з адпраўкаю, пачакаць. Ад нуды чытаў Шчадрына. Таварышы гулялі у карты. А 10 г. 55 хв. лёг спаць, але заснуў не скора. Думкі пра двор не давалі спаць.

*19 трайня.* Па загаду начальніка гарнізона нас узбудзілі, узброілі стрэльбамі і скіравалі ў вартавы аддзел на бераг рэчкі. [...] Усе часці дывізіі былі на сваіх месцах і чакалі сігналу, але, на вялікае шчасце, ноч прайшла спакойна. Удзень не займаліся, а спалі. І так горад у стане аблогі прабыў каля тыдня.

*30 трайня.* Сёння даведаўся ад начальніка Р.С.І., што заўтра, з прычыны расфармавання інспекцыі, мы пераходзім назад у свае часці. Настрой вясёлы, а думкі розныя прыходзяць у галаву. Напісаў ліст удвору.

**Марынкін дзённік**

*10 трайня.* Толькі што прыйшла з двара ў гэты паганы Горад. Чаму гэта ён наганяе на мяне нуду? Прыйшла, і прапаў спакой. Ішла, і так прыемна было. Прыемна быць сабой адпэй, з сваімі капанпямі ўнутры. Навін у Горадзе няма ніякіх. Казалі, што прыязджаў святамі С...а. Рабіў аба мне даведкі. Перадаваў прывітанне і просьбу, каб пісала, чэраз Маню. Маня адраса майго яму не дала. Шкода, што не ўдалося нам убачыцца. Пісаць і на яго лісты адказваць не буду. Не хачу злаваць Маню. Бедная, чаму ён яе не кахае.

*17 трайня.* Жыву як і раней, трымаю калёквіум, гуляю штовечар ў садзе. Весялюся, і як не весяліцца ў такой кампаніі. Спрачалася з Фед. аб палітыцы, аб сэнсе жыцця, аб шчасці і інш. пытаннях. Ён ува ўсім са мною згаджаўся і хваліў мае погляды. Хоць я нават не ведаю, ці згодна я сама з тым, што казала. Бо казала, нічога не думаючы, дзеля таго толькі, каб не маўчаць. А ў каханні прызнавацца гэта не ў маім гусце. А ён, здаецца, пачынае пераходзіць краі дружбы, не дужа добра. За гэта не па-

хвалю — і хутчэй далей ад яго. Нашто мне яго каханне, калі я яго не кахаю.

*18 траўня.* Кругом крыўды. Раз., бярэ з вучаніц хабары ў межах 50 000 руб. Гэта невынасіма, я не сцярпіла і вылаяла яго ўва ўсю. Прымусіла выклікаць мяне, палічыцца з ведамі. А як ён злаваўся, як чырванеў, як пыхцеў ад злосці, але не апраўдваўся, бо са мною была М., ад якой ён ужо ўзяў. Сорам, да чаго даходзіць чалавек. Малва аб маёй з ім спрэчцы разнеслася па ўсёй школе. Вучаніцы здаволены мною. Усе дзівяцца і глядзяць, што будзе далей. Заўтра ўбачым.

*19 траўня.* Разум. выклікаў. Тураў па ўсім курсе, чапіўся да кожнага слова. Я адказвала добра; вучаніцы дзівіліся, і яму прыйшлося зміры́цца і даць здавальняючы атвет (?). І так я радуюся, што хоць ведаў атрымала не шмат, бо прахадзілі мы ўсё павярхоўна, вядома, так ад нас і трэбавалі, але ўсё ж ткі атэстат атрымала не за 50 000 руб., а за веды. Заўтра бяру паперу аб сканчэнні, збіраю рэчы і айда дадому, а адтуль у Горкі на падрыхтавальныя курсы. Заняткі і калёквіумы ў нас канчаюцца толькі 30-га, пасля будзе выпускны вечар. Шкода, што не ўдасца быць мне. Але часу траціць дарма нечага. І так сяння вечар гуляю, а заўтра буду ў дварэ і сюды ўжо болей не вярнуся. Я вольная птушка. Прашчай, Горад, з тваімі прэлесцямі і няўзгодамі. А ўсё-такі заўтра ісці не хочацца, нешта прытрымлівае.

*20 траўня.* Камароўка! Мая мілая і разам з тым пастылая Камароўка. Як люблю я цябе і тым часам і ненавіджу цябе. А за што? Люблю я цябе разам з тваім прытульным садком, ляском... Люблю тваіх мілых, слаўных, вясёлых дзетак, угрумых, тужлівых дзядоў і вясёлых пявунняў дзевак. Ненавіджу тваю гразь, непрытульнасць, абставіны. Жыву я ў табе, тужу і хварэю душою і целам. А ўсё сфера наша цяжкая, цяжкая, як камень. Душыць яна мяне і ціснe. Страшна, хоць бы не заціснула. Хутчэй трэба ці пакідаць цябе, а ці набрацца сілухны і пачаць варушыць каменне і вызваляць ужо заціснутых ім. Ну, добра, трэба ісці. Гукае тата з крыкам, што трачу дарма, седзячы, час, ісці парваць траву, і дзе, дык ужо і не ведаю. Бывай, кніжачка. Цяжка мне.

*23 траўня.* Цяжка, наваліўся камень, ціснe. Зборы ехаць у Горкі (Нізінкі.— *Рэд.*). Не пушчаюць, крык, крыўды, стагнанні, слёзы, усё душыць мяне, бедную. За што, за што? За тое, што мне і без таго цяжка, дык на

падмогу яшчэ і матэрыяльнае. Ах! Прападзі жыццё, драбязнасць. Досыць жыць! Нудна і цяжка! Няма сілы, энергіі, рашучасці змагацца. Кіну, няма слоў напісаць усё тое, што мяне душыць.

*25 траўня.* Слава богу і небу! Зварушыла камень. Вырвалася. Зараз еду, хоць і не спакойнаю душою, у Горкі. А што-то там будзе? Ці знайду-то я там тое, чаго так шукаю. Наўдаку. Не ўмею я шукаць. Што рабіць. Абыдзёншчына...

*26 траўня.* Я ў Горках. Засталася пакуль што не пры чым. Нічога канчатковага не ведаю. Засталася жыць у Баганьковым садзе. Трэба шукаць кватэру, трэба брацца за жыццё. Кругом ні душы родныя. Усе чужыя. Пакуль што чую спакой, часам і нуду. Заўтра за працу. А як хочацца працаваць!

*30 траўня.* Жыву — што гарох пры дарозе. Хто ідзе, той і рване. Прытулку свайго пэўнага не маю. Вучуся, хачу нагнаць тое, што прагуляла ў Мсціслаўлі, але праца ідзе зусім непрадукцыйна.

## [Дзённік Пракопа]

*7 чэрвеня.* Увечары была вялікая бура. Маланка такая вялікая, светлая, кулепадобная — так і слепіць вочы і наганяе страху. Такую страшную маланку і перуны я бачу першы раз у жыцці. Яна наганяла такі страх на людзей і жывёлу, што ўсе стараліся на яе не глядзець. Тут казалі, што бывалі выпадкі, што белая куля молніі ўлятала ў памяшканне, у акно, і разбурала дом.

Удзень быў у Ганджы. Па дарозе ад санцапёку я так абварыўся і расхварэўся, што думаў — жыў не буду. А надвечар усё-ткі, калі стала прахалода, прайшло добра, толькі дужа асунуўся твар.

На рынку ў Ганджы ўжо прадаюць свежую бульбу, па 1250 руб. хунт; хлеб, чурэкі, па 2500 р. хунт і даражэй. Ёсць у продажы зялёны боб, гарох і іншыя расліны. Шмат тутавых і чарэшневых ягад.

*13 чэрвеня.* Зрання варыў суп. Перад абедам выпіў і закусіў «весьма изрядно». А 12 г. заступіў дзяжурыць. Хацеў напісаць ліст, але пакінуў да высвятлення пытання, дзе я застануся: у 18 ці 20 дывізіі і даведаюся далейшы адрас.

*16 чэрвеня.* Стаім на станцыі Еўлах. Грузім сена, каля 10 000 пудоў — запас на ўсю дарогу. Надвор'е жаркае-

жаркае, так што нідзе нельга і схавацца ад гарачыні. Купіў $^1/_4$ х. персікаў па 2000 р. хунт. Падумаў пра свой край і дом, калі пісаў лісты дамоў, Гаўрыле (ён жа Лаўрын. — *Рэд.*) і Якаву Казлову.

*19 чэрвеня.* Другі дзень стаім у Баку. Купіў 2 пуды солі за 21 000 руб. Прадаў бумрубаху. Усе таварышы таксама запасліся соллю. Мінулаю начою адзін параход з фурманкамі накіраваўся ў Пятроўск.

Горад Баку сам па сабе добры, усходняга тыпу, але ад нафты ўсё чорнае. Зеляніны ў горадзе амаль што няма. Вакзал аграмаднейшы, 2-павярховы. Наглядаецца парадак і чыстата.

А мора, мора! Сіняе, з бушуючымі хвалямі, асабліва прыгожа ўначы, калі на ўсіх суднах і параходах запаляць ліхтары, а там далёка-далёка блішчаць маякі — то схаваюцца, то ізноў пакажуцца. Здаецца, глядзеў бы ўсю ноч — надта ж прыгожа мора, начою яно становіцца спакайнейшае.

*20 і 21 чэрвеня* — дні духа і троіцы. Пачалі грузіцца. А 4 г. пагрузіліся на параход «Казбек». Увечары паехалі. Спачатку надвор'е на моры было спакойнае, мора ціхае. Закалыханы ходам парахода, я і заснуў.

На раніцы прачнуўся — пачалася качка. Вады мала. У большасці людзей баляць галовы. А вакол — вада і вада, толькі далёка-далёка відаць горы, як воблакі. Бачыў нейкую морскую жывёлу — не то сабаку, не то свінню. Вакол вада і вада, нідзе і зямлі не відаць. Да ўсяго вакол вялікая апатыя. Настрой чартоўскі. Есці страшэнна хочацца.

Увечары, перад заходам сонца, пачалася невялікая бура. Узнялася суматоха. Людзі з палубы пачалі ўбірацца ў трум. Але, на вялікае шчасце, бура зараз прайшла, толькі і было, што павялічылася качка.

*21 чэрвеня.* Уранні таксама вялікая качка. Кажуць, што ўжо праехалі Пятроўск.

Перад абедам адзін з таварышоў тэлефаністаў, Халшчэўнік, звар'яцеў. Яго звязалі і паклалі, а ён усё крычыць, мычыць, плюецца. Яго трымаюць... І божа, якая для яго мука!

Мора надвечар сціхла, і параход ідзе, мы ў труме і не чуем: ці мы стаім, ці мы рухаемся.

*22 чэрвеня.* А 8-й г. уранні прыехалі на 12-футавую рэйду, дзе перагрузіліся на барку, і вёў нас буксірны па-

раход «Благословенный». Маракі кажуць, што да сутокі Волгі 70 кіламетраў, а да Астрахані 180 вёрст. Па дарозе спатыкаецца шмат параходаў. Вада пачалася прэсная, але надта колер непрыгожы, нейкі буры, жаўтавы.

Не даязджаючы Волгі, па ўсёй дарозе, дзе ходзяць параходы, запалена святло, якое паказвае шлях, бо мора ўжо стала неглыбокае. Чуецца, што зараз будзе зямля.

*23 чэрвеня.* Устаў рана — і дзіва: замест учарашняга мора і вакол аднэй вады, не надта шырокая рака, вакол зеляніна і сёлы, уся Волга засеяна чаўнамі, якія ловяць рыбу, спатыкаецца шмат барж і буксіраў, якія стаяць на якары — напэўна, хутка Астрахань.

А 1-й г. 37 хв. прыбылі ў Астрахань. У горад не пускаюць, з прычыны страшнае эпідэміі халеры. Але мне прайсці было вольна. Я ўзяў торбу і пайшоў па соль. За 8000 руб. купіў $1^1/_2$ пуда. Рынак аграмаднейшы, усяго шмат, усё дарага, асабліва прадметы шырокага спажывання.

Горад сам па сабе несамавіты, брудны. Сады ўсе паўсыхалі і зараслі дзікаю травою.

Увечары гадзіне аб 11-й ці 12-й мы паехалі на Царыцын. Музыкальны гурток зайграў «Вниз по матушке по Волге» і іншыя волжскія песні. На сэрцы так весела і радасна.

*24 чэрвеня.* Пятніца. Ідзём угару па Волзе. Вакол малюнак мяняецца. Берагі Волгі то крутыя і пясчаныя, то зялёныя, з вялікімі сёламі і цэрквамі. Мы міналі шмат грузавых барж і рыбаловаў, якія лавілі рыбу. Праехалі некалькі прытокаў.

Наогул настрой ува ўсіх добры, іграюць на гармоніку, іграе струнны аркестр, часць людзей мыецца ў лазні, часць пішуць лісты, часць чытаюць ці гуляюць на палубе.

Па абедзе дужа балеў жывот, мыт страшэнны. Я ўвесь час пракорчыўся, пакуль не заснуў, каля 12-й г. начы.

*25 чэрвеня, Царыцын.* У горадзе лютуе халера. Хадзіць у горад забаронена. Мне выпадкова трапілася пабыць у горадзе, і я здзівіўся, убачыўшы там рынак з кіламетр удоўжкі з самымі разнастымі таварамі. Будынкі ў горадзе добрыя, чыста, добрыя вуліцы, сады, тратуары ў парадку.

У нас у эшалоне адзін з таварышоў захварэў на халеру. І яшчэ я бачыў выпадак, як адзін грамадзянін, які кудысьці ехаў з усім сваім скарбам, выкупаўся ў рацэ, і яго тут жа пачало корчыць, і цераз некаторы час ён па-

мёр. Прыехала халерная карэтка, забрала яго і павязла, пакінуўшы на беразе жонку плачучы са скарбам.

*26 чэрвеня.* Начою прыехалі ў Саратаў. Атрымалі прадфураж. Ураніі я быў у горадзе. Вельмі добры гарадок. Будынкі велікалепныя, чыстата, што трэба. Ішоўшы па гораду, зайшоў у Палац Народа і ў політэхнікум. Бачыў мастацтва дзяцей. Вельмі зрабілася радасна на душы, гледзячы на ўсе малюнкі, рукамясло і вершы. Усё гэта праца дзяцей, якая раней напэўна была б закінута, а цяпер гэта душу радуе ў усякага пралетарыя. Бачыў помнік Чарнышэўскаму.

*27 і 28 чэрвеня.* Едзем па Волзе. Наўкол сёлы, вёскі. Пяскі, зеляніны мала. Праехалі мост каля Сызрапі, які лічыцца адным з найвялікшых мастоў у свеце.

Пад вечар дужа забалеў жывот. Абамлеў. Думаў, што мяне схапіла халера і што мне прыйдзецца памерці. Прыехалі ў Самару. Людзі пайшлі ў горад, я ляжаў, як падымуся — адразу круціцца галава. Так я Самары і не паглядзеў, але кажуць людзі, што гарадок добры, хлеб 8000 р. хунт, соль 20 000 руб. пуд, адзенне таннае, вельмі шмат галодных, хлеб у сялян прапаў зусім.

*29 чэрвеня.* Гадзіне а 12-й удзень выехалі з Самары. Па дарозе спатыкаюцца вельмі прыгожыя гаі з дачамі, наўкол ліставыя і хвойныя лясы, у якіх лютуе пажар. Відаць невялікія горы.

Здароў'е маё трошку палепшала, хоць і не зусім. Паёк нам зменшылі напалову, затое пачалі даваць цукар і тытунь. Гэтыя два дні жыву, галадуючы. Чытаў Пушкіна «Евгений Онегин». Пасля прыняцця віна штосьці зрабілася плоха, і я лёг спаць, але спаць яшчэ не хацелася.

*30 чэрвеня.* У Багародску выменяў на соль 3 хунты мяса і малака. Пад'еў добра — і гора ўкрай. Гадзіне а 8-й пайшлі па Каме. Ураніі 1-га ліпня прыехалі ў Чыстопаль.

*1 ліпня. Чыстопаль.* Вывадка коні. Таварышы прадаюць соль па 40 000 руб. за пуд або мяняюць на прадукты. Прадаў і я паўпуда. Купіў тое-сёе з яды, а на рэшту мыла. Хлеб тут па 5000 р. хунт. Галодных дужа многа, з прычыны засухі. Збожжа ніякага няма. Кажуць сяляне, што хлеб пякуць з ...[1] і з травы, дадаўшы троху мукі. Шмат людзей пакідалі свае гаспадаркі і павыязджалі ў Сібір.

---

[1] Пропуск у рукапісным тэксце.— *Рэд.*

Кама ў кустох, лугох і лясох больш, чым Волга, вельмі маляўніча, але шмат вузейшая за Волгу.

Сёння сыт і вясёл. Зараз буду класціся спаць. Да Пермі засталося 750 вёрст.

*5 ліпня.* Прыехалі ізноў у Чыстопаль. Вярнулі нас троху не даязджаючы да Пермі. Цяпер накіроўваемся ізноў пакуль у Яраслаўль, а там, можа, і далей. Усе гэтыя дні пражыў аднастайна і спакойна, больш чытаю Пісемскага. Учора пачаў другую кнігу «Братья Карамазовы» Дастаеўскага.

*8 ліпня.* Увечары, гадзіне а 10-й прыехалі ў Ніжні Ноўгарад. Надвор'е дрэннае, ідзе дождж. Ісці ў горад хочацца, але за дажджом нельга. Я доўга вагаўся, а потым надумаўся пайсці ў горад. Прайшоў цытадэлю, яшчэ некалькі вуліц і выйшаў на цэнтр, Пакроўскую вуліцу. Другія хадзілі на Ярмалку і казалі, што гандлёвыя дамы стаяць пустыя, з выбітымі шыбамі, а самая плошча зарасла травою. Дый праязджаючы яе 9 ліпня быў той жа малюнак. Але затое відаль на горад з Волгі вельмі прыгожая, частка тоне ў зяляніне, а ў доле яшчэ дадае харастваа рэчная флёта з мноствам суднаў і баржаў. Волга значна павузела, а берагі ўсё тыя ж пясчаныя. Ідзём на буксіры «Одесса». Часць людзей, маёмасць і коні на баржы, а рэшта людзей на параходзе «Глеб Успенский».

*10-га ліпня.* Праехалі гор. Кінешму. Відаль на горад прыгожая. Шмат відаць фабрык і заводаў.

*11-га ліпня.* Праехалі Кастраму і ўвечары прыйшлі ў Яраслаўль. Відаль на горад не вельмі вабная. Увесь горад пабіт і шмат дамоў разбурана ў часе паўстання белых і чэхаславакаў у 1918 годзе.

*15 ліпня.* Канцэрт-мітынг. Урачыстае прывітанне мясцовай уладаю і работніцкімі арганізацыямі байцоў 18 дывізіі. Незвычайна добры канцэрт, дзе ўдзельнічалі ўсе сілы Яраслаўля артыстычнае справы.

*16 ліпня* — парад часці праз начарта і раздача падаркаў.

*17 ліпня, нядзеля.* Чакалі камандуючага Маскоўскаю акругаю Муралава, асабліва рыхтаваліся, чысцілі казармы.

*23 ліпня.* Сніў сон [1]. Быццам я ў двара ў садзе, падыходжу да яблынькі «белы наліў», што каля смародзіны і ма-

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «16 ліпня ~ сон».— аўтарская паметка: «16.VII. Лаўрык, Цёмнал. Прыйшоў з грыбоў. Сумны быт гняце».

ліпы. Узяўся за яе, а яна з усім карэннем і вывернулася. Карані троху падгнілыя. Я яе асцярожна прыхіліў на леску і пачаў рабіць другую яму, каб пасадзіць гэтую ж яблыню. Ускапаў зямлю, падклаў гною... Як бачу, прыйшоў тата і гаворыць: што ты робіш, яна ўсё роўна не прымецца, па-першае, карані ў яе падгнілі, па-другое, зямля гліністая. Я паглядзеў — і ўзапраўды, зямля нейкая жоўтая-жоўтая... І прачнуўся. І чорныя думкі палезлі ў галаву пра дом і родных. Ці не здзеілася там чаго нядобрага?

## Матчын ліст Кузьме

19 чэрвеня прыехаў удвору Лаўрык. Праз тыдзень напісаў ліст Кузьме, а маці казала, што пісаць.

— Здароў, мой ты сыночак! Ці не можна табе і жоначцы тваёй нявіданай прыехаць у родны дварочак? Пабываць у нас. Цяпер яшчэ Лаўрык з намі, нядзелю ўжо як жывець, а то і Лаўрык паедзіць,— будзем адны жыць. А прыедзь, паглядзі: можа, ты ўжо даўно не відзіў, як снапы возяць, дык прыедзь у самую пару, як снапы возяць. Хоць бы ты на гумне, на старонцы, на снапочках паляжаў, і жоначку на гуменца ўзвёў, хоць бы мы на яе паглядзелі, хоць бы я тваю дачушку на руках падзяржала, а то, можа, мне й не даждаць, ужо я плоха стала... Дулькі ёсць, яблыкаў няма. Морква ёсць. Я для цябе дзве градкі пасадзіла. І бацька тож цяпер плох, няможна ўжо яму работаць, ад самага вялікадня рука ў яго баліць. І сусед наш ужо памёр Мікіта. І Тарас во яшчэ памёр. У Даркі дачка памёрла, сын радзіўся. І Курыла памёр Скнары. Мікіціны хлопцы яшчэ ніводзін не жаніліся. Аўгіння тож яшчэ замуж не выхадзіла. І Паўлюковы дзеўкі тож яшчэ замуж не йшлі пасля Палагеі. Рыгор Лукашоў не жаніўся. Грыбы ўжо растуць. Два раі было, абоіх асадзілі. Паслухаў бы, як пчолы гудзяць у садзе, у гарох бы зялёненькі (ужо цвіцець) схадзіў і Мілачку звадзіў. Жыта спеіць, а хто к нам удвору прыедзіць, той павесялеіць. Канапель не сеялі, а сеялі бульбы больш (што некаму канапель браць). На гародзе ад палянкаўскага поля пасеялі ячменю раннага, спеіць ужо. Я хачу табе навіну сказаць: што Вусцінцы калюжанскай даў бог дзве дачушкі разам — Хвеньку і Леньку, парнісцікаў. Вусцінка з Яхімам падзялілася. Паня калюжанская яшчэ жывець. Карова ў нас адна бурая асталася, але малака даволі. Марынка ў Нізінках. Я яе не хацела пускаць дужа, што некаму ў дварэ памагаць, а

ёй дужа хацелася, дык я ўжо яе пусціла: што дзелаць—ідзі. Коні насвіць дагаварылі Максімавага Колю. Цётка з Белага Боку прыязджала сюды, казала, што будзе прыязджаць Хвядос. Дык яны ў вялікай хаце печ разбілі ды маленькую грубку здзелалі. А яго няма, дык цяпер сідзяць у маленькай хатцы. Нявеста тая, Крылова, к ім прыхадзіла. Гной вывазіць Паўлюк к нам сваіх двух коні прыслаў, і Дадон і Андрэй былі, а Рамана нашага дзеўка гной раскідала. Лаўрык на двор воз торпу прывёз, дык я кала яго смяюся, што ён з яго дзелаць будзіць,— ці ўжо сушыць? З поля зямлі прывёз... Прыедзь-ка так, каб ён яшчэ з двара не паехаў. Пракопа яшчэ няма, і не пішыць, што скора ўдвору будзець. Ці пішыць ён табе? Нам часта з гораду Ханджы Пракоп пішыць. Пісьмо ваша палучылі, дужа рады, што дзіця здарова. А што плачыць, дык усі плачуць, во і Раманаў Ляксейка плачыць. А я рада, што ў мяне 6 унукаў: тры ўнукі і тры ўнучкі, пароўні...

Лаўрык яшчэ ад сябе дадаваў:

— Цётка Палута, дзядзька Саўка і дзядзіна Алёна — дык тыя ўжо зусім у магілу глядзяць. Дзядзіна ўжо і дзетак перастала пацяшаць так, як некалі пацяшала нас. Перастала казаць ім «Іваньку-рашотнічка», «Замухрышачку» і іншыя цікавыя казкі. Не гамоніць ужо і пра былоемінулае. Ужо болей не пяець яна, як некалі (як казала) пяяла Кузёмцы, чэшучы яму малому галоўку, калі прыязджаў з Крушні ўдвору. Цяпер яна сядзіць, вочы заплюшчыўшы, і ўсё аб нечым тужліва думае... Мікола пасля Тарасавае смерці страшэнна працуе. Гэта — пякельная праца, поўная поту, тугі і жудасці.

Тады ўжо цягнікі з Варны да Нізінак хадзілі, хоць чыгунка была яшчэ не дабудована. Не было солі, сахарыну, соды. Кузьмоў ліст з Воўчае Гары ішоў да іх 22 дні (ад 4 да 26 чэрвеня). Лаўрык прыязджаў пасобіць бацьком, бо Пракоп меўся прыйсці не раней як чэраз месяц, а Марынка была ў Нізінках.

Ураджай сёлета быў у Камароўцы добры. Лаўрык прабыў у дварэ $2^1/_2$ месяцы.

Ганна ўспаміпала пазней:

Пракоп, прыйшоўшы з Чырвонае Арміі, прынёс 8 хунтаў солі. Дык ім рыбу пасілі з П'янава. Варылі яшчыкі, у якіх сала было. Вараць і вараць, каб троху пасальнела. Баба з Белі чула, што іх Раман солі дастае. Прывязла 1 п.

5 х. мукі ў мяшэчку. Рамана не было ў двары, соль стаяла ў іх, у сярэдняй хаце. Прасіла хоць 2 хунты, хоць адзін. А Раман сказаў: «Цётка, і чарачкі солі не дам, бо няма ў мяне».

Бежанка ішла міма іхнае хаты — і бразь на зямлю. «Ратуйце, калі хочаце». Самлела з голаду. Галодныя з Волгі.

Лаўрык быў сёлета $2^1/_2$ месяцы ў двары, працаваў, бо Пракоп быў яшчэ ў Чырвонай Арміі, а Марыля (яна ж Марына.— *Рэд.*) рыхтавалася ў Нізінках (у інстытут).

Улетку ў канцы жніўня прыязджаў дамоў Пракоп на пабыўку. Потым зноў паехаў у Волагду.

*29 жніўня.* Марынка рыхтавалася паступаць у інстытут сельскай гаспадаркі, Пракоп ехаў зноў у Чырвоную Армію, а Лаўрык — у Маскву, у Пятроўскую сельскагасп[адарчую] акадэмію. У Нізінках сфатаграфаваліся. Бацька вазіў іх. Ён адмовіўся «ад чартоўскіх фатаграфій».

Усе былі здаровы, толькі троху было сумна, што бацькі адны дома засталіся, а дзетак падоўгу са «свету» не было.

## Марынкіны лісты

### 1

*7 верасня 1921 г. Нізінкі.*

Любы Лаўрык! Цяжка і нудна мне. А падзяліцца, расказаць гора сваё некаму. Ніхто мяне не пойміць і ні зразумеіць майго гора і нуды так добра, як ты. Толькі ты мяне пажалееш, уцешыш і параіш, як мне быць, што рабіць і куды кінуцца далі. За гэтым-то я і пішу табе, хоць і не ведаю твайго пэўнага адраса і не ведаю, ці дайдзіць гэты жалкінькі лісток да цябе.

Як ні стыдна і ні жалка, а ўсё ж такі нада прызнацца, што я трус. Баюсь дзяржаць калёквіум. Не маю веры ў свае сілы. Не маю і надзеі на паступленне. А за гэтым-то і не дзяржу яго. Ведаю, што ты зараз жа скажаш «дура». Ну няхай будзе і так. Але я ўжо цвёрда рашыла застацца вольнаслухачом, і толькі, хоць і то яшчэ не ведаю, ці удасца гэта мне, ці не. Бо і тут крыўда. Усё пратэкцыя ды ўзяткі... А мне пратэкцыю саставіць некаму; і мне, можа, прыйдзецца сядзець ні з чым і ждаць у мора пагоды. Ведаю раней, што ты на гэта скажаш, але ўсё раўно. Буду цярпець, пакуль можна будзіць. А тады... што тады будзіць, ні скажу. Сама не ведаю. Заўтра ж пайду двору. Пасоблю тату і маме бульбу капаць. Пабуду, аддыхну, а

тады, можа, назад сюды прыеду, паступлю на службу, і буду слухаць лекцыі ў інстытуце, і жыць будзіць з чаго. Буду гатовіць зачоты і рашаць задачы па матэматіке і фізіке.

А там, можа, і ў студэнткі пападу. Пішы, як вы даехалі. Як Парфір? Чаму гэта ён такі хмуры быў? Як ты жывеш цяпер? Што дзелаеш? Што чутна ў Пятроўцы? Ці не можна і мне туды папасці якім-небудзь ці слухачом, ці яшчэ чым. Пішы мне, братка, скарэй аб усім. Я жду. А пакуль бывай. Цалую крэпка.

Твая Марына.

Прывітанне ад маіх сажыцельніц. Пішы на Камароўку.

## 2

*26.IX-21 год.*

Здароў, Лаўрык! Болі трох нядзель жыву ў дварэ, а напісаць табе ніяк не збярусь. Усё за работаю. Ты ўжо выбачай, што я цяпер і то пішу на скорую руку. Жывём мы нічога сабе. Бульбу пакапалі, накапалі многа болі за леташняга. Бо ўраджай надта добры. Цяпер малоцім і загатаўляем дроў к зіме. Я скора паеду ў Горкі. Буду там вучыцца і служыць. Адтуль напішу табе аб усім. Пішы, ці пісаў табе што Пархвір? Нам яшчэ не пісаў. Жыта ўзышло прыгожа, але пасярод паласы цэлая ліха́ засталась знаць ні засеянаю і выйшла пляшываю. Пакуль бывай здароў. Іван (ён жа Раман.— *Рэд.*) табе тут нешта будзіць прыпісываць ад сябе. Цалуем цябе ўсе і ідзем кучу веяць.

Марына.

Выбачай, што так пішу, дужа некалі.

## 3 (Адкрытка)

Лаўрык! Жду не даждусь ад цябе весткі, спадзяваюсь, што будзеш у Горках. Заўтра паеду, можа, там знайду. У дварэ ўсё добра. Пасля напішу болі. Пішы мне на Горкі і прышлі маё свідзецельства аб аканчанні школы. Я, можа, яшчэ буду дзе-небудзь учыцельстваваць. А пакуль бывай здароў.

Цалуем цябе ўсе.

12 окт. 1921 г.

Твая Марына.

## З Пракопавага дзённіка

*8 кастрычніка 1921 г.* Архангельск. Устаў рана і пайшоў у абласное ўпраўленне водміліцыі, і пасля доўгіх спрэчак і тлумачэнняў на адноснік дывізіі, значыцца, у справе адкамандзіравання нас у свае часці, было адмоўлена, аб чым была пададзена тэлеграма ў дывізію, што адкамандзіраванне 1896-га году магчыма толькі пры замене такавога 1897 годам. Вось табе і загад! Вось як выконваюць загад і пастанову Р.В.С.Р. Вось парадкі, вось і шукай праўды. Загналі гвалтам у міліцыю і трымаюць як на прымусовай працы. У мяне ад усяго гэтага не вытрымала сэрца, і я горка заплакаў. У панядзелак пайду ў губваенкамат і партыйны камітэт РКП(б).

*Панядзелак.* Уранні схадзіў у канцылярыю, прасіў у камісара адноснік Штадыва 18. Камісар выдаць мне адноснік адмовіў. Пасля пайшоў у губваенкамат, да начальніка мабгубаддзела, дзе атрымаў вельмі сумную ведамасць, што ён дапамагчы нічым не можа, дзеля таго што міліцыя ніякіх адносін да ваеннага ведамства не мае.

Пасля на рынку прадаў хустку і кашулю, купіў хлеба і прыйшоў дамоў, дзе гуляў у лёто.

*Аўторак.* Зрання атрымаў білет для праезда да Вологды. Пасля ў упраўленні вобласці ўзяў копію тэлеграм аб 1896 годзе і пачаў чакаць тав. Белякова, у дакладзе якому паказаў на ўсе нашы няшчасці, але дапамогі і садзейнічання не атрымаў. У канцы выйшла спрэчка, і мяне папрасілі выйсці.

У страявым аддзеле даведаўся, што ёсць загад галоўміліцыі, што 1896 год звальненню не падлягае, што мяне вельмі ўразіла.

Бачучы маю роспач, т. Высоцкі абяцаў заўтра мяне адкамандзіраваць дамоў, але не ведаю, дзеля чаго ён гэта сказаў: ці каб мяне супакоіць, ці сапраўды зразумеў маё становішча. Дык вось заўтра рашучы дзень. Хаджу ў недаразуменні, і на звальненне надзеі мала.

*Архангельск, 11 кастрычніка 1921 г.*

*12 кастрычніка, серада, 10 г., 52 хв.* Прыйшоў у канцылярыю вобласці, дзе мне сказалі, што ёсць загад адкамандзіраваць мяне назад у сваю часць. Я ад радасці не ведаў, што і рабіць. Пайшоў да нач. ст. адм. аддзела, які сказаў а 2-й гадзіне прыхадзіць па дакументы. Я напоўніўся вялікаю радасцю, пазабыўся на ўсе свае недагод-

насці, перажытыя з 26-га ...[1] па 12 кастрычніка г.г. Ад радасці думкі разбягаюцца, і я не ведаю, што пісаць. Ніяк не магу дачакацца гэтае 2-е гадзіны, калі пайду атрымоўваць дакументы.

*23 кастрычніка* прыйшоў Пракоп з Чырвонае Арміі дамоў, па дэмабілізацыі. Праваяваў два гады. У дварэ знайшоў усё так, як і было. Троху толькі асунулася. 31.X, змалаціўшы, паехаў у Целяпенічы, здаваць прадналог, і напісаў пісьмы. Паведамляў Кузьме, што вярнуўся. Прасіў Кузьму пісаць часцей, бо ад яго атрымалі толькі два лісты за ўвесь год. Апошні ліст, ад 3.X, атрымалі 30.X. Пісаў Пракоп са слоў маткі: «Дарагія дзеткі і ўнучка! Усё лета ждалі вас, але ніяк не дажданіся. Хочацца вас убачыць і палюбавацца на старасці на ўсіх дзетак разам. Калі ўзімку няможна, дык улетку. Сёлета яблык не ўрадзілася. Дулек сушаных і мёду для вас блюдзём. А налета будзе многа, прыязджайце з унучкаю гуляць у садзе...»

Лаўрык быў у Маскве. Марынка ужо 2 тыдні як была ў Нізінках. Адрасу яе не ведалі, бо яна перайшла на другую кватэру.

## Марынкіны лісты

### 1. (Да Лаўрыка)

*28.X.1921.*

Добры вечар, братка любенькі! Дужа даўно хацелась мне пагутарыць з табою. Алі ўсё не было часу. У дварэ работа мяшала, а тут неапрэдзялённасць, нуда і наагул усякая трасца (выбачай, што я так груба) адбівала часам ад усяго ўсякага. А к таму ж яшчэ я ўсё ждала весткі ад Працябе, аж тым часам усе дарма. Надоечы ў мяне быў Пракоп, казаў, што вельмі занят, а за гэтым і не пішыць. Значыцца, выбачай, што і я не пісала. А цяпер услова: я буду пісаць, а ты павінен адказваць на мае два пісьмы хоць адным. Добра? Ну цяпер скажу аб сабе. Жыву я ў Нізінках ужо 12-ы дзень. 10 дзён іскала кватэры і ўжо 2 дні на наваселлі. За 10 дзён знайшла на Зарэччы халупку такую, што і глянуць страшна. Адна ўмесная хата, у якой жывуць дзед, баба, дзве дачкі, студэнтка, што з табою ішла, Васількова, і Кірыленка, і яшчэ я. Гразна, непрытульна,

[1] Пропуск у рукапісным тэксце.— *Рэд.*

цесна, брыдка. Абстойнасць куды цежалейшая, чымся ў нас у Камароўцы. З інстытутам нічога не выяснена. На лекцыі хаджу і яшчэ гатоўлю матэматыку. Бывай, цалую. Пішы. Марына.

Другі раз напішу болі.

2

*18.XI.1921. Нізінкі, Зарэчча.*

Любы Лаўрык! Толькі сяння адзяржала твой ліст ад 5 наяб. Дужа рада і хапаюсь як можна хутчэй адказаць на яго. Жалею, што не палучыла [1] тваіх ранейшых пісем, але іх ужо, як відна, і не палучу, бо ты пісаў іх на няправільны адрас. Дом не Сысоева, а Сіліна. Сяння хадзіла спраўляцца на пошту. Казалі, што былі пісьмы, але іх перадалі ў воласць. Заўтра схаджу і туды, можа, знайду. Дагэтуль жа я сердувала на цябе дарма, а за гэта сяння мір. Цяпер скажу аб сабе. Жыву я нічога сабе. Троху звыклась з срэдою і ўсёю абстойнасцю, перастала зважаць на ўсё ўвагу. Замкнулась у сябе і жыву. Гатоўлю матэматыку і фізіку, хаджу на лекцыі, геалогію, геадэзію, крысталаграфію, фізіку і хімію. Адбываю практіческ. па батаніцы, геадэзіі, крысталаграф. Чытаю, але чытаю, што, вядома, не добра, без разбору, што толька пападзецца, і ў дабавак з такім апетытам, што аж сама дзіўлюсь. Надоечы відзіла Баравіка. Ён укланяецца табе. Выбраў мне кніжак чытаць. Сварыўся, што не дзяржала экзамена. Із двара пішуць дужа рэдка. Пра іх мала ведаю, таксама і аб табе і аб Кузьме. Будзь добр, напішы аб усім мне. Буду дзякаваць. А пакуль бывай здароў. Не магу болі пісаць. Цалую. Марына.

3

*4.XII.21 г. Нізінкі, Зарэчча* [2].

Любы Лаўрык! Што б гэта значыла наша сёлетняя кароткасць і рэдкасць пісем? А ці гэта ж так бываіць з братам і сястрою? Дзіўлюсь, ды і толькі. А яшчэ абяцаў пісаць пісьмо за пісьмо, а тым часам што ж. Я напісала два пісьма (адно па ашыбцы без марак), а адказу ні на водна няма. Няўжо ж ты ніводнага не адзяржаў. Я нічога не

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Дужа~палучыла...» — аўтарская паметка: «ад 5.XI».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «4.XII.21 г.~Зарэчча».— аўтарская паметка: «Аўторак?»

ведаю. Не ведаю, што табе аб сабе сказаць і што ў цябе папытаць. Спадзяваюсь, што ты ўжо будзеш добр і напішаш мне доўгае пісьмо і напішаш аб усім. Тады і я пашу болі чаго. Напішы, ці прыедзіш ты на калядьі? Што пішыць табе Кузьма і із двара. Мне ніхто нічога. Як быццам мяне ніхто і не помніць і не знаіць. Што ж — няхай так. А пакуль бывай. Пакуль не напішаш, я ні слова. Марына.

4

*14.XII. Нізінкі, чытальня.*

Лаўрык! Хоць ты і забыў пра мяне, хоць табе і не цікава ведаць аб маім жалкім существованіі, дык мне ўсё ж такі хочацца ведаць аб табе. А пагэтаму я ізноў турбую цябе, прашу цябе напісаць мне некалькі слоў аб сабе. Раней я думала, што ты занят, не маеш ніводнай вольнай гадзінкі напісаць мне і бацькам сваім, але ж не, зусім не то. У цябе пры ахвоце часу знайшлось бы, як знаходзіцца яго пісаць другім, напр[ыклад], Антосі. У цябе проста-напроста няма ахвоты і няма ніякай адзінасці і блізасці з намі. Ты штачас, то ўсё уцякаеш ад нас. Бяжыш ад нас усе шыбчэй і шыбчэй. Але ж такія адносіны пачынаюць зліць. Чаму ж гэта так паміж нас. Чаму ты забываеш мяне на самым распуцці, у самой ведаверці. Гэта мяне абіжаіць. Эх! братка, цяжка мне, а тут яшчэ ні адзінай душы роднай. Капаюсь я ў сабе, ішчу хоць бы штонебудзь ды знайсці, што б магло цягнуць мяне да жыцця. Дык не, няма нічога. Тлею я, і болі нічога. Хацелась бы скарэй сатлець і рассыпацца, каб і пуху і праху не асталось. Ты прачытаеш і скажаш «глупая дзіця». Я і сама так калі думаю. Але чаго ж мяне з малых дзён не кідаіць туга, сум і ўсякая трасца. Усё няладна. Прырода цягніць, людзі адталківаюць. Прырода хараша, людзі дрэнны, з іх горам і з іх усім. Хто я, што я? Нішто. Хворая, пустая, хадзячая статуя. Ні болі, ні мені. Што будзіць з мяне? Нічога. Аграном, наўрад. Але што я табе пішу? Нашто? Дура! Табе ні да гэтай пустой быўтаўні. Гэта, скажаш, дурны час выпаў пісаць. Ну я ўжо даволі. Надоечы быў у мяне Пракоп. Паслалі табе пуд мукі. Еж і беражы сябе і сваё здароўе. Пішы, ці палучыў першую пасылку з жырамі. Скора, як будуць грошы, я прышлю яшчэ пуд мукі. Яна ўжо тут у мяне. Пішы, што патрэбна — дык прышлюць. Я, верна, скора паеду двору. Абнаўлюся, аддыхну.

Надоечы быў беларускі вечар са скокамі. Ставілі «Лес шуміць». Пеў Арыэлеўскі хор беларускія песні. Было люба. Я і другія ўспаміналі цябе як першага арганізатара гэтай секцыі. Чарняўскі іграў дзіўна. Другія нацягнута. Пішы пра навіны маскоўскія. Камароўка жывець па-старому. Толькі з вучылішчам нядобра. Горбік гоняць, яна не ўходзіць. Заняцій няма. Дзеці і ўсе глядзяць на яе дрэнна. А тут яшчэ самааблажэнне. Дзяцей, бяднейшыя, не пускаюць, бо плаціць нечым. Тут таксама навуковая старана ідзець дрэнна. Многія школы распусцілі, ученікам некуды дзявацца. Канцылярыі халодныя, не топленыя. Ну, брат, не пішыцца. Бывай здароў. Беражы сябе. Цалую. Жыві, пакуль жывецца. Марына.

5

*29.XII.21 г. Камароўка.*

Любы Лаўрык! Я ўжо з нядзелю жыву ў дварэ. Тут усё добра. Усе здаровы. Жывуць як і раней. Дажыдаюць каляд і ўмесце з імі і цябе. Аддыхнуць троху ад працы і пагадавацца мамінаю парасяцінаю. Спадзяваім, што прыедзеш, не забудзеш нас. Пракоп дужа абіжаецца, што ты не адпісываеш на яго пісьмы. Таксама і я і Раман. Дзеці дажыдаюць цябе, бо спадзяваюцца, што ты ўзноў устроіш ёлку. Пішы, ці палучыў ты 2 пуды мукі, якія мы паслалі па пошце. Пішы скоранька і длінныя пісьмы. Будзем дзякаваць. А пакуль не напішаш ты, то і мы ні слова. Цалуем усе. Марына.

# Часць чацвёртая (1922—1923)

## 1922

### Арышт і высылка Кузьмы

Спатыкаць Новы год Кузьма і Міла пайшлі ў «Беларускі клуб». Кузьма амаль ніколі не бываў у гэтым клубе і не любіў туды хадзіць, бо заправіламі там былі людзі рэакцыйныя, і ў іх ліку падазроная асоба пан Валэйша, і там жа круціліся шпегі з дэфензівы. Але Кузьме прыслалі запрашальны білет, і яго адсутнасць была б уліча-

на, а Русецкі вучыў Кузьму трымацца так, каб наймен-шага поваду не даваць западозрыць сябе ў чым-небудзь. Кузьма хаваў падпольную літаратуру, грошы, распіскі і шыфр Русецкага. У гэтым і была ўся яго «камуністычная дзейнасць».

На вечары Міла так паглядзела на Т., што гэта здалося Кузьме вульгарным і непрыстойным, і ён зрабіў ёй увагу. Міла кінула яго і пайшла гуляць у зале ў кругу (скокі яшчэ не пачыналіся). Ніколі яшчэ не быў Кузьма так пакрыўджаны жонкаю. Ён загневаўся і ў гарачцы сказаў Міле, што яны зараз пойдуць дамоў. Міла адмовілася ісці. Кузьма кінуўся апранацца. Пальто падаў яму дзядзька Мяшэчак (тады Кузьма яшчэ яго не знаў). І вось выскачыў Кузьма на вуліцу, прабег да брамы і стаў... Стаяў, пазіраў на неба, на зоркі, горка думаў: «Вось яно маё спатканне гэтага Новага году...» Усё жыццё праходзіла прад вачыма, асазнанне памылак буйна расло і поўніла сэрца вялікай горыччу. І ён пасля не помніў нават, ці ён усё ж ткі пабег адзін на кватэру і там маці Міліна спыталася: «А дзе ж Міла?» — дык ён вярнуўся, ці ён толькі маляваў сабе гэты вобраз у думках і адзін не хадзіў на кватэру (і даволі ж далёка), а пастаяў і вярнуўся ў зал. Здаецца, усё-ткі бегаў. Дамоў ішлі з Мілаю, як хворыя, цягнуліся нага за нагу. Ці толькі ён так ішоў.

У канцы каляд была вечарынка ў гімназіі: ёлка для дзяцей. На вечарыне быў Кузьма і Міла. Хадзілі па залу з настаўніцаю С. Кузьма нібы па-таварыску, а сапраўды — каб падражніць Мілу, жартаваў з С. і разы два сказаў ёй «ты» (хоць глядзеў ён на гэтую С. як на зусім чужога для яго чалавека: і па поглядах, і па ўсяму ўкладу жыцця). У зале многа было дзяцей, хадзілі, гулялі, радаваліся, весяліліся. Падвярнуўся нізкі, кучаравы і заўсёды жартлівы Мікола Колкі, адвёў Кузьму трошку ўбок і сказаў: «Ведаеш, братка, маюць быць рэвізіі (вобыскі)... Калі што маеш, знішчай». І пайшоў. Адкуль ён усё ведаў,— хто яго ведае. У яго ўсюдых былі прыяцелі па выпіўцы. Кузьма думаў, што яму знішчаць асабліва няма чаго, а тое, што было закапана ў дрывянічку ў зямлю, не знойдуць... Аднак жа чыстку некаторую зрабіў. Толькі нумары менскіх газет не вынес. Думаў: не знойдуць. Ці забыўся. І ўжо час прайшоў, а рэвізій не было...

У ноч з 19 на 20 студня, прыблізна а трэцяй гадзіне,—

стукаюць...— «Хто?» — «Адчыніце!» — прыглушоны і нязвычны голас гімназіяльнага вартаўніка, а з ім як бы і яшчэ нехта за дзвярмі мнецца.— «А ў чым справа?» — «Адчыніце...» Адчыняе, а ў вочы электрычны ліхтарык, і паліцэйская форма, і ўваліваюцца цэлым натаўпам. Рэвізію пачалі з пакойчыка, які служыў сталовай і ў якім жыла Міліна маці. Разабралі абраз, расчынілі самавар, калолі сяннік, выстуквалі сцены, глядзелі электрычным фанарыкам у яе папіросы, вывернулі яе падвойныя панчохі. Пераглядзелі фатаграфіі ў альбоме Мілінае сястры, апыталі, хто на картачках. Перайшлі да другога пакойчыку, дзе стаяў Мілін ложак і пры ім Аліна люлька, а пры другой сцяне Анэцін ложак. Аля, як на тое, добра спала. Без сораму перавярнулі, перакапалі ложкі і ўсё, але ўжо не так пільна, як у тым. Міліна маці была вельмі супакойная. Кузьма і Міла нерваваліся. Анэта маўчала. Галоўны шпег (яго прозвішча было Шпэр, як потым Кузьма даведаўся) — мужчына сярэдняга веку, таўстатвары, голены і з падбрытымі на лобе валасамі, з гадкім, цынічным выразам твару. Ён быў у цывільным. Пасабляліі яму двое маладых людзей, таксама ў цывільным, але ў аднаго была студэнцкая шапка віленскага універсітэта Стахвана Баторыя: белая рагатая з малінавымі кантамі. Чацвёрты быў больш інтэлігентны, ён не капаўся, стараўся трымацца збоку і ў цяню, сядзеў у гэтым пакоі на акне за шафаю, курыў... Уваліліся ў Кузьмоў пакойчык, доўгі і вузенькі: ля акна стаяў стол, а далей, пры печы, ложак. Цікавіліся легальнымі віленскімі выданнямі, а Кузьма баяўся за камуністычную літаратуру. І ім засляпіла, не знайшлі: перабралі газеты згары, а ніжэй не паглядзелі: там ляжала «Звезда», «Савецкая Беларусь», «Красное знамя». Страшэнна доўга капаліся ў лістох і рукапісах. Не ўмелі чытаць па-беларуску, і галоўны шпег прасіў Кузьму. Кузьма спярша вагаўся: ці ўніжацца гэтым чытаннем, а потым, каб збіць іх убок, чытаў. І яны верылі. І тут гэты гнус Шпэр меў нагласць нядбала кінуць ліст з паведамленнем аб смерці Мілінае сястры Соні. Кузьма стаў трымацца іначай. Патрэбаваў ордэр. Паказалі зводаль, не выпушчаючы з рук. «Зрабіць рэвізію»... Аб арышце, здаецца, нічога не было. Падпісана следчым 6 акругі Баброўскім. Напісалі пратакол. Напісалі: знайшлі **пазітыўны** матэрыял. Кузьма не хацеў падпісваць: які ж **пазітыўны** матэрыял? — «Па-нашаму, **пазітыўны...**» А напакавалі ўжо гэтыя нямыя студэнцікі цэлы мех бе-

ларускімі кніжкамі і газетамі і літоўскімі брашурамі ў польскай мове — усё легальнымі і нядаўнымі віленскімі выданнямі. Кузьма падумаў і падпісаў: павінен жа следчы разабрацца, што гэта за матэрыял. Эх, наіўны быў Кузьма: трэба было спрачацца за кожную кніжку, за кожнае слова ў пратаколе... Першы раз, неспрактыкаваны быў, нерваваўся, непрыемна было перад сваімі, ну і баяўся, што яшчэ могуць пачаць капацца і знойдуць.— «Апранайцеся!» — «Чаму?» — Ён думаў, што нічога ж не знайшлі, дык не арыштуюць. І тут яму стала мотапна. Але адразу не павялі. Пакінулі паліцыянта: сядзець пры дзвярох у яго пакойчыку і не выпушчаць, пакуль не прышлюць. Самі пайшлі далей у Базыльянскія муры, дзе месцілася беларуская гімназія.

Там ішла «рэвізія» да дня. І вучні ўжо ў школу ішлі, паліцыянты стаялі. Не прапушчалі дзяцей, пагражаючы стрэльбамі. Заняткаў так, здаецца, і не было. Вучні з малодшых, беларускіх, класаў вялікім натаўпам прыйшлі на падворак, дзе жыў Кузьма. Кузьма не мог выйсці, паліцыянт не выпушчаў. Кузьма сказаў дзяцём слоў колькі праз фортачку. Бачыў там Веру Мінеўскую, яе маленькага брацка: стаяў хлопчык гадкоў 6—7, худы, чорны ад галадухі, пазяб у сваіх лахманох, Вера там шумела, другія дзяўчаткі, таварышкі яе па класе,— немпта крычалі, махалі рукамі... Не хацелі аддаваць паліцыянтам свайго настаўніка. Пасля даведаўся Кузьма, што нейкі паліцыянт, пагражаючы дзяцём, казаў: «Кулька ў лэб!»

Пасля паўдня паліцыянт павёў Кузьму, нікога не дачакаўшыся: мусіць, забыліся,— у гэты дзень многа было работы ў беларускіх мурох і па ўсім горадзе. Прывёў у дэфензіву. Выйшаў нейкі панок у вайсковым: «А-а!.. На Лукішкі!» Аўтамабіль. Павязлі...

Пасадзілі ў адзіночку № 40 ці 45, на другім паверсе. На чорнай дошцы ўнізе не напісалі прозвішча, а паставілі тры крыжыкі: дужа страшны злачынец! Два тыдні сядзеў без допыту. Потым вы́клікаў следчы Баброўскі, тут жа ў турме. Пытаўся, якія адносіны меў Кузьма да беларускае газеты і на якія сродкі яна выходзіла. Потым пайшоў пагаманіць па тэлефоне з пракурорам, пакінуўшы Кузьму аднаго каля свайго столу з паперамі. Кузьма мог бы паглядзець, што там пра яго пішуць, а не паглядзеў. Вярнуўся следчы і кажа: выпусціць нельга. Прад'явіў абвінавачванне па 100, 125 і 129 артыкулам Карнага

кодэксу (кара смерцю і катарга). Абвінавачваў у прыналежнасці да партыі камуністаў, у арганізацыі тайных баявых дружын з мэтаю замаху на дзяржаўную ўладу, у друкаванай і вуснай агітацыі, у атрымліванні грошы ад камуністаў.

Начою з 4 на 5 лютага, калі Кузьма ўжо спаў, да яго ў адзіночку прыйшоў астрожны даглядчык, узбудзіў і сказаў апранацца, каб ісці ў кантору. Кузьма вельмі здзівіўся, чаму начою, паглядзеў у аконца, каб пазнаць, звечара гэта ці пад раніцу, убачыў дзесьці на падворку нейкае фабрыкі толькі адзін сумны начавы ліхтар — і не мог угадаць часу. У пакоі, дзе была вопратка, і ў калідоры ён заўважыў яшчэ некаторы рух: відаць, і яшчэ некага вывадзілі. У канторы была процьма featureрознага паліцэйскага люду, сядзеў, разваліўшыся на крэсле, апрануты як у паход, узброены, паліцэйскі начальнік, кароценькі, сівы, і грубым голасам нешта зняважлівае казаў. У чым справа, Кузьма так і не разумеў, і ніхто не казаў. Кузьме далі канвой: паліцыянта і старшага паліцэйскага, і сказалі, што яны павядуць яго дамоў, каб развітаўся і ўзяў цёплую вопратку. Часу на гэта далі паўгадзіны.

Развітанне было балючае, тым болей што Міла была на пятым месяцы цяжарнасці. Трымалася яна добра, каб падбадрыць Кузьму, але ёй уроілася, што яго могуць павесці і расстраляць, і Кузьма потым шмат разоў думаў, як яна перанясе хвіліны гэтых страшных перажыванняў. Адно тое супакойвала, што загадалі ўзяць цёплыя рэчы... Думалася, што, мажа, павядуць праз граніцу ў Савецкую Беларусь. Была і другая думка, што павязуць у турму ў Варшаву. Развітанне было пры паліцыянтах. Аля спала, і Кузьма пацалаваў яе сонненькую, на руках у Мілы: яна яе вынесла ў Кузьмоў пакой, дзе былі паліцыянты. Яны не выпускалі Кузьму з яго пакойчыка.

З кватэры — назад у турму. Там завялі яго ў агульны пакой, і Кузьма неспадзявана ўбачыў там цэлую партыю арыштаваных, як і ён, ліцвіноў і беларусаў. І ўжо там нехта казаў, што, мусіць, вышлюць іх у Літву. Павялі іх, яшчэ досвіткамі, на вакзал, пасадзілі ў два вагоны і павязлі... На Кузьмову вусную заяву, што ён не хоча ехаць, глаўны паліцыянт не звярнуў ніякае ўвагі. Падвязлі да нейтральнай літоўска-польскай зоны і высадзілі ў глыбокі снег. Адтуль, па снягу, праз барок і полем, паліцыянты завялі іх у літоўскую вёску і пакінулі. Усяго было 33 чалавекі, у тым ліку дзве ці тры жанчыны. Толь-

кі позна ўвечары скончыліся перагаворы з літоўскаю ўладаю, і ўсіх іх, спярша на санях, а потым на цягніку, павязлі ў Коўню. Тут яшчэ на вакзале траіх арыштавала літоўская ўлада.

Пасля даведаўся Кузьма, што ў газетах было афіцыйнае польскае паведамленне, у якім высланым прыпісвалася: «1) Змова з мэтаю перавароту; [...] 2) шпягоўская і баявая арганізацыя; 3) дзейнасць, скіраваная на абвастрэнне міжнародных адносін; 4) садзейнічанне камуністычнай рабоце, каб выкарыстаць яе дзеля сваіх мэт, і супрацоўніцтва ў гэтай рабоце з боку некаторых абвінавачаных; 5) дзейнасць, дапамагаючая спекуляцыі і ваеннаму ліхвярству і падказаная з Коўні з варожымі мэтамі». Усё гэта «прадугледжваецца артыкуламі 100, 101, 107, 108 п. 6, 125 і 129 Карнага кодэксу і дэкрэтамі аб ваеннай ліхве». Нейкая віленская польская газета, а за ёю шэраг варшаўскіх і правінцыяльных газет пісалі, спасылаючыся на судовыя колы, што высланыя мелі на мэце высадзіць у паветра будынак Віленскага сойму, з усімі сабранымі там, у дзень адчынення... Пісалі таксама, што «па скарзе Коўні, Сакратарыят Лігі Нацый выдзеліў асобную Кантрольную камісію на чале з палкоўнікам Шардыні для разгляду справы аб арыштаваных літоўска-беларускіх дзеячох» і што «вызваленне арыштаваных адбылося дзякуючы энергічным патрабаванням французскага пасла ў Варшаве пана Панафье і Кантрольнае Камісіі, якая прыязджала ў Вільню». Віленская яўрэйская газета «Unzer tag»[1] пісала, што «пры развітанні адбываліся душу раздзіраючыя сцэны», што «жонка арыштаванага вядомага літоўскага дзеяча з перапуду бегла голая цэлых два кварталы». А ў пратэсце жонак высланых, надрукованым у газеце «Zitwa[2], пісалася: «...людзей светлых, ведамых не толькі ў краі, але і за межамі, забіраюць уночы ў астрог, як найгоршых разбойнікаў, трымаюць іх тыднямі не толькі без судовага следства, але нават без допыту і, урэшце, высылаюць уночы немаведама куды, перад гэтым даставіўшы іх дамоў пад моцнай вартай, каб у працягу колькіх хвілін пераапрануцца і развітацца з асірацелымі роднымі і плачучымі дзяцьмі... Сцэна развітання, у час глыбокай ночы, пры надзвычайнай таёмнасці, выразна рабіла ўражанне,

[1] «Наш дзень».
[2] «Літва».

як развітання з прысуджанымі на смерць, і магло нас вывіхнуць з розуму і адняло нам здароўя на колькі год!..» Пратэст быў падпісаны і Мілаю. Спаміж жонак аказаліся і непісьменныя, замест подпісу стаялі крыжыкі, а ў дужках ля іх — прозвішча. А ў адказ на гэты пратэст з'явіўся ў польскіх чарнасоценных газетах «пратэст полек-патрыётак», што «злачынцаў выпусцілі без суда». Гэты пратэст падпісалі важныя пані (графіня Плятнэр і інш.).

Дык вось трапіў Кузьма, неспадзявана для самога сябе, у вядомыя дзеячы і ў страшныя тэрарысты. Знаёмых яму спаміж высланых было мала. Найбольш блізкім яму чалавекам аказаўся спаміж іх той швейцар «Беларускага клубу» ў Вільні, дзядзька Мяшэчак, што падаваў яму пальто, калі ён, пасварыўшыся з Мілаю, уцякаў дамоў. Гэта быў селянін са Случчыны. Ён апавядаў Кузьме жудасныя рэчы аб польскай акупацыі на Беларусі ў 1920 г.: польскі афіцэр трэбаваў сабе ў іхнай вёсцы, у часе адступлення, малалетнюю дзяўчынку і пагражаў, калі не дадуць, запаліць вёску... Апынуўся тут у Коўні дзядзька Мяшэчак без капейкі грошы, і Кузьма дапамагаў яму троху. А ён стараўся прыслужыцца, чым мог, Кузьме: малако купляў яму і гатаваў на плітцы, па хлеб хадзіў... Кузьме было страшэнна нудна. Снілася яму, што капялюш яго, на нейкім сходзе, разам з капелюшамі яшчэ некаторых людзей, патапталі пад нагамі. Ён ніяк не мог яго разгладзіць, а тым часам Міла некуды пайшла, не сказаўшы яму. І гэткі жаль сціскаў яму сэрца, што словамі ніколі выказаць няможна, гэткі жаль, які толькі ўва сне можна перажыць. Хацеў ён адразу паехаць у Менск, пайшоў у Савецкае прадстаўніцтва. Там — чарга і шмат шныхарыць у пачакальні рознага люду, можа, і літоўскія ці беларускія шпегі і саглядатаі. Кузьма думаў: высланыя ліцвіны прыехалі ў сваю дзяржаву, высланыя беларусы — на чужыну, а тыя тры, мусіць, камуністы, якіх забралі на вакзале, прыехалі з польскай турмы ў літоўскую. І Кузьма пастанавіў не падаваць у Коўні заяву аб выездзе ў Савецкую Расію, а пераехаць спачатку ў Латвію. Скора ён выехаў у Дзвінск.

### Каляды ў Камароўцы

Ганначка (Марынка.— *Рэд.*) пісала Кузьме: «Калядкі, святыя вечаркі, прайшлі добра. Сустракалі мы іх упяцёх: тата, мама, Пракоп, Лаўрык і я. Успаміналі часта цябе,

разважалі, як гэта добра будзе, як вялікаднем сабяромся мы ўжо, напэўна, усе, пасля столькіх гадкоў разлукі, як налюбуемся, як нагаворымся... У двару ўсё па-даўнейшаму, толькі тата і мама ўсё старэюць і старэюць і ўсё больш пачынаюць клапаціць аб усіх нас. Цётка Палута, дзядзька Саўка і дзядзіна Алёна — дык тыя зусім ужо ў магілу глядзяць. Дзядзіна ўжо і дзетак перастала пацяшаць так, як калісь пацяшала нас. Перастала казаць ім «Іваньку-рашотнічка», «Замухрышачку» і іншыя цікавыя казкі. Не гамоніць ужо і пра былое-мінулае. Ужо болей не пяець яна, як калісь-то, казала, пела Кузёмцы, чэшучы валосікі яму, калі прыязджаў з Крушні ўдвору ў госці. Цяпер яна сядзіць, вочы заплюснуўшы, і ўсё аб нечым тужліва думае. Лаўрык калядамі хадзіў, усё збіраў прыпеўкі, прыказкі, замовы. Назбіраў многа...»

Аб збіранні фальклорнага матэрыялу пісаў Кузьме і сам Лаўрык і паслаў яму колькі сваіх запісаў, але той ліст, як відаць, загінуў у дэфензіве. Што жандарам да фальклору! Наогул Камароўка неўпрыцям мянялася; мянялася ў ёй усё, мяняліся і людзі, якія жылі ў ёй. Першы паехаў з двара пасля каляд Лаўрык, і ад'езд яго засмуціў матку так, што яна аж захварэла, і чула сябе дрэнна і тады, калі ўжо выязджала ў Нізінкі Марынка (1 лютага). Хварэў Раманаў Ляксейка, калі Марынка выязджала, быў дужа слаб.

## Смерць Ляксейкі і Аўгінніна вяселле

Пасля панасся (18 студня па ст. ст.) памёр Ляксейка. Уранні памёр, і ў той жа самы дзень вяселле Аўгінкі Мікітавае было. Яго закапалі, тады яна пад вянец паехала. Пасля клёцак хадзілі выпраўляць яе. У Батуравай Стахвана хаце яе прыбіралі, перад вялікаю люстраю. Людзі казалі: «Хаўтуры, нешчаслівае будзе замужжа, ці ён, ці яна памрэць». І як замуж ішла Наталля харошаўскага Лукаша Ваяводы, дык харошаўскі Граська памёр (выпіў, ці што), і тады казалі: хто-хто з іх, Цімох ці Наталля, памрэць. Наталля памёрла, чацвёра дзяцей пакінуўшы (тры дачкі і сын), а Цімох жаніўся з другою. Так і пра Аўгінню казалі. Марынка з Аўгінняю дружыла, але ўжо ў Нізінках была, як яе засваталі. Пісала Аўгіння ёй, каб прыехала, а Марынцы няможна было. Як потым на вялікадне Марынка прыхадзіла, дык Аўгіння дужа плакала, і Марынка з ёю. Плакалі, што няладна Аўгінні жыць.

Мужык усё не хацеў яе, казаў: «Застралю». Як пад вянец выпраўляць, дык ён і гарэлку піў, і брахаў, і ў шапцы за сталом сядзеў. І не ехаў доўга ў Камароўку. Па яго Курыла, Аўгіннін брат, і Міхалка Піліпёнак (членам сельсавету ад вёскі тады быў) ездзілі па яго. А ён хаваўся. У Бабкі к сястрэ схаваўся. Там яго шукалі. А ён не хацеў, казаў, што Аўгіння старая, такая... Гадоў ёй 25—26 было. А як прыедзе, яна качаецца ля яго: «Мішачка, Мішачка...» Ён быў маладзейшы і драбнейшы за яе, зусім хлопчык. Ён спярша ішоў, у сваты прыйшоў, з панасся ехаў, заехаў у Камароўку, да іх. Ён з Віроў, радня троху Пестунам. А тады раздумаўся: не паеду. Ноч гулялі, дзень,— а маладога няма. Прыехаў Курыла і член (Міхалка).— «Страты вялікія, усяго дабра твайго не хопіць сплаціць ім, колькі яны патраціліся»,— казаў Міхалка (а ён жа — член!). Прывязлі яго, прыехаў... Шапка калматая, рыжая. Сядзіць у ёй за сталом. Маладая плача... Якое ж гэта вяселле... У Віры ехаў вялікі поезд: і Ганна Стахваніха, і Пракоп, Раман з Гашкаю, Дарка з Мікалаем (ён жа Вавіла Вусаты.— *Рэд.*) і бліжэйшая ўся радня, Ягор з Палагаю. Там Пракоп і Маўру ўбачыў. На вялікадне Аўгіння з Марынкаю плакалі. Казала яна Марынцы: «Вазьму цябе, Марыначка, кумою». Аж радзіла ў піліпаўкі. Матка ў госці пайшла, пры ёй там і радзіла.

Марынка прыехала ў Нізінкі з Камароўкі 1-га лютага. Завёз яе Пракоп. Засталася яна ізноў на старой кватэры, бо тую, што была нагледзела, ужо заняла нейкая панечка, што жыла там раней. Спазнілася Марынка і на калёквіум па фізіцы, аб чым шкадавала найбольш. Узялася працаваць па практычнай батаніцы, геадэзіі і крышталаграфіі. Разлічала кончыць да 11-га лютага крышталаграфію і ўзяцца за мінералогію. Клапацілася аб Лаўрыку, як даехаў; баялася, што, можа, набраўся хваробы ў дарозе. Бачыла Дуку, прасіў кланяцца Лаўрыку. Перадала «Зоркі» Цытовічу, дзякаваў і прасіў кланяцца Лаўрыку. Напісала Лаўрыку пра ўсё, абяцала скора прысланы 30 запісаных ёю прыпевак. Атрымала ад Кузьмы ліст, у якім Кузьма пісаў, што з матэрыяльнага боку жывецца нішто, а з духоўнага надта цяжка (ліст быў пісан яшчэ да арышту, і яна не ведала, што Кузьма ўжо і не ў Вільні). У Нізінках таксама ўсё было дорага. Гро-

шы ўсё ішлі ўніз. Паштовая марка на звычайным лісце каштавала 1250 руб. Хлеб у Марынкі быў. Бульба — мёрзлая, але ж была. І яна пісала дамоў, што яна сыта і адзета. А ліст дамоў перадала цераз людзей, бо не было грошы на маркі. Лаўрык напісаў ёй, каб яна ўзяла мільён у Баравіка, каб не сумавала, працавала і вясёла глядзела наперад. Ён пераслаў ёй Кузьмоў ліст ад 21 лютага, са штэмпелем у Воршы ад 12 сакавіка, і з гэтага лісту даведалася яна аб высылцы Кузьмы. Яна пісала Міле ласкавыя, паэтычныя лісты, старалася падтрымаць яе. Лаўрык прыслаў ёй грошы. 24 сакавіка яна пісала яму, што не трэба было прысылаць ёй грошы. Пісала: «Я сыта, адзета, абута і грошы маю. Як ты — не ведаю. Шкадую, што нічога ў мяне няма паслаць табе. За твае грошы я пастанавіла сфатаграфавацца. Жыццё бяжыць шпарка ўперад, няхай жа хоць невялічкія «вяшчэственныя» ўспаміны застануцца аб ім». Яна троху хварэла. Хадзіла да Скопінца (фельчара). Ён сказаў, што ў яе малакроўе. Раіў болей гуляць і лепей есці. Даў піць жалеза. Казаў паберагчыся, бо можна запусціць і нажыць сухоты. Але яна не дужа сур'ёзна брала яго засцярогі. Яна адбыла практыку па крышталаграфіі і мінералогіі і спадзявалася скончыць да вялікадня батаніку і зімнюю геадэзію. Хацелася ёй канечне здаць Багаяўленскаму матэматыку.

## Тыфус у Раманавай хаце

У сакавіку Раман цяжка хварэў. Быў ён у Харошым. Адтуль ішоў ды на палянкаўскім лагу ўваліўся ў канаву (можа, выпіўшы троху быў). Яшчэ лёд быў, вада ёдкая. Прыйшоў і захварэў. Кажа: «Халодна маім нагам». І галава забалела. Лёг. Перш сам у Целяпенічы ездзіў, а тады лёг і лёг зусім. Прывязлі з Целяпеніч доктара Халяву. Доктар Халява сказаў, каб дзяцей адтуль забралі, і зараз яны ўсе к дзеду ў хату перайшлі. Пабедзька быў малы, начою Ганна насіць-насіць, пакуль ён троху засне. Раман ляжаў без памяці, нічога не гаварыў. «Раман! Раман!» — гукаюць-гукаюць, бацька, маці,— нічога не адгукаецца. Бацька сядзеў і сядзеў над ім. Доктар сказаў: «Калі хочаш, каб быў сын, дык сцеражы: і ад яды, і ад усяго». Прыйдуць Пракоп і Астап і дзержаць яго, а бацька перасцеле. Пад сябе рабіў. Аслабеў дужа. Прывазілі Халяву, мукою плацілі яму, Раманаву ўсю

паадлавалі і ў бацькі потым бралі. У Гашкі было на кохту: доктаравай жонцы аддалі. Давалі Раману жыжачку: навару з курыцы, з дулек, чарніц. Віна доктар не дазволіў даваць; потым 1/2 бутэлькі партвейну купілі. Перастала сэрца спраўляцца, асцюдзянеў. Прывёз яго ў Целяпенічы Пракоп, доктар уколы зрабіў, бутэлькамі грэлі. Доктар сказаў: «Калі гэтую ноч пераЖыве, прыязджайце заўтра яшчэ». Маці ўдвору прыйшла, загаласіла — начою... Пракоп начою прыбег к Астапу, забарабаніў у акно, а Надзька з печы шмяк, спужалася. Астап паехаў на сваім кані, прывёз доктара. Пракоп завёз на сваім. Доктар сказаў: «Крызіс перайшоў, беражыце яго з ядою» і зноў уколы зрабіў, сказаў саграваць. Матка панчохі свае давала. Сыраквашы, кісялёк давалі.

Стахван, бацька, казаў, што сніў, яшчэ перад Раманаваю хваробаю, што выскачыў з-пад ганку Раманавага кот чорны. І тады сапраўды быў нейкі чорненечкі кот, як і відзіў Стахван ува сне. І не адгоніш яго. А потым хто яго ведае, дзе дзеўся. Тыфусу баяліся. Як Лаўрык прыязджаў з Масквы, дык парашка ад тыфусу прывёз. Марынка і Пракоп насілі на шыі, і на паліцу ў хаце насыпалі. Марынка ці Пракоп забыліся раз у лазні, на другі дзень бегалі.

Потым і Гашка захварэла. Яна была больш пры памяці. Але і Раман трызніў, і яна трызніла. А за Гашкаю і Варка захварэла. Варка лягчэй хварэла. А больш ніхто і ў вёсцы не захварэў. Дзе набраўся Раман? Начаваў у Горадзе, там хварэлі, а ён кажухом тым накрыўся. А можа, што ўваліўся ў ваду. Гашка з ім ляжала, ад яго набралася. А Варка ела з імі і Гашкіну сарочку, добра не вывaрыўшы, надзела. Хварэлі яны на плямісты тыфус.

5 красавіка Марынка ўсё сабрала, каб заўтра, чуць зорка, ісці з Нізінак удвору. Сабраўшыся, мела вольную часінку і напісала Лаўрыку. Яна хацела напісаць яму пра ўсе свае няўдачы. На тым тыдні хадзіла яна здаваць Багаяўленскаму алгебру, задачу рашыла, а па тэорыі прыдраўся, зрэзаў і сказаў прыйсці ў другі раз. Так і не здала яна да гэтага часу матэматыку. Гэта вельмі яе мучыла. Яна пісала Лаўрыку: «Прачытаўшы, ты зараз скажаш: ну, ужо навязалася з сваімі стагнаннямі... Дык не кажы ж так, братка! Я зусім не хачу стагнаць, але ж нуда не пакідае мяне...» Няўдачы канчаткова забілі ў ёй

7*

энергію і ахвоту працаваць, а таксама і ўсякую надзею, а надзея варушыць жыццём,— пісала яна. І ў горычы дадавала: «Праклінаю я сябе і тую гадзіну, калі я радзілася...» «Але ўсё нішто,— пацяшала сама сябе і Лаўрыка,— пабуду ў двары, устрахнуся, а тады — што будзе, дык будзе». І толькі прасіла яго пісаць ёй і не злавацца на яе. Паштовая марка каштавала ўжо 15.000 р.

Вялікадне было 16 красавіка. На другі дзень свята (17/IV) Марынка пісала Кузьме з Камароўкі: «Сонейка радасна і прыемна льець святло і цяпло. Радасна, вясёла і прыгожа ўсюдых. У нас у садзе хоць сабе яшчэ і пуста, але ж птушачкі пяюць, пчолкі звіняць, сонейка пячэць — і так хораша мне сядзець за хілым столікам, зробленым яшчэ калісь-то табою, хораша ўспамінаць тыя гады, калі я была зусім малое дзетка, калі ты прыязджаў з Нізінак, калі мы збіраліся ўсе разам, усім сваім родным гуртком. Як добра часамі было тады! А цяпер мы хто дзе, усе ў розных кутках. Але ж нічога: калі-небудзь ды збяромся. Добра б было, каб сабрацца задалося к духу. Справілі б мы тады вяселле Пракопава на славу...» Пісала: «Мы жывём нічога. Усе здаровы, жывы. Раман хварэў на тыфус, але ўжо папраўляецца. Гашка яшчэ ляжыць, зараз пайду яе даведвацца»...

А 18/IV пісала яна Лаўрыку. Якраз ехаў Пракоп у Целяпенічы па доктара для Гашкі і мог завезці ліст. Яна пісала, што Раман хварэў надта цяжка, не меў ніхто, ні яны, ні доктар, надзеі на яго жыццё. Але ж нейкім дзівам быў ён цяпер на шляху да здароўя, ужо папраўляўся. Гашка яшчэ не. Уставалі ўсе ў хаце рана. І як толькі ўставалі, падымаўся кагал на ўсю хату. Дзеці Раманавы жылі ў іх. Устаўшы, пачыналі крычаць — адзін аднаго, другі другога. Супакайвалі іх, карміլі і тапілі печ. Тады ішлі да Рамана, перамяніць бацьку. Ён там сядзеў усе ночы. Там таксама было нялёгка. Свята міналася нядобра. Маці і бацька клапаціլі дужа па Лаўрыку і па Кузьме. Па Лаўрыку — што ён там галодны. Пасылалі яму пасылку (баравікоў, сала і яшчэ чаго), дык у Целяпенічах нешта не прынялі. І сніла маці, што Лаўрык удвору ідзець з торбачкаю за плячмі, то яшчэ куды бяжыць, усё хапаючыся. Цяжка жылося Марынцы ў двары: работы многа, клопату многа, і ліст напісаць не было часу. І клапаціла аб сваім вучэнні.

Потым Марынка ізноў жыла ў Нізінках. Доўга не мела ніадкуль лістоў і клапаціла. Пісала Лаўрыку, што жывецца ёй нічога, і дадавала: «Аб справах сваіх не скажу нічога, бо мне цяжка казаць пра іх». Чакала Лаўрыка ўдвору. Пасылала яму сваю фатаграфічную картку. 19 траўня прыйшла яна па некалькі дзён удвору. Пісала Міле: «У двара цяпер добра. Сад увесь зялёненькі, прыгожанькі. Яблык будзе многа, добра б было, каб вам задалося прыехаць у іх...» У двара атрымалі ліст ад Кузьмы з дарогі, але яшчэ дакладна не ведалі, дзе цяпер Кузьма. Атрымалі ад Мілы ліст і картку. Лісты гінулі ў дарозе, не ўсе дахадзілі.

Вясною гэтага году памёр Марка Бондар у Палянцы. Ногі пачалі яму балець. Раз прыйшоў к Батуравым у Камароўку, па жыту хадзіў, казаў: «Чуць дайшоў». Памёр, паставіўшы сыну Стратону новую хату. Унучак дужа любіў. Стараўся хустачкі ім купіць. Вольга-ўнучка па ім плакала. Арына выла: «А хто ж цяпер маіх дзетачак прыглядаць будзе?»

Курыла Мікіцін жаніўся пасля Аўгінні,— здаецца, на духа. Бэз дужа цвіў у Батуравых. Марынка ламала і дугу прыбірала. І Марынка з Пракопам у Харошае з маладымі ездзілі. З-пад вянца не пайшла абедаць. Маці пайшла да Пракопа грошы ўзяць, а Марынка: «Пайду ў Нізінкі». Пайду і пайду... Жаробка захрамала, а конь ездзіў у Харошае, конь там троху падпудзіўся, абярнуліся яны і ўдарыліся троху. І Аўгіння, і Мішка — яе мужык, і залоўка Аўгінніна ездзілі (залоўка — з Пракопам). І некаму Марыну везці ў Нізінкі. І дзеўкі, і Курыла Мікіцін не пускалі. Маці казала: «Пераначуй у двара, конь аддыхне, заўтра Пракоп завязе».— «Пайду, і ўсё». І яны задзівіліся: свадзьбу кінула, пайшла, дужа ўжо пільнуеш вучэння свайго.

Сабрала маці мукі, круп, а ў маленькую хустачку кілбасы і пірага, мяса кусочак.— «Пройдзеш, з'ясі, не будзеш драмаць ішоўшы»,— казала ёй і правяла яе аж у канцы бялянскіх гародаў (не ішлі па вуліцы).— «Вернемся,— казала,— дзеўкі просяць. Жарка, позна. Хто забярэ, што нясеш, і цябе паб'е»... Пайшла.

Папрашчаліся, і пайшла яна, а маці ўдвору.— «Хоць дужа будзеш спаць хацець, не садзіся, а то заснеш: ноч ты не спала»,— казала маці. А яна ішла, села на дарозе есці, у палове дарогі, і заснула. Усхапілася і не ў той бок

пайшла. Ідзець дзядок.— «Куды ідзеш? — «У Нізінкі».— «Не ў той бок».— «Ну, разам пойдзем». Прыйшла ў Нізінкі ў 12 г. начы, і куды пайшоў той дзядок, не бачыла.

27 ліпня Марынцы выдалі ў сельскагаспадарчым інстытуце ў Нізінках, за № 3367, пасведчанне, што яна з 26 ліпня 1922 г. ёсць студэнткаю сельскагаспадарчага факультэту ў Нізінкаўскім с.-г. інстытуце (б. вольнаслухачка).

16 жніўня яна ўзяла ў Целяпенічах у валасным выканаўчым камітэце, за № 1875, пасведчанне аб тым, хто яна.

Лаўрык з 15 па 25 чэрвеня рыхтаваўся ў Маскве да экспедыцыі Наркамзема (бюджэтны аналіз сялянскае гаспадаркі). З 25 чэрвеня па 5 ліпня быў у дарозе, у Менску, у Мазыры, а з 5 ліпня пачаў працаваць у Мазыршчыне, у Буйнавіцкай воласці. Там быў Лаўрык дзён дзесяць, а потым пераехаў за Прыпяць, чэраз Петрыкаў, у Камаровіцкую воласць, дзе быў дзён дванаццаць. 27 ліпня выехаў ён у Менск, адтуль меўся паехаць на тыдзень дамоў — і ўзноў у Маскву.

Праца на Меншчыне ўзбагаціла яго жыццёвую, аграмічную і беларускую дасведчанасць. Мясцовасць у Мазыршчыне была вельмі цікавая з боку агранаміі і эканомікі: тут была мазаіка розных сельскагаспадарчых сістэм, розных севазваротаў; гэта быў край з вялікаю «фіктыўнаю» інтэнсіфікацыяй паляводства (інтэнсіфікацыя пад уплывам харчавання, а не рынку), з гнаявою жывёлаю, адсутнасцю механізацыі і інш. Балотная Беларусь паўстала яму ўваччу жывою... Там жа яны рэальна ўбачылі, якое знішчэнне рабілі палякі нашаму краю: польская салдатня нішчыла жывёлу часам на 50 % ад усяго статку. Людзі тут толькі яшчэ пачыналі лічыць сябе беларусамі, пяялі «Адвеку мы спалі...». Лаўрык бачыў тут вельмі цікавы быт, меў прад вачыма багаты этнаграфічны матэрыял. Запісаў 20 песень (у тым ліку былі гістарычныя), 100 прыказак. Гаманіў доўга з сялянамі. Часамі жудасна рабілася яму, што яшчэ доўгі час пройдзе, пакуль Беларусь будзе сапраўды Даніяй (ён меў на ўвазе эканоміку). Ён адпачываў у магутных палескіх лясох-пушчах, хоць яны былі рэдкі. Дзівіўся на магутную Прыпяць сярод шаўковых лугоў і балот... У Менску ён перачытаў выдатнейшыя выданні па беларускаму пытанню, якія былі за

апошнія 4 гады і якія здолеў дастаць. Хацелася яму ўсё сабраць неяк у сістэму ўсе факты, у адзіны светапогляд. Думаў: трэба самавызначыць сябе з боку нацыянальнага пытання. [...]

Потым Лаўрык прыехаў удвору. Двор жыў сваім жыццём. Будавацца думалі. Хутароў сяляне не хацелі, бо тады б абмералі зямлю і трэ было б плаціць падатак вялікі, а так было затаёнае зямлі ў Камароўцы дзесяцін 80 ды Залужжам і Мохам дарма карысталіся. Камароўка рассялялася. Новыя двары стаялі ўздоўж ваколіцы па ўсіх шырокіх паласах. І там цяпер на шырокай паласе стаяла новая Саўкіна хата. Цяпер было ўжо ў вёсцы 27 двароў... не пазнаць Камароўку! Падзяліліся Петраковы, Салдатавы, Леванёнкі, Грышчанкі, збіраліся і Мікіцёнкі.

У суботу 15 ліпня (старым стылем — 2-га), на трэці дзень пасля Пятра, радзіўся ў Кузьмы сын. Хлопчык быў здаровы. Акушэрка жартам звала яго «Кузёмка». Важыў, як радзіўся, 9 хунтаў, а 12/VIII—12 хунтаў. Міла была здарова, хоць справа гэтая далася ёй нялёгка. З імі была цяпер Мілiна маці (раней яна выязджала да сябе ўдвору). Тацянка (яна ж Валя, Аля.— *Рэд.*) была здарова. Яна ўжо хадзіла, а гаварыла яшчэ мала, хоць усё разумела. Ішлі надта часта дажджы. З'явіліся нейкія чарвякі, што паядалі ніву. Дамоў аб сваім павароце і нарадзінах сына Кузьма напісаў 18 ліпня. Пытаўся, ці атрымалі яны яго грошы ў лісце (пасылаў у Д.), думаў, што яны прапалі. Больш як чэраз месяц, 24 жніўня, Кузьма ўсё яшчэ не меў ні з Камароўкі, ні ад Лаўрыка, ні ад Марыны ніякае весткі. І не ведаў, што і думаць...

У другой палове жніўня, каля 25 чысла, Лаўрык і Марынка паехалі ў Маскву. Пісаў Кузьме Лаўрык, што вельмі хараша і добра выпраўлялі з ім Марыну ў Маскву, хоць Пракоп дый усе сумавалі...— «Тата, як бацька, зусім змяніўся,— пісаў Лаўрык,— пацішэў, паважнеў. Выяўляў сёлета ўсе адзнакі любасці да Марылі (яна ж Марына, Ганна.— *Рэд.*). На развітанне тата толькі сказаў Марыне: «Будзь чалавекам». Спадзяюцца бацькі на блізкае лепшае будучае,— пісаў Лаўрык,— ну і пашана ім за дзяцей, хоць і цяжэй у думках і ў працы... Лаўрык разлічаў залічыць Марынку ў Маскве да каляд у заатэхнічны інстытут, каб адрабіла там хімію і фізіку, а тады хацеў перавесці ў Пятроўку. За лета зарабіў Лаўрык хлеба і грошы,— пісаў:

«троху пражывём». Прасіў наогул не клапаціцца аб іх і аб двары, не пасылаць ім нічога. А пасланыя Кузьмою 10 мільёнаў, пісаў, загінулі, відаць у дарозе.

27 жніўня аглядаў Лаўрык з Марынаю Маскву; вадзіў яе і ў Траццякоўскую галерэю, бачыў і сам для сябе шмат новага. Заняткі павінны былі пачацца, здаецца, з 1 кастрычніка: да таго часу заставаўся яшчэ цэлы месяц, і Лаўрык зарабляў грошы. Сёлета ён павінен быў канчаць акадэмію, але не спадзяваўся кончыць, бо яшчэ зусім мала быў у акадэміі. І ўзноў пісаў Кузьме аб альманаху «Маладая Беларусь». Прасіў Кузьму напісаць што-небудзь у альманах аб жыцці ў Польшчы, хоць пад псеўданімам,— такое, «каб гэта быў крык аб паратунку або біў, як бізуном, па нервах, казаў аб страшэнных дзікунствах». Лаўрык знайшоў Марынцы пакой у будынку беларускага прадстаўніцтва на Малай Нікіцкай, 18, а сам жыў у студэнцкім абшчажыцці, за Пятроўска-Разумоўскай акадэміяй, у Выселках. 31 жніўня, у чацвер, Лаўрык прыязджаў да Марынкі, не знайшоў яе дома і пакінуў запіску: «Марыля! Быў у цябе, але ты толькі што выйшла. Сяння з гвалтам атрымаў ад ВЦСПС камандзіроўку ў заатэхнічны. Ездзіў туды і падаў ад цябе заяву. Прымуць без экзамену. Толькі будзе калёквіум па палітычнай пісьменнасці,— здаецца, у чацвер, на тым тыдні. Ты да гэтага часу распытайся ў Станкевічавае жонкі пра кніжкі: 1) Азбука коммунизма, 2) Конституция РСФСР і 3) што-небудзь аб матэрыялізме. Прачытай. Я ў цябе буду ў суботу, а калі не, дык у аўторак. [Далей напісаў, а потым закасаваў: «Але ты ў суботу прыедзь начаваць да Паліны, а з ёю ў нядзелю паедзеш у Крэмль»]. Буду ў цябе ў суботу, каля 8 гадзіны ўвечары: не едзь нікуды. Тады пагамонім. Лаўрык.

P. S. Справы добры».

[...]

28 жніўня прыехала ў Маскву і спынілася ў свае цёткі, у будынку беларускага прадстаўніцтва, на Малай Нікіцкай, 18, вясёлая і жыццярадасная студэнтка-медычка Шура Багданава. Потым Шура бывала ў гэтым доме амаль не кожны дзень. У першых днёх верасня Шура даведалася, што ў пакоі побач з пакоем яе цёткі пасялілася дзяўчынка, якая пераводзіцца з сельскагаспадарчага інстытута ў Нізінках у Пятроўска-Разумоўскую акадэмію. На

трэці дзень пасля таго як дзяўчынка стала жыць там, яны спаткаліся ў кухні. Шура прыйшла па каструльку, а яна нешта гатовіла на пліце. Ведаючы, як цяжка бывае ў чужым горадзе, [...] Шура захацела падысці да яе і пазнаёміцца. [...] Шура прывіталася з ёю і загаманіла. Марына расказала аб сваім пераводзе, аб тым, што ёй не хапае экзамена па хіміі, каб паступіць у Пятроўку, і яна паступае ў заатэхнічны, дзе прыйдзецца толькі трымаць экзамен па грамадазнаўству. Казала, што прыехала яна з Беларусі, маці страшэнна не пускала, але брат Лаўрык настоіў. Брат, казала яна, наогул карыстаецца папулярнасцю, яго ўсе студэнты дужа любяць, таму і ёй з ім добра...— «Шчаслівыя сёстры, якія маюць любячых братоў»,— сказала Шура. З гэтымі словамі яна выйшла з Марынаю з кухні. Калі дайшлі да яе, Марынінага, пакою, Марына прасіла Шуру захадзіць да яе, але Шура спяшалася ва універсітэт, дык абяцала ёй прыйсці ўвечары.

Калі ўвечары Шура ўвайшла ў яе пакой, Марына сядзела за сталом і пісала пісьмо. У пакоі стаяў ложак, стол ля акна, тумбачка ля ложка, кошык і два стулы. Вось і ўсё небагатае абсталяванне. Пакой даволі цёмны і вільготны, але для аднаго чалавека вялікі. У сутарэнні наогул не бывае добрых пакояў. Але Шура прызвычаілася ў Маскве да такіх пакояў: яны ўжо моцнага і агіднага ўражання на яе не рабілі. На Марыну ж, вядома, пакой гэты зрабіў сваё ўражанне. Яна не жалілася, што пакой дрэнны і ёй не падабаецца, але гэта можна было зразумець з яе слоў, што ёй больш падабаўся той пакой, дзе змесціў брат. У шэранькай сукеначцы, з распушчанымі кароткімі валасамі, зачасанымі назад, сядзела яна за сталом, асветленая электрычнаю лямпачкаю і ўся вакол закладзеная кнігамі. Пачуўшы Шурыны крокі, яна ўстала з-за стала і сказала: «Як я рада, што вы прыйшлі». Загаманілі аб кнігах: Шура была здзіўлена, што іх у Марыны так многа, і былі тут кнігі навуковыя, сур'ёзныя. А Шура цэлы год жыла ў Маскве і ніяк не магла дастаць аднэй кнігі Мечнікава — «Этюды о природе». Марына сказала, што гэта ёй далі студэнты з Пятроўскае акадэміі, а часць кніг у брата ўзяла. Быў тут і Джэк Лондан. Марына сказала, што яна шмат чытала з яго твораў і хваліла іх. Была ў Марыны і газета. Шура спыталася: «Адкуль у вас газета? Вы купляеце?» — «Учора купіла». Шура сказала: «Вы яксьці здолелі ўліцца ў сферу студэнцтва і знайшлі ў ёй сяброў,

якія і на словах і на справе дапамагаюць вам. Калі я бачу такія адносіны да людзей, мне хочацца і жыць, і тварыць, і любіць, і не толькі гэта, але жыццё аддаць за іх... Але, Марына, такіх дыяментаў не шмат засеяна. Праўда? Як вы думаеце?» — «Людзей я мала ведаю. Ведаю толькі, што люблю свой край і свой народ, з якім буду працаваць потым, як скончу Пятроўку». Потым яна казала аб сваёй дружбе з сялянскімі дзяўчатамі, аб тым, як мірыла дзяўчат з хлопцамі... (На твары ў яе з'явілася ўсмешка, а потым яна голасна засмяялася.) Казала, што на вечарынках яна ніколі не скакала, а заўсёды займала наглядальнае месца. Разышліся яны каля 12 гадзіны, пажадаўшы адна адной спакойнай ночы.

На другі дзень, увечары, каля 7 г., Шура ізноў зайшла да яе з словамі: «Ну, як справы?» — «Нічога». [...] Аб сваіх справах яна казала, што кнігі па грамадазнаўству ўсе дастала, дні чэраз чатыры пойдзе трымаць. Казала, што сяння ў Пятроўцы яна каталася на чоўне з адным студэнтам, а калі варочаліся ў Маскву, ён ёй падарыў на памяць пярсцёначак. І яна ўзяла са стала і паказала Шуры пярсцёнак, сплецены з саломінкі даволі тонка і прыгожа. І тут Шура і Марына пажартавалі і пасмяяліся, што, відаць, не адзін раз плёў і дарыў.— «А вось гэты ўжо залаты»,— сказала Марына і паказала пярсцёнак, што дала ёй маці, а маці купілі, калі яна за бацьку замуж ішла. Марына паказала фатаграфію сваіх бацькоў і сказала: «Бацька сярдзіты ў нас, але ненадоўга, а маці мяне любіла, заўсёды за мяне заступалася». Яна расказала смешны выпадак. Маленькі сабачка вяхаў на яе, а яна праганяла яго ад ганку. Бацька казаў не чапаць. Яна абліла сабачку вадою і піхнула нагою. Бацька за ёю з пугаю. Яна ўцякаць у сад. Маці за бацькам ратаваць. Браты недалёка зграбалі сена, убачылі, што бегаюць, і не зразумеўшы, у чым справа, схапіліся бегчы за маткаю. Малюнак быў, што хоць памры ад смеху... І бацька засмяяўся! Такім чынам, яна ўратавалася ад яго біцця. Шура пачала пытацца пра сенакос. Марына расказала, успамінаючы, як грабла яна сена з братам Лаўрыкам, як вясёла было і лёгка... Апавядаючы, яна паказвала фатаграфіі і паказала сваю апошнюю. Шура сказала: «Мне вы не падабаецеся на гэтай картачцы: дужа салідны і выглядаеце значна старэйшаю, чым ёсць запраўды». Яна звонка засмяялася: «Вось і добра. У жыцці такою саліднаю ніколі не буду, дык мне яна дужа падабаецца: як быццам я і не я, а нейкая Марына

іншая». Потым паглядзелі карткі братоў, і Марына апавядала пра кожнага брата. Брата Кузьму, казала яна, палякі страшэнна не любяць, але ён, нягледзячы на гэта, горача абараняе правы беларусаў; ён жаніўся з дужа добраю дзяўчынаю, і хоць яны з Марынаю ведаюць адна пра адну толькі са слоў Кузьмы, але пасябравалі ў лістох, як быццам родныя сёстры. Разгледзеўшы ўсе фатаграфіі, дзяўчаты пайшлі ў кухню грэцца каля самавара. Часу было каля 10 г. вечара. У кухні былі кур'ер і Хіма-прыслуга. Увайшлі Шура і Марына, пеючы: «Реве тай стогне Дніпр широкий...» Ім падцягнулі казліным голасам, і ўсе вясёла засмяяліся. Кур'ер запрашаў іх піць гарбату. Марына пажартавала, што яны вып'юць увесь самавар, усю гарбату, і ён сам не будзе рад, што запрасіў. Хіма толькі ківала галавою і казала: «Вось яна маладосць-то: ці радасць, ці гора — усё смяецца».

Уранні Шура і Марынка ўсталі абедзве рана. Марына мыла падлогу ў сваім пакоі, а Шура прыбірала цётчын пакой. Потым Шура зайшла да Марыны. Марына стаяла каля ложка і разбірала матэрыі. Яна хацела шыць сукенку з шарсцянкі і папрасіла Шуру дапамагчы ёй пакраіць і сшыць такім самым фасонам, як Шурына чырвоненькая сшыта. Цяпер яна ўзялася за пераробку свае шэранькае сукенкі. Шура прынесла ёй чырвоненькую сукенку. Яна ўзялася шыць, а Шура пайшла ва універсітэт. З гэтага дня яны пастанавілі зваць адна адну на «ты».

На другі дзень была нядзеля (10/IX?). Аб 11-й гадзіне раніцы Марына зайшла да Шуры ў пакой і запрапанавала пайсці ў Крэмль, бо ў гэты дзень ішлі туды студэнты з Пятроўкі. Шура згодзілася. Марына ўзялася прасаваць сукенку, а Шура тым часам пісала пісьмо. Гадзіне а 12-й яны выйшлі. Марына была ў беленькай сукенцы з чырвоным кушачком, у белых панчохах і туфлях, на плечы накінута была чырвоная хустачка, ішла з непакрытаю галавою. Дзень быў цёплы, сонечны, было нават горача, і яны пастанавілі куртачак не напранаць. Дарогаю, па просьбе Шуры, Марына коратка расказала ёй змест кнігі «Любовь в природе» Бельшэ, якую Марына бачыла ў яе на стале. Калі яны ішлі Аляксандраўскім садам, ім на спатканне ішлі студэнты ўжо з Крамля. І ў Крэмль яны не прайшлі, таму што трэба было абавязкова знаходзіцца ў якім-небудзь спісе. Вярнуліся нездаволеныя дамоў. Увечары яны не бачыліся.

Марыцы скончылася 20 гадоў.

У панядзелак увечары (11/IX) ізноў спаткаліся на кухні. Марына запрасіла Шуру паехаць у сераду ў Пятроўку пакатацца на чаўне. Дагаварыліся паехаць у суботу.— «Дык я скажу хлопцам аб гэтым»,— сказала вясёлая і здаволеная Марына. Потым яна расказала, што сяння трымала экзамены па грамадазнаўству. Спярша яе не хацелі дапусціць. Не разумелі, як яна, прыехаўшы з правінцыі, атрымала камандзіроўку, колькі раз званілі па тэлефону, пыталіся ў некага. Нарэшце дапусцілі. Экзаменаваў якісьці хлапчук. Даў тры пытанні, яна адказала. Пытаўся, якія кнігі яна чытала. Заўважыў: «Ого, усё буржуазныя кнігі чыталі». Пытаўся, ці чытала «Капітал» Карла Маркса. Яна сказала, што чытала. Не даваў веры і сказаў: «У нас студэнты так робяць: троху прачытаюць, а рэшту кідаюць». Потым пачалі яе палохаць, што яна не атрымае стыпендыі.— «А я пачала іх злаваць сваім упэўненым голасам, казала, што атрымаю. Яны тарэшчылі вочы і пыталіся, чаму я так упэўнена кажу... Такія-то вось справы... [...] І яны расходзіліся па пакоях, а потым Шура ізноў да яе заходзіла, Марына пачынала ізноў апавядаць аб чым-небудзь.

Апошнія дні Марына была дужа цяжка засмучоная. Яна бачыла дзіўны і страшны сон. Заснула перад усходам сонца і бачыць... Ідзе яна разам з Лаўрыкам у нейкую царкву. А там стаяць труны, поўная царква. І ў трунах ляжыць уся іхная сям'я: бацька, маці, браты, дзеці... А дзве труны пустых стаіць. Узнімаецца з труны старэйшы брат і кажа: «Во, Марынка, пустыя труны: табе і Лаўрыку... Кладзіся». Перапалохалася яна і закрычала: «Ляжы, калі ляжыш, а я йшчэ жыць хачу». Прачнулася. Электрычнасць запаліла. Ізноў заснула. І ўзноў, тры разы ўзапар, усё той самы сон... Усё гэта адбілася на чулай яе псіхіцы, моц інстынктыўнага самазахавання ў ёй аслабла. [...]

[15 верасня]

Каля 4 гадзіны Шура вярнулася з універсітэту і на кожным кроку чула ад Хімы і ад цёці: «Дзе ж наша новая дзяўчынка? Пайшла і не йдзе... Ці не здарылася ўжо з ёю што ці з братам?» Вохание і ахание было ў кухні. Калі ж прынеслі запіску з Яузскае бальніцы,— усе селі ад перапуду і доўга глядзелі ў неразуменні адзін на аднаго. Ніхто не верыў. Першая загаманіла Хіма: «Аляксандра Грыгораўна! (Так звала яна Шурыну цётку.) Сон-то,

а? Глядзі-ка, спраўдзіў... Падумайце, яна гэтага баялася дужа, і вось чаму быць-то...» У запісцы пісалася: «Яузская больница, хирургический отдел, палата № 58, Батура. Налево, 3 этаж, № 16, около Яузского моста. 5—7 вечера». А з другога боку на запісцы быў адрас: «Белорусское представительство, Малая Никитская, 18, Станкевич». На словах было пераказана, каб прынеслі шалік і падушку. Тут жа, не марудзячы, Шура і камендантава жонка накіраваліся ў больніцу.

Калі Шура ехала ў трамваі, ёй здавалася, што яна ўбачыць Марыну такою, якою Марына пайшла ад яе: з усмешкаю на твары [...]. Шуры здавалася, што таго, што здарылася, не можа быць, ёй не верылася... Калі падымаліся па лесвіцы, было ў Шуры страшнае пачуццё, перапуд і хваляванне. Чаму яна хвалявалася так, быццам яна ішла на пабачанне з каханым чалавекам. Але вось і 58 палата... Марынін ложак стаяў ля дзвярэй, яна ляжала на спіне, вочы вялікія і ўваліліся, былі адкрыты. У іх быў перапуд і цярпенне. Твар адразу асунуўся пасля мучэнняў і быў бледна-жоўты. Голас слабы і ціхі. Была рада, што яны прыйшлі. Яны доўга маўчалі, яна першая пачала казаць аб тым, як здарылася ўсё.

— Села я на 16 і паехала. [...] Якім чынам я праехала астаноўку, не помню, але мне нехта сказаў, што мне трэба было схадзіць, і вось я, хапаючыся, калі трамвай павінен быў крануцца, пачала схадзіць, пакункі былі ў мяне ў руках... Я не змагла ўтрымацца, а к таму ж мяне нехта таўхануў, народу было многа, усе хапаліся схадзіць, я завалілася, людзі схадзілі і наступалі на мяне, у гэты час трамвай скрануўся, і мае ногі папалі... Я хацела была павярнуцца і выслабаніць ногі, але тут яшчэ нешта стукнула, і тады я пачула, што не магу нагою шавяльнуць... Тут закрычалі... І вось я ў бальніцы...

Прытомнасці пры гэтым яна не страціла. Пад'ехаў аўтамабіль, паклалі і павязлі ў Яузскую бальніцу.

Далей яна казала:

— У мяне, здаецца, пералом косці левае нагі, а на правай скрабіны вялікія, нага забінтована ў лубок. Нага яшчэ не так баліць, як вось тут,— і яна паказала на жывот.— Калі я пачынаю дыхаць ці смяяцца, дык мне страшэнна баліць, я чую, як у мяне там косці ламаюцца. Напэўна, мяне тут пераехаў трамвай.

Яны яе супакойвалі тым, што трамвай пераехаць ёй

па гэтаму месцу не мог, а калі было б так, тады яна памёрла б.

— Але чаму ж такі мучаючы боль, лепей зараз памерці б, дайце мне чаго-небудзь хутчэй...

Прыйшла сястра мераць тэмпературу.

— Ці скора ж доктар прыйдзе, скажыце, ці можна мне есці зараз?

І ўсё яна знасіла цярпліва. Сказалі, што доктар будзе толькі а 10-й гадзіне ўвечары, тады можна будзе што-небудзь і з'есці, а боль у жываце ад таго, што яе моцна пацiснула трамваем. Яна супакоілася. Яны сядзелі да 8-е гадзіны. Апошняя яе просьба была да іх:

— Там ляжыць у мяне намочаная бялізна, вы штонебудзь з ёю зрабіце.

Яна ўспаміпала аб доме, аб маці, братох... Як быццам хацела, каб хто-небудзь прыехаў свой, і разам з тым не хацела рабіць ім боль. Яны дакляравалі ёй зрабіць так, што свой ніхто не даведаецца аб яе хваробе. Пайшлі. Яна адна асталася ў палаце начаваць.

На другі дзень, 16 верасня, у суботу, каля 12-й гадзіны дня, Марыну даведаліся Валя Хоўранка і Мар'я Андрэеўна Пуцята[1], студэнткі Пятроўскай акадэміі. Бацька Валі быў прафесарам у акадэміі, вельмі добра адносіўся к Лаўрыку. Валя і Лаўрык дружылі. Мар'я Андрэеўна — родам з Антонаўкі, што недалёка ад Камароўкі, за Цотавым, па дарозе ў Горад. Яна шукала Марыну, [...] але не магла знайсці яе адрасу. І ў дзень няшчасця з Марынкаю чуе ад Валі, што сястра Батуры трапіла пад трамвай і ляжыць у больніцы. На другі дзень, 16/IX, паехалі ў больніцу. Мар'я Андрэеўна ніколі раней не спатыкалася з Марынаю і таму папрасіла Валю ўвайсці ў палату першай. Увайшлі, і Валя прывіталася з чорнавалосаю, з вялікімі бліскучымі вачмі, дзяўчынаю, назваўшы яе Марыняю. Потым падышла Мар'я Андрэеўна і назвала сябе: «Ваша блізкая суседка Пуцята». Хворая працягнула ёй руку і сказала: «А, Пуцята, я чула пра вас». Пачалася гутарка. Марына спыталася, ці даўно Мар'я Андрэеўна прыехала і што новага чутна ў іх краёх. Мар'я Андрэеўна адказала, што навін ніякіх не ведае, і расказала пра сваю

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «На другі~Пуцята, ...» — аўтарская паметка: «16/IX, субота».

працу ў часе летніх канікулаў. Марына нагадала, што яе знаёмілі з Мар'яю Андрэеўнаю на Міколу ў Цотаве. Але гэта была з яе боку памылка.— «Можа, з маёю сястрою,— сказала Мар'я Андрэеўна,— бо я ў той час дома не была». Марына згодзілася, што можа быць так. Потым Мар'я Андрэеўна спыталася, дзе Марына вучылася раней і як экзаменавалася, паступаючы ў заатэхнічны інстытут. Марына падрабязна пераказала, як яе экзаменавалі і якія пытанні давалі. Казала, што ў яе спыталіся, ці чытала яна «Капітал», і папрасілі сказаць пункт погляду марксістаў на цэннасць. Яна сказала экзаменатару, што ён ухіляецца ад праграмы, але ў доказ таго, што яна чытала «Капітал», пачала адказваць на гэтае пытанне. Мар'я Андрэеўна выказала сваё здзіўленне і спыталася, няўжо яна прачытала ўвесь «Капітал». Марына адказала: «Чытаючы «Капітал», я шмат чаго не разумела, але прызвычаілася ўва ўсім ісці Лаўрыкавым следам. Ён заўсёды кажа, што пачатую справу заўсёды трэба давадзіць да канца». Апавядала, як дапытваліся ў яе пра камандзіроўку, што атрымала ад Усеработземлеса, і як за яе адказы назвалі яе дзерзкаю. Мар'я Андрэеўна і Валя смяяліся, слухаючы яе: у такім выглядзе малявала яна свае там размовы.— «Ах, калі б мне не балеў жывот, я б хахатала з вамі і насмяшыла б вас яшчэ болей»,— сказала яна. Мар'я Андрэеўна пажалела, што з ёю здарылася такое няшчасце перад самым пачаткам заняткаў.— «Не жалейце мяне,— сказала Марына.— Я не люблю, калі мяне жалеюць. Мне хочацца паспытаць у жыцці ўсё, а то я шмат жыла, але мала перажыла. Я заўсёды цярпела ад недахопу яскравых адчуванняў і зайздросціла тым людзям, у якіх шмат усякіх перажыванняў». У гэты час Валю і Мар'ю Андрэеўну папярэдзілі, што прыймовы час скончыўся і павінен пачацца доктарскі абход. Яны спыталіся ў Марыны, ці не трэба ёй чаго прынесці. Яна папрасіла прынесці толькі чаго-небудзь салодкага да гарбаты. У Мар'і Андрэеўны быў мёд з дому, і яна паабяцала ў гэты ж дзень прывезці ёй. Пайшлі. Праз чатыры гадзіны Мар'я Андрэеўна была ізноў у больніцы і прывезла пакуначак усякіх смачных рэчаў. Хворая і не дакранулася да іх, як і да ўсяго, што ёй прынасілі яе клапатлівыя прыяцелькі. У гэты час Марына не магла гутарыць, бо ёй успрыснулі морфі і яна пачала засынаць. [...]

Пра няшчасце з Марынаю Лаўрык нічога не ведаў... [...] Ад каго першага пачуў страшную вестку?

Прыляцеў у больніцу. Пакой № 58. На ложку ляжыць бледная, з завостранымі рыскамі профілю, маладзенькая дзяўчына, з балюча-дзіцячым выглядам. Балючая радасць: «Лаўрык, братка мой...» Ах, як балюча ўрэзаліся яму гэтыя словы... Ці ёсць надзея? — былі яго першыя думкі. І ехаць трэба чэраз два дні, а тут — сястра... Галоўны доктар, другі доктар — хірург. Просіць Лаўрык. Бачыць шчырае спачуццё. Адзін кажа, што не зусім безнадзейна, а другі, галоўны, кажа: «Почти без надежды». Затрывожан пазваночнік, таз, баліць брушына. Нават калі паздаравее, будуць паралюшы... О, гора, гора! У гэты ж дзень трэба было рэнтгенаваць: няма пласцінак. Пабег Лаўрык купляць сам: нядзеля, усё зачынена... Можна дастаць толькі заўтра, раніцою, у панядзелак.

Жанчына, якая была з Марынкаю ў палаце, казала потым Шуры Багданавай, што Марынка начою трызніла, хоць тэмпература была нармальная. Яна крычала словы: «Мама, мамачка, мамуся, ты мяне не пазнала!.. Як я рада, што ты прыйшла... А Лаўрык..., а во і ён...»

У панядзелак, 18/IX, каля Марыны дзяжурыла Мар'я Андрэеўна Пуцята [1]. Марына спаткала яе тымі ж бліскучымі ад хваробы вачмі, але на твары была мука. Мар'я Андрэеўна села ля яе на стул. Першае Марыніна пытанне было: «Дзе Лаўрык?» І ўвесь час яна нервавалася і чакала Лаўрыка. Дужа клапацiла па ім. Прыйшоў Лаўрыкаў таварыш, студэнт родам з-пад Нізінак, Ждановіч. Калі Мар'я Андрэеўна выйшла да яго на некалькі хвілін у калідор, Марына заклапацiла па ёй... Мар'я Андрэеўна папрасіла няню дастаць для Марыны пасцельную бялізну і падушку, бо пад ёю ўсё было мокрае, і падушка. Самы моцны боль рабілі ёй заўсёды, калі перасцілалі пасцелю. І пры ўсёй яе цярплівасці і стрыманасці, бедная Марынка крычала... Скончылася адна мука,— пачалася другая: прыйшоў доктар і сёстры перавязваць параненую нагу. Але гэтую муку Марына знясла цярпліва, нават без крыку. Праз гадзіну ёй зрабілі ўліванне пад скуру рошчыны солі ў аб'ёме дзвюх шклянак. Марына з нецярплівасцю чакала Лаўрыка...

Нарэшце Лаўрык прыйшоў. Дастаў пласцінкі для рэнтгенізацыі. Ён пачаў суцяшаць Марынку... Казаў, што яна паправіцца, што [...] усё будзе добра... Дарэмны былі яго старанні: Марынка не верыла ніводнаму яго слову, ба-

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «У панядзелак~Пуцята».— аўтарская паметка: «18/IX, панядзелак».

чучы і адчуваючы, што яе толькі суцяшаюць. І ён мучыўся, калі не фізічна, дык маральна, не менш за хворую сястру. На твары ў яго адбіваўся ўвесь цяжар таго, што здарылася, што было непапраўным... Пайшоў брат...

Пасля сталовае лыжкі выпітага партвейну Марына троху падрамала. Твар у яе перамяніўся, на шчаках зрабіўся румянец. Адплюшчыўшы вочы, яна працягнула да Мар'і Андрэеўны рукі. Твар усміхаўся, вочы блішчалі.— «Дайце мне патрымаць вашу руку»,— папрасіла яна Мар'ю Андрэеўну і, узяўшы яе руку, пачала яе гладзіць.— «Бедны, бедны Лаўрык, як я пакрыўдзіла яго! Як бы мне хацелася ізноў убачыць яго! Ці прыйдзець ён сяння, Мар'я Андрэеўна?» — «Ён паехаў у Пятроўска-Разумоўскае і, мусіць, не паспее прыехаць яшчэ, бо гэта далёка, а ўвечары мужчын сюды дзяжурыць не пушчаюць»,— сказала Мар'я Андрэеўна. Марына заплюшчыла вочы і ляжала так хвілін пяць. Мар'я Андрэеўна сядзела ля ложка і чытала. Марына ізноў паглядзела і спыталася: «Ці чулі вы, як я пела?» Мар'я Андрэеўна адмоўна паківала галавою і ўсміхнулася. Марына таксама ўсміхнулася, даволі вясёла, і сказала: «Мне дужа лёгка». Потым папрасіла: «Памажыце мне падняцца», ухапілася аднэю рукою за руку Мар'і Андрэеўны, а другою за ложак і прыцягнула яе да сябе. Мар'я Андрэеўна нахінулася над ёю. Марынка абедзвюма рукамі абхапіла яе за шыю і пачала яшчэ спрабаваць падняцца... Безнадзейнае: «Не, відаць,— не падняцца»...— сарвалася ў яе з вуснаў. Яна яшчэ папрасіла партвейну. Мар'я Андрэеўна не дала, назваўшы яе жартам п'яніцаю, а пасуліла ўзамен журавінага морсу і маленькі кавалачак яблыка. Далей увесь час, чэраз кожныя дзве хвіліны, улівала ёй у рот па дзве лыжачкі вады. Яе пачало млявіць, і пачаўся боль усярэдзіне... Успырснулі морфі. Боль пачаў сцішацца. Заснула... Ува сне яна бачыла шмат смачных яблыкаў, якія ёй хацелася з'есці. Ізноў адкрыла вочы. Паляжала так. Спыталася: «Ці не ўсё роўна: пазней ці раней?..» Мар'я Андрэеўна не згодзілася. Марына ўздыхнула з глыбокім жалем. У Мар'і Андрэеўны навярнуліся слёзы, ёй хацелася скрыць іх ад Марыны, хацелася сказаць: «Ты будзеш жыць!» — але язык не павярнуўся... А Марына ўсё глядзела на яе і аб нечым думала. Мар'я Андрэеўна стала лашчыць яе. Марыне было прыемна, і яна моцна трымала Мар'ю Андрэеўну за руку. Такая бязмоўная пяшчотная гутарка трывала ў іх некалькі хвілін. І ўзноў пачалася млоснасць. Чэраз кожныя дзве

хвіліны трэба было ўліваць ёй у рот па дзве лыжачкі вады. Прыйшла дзяжурная сястра, дала Мар'і Андрэеўне градуснік змераць у хворай тэмпературу. Тэмпература падвышалася. Уранні была 36,4. Увечары — 37,8. Пульс незвычайна шыбкі: 180 удараў у хвіліну — і такі ад самае раніцы. Млявіць не пераставала. Мар'я Андрэеўна спыталася ў доктара, ці не трэба паставіць клізму. Дакляраваў. Было ўжо каля 7 г. вечара, і прыйшла Валя, змяніць дзяжурства. Мар'я Андрэеўна сабралася ісці.

Зараз услед за Валяю прыйшла Шура Багданава і Лаўрыкаў таварыш, студэнт Ярашчук. Яны сядзелі каля пасцелі ў Марыны. Марына ляжала ціха. Увесь час была ў прытомнасці. Чула сябе дужа дрэнна. Але не стагнала. Яе дужа млявіла, у горле рабілася сударга, як быццам яна штосьці праглынуць не магла. Нічога не хацела, апрача вады. Піць прасіла ўвесь час, і яны давалі то вады, то морсу. Шура прынясла круг. Пастанавілі пакласці яго пазней, перасцілаючы пасцелю. Гаманілі паціхеньку між сабою. Раіліся, як узяць запіску, каб дазволілі астацца пры ёй на ноч. Марынка клапаціла, дзе Лаўрык і калі прыйдзе. Яна казала Шуры, як пакрыўдзіла Лаўрыка і цяпер вельмі шкадуе аб гэтым, але яна папросіць у яго прабачэння, і ён даруе ёй... Яна хацела, каб яе рука была ў Шурынай руцэ. Шура доўга так сядзела, і яны глядзелі адна на адну. Шуры здавалася, што Марына прымірылася з сваім становішчам. Твар усміхаўся, у вачох была нейкая загадачная радасць. Хацела, каб Шура прыйшла пасядзець начою каля яе, казала, што яна, дасць бог, паправіцца і будзе хадзіць... Калі Шура выхадзіла, апошняе яе слова было: «Пры-ха-дзі...» — «Прыйду»,— адказала Шура. Ярашчук пайшоў па запіску. Змерылі тэмпературу. Было 37,8. Ярашчук доктара не заспеў: той пайшоў на абход. Неўзабаве Ярашчук пайшоў. Марына ляжала ціха. Часам пачынала стагнаць. Прасіла, каб хутчэй падклалі круг. Трэба было дачакацца, калі аслабаніцца няня. Забываючыся троху, Марынка пачынала трызніць, казала асобныя адрывачныя словы. У гэты час Валя хадзіла шукаць доктара. Узяла ў яго запіску. На пытанне аб стане хворай, ён сказаў, што надзеі блізу няма... Каля 9 гадзіны прыйшлі дзве няні, сястра. Пачалі мяняць посцілку, падкладаць круг і падушку. Гэта былі для Марыны страшэнныя мукі. Адразу ўсё зрабіць не ўдалося і прыйшлося тры разы прыўзнімаць яе. Яна страшэнна стагнала і крычала. Прасіла пачакаць, даць ёй адпачыць троху. Нарэшце ўсё

было скончана. Сястра абяцала праз гадзіну прыйсці ўспрыснуць морфі. Марынка ўпала ізноў у забыццё, увесь час стагнала, трызніла адрывістымі, невыразнымі словамі, рабіла страшныя грымасы ад болю. Млоснасці, відаць, не было, але горла і далей сціскала. Увесь час прасіла піць. Пульс у гэты час быў 136 удараў у хвіліну. А 10 г. 20 хв. прыйшла сястра, успырснула морфі. Пасля морфію боль блізу не зменшыўся, на Валіна пытанне: «Марыня, дзе баліць?» — яна адказвала, што ўсюды ўнутры баліць, казала, што немагчыма ўявіць, як дрэнна яна сябе чуе...

Пасля ўспырсківання морфію пульс пачаў трохі сціхаць, дайшоў да 98 удараў. Дыханне было спярша 27. Для параўнання Валя злічыла сваё, было 17 [1]. Дыхала Марынка часта, каротка і адрывіста, выразна было чуваць у цішыні. Потым дыханне таксама рабілася троху спакайнейшым: 24 у хвіліну, 23, 22, потым ізноў 24 і доўга трымалася на 24. Потым ізноў зрабілася часцейшым. Хвілін па 15—20 Марынка ляжала ціха, цяжка дыхаючы, пачынала стагнаць, адплюсківала вочы, спрабавала шавяліцца, перамяніць палажэнне, пачынала гаварыць. У пачатку ночы, прачнуўшыся зусім, была ўвесь час у яснай прытомнасці і трызніла толькі ў забыцці. У прытомнасці яна казала: «Памру я... Так і ведайце, што я прапала...» Увесь час думала аб даследаванні, якое павінна было быць заўтра. Проста паўтарала словы: «Даследаванне... заўтра даследаванне...» Адзін раз сказала: «Заўтра банкроцтва будзе...» Часамі стагнала і крычала так дужа, што прачыналіся іншыя хворыя і падыходзілі з рознымі радамі. Бабулі шкадавалі, маліліся за яе богу, раілі гукнуць папа. Часта захадзіла сястра. Кожныя тры гадзіны ўспырсківалі камфару і два разы за ноч морфі. Калі падхадзіла няня і сястра і Марынка бачыла каля свае пасцелі многа людзей, яна казала: «Што ж рабіць? Скажыце, што мне рабіць?» Часта казала: «Трэба ж устаць, я зараз буду ўставаць». Тады Валя нахінalася над ёю, Марынка абхоплівала яе шыю рукамі і рабіла папытку прыўзняцца, але зараз жа, аслабелая, апускалася ізноў на падушкі, не ўзняўшыся ані трошку, і казала: «Не, не магу, не ўстаць мне, а трэба ўставаць». Выпраствала рукі і, схапіўшыся імі за спінку

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Пасля ~ 17».— аўтарская паметка: «Ноч 18—19 верасня».

ложка, падцягвалася. Трымалася за Валіну руку, Валя цягнула яе да сябе, а яна да сябе, і так спрабавала цягнуцца. Рука яе была яшчэ моцная. Спрабавала перамяшчацца на ложку. Галаву ўвесь час адкідвала то ў той бок, то ў той, нарэшце збілася на адзін край ложка. Лоб быў макраваты, сцюдзёны. Вочы, калі глядзела,— светлыя, вялікія, бліскучыя ад хваробы і ўзбуджаныя, як быццам радасныя. Увесь час дыхала цяжка і як быццам лавіла паветра. Забываючыся, казала: «Досыць, досыць... Я не магу больш, не нада больш, досыць...» «Дайце піць, больш вады, больш...» Спярша яна піла ваду, а ў другую палову ночы толькі прасіла, а калі Валя паднасіла да яе вуснаў лыжачку з вадою, яна вады не брала. Бой гадзінніка і ўсе іншыя гукі дужа турбавалі яе. На кожны гук яна зараз жа адгукалася стогнамі. Уставаць збіралася блізу штохвіліны. Тры разы, калі Валя нахіналася над ёю, абшчэплівала Валю за шыю рукамі і моцна-моцна цалавала... Адзін раз паклікала: «Валя, я хачу бачыць цябе, скарэй, скарэй, як можна скарэй...» Валя нахінулася над ёю. Яна глядзела доўга-доўга на яе, потым ізноў адкінулася на падушку. Казала: «Глядзі мне ў вочы, Валя». У забыцці пераставала пазнаваць, называла Валю няняю. Потым пачала называць яе мамаю, казала: «Мама, дай мне піць». Чатыры разы ў працягу начы гукала бацьку. Адзін раз сказала: «Лаўрыка мне скарэй». Часта паўтарала: «Вот табе й на!» Стагнала: «Ай-яй-яй-яй! Ай-яй-яй-яй!» Стагнала з рознымі інтанацыямі, то голасна, то бяспомачна, жалкім, як у дзіцяці, голасам, і ўсё казала: «Вот табе й на! Вот табе й на!.. Вот табе, бабушка, і Юр'еў дзень!.. Не адно, дык другое, не трэцяе, дык чацвёртае...» І ўзноў: «Досыць, досыць, я больш не магу». Раз назвала нечае імя (Валя не разабрала, таму што яна прамовіла яго вельмі невыразна): «...любіць мяне ці не, шут его знает»...— першую часць фразы задумліва, як быццам пытаючыся, а канец з дражлівасцю. Казала: «Усё ні к чорту не гадзіцца...— Не дай бог нікому такога палажэння...» Потым: «Одэн... не, Ідэн... Мартын Ідэн...» Часта паўтарала асобныя словы, што няможна было іх разабраць.— «Цыцэрон... общество... социализм...» і часта: «Даследаванне... Трэба ж уставаць». Адплюснула вочы, паманіла Валю, пытаецца... Валя пачула: «Німаша друга ў цябе?» Валя не адразу зразумела і перапыталася. Яна паўтарыла: «Німаша друга ў цябе?» — «Якога друга?» — Адкінулася ізноў на падушку, вочы закрыліся, і яна змарана-

дражліва сказала: «Ды добрага знаёмага»,— і ўзноў забылася. Адзін раз ёй зрабілася лягчэй, сястра ў гэты час была ля ложка і спыталася, як яна сябе чуе.— «Добра, цяпер зусім добра... Я ўжо здарова... Заўтра буду ў парку гуляць...» Найгорш яна чула сябе між 2 і 4 гадзінамі. Каля 4-е гадзіны кідалася страшна, не магла знайсці ніякага палажэння, пульс быў 144. Пасля сціхла, прадрамала да 6-е. Прачнуўшыся, сказала: «Ізноў усё па-даўнейшаму...» і больш ужо не казала нічога. Стагнала цішэй. З 7-е гадзіны страціла прытомнасць. Вочы глядзелі, але не рэагавалі, пульс ранейшы, тэмпература 38,3. Змоўкла Марынка... Стогнаў больш не было, толькі дыхала яна таксама цяжка, сударжна схопліваючы паветра...

Нанач з панядзелка на аўторак Лаўрыка ў больніцу не пусцілі [1]. Прыйшоў у аўторак, 19 верасня, зранку. Яна ляжала ціха, як падстрэленае птушанё, бледная, суровая, цвёрдая... Глытала паветра. Вочы яркія-яркія, у сябе і па бакох, незалежна адно ад другога, глядзяць, бегаюць... Во застанавіліся, глядзяць на Лаўрыка секунду, не апазналі, ізноў пабеглі ў розныя бакі... А палове 12-е прыйшоў доктар, сказаў, што надзеі ўжо няма ніякае. Дыханне пачало слабець, сціхаць. Пульс змяншаецца, ужо 26... Цішыня, больш адрывістыя глыткі: х-х, х-х, х-х... Яшчэ раз, яшчэ раз [2]. Вочы становяцца на адным пункце... Ціхесенькі глыток. Нешта ціхутка захрыпела ў грудзёх, ціхусенька — і ўсё...

Сэрца спынілася... Сашчапілі рукі схудзелыя, заплюшчылі вочкі — навек, назаўсёды... Скончыліся мукі і пакуты.

А бедны Лаўрык! Што ён думаў, што ён перажываў, прыбіты, прыціснуты горам... «Была сястра, была вясёлая, бадзёрая, цвёрдая, разумная Марыня,— і яе ўжо няма. Гдзе ж душа яе, гдзе думы? Што гэта,— усё? Усё? Сплюшчаныя вочы. Узнагарода за ўсё цяжкое жыццё... Каін Лаўрык, Каін: дзеля цябе прынесена найдаражэйшая ахвяра... Дзеля чаго, што, куды, дзе мы, хто мы? Мэты, ідэі, нірвана, небыццё, зямное пекла... Хто вінен? Выпадак... Нашто, нашто?» — папаўзлі чорныя вужакі-думкі.

Пабег, каб дастаць дазвол на перавоз цела на бацькаўшчыну. Не даюць. Няможна. Сумуйце, саламяныя стрэхі:

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Нанач...~пусцілі». — аўтарская паметка: «19/IX, аўторак».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Яшчэ~раз».— аўтарская паметка: «12 г. 3 хв.».

бы страцілі пазаўсёды яшчэ адну дачушку... Вырашылі хаваць у Маскве. Гукаць з двара тэлеграмай каго-небудзь позна.— «Пахаваю сам».

20/IX, у сераду, трэба было Лаўрыку выязджаць. Адтэрмінавалі. Ці прост нікуды не пайшоў? [1] Ці не ўсё роўна цяпер: Марыні няма... Ляжыць Марыня ў мярцвецкай пры больніцы. Маўчыць: хто будзе хаваць, дзе будуць хаваць, як будуць хаваць... Ноч там ляжала, яшчэ будзе ноч ляжаць...

Студэнты-землякі, як браты. Заказалі труну, магілку-яму выкапалі ў Галовінскім манастыры, што за акадэміяй [2]. Яма — ля самае царквы, на відным месцы. Паехалі ў горад па труну і цела. Сабраліся чакаць у акадэміі. Хмуры, хмуры быў дзень. Жоўта-павучынныя дні мінулі. Неба заплакала. Ляцелі жураўы. Сум, і жудасць, і безнадзейнасць. Груд хлапцоў і дзяўчат, чалавек 20. Вянок, краскі, труна... Як у тумане, як у ночы, як [у] нерэальнасці... Вось новая аграда манастырская. Якраз свята: малая прачыстая (8 верасня па стараму стылю, 21 верасня па новаму). Звоняць. Сустракаюць манашкі. Прынеслі, паставілі труну з Марынкаю на краю ямы. Як нявеста, ляжыць Марынка — уся ў белым, і ў белым вяночку, белымі астрамі засыпаная. Прынятая мука застыла на твары. Маўчыць. З сабою гэты жаль панясе. Нікому нічога не кажа: нявестаю-сіроткаю ляжыць. А вось братка твой Лаўрык над табою стаіць, крукам плечы сагнуўшы, рукі сашчапіўшы. І Мар'я Андрэеўна, як маці, пазірае на зямлячку. І Валя тут, любіць цябе. Усе твае хлопцы, усе дзяўчаткі... Фатаграфуюць. Апошняе з табою, Марына, развітанне. Момант апошні: труну закрылі, дом твой вечны... Забілі. Гліна. Барабаняць камочкі. Слёзы, слёзы! Не рвіцеся на людзі... Запрацавалі грацоўкі, загудзела Марынкіна труна, няма чалавека, няма ідэй. Усё.

Усё... Лес жоўты, восень, смерць...

### Памяти М. Батуры

Так рано с жизнью молодой
Рассталась Ты...
Садовник режет, говорят,
Всё лучшие цветы.

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «20/IX,~пайшоў?» — аўтарская паметка: «20/IX, серада».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Студэнты~акадэміяй».— аўтарская паметка: «21/IX, чацвер».

Спи мирно, девушка-цветок!
Ты странною судьбой
Была заброшена в поток
Сумбурности людской.
...Зачем Тебя в недобрый час
Сберечь мы не смогли?!.
Не место, видно, среди нас
Цветам земли!..
Ушла от нас так рано Ты...
В расцвете дней своих!..
Спи мирно, девушка-цветок,
Да будет сон твой тих...

*Ф. Ховренко*

Вторник,
19 сентября 1922 г.
Петровско-Разумовское.

Як атручаныя ішлі Лаўрыку дні. Не мог напісаць Кузьме: паслаў толькі фатаграфічныя карткі ў пакеце. Не мог нічога рабіць. Шукаў у сумных творах Андрэева, Метэрлінка, Тэтмаера, Купрына забыцця і адгадкі. А апраўдання не знойдзеш... Напісаў удвору, карткі паслаў. Чакаў адказу... [...] Марынкі ўжо няма... Бедны Лаўрык! Хацелася яму забыцца, заснуць цяжка, доўга. Паліў і разбураў. Думаў: усё — падман, фальш, без мэты; няма смерці — людзі падманяюць сябе мэтамі, ідэямі і г. д.; людзі толькі чапляюцца за жыццё. Усе таварышы спрыялі, паказвалі свае раны. Але што цяпер Лаўрык? Ужо скалечаны чалавек, з пераважаннем логікі над інстынктам. А во што ў дварэ,— думаў ён,— дзе чыстыя душы змучаных маці, бацькі пачуюць усё? Мора слёз і гора. Незабыўнасць на ўсё жыццё.— «Но где-то есть душа одна: она до гроба помнить будет...» «Святые, искренние слёзы...» «А я Каін, Каін...» Жыццё возьме верх. Падман: «Страдание очищает, а время приносит забвение», гэты падман зробіцца праўдаю,— тым горш.

## Смерць цёткі Палуты

Лаўрык і Марынка паехалі ў Маскву каля 25-га жніўня [1]. А як яны паехалі, тыдні праз два, за дзень ці за два перад Іванам Галаварэзам, памёрла цётка іх Палута. [...] Лаўрык з Марынкаю не ведалі ў Маскве, што цётка

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Лаўрык~жніўня».— аўтарская паметка: «8/IX?»

памёрла. Марынка перажыла цётку дзён на дзесяць і памёрла, не ведаючы аб яе смерці. Марынка пражыла 20 гадоў і 8 дзён, а цётка Палута гады 73. Як Лаўрык і Марынка выязджалі, яна сама прыхадзіла з імі прашчацца. Ім аб гэтым не ў голаве, а яна прыйшла: «Можа, кажа, памру, дык прыйшла папрашчацца». А можна ўжо было пазнаць, што яна скора памрэць: сячэць бывала сечанку, дык возьме жменьку, ды ўсё па ёй, не мяшаючы, нічога, цюк ды цюк. Саўкіны жылі тады яшчэ супроць Стахванавых, на ніжнім гародзе. Новая хата стаяла на шырокай паласе, а яны яшчэ тут жылі, і ў старой хаце яна памёрла. Перад смерцю хацела гуркоў, сыраквашы. Ганна Стахваніха ёй давала. Алёна Саўчыха кажа Ганне: «Давай, калі будзеш за ёю прыбіраць». А ў Палуты было нестрыманне. Яны далі сваю місачку, каб Ганна многа ў сваю міску не наліла. А гурочкаў давала, калі яна яшчэ хадзіла. Пад павеццю і з'ела. І скавароднічка трошку. На Івана яна хацела, каб спавядацца. Яна хацела раней, але хто ж бы для яе стараўся ў будзённыя дні. Казала, што сніла сон: матку і цётку сваю Палуту Лісіцу, у белых світачках, і звалі яе: «Хадзі з намі». Дык казала, што ўжо памрэць, што гэта яны па яе прыхадзілі. Будзённыя дні былі. Жалі. Ішоўшы з поля, Ганна зайшла к ёй. На другі дзень у Саўкіных была малацьба. А малацілі, як і раней: да света, каб да рання змалаціць. Усталі і пайшлі: Саўка, Мікола, Гашка. І Алёна, здаецца, хадзіла, ды прыйшла кароў даіць. Аж прыходзіць к Стахванавым іхная Ганначка і кажа: «Нашы малоцяць, а баба кароў доіць. А я гукала-гукала цётку, а яна не адгукаецца. Хадзі ты, дзядзіна, к нам». Яна Ганну звала дзядзінай, а Палуту — цёткаю, хоць і Ганна была ёй бабаю і Палута бабаю. Ганна прыйшла. «Палута! Палута!» А яна ўжо і не жыва, толькі яшчэ цёпла. Не гамоніць ужо нічога. Свечку не давалі. Ганначка пабегла на гумно сваім казаць, а Ганна пайшла ўдвору сваім казаць і печ датапліваць. Стахван з Пракопам селі снедаць, а Ганна нацягала з мачулы вяхотку, і кавалак мыла ўзяла, і пайшла мыць нябожчыцу. Гукнула Мікіціху, яшчэ гукнулі Хадоссю Салдаціху, і Куліна Іваніха (Івана Трахімёнка) прыйшла. Пакуль сабраліся, дык яна ўжо зацвярдзілася. Дык нагрэлі многа вады, налілі ў начоўкі і яе паклалі, і тады гэтым мылам вымылі яе. Надзелі ёй паркалёвую сарочку, у яе была, і саматканую спадніцу з кабатам. Плацце ёй Тарас купіў на смерць, але яно загразнілася, дык не надзелі. Хустачку чорную

яна блюла, дык ёй завязалі. Панчохі надзелі Алёніны. Алёна сабе іх блюла на смерць, а ёй надзелі, бо ў яе не было. Панчохі гэтыя калюжанская паня зрабіла. Яна ўсім рабіла: зарабляла. Хвартук падпаразалі. Ганна прынясла сваю пасцілку, на лаўку паслалі — і паклалі нябожчыцу. Світку не надзелі, бо баб на той свет не напратуюць. Двор прыбралі, вуліцу вымелі. Труну ў Стахвана на дварэ рабілі.

Якраз у гэты дзень прыхадзіў Віктар Віктаравіч Нерад. Чаго ён уздумаў прыйсці, хто яго ведае. Як бы «ў госці» к Стахвану... Ён тады народным суддзёю ў Нізінках быў. Дык, можа, прыязджаў у былыя п'янаўскія лясы, у Чорную Пушчу, на паляванне: ён жа ў панскія часы не адзін раз там бываў. А можа, пацягнула паглядзець П'янава, адкуль маці яго родам была і пан Рындзін, дваюрадны брат яго, якога ён забіў. А блізка быўшы — і ў Камароўку зайшоў. Ганна вуліцу мяла, калі ён прыйшоў. Мяце, а ён на яе глядзіць.— «Нічога, як маладая,— кажа,— усё працуе...» Пахадзіў-пахадзіў, у сад схадзіў, у хаце пасядзеў. Паабедаць яму далі. Ён простымі пачастункамі ніколі не грэбаваў і заўсёды з людзьмі проста трымаўся, як роўны. Пабыў трошку і пайшоў. Калі хаўтуры, дык дзе тут за ім дужа ўхаджваць.

Калі і як даведаліся аб смерці Марынкі ў дварэ? Здаецца, спярша разнесліся чуткі, што з Лаўрыкам і з Марынкаю нядобра: можа, Мар'я Андрэеўна асцярожна пісала сваім у Антонаўку. І гэтыя чуткі ўжо падрыхтавалі бацькоў і Пракопа да страшнае весткі. Потым прыйшлі карткі — і жменька валасоў Марынкіных,— і паліліся матчыны слёзы... Брала лупу і глядзела-глядзела на дачушку ў труне, гаравала... Богу малілася. Як першы раз паміналі, не магла ісці, ногі не слухалі: ездзіла ў Харошае. Не дайшла б. З Гашкаю ездзіла. Раілася з папом.— «Зраблю магілку на сваім кладзішчы. Каса яе ў мяне ёсць, закапаю».— «Напрасна. Маліся». Цяжка сумаваў, многа слёз праліў добры брат, добры чалавек Пракоп. А бацька? — самы цвёрды з іх характарам, здаецца. Цвёрдыя носяць сваё гора ў сабе... Клапацілі аб Лаўрыку: як ён там адзін? Раман і ўся сям'я яго прыхадзілі, гаманілі, тужылі, успаміналі. Дзеткі да бабы падхадзілі: «Чаго

ты, баба, плачаш? Гэта ты цёцю Марынку глядзіш? Дай нам паглядзець...» Тужылі Саўкіны, плакала з Ганнаю Алёна па пляменніцы Марынцы: «Вечная ёй памяць...»

Прыйшла ў госці Аўгінка Мікітава, нешчаслівая замужка. Пачула — збялела, села на лаву, залілася горкімі слязамі, ціханька завыла: «Мая ж ты Марыначка!..» Па кім плакала Аўгінка? — і па Марынцы, і па сабе: нешчаслівыя абедзве...

Цэлае лета не атрымліваў Кузьма лістоў ад родных. Трывожыўся, думаў: мусіць, нешта ў іх там здарылася нядобрае, аб чым не хочуць пісаць. І лета мінула, і заняткі ў гімназіі пачаліся: няма лістоў. У палове верасня адкрывалі на пляцыку ля касцёлу Кацярыны помнік Манюшцы: перанеслі з гарадскога саду невялікі п'едэстал-пастаменцік Пушкіна, кінуты рускімі пры эвакуацыі, і на месца бюсту вялікага паэта паставілі бюст слаўнага музыкі... Ішоў Кузьма паглядзець на ўрачыстасць. І пачуў, як ён тут страшэнна адзінокі, як яму тут цяжка-цяжка... А дзень хмарны, невясёлы,— сумны восеньскі дзень. Прыстоіў на Дамініканскай каля вітрыны кніжнае крамы, паглядзець на гіпсавага Манюшку. І думаў: «Ну чаго, ну з якой прычыны мне так цяжка, так тошна, што не хочацца жыць?» У канцы верасня прыйшоў-ткі ліст, адзіны за ўсё лета. Ліст ад Лаўрыка і Марынкі з Масквы. Палягчэла: усё там у іх нічога. А і смутна было даведацца Кузьме з гэтага лісту аб смерці дзядзькі Міхалкі: вось і яшчэ з адным добрым, блізкім чалавекам не прыйдзецца болей пабачыцца ніколі... Адпісаў Кузьма 27 верасня. Паведамляў: «Хлопчыка назвалі Лявонам... Жывём ціха, працуем...»

Каля 20 кастрычніка прыйшоў Кузьма з заняткаў зморны, невясёлы. Сеў у стары мяккі фатэль, што застаўся ў кватэры ад нейкіх даўнейшых гаспадароў, у кутку ля печы і дзвярэй, дзе ніколі не сядзеў,— і задумаўся пакорна і пакутна, як ніколі: цяжка жыць... Паштальён. Нейкі вялікі пакет. З Масквы, Лаўрыкава рука на канверце. У пакеце лісту няма, а толькі фатаграфіі з некім у труне... І Лаўрык стаіць пахілены над трунаю... Грамадка моладзі... Хто ж гэта ў труне? — думаў Кузьма. Не мог пазнаць, але спалохаўся... Захадзіў па пакоі. Загаманіў з Мілаю. Падышоў да акна, прыгледзіўся, заўважыў на твары нябожчыцы сляды смерці ад мук і гора, і яшчэ нешта

родпае, і раптам выказаў жудасную думку: «Ці не Марынка гэта?» І не хацелася яму верыць: ну як жа гэта можа быць?.. Паехалі ў Маскву... усё было добра... Міла супакайвала. А ён ужо пазнаваў і пазнаваў, не хацеў прызнавацца: «Гэта яна, яна, даражэнькая сястрыца...» І з вялікім горам даведаўся аб усім толькі 24 кастрычніка. Прыйшоў Лаўрыкаў ліст ад 6 кастрычніка. Лаўрык пісаў: «Сэрца ваша, відаць, чула нешта нядобрае, але таго нядобрага, што зрабілася, не чула ні сэрца, ні розум, ні інстынкт ваш. Няшчасце вялікае, як хмара цёмная, гразавая, абступіла двор наш. Ударылі пякельныя перуны. Не стала адзінай сястрыцы нашай, зязюлі лесавыя, Марыні. У аўторак, 19 верасня, 12 г. 3 хв., адляцеў дух Марынкін, каб перастаць быць Марынаю і зліцца з вялікай вечнай энергіяй Вялікага Розуму. Марыны не стала. Хмары восенныя лілі над магілкаю слёзы дробныя ды журавы ў небе высокім цяжка стагналі, як бы раіліся, ці несць, ці не несць ім на Бацькаўшчыну і брату на чужыну весткі сумныя, балючыя...» Страшны быў гэты ліст Кузьме. Вялікае і доўгае, ніяк не гаючае гора зрабіла яму Марынкіна смерць. Напісаў ліст Лаўрыку, каб падтрымаць яго. Напісаў дамоў, каб хоць троху прымірыць і з тым, што сталася, і прасіў Пракопа, бацьку і Рамана падтрымаць маці. Хадзіў, працаваў, жыў... Але вобраз Марынкі стаяў яму ўваччу. І на лекцыях, як паглядзіць на вучняў, на дзяўчатак, што вось жывуць і вучацца,— вочы засціляліся яму слязьмі. Шукаў прычын і пачаткаў. Думаў, дадумваўся. Вінаваціў людзей, вінаваціў сябе...

У канцы кастрычніка — пачатку лістапада прыязджаў у Маскву да Лаўрыка Пракоп. Прабыў там пяць дзён. 1-га лістапада пісаў ён Кузьме ў Воўчую Гару: «Мама і тата здаровы. Дужа сумуюць па Марыне, і павесяліць іх некаму, усе параз'ехаліся. Я прыехаў у Маскву даведацца Лаўрыка, з надзеяй паехаць з ім удвору, каб ён адпачыў пасля такіх перажыванняў. Але ён ужо мае бодры від і ехаць удвору не мае часу, у яго многа тут работы. Учора спраўлялі тут у Маскве памінкі па Марыне, сабраліся студэнты, студэнткі, пагутарылі, паклапацілі дый разышліся. Сяння я хадзіў на магілку, і ведаеш, браток, так нудна, так жалка Марыны, што яна ў самай прыгажосці жыцця памёрла. Гэта дужа для нас вялікая ўтрата, асабліва для мамы, гэта няшчасце адбярэць некалькі га-

доў яе жыцця. Дык будзь ласкаў, братка Кузьма, пры першай табе магчымасці прыедзь удвору, парадуй маму, тату і ўсіх нас»... У гэтым жа лісце дадаваў Лаўрык:

«Што прыпісаць да напісанага Пракопам? Смерць Марынкіна алагічна, не можа быць нічым апраўдана»...

Ён ізноў вінаваціў сябе, шукаў тлумачэння таму шляху, па якім Марына дайшла да магілы, выказваў песімістычныя думкі аб сэнсе ўсяго жыцця, але шукаў, як жыць далей. Гэтае шуканне мела на мэце падтрымаць і Кузьму.— «Пачуваць роспач — неразумна...— пісаў ён і горка разважаў: — Сумаваць, плакаць, тужыць?.. У нас, людзей зачэпленых гарадскою культураю і падзеямі астатніх гадоў, адмірае пачуццё жалю і страху. Нават пужанне перад смерцю зрабіла вялікую эвалюцыю... Маці, тата, асабліва Пракоп тужаць непамерна і шчыра. Гэта непасрэднае пачуццё, без усякага ўдзелу логікі... Святое, поўнае пачуццё. Я павінен дапамагаць ім забыць»... [...]

[Лаўрык] мусіў выйсці з Беларускай студэнцкай асацыяцыі. У нейкай іншай афарбоўцы бачыў жыццё. Меў асаблівае пачуванне — як бы нейкай горкай волі... Пакінуў дзяўчыну, і яна яго. За гэты час ён шмат чытаў Р. Тагора, Дастаеўскага, Л. Талстога, М. Горкага, Л. Андрэева, Купрына, Чэхава, Тэтмаера, Шпенглера... Цяпер браўся за акадэмічную працу. Атрымаў доўгі ліст ад Кузьмы і Мілы ад 25/X, і ўзноў паўсталі ў яго сум, туга, жудасць, і была радасць: дзяліць з кім-небудзь блізкім агульнае гора лягчэй, як цярпець яго аднаму. Роспач у яго, пісаў Кузьме, мінула. Ён адпачыў, супакоіўся. З Пракопам палягчэла. Усюдых з Пракопам пабылі, зрабілі памінкі, рассталіся з лягчэйшымі душамі. На каляды меўся паехаць дамоў, прасіў Кузьму, каб і ён, хоць адзін, прыехаў. Атрымаў стыпендыю, меў харчы да каляд, кватэра была добрая. Налёг на здачу залікаў. Рыхтаваўся да гадавой справаздачы ў Беларускай студ. асац. Сходка адбылася (лічба закр.— *Рэд.*) ліст., у нядзелю, з вялікім поспехам і пыхаю; былі госці з Нізінак. Быў на вяселлі аднаго студэнта. 22 ліст. быў у Камерным тэатры: пантаміма «Пакрывало Пьеретты» ўсхвалявала яго... Даў згоду працаваць у падрыхтоўцы Усерасійскай с.-г. выстаўкі, дзе спадзяваўся паказаць Беларусь, пазнаёміцца з беларускай аграноміяй і здабыць лічбы, патрэбныя для яго «Вылічэння народнага прыбытку». «Ажываў Лаўрык», як казалі на

яго людзі збоку. Пачынаў займацца гімнастыкай... Прыйшла зіма, ішоў снег, белым пухам укрываў дамы, вуліцы, поле, могільнікі... Павялічыў Марынкіну картачку. Прыйшоўшы з вострага і лёгкага марознага паветра ў свой ціхі пакойчык з белымі сценамі, садзіўся за работу. І сядзеў часам чуць не да раніцы. Рэдка далятае няясны, невыяўны гук паравозу з чыгункі. Ціша... Вялікая сумная супакоенасць ахоплівала ўсяго. На белай сцяне партрэты... Вялікі ўсходні мудрэц, з глыбокімі, далёка-ўмкнёнымі вачыма, думае свае глубокія думы... Паглядае сваім заўсёды сумна-скорбным і дзіцяча-радасным поглядам Марынка...

29 снежня, у сераду ўвечары, выехаў Лаўрык з Масквы дамоў. Спадзяваўся, што Кузьма таксама ўжо едзе дамоў. 31 снежня быў ён ужо ў Варне і меркаваў у гэты ж дзень быць у двары. А Кузьма тым часам усё яшчэ бясконцу абіваў парогі, дабіваючыся магчымасці выехаць. Хацеў выехаць як мага скарэй і ніяк не мог дачакацца. З двара пісаў яму Пракоп, што ўсе здаровы, хлеба і іншых прадуктаў хапае даволі, толькі чорная думка ніяк з галавы не выходзіць. «Дужа ўбіты мы цяпер горам»,— пісаў ён і прасіў Кузьму прыехаць на каляды. Пісаў: «Даражэнькі брахненька Кузьма, просьба мая да цябе скарэй прыехаць удвору і не пісаць такіх лістоў, дзе ўсё зводзіцца на смерць дарагой нашай Марынкі. Гэткія лісты толькі прыносяць болей слёз для мамы, каторая і так не перастае плакаць. Тата крапіцца, але перажывае вялікую трывогу, што нават відаць па рысах твару і сівізне ў барадзе. Абое, тата і мама, дужа пастарэлі і паплашэлі...» Аб тым жа прасіў ён і Лаўрыка. Сам ён забываўся за работаю. Шмат было дваровай гаспадарчай працы, адбываў трудгужпавіннасць: вазіў сажань дроў на станцыю Чорная Пушча, рыхтаваў матэрыял па спажывецкаму т[аварыст]ву «Беларусь» да гадавога сходу.

## 1923

Марынка хацела, каб Пракоп жаніўся. І Кузьме не раз пісала: «Пракоп збіраецца жаніцца, дык прыязджай з сям'ёю, і Лаўрык прыедзе [1], справім Пракопава вяселле

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Марынка~прыедзе...» — аўтарская паметка: «Пракопава вяселле (2/П)».

па славу»... Не дачакалася, бедная. А ёй думалася, што тады ў хаце павесялее і маці будзе весялей і лягчэй. Пракоп быў і засватаўся, яшчэ вясною 1922, у Вірох. Калі Аўгінкі Мікітавае вяселле было, у Віры яна ішла, дык і ён туды ездзіў, і спазнаўся там з Маўраю Пестуноваю, што радня Хадоссі Маскалісе. Хадосся з Віроў у Камароўку зайшла. А вясною Пракоп быў засватаўся. Матка грады палола, а ён збіраўся ехаць запісвацца. І матка раіла яму: «Калі яны не захочуць зараз свадзьбу гуляць, дык не запісвайся. Бо ты захочаш дзе гуляць, дык слабодна, ніхто табе нічога не будзе казаць. Таксама і ёй (маладой)».

Вярнуўся ён рана, маці была яшчэ на гародзе, пайшла барздкэй у хату пытацца. Ён прыехаў вясёлы і кажа: «Ну, мама, не запісаўся». І жылі так цэлае лета. У жніўні прыязджаў Лаўрык, рыхтаваліся з Марынкаю ў Маскву ехаць. І тады ізноў пачаліся размовы, што Пракопу жаніцца выпадае. Ездзілі Пракоп з Лаўрыкам у Горад, а Віры — гэта па дарозе, толькі ўбок. Купіў Лаўрык цукерак у Горадзе, казаў Пракопу, каб ёй даў, і заехалі ў Віры. А Пракоп за нешта там угневаўся і не аддаў цукерак. Прывёз іх удвору. І так зноў засталося. Потым пачалося гэтае няшчасце, Марынка памёрла... Зацягнулася да каляднага мясаеду; яны наказвалі, а Пракоп не ехаў. За тыдзень да каляд прыехаў Лаўрык. І Кузьму чакалі. Лаўрык дужа чакаў. Сумна, цяжка было яму, толькі ён бадрыўся. У двару пасля той страшнай буры патроху сціхала. Скончыліся слёзы, засталася яшчэ жалоба, гарката. «Але і гэта мінецца,— сумна развражаў ён,— і трэба ўсё далажыць, каб маці забылася і добра пажыла хоць астатнія гады». Перад калядамі перамашчваў у іх падлогу Максім Маскалёнак, Хадоссін сын, і ўсё ўмаўляў Пракопа ехаць у сваты ў Віры. Каляды праходзілі невясёла. Толькі і быў вясёлы ў хаце Андрэй Ваявода, мачыхін сын, ён жыў тады ў іх, у сястры ўжо па бацьку, Ганны. Ён жа некалі трохі і з Лаўрыкам у Нізінках жыў. Цяпер ён вырас, самагонку ўмеў гнаць і піць. А Лаўрык хаваў свой цяжкі жаль у сабе. У нататках сваіх ад 7/І 1923 запісаў: «Каляды. Прыгожае зімовае надвор'е. У хаце чарка за сталом. Настрой супакойна-пакутны. Усе думкі пра Марыну. Стаіць яна ўваччу кожнаму ў сям'і. Дарка кажа, што сніцца ёй Марына. Добра ёй там... Маці возьме з сабою... У дзядзькавых — брудна, пыльна, цяжкая праца, жывыя нябожчыкі...» Мусіць, ён к дзядзьку Саўку хадзіў, быў у

ix. Калі запраглі каня ехаць у Віры, прыйшоў Пракоп у хату і кажа матцы: «Гэта ты, мама, пасылаеш мяне на пагібель». Выпілі Пракоп і Максім Маскалёнак пляшку гарэлкі. Хацеў Пракоп напіцца п'яным, разлаяцца — і канец, каб больш не ездзіць. А бацькі маладой хацелі, каб Пракоп купіў Маўры сукенку і вянок пад вянец. Дык і цягнулі доўга. Цяпер з'ездзіў Пракоп — і дагаварыліся. Паехалі ў Горад Лаўрык і Раман і купілі на сукенку маладой. Тады ж і Гашцы купілі кохту, у адным адрэзе. Едучы з Гораду, заехалі ў Віры, і Маўра адабрала Гашцы на кохту, ды троху болей, а таму сукенка ў яе выйшла троху куцая, вузкаватая. У тэй кохце Сашка (яна ж Гашка.— *Рэд.*) вяселле гуляла. Блакітнага колеру была сукенка ў маладой і кохта ў Гашкі. Пасаблялі Ганне к вяселлю рыхтавацца Дарка і Машка Паўлюкова, з Харошага прыйшла, і Гашка. Пракоп дужа плакаў — жаніцца не хацеў. А з Лаўрыкам выйшла бяда. У нататках у яго стаіць: «Вечар. Гарыць лучына... Маці на запечку. Бацька, п'янаваты, на печы. Лаянка. Самагон...» І ўсё. А ён у гэты вечар апрогся і чуць не памёр. Андрэй гнаў ім самагонку ў іхнай старой хаце, к вяселлю. Андрэй казаў, што Лаўрык туды хадзіў пробаваць, ды не ведаў, што пяршак вельмі моцны. А Лаўрык наогул ніколі гарэлкі не піў. Не ведаў вясёлы Андрэй, што гаркату сваю надумаў самагонам заліць, як людзі заліваюць... Цэлую ноч над ім сядзелі. Ірвала яго, асцюдзянеў, стаў зусім нежывы. Маці над ім сядзела, плакала, баялася, што і ён памрэць... Ён нецярпліва чакаў Кузьму, чакаў штодня, пераглядаў і ўранні і ўвечары ўсе сані, што ехалі з-пад Гайка і з-пад Засценак. Кузьмы ўсё не было. І ад доўгага чакання прапала радасць, і ён думаў: хай бы ўжо Кузьма і зусім не ехаў. З дня на дзень адкладалі і Пракопава вяселле, чакалі Кузьму. Але Лаўрыку даўно ўжо трэба было ехаць у Маскву: цэлы студзень пражыў у дварэ, а ў яго і вучэнне і праца на выстаўцы. І ўжо цяжка стала яму ў дварэ, а можа, і крыўдна за Марынку, калі бачыў і слухаў п'яныя размовы бацькі. Мусіць, думаў, што і Кузьма мог бы выехаць раней, калі б дужа захацеў. І пастанавілі згуляць вяселле без Кузьмы. Вяселле пачалося 1-га лютага, у чацвер, увечары. Запісаліся і звянчаліся 2 лютага. 3 лютага, у суботу, увечары, скончылі. Добра гулялі. Было ў маладога многа інтэлігенцыі, гасцей. Пачастунак быў добры. Гарэлкі з людзей досыць было, салоджанае і падфарбаванае — бацька стараўся. Скамарохі былі з Івон,

дзве скрыпкі, добра ігралі. Як прыйшлі яны на вяселле, зайгралі марш — завыла ўся хата (што Марынкі няма...). І яшчэ былі вельмі лірычна-жалобныя моманты: калі Пракопа пад вянец выпраўлялі, даравалі, бацька з маткаю і раднёю блаславенства яму давалі. Тут былі шчырыя слёзы глыбокай жальбы па страчанаму... З думак не выходзіла, што няма ўжо Марынкі, якая ў гэтай хаце пахаджала б цяпер. Пракоп доўга крэпка цалаваў маці, бацьку, родных і плакаў. І ўсе плакалі: родныя і суседзі, бабы і дзяўчаты, і нават старыя спахмурнелыя стаялі. Брат Раман быў сват, брат Лаўрынька — паджанішнік, і яны двое моцна трымаліся, слязы не выранілі і весялосці другім стараліся паддаць. Пракоп выбраў іх сваімі ўпаўнаважанымі, каб вяселле рабілі і вялі... Скокі былі ладныя, доўгія. Вальсы, кракавякі, полькі, «зялёныя рошчы», падэкатры, кадрылі ў чатыры пары (па-гарадскому). Аксанка Раманава ўсё скакала (ёй ужо адзінаццаць гадоў было, а цяпер быў такі звычай: малыя скакалі з дарослымі, з моладдзю, чаго раней ніколі не было). Цэлую ноч гулялі. Напаілі ўсіх і накармілі. Сабралі поезд ехаць у Віры. Поезд быў вялікі. Сказалі вірскія, каб як з-пад шлюбу, каб госці маладога туды ехалі (каб меншыя выдаткі). Другім шаферам быў Малюх — вясёлы стары хлопец-шляхцюк, Пракопаў калега па кааперацыі. Прыехаў ён параю шыбкіх коні, што беглі як ашалелыя. Шлюбавалі ў Капцове. Цэркаўка маленечкая. Вянчаліся дзеля звычаю і радні, бо Пракоп ужо ні ў што не верыў. Прыехалі з Капцова, з-пад шлюбу, у Віры, а там у свата гарэлка не задалася (самагонка). Гарнец у маладога пазычалі. І за стол не адразу пасадзілі. І пакармілі дрэнна. Нездаволены тэй чэсцю госці маладога былі. А ў маладога іхных гасцей два разы за стол садзілі. Родная цётка маладой, Хадосся Маскаліха, родная сястра Маўрынага бацькі, што была родам з Віроў, а зайшла замуж у Камароўку, казала, што род іхны быў раней дужа бедны. Жылі ў курнай хаце. І яшчэ яна, Хадосся, ішла замуж з курнае хаты, а хлеба туды з Камароўкі вазілі. Хлеб жа вірскі быў аўсяны, у рукі ўзяць страшна. Потым купілі зямлю ў пана,— Тарас Мялён, бацька маладой, пачаў разжывацца. Цяпер яны багатыры лічыліся. Хваліўся Тарас перад бацькамі маладога: «Вы дзяцей на паноў вучылі, а мы зямлю купілі». Лаўрыку двор іхны і радня не спадабаліся. Пісаў Кузьме: «Тужыкі, толькі багацце збіраць умеюць, над капейкаю дрыжаць, скнарыцы страшэнныя, а скарыстаць, спажыць



Парфір Іванавіч Гарэцкі
з жонкай Анiссяй Рыгораўнай. 1923 г.



Ефрасіння Міхайлаўна Гарэцкая —
маці пісьменніка.
1925 г. Мінск.

што-небудзь не ўмеюць. І непісьменныя: вучыцца ў школе 2-й ступені толькі адзін сынок». Але маці Маўрына, пісаў, добрая жанчына, хоць і прыгнечаная абставінамі. А Маўра, здавалася яму, якраз па маці.— «Прыгожая, высокая, статная дзяўчына, з добраю душою, ціхім характарам, але троху маўклівая... А маме гаварлівыя нявесткі якраз падабаюцца. Жыць (Пракоп з Маўраю), напэўна, добра будуць, бо любяць адзін аднаго. Пракоп аж восем разоў у сваты ездзіў, а сватаць пачаў яшчэ з вясны...» Так Лаўрык пісаў. Зараз пасля вяселля паехаў Лаўрык у Маскву, так і не дачакаўшыся Кузьмы.

## З Кузьмовых нататак

Іваньку (ён жа Лявон.— *Рэд.*) — паўгода. Хлопчык здаровенькі, вясёленькі. Гэтымі днямі ў яго нарыў на ручцы. І то не дужа турбуе: спіць ці спакойна гуляе. У Таццянкі — іншы характар: усё каб з людзьмі, каб на каленях, каб насіцца на руках ці галузавацць. Калі і не прыйдзецца ўжо вярнуцца назад з Савецкае Расіі, дык Ласка (яна ж Міла, Лёля.— *Рэд.*) як-небудзь з імі пражыве, пакуль не выпішу іх да сябе.

Справа з выездам цягнецца бясконцу. Хаджу па канцылярыях безмаль кожны дзень, а ўсё ніяк не магу скрануць і пасунуць наперад: то святы былі, то працы ў канцылярыі шмат, то начальнік у гэты дзень не прымае. Нарэшце дакляравалі, што 11 студзеня вышлюць ужо паперы ў Варшаву, у міністэрства ўнутраных спраў. Пры гэтым іранічна казалі:

— Чаму пан хоча дастаць пашпарт канечне з паваротам. Калі б пан ехаў без павароту, дык мог бы выехаць хоць заўтра.

Аднак жа пацяшалі, што пан дэлегат ураду вырашыў справу прыхільна, значыцца, і міністэрства можа выдаць пашпарт на выезд з паваротам. Тым часам трэба быць гатовым да ўсяго, і толькі прыкра, што справа працягнецца яшчэ з месяц часу.

Клопат з грашмі. Адна надзея на «Хрэстаматыю».

Быў у рэдакцыі «Нашае будучыні». Бачыў там Шляхцюка і Непрытомную. Непрытомная толькі што прыехала з Камунацэнтру (ён жа Менск, Ксенем.— *Рэд.*). Не раіць мне выязджаць.

— Хто ж будзе працаваць тут?

І страшыла, што мне, хваравітаму, прыйдзецца ў Ка-

мунацэнтры шмат працаваць, каб зарабіць на жыццё, што адаб'ецца на здароўі. Усё гэта мне непрыемна было слухаць, але не пераканала мяне. Я толькі і думаю пра тое, калі, нарэшце, выеду.

## Люты

7-га ўвечары выехаў з Воўчае Гары. Публікі было шмат, насілу нашэльнік «упакаваў» мяне ў купэ. Білет да Варшавы каштуе ўжо 27.875 марак (у $1^1/_2$ разы болей з 1-га лютага, так што і тут мне не пашанцавала, што справа зацягнулася). Ад Ліды павальнела, і я болей-меней выспаўся. Ехалі воўчагорцы, увесь час яны вясёла гаманілі, пакуль не заснулі. Адзін быў вайсковы-асаднік. Ён досыць аб'ектыўна казаў пра адносіны між асаднікамі і беларускім насельніцтвам. Другі быў пан-аканом з маёнтку; ён нападаў на сістэму асадніцтва, якая нібыта крыўдзіць паноў, і наогул паўторваў артыкулы з «Slowa» [1]. Я маўчаў і слухаў.

У Баранавічах доўга чакаў цягніка. Гаманіў з дзеткамі-вучнямі. У іх польскія лемантары, а гаварыць па-польску яны не ўмеюць.

## Кузьма ў Камароўцы

12 лютага прыехаў Кузьма ў Камароўку. Прывёз яго з Чорнае Пушчы Якім Сакол. Дарогаю апавядаў аб Пракопавым вяселлі, жалеў Марынку, казаў пра Хвядоса Рагавога. Ехалі праз Чорную Пушчу, на Каменку. Пазяблі дужа. Снег быў вялікі.

Маці дзівіла Кузьму. Казалі яму, што раней яна страшэнна плакала па Марынцы. Цяпер жа, пры ім, яна ні разу не заплакала, гаварыла спакойна і як бы бадзёра, толькі ўсё зводзіла на ўспаміны пра нябожчыцу. Яна пасказала яму ўсё дабро, якое для Марынкі запасіла.— «Каму яно цяпер?..» — казала. Давала Кузьме, для Мілы, але ён не мог узяць, узяў толькі, каб не пакрыўдзіць, адзін абрус і адзін ручнік. І паказвала Марынкі сарочку, з грубага шэрага хатняга палатна, што была на ёй у часе няшчасця. Унізе на ёй ніяк не адмыліся плямы, як ад чорнага бываюць: мусіць, гэта ад колаў трамваю былі. Так

[1] «Слова» *(польск.)*.

казала маці, разглядаючы іх. Вера ў бога, у той свет, дзе яна яшчэ спаткаецца з Марынкаю, дапамагала ёй цярпець. У хаце як бы ўжо прызвычаіліся, што Марынкі няма, толькі маці не прызвычаілася. Яна заглушала свой боль працаю, гутаркаю, рэлігіяй. Пры Кузьме яна старалася ні разу не заплакаць. Кузьма быў маўклівы.

Хадзіў Кузьма к дзядзьку, к Саўкіным. Не было ўжо ні цёткі, ні Тараса. Дзядзька Саўка дужа пастарэў, барада пасівела, і плоха чуў. Дзядзіна Алёна — ціхая, засмучаная і як бы ўжо страціла цікавасць да ўсяго, страціла надзею на лепшае жыццё. Гаспадыняю ў хаце была ўжо Дарка, Мікалай (ён жа Вавіла.— *Рэд.*) глядзеў тымі ж шэрымі, дагодлівымі вачыма, але і ён ужо падаўся. Успаміналі Марынку, цётку, Тараса...

15 лютага ў Рамана быў жалобны стол: год, як памёр Ляксейка. І Кузьма быў на гэтай жалобе. Маліліся. Кіраваў маленнем Даніла Тарасавіч, Гашкін бацька. Тут жа быў Максім Маскалёнак з жонкаю, сястра яго Зена, Дарка Саўкіна, Стратон Бандаронак. І бацькі былі. Мужчыны напіліся. Стратон з некім спрачаўся. А Кузьма глядзеў на ўсё гэта і ўспамінаў, што год таму назад Марынка была тут кумою...

У той жа дзень увечары меўся быць спектакль у Харошым, у школе. Збіраліся ставіць «Бежин луг», яшчэ нейкія п'ескі і пяяць беларускія народныя песні. Паехалі Пракоп з Маўраю і Кузьма. Заехалі к дзядзьку Паўлюку Ваяводзе. Дзяўчаты збегалі, даведаліся: спектакль чамусьці адлажылі. Пасядзелі госці ў дзядзькі, пагаманіць хацелі. А Дадон — п'яны... Доўгі, як прасла, няўклюды, з вялікімі сківіцамі, п'яны хадзіў і скрыгаў зубамі: хацеў жаніцца з Сашкаю, што крамніцаю ў кааператыве тады была, а бацькі не згаджаліся. Прыйшоў у хату, дастаў з кішэні рэвальвер і бразнуў яго аб падлогу. Маці да яго супакайваць, а ён штурхануў — да лавы на цэбар адляцела. Рэвальвера не аддаў: на вышкі лазіў хаваць. Жыў нейкім апушчонікам, атрымліваў пенсію па інваліднасці, п'янстваваў, скандаліў. Андрэй Ваявода не ладзіў з братам Васілём. Аддаў свой надзел Паўлюку, да яго перайшоў жыць. Гнаў самагон. У Камароўцы часта і памногу быў.

У суботу паехалі ў госці ў Віры бацька, маці і Кузьма. Бацька кіраваў канём: і пакрыківаў, і налаіваўся, і з маткаю гаманіў так, як і ўсё жыццё сваё ездзіў і гаманіў. Калі нахадзіла на яго дражлівасць, то стрымаць яе не мог.

Частавалі іх там. За сталом з гасцьмі сядзелі бацька Маўрын і яго два браты: адзін з апушчанымі чорнымі вусамі і пахавана-іранічным поглядам, падобны да лапцёвага шляхціца; другі, маладзейшы, ніжэйшы і таўсцейшы, з унтэр-афіцэрскімі чорнымі вусамі. Абодва ўжо немаладыя, але яшчэ нежанатыя. Жылі ўсе ўкучы, яшчэ не дзяліўшыся. У свата была барада і прывычка гаманіць і сплёўваць. Ён дужа хваліўся. Казаў, што да Маўры такія сваты на такіх конях ездзілі, што за аднаго каня ўсю Камароўку купіць можна... Але аддалі Маўру ў Камароўку, што род маладога такі: людзі вядомыя, браты вучоныя... Прыкра было «вучонаму» Кузьме слухаць гэтую мужыцкую хвасць (і не дужа п'яную), здавалася яму, што і той брат сватаў, падобны да шляхціца, пазірае пры гэтым неяк іранічна (меншы, выпіўшы, больш налягаў на яду). Але і Кузьмоў бацька таксама гаварыў п'яны абы-што, і Кузьма стараўся трымацца ў лад. Нават дастаў з кішэні і паказаў фатаграфію жонкі, дзяцей, аб чым зараз і пашкадаваў (калі глядзеў сват), хоць і не дужа (калі ветліва і далікатна паглядзела сваццядя). Сваццяя, падаўшы на стол, больш трымалася збоку, трымалася ласкава і дастойна. Асабліва здаровую Кузьме яна тады не здалася. Дзеці за сталом не сядзелі. Так з'ездзілі ў госці. Назад ехаў бацька нямала выпіўшы і пачынаў быў паказваць свае п'яныя штукі, як заўсёды. Але штосьці ўсё ж і яго яшчэ стрымлівала...

Быў у Камароўцы сход у справе землеўпарадкавання. Хацелі на хутары ці на пасёлкі. Шкадавалі толькі пудоў на камарнікаў. Справа кааператыва «Беларусь» была перададзена ў суд. Была значная недастача. Вялося следства. Не хапала «пудоў» і ў той Сашкі, да якой заляцаўся Дадон Ваявода. Тут усё цяпер цанілі на пуды збожжа. На грубцы ў Стахванавай хаце ляжаў мяшок кааперацыйных грошы, якія не былі ў свой час рэалізаваны і цяпер страцілі сваю цану. Жаробку сваю прадалі Стахванавы за 115 пудоў жыта, бо разлічалі, што сват дасць за Маўраю каня. Прадалі 18 лютага, здаецца, як ужо Кузьма паехаў, бо ён доўга не быў. Засумаваў. Захацеў паехаць скарэй да Лаўрыка ў Маскву. Ён пасылаў Лаўрыку тэлеграму з Варны, што едзе дамоў, але Лаўрык і нічога не адказаў і не прыехаў. Маці прасіла Кузьму, каб пабыў яшчэ хоць дзянькі два, пакуль цёлачку зарэжуць: пачаставаць яго і завезці Лаўрыку ў Маскву. Не паслухаў, паехаў. Неяк чуў ён цяпер сябе дома, як чужы. Зманіў матцы, што на

вялікдзень прыедзе. Пракоп завёз яго па станцыю ў Чорную Пушчу. У Чорнай Пушчы, у лесе, паехалі не тою дарогаю, блудзілі. На станцыі некалькі гадзін чакалі цягніка. Мёрз Пракоп і конь на марозе, на завеі. Не было дзе пагрэцца. Кузьма грэўся ў вартаўніка-бежанца. А паехаць назад, не адправіўшы Кузьму, Пракоп не хацеў.

Да Варны ехаў Кузьма ў цяплушцы з двума правадпікамі-рабочымі. Адзін быў дужа п'яны, падхадзіў да адчыненых дзвярэй на высачэзных наспах і на масту, і Кузьма баяўся, што ён зваліцца. І ён, нарэшце, пайшоўшы з кацялком па ваду пад мост, застаўся ад цягніка.

У Маскве Кузьма Лаўрыка не знайшоў: сказалі, што паехаў у Віцебск. І на магілку Марынкіну Кузьма так і не схадзіў. Пакойчык Лаўрыкаў у абшчажыцці быў зачынены. Кузьма ўпоцемках, у карыдорчыку, пераклаў тое, што Лаўрыку, у мяшок і пакінуў гэты мяшок на сховы ў студэнтаў, што там жылі. Гаварылі з Кузьмою неяк без асаблівае ўвагі. У асацыяцыі сказала праз дзверы дзяўчына невысокага росту з сялянскім тварам і пытлівымі вачыма, што Лаўрыка няма. Гэта была М. А. Пуцята, але Кузьма не ведаў яе, а яна яго. Грошы заставалася малавата, прадаў на вуліцы нейкаму інтэлігентнаму «земляку» залатую пяцёрку. Сумны паехаў у Віцебск. Начаваў у Доме селяніна, дзе яшчэ і кніжкі забыўся Лаўрык, а куды паехаў — невядома. Кузьма — у Камунацэнтр. Чакаў там Лаўрыка тры дні, а 2-га сакавіка выехаў, бо канчаўся тэрмін пашпарту. А Лаўрык з Віцебска паехаў удвору, прыехаў акалелы, ноч на печы паляжаў — і наўздагон за Кузьмою ў Маскву. Так і раз'ехаліся і не пабачыліся...

Была ў Лаўрыка ў Маскве знаёмая дзяўчына, студэнтка Вара Весяловіч. Калі было яму найцяжэй, у лістападзе — снежні, яна была яму добраю сястрою, таварышкаю. Ад гамонак з ёю рабілася яму лягчэй, з'яўлялася вера ў сябе і надзея... Яна не здавалася яму дужа прыгожаю, але калі глядзеў на яе, дык любаваўся на яе прыгожую рытмічную постаць, на яе добрыя вочы... Валасы яе прыемна яму пахлі. І цяпер, калі з двара, ні да кога не цягнула яго так, як да яе. Ведаў, што будуць доўга, да позняе начы, гуляць звонкімі марознымі вуліцамі, дыхаць свежае паветра і гаманіць. Прыехаў. Напісаў лісты Кузьме і дамоў. Перабраў у сваім пакойчыку ўсе кніжкі,

справы, прыбраў усё, пачысціў, упарадкаваў: толькі распачынаць працу. Думкі пра нябожчыцу Марыльку варушылі боль у гэтым новым супакойным ладзе жыцця, і яму яшчэ болей хацелася паўсці, пахадзіць, пабыць у Вары, пагамаиіць з ёю, пагуляць. А ўжо заўтра меўся завезці пасылачку Палацункавым (радні жонкі Максіма Маскалёнка), пабачыць Хомку Сілачонка (басяка) і Мудрыка — свайго першага настаўніка.

На вялікдзень прыязджаў удвору Лаўрык. Прыехаў якраз у вялікую суботу. Усе былі рады, што ён прыехаў. Прабыў да серады. Маці скора пасля Кузьмовага ад'езду хварэла: прастудзілася. А цяпер усе былі здаровы, і яна крапчэй выглядала. Натура ў яе была дужая: ніводнага сівога воласу не мела. З няшчасцем мірылася праз рэлігію, лёс. Дзеці Раманавы часта да яе хадзілі, бабы-суседкі. Настрой ува ўсіх быў ціхі, супакойны. Пракоп з Маўраю смяяліся, жартавалі, як маладажоны, і ў хаце было весялей, нібы ў даўныя старыя часы. Вясною меркавалі ставіць новую хату. Ставіць падрадзіўся Максім Маскалёнак, які лічыў сябе добрым майстрам. Хату хацелі рабіць усю адразу, бо чакалі на лета Кузьму з сям'ёю. Усё было ў гаспадарцы ў парадку. Лаўрын з Пракопам купілі ў Нізінках новы плуг. Ураджай, спадзяваліся, будзе сярэдні, бо для добрага — вясна няўдалая была, марозы вялікія былі. Лаўрык сітцу прывёз, Маўра потым пашыла сабе з яго сукенку, была задаволена. І Пракоп быў рад. І калі быў Лаўрык на вялікдзень у двары, казаў маці, што ён збіраецца жаніцца з аднэю сваёю таварышкаю-студэнткаю. Калі паехаў, прыслаў картачку, на якой ён быў зняты з гэтаю дзяўчынаю, Вараю Весяловіч. І казала маці: «Хоць жа я на картачках, ды ўсіх нявестачак убачыла». І Пракоп хацеў, як пасушэе, паехаць з жонкаю і з маткаю і зняцца. Вара прыслала Лаўрыку ліст на Камароўку. Пракоп няўмысля яго расчыніў, але не чытаў і аддаў маці схаваць. І напісаў Лаўрыку: «Даю табе, братка, слова, што я яго не чытаў». Потым пераслаў яму ў Маскву.

Усюдых была вясна. І траўка ўжо зялёная. І краскі з'яўляюцца. Сяляне там-сям гаруць. Добра ў такую пару ляцець хутка ў цягніку, глядзець праз чыстае празрыстае акно на бягучыя міма краявіды, або яшчэ лепей — адчыніць акно і пад ласкавы вецер падставіць твар; або стаць на вагонным пляцку, чуць, як усё варушыцца, як бадзё-

ры ветрык абхоплівае цябе ўсяго. Добра, бо ўсё сцішаецца, супакойваецца і цвярдзее...

І да Марынкі схадзіць захацеў. Манашак папрасіць (за грошы, вядома), каб краскі на магілцы заўсёды былі, і бярозку хацеў сам пасадзіць. А крыжа не ставіць (Лявон пісаў). Бо і хавалі без папа. І Марылька атэісткай сапраўднай праконанай была. Вясна і смерць... І няма Марылі...

І быў у Марылі. Дагаварыўся з манахінямі. За могілкаю ўзялася даглядаць увесь час сястра Антаніна, пад старэйшым доглядам маці Стахваніды. Дакляравалі пасадзіць красак. А па рагох магілкі — чатыры маленькія бярозкі. Крыжа не ставіць... Няхай яна даруе, цярплівая... Толькі часам быў такі страшэнны жаль. Як гняла Марылю матэрыяльная залежнасць! І ўжо была Марыля на парозе да вызвалення. Цяпер бы ён меў шмат грошы для яе. Жыццё бачыла б яна цяпер лепшае з усіх бакоў... А наогул, цяпер усё ж быў час рэакцыі сярод моладзі: не было яскравага бога. Шмат канчалі самагубствам: і ў Горках, і тут. Нядаўна зусім — двое.

16 мая Лаўрын і Вара гулялі ўвечары каля возера ў парку. Лаўрык жыў тады ў Выселках, д. 7, кв. 18. Ён шмат казаў Вары пра сваю сям'ю, а яна яму пра сваю. Бацькі яе жылі праз усё жыццё ў вялікім каханні, любілі дзяцей — іх было ўсяго двое: Вара і Андрэй. [...]

Яны вырашылі жыць разам з канца лета. Яна казала яму, што шчыра і глыбока кахае яго, але ўсё дадавала: «Лаўрык, Лаўрык! Прыгледзься. Я баюся, што не здаволю цябе праз увесь час. Я так паважаю цябе, што клапачуся аб табе, як маці, баюся за цябе, хачу, каб табе было добра. Прыгледзься, Лаўрык: не зрабі памылкі на ўсё жыццё»...

А ён думаў: «Нашто ў яе гэтыя разважанні, замест таго каб узяць мяне ўсяго? Дзіўныя з яе боку адносіны...» І яму было сорамна, што адносіны да жыцця ў яе былі больш сур'ёзныя, чым у яго.— «Я ўсё яшчэ мяркую,— разважаў ён у думках,— што ўсё можна, што жыццёвая далячынь неабмежавана, што ўсё павінна быць добрым... А гэта не заўсёды так».

Ён шмат працаваў. Добра еў. Кожную раніцу купаўся. Чуў, як лёгка целу і як растуць мускулы па руках. Вясну адчуваў. Усё зелянець пачынала (17 мая, ушэсце). І птушкі спяваюць, і гул людзей, і гораду, і ўсяго. Добра...

16 мая ездзіў на тэрыторыю выстаўкі. Праца ішла ша-

лёна наперад. Працавала на будоўлі звыш 3 000 чалавек. Беларускі павільён будаваць яшчэ не пачыналі, бо не высушылі балота.

Ездзіў у аўтамабілі, бываў на пасяджэннях, прыглядаўся да выдатных агранамічн[ых] дзеячоў.— Людзі...

Часам чытаў газеты. Белетрыстыку чытаць не меў часу. І не любіў у белетрыстыцы звычайнага, а незвычайна прыгожага не знаходзіў, бо і не шукаў планава.

У Вары былі самыя лепшыя ўспаміны пра дзіцячыя гады, самае прыгожае ўяўленне кахання, самыя прыгожыя надзеі на сям'ю, самае лепшае жаданне быць самой прыгожай у сям'і. Яна, як і Песталёццы, вызнавала, што школа і сям'я павінны быць непадзельнымі. Лаўрык, мяркуючы па сваёй сям'і, быў супроць гэтае педагагічнае тэорыі, ён быў за тое, каб школа давала ўсё лепшае, замяняла сям'ю, бо сям'я найчасцей, пакуль што,— пекла...

У лістох да Кузьмы Лаўрык апісваў Вару так:

Натура ў яе, здавалася яму, была вельмі імпульсіўная, мітуслівая, жыццярадасная, рэзкая, шыбкая. Яна любіла прыроду і радасць у людзей. Любіла спяваць і добра спявала. Мела грамадзянскі нахіл і здольна была поўнасцю захапіцца якой-небудзь ідэяй.

Трошку эгаістка. Чулая. Але не зусім ведае людзей, не ўмее часам арыентавацца і рэзкасцю крыўдзіць людзей часам. Сацыялістка па пераконанню. Любіць прыгнечаных.

Інтэлект не зусім глыбокі і ўстойлівы, але гарманічны, прыгожы. Натура цэльная.

Але жыццё апошніх год так паламала яе маладую ўспрыімлівую псіхіку, што пачалася была страшэнная падвоенасць, якая ледзьве не скончылася ў 1921 г. самагубствам.

Цяпер з духоўнага боку зусім лепшала...

Вясна стаяла сцюдзёная, часта ішлі дажджы.

Навін асаблівых не было.

Быў першы з'езд настаўнікаў сярэдніх беларускіх школ (у канцы красавіка ці ў пачатку мая, пасля вялікадня). На з'ездзе выступіў Лявон (ён жа Кузьма.— *Рэд*), і з прычыны яго выступлення «Dsiennik Wilenski» [1] напісаў: на якой падставе сядзіць у Вільні гэты вораг польскасці і агент маскоўскага бальшавізму Задума?

---

[1] «Віленскі дзённік».

А Лявон і сам цвёрда пастанавіў увосень выехаць з Вільні ў Менск, хоць бы Міле прыйшлося застацца да тэй вясны, пакуль падрасце і пачне хадзіць Лёўка.

Маці Міліна пасля вялікадня выехала на вёску. Родныя Міліны ўводзіліся цяпер у наследства, а потым меліся дзяліцца. Гэта таксама спыняла пераезд: патрэбны былі грошы.

Заняткі ў гімназіі і семінарыі меліся цягнуцца аж да 15 чэрвеня. У Лявона было шмат лекцый, і да абеда, і па абедзе, а плацілі мала.

Але жылі даволі добра. Толькі — нервы. Няўменне гадаваць дзяцей. Капрызная Валя (яна ж Аля, Тацянка.— *Рэд.*). Лёўка быў здаравейшы і спакайнейшы за Валю.

### Лаўрык і Вара ў Цёмналессі (Камароўка.— *Рэд.*)

Ехаў Лаўрык ізноў: Віцебск — Менск — Гомель і г. д. Выехалі з Масквы 23 мая. Збочыў троху з дарогі і пабыў у дварэ. Былі з Вараю на духа, у Цёмналессі, дні чатыры.

Дарогаю, 24 мая, былі ў Смаленску. Вара ляжала на траве каля касцёлу і чакала Лаўрыка, а ён у Землеўпраўл[енні], праз вуліцу, рабіў свае выставачныя справы.

Перад вачыма ў яе была сцяна, Малахаўскія вароты, і яна думала: чаму Малахаўскія? — і не ведала.

Думкі ў яе аб мінулым, будучым, сучасным...

Прыехалі ў Цёмналессе. Свята, людзі на вуліцы, у б. Цёмналессі. Дзівяцца... Яна ў палатняным плашчы. Дужа ласкава сустрэла маці.

Увечары. Спаць кладуцца. Бацька: «Лаўрык тут ляжа, а дзе ж паненку пакладзём?» Маці: «Дзе Лаўрык, там і яна ляжа». Бацька: «Што ты гэта? Паненка! Дзе яна з ім ляжа?» Маці: «Нічога, ляжа... Яна ж бы не ехала з ім». Паслалі ў хаце старой ці пад павеццю. Там яны і спалі разам [1].

Хадзілі гуляць. Хадзілі ўвесь дзень па Дубраўках і Салаўёвых машкох. Лаўрык насіў яе па лагу. Людзі кажуць: во, носіць...

Лаўрык на вуліцы краскі садзіў, і яна там. І людзі глядзелі.

Бацька: «Я думаў, паненка, аж яна наша будзе».

Ішла маці з Маўраю ў поле палоць. Вара: «І я пайду

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Паслалі ~ разам».— аўтарская паметка: «Ела мала».

з вамі».— «Што ты, нам самім рабіць няма чаго, гуляй». Не пусцілі палоць.

Сыры мясіць давала ёй маці. І яна галачкі з сыру рабіла і на дарогу брала.

Пабылі троху і паехалі.

У садзе. Маці гаворыць з Лаўрыкам, пацяшае: конік адзін, але добры. Мартын (ён жа Пракоп, Парфір.— *Рэд.*) аўсом часам падкармліваў. Дзве каровы і цёлка. Свінні здаровыя. Куры яек нанеслі, хоць кожны дзень яечню пражы.

Сад цвіў добра. А дулька над усе гады красавала. «Сёлета достухны ўсяго ў садзе будзе».

А Марылькі няма... І стрымала слёзы.

Бацька: сёлета смуродзіны краснай многа, ды куры аб'ядуць...

Маці была здарова. З Маўраю жыла дужа добра. Маўра хоць трошачку замяняла ёй Марылю... «Каб Лявон яшчэ прыехаў». Увосень, на выстаўку прыедзеце: ён, Мартын і ты, мама! (На магілку хацела...)

Маўра не звала Мартына на імя: усё — ты, ты... Бацьку-маці не звала: тата, мама.

Мартын пацвярдзеў, супакоіўся. З жонкаю быў ласкавы дужа.

Стахван жыў добра. Усе ў яго здаровы.

Гаспадарскія справы ў двары былі ў добрым стане. Хлеба было даволі. Елі добра. Было сала, мяса, блінцы часамі, пірагі. І нават цукру трохі мелі. А малака дос-даволюхны. Мартын прывёў ад тсця карову ў пасаг. Лаўрын паглядзеў: здаецца, троху метыс са швіцкім заводам, добрамалочная.

З адзежай, як і з ежай,— не дрэнна. Крамніны было нават болей, чым раней.

Плуг новы, жалезны; лепш зямля ўзорваецца.

Лубін засеялі — і на насенне, і на ўгнаенне. Трошку цімафейкі засеялі.

Хату Мартын меў у гэтым годзе паставіць усю, і прыбраць. Ужо купіў жыта на грошы, якія былі. Ды цяпер Лаўрын прывёз яму чатыры мільярды. Яр ужо сеялі. Авёс сеяць толькі што пачалі, рассеялі чацвярыкаў 8.

Перад ад'ездам Лаўрын напісаў Лявону даўжэнны ліст. І Вара прыпісала. І Мартын, але замарыўся — авёс сеяў. І Маўра. І Стахван. І бацька распісаўся. І маці крывульку паставіла. Усе былі ў добрым настроі.

## Лаўрын і Вара пажаніліся (8/VII 1923)

З 8 ліпня (другі дзень купалля) пачалі яны жыць у шлюбе. Зрабілася ўсё вельмі проста. Нават ежы лепшай, як некалі ў Кузьмы з Мілаю, у іх у гэты дзень не было. Увесь дзень прайшоў у клопатах з пераездам на новую кватэру. Пераехалі там жа ў Выселках, на 4-ю Ліхаборскую, у дом № 2 Гімро. За кватэру заплацілі за 10 месяцаў наперад.

Нікога ў госці не запрашалі і ў сведкі не бралі, нават у загсе не былі, бо лічылі «гэты акт» выключна асабістым, не належным і да рэгістрацыі. Хоць Лаўрын, як статыстык, вельмі шкадаваў аб незвычайна каштоўных дадзеных для дэмаграфіі...

## Лета ў Цёмналессі

Хата была да лета (7 ліпня) пастаўлена і накрыта. Засталося замасціць, асадзіць вокны, і зрубіць запечкі, і зрабіць печы. Паставілі яе ад Маскалёвага гарода ўздоўж па вуліцы, 24 арш. на 9 арш. 12 акон і 4 дзвярэй. Меркавалі праз тыдні два жыць у новай хаце. Сродкі былі патрачаны ўсе. Не было засавак і завесаў для акон і белае фарбы на вакенныя рамы. Прасіў Мартын, каб Лаўрык пашукаў на рынку ў Маскве.

Змучыліся работаю страшна.

Працавалі непасільна. Бацька ў садзе з пчоламі, маці і Маўра на двары са шчэпамі і на гародзе з градамі, а Мартын з плотнікамі, падвазіў і дастаўляў патрэбныя матэрыялы.

Справа каапературыву была перададзена ў суд. Мартын баяўся, што яму могуць даць кару «за безгаспадарчасць і нядбайнасць».

З адзінаццатухі Маўра была ні хвора ні здарова.

Каля 10-га ліпня Мартын пачаў гараць папар. Гной меліся вазіць на другі дзень Пятра (гэта звалася на Паўла).

У канцы верасня ў маці балеў бок.

Да гэтага часу ўсё пажалі і звязлі. Застаўся толькі гарох; ён быў скошаны, але яшчэ зялён, хоць скошаны ляжаў тры дні.

Нажалі сёлета жыта 28 вазоў; кожны воз даваў у сярэднім $4^1/_2$ пуды. На будучы год пасеялі жыта пудоў сорак.

Аўса пажалі 16 вазоў, ячменю 7 вазоў, вікі накасілі 3 вазы, лёну набралі 2 вазы. Насенны лубін не паспеў,— увосень не было ніводнага спелага стручка. Гародніна ўдалася добрая. Хату канчаткова прыбраць не паспелі. Не было дошак для акон, дзвярэй і падлогі. Жылі ў новай хаце. Меліся прывезці калод і пілаваць дошкі, а таксама пачаць ставіць пуню для жывёлы. Трэба было яшчэ капаць бульбу, а рабочых рук мала, наняць дорага. Таму і на выстаўку не паехалі. Падатку прызначана было 38 пудоў 18 ф. Яшчэ не плацілі нікольκі. Ракоп пісаў Лаўрыку, каб ён, калі мае, прыслаў бы аблігацый. Свае аблігацыі Ракоп патраціў — і цяпер прыходзілася везці хлеб. Яблыкаў было мала, і тыя зялёныя пашчыпалі.

8 верасня Лаўрын з Вараю былі ў Галов[інскім] манастыры на Марылькінай магілцы. Гэта было 2 месяцы, як яны пажаніліся, а праз 10 дзён канчаўся год, як не стала Марылькі... Прамільгнуў год, як ува сне. Сумна на магілцы, як і летась. Жоўтыя краскі пахпючыя. Курганок у зеляніне. Манастырская ціша. «Апраўдання быць не можа, можа быць прымірэнне... Ціха, ціха. Не варушыся, старое... Дос, дос, дос...»

Чакалі 19-га маці з Мартынам або з бацькам,— на ўгодкі.

Польскія пашпарты цяпер, на выезд без павароту, дастаць было лёгка. Клапаціў Лявон, што савецкая віза зацягнецца. Магло пайсці запытанне ў Менск ці ў Маскву. Пісаў Лаўрыку, што добра было б, каб з Менску прыслалі запрашэнне на настаўн[іцкую] пасаду — яму на рукі ў прадстаўніцтва ў Варшаве.

## Кузьма прыязджаў у Камароўку

10 лістапада ехаў Кузьма ў Камароўку прывезці да сябе ў госці маці і дзяўчыну даглядаць дзяцей. Ехаў дамоў дні на тры. У Варне начаваў на старой станцыі. Ураннi перайшоў на новую, пры горадзе. Аказалася, цягнік пасажырскі пайшоў учора ўранні, бо хадзіў ён не ў суботы і серады, як Кузьма думаў, а ў нядзелі і чацвяргі. Разлічаў цяпер Кузьма хоць на які рабочы цягнік. На станцыі было шмат усякіх людзей. Пайшоў ён у хату — заезд. Там маладзенькая і змучаная пані — едзе ў Нізінкі з больніцы са Смалы. Згаварыліся і паехалі на конях з балаголам. Цяжкая была дарога. Толькі познаю начою дабраліся ў Нізінкі. Перакалелі. На трох колах ехалі: кола

зламілася. У Сенькаве грэліся. Каяліся, што паехалі. Не назваліся адзін аднаму. Пазней Кузьма даведаўся, што гэта была жонка Гал-да (Галадзеда.— *Рэд.*). Гутарылі пра Лаўрыка. Япа яго ведала ці чула ад мужа. У Нізішках начаваў Кузьма на заездным двары. Цягнік, сказалі, будзе заўтра рана-рана. Раненька пайшоў Кузьма да ўмоўленага фурмана, жыў каля рэчкі, у гразі невылазнай, а ён яшчэ спіць... Паехалі, конік дохленькі, пад'язджаюць — цягнік адходзіць... Аддаў яму барзджэй грошы Кузьма, кінуўся бегчы, на хаду цягніка ўкінуўся ў пусты таварны вагон і ледзь не сарваўся. Ехаў зайцам. У дарозе спыняліся. Дровы грузілі. І ён стаў грузіць. І ўсе тыя людзі, якіх учора бачыў на станцыі. Смяяліся, што ўсё роўна не ўцёк ад іх. Прыехаў, у дварэ малацьба была яшчэ не малочана. Хадзіў з маткаю ў Харошае. Хацелі Машку Паўлюкову ў нянькі ўзяць, а паехала Гапка, большая сястра. Сустрэліся з ёю каля могільніку. «Я б паехала...» І матка яе казала: «Хай Машка ў дварэ ўсякае работы заўчаецца, а Гапка хай горад паглядзіць». Арахамі Кузьму і маці частавалі. Гэты год арахоў многа было. На другі дзень Гапка да іх прыйшла. Паехалі — Кузьма, маці і Гапка. Вазіў, здаецца, Пракоп. Кузьма і не развітаўся з бацькам і Раманам, на гумно не збегаў, яны там кучу веялі. Хапаліся ехаць, каб не спазніцца. А паехаўшы — шкадаваў. На станцыі доўга чакалі, цягнік спазніўся. У Варне, 16 лістапада, пераносіліся са станцыі на станцыю ўвечары, упоцемку. Цяжка было, а грошы на фурмана ў Кузьмы было мала. І маці мяшочкі нясла. Кузьма гневаўся, нашто набралі столькі. Маці і Гапцы білеты купіў, а самому на білет не хапіла. У дварэ ў Пракопа пазычыў 5 р., а больш і Пракоп не меў. Ехалі на «Максіме Горкім» — маці і Гапка асобна, у жаночым. Не спалі яны ўсю ноч. Там усё хадзілі, крычалі. Праваднік крычаў: «Бабы, не спіце! Тут вас абкрадуць». Кузьма хадзіў іх даведвацца. Прыехалі ў Камунацэнтр. Кузьма зараз на гару ўзбег, у стол, грошы ўзяў і на тым самым рамізніку назад на вакзал паехаў, доўг аддаваць: пазычаў у правадніка пад заклад гадзінніка. Доўга шукаў, насілу знайшоў яго там, дзе праваднікі адпачываюць.

## Маці і Кузьма на Марынкінай магілцы

Потым Кузьма ездзіў з маткаю ў Маскву. Выехалі 24 лістапада, у суботу, ураніі, паштовым [1]. Як ехалі туды, чытаў маці «Новую зямлю» Якуба Коласа. Ёй падабалася, што ўсё знаёмае, блізкае, сваё. У Маскву прыехалі таксама ўранні (25-га). Сустрэлі іх на вакзале Лаўрык і Дубок. Першы ўбачыў іх Дубок і ўгадаў, хоць ніколі раней не бачыў. Быў ён тады яшчэ малады хлопец, белы з твару. І Лаўрык падбег. Не бачыліся яны з Кузьмою з 1920 г. Адпачыўшы ў Лаўрыка, схадзілі на Марынкіну магілку. Хадзіла маці, Кузьма, Лаўрык, Вара і Паўлючок Мікітаў з Цотава, ён тады ў Лаўрыка жыў, у школу паступаў. Прыйшлі на магілку. Дробненькі снег ужо ляжаў, траўка павялая, памёрзлая, былінкі яшчэ з-пад снегу былі відаць. Маці стала на калені, памалілася. Не заплакала, утрымала слёзы — можа, што пры людзёх... Спыталася, у які бок галоўкаю яе паклалі: бо звычайна хаваюць галавою на захад, каб устаўшы — тварам на ўсход быць, а яны, можа, тут іначай зрабілі. Хавалі без папа, студэнты звычаяў не ведаюць... Лаўрык, можа, хацеў пакласці, каб тварам, вачыма, на бацькаўшчыну была...

І Кузьма ціха пастаяў, паглядзеў, падумаў... Ужо супакоіліся. Кузьма казаў толькі, што нядобра, можа, што ў манастыры могільнік, ля самае царквы, і ў жылых дамох тут рабочыя, студэнты жывуць... Што лепей, можа б, каб у горадзе на могільніку пахавалі. Лаўрык супакаіваў, што тут і цяпер усё хаваюць, новыя магілкі прыбаўляюцца, і хаваюць рабочых, студэнтаў, прафесароў. Пабылі-пабылі, пайшлі... Маці яшчэ памалілася... Азірнулася... Бярозка адна пасаджана ля магілкі была: манашкі пасадзілі, як Лаўрык дагаварыўся. Кветак ужо нязначна было. Водаль алейка з маладых дрэўцаў-ясакараў была. Пайшлі назад... Калі ішлі назад, убачыў Кузьма турнік — і падцягнуўся. Нашто ён гэта зрабіў? Ці каб матку падвесяліць? Ці сам сабе сваю супакоенасць і жыццяздольнасць паказваў? Было гэта неяк недарэчы, а падцягнуўся. Ды ён тады і не ведаў яшчэ, якую муку Марынка прыняла паміраючы, страшную муку, што не ўсякаму чалавеку пасільна... Маці была супакойная. Лара (яна ж Вара.— *Рэд.)* ішла ў кажушку Марынкіным. Ішлі, гаманілі... І маці ўсяе мукі Марынкінае не ведала: не казаў ёй Лаўрык

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў «Потым ~ паштовым».— аўтарская паметка: «Маці і Кузьма на Мар. магілцы».

усяго. Назад у Камунацэнтр маці з Кузьмою паехалі 27 лістап., пераначаваўшы ў Лаўрыка. Жылі Лаўрык і Вара цесненька, бедна, па-студэнцку. Як ехалі Кузьма і маці назад, дык выпадкова сустрэліся ў вагоне з Віктарам Віктаравічам Нерадам, як ехалі міма Улоння. Пасядзеў з імі ў адным купэ, пагаманіў. Невясёлы ён быў. Іхнаму гору спачуваў і ў сабе нейкі смутак насіў. Трымаўся вельмі ветліва, далікатна, але даволі замкнута.

У Кузьмы маці доўга не хацела жыць. Усё клапаціла, як там свінкі і авечкі, як там стары яе і што аднэй Маўры цяжка. Кузьма і Міла прасілі, каб пабыла хоць да каляд. Тацянка да яе прывыкла. А маці ўсё чакала Рамана, каб з ім ехаць. А ён меўся прыехаць тавары ў кааператыў купляць. Быў мароз, сцюжа, вецер, а ў пачатку снежня стала адліга і слізота. Кузьма бегаў у справе кватэры, бо ўсе жылі ў адным пакоі. Маці ўнасіла супакой у іхнае нервовае жыццё... Кузьма працаваў на рабфаку і ў ветэрынарн[ым] тэхнікуме, шмат лекцый. У Мілы часам галава балела. А маці сядзіць тады ўвечары на ложку ціханька і маўчыць. Хочацца ёй удвору...

5/XII было напісана ў газетах, што Усходняя Беларусь далучаецца да Менску.

## 1924

Павёз маці дамоў сам Кузьма. Раман прыязджаў, быў ад цягніка да цягніка, з Кузьмою не ўбачыўся, дакляраваў скора прыехаць яшчэ і не прыехаў. Паехалі Кузьма і маці, здаецца, 2/I, у сераду, дзён за пяць да каляд. Цягнік ішоў туды раз у тыдзень. Дужа захацела маці ўдвору.

Лаўрык пісаў, што паступіў у Даследчы інстытут аспірантам, чаму Кузьма быў дужа рад, віншаваў яго. Але цяпер было яму многа работы, а таму што з маткаю і Кузьмою нядаўна бачыўся, дык не меў прыехаць на каляды дамоў.

Справа з кааператывам. Казапалянскі. Раман. Казапалянскі штосьці меў супроць Лаўрыка. Памёр Паўлюк Смакун.

8/I прыязджаў у Камунац[энтр] Раман з Нінкаю (яна ж Антанінка, Ліда.— *Рэд.*). Былі толькі адзін дзень, ад цягніка да цягніка. Кузьмы не было: ён ездзіў у Віцебск чытаць лекцыі па фальклору. Раман апавядаў аб хатніх спра-

вах: Маўра бледная і худая, Пракоп хацеў ехаць з ёю у Камунацэнтр. Гашка была хворая, грудзі ў яе былі яшчэ і цяпер не ў парадку. У маці балеў бок. Раман збудаваў сабе лазню.

# Часць пятая (1924—1937)

## [19]24

Усе гаварылі аб далучэнні Віцебшчыны і Магілёўшчыны да БССР. Па валасцёх адбываліся канферэнцыі [1]. У Целяпеніцкай воласці мясцовае начальства і прыезджы з Гораду хацелі вынесці пастанову супроць далучэння. [...] Але настаўнікі і дапрызыўнікі стаялі за далучэнне. Быў там і Пракоп Батура і выступіў з прамоваю за далучэнне. І за рэзалюцыю, якую прывёз той з Гораду, была меншасць галасоў. Пракопа Батуру хацелі арыштаваць, ну так абышлося.

Потым пачалі перахадзіць школы на беларускую мову. Многія сяляне былі нездаволены, асабліва былыя салдаты, што навучыліся ў свеце гаварыць па-руску. Бурчалі: «Нашто нам гэтая мінская ламаніна». У школах вучылі па-беларуску спярша толькі ў першым класе. Не хапала беларускіх падручнікаў, вучылі чытаць па хрэстаматыях, зборніках апавяданняў і нават па газетах. У Целяпенічы на пошту прыхадзіла ўжо нумароў 20 беларускіх газет (у сельсаветы, у хаты-чытальні). Усе імі цікавіліся, чыталі, але чытаць не ўмелі, і шмат было гутарак, спрэчак і смеху.

У Балоце быў настаўніцкі з'езд. Дэлегаткаю з Віцебшчыны прыязджала Вера Ваявода, дачка Івана Фаміча [2]. Кузьма даведаўся аб ёй ад аднаго знаёмага настаўніка, якому яна казала, што Кузьма ёй брат. Кузьма пайшоў на з'езд, знайшоў там Веру і запрасіў да сябе. Была яна яшчэ маладая дзяўчына, бландзінка, буйнатварая; калі смяяла-

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Усе~канферэнцыі».— аўтарская паметка: «Далучэнне да БССР».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «У Балоце~Фаміча».— аўтарская паметка: «Вера Ваявода».

ся, лішне агаляліся дзяслы. Апавядала пра сваю сям'ю: старэйшая сястра Люда настаўнічае каля Дуброўкі, замужам, і муж там настаўнічае, маюць ужо дзетак; старэйшы брат, маці і Вера жывуць пад Віцебскам, брат фельчарам у воласці, Вера настаўнічае, маці жыве з імі; другі брат, Арка, вучыцца ў Нізінках, на 3 курсе; малодшая сястра Валя вучыцца ў Віцебску, у педтэхнікуме. Яшчэ адна сястра, сярэдняя, зайшла замуж за пракурора, латыша, паехала з мужам у Калку. Успамінала Вера бацьку, як цяжка было матцы і ўсім ім перажыць яго смерць. Але казала пра гэта мала. Вера вучыла цяпер па-беларуску, хоць сама гаварыла па-беларуску дрэнна (чытала нішто).

Андрэй Ваявода паступіў дабравольцам (да прызыву) у Чырвоную Армію і потым залічыўся ў вайсковую школу ў Балоце [1]. У Кузьмы бываў ён рэдка. А калі бываў, то прасіў грошы.

На масленку памёр Саўка Батура. Каля году пажыў у новай хаце, што паставілі на шырокай паласе [2]. З гумна прыйшоў, хацеў у новых валенках к брату Стахвану схадзіць, валенкі паказаць, ды спіна яму забалела. Дні тры-чатыры паляжаў і памёр непрыкметна. Доктара, здаецца, і не прывазілі. Хавалі з папом.

3-га сакавіка нарадзілася ў Пракопа і Маўры першае дзіця, сын Васіль [3].

З лютага Лаўрыку трэба было чытаць, чытаць і чытаць — каля 2000 старонак за 2—3 месяцы [4]. Кіраваць яго індывідуальнаю працаю меў праф. А. А. Рыбнікаў. З траўня да верасня, улетку, разлічаў Лаўрык зрабіць перапынак, каб заробіць грошы на зіму. За працаю не мог быць на калядах ні ў Менску, ні ў Камароўцы. Прасілі Раман і Пракоп прыехаць ратаваць іх, але ён не паехаў. Дый не ведаў, ці дапаможа чым. Сядзеў у Кучцы, тапіў печачку, «зубрыў» і хадзіў на семінарыі ў Даследчы інстытут.

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Андрэй Ваявода ~ Балоце».— аўтарская паметка: «Андрэй Ваявода».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «На масленку ~ паласе».— аўтарская паметка: «Смерць Саўкі Батуры».

[3] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «3-га ~ Васіль».— аўтарская паметка: «Нарадзіны Васіля Батуры».

[4] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «З лютага ~ месяцы».— аўтарская паметка: «Лаўрыкава жыццё».

## З Лаўрыкавых нататак

*29/V*. Дома (у Камар[оўцы]). Дваровае жыццё не здавальняе. Усё так жа сама непрытульна, няласкава, груба, брудна, непрыгожа. Непасрэднае змаганне з зямлёю — і няма пасалоды, адпачынку, культуры. Жудасны быт. «Праз смерць мы страцілі радасць жыцця». Думкі пра сухоты. «І ў яе, і ў мяне».

*30/V*. Баляць грудзі. Праз увесь год каханне.

Кузьма з сям'ёю быў улетку ў двары.

Новая хата і новы двор.

Віцебск. Залікі. Салаўёў.

Лаўрык прыязджае дамоў. «Прыбытак».

Дзядзіна Хрысцёна сумная.

Самагубства ў Слабодках.

Муля едзе ў Балота.

### [19]25

На каляды (1924—25) пачалася адліга, ішоў дождж. Снег растаў, пацяклі паводкі [1]. Людзі смяяліся, што гэта — вялікадне, а не каляды. У Палянцы была пошасць тыфусу. У Камароўцы не было: сцерагліся. Пасля каляд памёрлі Пятрок Захаронак і брат яго Лявон Захаронак (Салдат). Ганна Аўдакімава пайшла замуж у Мардалысава, за Іванёнка. Грышкоўна хадзіла цяжарная, а казалі на Міхалку Піліпёнка.

Памёрла Аўгіння Мікіціна. Кросны босая ткала, на двор выхадзіла, а дзіця карміла, дык гарачка стала. Моч ёй занялася. Доктар казаў, каб раней хапіліся лячыць, а то пузыр лопнуў. Памёрла ў бальніцы ў Горадзе. Гаўрыла і Ягор ездзілі па яе ў Горад і прывязлі ў Віры. Пакуль прывязлі, адна шчака зрабілася чырвоненькая. І матка ездзіла ў Віры, калі Аўгіння была хворая, а потым, пабыўшы там, удвору ў Камароўку пайшла. А яна паплашэла, і Мікола, мужык, у Горад завёз. І матка на хаўтуры ездзіла. Засталося двое дзяцей, два хлопчыкі. Пабыла Аўгіння замужам тры гады.

Аддаў Стратон Вольку сваю замуж у Бель, за Сцёпку Краўца. Вясёлле было 8 лютага [2]. На вяселлі Раман Бату-

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «На каляды ~ паводкі».— аўтарская паметка: «Камароўскае жыццё».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Аддаў ~ лютага».— аўтарская паметка: «Вяселле ў Стратона».

ра пасварыўся з целяпеніцкім краўцом Сіняковым, кідаліся біцца. Стратон папрасіў: біцеся, толькі не ў хаце. І тады нехта ў сенцах ударыў Сінякова бутылкаю па галаве.

Пасля Тацянкі, цераз тыдні паўтары, захварэў на водру Іванька (Лявонка.— *Рэд.*) Хварэў дужа цяжка, хоць зазвычай гэтая хвароба бывае лёгкая (одр — ложак, ляжачая хвароба). Пасля яна яшчэ ў яго і ўскладнілася пухлінкаю на правай шчочцы. Хірург Шапіра, у іх на кватэры, прарэзаў. Выпаў на сподачак камок жоўтага гною. Доўга хадзіў Іванька ў павязцы. Рубчык застаўся значан.

*30/I.* Кузьма з'ездзіў дамоў і прывёз маці к сабе ў Балота (Ксенем, Камунацэнтр, Менск.— *Рэд.*). З Чорнай Пушчы ў Камароўку вёз яго Раман на сваёй кабыле. На станцыю завёз Кузьму і матку Пракоп[1]. Ехалі і баяліся бандытаў, бо тады ў Чорнай Пушчы арудаваў бандыт Пятак.

Маці першыя дні ў Кузьмы ляжала, балела ёй галава і бок, і стылі ногі. Кузьма павёў яе да доктара Палонскага. Палонскі знайшоў у яе склероз, агульнае аслабленне арганізму. Сказаў, што ёй няможна працаваць, няможна нічога цяжкога есці, піць можна толькі патрошку, а хмельнага і ў рот не браць (яна ўсё жыццё ніколі ў рот хмельнага не брала). На бóльны бок сказаў прыкладаць кампрэсы.

*3/II.* Быў Кузьма з маткаю ў праф[есара] Мелкіх. Палонскі знайшоў у яе агульны склероз, а праф[есар] Мелкіх сказаў: «Аслабеў арганізм».

Пабыўшы ў дактароў, павесялела і захацела скарэй ехаць удвору. Казала, што ёй ужо нічога не баліць, а Маўра будзе гневацца, калі яна к панассю не прыедзе, казала, што ў дварэ на печы можна паляжаць, бок пагрэць. Мусіць, казала няпраўду, што ёй палягчэла, а прост баялася памерці не ў Камароўцы.

Кузьма яе прыезд «выкарыстаў»: прывёў Аладава, і той запісаў ад яе колькі мелодый. Толькі пяяць ёй было цяжка.

Пабыла ў Кузьмы тыдні два.

Кузьма купіў удвору самавар за 25 руб. і пісаў братом, што купіць малатарню, і каб садзілі сад. Лаўрыку пісаў, што трэба агарадзіць Марынкіну магілку.

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «30/I.~Пракоп».— аўтарская паметка: «Ганна ў гасцёх у сына Кузьмы».

*12/III.* Былі ў Кузьмы Пракоп і Маўра. Казалі, што маці, прыехаўшы з Балота, хварэла: прастудзілася ў новай Раманавай лазні [1]. Казалі, што нанялі Насту з Івон. Хадзілі яны к доктару Палонскаму. Палонскі сказаў, што ў Маўры малакроўе і ўпадак жыўлення, а ў Пракопа — неўрастэнія і мігрэні. Хадзіў Кузьма з Пракопам глядзець малатарню, але пакуль што не купілі.

Вялікім пастом, у самы разліў, памёрла Алёна Саўчыха. Лажком вязлі, на Стахванавым Батуры кані, бераж-ком, выбіралі месца, каб праехаць [2]. Калі Ганна Стахваніха к ёй прыйшла, дык яна ўжо не гаварыла. Дарка гукае-гукае, а яна ўжо нічога не адгукаецца: ляжыць і ляжыць. Больш і не адгукнулася. Хадзіла Ганна к ёй святам нейкім: далёка было хадзіць к ім на шырокую паласу.

Вясною Нікіпар Хліманёнак разламаў гумно свайму брату Міхалку, калі Міхалка быў на талацэ ў сястры Праскоўі, што ў Белым Маху [3].

Памёр Панас Лакоцкі, прымач Хомчыхін, у Паляніцы (сам ён родам быў з П'янава). Памёр ад тыфусу.

*2/V* пісала Вара з Варны, што едзе ў Кучку. Лаўрык з маткаю меліся выехаць у чацвер (7/V). Лаўрык у Камароўцы рабіў клумбы і г. д. 4/V была ўжо Вара ў Пятроўцы. Па смерці А. Ф. Фартунатава выбралі Лаўрыка ў камісію па разгляду яго літар. Ехала Вара з Шапаваламым і гаварыла пра Лаўр[ыка] і пра сябе ў трэцяй асобе.

*3/V* пісаў Лаўрык з Камар[оўкі], што ў чацвер прыедзе ў Менск. Маці цяпер палепшала, а перад вялікаднем нават не магла хадзіць. Ёй хацелася працаваць, яна паднімала цяжкое, па мякіну на гумно хадзіла, усё тупала. А калі яе ўгаварываюць, яна крыўдзілася. Бацька быў троху здаравей. Лаўрык з ім рабілі леску і парканчык каля вуліцы. «Цяжка ўжо бацьку пілаваць і вазіцца з паленнем»,— думаў Лаўрык. Улетку хацеў бацька пабыць у Кучцы ў Марынкі... Пракоп на полі ўвесь час. Гной вазілі. Пшаніцу сеялі. І лён. Маўра — худая, бледная і мала аб сабе клапоціцца, асабліва аб ядзе. Хлопчык здаровы, маўклівы, сур'ёзны. Вара ў суботу паехала ў Кучку да сваіх селекцыйных капустаў. Лаўрык вярнуўся з Чорнай Пушчы

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «12/III.~лазні».— аўтарская паметка: «Пракоп і Маўра ў Кузьмы».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Вялікім~праехаць.— аўтарская паметка: «Смерць Алёны Саўчыхі».

[3] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Вясною~Маху».— аўтарская паметка: «Камароўскае жыццё (вясна)».

(вазіў яе), мыўся ў новай Раманавай лазні, гасцяваў, еў, слухаў, глядзеў...

*10.V.* Даехаў Лаўр[ык] у Маскву добра. Дакучыла дарога. У Вары ўсё было добра. Працавала з кап. і цыбуляю.

Сёння быў на Ваганькаўск[ім] могільніку. Купіў за 250 руб. моцную аградку з тоўстых жалезна-чыгунных прутоў і глыбу граніту.

Напіс хацеў узяць з яе дзённіка. Раіўся і пісаў Кузьме, затрымаў працу.

*Марына Батура. 29.VIII. 1902—19.IX.1922.*

*«Усё зелянее, расце, жыве і змагаецца за жыццё, як некалі змагаліся і вы».*

І яшчэ (на Паўлюковай магілцы) «Не згінула змаганне ваша: жыве Беларусь!»

Ён не ведаў добра, ці на купалле, ці на галав[арэза] радзілася Марыначка.

*26.V.* Помнік зроблен, напіс выразан.

У пятніцу, 29.V., уранні меліся паставіць у Галавіне. Лаўрык меўся гадоў праз два пакласці пліты.

Жукава магілка яшчэ не апала: відаць, труна яшчэ не згніла. Суда над вагонаводам яшчэ не было. «І што, калі прагоняць са службы або пасадзяць у турму, а ў яго дзеткі?» — разважаў Лаўрык.

Дату нарадж[эння] Марыны (25? VIII 1902) узяў з дакументаў, якія ўзяў у заатэхн[ічным] інст[ытуце].

«Нядаўна тры дні ўзапар сніў маму і Марылю — праведываў, што яны памёрлі. Адчуваў такі жаль, як ніколі ў жыцці. Марылю ўва сне ўсё шукаю. Знаходжу, але раптам аказваецца, што ці яна мёртвая, ці не хоча ісці са мною, папракае, што не даглядаў, і яна ад мяне ўцякла».

На могілцы нейкі гад адламіў на бярозцы верхавіну.

Страціў 4 дні на працу «Экан[амічны] профіль». Выязджаў на месца — маск. (маскоўская.— *Рэд.*) вёска цікава, але не прыгожа.

Граза была насунулася, гром грымеў — прайшло. Усё зялёна, лёгка, пахуча. Зараз ідзе глядзець «Мандат» Мерхольда.

Выклікаў следчы кааператыўшчыкаў. Прад'явіў абвінавачанне членам па 108 арт., а Раману па 113 арт., за растрату 800 пудоў жыта. Пашку на 400 пуд. і Івану Мікіцёнку на 33 пуды. Следства было яшчэ не закончана.

Раннія засевы вікі і лёну прыйшлося адворываць, бо ад гарачыні яны не ўсе паўзышлі, а што ўзышло — пасла мошка. Потым перападалі дажджы.

Была вялікая бура з градам. Град значна пакалечыў жыта. Ураганам знясло палавіну страхі з Паўлюковага Андраёнка гумна, а ў Стахвана Батуры абярнула лескі дзве кватэркі.

Камароўка наняла грабароў капаць канавы ад Палянкаўскага поля да Гузёнкі і ад Боцікаў пад Камароўшчыну.

Сакратар П'янаўскага сельсавету Амільянаў, калі ішоў з сельсавету, дык зайшоў у гай, а там гналі самагонку. Ён выпіў і ўваліўся ў яму, куды злівалі выгнаную брагу, і абшпарыў сабе ногі. А распусцілі чуткі, што захварэў на тыфус і паехаў лячыцца ў Дрыбін. У Раздзеле ў такую самую яму з брагаю ўваліўся хлопчык, пажыў тры дні і памёр.

Знайшлі зладзеяў, што абакралі целяпеніцкі кааператыў: усе яны — маладыя хлопцы з Крутой.

Міхалку Піліпёнку прысудзілі плаціць Насце па 3 рублі ў месяц.

*30/V*. Кузьма з жонкаю і дзяцьмі, і з Муляю, прыехалі ў Чорную Пушчу [1]. Як прыехалі, было ўжо відна, а ўсё так зялёненька, і зязюлі кукуюць, і жаўранкі пяюць, і салавейкі шчабечуць. Кузьма ўзбудзіў Якіма Іванавіча, і Як[ім] Ів[анавіч] пайшоў шукаць каня на начлезе, доўга шукаў і не мог знайсці. Паехалі з Ляксеем. Усё было вакол зялёна, ціха, араматна... Так і ў Камароўцы. Ехалі міма новага камароўскага могільніка: там прыбавілася некалькі белаватых, новых, крыжоў... Там ужо ляжала і дзядзіна Кузьмова — Алёна...

Прыехалі дамоў. Дзеці цэлы дзень насіліся з хаты на вуліцу і назад, і Лявох скаціўся з ганку і пабіў нос. Але як госць — доўга не плакаў. Дома — усе здаровы, мух многа, град пабіў троху жыта, грабары капаюць канаву, яблыкі будуць, усё зялёна і ціха...

З Камароўкі Кузьма выехаў з Раманам і Гашкаю. Ехалі ў Балота. На другі дзень меліся яны паехаць. У Гашкі было малакроўе, плеўрыт, (хворае) сэрца, але ўсё патрошку.

У дварэ купілі тры рамчакі. Асадзілі 2 раёў.

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «30/V.~Пушчу.— аўтарская паметка: «Кузьма з сям'ёю ў Камароўцы».

Улетку прыязджаў у Камароўку Лаўрык, пабыў некалькі дзён. Чыталі з Кузьмою «Прыбытак».

Май ці чэрвень. Маці была ўжо ў дварэ. Чула сябе добра. Краскі і дрэўцы прыняліся ўсе, толькі ліпка — не.

Кузьма ездзіў на настаўніцкія курсы ў Клімавічы.

Улетку прыязджала ў Камароўку шумякінская паня. Кузьма бачыў яе першы раз [1]. Прывазіў яе Трышка Вусцінкін. Шумякінскі настаўнік хацеў адабраць у пані зямлю (3—4 га пры сядзібе). Трышка хацеў паступаць на рабфак.

І пляменнік панін ягліўся на гэтую зямлю (сын паніната ссыльнага брата і чалдонкі). Брат панін быў у ссылцы чыноўнікам, там і памёр. [...]

*7/IX.* Лаўрык быў у Камароўцы дні два, меўся ехаць адтуль у Кучку [2]. Пісаў Кузьме:

«Маўра павінна радзіць. Пракоп хрысціць не думае. А бацькі, каб хрысціць. Хто каго пераможа?»

«Маці казала: «Як паехалі яны, скушна нам было. І кошачка каўкала доўга, што няма дзяцей. Цяпер яна ўжо стала парадашненькая і праворненькая. І Васілька рад і бегае ў бацінках... Наста кланяецца і рада, што гасцінца ёй далі».

«Маці чуе сябе вельмі бадзёра. Але тупае за працаю штохвіліны, як і раней. А тут яшчэ Маўрачка хваравітая».

«Тата троху пацішэў. Перарабіць жа яго характар нішто не можа...»

«Пракоп схудзеў, хоць малатарня дае выспацца».

«Раман зусім змізарнеў. Шмат працы. Худзенек і Коля — невядома чаго. Раман кажа, што ад злосці. А я даводзіў Раману, што дзетак штурхаць нельга: прыклад — наш тата і наша сям'я».

«Вучыць Раману дзяцей няма дзе: у Горадзе норма для нашага сельсавету запоўнена, а ў Целяпенічах школа зачынена. Дык ён думае — у Нізінках».

Клець новую прыбралі, старую разарылі, а на месцы старой клеці будавалі [3] нарожнік. Стаяла дрэннае над-

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Улетку~раз».— аўтарская паметка: «Шумякінская паня».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «7/IX.~Кучку».— аўтарская паметка: «Лаўрык у Камароўцы».

[3] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Клець~будавалі...» — аўтарская паметка: «Нарадзіны Яначкі».

вор'е. Ішоў снег, ездзілі на санях, потым ізноў стала гразь.

4 лістапада нарадзіўся ў Пракопа і Маўры сын. Пісаў Пракоп Кузьме: «Дзіця ні ксціць, ні акцябрыць не будзем, мама з татам не супярэчуцца». Дзіця было дужа непакойнае, не давала спаць. Запрашаў Пракоп Кузьму на «сямейны баль», на 8 лістап[ада].

У Пракопа з бацькам былі вельмі сур'ёзныя сваркі за ксціны[1]. Бацька дужа скандаліў і лаяў Пракопа чым толькі хацеў, пагражаў зарэзацца і разарыць двор. У Пракопа саспела была думка кінуць двор і пайсці служыць. Ён завёз быў жонку ў Віры... Потым усё гэта ўладзілася, і яны жылі дружна. Бацька прасіў выбачэння ў Пракопа і казаў, што больш гэтага не будзе. Прычыны і корні зла былі ў самагонцы.

29 лістапада быў у іх той «сямейны баль». Бацька вёў сябе вельмі добра. Людзей было дужа многа, і ўсе чулі сябе добра з нейкім асаблівым настроем (як здавалася Пракопу). Толькі дзядзька Паўлюк Ваявода ашукаўся: выправіў Машку кумою і Дадона з жонкаю, а сам астаўся ў двары, каб прыехаць з кумамі. Ён крэпка верыў, што дзіця будуць хрысціць. Бегаў разы тры к папу, пытаўся, ці былі кумы з Камароўкі. Але дарма дзядзька сядзеў і чакаў... А ў Камароўцы тым часам гулялі (і дзядзька дужа шкадаваў, як казаў пасля Аніка).

*20/XII.* Стахван з Ганнаю ездзілі ў Кучку к сыну Лаўрыну, а потым — у Балота, к сыну Кузьме. Пісаў Пракоп Кузьме, каб угаварыў матку застацца на даўжэйшы час, бо яна вельмі многа працавала, як прывыкла даўней. А на бацьку Пракоп ізноў жаліўся. Бацька п'янстваваў, чапіўся і лаяўся за ўсякія драбніцы, што таксама адбівалася на яе здароўі. А да Пракопа так чапіўся п'яны, што Пракоп не мог ужо болей цярпець. Абзываў Пракопа гультаём, упікаў яго, што нібы негаспадарліва траціць грошы, якія прысылаюць Кузьма і Лаўрык. Прасіў Пракоп рады ў Кузьмы, што яму рабіць. Пракоп працаваў яшчэ і ў каап. т-ве, атрымліваў 19 р. 50 к.

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «У Пракопа ~ ксціны».— аўтарская паметка: «Сваркі ў Пракопа з бацькам».

Каляды 1925—26.
Пераезд у Нізінкі.
Масленка.
Вясна.

Вясною ў лесе ашалела ваўчыца і пакусала сабак[1]. І потым ад шалу прапала ў Камароўцы тры каровы. У Палянцы прапала дзве каровы, два кані, пяць свіней. У Забор'і — чатыры кані. У П'янаве — дзве каровы. Усяго ў П'янаўскім сельсавеце было забіта 6 канёў, 8 кароў і колькі свіней. Жывёлу прыстрэлівалі і закапвалі глыбока ў зямлю. У Камароўцы ашалела карова ў Рамана Батуры, у бацькі яго і ў Мархвы Чаркесіхі. У бацькі прыстрэлілі карову 8/VI. Людзі, якіх пакусала шалёная жывёла, хадзілі і ездзілі на ўколы. Уколы ў Целяпенічах рабілі 45 чалавек.

Раман прывазіў прышчэпку з Клімавіч. Яго сям'і ўколы былі закончаны да 8/VI, а Пракопу меліся рабіць да 21 чэрвеня. Раман паехаў у Клімавічы, каб адлажыць суд, пакуль яму будуць рабіць прышчэпкі.

9 чэрв[еня] Кузьма хадзіў на слабаду, на кірмаш, купіў паясок, бачыўся з п'яным В. Журам і пазычыў яму тры рублі. Ад яго даведаўся пра шал.

Перад вялікаднем маладыя хлопцы забілі настаўніка Шэршня, каб адабраць у яго грошы[2]. І паповіч, сын харошаўскага папа, забіваў. Забівалі ўтраіх: Рогаў з Нівішча і Дзяніс Платанёнак з Нівішча. Усіх забралі. Ён на кані з Гораду ехаў, грошы настаўнікам вёз. Хлопцы ў ляску яго спынілі. Ён думаў: жартуюць.

Да пачатку чэрвеня бульбу адсеялі ўсю, авёс адсявалі. Стахванавы вывезлі гною пад яр каля 100 вазоў. Турнэпс сёлета сеялі гаспадары тры ў Камароўцы. Было ўжо тры веялкі (Карпа, Піліп і Батуры).

Міхалка Піліпёнак ужо плаціў Насце Грышкоўне. Аддаў 36 рублёў.

У лісце ад 26 чэрвеня пісалі Кузьме з Камароўкі (ад імя маці):

«Цётка лысалогаўская прыязджала к нам. Казала, што будзе прыязджаць Хвядос. Дык яны ў вялікай хаце печ

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Вясною ~ сабак».— аўтарская паметка: «Шал».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Перад ~ грошы».— аўтарская паметка: «Забойства».

разбілі ды невялікую галандку склалі. А яго няма, дык цяпер сядзяць у маленькай хатцы. Нявеста тая, Крылова, к ім прыязджала».

Улетку Кузьма ездзіў у Сібір. Праездзіў месяц, вярнуўся вельмі хворы на жывот. Сям'я яго жыла лета ў Нізінках.

Рамана, разам з Лапіцкім і Лацкевічам, абвінавацілі ў спробе даць хабар і прыўлашчэнні грошы таварыства, якіх ён фактычна не прыўлашчываў, а зрабіў няправільны выдатак на 397 руб. А яшчэ быццам бы ў іх была мэта такая: купіць сена па 47 к., а дагавор напісалі па 50 к. на 30 000 пудоў, а розніцу па 3 кап. з пуда падзяліць між сабою. Але не зрабілі, бо пасварыліся. І Лапіцкі і Лацкевіч усю віну стараліся ўзваліць на Рамана. За работу на сеназагатоўцы таварыства заплаціла Раману 300 руб., але яго выдаткі не сумясціліся ў гэтай суме, і яму прыхадзілася накладаць з гаспадаркі. На 21 верасня была назначана справа па растраце ў Харошаўскім каапературыве «Беларусь». Раман вельмі баяўся, каб яго не пасадзілі за абедзве справы разам. Кузьма даў яму 120 р. на адваката.

На рабфак прынялі Мулю і Трышку, але без стыпендыі, на свой кошт. Рагавы паступіў у Магілёў у каморніцкі тэхнікум. Дзяніс паступаў у сельскагаспадарчую акадэмію, прарэзаўся, паехаў прасіць у Балота.

У пачатку жніўня атрымаў Кузьма ліст з Сахаліна, ад Хвядоса Рагавога. Ліст быў пісаны 20 чэрвеня,— значыцца, ішоў ён безмаль паўтара месяца. Пісаў Хвядос, што пераехаў на Сахалін у красавіку месяцы гэтага году, па сваёй ахвоце. Прыехаў туды 24 красавіка. Пісаў аб Беларусі, аб тым, што спраўдзіліся Кузьмовы імкненні («хоць і не на ўсе 100 %»), а яго імкненні пацярпелі крах. Ён застаўся беспартыйным. Жанаты. Жонку завуць Дар'я Лаўрэнаўна. Дужа цікавіўся Нізінкамі, акадэміяй. Яму пісалі з Белага Боку (пляменнік?). І прасіў прысладь зямельны кодэкс БССР, цікавіўся, наколькі ён адрозніваецца ад кодэкса РСФСР. Кодэкса яму Кузьма не паслаў, таму што спачатку не знайшоў у продажы, а потым, калі выйшла новае выданне, дык каштавала яно рублёў пяць, і Кузьма пашкадаваў грошы. «І нашто яму ведаць гэтую розніцу ў кодэксах,— думаў Кузьма,— абойдзецца ён і без гэтага ведання».

14/IX быў у Нізінках Церах калюжанскі, прыязджаў да

свайго Трышкі, быў у Кузьмы. Кузьма вадзіў яго на святкаванне 20-годдзя беларускай легальнай прэсы, у тэатр акадэміі.

Церах казаў, што быў у Камароўцы і што хлопчык Пракопаў папраўляецца. А, пэўна, і не цікавіўся здароўем гэтага хлопчыка, бо Пракоп пісаў зусім іншае. Пракоп ездзіў з ім да доктара Фрумкіна. Фрумкін сказаў, што ў хлопчыка худое цела ад хваробы жывата, дзеля чаго ў яго пачало балець яшчэ левае лёгкае. Маці не магла прыехаць к Кузьме, бо нельга было адысці ад Яначкі. І яна і Маўра ў поле не хадзілі, а даглядалі дзяцей і гаспадарку,— пісаў Пракоп Кузьме.

1 кастрычніка пісаў Пракоп Кузьме:

«Прычына майго маўчання — тое гора, якое я перажыў апошнія часы [1]. Работы многа, Янка хворы, бацька п'яны, сварлівы, дэспатычны, шкадаваў мне каня, калі я вазіў Янку к доктару, кажучы: «За жонкаю каня не прывёў, а майго заганяў». Апошні тыдзень свайго жыцця Янка нічога не еў, толькі піў ваду ды цмактаў скарыначку хлеба, а сяння ўранні яго не стала — пагас, як свечка. Максім з Карпаю зрабілі труну, Раман (брат) з Міхалкам Леванёнкам выкапалі яму, і а чацвёртай гадзіне яго закапалі. Як няслі Янку на кладзішча, бацька нёс вечка ад трункі і выкрыкваў свае абыклыя п'яныя спевы. Цяпер, як я пішу ліст, ён ляжыць п'яны і кідае ў мяне зняважлівыя славечкі. Як толькі троху агоўтаемся пасля смерці Янкі, мама прыедзе к вам і ўсё вам раскажа папраўдзе. Выбачайце, што я не пісаў, а можа, і цяпер не буду часта пісаць, бо жыццё маё цяжкае, беспрасветнае...»

На пакрова ездзілі ў Нізінкі і былі ў Кузьмы маці, Пракоп з Маўраю і Раман з дачкою Аксанкаю. Пракоп меўся купіць жаробачку, але не знайшоў, як хацеў. Маці засталася пагасцяваць у Кузьмы.

Ураджай у Камароўцы быў добры, а найбольш на бульбу. Корань-плоды павырасталі большыя, чым на выстаўцы ў Нізінках. Капуста вырасла таксама дужа цікавая. [...]

Увосень атрымаў Кузьма ліст з Ямы, пісаны 14 верасня, ад Васіля Рагавога. Вось што ён пісаў: «Дарагі Кузьма! Шчыра дзякую вам, што Вы мне пасобілі. Н. Н. Ра-

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «1 кастрычніка ~ часы».— аўтарская паметка: «Смерць Яначкі».

машкін казаў: «Вы будзеце прыняты. Мы вас будзем мець у віду». Крыўляка і Рамашкін перадавалі Вам вялікае прывітанне. І казалі: «Няхай не турбуецца». Я казаў Рамашкіну: «Ён пасцясняўся Вам напісаць пісьмо». Дык Рамашкін аж за вушы схапіўся, кажа: «Гэта ён думае нешта наконт Анікі Ваяводы. Я век з ім у добрых адносінах, няхай нічога не думае». Далей казаў: «Пра стыпендыю не клапаціце. Пакуль — кандыдат, а там далей убачым». Так што я Вас вельмі прашу, каб Вы пагаманілі наконт гэтай справы (ці лістом, ці вусна). Крыўляка казаў, што будзе ў блізкім часе ў Менску на нейкай канферэнцыі. Наша гаспадарка ўжо пабяднела, стала адна карова. З гарачым прыветам — Васіль Рагавы».

Ліст быў самы пісьменны з усіх лістоў, якія атрымліваў Кузьма ад сваіх маладых родзічаў, што вучыліся пісаць у гады рэвалюцыі. І характар пісьма — незвычайна падобны да Хвядосавага, ува ўсім — чыста, адразу Кузьма нават падумаў, што гэта ад Хвядоса. Тая ж чоткасць, цвёрдасць, з некатораю вуглаватасцю, але і з прыемнымі акругленнямі дзе-нідзе. І па-беларуску.

2/XII атрымаў Кузьма яшчэ адзін ліст з Аляксандраўску на Сахаліне ад Хвядоса, пісаны 29 верасня. Значыцца, ішоў ліст 33 дні!

## [19]27

23 лютага у г. Ычы-Вамілк разбіралі справу Раманаву за сена. Адклалі за няяўкаю сведкі Туман-туман-па-даліне. Абвінавачванне на Рамана ўзвёў яго былы хаўруснік Лапік.

11 красавіка паслаў Кузьма ліст Хвядосу Рагавому на Сахалін і № «Савецкай Беларусі» (з партрэтам Лаўрыка).

Забралі Цітка ў Харошым, бандыта. Усе пачалі гнаць самагон. Пра вайну пайшлі ўсякія чуткі. Казалі людзі, што вайны не мінаваць і скора будзе. Ратуй нас, божа, ад гэтага няшчасця... У Каменцы, як растаў снег, знайшлі забітага чалавека каля таго месца, дзе гналі самагонку. Хто забіў — невядома. Многія людзі хварэлі на прастуду: баліць глотка, мучае насмарга. Калі адзін у сям'і захварэў, то і ўсе, адзін па адным, захварэюць на гэтую ж прастудную хваробу. У Асмолавічах зарэзалі чалавека. У Нівішчах (Старыне) згарэў двор. Казалі, што ад самагону.

Вясна была дрэнная: да паловы мая нічога не сеялі, сталі доўга вялікія халады. Былі дажджы, бура.

З 5 сакавіка Пракоп зарокся піць гарэлку. Напярэдадні былі ў іх госці, ён упіўся — і дужа балела яму галава.

20 мая радзіўся ў Рамана сын Славік [1].

## З Кузьмовых нататак

*7 чэрвеня.* Учора ўвечары была вялікая навальніца. Ласка (яна ж Міла, Лёля.— *Рэд.*) баялася. Сядзелі ў маім пакоі маці, я і яна і гаманілі. Паламіла многа ліп у парку. Сяння паўдня было надвор'е яснае і гарачае, а потым хмарна і дождж. Маці ўчора казала, што Маўра на радуніцу пасадзіла красачак на магілцы ў Яначкі. Маці хоча, каб яе пахавалі побач з Яначкам. Успамінала, што памёр Яначка ў Пракопа на плячы. «Кладзі ты яго, дай ты яму спакойна адысці»,— казала тады Пракопу. Маці троху падужэла, сяння ўжо не ўцерпіла і пабыла ў Горадзе ў цэркві, а ўчора пайшла ў Горад на кірмаш і трапіла пад дождж. У Кучку паедзем, яна і я, у аўторак 14 чэрвеня.

*15—17 чэрвеня* былі з маці ў Маскве.

На Марынкінай магілцы... Як сумна, але войстрасць пачуцця ўжо прытупляецца. На магілцы — незабудкі, маргарыткі і казелец (сіняе, белае, залацістае). Маці начавала адну ноч у манашак. На магілцы пілі гарбату. Пакінулі красачак і чарэшань. Як мне сумна! Спыняліся ў Цэнтральным доме селяніна.

*28 чэрвеня.* Паведамляюць, што маці прыехала дамоў шчаслівая. З работаю ўправіліся. Засеву хапіла. Ураджай паказвае добры. Мае быць многа яблык. Карова, што купілі, цяліла быка.

Улетку Ласка і Вара ездзілі на Каўказ. Ласка выехала каля 11 жніўня і вярнулася ў пачатку верасня. Прыехала змучаная, дражлівая, нервовая, замкнутая. Што ёй было такое — невядома.

Улетку Міла, старэйшая дачка Івана Фаміча, была ў Нізінках, у маткі свайго мужа. З ёю былі і яе дзеці: Ваня 7 г. (названы імем дзеда, Івана Фаміча) і Маня 4 г. (на-

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «20~Славік».— аўтарская паметка: «Нарадзіны Славіка».

званая імем бабы, жонкі Івана Фаміча)[1]. Міла была ў Кузьмы, з дзяцьмі, і Кузьма са сваімі дзяцьмі хадзіў да яе.

Потым прыехаў і яе муж, настаўнік Чынгісханаў, былы прапаршчык, а цяпер савецкі актывіст. І паспрачаўся далікатненька з Кузьмою па беларускаму пытанню.

Потым прыехала і жонка Івана Фаміча, з Мураю і з чацвёртаю дачкою, Наляю. Але Наля не спадабалася Кузьме, а ён ёй. Трэцяя іх сястра была замужам у Калініне. Арсені скончыў інстытут і зарабляў да 200 р. у месяц. Толя збіраўся паступаць ва універсітэт.

*28/VIII*, у нядзелю прыехалі ў Камароўку Кузьма, дзеці, Маня (засталася ў П'янаве) і Бухарка (на паляванне). Кузьма прывёз з сабою і паставіў радыё — чутна было надта добра[2]. Лявох троху скандаліў, як клаўся спаць, бо ў хаце было поўна радыёаматараў (Лявоху было 5 гадоў).

Надвор'е стаяла добрае. Былі ў полі. 30/VIII хадзілі ў лес. 31/VIII ехалі назад. І маці паехала. Пахапаліся, прыйшлося доўга чакаць на станцыі. Ішоў таварны і паддаў жару (думалі — пасажырскі, за лесам не відаць), але Кузьма моцна верыў свайму гадзінніку. Радыё пакінулі ў Камароўцы.

Маці пабыла ў Кузьмы троху.

*27/VIII* Раману ізноў трэба было з'яўляцца ў суд, ужо ў Варну, у справе сеназагатовак.

Сялянскім дзяцём не было дзе далей вучыцца[3]. Журналіс ездзіў у Нізінкі прасіць Кузьму, каб Кузьма даў ліст у Целяпеніцкую сямігодку. Кузьма напісаў, што Журналіс першы даваў яму рэвалюцыйную літаратуру, і яго сына прынялі.

*1/X* пісаў Пракоп Кузьме: «Ад імя таты і мамы, а таксама і сябе просім пасобіць Раману Казлу ўстроіць сына Васіля, бо ён чалавек цёмны, не ведае, куды пайсці і каго прасіць. А Журналіс хваліўся, што яго сына прынялі па твайму пісьму. Таксама прынялі сына Званцова па пра-

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Улетку ~ Фаміча»).— аўтарская паметка: «Сям'я Івана Фаміча».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «28/VIII ~ добра».— аўтарская паметка: «Першае радыё ў Камароўцы».

[3] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Сялянскім ~ вучыцца».— аўтарская паметка: «Школы».

тэкцыі Максімава. Аб настроі і думках Раманавых пісаць не буду, бо ты сам можаш ведаць, што думае цёмны селянін у такіх выпадках...» Было прыкладзена і даволі непісьменнае пісьмо Васіля Казла, Раманавага сына. Кузьма і за яго прасіў, напісаў ліст.

Вясковым дзяцём не было дзе ўчыцца далей, бо местачковых перавадзілі з класа ў клас, і з 4-га ў 5-ты, а вясковым з пачатковае школы ходу не было. І ў местачковых то брат, то сват займалі дзе-небудзь у горадзе пасады і дапамагалі.

Калі прыязджаў Панас, прывазіў валенкі, Кузьма ляжаў хворы. І валенкі аказаліся цесны (ці наогул не спадабаліся Кузьме, ці грошы пашкадаваў). Кузьма ляжаў, а Панас сядзеў каля яго і вясёла гаманіў, хоць і шкадаваў, што не дагадзіў валенкамі. Апавядаў аб лысалогаўскіх шапавалах. Захадзілі яны са сваімі брындамі на Украіну, Паўночны Каўказ, у Малдавію і Аўстра-Венгрыю. Бралі замежныя пашпарты. І бывалі нават у Нямеччыне. Там ім немцы дужа добра плацілі, але спаць клалі з свіннямі ў хлеве. Таму лысалогаўцы не любілі туды хадзіць. І хацеў Панас, каб Кузьма калі-небудзь запісаў ад яго іх шапавальскі жаргон. Кузьма так і не сабраўся.

## З Лаўр[ыкавых] нататак

«Быў на могільніку якраз у гадзіну, калі не стала Марылі. Ужо пяць гадоў. Усё далей, далей... Дрывянее памяць і вастрата адчування. Ты чуеш усё глыбей, асабней, бо маўчыш, адзін з сабою, ужо колькі год...» (пра Кузьму).

Пракоп пісаў Кузьме: «Усе пачалі гнаць самагон. Нашаму двару ізноў гора. Бацька ізноў будзе напівацца і ганяць нас. Адзін раз ужо пакрычэў даволі».

У свята маці пайшла ў Харошае. Казала, ішоўшы, Пракопу, каб напісаў Кузьме, каб яшчэ раз прыехалі да іх.

Дужа дакучалі радыёслухачы (была адна пара навушнікаў). Потым радыё «замарылася».

Увосень ездзіла Маўра ў Нізінкі рабіць сабе ўколы. Была ў Кузьмы.

Пасадзілі сад. Асабліва былі рады,— пісаў Пракоп,— бацька і маці. У садзе (на вышнім гародзе) знайшлі чалавечы чэрап (як гарадзілі леску). У верхніх санках былі яшчэ цэлы зубы. Прышчэпак купілі на пакрова ў Нізінках, Пракоп быў.

У самым канцы лістапада выбралі Кузьму з праф. Фраловым і студэнтам Ляўкевічам ехаць у Менск вітаць XI партыйны з'езд.

[19]28

Зіма была дужа сцюдзёная. Ад лютых марозаў памёрзлі сады.

У лютым былі бацькі ў Лаўрыка ў Ксенеме, а едучы адтуль заехалі да Кузьмы. 2-га сакавіка заехалі да яго. А Міле Кузьмісе якраз трэба было ехаць лячыцца ў Ксенем. Бацькі поставалі. Маці хадзіла ў царкву, спавядалася і прычасцілася. Міла рыбіну ім зварыла. Маці рыбіну гэтую дужа ўпадобіла. Спярша жыжачку паелі, а тады рыбіну. Міла паехала ў Ксенем лячыцца 2 сакав., а яны пабылі яшчэ дзень і 4-га сакавіка, на золку, паехалі. Кузьма праводзіў іх да фурмана.

У двары бацька спёк сабе галёнку аб гарачае жалезнае вядро ў лазні. Прыйшоў у хату, крычыць: «Нагу спёк!» А як даведаліся людзі, што аб вядро, дык што нахахаталіся ля яго: хоць бы аб цугун, што ваду грэлі, ці аба што, а то аб вядро... Але балела яму галёнка дужа, напухла, чырвона стала ўся нага ніжэй калена, мяккая часць. Доўга ірвала нагу. Усім лячылі — не лепшала. Мазалі. Цячэ і цячэ. Тады прыйшоў раздзельскі Салянік (Язэпаў зяць) і параіў памазаць маззю, што гарфу мажуць,— яна дужа сушыць. Памазалі разы два — і высахла.

4 сакавіка быў сход Раздзельскага каапэратыву. Пастанавілі зліцца з Целяпеніцкім. Пракоп застаўся без работы. Ён быў засмучоны. Як далей жыць? Рабочае сілы ў сям'і мала, лішніх прадуктаў для рынка ў гаспадарцы таксама няма, а трэба жыць, трэба карміць сям'ю, плаціць падатак, наймаць дзяўчыну, бо маці стара, жонка хвора. Да гэтага часу ён атрымліваў 30 р. у месяц, «не траціў іх абы-куды, не прапіваў, і то нічога не заставалася, прыходзілася пазычаць» у Кузьмы, а як далей? Выхад бачыў ён такі: або служба, або сварка з бацькам за грошы, недаяданне і лапці. Ён лічыў, што павінен мець пабочны заробак яшчэ не менш 5-ці гадоў, пакуль падрасце сад... Так пісаў ён Кузьме і прасіў прыслаць, калі можна, 50 руб. расплаціцца за леску. А то меўся ўзяць у крэдыце.



Сын Максіма Гарэцкага — Леанід.
Загінуў 18 лютага 1944 г. у баях пад Ленінградам.

У палове сакавіка надвор'е стаяла яшчэ сцюдзёнае, вясны яшчэ мала было відаць. У пачатку красавіка было дужа дрэннае сцюдзёнае надвор'е. Пачалася была вясна, ды ізноў вярнулася зіма. У Каменцы задавіўся Янка Бык, на прозвішча Галаварэз, што з Раздзелу. Ад дрэннага жыцця. Ён некалькі разоў ужо рэзаўся, ды не дарэзаўся, затое і празвалі «Галаварэз».

27 красавіка памёрла Эм[ілія] Ант[онаўна]. З месяц дужа хварэла. На вялікадне яшчэ пякла Вал. у В. кумпяк [1]. Здароўе было дужа надломлена. Паводле дактароў, памёрла ад катару кішак. Пахавалі побач з усімі іхнымі нябожчыкамі, паводле яе волі.

Вясною прыходзіў Ягор Мікіцёнак у Нізінкі купляць карову. У лапцёх. Нясмелы. Мыўся з Кузьмою ў акадэмічнай лазні. Гутарылі пра гром. Пазычыў у Кузьмы 5 руб.

Спекуляцыя ў вёсках хлебам. Да 10 р. за пуд. З'явіліся фальшывыя грошы. З'явілася чарга ля крам па хлеб. Нават начавалі... Даўно гэтак не было.

Набебін — патомак шведа. Быў у Амерыцы. Успамінаў Сянкевіча. Як былі яны ў Саюзе індустрыяльных рабочых свету, змагаліся з папом. Калі даведаўся ад Кузьмы, што Сянкевіч быў у Нізінках, дужа шкадаваў, што не ведаў тады, а то з'ездзіў бы, каб убачыцца. Ад Набебіна Кузьма даведаўся, што Сянкевіч — доктар, а то і не ведаў бы.

У пачатку мая Кузьма з сваёю дачкою Таццянкаю прыязджаў у Камароўку, прабыў з тыдзень, сад маладзіў.

### З Кузьмовых нататак

Быўшы ў Камароўцы, я хадзіў з малымі дзяцьмі ў лес, у расцяробы. Дзяўчаткі пяялі мне песні. Грызлі лазу, шукаючы, якая адсачала на дудку.

У Трахімёнкаў хацелі ўкрасці кароў. Адну ўжо вывелі з пуні, а другая зараўла, дык зладзеі, баючыся, што іх пачуюць, кінулі і ўцяклі. Хто краў — невядома. Іван Тра-

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «27 красавіка~ў В. кумпяк».— аўтарская паметка. «Смерць Эм. Ант.».

хімёнак біўся з пляменнікам. Жывуць ён ды жонка, а ядуць нішчымнае. Прыходзіў ён ёду прасіць: пайшоў у Слабодкі хату ставіць і пальцы бервяном прыціснуў. Баяўся ёду. І корчыўся балюча...

У дзеда Банадыся ўкралі грошы, 30 руб. серабром. Хацеў давіцца. Сын Дзей убачыў, пабег у клець з нажом і вожкі абрэзаў, дзед з пятлі зваліўся і толькі пабіў бок, а жыў астаўся. Кажуць, што грошы ў яго ўзяў нехта з свае сям'і, дзеля вялікіх нястаткаў.

Дзед прыхадзіў к нам, сядзеў на ганку, апавядаў пра Еўстафія Плакіду. Сам ён чуў ад некага, як быў маладым. І заплакаў, калі казаў, як Плакіда знайшоў жонку і дзяцей. Нялюбая старая Беларусь! 3-га января 1930 г. яму пойдзе «соценны год». Слязлівыя вочы. Глухі. Але бадзёры і сваё «Я». Цяжка з ім, глухім, гаманіць. Унучку Нінку называе «Мінка».

Шурка Іллёва зайшла замуж. Няма там ні сала, ні мяса. Ён, кажуць, вялікі п'яніца. Пазнаёміліся на кругу ў лесе, у часе гульні. Вяселле. Не прыехаў, а прыйшоў. І без метрыкі. Паехаў запісвацца,— іх не запісалі. Сказаў Шурцы, каб сказала, што запісалі. Спаць класціся,— Шурка не кладзецца (Зена, мачыха, навучыла). Паклалі між іх Валю, сястру яе малодшую. Тая звечара наглядала, а потым заснула — і не ведала, што яны там рабілі. Уранні бачуць людзі: спяць яны, як дзеці, абняўшыся...

Прыязджаў Паўлючыхін зяць з шахтаў, каб прадаць карову. Ён там жаніўся з другою, не развёўшыся з Паўлюкоўнаю. І прыехаў, каб прадаць карову, а грошы ўзяць сабе. А і папаўся. Паўлюкоўна знайшла ў яго ў кішэні, калі спаў, лісты да тэй, і пра карову. Пайшла ў горад, у жанаддзел, жаліцца на яго. Ён — партыец. Так ёй параілі людзі.

З Белі ўцякала на конях маладая замужка да бацькі ў Пуцяты. А муж даганяў, страляў па ёй у Дубраўках, коні адабраў і паехаў назад. І калі яна ўцякала, тады тата і я былі ў садзе, сад маладзілі, і Пракоп на гародзе. Пачулі стрэлы ў лесе, лямант. Не ведаючы, што там такое, пабеглі бліжэй, па ратунак. Бацька бег адзаду і стрымліваў: «Куды вы, дурныя? У сведкі запішуць».

У гэты час прыязджаў да іх Паўлюк Ваявода. Гаманілі пра яблынькі. Поп Кускоўскі, родам з Пацкава, жыве ў

Сібіры. Прыязджаў, прышчэпак узяў з сабою, каб у Сібіры сад развесці. З Пацкава гэтую вясну хацелі ехаць у Сібір 15 сем'яў.

Каровы па адзінаццатуху ў Целяпенічах былі нізашто. А на коні піхто і глядзець не хацеў. Цяпер кожны думаў, як бы прыдбаць капейку, каб купіць хлеба. Галодны час быў многа для каго.

Міх. Шнар. растраціў каапер. грошы — 198 р. 19 к. Але ў яго была зарука: брат служыць у Горадзе. А бацьку прыкра. І так аліменты трэба плаціць. Панятыя Максім Салдацёнак і Раман Батура няправільна ацанілі дабро, Насціна і Міх. Павёз Хомка Насту ў Горад, на суд. У іх у Стар. Сяле радня: адтуль Хомка жонку браў. Швагер навёў яго там, і Хомка плужок украў, у турме сядзеў.

Улетку яблык было зусім мала. А мёду дужа многа. Пчолы былі дужа кусашчыя. Ураджай жыта сярэдні, а ярыны меншы.

Жыта дажалі 10/VIII. Надвор'е добра служыла. За тыдзень па ўсім камароўскім полі нажалі жыта, заставалася толькі пшаніца. Пшаніцы сеялі многа: $^1/_4$ ці $^1/_5$ поля. Прыгожа глядзець! А бывала сеялі кавалачак замажнейшыя людзі, толькі на пірагі к вялікадню.

Бульба расла высокая, густая, многа цвіла. Грыбоў не было, толькі апенкі ды зрэдку лісічкі. Высеклі лясы, няма грыбоў. Самагонку гналі мала, што хлеб дораг, а ўсё ж гналі. Панас Петр. украў мяшок мукі і ў канаплі схаваў. У яго жонка хворая, а дачка — дзяўчынка нямая. Яго білі. Прымусілі абхадзіць усе двары і прасіць выбачэння. Хліманёнкі ўсё сварыліся. У Рамана Казла памёр сын Якаў у Ленінградзе. Увосень паехаў туды і служыў у войсках ГПУ. Ягора забілі на вайне. Застаўся Раман з малымі. Не падаецца... Карчуе пні, адзін, хоць і хрыпіць. Іван Трахімёнак пабіў Міхальчыху.

## Смерць Хвядоса Рагавога (30 ліпня 1928 г.)

Вясною гэтага году баба Наталля пехатою прыхадзіла ў Камароўку, начавала. Аўчынкі хацела перадаць на сховы Ганне, таму што ў іх суха. Дзед Агей аўчынкі прывёз. Ганна развесіла іх у садзе, пасушыла і на вышках паклала.

Потым Кузьма бачыў на кірмашы ў Нізінках Панаса.

Пытаўся ў яго пра Хвядоса. Панас казаў, што Хвядос жыве нічога, піша, грошы прысылае.

5 жніўня прыйшла Кузьме тэлеграма з Сахаліна, пасланая 30 ліпня, у 8 гадзін вечара: «Помогите родителям Федоса. Оформите право получать пенсию по случаю смерти Федоса. Подробности телеграмме, посланной Агею Роговому. Роговая». Кузьма быў уражаны, усхваляваны. Дык вось канец! А можа быць — яшчэ не памёр, і пенсію трэба старацца толькі **на случай** яго смерці? Не... Піша жонка. Пасылае тэлеграму... Канец.— «Пэўна, пагінуў у часе павадак, пра якія пісалі газеты»,— падумаў Кузьма. І Міла так думала. Напісаў Кузьма ў Лысы Лог і ў Камароўку.

17/VIII атрымаў Кузьма ліст з Камароўкі, пісаны Пракопам. Пісаў Пракоп, што ліст Кузьмоў ад 5 жніўня атрымалі яны толькі 15 жніўня (за 35 кіламетраў!). І нікуды не ездзілі. І не ведалі, ці ведаюць у Лысым Лагу, што Хвядос памёр.

Яшчэ пісаў Пракоп, што жыта дажалі, а ярына яшчэ зелена; што невядомыя людзі паламалі ў іх калоду пчол, узялі адну рамку, а пчолы цэлы; што парвалася антэна, уночы, напалохала Маўру (Маўра была цяжарная). Стаяла добрае надвор'е, і Пракоп запрашаў прыехаць у госці. Лаўрык ім нічога не пісаў. Пісаў Пракоп каротка, таму што трэба было ісці садзіць асець.

Перад Марынкінымі ўгодкамі (19/IX) Ганна сніла Марынку. Дужа хацела Ганна ўбачыць ува сне. Казала, як саснілася... Старая хата як быццам (даўнейшая). Заснула... Гручыць у акно.— «Стахван! Уставай! Марынка прыйшла!..» Прыйшла ў шэранькім плацціку, ходзіць па хаце... Ганна Стахвана ўзбудзіла.— «Палягчэець табе цяпер».

Потым сніла, што авёс з ёю жала.

І яшчэ раз сасніла.— «Мама, вазьмі мае чорныя чулкі на прыклеце...» А сама босенькая пайшла па саду...

Увосень памёр Мікола Рыжавусы. Забалела яму спярша нага. Сам у Целяпенічы ездзіў [1]. Кульгаючы, жыта сеяў. «Перад смерцю еў пірог і гарбату піў,— успаміпала Ганна Стахваніха, яна к ім хадзіла,— але свістаў грудзь-

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Увосень~ездзіў».— аўтарская паметка: «Смерць Міколы Рыжавусага».

мі, як вераб'ёў ганяў». Пры ім была дачка Ганна. Жонка Дарка грабла сена. Як памёр — меншы сын, Лёнька, будзіў яго абедаць, а большы, Саўка, дужа плакаў. Дачка Ганна сніла сон, што ён з ёю рэзаў падсвінка, кінуўся з нажом за ёю: «Во цяпер я зарэжу і матку і дачку!» Ганяўся — нідзе не маглі сабе места знайсці. Крычала Ганна скрозь сон,— матка ўзбудзіла. Пражыў ён у прымах 18 гадоў, за гэты час пахаваў 7 чалавек: Тараса, цётку, Саўку, Алёну і траіх дзяцей сваіх. А восьмы сам памёр. Надарваўся ад цяжкай работы.

## Смерць бабы Наталлі

Пасля большае прачыстае, у дзень образа, паехалі Ганна з Стахванам у Лысы Лог, к цётцы Наталлі. Прыехалі... Стахван пачаў каню сена падкладаць, а Ганна пайшла к цётцы Наталлі. Сядзіць яна белая, хворая, з кіёчкам, на загавальні, перад хатаю.— «Прыехалі вы на вяселле, ды вяселле невясёлае... майго Хвядоські...» — і заплакала. Дзед Агей траву рваў. Кабана яны карміді. Баба апавядала: «Яны ўсё ходзяць ды гамоняць: тэлеграма ды тэлеграма... А мне не кажуць, якая тэлеграма...» Потым-такі дзед Агей сказаў ёй сесці і тады сказаў ёй праўду.— «Тады маё і ўсё...» Хвядос заліўся. Ехалі ў камандзіроўку. Човен абярнуўся, ці што. Тры дні шукалі яго ў вадзе і не знайшлі. Сама вада на бераг выкінула... Плакала баба Наталля дужа. Ганна суцяшала яе, цётку сваю, і старалася, каб цётка не ўбачыла, як яна сама плача: і па Хвядосу, і па сваёй Марынцы, і па ўсім жыцці... Дзед Агей — супакойны быў. Нават смяяўся. Каткі рабіў. Аб аўчынках баба казала Ганне: «На сховы вам завязла, што ў вас суха, а мысліла, каб яны табе засталіся, калі памру».

Скора, перад уздзвіжаннем, памёрла баба Наталля. Хвядос — перад Іллёю, а яна перад уздзвіжаннем. На уздзвіжанне закапалі. Ганна на уздзвіжанне ў Харошым была і нічога не чула, не ведала, што цётка памёрла. І не ведала, пакуль не ехала ў Камунац[энтр] перад калядамі. Стахван Рагавы на станцыі быў і сказаў. Памёрла ад удушша. Потым дзед Агей прыязджаў у Камароўку і аўчынкі забраў. Ганна не захацела браць іх сабе, каб сыны нябожчыцы не сказалі чаго. І ў бабы Наталлі, і ў Ганны дачушак не было...

Дзіўная справа з Дар'яй Лаўрэнаўнай. Прыслала Кузь-

ме адкрытку. Непісьменна наскрабана. Просіць прыслаць ёй 5 рублёў. Купіла домік у N (дзесьці ў Самарск. губ.). Вучняў пусціла. Кузьма паслаў. Прасіў прыслаць фатаграфію Хвядоса. Ні атвета ні прывета. Некуды пераехала? Як уцякла... У Лысым Лагу думалі, што Хвядос памёр не так, як у тэлеграме напісана. Але некалі было ім займацца гэтым... Дый усё роўна!

На здзвіжанне павячэралі, ляглі спаць. Ганна ў Харошае хадзіла, замарылася, дык не хацелі будзіць, але пабудзілі [1]. Пракоп пабег к брату Раману, каб яго калёсы, і к Дарцы, каб яе кабылу (што шыбкая кабыла). Дарка вывела кабылу і дала. Толькі Пракоп прыбег у хату — дзяўчынка радзілася. Не трэба ўжо было і ехаць у Целяпенічы. Лёгка радзілася. Назвалі ў чэсць Мілы Кузьміхі — Мілаю.

Каля таго ж часу радзіўся ў Лаўрына сын Вадзім [2].

Увосень Пракоп усё кінуў-рынуў і паехаў у Ксенем вучыцца [3].

## [19]29

У канцы старога году Стахванавы білі свінню, рабілі кілбасы,— самім есці і ў Ксенем завезці. Маўра любіла кілбасы. Васілёк еў. Нарабілі шмат кілбас, усе кішкі пайшлі, яшчэ і не стала, Ганна Стахваніха схадзіла ў Дашкінявесткі (яна ж Гашка, Сашка.— *Рэд.*) пазычыла. Усё мяса абрэзалі на кілбасы. І з пячэння і лягення рабілі, падклаўшы туды мяса. І сала падкрышвалі.

І тады паехала Ганна з сынам Раманам у Ксенем, набраўшы кілбас. Прыехалі яны 28 снежня. Раман пабыў і паехаў, а маці засталася, жыла ў Кузьмы. Пражыла тыдні два і захацела дамоў, усё чакала, калі Стахван-муж прыедзе па яе. Засталася яна непісьменная, аб чым і шкадавала цяпер. Казала Кузьме: «Умела б чытаць,— вольным часам прачытала б што-небудзь. Усё весялей было б, як няма работы. А то вы ўсе чытаеце, а я сяджу так...» Таму яна і доўга ў гасцёх у сыноў не хацела быць, што не было

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «На здзвіжанне~пабудзілі».— аўтарская паметка: «Нарадзіны дачкі Мілы ў Пракопа».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Каля~Вадзім».— аўтарская паметка: «Вадзім».

[3] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Увосень~вучыцца».— аўтарская паметка: «Пракоп паехаў вучыцца».

ёй тут работы, а так сядзець не любіла.— «І хлебам трэба мяне карміць, а вам і так цяжка ў горадзе жыць»,— казала. І пайсці тут не было ёй да каго. У царкву толькі ў святы хадзіла.

Было ёй 64 гады, і ніяк не магла яна прызвычаіцца, што ўжо старая,— «Ці даўно тое было? І калі ж гэта я старая стала?» — і смяялася і бедавала. Вываліўся ў яе зуб, і шапялявіць троху стала, дык саромілася, рукою часам закрывалася...— «Як была маладзенькая, хадзіла ў розавым плацці, дзве касы... А цяпер?..» — і азіралася на сябе, усміхалася. Дзіўна ёй было, што ўжо лічуць яе старою, «бабушкаю» ў вагоне называюць.

Памёршых дзяцей сваіх успамінала.— «Пахавалі Васільку каля Хоўбняў, у Гаюках. Стаяў крыж фарбаваны, церамок быў, а цяпер там, можа, нічога няма... Побач з ім потым пахавалі Панаську... Колькі плакала па Васільку! Думала: можа, сама вінавата, што паехала з двара... Каб конь ладны быў, дык з'ездзіла б цяпер, памянула... Разышліся мае дзетачкі па свету!» А ладнага каня ў іх так век і не было.

Раўнавала мінулае і сучаснае: «А бывала, хто дужа купляў цукру? Купіць хунт які к першай куцці (перад ражством), дык гэтым цукрам пасалодзіць і на посную куццю (перад хрышчэннем), а што застанецца, тое схавае к чыстаму чацвяргу. Бывала, цукар быў толькі ў нас. Кожны дзень не пілі, а так калі ў свята ці як хто ў госці такі прыедзіць... А цукар быў. Дык у каго родзіцца маленькі, дык і ідуць пазычаць у нас крошачку, а то і крошачку разаб'ець напалам. А цяпер у кожным двары ёсць цукар. А людзі забываюцца...»

Сыны стараліся не ўспамінаць ёй Марынку, каб не бярэдзіць ёй раны... Яна сама ўспамінала. Рада была, калі ўва сне яе сніла. 25/II снілася ёй, што рвала з Марынкаю траву ў бярэзніку. Ірвалі, клалі ў мех, яна дзяржала, а Марынка клала ды ёй на плечы. Паглядзяць: ляснік панскі! Некуды хавацца, дык у яму нейкую...— «Баба, а чаму ад лесніка трэба хавацца?» — не разумеў і пытаўся ўнук Лявох (сем гадоў было яму).

Тыдні праз два прыехаў і Стахван, у госці к сынам і каб яе дамоў завезці. Прыехаў раніцою, калі Кузьма ладзіў шафу і быў не ў гуморы. Не дужа ласкава прыняў бацьку. Бацька жаліўся яму, што Пракоп выехаў увосень — усё кінуўшы-рынуўшы і не пакінуўшы грошы. І што было яму цяжка аднаму працаваць. Бацька хадзіў

начаваць да Лаўрыка, а жыў у Кузьмы. Пракоп жыў у Лаўрыка. Пабыў бацька з тыдзень, а потым ён і маці паехалі.

Быўшы ў гасцёх, Стахван і Ганна хадзілі на ярдань. Там ёлачак было панастаўлена. Людзі ламалі і бралі. Ганна спыталася ў іх: нашто? Сказалі, што ўторкнуць у страху, дык вецер не будзе драць. І яна ўзяла. І прывязла ўдвору, і ў свой двор уторкнула, і Раману ў яго двор дала. Пасля казала: «Дык сёлета не драла, а летась Раманаў двор дужа падрала; як стане хапаць, як стане насіць... І яблычкі папаламала. А сёлета такога віхру не было: ці ад ёлачкі, ці так,— я ж гэта цвёрда не ведаю».

Прыехалі яны ў Чорную Пушчу, а там столькі снегу, што на чыгунцы раскапвалі, страшэнна многа намяло. Вёз іх Якім Іванавіч. Ехаў на Каменку, думалі, што лесам дровы вазілі, дык тарней дарога ці за лесам не так снегу напёрла. Але і ў лесе пазанасіла, а каменскім полем насілу прабраліся, уцэла ехалі. Даехалі да П'янава, заехалі за могільнік,— дарогі ні слядзіначкі. Якім усё ішоў, усю дарогу. І Стахван пяшком усё ішоў, а тут і Ганна прайшла троху... Конь б'ецца-б'ецца па снягу, трапечыцца-трапечыцца. Мароз быў ладны, Ганна ў хустку ўсё круцілася-круцілася. І жалела: «Чаму там дзянёчак яшчэ не пасядзелі?» І ў Палянцы на вуліцы раскапвалі лапатамі. І каля іхнага двара сумёт навеяла вялікі.

У двары жыццё цягнулася звычайнае. Троху пажылі, забілі вяпра, салілі, кілбас к вясне нарабілі салянейшых, каб не папсаваліся.

Пасля панасся ў нядзелю Таццяна (Маўрына сястра) дзеўку прывязла служыць. Дзеўка была да работы нічога, ды глухая. Палёнкі памые, мост — крута, упраўна. Вады наносіць, вадзянка заўсёды поўная. Ды глухая... І дурнаватая. Гаворыць абы-што. На Стахвана: «Ці ты пад'еў ай не шчэ? Дзед! Еж!» Усе смяюцца. Плацілі ёй тры рублі ў месяц, і ўсё іхнае: сарочкі, і ўсё. Таццяна прывязла яе, у свой шарак уварцеўшы. Так нейкі рубячок-шубачка была ў яе, і ўсё. Брат біў яе, родны брат, іх толькі двое, біў цаглінаю па галаве. У дзядзькоў яна жыла. Казала: «Пабяжыш на другі хутар пагуляць, а ён за гэта б'е». І цяпер у іх баялася яго дужа. Калі хто едзе па вуліцы, яна: «Ай, брат едзе, заб'е мяне!» Даведалася, што Насце плацілі 65 руб. у год. Прыйшла яе цётка, з Таццянаю, у даведкі.

Варка (так звалі дзеўку) хвалілася, што добра жыць, але цётка сказала: «Плата малая. Не менш за Насту робіць».

Макар Рыжавусы памёр увосень, а ў каляды Дарка зяця за дачку Ганну прыняла [1]. Ганне 18 гадоў было, замуж яшчэ не хацела, але ж без мужчыны ў доме трудна. Апрача Ганны, пасля Макара засталося яшчэ пара хлопчыкаў: Саўка і Лёнька. Сама Дарка была не дужа здаровая, і работаць прыхадзілася аднэй Ганне. Узялі прымака з Міхасёўкі, з-пад Гораду, Гашкінае цёткі сына, на імя Паўла Нырца. Хлопец малады, даволі прыгожы, разумны. І Ганначка такая ж,— думалі людзі: добрая будзе пара... Вяселле было сірочае, сумнае: на нябожчыка Макара яшчэ не забыліся... Ганначка дужа плакала, і да вяселля і на вяселлі. А як запяялі дужа жаласна на заручынах сіроцкую песню «Двор мой вялікі...» — яна самлела. Вадою адлівалі, і песня перарвалася...

На масленку Бэліха надзелася хлопцам, а Чаркесіха дзяўчынаю [2]. Хадзілі, жартавалі. Пасадзілі іх за стол як маладога з маладою.— «Пацалуйцеся, курносыя!» Цалуюцца. А ў Бэліхі твар круглы, хлапецкі, голас сіпаты, ходзіць такі хлопец у штанох, у лапцёх. Што насмяяліся!

У пост паехала ў Ксенем Маўра Пракопіха з Васільком і з Мілаю. І вялікадне там была.

На вербніцу Ганна Стахваніха ў царкву ў Харошае хадзіла [3]. Вада была вялікая. Яна пастаяла на беражку, хацела вярнуцца. Аж ішоў з Палянкі Андрэй Макарэнка (з Вушова яны пераехалі ў Палянку, на шляхоцкі бок). Ішоў з місачкаю, памінаць сына, хлопчыка ад другой жонкі,— 6 нядзель было. У ботах высокіх. І перанёс Ганну і дзевак, што ішлі там яшчэ.— «Калі наганю, і назад перанясу». Гаманіў усю дарогу. Другая ў яго жонка, плача ўсё па дзіцёнку. Думалі: бяздзетуха, а яна радзіла харошага хлопчыка, рады былі. І памёр... І к доктару вазілі, і цётку старэнькую прывазіў. І памёр...

Была Маўра з дзяцьмі ў Ксенеме, і Ганне было нудна. Яна і на ўсеначную з дзеўкаю сваёю Варкаю хадзіла, а Стахван у дварэ сядзеў. Многа людзей хадзіла, і Мікіціха, і дзеўкі, і хлопцы. Дзве шахцёркі насілі — свяціць дарогу.

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Макар~прыняла».— аўтарская паметка: «Дарка ўзяла зяця-прымака».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «На масленку~дзяўчынаю».— аўтарская паметка: «Масленка».

[3] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «На вербніцу~хадзіла».— аўтарская паметка: «Вялікдзень».

Па калепа ў вадзе ішлі па Дварэцкай грэблі. Людзі разуваліся, а Ганна пабаялася, каб нагу не прабіць, ішла ў бацінках. Ішлі, кіі пабраўшы, па вадзе пялёх-пялёх! А івонскія ехалі на конях, верхам, і па два на каня садзіліся. А камароўскія ўсе ішлі, думалі, што вада збегла, а на П'янава далёка.

Прыйшла ў Харошае — ды к брату Паўлюку, панчохі павыкруціла, бацінкі на кіёчак, каб сцяклі, панчохі ў печ, а сама на печ, там ужо івонскія бабы сядзелі, грэліся. Надзела яна ў Паўлюка валенкі і ўсю ноч у іхных валенках у цэркві была. Паўлюк і сваю, і іхную, і Раманаву паску ў сваёй лубцы насіў пасвяцаць. І Аксанка Раманава хадзіла. Аксанка і Варка раней пайшлі ўдвору, а Ганна пасля ішла і паску нясла. Ішла з камароўскімі бабамі. Размаўлялі, што вось казалі: камсамольцы будуць ерундзіць, як паску пасвяцаць, а камсамольцы пахадзілі, пасвісталі і пайшлі. І цяпер, уранні, удвору, ізноў па вадзе ішлі. Лядок быў ад марозу. І Ганна ізноў па вадзе ішла.

Поп на вялікадне быў худы, белы — чуць голас зводзіць [1]. Пасля таго забойства, як тры гады таму, перад вялікаднем, забілі хлопцы настаўніка Шэршня, паповіч пасядзеў у Менску ў турме і вярнуўся хворы на сухоты, а тыя два другія хлопцы, што забівалі: Дзяніс Платанёнак з Нівішча і Рогаў з Нівішча — яшчэ сядзелі, не прыйшлі. Поп, калі быў у Камароўцы, і ў Аўдоцці Петраковай быў, казаў: «У цябе і нявестка і сын з сухот памёрлі (хаваў ён іх)... Прыйшла б, паглядзела майго сына... Як ты іх лячыла, карміла...» Яна ішла ў Нівішча (Старыну) і зайшла. Ляжыць паповіч. Пытаецца ў яе: «Ці палепшаю я?» Яна: «Скора, скора палепшаеш». А сама думае: не, скора ўжо ты памрэш. Ён сказаў: «Дайце боты, пайду...» І брык! — нікуды не пайшоў. Слаб. Поп гэты, бывала, і Ганне кажа: «Не плач, не плач...» (па Марынцы). А тады, па сыну, і сам заплакаў.

Маўра была ў Ксенеме доўга, за разводдзем [2]. Жыла яна з дзяцьмі і Ракоп у Лаўрыка. Потым дзеці Прак[опавы], ці Лаўрыкавы захварэлі на нейкую лёгкую, але док-

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Поп ~ зводзіць».— аўтарская паметка: «Паповіч».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Маўра ~ разводдзем».— аўтарская паметка: «Радуніца».

тар сказаў — ліпучую хваробу, і Маўра ў адзін дзень сабралася і выехала. На радуніцу ў двары ўжо была,— толькі прыехала.

Цёпла было дужа. А Ганна ў лазню ў шубе хадзіла. Напяклі, наварылі, памыліся ў лазні, на магілкі пайшлі. Цёпла было, вясна. Толькі многа дрэўцаў у садох не аджывалася: памёрзлі ў гэтую лютую зіму. У Стахванавых дуля старая, слаўная, змёрзла, сліўкі памёрзлі... Абедалі на Макаравай магіле, усім родам сабраўшыся. Усе, прыйшоўшы, заплакалі, а Дарка наперад, а за ёю Ганна... Качалі на яго магілцы яечка, казалі яму: «Хрыстос васкрос!» А ён ляжыць у зямельцы, не адгукаецца. Так па ўсіх магілках — родных і знаёмых — бывала, качаюць і ўспамінаюць нябожчыкаў.

Свечку запалілі, памаліліся. Як каля аднэй магілкі пачнуць маліцца, тады і каля ўсіх радам. Сёлета першы пачаў маліцца Пілiп. І размяшчаюцца сем'ямі, раднейшыя, бліжэйшыя, хто з кім, абедаць. Перш елі канун (тоўчаная пшаніца ці ячмень, з салодкаю сытою), пасля кануну пакрышылі яйцы, накрышылі кілбас, мяса, наклалі ладак, блінцоў, а кашы ніхто не прынёс, дык і не было кашы. Бабкі былі (пірог печаны). Грыбок печаны (яечня) быў, з кожнага двара. На Мікалаевай магіле разам абедалі Даркіны, Стахванавы, і Раманавы, і Сцяпанавы. І гарэлку пілі. Павесялелі выпіўшы, пад'еўшы. Паабедаўшы, пераксціліся, забралі сваё і двору. Ніхто не астаецца, а хто хоча паплакаць — раней ідзець. Каторыя на стары гай хадзілі, у каго на новым няма нябожчыкаў. А каторыя, тут пабыўшы, і на стары хадзілі, каб хоць яечка там пакачаць.

Прыйшлі на вёску. Бабы кучкамі сядзяць. Маладыя кала гармоніка. Стахванавы паселі на сваіх ганках. Аж крычаць: «Мікалаева кабыла ўтапілася!» Даркін зяць, Пятрок, пабег. Савачка Рамана-дзядзьку гукаў. Выцягнулі кабылу. Так і радуніца прайшла. І вечар. І спаць. Гарэлкі не было, дык і гулялі мала. Насілі на магілкі па $^1/_2$ літра, па чарцы прыйшлося.

Вясна. На радуніцу пасеялі расаду. Работа. Гаралі. Сеялі. Ніхто не наймаўся ні к каму гараць, што прыпісвалі пабочны заробак. Мархва (яна ж Маўра.— *Рэд.*) пісала Пракопу: «Самі пашам». А гэта дзеўка іх, Варка, гарала. Яшчэ жалілася Мархва, што кабыла плоха, падсос, а карова хварэе, нешта не ела нічога, высахла. Дык пісала Маўра, «каб дзе купіць хоць невялічкую, хоць бы троху

давала малака, а то дрэнна без малака саўсім». На вуліцы была дужа гразь, сохла патроху.

Пасля вялікадня дзеўка Варка з Стахванам у Целяпенічы ездзілі, дагавор зрабілі [1]. А Варка і не прыйшла больш... А ўжо і гарала, скарадзіла. Калі хто пасмяецца, гукне, яна кіне кабылу, пойдзе і стаіць. Людзі з яе смяяліся. А яна ўсё смяецца і смяецца. І не чула.— «Прынясі солі!» А яна вады прынясе. Няхай дзіця крычыць,— сядзіць, не пакалыша. Сірата, але ну яе! І пайшла. На поле хлеба ні крошачкі не возьме, давай не давай — не возьме. І ўсё кажа: «Як вы памнога ясцё, які ў вас хлеб, на вясну не блюдзіцё, колькі ў вас місак! А ў нас адна місачка!» Пасля прыхадзіла, усе рэчы прынясла. Брат убачыўся з ёю ў Целяпенічах, сказаў, што ўжо не будзе яе біць. Казала, што ёй 17 гадоў. Прыгожая была.

### З Кузьмовых нататак

16 чэрвеня прыехаў з сям'ёю ў Камароўку. На вакзале ў Варне абярнулася шклянка і вылілася на Лявоха. У вагоне спрэчкі за месца. Энергічны правадпік навёў парадак. Ехаў рэктар, студэнты, размаўлялі па-беларуску. Дарога каля Чорнае Пушчы дужа дрэнная. Сенька ўзяў 5 р. Ехаў яшчэ з аднэю фурманкаю т. Маргайлік глядзець Раманавы запісы. Цёплае надвор'е. У П'янаве ішлі па грэблі Коля, Ніна — у чырвоных гальштуках. Ганкі ля млыну так і не агароджаны... Прыехалі дамоў. Цяжкая яда. Цяжкі сон. Хадзілі ў Камароўшчыну. Пасечаны лес. Няма грыбоў. Маладняк расцець, хмыз.

У нядзелю (на духа) — гульня ў Камароўшчыне, на кругу. Раманоўна была, з Ленінгр[ада] прыехала. Хворае ў яе дзіця. Гарманіст.

На троіцу былі ў Харошым вучоныя людзі: прафесар і асістэнт, што запісвалі народную мову, словы розныя. Былі на чэсці ў дзядзькі Паўлюка. Прафесару падабалася Пашкіна сястра-студэнтка. Дзядзька Паўлюк хоча заарандаваць млын. Цяжка адраіць яму.

Ішоўшы з дзяцьмі на полю з Камароўшчыны, убачыў чалавека [2] ў чорным, гарадскога, што ішоў нам на сустрэ-

---

[1] У тэксце, па палях, насупраць слоў: «Пасля~зрабілі».— аўтарская паметка: «Варка».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Ішоўшы~чалавека...» — аўтарская паметка: «Мудрык».

чу... Іван Іванавіч Мудрык! Былы манах, цяпер бязбожнік. Прыйшоў да нас як бы ў госці, ды не адзін: з маладою жонкаю! Яна — дзяўчына з П. Пасадзілі іх за стол, частавалі. Яна трымаецца даволі добра, не саромеецца. Зусім маладая і харошая дзяўчына. Скот пасвіла. Прыйшоў і павёў, як у Бібліі. Бацька згодзіўся. Пасе статак. А старую жонку, кажа, «адправіў на курорт».

Дзядзька Раман Казёл абкладзены падаткам індывідуальна. Прыходзіў прасіць рады. Сядзеў на ганку. У грудзёх у яго хрыпіць. Жартуючы казаў: «І ў Вярбе не быў, а стаў івангялістам-індывідуалістам, (а ў Вярбе жывуць евангелісты, штунда). Карпа таксама «індывідуаліст». Прыходзіў хутарэц з Чортаўшчыны. Дзесяць яец прыносіў «гасцінца», даваў, прасіў помачы, каб зменшылі яму падатак. І пайшоў, мусіць, упэўнены, што каб болей чаго прынёс, дык узялі б і зрабілі б.

Вазілі гной. Раман, Іван Дзем., Пракоп, дзяўчаты. Марафон з Каменкі чагосьці прыходзіў, пабожны чалавек. Казаў, што целяпеніцкі поп расстрыгаецца не таму, што веру страціў, а каб дзеці мелі права вучыцца. А поп і расстрыгаецца, і з жонкаю разводзіцца, дзеці пераходзяць на матчына прозвішча.

Учора хадзіў у Гаўрыліну Мікіцёнка хату. Там — «чытальня». Сядзеў Якаў Хведас. з Палянкі з сваім хлопчыкам Валодзькам. Нінка Гаўрыліна глядзела «людзей» у часопісе «Бязбожнік». Карпа і яшчэ нехта выпісваюць «Красную газету». Міранок, Ілля, наш Раман — «Беларускую вёску». Гэта — новае. Пошту разносіць па вёсках тры разы ў тыдзень паштальён. Гэта — дасягненне. Паштальён — аднавокі хлопец, босы, штаны кароценькія, з рэвальверам і скураною сумкаю. Гаворыць добра па-беларуску, наварачвае па-кніжнаму («маецца»-ёсць). Зарабляе 17 р. Мала. Хоча кідаць. І неакуратны: тыдзень не хадзіў. Гаўрыла Мікіцёнак прынёс газеты і лісты з П'янава.

*26/VI* хадзіў у Целяпенічы. Прыгожае поле. Жыта высокае. Над жытам зялёныя купы паасобных дрэў. На жаль, часта балотцы. Булінскі мох цягнецца логам на колькі кіламетраў. Белая пушыца па балоту: ці не можна б з яе дабываць пух?

Доўгая вёска Чэрнеўка. Ніякіх змен. Але аправіліся людзі пасля вайны. Ціха, спакойна. Байчэйшыя, разумнейшыя дзеці.

Дарога — размыты равочак. Але грэбля паладжаная. Несцераўскія хутары. Квадратны дом на 6 акон з двух бакоў. Сад. Вуллі-рамчакі. Вербы. Громаадвод. Хлопцы чытаюць ліст, седзячы на калёсах. Гавораць па-беларуску. Дзяўчына нясе вядро вады з крыніцы; шлях сялянкі...

*8/VIII.* Мух працьма. Мама дае есці свінням — топіцца ў цёмным хлеве, а свінні хапаюць яе за лыткі. Акенцы ў хлеве маленечкія: дзірачка.

Бэля справіў ксціны (калі я быў на Каўказе). Усе паўпіваліся, бабы, Ганна Гаўрыліха і Міхальчыха; скакалі, пялі. І бацька наш упіўся. Бэля з дзядзькам сваім, Іванам Трахім., ледзь не пазабіваліся.

Кузня. Міхаль, мусіць, там дзяўбе молатам. Месцячковыя пані. Таргуюцца. Певень 80 к. Яйцы 35 к. дзесятак. Больніца. Бацькі і дзеткі. У б. воласці — кватэра. Ніштo домікі. У краме — натаўп.

Пошта. Два рублі штрафу з Акулёнкава, што вазіў пасажыраў з поштаю без прапіскі. Адмаўляецца падпісаць абвяшчэнне, апраўдваецца. Паштавік т. Сямашка. Жонка яму дапамагае. Прыходзяць сяляне і сялянкі. Павестка — засведчаная, але без пячаткі. А ўсе ж ткі ў Сямашкі гэтага адносіны да сялян яшчэ панаватыя, скрытанядобрыя...

Піўная. Адзін у аднаго просіць курыць. Ізноў гутарка: поп адракаецца ад сану, каб вучыць дзяцей. Нейкі заможны селянін папаліў кніжкі. Пра кароў: па аднэй трымаюць, бо падаткі вялікія.

*11/VIII.* Размова, чаму не пішацца... Мятлушкі лётаюць над капустаю: апішы. Лідка паехала ў Ксенем вучыцца. Схадзі ў с/с. Схадзі ў Слабодкі, дзе жывуць яўрэі-земляробы. «Дробна-буржуазная, інтэлігенцкая мая сутнасць».

Прыйшла Яня (яна ж Маня.— *Рэд.*) з П'янава. Яніна сястра паехала ў Ленінгр[ад], ліста яшчэ не прыслала. Учора ў П'янаве было кіно. Жыццё ідзе... У Нівішчах конь забіў 10-гад[овага] хлопчыка. Павязлі ў Целяпеніцкую больніцу, там не ўзяліся лячыць, хоць быў яшчэ жыў. Павязлі ў Шапавалы (Дрыб.). Дарогаю памёр. Бацька ў шахтах. Ударыла ў вісок свая кабыла. Бедны хлопчык, бедны мой брат, у думках я плачу па табе... А для людзей — від у мяне звычайны.

Учора каля гумна гутарка: тата, я, Іван Дзем. і Іван Трах. Іван Дзем. троху жаліцца. Я пытаўся ў Ів. Трах., чаму ён не памажнеў пасля рэвалюцыі, жывуць ён ды

жонка. Сам не ведае... Зямля не родзіць. «Калі бог не дасць...» Дрэнна ўраблялі яго зямлю людзі, бо наймаў, свайго каня не меў. А ўсяе праўды не сказаў. Раман наш: «Ашукалі з ранняю воркаю, дакляравалі 10 % скідкі і не далі». Ашукалі і з кантрактацыяй свіней; казалі, а цяпер няма дзе закантрактаваць.

Ходзіць Яня, носіць Мілу (8 месяцаў Міле) і апавядае, а на падворку каля ганку тата і мама рэжуць парася: беленькую, гладзенькую, далікатненькую свінку. Тацянка, Лявонка і Васілёк абступілі іх і глядзяць, як цячэ кроў і дрыгае ножкамі свінка. Малады дурны сабака Букет таксама радасна круціцца тут, стараецца лізнуць кроў... І калі тата крычыць на яго: «Пайшоў вон!» — ён думае, што з ім жартуюць, і пачынае скакаць пярэднімі лапамі і вяхаць. Я гляджу і без асаблівага пачуцця, з прымірэннем, кажу: «Так і на вайне...» Ні да кога не даходзяць мае словы... Тацянка мятлою, Васілёк дзіцячаю стрэльбаю, Лявонка раменным паяском адганяюць Букета, а ён скача на іх і ў захапленні можа ўкусіць. Утраіх не могуць адагнаць. Тата, паклаўшы парася, бярэ мятлу і гоніцца за Букетам. Букет спачатку памкаецца жартаваць, але бачыць, што тут яму не жарты, і ўцякае пад павець. Тата дробненька бяжыць за ім і кідае мятлою. Але тата любіць Букета.

Пракоп скародзіць. Маўра з мамаю ля печы. У печы добры агонь, гаршкі, бульба... Мы чакаем снядання... Дземянковы дзеўкі ідуць жаць. Спярша большая, далікатнейшая; босая, лапці і серп на плячы. Потым — маладзейшая, прасцейшая.

Мама кажа старой свінні: «Цяпер табе, свінка, палягчэе...» (Што забілі адно парасятка.) Лёля: «Колькі ў яе цяпер?» Мама: «Шэсць. Ушасцярых пасмаргаюць — і то ладна».

*12/VIII.* Хадзіў у Слабодкі і ў Цотава. У Слабодках хацеў купіць масла. Быў у хаце ў Мікалая Саўчанка. Жонка яго — украінка з Валыні: брудная, цёмная, апушчаная. У хаце беднасць і неахайнасць. Ён паехаў у Варну, каб паступіць кухарам у савецкую сталоўку.

Цотава — культурны асяродак сельсавета. Млын — вялізны будынак, там бочкі з нафтаю, поручні на высокім ганку. Дзве крамы: крэдытнага т[аварыст]ва і спажывецкага. Над сельсаветам дзве мачты — антэна. У правым баку, у садзе,— школа, прыгожы дом. Далей — малочная;

у малочн[ай] чыста, акуратна. У П'янаве ўсё слабей, мізарней, а магло б быць лепей.

У дарозе думкі... Поле сталыпінскае, хутарское, контррэвалюцыйнае... І поле камуністычнае, вялікае, з вёскаю далёка. Дзве сістэмы. Тут многа хутароў, тут цяпер поле лепшае, чым у Чэрнеўцы. А як будзе далей? Калгас — лягчэй працаваць, перабудова людзей, старога свету. А як будзе з выгляду. Ішоўшы ў П'янава разам з Ів. Мікіц., намаўляў яго арганізаваць у Камароўцы калгас.

*13/VIII.* Трэба рэарганізаваць гаспадарку і ўсё жыццё. Найперш трэба б было «рэарганізаваць» маму. Яна — у лапцёх, у закручанай хустцы. Працуе страшэнна многа. А ёй пад 70 г. Мама ўстае а 4—5 гадзіне, доіць кароў, выганяе статак, капае бульбу, ірвець буракі, топіць печ — да гадзіны 8-й. Жнець. Мые. Шые. Поліць. Нават ваду носіць. Падае на стол усім і кожнаму. Па абедзе не адпачывае. Кладзецца ўвечары гадзіне а 10-й. Сяння прачнуўся я а 4-й гадзіне, выйшаў на падворак, аж бацька будзіць маці на сене: «Цеперся дзень! Уставай!» Я кажу, нашто так рана будзіць. А ён кажа: цяпер жніво.

Тата і мама пачалі поставаць. Я ўранні сказаў, што тата будзе злы ад посту. Ласка паціснула мне нагу, каб я маўчаў. Увечары тата сказаў Васільку: «Як ты ясі?» Васілёк цягаў па сталу кураціну недалёка ад татавае поснае стравы. Пракоп: «Што вы яго ганяеце? Еж, еж, дзетка»... Маўра хворая, цэлы дзень не ўстала. У яе мыт.

*16/VIII.* Устаў а 8-й раніцы, хоць прачнаваўся раней — ад кусашчых мух. Зусім прачнуўся ад — сваркі: у сярэдняй хаце сварыўся тата з Пракопам. Маўра сядзела ў кажушку на ганку — хворая. Стол посны (тата, мама) і скаромны (усе мы). Мама зусім зацягалася, і зуб ёй баліць. Малацілі... Троху, здаецца, павесялелі. Тата паганяў коні (пару: Раманаў і наш), Раман падаваў у машыну, Аксанка (Кл.) адграбала ад машыны, Лідка (Нін.) і Яня (Ман.) — далей вілкамі траслі і адкідалі, Пракоп пластаваў салому і клаў на калёсы. Віця (ён жа Пабедзька.— *Рэд.*) падаваў бацьку да машыны.

[19]30

## З Кузьмовых нататак

Калядамі бацька і маці былі ў нас. Ішлі гутаркі пра калгасы. Я маляваў бацьком светлыя вобразы жыцця ў калгасах. Бацька казаў задумліва і ўхільна: «Як людзі, так і мы». І запытаўся ў мяне: «А што гэта пра цябе ў газетах пісалі? Людзі казалі: «Во ўжо і Батура папаўся».— «Ды так, гэта нічога... Самакрытыка».

Пад Новы год доўга чакалі Лаўрыка: ён дакляраваў зайсці, ідучы з свае ўстановы, дзе працаваў і дзень і ноч. Ляглі, не дачакаўшыся. Яшчэ не спалі,— прыходзіць. Пастаяў, пагаманіў, пайшоў. Мы ўжо не ўставалі. Мне было троху сумна.

Бацька вып'е і есць. Маці есць мала. Сцясняецца. Лыжку носіць далёка, па-сялянску.

Тацянка ходзіць у школу, не зашпіляецца. Іванька бегае ў сваю школу; усё малюе, нервовы.

Папсаваліся дзверы на ганку. Адчынялі паленам. Вybілі ўнізе філёнку. Гаспадар хоча прадаць гэтую палову дому.

Люда прыязджала. Начавала ў Лаўрыка. Падстрыжаная, завітая. Яна — харошаўскае пароды. Адкуль у іх гэта?

Апошнія дні з мамаю... Ці веданне?.. [...]

Адход Яні. Фабрыка. Прыходзіць да іх. Кульгавая дзяўчынка.

Шуканне кватэры. Татарка (жонка агранома). Інвалідкі (глухія маці і дачка). Холад. Вокны. Клапы. Селянін: «Добра будаваў стары бацька».

Агенты па шуканню кватэр:

1. Жанчына з дачкою. На трамваі не можа ехаць: галава баліць. Толькі на ізвозчыку.

2. Тоўсты, лупаты, чырвоны. Бабнік. Мусіць, зводня.

3. Стары, слабы, мудры. Папрасіў тры рублі. Пайшлі. Гутарка пра чэрствы хлеб (здаравей). Любіць сады. Успамінае мінулае, яму 75 г. Апавядае, як завёў камандзіра на яго ж кватэру. Мяне прывёў... к зрубу...

Агент па куплі-прадажы дамоў. Рэчка. Прывёў к «Інжынеру вузкай спец[ыяльнасці]» Бялову. Хатка з дзіравым дахам. Жонка маладжавая. Сын. Трумо. Вясёлы чалавек. Нямецкія домікі.

У маі шуканне кватэры. Каля рэчкі. Спекулянтка. 70 р.

у месяц. Хлопчык заліўся. [...] Стрыжапая галоўка ў трупе. Бацька з апушчанаю галавою. Узяўшыся пад рукі — ідуць.. І я пла́чу.

Вясна. Красавік. Дзяўчына-ўборшчыца марыць, піша запіску. Яго адказ.

Вясна. Сенцы. Дзіравыя дзверы. Цёпла. Ціха. Маёвае паветра. Ноч. Зоркі.

Нейкая падазроная жанчына пыталася па тэлефоне, ці ён гэта служыць тут. «На́ук». «Задума. Падума». «Раней вы так добра не гаварылі па-беларуску». І больш не адгукнулася. Хто яна? Думаў: правакацыя.

Жывотніца. Градкі. Пагулянка. Каля дзявочага інтэрнату.

«Ці даўно вы ўступілі ў партыю?»

Пераклады. Цяжка. Сумна. Ганна Піліпаўна. Муж. Машынка. Грошы патрэбны. Праца да паўночы. Сумна ідзе дамоў. Ласка замкнулася ў сабе.

1 Мая. Сабралася каля акадэміі кучачка. Маніфест. Дзецям хочацца на пляц. Доўгае стаянне на вуліцы. Надвор'е нішто. Спюдзенавата, сонечна, троху пыльна. Ідзе з пляцу. Думкі. І дзяўчына-ўборшчыца ідзе. Мроіць сваё.

Маўра прыязджае. Маці не прыязджае.

Прыезд З. Выступленні.

Пісьменнікі. Доктарскі агляд. Адзін самлеў.

Курбюро. П'яны загадчык Дому пісьмен. Маці пясняркі. Абурэнне яе супроць п'янага. На 15? Еўпаторыя. Кульгавы паэт.

Званочак прапануе напісаць у «Мал.» пра «Мал.». «Гэта і для вашага становішча»... У чым справа з яго становішчам?

Жытні колас. Акторка на кватэры. Наеўся, напіўся, накурыўся. Дамоў, хмельны. Вясна.

*13 чэрвеня* перавёз рэчы на новую кватэру. Горача. Іванька ехаў на возе, сеўшы на канапку. Фурманы вымагаюць грошы. «Агройс апорац!»

*13/14*. «Напалеон у Еўропе». Ідуць дамоў, размаўляюць. Раніца. На этажэрцы чэрап. Стэнаграфічны надпіс:

«Момэнто морі». Яе партрэт. Кнігі. Кветкі. Угамаваны боль.

Пабітае люстэрка.

Выезд. Не дачакаўся маці. Ці веданне...

Пісаў мне з Армавіру, як ехаў у Хосту. «Мама як ніколі добра сябе адчувала. Правадзіў яе ў Камароўку перад сваім ад'ездам. Пракоп перайшоў на трэці курс, свяціўся рэнтгенам, прызналі здаровым, і вельмі рад (а то трывожыўся, што сухоты)».

«...папсавалі сабе адпачынак, бо прымушаны адпачыць там, дзе ты збіраў матэрыялы аб Воўчагорскіх камунарах. Можа, пад восень і пакарыстаюцца адпачынкам».

Збіраўся тыдні на два ў Камароўку, пахадзіць там са стрэльбаю. І мне раіў...

Ці веданне?..

Еду, гляджу на траву, што грэецца пад сонейкам, каля дрэў. Радасць жыцця майго! Хацелася пахадзіць па ёй, па гэтай траўцы, паляжаць. Думкі пра Камароўку. Сад. Лес. Поле. Лог. Прыеду ў Камун., будзем хадзіць з Іванькам купацца.

Жыта. Дождж. Свой пейзаж. Усё дарага. Сумная дарога. Ягады. Граніца. Другі геаграфічны пояс. Другі край. Камары ў лесе, балотцы.

Іванька хворы. Цёмна. Вільготна, пахне глінаю. Прыйшла з падворку Ласка. Тацянка не спала. Ів. хворы, спрасонку. Каробачкі. Нож.

Крэслы папраўляў. Дроў шукаў. З Тацянкаю. Не дастаў. Навіны. Грошы. Пытаюцца адрас. «Долгосрочная командировка». Каса хворых. [...]

Цёплы вечар. Гуляюць.— «Куды вы мяне вязіцё?» Пусты пакой. Выбітая рама. Фанера. Дзіркі. Смачны сон. Трывожны. Клапы.

Сусед. Бываліха. Крутагорскі.

Настаўнік з Варны. Жонка цяжарная.

Змена суседа. Кулакі. Прозвішчы. Клапы, вада, хлеб. Лесапілка. Яблыні, сад. Друкарня. Акно. Нямецкая кніжка, Торглер.

Дрэвы па ўскрайку. Гай? Жаўцеюць. Сон. Маці жне. Ляпенне. Сабачкі. Жанчына. Грып. Доктар. Пагроза кулаком у акно. Лазня. Крадзеж алоўка.

*26/IX.* Клімавіцкі знаёмы. Манючка. Зламіў ножычак. Трусяніна. Голы. Абломачак алоўка. Сшытак.

*27.* Цяжка.

*28.* Да абеда — стукі. Ён! Усё добра! Палягчэла.

*16/X.* Перавод. Рамонт.

*13 кастр.* Вішня.

*15 снежня.* Ксяндзок.

[19]31

У каляды маці прыязджала ў Камун[ацэнтр]. Кілбасак вясковых прывязла.

У лютым зраўнялася Кузьме 38 г. Лаўрыку канчаўся 31 год. 10 лютага перавялі Кузьму ад Ксёндзіка ў агульную палату.

Вясна была мнагаводная, цёплая.

Улетку Кузьмовы дзеці былі ў Камароўцы. Ласка ездзіла к Кузьме. Тацянка пісала бацькам, але 5 лістоў яе прапалі, не дайшлі. Яны там непакоіліся. У нядзелю хадзіла Тацянка з бабаю ў Харошае, бачылі там Люду. 4/VIII.

10 жніўня раніцою Ласка выехала з Крутагорску. У Варну прыехала на другі дзень пасля паўдня. Цягнік на Кунегу хадзіў цяпер ужо два разы ў суткі, а 10 гадзіне і а 4-й. 11 жн[іўня] яна прыехала ў Камар[оўку].

Цяпер тут быў калгас імя Чырвонае Арміі. Праца ў калгасе была даволі наладжана, калгас цвёрда стаяў на сваіх нагах, хоць старшыня калгасу, Іван Смакун, быў палітычна вельмі мала развіты, а бабы сваімі сваркамі, сваімі асабістымі разрахункамі шмат перашкаджалі ў працы. На восень чакалі новага калгаснага прыліву. Усё менш заставалася «нехацімцаў». Старая Смакуніха жыла ўжо ў сына, старшыні калгасу. І Дарка Рамашка пайшла ў калгас не з вялікае ахвоты, а таму, што гэтага хацелі дачка з зяцем. Домна заставалася заядлаю праціўніцаю калгасу. Худая, чорная, у запэцканых лахманах, яна, як і раней, брахалася і вартавала свой пасохлы сад. А дзеці сумысля туды лезлі, дражнілі яе. Карпа быў раскулачаны і высланы. Ён прыслаў ліст з-пад Уралу.

У старых Батур усё было б добра, каб Маўра працавала і не хварэла б так часта. Яна жалілася, што ёй цяжка працаваць, «баляць ад работы рукі». Улетку, праўда, працаваў Пракоп, а то найбольш працадзён было гэта ў баць-

кі. Ён віў вяроўкі, сцярог калгасны сад і пчол у ім (што перайшло ў калгас ад раскулачанага Карпы).

Мусіць-ткі, Маўра надумалася зусім з'ехаць з вёскі. Цягнула яе ў горад, па «лёгкую работу». Бацькі былі здаровы. Маці трымалася вельмі бадзёра, і ёй цяпер, у калгасе, было лягчэй: не надрывалася на рабоце. Бацька цяпер не піў, не сварыўся, стаў неяк больш спакойным. Калі прыязджала Ласка, бацькі выказалі да яе шмат ласкі і гатовы былі ўсім надарыць, што мелі. Ласка хадзіла з калгасніцамі браць лён і пасканні. Яна паехала ў Камунац[энтр] з Тацянкаю, а Іванька захацеў застацца, каб потым прыехаць з дзядзькам Пракопам.

22 жніўня пачыналі сеяць жыта. Надвор'е троху ўжо перамянілася. Бывалі халады. Дажджы троху затрымлівалі ўборку. Атрымалі ад Кузьмы грошы. Меліся пасланць яму пасылку. Непакоіліся, што Кузьма стаў на землякопную работу. Бацька казаў: «Кідаў бы ўжо ён працу на пабудовах, бо яна цяжкая і шмат дзярэцца адзежы». А маці казала: «Каб была я пісьменная, напісала б я свайму сыночку сама... Усё б чыста напісала яму, як сама думаю...» Сабраўшыся, пісалі — ад імя бацькі. Віталі ад маткі, Пракопа, Рамана, Маўры, Іванькі і ўсіх.

Перад 1 верасня паехаў у Камун[ацэнтр] Пракоп і павёз з сабою Кузьмовага Іваньку. Цяпер пісала лісты Маўра. З поля ўжо ўсё звязлі, жыта адсявалі. Ужо халодна стала, дажджы часта ішлі. У канцы верасня дужа халодна стала. Уначы ішоў снег. У калгасе троху справіліся. Толькі троху лёну ў полі было, не бітага, ды бульбу яшчэ не пачыналі капаць. За кастрычнік усё парабілі. Было частковае размеркаванне ўраджаю. Батуры разлічалі, што хлеба з іх хопіць, а корму будзе малавата. Пасля яшчэ меліся даваць сіласу.

1 верасня прыехаў у Камунац[энтр] Іванька з дзядзькам Пракопам. Як паехала з Камар[оўкі] маці, ён дужа сумаваў, а потым захварэў. Балеў яму жывот. Прыехаў дужа жоўты, з упалымі вачыма. Гаварыў ён цяпер чыста камароўскаю моваю: «проста чуда», «а на пріпадык ета». І ён і Тац[яна] пачалі хадзіць у школу.

У Камунацэнтры ў гэтым годзе была дзешава гародніна: бульба — 12 к. кіло, гуркі — 13 к., памідоры спелыя 53 кап. І ўсяго было многа, на кожнай вуліцы па некалькі крам. Многа было яблык і дулек. Ласка атрымала свой ганарар. Аддала ўсе даўгі, паслала 20 р. у Камароўку, купіла сабе галёшы. Хацела аддаць паладзіць Кузьмовы ба-

цінкі, але мелі прымаць толькі праз тры тыдні. Потым, у верасні, яна паступіла на работу, лабаранткаю, і на другі дзень, калі яна стаяла пры сушыльнай шафцы, ад няспраўнае работы прымуса набралася ў шафцы шмат газаў і здарыўся выбух. Медзяны корак трапіў ёй у левае вока... Вока засталося цэлым, толькі ад моцнага ўдару закрылася павека...

Цяжка было Кузьме атрымаць ліст з гэтаю навіною...

17 верасня. Быў холад, быў дождж. Было яму вельмі сумна. Гэтыя дні — дзевятыя ўгодкі па Марынцы. Думаў: «І вось што мы маем... Ён — там. Я — тут. Бацькі адны. Жонка без працы». Ішоў з гораду ўвечары, нёс хлеб і ціханька пяяў жніўныя песні: весяліў сябе... А Ласка пісала: «Не прымай блізка к сэрцу здарэння са мною: магло быць горш. Добра, што так абышлося. Павека магу ўжо троху паднімаць, і доктар кажа, што калі мінецца сіняк, павека будзе працаваць...» 19 верасня мінула дзевяць год, як не стала Марынкі. Год за годам... «Рана гаіцца, але не зажывае»,— так пісаў нябожчык Ядвігін Ш. аб смерці Сяргея Палуяна. Што перажывае Лаўрык у гэтыя дні? Што думае маці, бацька? Не з'ездзіць ужо маці на яе магілку. У двары папросіць бога за ўпакой яе душы. Год за годам... Ах, як сумна, як цяжка!

Не прабіцца табе, Кузьма, праз гэтыя зарасні маліны і ўсякіх кустоў. Позна ўжо. А яшчэ відаць недаспелую маліну справа і колькі чырвоных сунічынак злева...

Схапіў ты, Лаўрык, знайшоўшы на зямлі пад яблыняю старою добры чырванабокі яблык... І з усіх ног кінуўся ты з ім з роднага саду! А нашто ж ты, мой дарагі, у родным садзе на градках дзікіх сасонак ды чахлых ялінак пасадзіў? Лепшых дрэўцаў не знайшоў...

А ты, Марынка, вечны спакой табе, любая трагічная дзяўчынка! Знайшла разам са мною колькі яблык і дуль. Адна дулька вялікая — спелая, а то яшчэ зялёныя, трэба ім яшчэ ляжаць. І надкусаную дулечку падняла... Возьмем іх,— гэты плод, які прыйшоўся нам...

Успомніў, як быў у М[аскве]. І там бачыў: сцяну мураваную разбіралі каля могільніка, дзе пахавана яна. А ці не ўсё роўна? Усё разрыецца, усё забудзецца... Чые косці

невядомыя вырылі на Пляцу Волі ў Камунацэнтры, пракладаючы трубы? Чый невядомы чэрап выкапаў бацька на гародзе, гародзячы леску? Чэрап той быў у Лаўрыка на этажэрцы — і з напісам на ім па латыні стэнаграфіяй: «Памятуй пра смерць!» О Лаўрык, Лаўрык! Няшчасце прынёс табе гэты чэрап... (Хоць веры няма, а думаецца старым трыбам.) У Палянцы, на шляхоцкім полі, каб болей жырных гародаў узараць,— гаралі, займаючы стары могільнік, вырываючы косці продкаў: далёкіх, невядомых, можа, чужых, можа, сваіх... Як ты на гэта глядзіш?

Калі маці праваджала Лаўрыка ў Варне, яна крапілася, васільковыя вочы яе былі спакойны і іскрыліся. Сваёю агрубелаю ад працы рукою яна гладзіла нясмела яго руку і калена. Але ўсё некуды спяшалася, турбавалася... [...]

І так мінаўся яму месяц у Пальміры. Усё, што здарылася, ён успрымаў ужо як нешта заканамернае, невыпадковае, хоць магло яно быць, па яго думцы, і ў іншых формах. Часам ён думаў, што Кузьма аказаўся ў канчатковым выніку ў шмат разоў празарлівейшым за яго ў ацэнцы людзей. Крыніцаю шмат якіх сваіх памылак Лаўрык лічыў цяпер якраз свае некрытычныя адносіны да людзей, сваю так званую мяккацелую дабрату.— «Пагарды, ганьбы варты мае «прыяцелі» і якраз тыя, да якіх Кузьма і раней адносіўся з несхаванаю грэблівасцю...» — думаў цяпер Лаўрык. [...] Такі рабіў ён вывад, каб знайсці сэнс і апраўдаць усё тое, што з ім здарылася. За ўвесь час моманты ўпадку духа былі ў яго рэдка і то толькі пасля пераводу ў Камунацэнтр. [...] У яго было толькі раздум'е, але не ўпадлівасць. Ён быў бадзёры, меў ураўнаважаны настрой, вялікую работаздольнасць. Не было і ценю нуды.— «Трэба толькі разумець, разумець па-свойму,— думаў ён.— Не, я жыву. Ёсць яшчэ шмат прыгожага, добрага. І ёсць сэнс...» Працаваў у картанажнай майстэрні. Чытаў. Хадзіў у кіно, тэатр. Меў пабачанне з Харошаўцам. Атрымаў ад Вары сем лістоў. Гэтак жыў.

19-га жніўня ён выехаў з Пальміры на поўнач. [...] Прыехаў Лаўрык, прыехаў! Скалы і балоты. Вілаватыя азёры з дзівоснымі берагамі, быстрыя рэчкі з парогамі, багатыя лугі. Паселішчы раскіданы рэдкімі выспамі, як у Беларускім Палессі. Будынкі ў вёсках у два ці паўтара паверхі. Саламяных стрэх не відаць. Мора часта і прыгожа мяняе свае колеры. Шмат на ім выспаў. Бела-шэрыя мор-

скія чайкі здаюцца адзінымі тут птушкамі. Яны крычаць, як бы плачуць, страждаюць... Вялікія прылівы і адлівы, да 4 метраў. У часе адліву ад вадаростаў ідзе пах серавадароду. Да яго звыкаеш. Ён перастае быць непрыемным. У лясох бясконцу многа самых разнастайных ягад: чарніц, дурніц, брусніц, журавін. Пахне багун. Прыехаў Лаўрык, прыехаў тут жыць. Было яшчэ цёпла, часам нават горача. Толькі тут бываюць рэзкія змены надвор'я ў адзін дзень. Раптам падзьме вецер, схаваецца сонца за хмары, зробіцца халодна. Бела-шэрыя морскія чайкі тады асабліва крычаць, плачуць-надрываюцца — самотныя над сцюдзёным, немашумлівым, бязмоўным морам. І сумна таму, хто ходзіць тут гэткі ж самотны, без цяпла і ласкі. Нязносна таму, хто ўпадзе ў роспач, страціць надзею: яму лепш памерці...

25 жніўня запырхалі першыя сняжынкі. Падзьмуў сцюдзёны вецер, сонца схавалася за хмары, прыйшоў холад... У Зіме Лаўрык прабыў ад 16 жніўня да 13 верасня. І балансы цягаў, і дровы пілаваў, быў пісцом, праводзіў чытку газет і г. д. Удзельнічаў у пабудове грэблі. Шмат чытаў.

У Зіме апошнімі тыднямі пайшлі замаразкі, і бярозы хутка пераапрануліся ў жоўтыя ўборы. На фоне цёмна-зялёных хваёвых лясных прастораў — жоўтыя мясціны, а ліст яшчэ неваліцца. Там вельмі многа ясных сонечных дзён, у такія дні восень і там залатая... 15 верасня, калі ехаў з Зімы ў Логава, толькі рэдка дзе былі на бярозах жоўтыя лісты ды ірдзелі чырвоныя рабіны ў лесе. Пераезд на паўдзён, на якія-небудзь 270 кіламетраў, паказаў яму рэзкую змену прыроды. У Логаве яна значна багацейшая. Болей лясоў, магутных сасновых бароў, бяроз вялікіх і высокіх. Цяплей. Мясцовасць тут надзвычай маляўнічая, гэта проста горны курорт. Анежскае возера ўцякае ўдалячынь, як мора. Вакол — высокія лясныя берагі, курганы, увалы, быстрыя рэчкі з высокімі тэрасамі, раскіданыя на адхонах узгоркаў пасёлкі. Кожны куток арыгінален, не падобен да другога. Цудоўна прыгожае месца! Тут ён павесялеў. Вара адчула гэта па яго лісту ад 17/IX з Логава: гэты ліст яго быў весялейшы, чым першы. Працаваў ён у лесе.

25 верасня атрымаў ён пасылку ад Вары. Пасылка дайшла надзвычай хутка, за 9 дзён, а схадзіла і ў Зіму. У пасылцы былі і дары ад маці і бацькі: цёплыя панчохі, цы-

буля, сушаныя яблыкі. Пасылка зрабіла яму вялікую радасць [1]. [...] У лісце ад 2 лістапада ён пісаў:

— Дарагія мамуля і любы татуля! Не клапаціце пра мяне. Я жыву добра. Мы яшчэ ўбачымся калі-небудзь, пажывём разам. Беражыце вы сябе, сваё здароўе. Цалую вас моцна, мае любыя. Не крыўдуйце на мяне, што прынёс вам пад старасць, замест радасці, цэлы мех клопату і смутку...

— Дарагі браце Рамане! Наконт перасялення баюся што-небудзь раіць, глядзі сам, мне лёгка ашукацца. Вялікая табе падзяка за твой клопат пра маю і Кузьмову сям'ю і пра старых бацькоў. Калі-небудзь і я буду хоць троху зарабляць і здолею табе дапамагчы.

— Любы Пракопка! Я надта рад, што ты вучышся далей. Не кідай вучэння, старайся набыць тэхнічную спецыяльнасць, як найбольш эфектную і патрэбную цяпер у сацыялістычным будаўніцтве. Але на вашага брата, бухгалтарска-лічбовых працаўнікоў, каласальны попыт таксама. Жадаю табе поспеху ў навуках.

— Дарагі Кузьма! Выбачай, што я не мог адказаць табе асобна на тваю эпістолію. Я вельмі рад, што ты падтрымліваеш мяне ў пераломныя моманты. Тваю раду наконт работы па спецыяльнасці я цяпер амаль што ўжо ажыццявіў, і гэта самае важнае з дадатнага ў маіх умовах. Раю і прашу цябе не кідаць зусім літаратурных заняткаў, знайдзі толькі сугучныя ноты. Пасабляць мне нічым не трэба, толькі ласкавым словам. Хоць зрэдку прысылай мне пару слоў.

У гэтым жа лісце пісаў ён, што кормяць добра, ёсць кіно, радыё (і ён чуў беларускія песні, «Вярбу» і інш.), ёсць газеты (і «Савецкая Беларусь»), магазіны, дужа добрая лазня, з парным аддзяленнем (і вось і зараз ён толькі што прыйшоў з лазні, добра там выпарыўся венікам, перамянілі яму там бялізну на чыстую), дармавая карэспандэнцыя... За апошнія дзве дэкады прачытаў 481 стар., або па 48 стар. у дзень. А спецыяльную літаратуру нельга хутка чытаць. Бібліятэка добрая. Пісаў: «Бясконцу рад, што далі работу: работа — і адпачынак і радасць. Радасна адчуваць, што і ты робіш хоць маленькую драбінку чагосьці патрэбнага ў вялікім будаўніцтве». Ён будаваў канал,

---

[1] У тэксце, па палях, насупраць слоў: «У пасылцы~радасць».— аўтарская паметка: «Вара паслала яму сала».

які злучыць два моры. Ідэя — яшчэ з часоў Пятра. Два вякі цары не маглі зрабіць. Цяпер ажыццяўляецца. Работа ідзе хутка.

У лісце да Кузьмы ад 26 лістапада ён пісаў:

«Мой дарагі Кузьма! Як я рад дзвюм тваім прамовам (30/VIII і 20/IX, абедзве казаны ў Зіме; трэцюю, што была казана ў Пальміры, я не пачуў). У іх ёсць якая пара сказаў, што хвалююць мяне, надаюць шмат радасці: праз кароткасць, схематызм, у якія ты сябе хочаш загнаць нават у лістох (як і ў жыцці), праглядае цёплае пачуццё... Мне так прыемна гэта, нібы я нанова ў Камароўшчыне слухаю тваё чытанне «Адвечнае песні», захапляюся... [...] Але адчуваю сябе здаровым ува ўсіх сэнсах, не зломаным, не знерваваным, здольным да працы з новым імпэтам, поўным цікавасці да жыцця, да яго велічы. [...] Хачу ісці спакойна наперад. І жыць — і зараз цікава, скарыстоўваючы і надаючы змест кожнаму дню, каб не было зусім змрочных і мёртвых гадзін. Часамі гляджу і на самога сябе, і на сваіх блізкіх — збоку, як чалавек, які нанова звярнуўся і іначай усё бачыць».

Галоўнае ў яго цяпер была праца па выбранай ім дысцыпліне, аўладанне гэтай дысцыплінай, як яго новай спецыяльнасцю. З вывучэння адносін людзей перайшоў да вывучэння адносін рэчаў, да прыродазнаўства, блізкага да прасторавага ўяўлення свету. Імкнуўся аддаць гэтай новай для яго дысцыпліне ўвесь вольны час. Шмат чытаў, штудыраваў, меў на мэце калі-небудзь экстэрнам вытрымаць за спецыяльны інстытут. Адносіны да яго былі добрыя. Працаваў сярод вольных людзей. Давалі амаль найвышэйшую стаўку па тутэйшых умовах. Літаратуру па спецыяльнасці даставаў у супрацоўнікаў. Будаўніцтва было ўдарнае. Яно павінна было скончыцца за 400 рабочых дзён, да 1 мая 1933 г. Працавалі ад 9 да 4. Увечары — чытанне. Кожны пяты дзень — выхадны. Лаўрык выпісваў сабе «Праўду». Лісты прыходзілі досыць часта. Харчы былі добрыя (толькі першы месяц харчаваўся дрэнна). Цэны на ўсё былі малыя. Грошы крыху меў. Хадзіў у цёплым ватным бушлаце, у ватных штанох, у бацінках з цёплымі парцянкамі. Праз кожныя 10 дзён была лазня, змена бялізны. А навокал — горы, лес, рэчка, скалы, тыповы горны ландшафт, азёры, вадаспады, возера — як мора. Усё — што ён так любіў.

З дарогі ён пісаў Вары вельмі часта, карыстаўся з кожнае магчымасці, бо ведаў, што, прыехаўшы на месца, ён гэтае магчымасці ўжо не будзе мець. Вара таксама, увесь час, пісала яму даволі часта. Яна паслала яму пасылку і 40 р. грошы [...] У лісце ад 26 верасня ён напісаў, што вясною Вара зможа прыехаць да яго ў госці. [...] У снежні яна паехала к яму. Па дарозе заехала ў Камароўку.

Была там Вара 14 снежня. Увечары гэтага дня маці папрасіла яе напісаць ад іх Кузьме, што яны жывы і здаровы, што грошы атрымалі і каб больш не прысылаў, адбіраючы ў сябе апошняе. З калгасу атрымалі яны 8 пудоў пшаніцы, два разы па 9 пудоў жыта, 33 пуды бульбы, корму для свіней $4^1/_2$ пуды. Карову даілі сваю. Нядаўна забілі свінню. Хацелі пасланць сынам кілбас. Клопат быў з дрывамі. Маці на працу ў калгас не хадзіла, тупала ў хаце. Бацька віў вяроўкі ў калгас. Маўра хадзіла лён трапаць. І калі Вара пісала, Маўра пайшла на зборку — прэмію дзяліць, бацька ляжаў на печы, а маці з дзяцьмі сядзела на ложку, спаць збіраліся малыя.— «Во, слухайце казку,— казала яна ім.— Душыць мяне кашаль, баляць мне грудзі...» — «Ладная казка»,— перабівае Ласа.— «Не, няладная, але нічога не зробіш». Цяпер пачалі гаварыць пра лісіцу, ваўка і мядзведзя... Сумна тут стала Вары яшчэ больш. Сустракаў яе бацька і ў дарозе ўсё казаў, дзе бегаў Лаўрык, дзе гуляў Кузьма... На сцяне развешаны ўсіхныя фатаграфіі. У хаце чыста, паветра чыстае, краскі добра растуць. Жылі ў новай палавіне, а ў тэй хаце і не палілі. А за акном скавыча вецер, завея... і клопат Вары, што заўтра ніхто яе не адвязе, а яна спяшаецца. Назад ад Лаўрыка яна зноў мелася заехаць сюды, каб расказаць ім пра сына. Хадзіла да Рамана, але яны з Гашкай не прыехалі яшчэ ад доктара і, мусіць, у гэтакую пургу і не прыедуць ужо сёння. Гашка пра сваю хваробу не кажа. Маўра гадала, ці не на аперацыю паехала. Тацянка і Хвалька вялікія. Міцька высокі, тонкі стаў. Была Ганна і Савачка. Аксанін хлопчык падрос, ладным стаў. Кажа маці Вары, каб прыпісала яшчэ, што Вусцінка тэлеграму прыслала, каб прыехалі па яе. А бацька кажа, што сёння ў Дубраўках у пуні знайшлі чужую нежывую бабу. Ці не змёрзла яна? А Цімох Банадысёнак з'ездзіў і прывёз Карпіху з дзяцьмі, а Карпа застаўся там у больніцы. Раман дужа хоча з'ездзіць і да Лаўрыка, і да Кузьмы — побач.

18 снежня, раніцою, прыехала Вара ў Логава. Сустракаў муж... Выглядам яго зусім здаволена. Здаецца, будзе здаволена і яго настроем. Знайшоў тут ёй пакойчык. Будуць разам жыць. Зараз ён на працу, а яна пойдзе ў с. с. рэгістравацца. Пашукае сталоўку. А 4-й канчае работу. Яна па яго зойдзецца. Ужо ведае, дзе працуе. І ўрэшце возьме яго за руку, пойдуць у горы і будуць гаманіць, гаманіць... Аж не верыцца ёй, што яны разам. Мясцовасць тут, сапраўды, прыгожая і здаровая...

[19]32

Раман паехаў у Пальміру, да Мішкі, Вусцінкінага сына, каб узяць грошы — ехаць па Вусцінку, Цераха і малых дзяцей. Мішка жыў добра, у добрай кватэры, ні ў чым сабе не адмаўляў, курыў дарагія папіросы. Адтуль паехаў Раман да Лаўрыка, пабыў у Лаўрыка. Там у гэты час якраз была і Вара. Лаўрык паслаў Кузьме праз Рамана «Вопросы ленинизма» Сталіна і шахматы, а Вара кавалак туалетнага мыла.

Ехаў Раман з Логава ізноў праз Пальміру. Мішка паслаў праз яго Кузьме каробку дарагіх папірос. А з двара прывёз Раман Кузьме кавалак сала, пару кілбас і цёплыя панчохі і рукавічкі (матчынае работы). Кузьма быў дужа рад Раману. Вадзіў яго ў сваю рабочую сталоўку і ўзяў бігас за 45 кап., у якім аказалася сала крошачкі дзве. Сталоўка была перароблена з губернатарскае стайні. Была зіма, быў вялікі мароз. Радыё сіпела на сцяне. Хадзілі ў піўную. Кузьма даў закладу за два кухлі 4 рублі і кухлі здаў, а заклад забыўся ўзяць. Успомніў на другі дзень і дні два пахадзіў, пакуль спагнаў. І вось правадзіў Кузьма Рамана і стаў чакаць. Раман казаў, што пасажыраў шмат, цягнікі вельмі спазняюцца, на конях трэба ехаць 200 кіламетраў туды і 200 назад. І Кузьма доўга, цярпліва чакаў, калі будзе ехаць ён назад з Вусцінкаю і дзеткамі... Радаваўся, што ўбачыць Вусцінку і малых дзяцей яе. А ішоў дзень за днём, і Рамана і самога няма і няма... Заждаўся Кузьма, растрывожыўся. Хадзіў на вакзал, а хадзіў вельмі далёка і часу няма. На вакзале наслухаўся гутарак. «Ідуць пехатою тысячы вёрст...» «Прыйшла бабулька ўзімку ды пад акно: пусціце, дзеткі». Усё думаў пра тую бабу, што нежывую ў Дубраўках знайшлі. Пад капою сена знайшлі. Уроілася яму, што гэта Вусцінка... Знайшлі, не пазналі, пахавалі... Не ведаў, што рабіць, як Рамана шу-

каць: ці ў міліцыю заяўляць, ці тэлеграмы адбіваць. Усе тэрміны прайшлі...

Пайшоў у лазню — укралі мыла і вяхотку. Панёс бялізну ў пральню, а далёка, у другі канец гораду,— чарга: праз месяц прынясіце.

Зіма, снег. Марознае серабро. Тратуары да света была яго чарга чысціць. У розных дамох розная сістэма была: штодзённая, пяцідзённая, дзялячачная, дворніцкая. Чысціць ён, яшчэ цёмна... Ідзе Раман,— адзін! — «А дзе ж?..» — «Дзеці на вакзале...» [...]

Потым схадзіў Раман на вакзал, прывёў хлопчыка і дзяўчынку. Кузьма ўбачыў іх, прыйшоўшы з работы. Беленькія, далікатненькія. У дзяўчынкі падраная хустачка на галаве. Зварыў Кузьма бульбы на прымусе, кілбаску зварыў, што прывёз яму Раман. Дзеці елі, згаладнялыя. Раман апавядаў, як яны жывуць. Вусцінка казала, як яны ехалі. На беразе ракі сядзелі.Ігліцы сыпаліся на іх. Касцёр развялі, шалаш зрабілі. Ехала праз Крутагорск, казала: «Во, тут мой брат жыве». Але ж цёмная, непісьменная: дзе яна знойдзе яго ў тым горадзе? Цесная хата, тры сям'і. Казаў Раман Цераху: «Купі пудоў дзесяць мукі дый сядзі. Чым табе дрэнна». І Кузьме ўспомніліся гутаркі сяброў па грабарскай рабоце, тутэйшых сялян, зайздрослівыя гутаркі: «Паёк ім даюць. Збудаваліся, развялі вунь якую гаспадарку». Пабылі ў Кузьмы. Спалі на падлозе. Паехалі. Бутэлька трэснула. Тормаз засіпеў. Паехалі. Застаўся Кузьма адзін. Ласка якраз сумны ліст яму прыслала. Яна патрапіць напісаць якраз.

У снежні ў калгасе малацілі[1]. У Стахвана было 128 працадзён — у старога чалавека. Разлічалі, што хлеба хопіць, а кармоў малавата. У дровы ехаць стар, і мароз.

Нехта назводзіў, і бралі Рамана, але дні праз тры выпусцілі. Кулакі, якія яшчэ пазаставаліся там-сям, вялі агітацыю супроць калгасаў. Найгорш было ў Харошым: там жа спрадвечныя папоўскія ўплывы. [...]

Хата ацэнена ў 150 р. Там чырвоны куток. Быў спектакль. Маці кашляе. Рада, што рукавічкамі дагадзіла. У П'янаве наладзілі млын. Намалацілі мукі, надралі круп. У лютым Маўра хвалявалася, што яе бацька зваліўся і

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «У снежні~малацілі».— аўтарская паметка: «Камароўка».

зламіў рабро. Старым было цяжкавата. Працадні зарабляў, галоўным чынам, бацька: Маўра безупынна хварэла. Пракоп канчаў рабфак і збіраўся паехаць бухгалтарам. У сакавіку ў дзень Чырвонае Арміі арцель святкавала, і цэлы дзень у Стахванавай хаце было бясплатнае кіно. Пасля кіно калгаснікі зрабілі вечарыну, пілі піва. Ганна пачала паставаць. Стахван казаў, каб ела скаромнае, дык яна не слухала. Калгас працаваў добра. Адкапвалі сіласную яму. Раману стала жыць трудна. Нападалі на яго з усіх бакоў. Спярша ў бацькі стрэльбу адабралі. Раман абараніў, звярнуў. Тады заявілі на Рамана, што свінню абсмаліў. Была рэвізія. Абышлося. Але трудна было змагацца. Усё гэта капалі на яго Смакуны (Гаўрыла, Ягор, Міхалка), якія не хацелі ў калгас, і Іван, старшыня калгасу, дапамагаў. Ён сам у калгас пайшоў таму, што быў членам с/с ад вёскі, дык не было як выверну цца. Стахванездзіў у дровы ў Салаўёвы Машкі з Раманавымі хлопцамі. Маці чула сябе добра, але працы многа было. Маўра два тыдні была ў сястры. У красавіку ў другую Стахванаву хату ўсялілі Мархву Чаркесіху. Іван Смакун прывёў, кажа: «Часова». Баяліся спрачацца... Ішла вясна. З кармамі Стахванавы абышліся. Пчолы былі жывы. Стахван вынес іх у сад. Калгас рыхтаваўся к сяўбе. [...] Стала ўжо сушэць, толькі было яшчэ халодна, не цяплела.

Коля быў у дварэ, не ўчыўся. Чакалі к 1-му Пракопа. Скушна стала ў Стахванавай і ў Раманавай хаце. Васілёк хадзіў у школу ў Палянку, вучыўся дрэнна, не хацеў зусім. Пісаў Лаўрык, што здароў. 1-е Мая было ў адзін дзень з вялікаднем. Пракоп прыязджаў на свята. У блізкім часе ён меўся забраць жонку з дзяцьмі, бацькі мелі застацца адны. Рамана ізноў затрымалі былі на дзесяць дзён, ізноў выпусцілі. Прыязджала дамоў з Ксенему, з тэхнікума, Лідка (яна ж Нінка.— *Рэд.*). Вара з Хвальком паехала да Лаўрыка. Кузьма прыслаў матцы бацінкі, бацінкі былі ладны, па назе. Жалілася Маўра: «Адзін падсвінак ужо здох і два етыя ўжо здыхаюць. Будзем сёлета, знаць, без свіней». Паслалі Кузьме ў той жа каробачцы (з-пад бацінак) белых сухароў. Памёрла Піліпіха. У чэрвені, як Раман быў у Камунац[энтры], даведаліся, што Ласка з дзяцьмі паехала ўжо к Кузьме. Маці непакоілася, як яны даехалі, што дарога вяліка. Маўра паехала ў Камунац. к Пракопу. Ад Лаўрыка быў ліст. У ліпні паслалі Кузьме пасылку. Маўра жыла ўжо ў Камунац[энтры]. Пярун забіў у Палянцы Марынку, мужчын у Сохане, каня.

Ганна дужа жалела Марынку, гэта была яе хрэсніца. Стахван жаліўся: «У садзе сяджу-сяджу, а раёў няма». Дні яму пісалі. Па 20 дзён у месяц. 11 ліпня скончыла Лідка тэхнікум. У Камунац[энтры] прабыла да 24-га: трэба было атрымаць стыпендыю. Яна ўзяла з сабою ў Камароўку Хвалька. Даехалі добра. Сустрэў яе бацька. Падаспела якраз на работу. Быў самы сенакос. Жалі жыта. Больш жнейкаю, чым рукамі. Маўра была яшчэ ў Пракопа. Хварэла троху, як Лідка ў іх была. Ганна на працу не хадзіла, прыглядала сваю гародніну і дом. Стахван сцярог калгасны сад, гарод і пчол. Раман быў брыгадзірам на касьбе. Яблык сёлета было многа. У **жніўні** атрымалі ад Кузьмы грошы. Парасяткі гадаваліся. Раёў не было: быў адзін, і той уцёк. Мёду было зусім мала. Калгас працаваў добра. Жыта пажалі і звязлі спраўна. Сена яшчэ касілі. Раней была добрая пагода, цяпер пайшлі дажджы. Раман жыў яшчэ дома, але крыху непакоіўся. 30 жніўня прыехаў Пракоп з Маўраю. Пракоп толькі пераначаваў — і паехаў назад. Узяў з сабою Васілька і Хвальку, бо ім трэба было 1-га ў школу ісці. Маўра мелася троху пабыць, каб пасобіць капаць бульбу. Казала, што Пракоп дужа многа працуе, і ў выхадныя дні, як пойдзе а 9 гадзіне, дык прыходзіць у час ночы. Стаў ён худы. За гэтых два месяцы на два кіло палягчэў. У калгасе яго хацелі ўжо выпісаць, што не даваў грошы ў калгас. У верасні доўга не маглі атрымаць грошы, што прыслаў Кузьма: усё не было на пошце. У калгасе ўсё было добра. Жыта за два дні памалаціў камбайн. І аўса троху. Сеялі жыта. Матка гаварыла сіпата. З дрывамі было кепска. Яблыкаў сваіх было 15 пудоў, арцельскіх 50 пудоў. Пчол падгледзілі арцельскіх: дасталі 8 пудоў мёду. Ад сваіх пчол дасталі 30 ф. Жыта далі з калгасу 5 пуд., ячменю 1 п. 4 ф. Памёр дзед Банадысь. [...] 10-га **верасня** паехала Маўра. Засталіся старыя толькі ўдваіх. Прасілі Кузьму, каб прыехаў паглядзець на іх, калі можна яму. Быў ліст ад Лаўрыка і ад Вары, што дзеткі іх былі дужа нездаровы, цяпер паздаравелі. У калгасе трапілася незадача: у старшыні Ів. Мік. падавілася карова бульбінаю. Усё-ткі паспелі прырэзаць. А ўзамен яму далі з калгасу. Ішлі вялікія дажджы, стаяла вялікая макрата. З упраўкаю было пішто. Бульбу сваю пакапалі. З калгасу далі 30 пуд. бульбы і хлеба 5 пудоў да новага году. У **лістападзе** атрымалі ліст ад Кузьмы і ў ім 30 р. На шчасце, былі ў краме галёшы, і бацька купіў для маткі на валенкі, заплаціў 9 руб. і аддаў страхоўку. Жаліўся

бацька, што сёлета палажылі ім страхоўкі многа: 34 рублі. Маці ўсё падкашлівала. Без дзяцей было нудна. Без дроў трошку трудна. Дроў можна было дастаць у лесе, ды не было каму прывезці. Сам так-сяк прывёз. Рамана дома ўсё не было. Толя вучыўся ў Варне. Хлеб быў, бульба была. Зарэзалі бычанка. Карову яшчэ даілі. Кармілі пару парасят. Атрымалі ад Лаўрыка купон на 50 рублёў. Тры разы хадзіў бацька і не атрымаў. І не трэба было нічога з рэчаў прадаваць, абы здароўе. Чакалі Кузьму ў госці, а як атрымалі ад яго ліст, дык і не сталі ўжо чакаць. У снежні ездзіла маці ў Камунац[энтр] к Пракопу, палячыцца: сіпата гаварыла. Бацька быў у дварэ пакуль адзін. [...] Лаўрык нядаўна пісаў. Даўно не было лістоў ад Кузьмы. Калгас працаваў спраўна. Лён памялі. Усё памалацілі.

Ласка атрымлівала ад Кузьмы грошы мала, мусіла зарабляць сама і асабліва жалілася, што бюджэт яе з'ядаюць дровы. Пілавала іх сама з Іванькам. Ніяк не магла набыць Іваньку калошкі.

У студні яна спадзявалася атрымаць ганарар за літаратурную работу, але выйшла затрыманне. Часта хварэла: то галава ёй балела, то мігрэні былі, то дзеці вельмі нервавалі. Грошы ёй не хапала. І то сама хворая, то дзеці хворыя. Прастуджваліся, кашлялі, марозілі насы, Ліда прынясла калошкі № 10, а патрэбен быў № 13. Купіла яму касцюм: суконныя штаны і куртку — першыя доўгія штаны. І ён быў рад бясконцу.

Ласка напамінала Кузьме, што трэба ёй з дзяцьмі пераехаць к яму. Праца яе не падабалася ёй. Яна працавала статыстыкам. Яна пісала, што ў Камунац[энтры] ўсё даражэйшае. Ставіла ў прыклад Лаўрыка, які «сам прасіў Вару аб гэтым». Пацяшала, што набыла кваліфікацыю статыстыка і працу сабе ў Крутагорску знойдзе. А маразы і ў Камунац[энтры] былі не меншыя: у 20 [чыслах] лютага былі такія маразы, прыйшоўшы са службы, яна паліла ў печы другі раз. Дзеці сварыліся, не слухалі яе. На медаглядзе ў школе ў Тацянкі знайшлі, што ў яе адно плячо ніжэйшае. Гаспадыня паставіла ў свой пакой піяніна, і кожны дзень і вечар там ігралі,— мусіць, на злосць Ласцы, каб рабіць яе жыццё яшчэ больш пякельным... Былі дзве курачкі, дык адна наогул не неслася, а маразамі і другая перастала несціся. Нарэшце, Ласка захварэла на грып, ляжала 20—29 лютага. Тацянка даглядала, выклікала доктара па тэлефоне. Дроў па талону ўсё не давалі, і Ласка мусіла купіць на рынку возік за 19 руб. У сака-

віку яна лічылася ўжо ў Дзяржзярне, але хадзіла пакуль што на старае месца — ліквідаваць ранейшае, рог Савецкай і Валадарскага, троху далекавата, праца не па сэрцу, але не мела ахвоты абіваць парогі, каб перамяніць. Дзеці безупынку сварыліся. Асабліва Іванька чапіўся да Тацянкі, крыўдзіў яе. Але і Тацянка часам лішне задзірала яго. Да Ласкі ніхто не хадзіў, і самой некалі было бываць на людзёх. Дзяўчаты хадзілі на начную работу. Калі прыязджала Пралеска (яна ж Вара.— *Рэд.*), хадзіла з Ласкаю ў кіно ці да Жыта. Нервы былі ў Ласкі не ў парадку. Не магла стрымацца. Пасля грыпа быў у яе кашаль, і часам дужа балела галава. Тады яна пісала ліст Кузьме. Падтрымлівалі яе мала. З Камароўкі прыслалі толькі пшанічнае мукі. У палове сакавіка марозы сталі меншыя, але дроў яшчэ не прывязлі, і прыходзілася купляць на рынку. Карысталася Янінымі дрывамі, але ненадоўга іх хапіла. Тацянкіны імяніны прайшлі як звычайны дзень, так склаліся абставіны, але Тацянка была не ў крыўдзе на бацьку, што мала прысылае грошы. У сакавіку ж пачала ўжо хадзіць Ласка працаваць на Савецкую, далей... Але тут быў добры буфет і меней працы. Бо Ласка вельмі стамлялася, асабліва стоячы ў чарзе. Ніяк не магла добра выспацца. Нарэшце паказалася вясна, ды няўдалая: надвор'е было сырое, пад нагамі гразь, балела ўдараная коркам ад прымуса косць. І калі косць балела, тады Ласка пагана сябе адчувала: цяжка было працаваць на службе і што-небудзь рабіць дома. А ў хаце — пекла: дзеці сварацца, хлапцы крыўдзілі Тацянку, не слухалі Ласку. Ро (ён жа Хвалько.— *Рэд.*) быў вельмі нервовы. І Пралеска з месяц не была ў Камунацэнтры. Нарэшце, прыехалі Пралескіны бацькі з Ра (ён жа Вадзім.— *Рэд.*) [заехалі] праездам к Пралесцы ў Зазер'е. Кузьмоў ліст, мусіць, згубіўся ў дарозе, а Ласка мучылася, што ён так доўга не піша, і сама яму не пісала, не ведаючы, у чым справа. Яна не пісала яму, бо ўсё чакала ад яго якіх вестак. Нарэшце, Яня і Оля (сястра Яні.— *Рэд.*) перайшлі ў інтэрнат, хоць ад іх палягчэла... У канцы красавіка снегу ўжо не было, на вуліцах быў вялікі пыл. А на вёсцы дарогі яшчэ не падсохлі добра, дык слабы быў падвоз, і ўсё было дорага... З прыходам вясны Ласка спадзявалася, што скора ўжо пераедзе да Кузьмы, і патроху пачала ліквідаваць Кузьмовы кніжкі. Ёй крыўдна было, што Вара ізноў ужо, другі раз, паехала да Лаўрыка, а яна ўсё яшчэ сядзіць адна. Яна пастанавіла помсціцца Кузьме за яго рэдкія лісты і

сама доўга яму не пісала. 8 мая атрымала, нарэшце, паўтары шуркі дроў. Доўга вагалася: браць ці не браць? — што пераязджаць скора. А Саюзхлеб так і скруціў абяцаную шурку. Трэба было цяпер спаганяць з іх заплачаныя за шурку грошы, а часу няма. Пазычыла 20 р. на перавозку дроў. Усё падаражэла. Напісала Кузьме, што пытанне аб пераездзе канчаткова вырашыла, пераедзе, калі скончацца заняткі ў дзяцей у школе (канчаліся ў палове чэрвеня) і калі ўсё ліквідуе (значыцца, у канцы чэрвеня ці самае позняе — у пачатку ліпня). Есці варыла цяпер на прымусе, але нафты было малавата, дык добра, што хоць дроў падвязлі... Тугавата было з грашмі, хоць Кузьма і падаслаў троху. Пастанавіла разлічыцца на службе, каб мець развязаныя рукі і хутчэй сабрацца ў дарогу. У канцы мая разлічылася. Але цяжка было збываць рэчы ў такі час: мусіла тое-сёе аддаць за бясцэн, а што і так кінула.

Непрададзеныя кніжкі мусіла кінуць, бо цяжка было іх з сабою цягнуць у такую дарогу. Каб хутчэй даехаць і не мець перасадкі, хацела ўзяць білеты на кур'ерскі. І якраз жа не было білетаў. Прымушаны былі ехаць у звычайным пасажырскім цягніку, з перасадкаю ў Маскве, насілу ўдалося дастаць плацкарты. 17 чэрвеня выехалі.

Пралеска пабыла ў Лаўрыка, здаецца, да паловы студня [1]. Дужа сумаваў, нудзіўся, калі яна паехала. Патроху ўваходзіў у норму. Шмат працаваў. Мала заставалася часу на чытанне. Спадзяваўся [...] жыць разам з жонкаю і дзяцьмі. Ён быў ужо [...] ў тым доміку, дзе геалбаза. Было там чыста, прытульна. Паслаў Кузьме 30 пачак махоркі. Пісаў яму, што настрой у яго бадзёры, працавіты; пісаў: «Я б тут і застаўся жыць на гадоў колькі». Скончылася яму 32 гады. Дзень нарадзін прайшоў для яго непрыкметна. Ён толькі імкнуўся быць адзін і хадзіў гуляць гадзіны на тры ў горы. А ўсякія забаўленні-пераразвагі ён свядома праганяў. Ён адшукаў тут карэнныя выхады даламітаў на значнай прасторы (на Беларусі іх пачалі б безадкладна распрацоўваць), карэнныя выхады кварцытаў (вельмі добры будаўнічы матэрыял), кангламератаў (сцэментаваны ў скалу старадаўні галечнік — з узростам да 800 міліё-

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Пралеска ~ студня».— аўтарская паметка: «Лаўрык».

наў год); кантакт (сутыканне) дыябазаў з кварцытам і дыябазаў з гнейсам; зрудзянелыя часткі дыябаза — рассеяныя руды магнітнага жалезняку, гематыту, пірыту, халькапірыту, галеніту і г. д. Спадзяваўся ўлетку адшукаць мармур. Ён прыдбаў адзін від рэдкіх карысных выкапняў: жыццярадаснасць, працаздольнасць, творчы энтузіязм... Пісаў: «Хопіць з мяне і гэтага».— «Мне хочацца так працаваць,— пісаў ён,— каб гэта дало нейкі значны гаспадарчы эфект, а недзе далёка ў мяне хаваецца думка, каб — прыдбаўшы моцную кваліфікацыю — калі-небудзь вярнуцца на Беларусь і адшукаць на яе прасторах значныя карысныя выкапні, якія б стварылі грунтоўныя падваліны для перабудовы эканомікі Беларусі. Мо ў гэтым хаваюцца рэшткі [...] рамантыкі, але, па апрыорных маіх меркаваннях, на Беларусі можна адшукаць шмат і каштоўных карысных выкапняў...» [...] У сакавіку прыехаў у Логава Халіма, на курсы. Не спадабаўся ён Лаўрыку такім, якім цяпер быў. Маральна апушчаны, разбураны... Не было ў яго веры ў пераможнасць пралетарскае рэвалюцыі, быў у яго ўпадлівы контррэвалюцыйны настрой. І выходзіць, што — не стала чалавека... Лаўрыку непрыемна было бачыць гэты працэс дэградацыі. І ён пісаў Кузьме, што ў агульнай ацэнцы гэтага чалавека Кузьма аказаўся правым. 29 мая прыехала к Лаўрыку Вара з большым сынам. Яна знайшла, што Лаўрык схуднеў троху, але набыў здаровы колер твару. Быў па-ранейшаму бадзёры. Яны шмат хадзілі, гулялі, гаманілі. Строілі планы на будучыню. Гулялі белымі паўночнымі начамі, Вары падабаліся гэтыя белыя ночы. Толькі мала яна бачылася з Лаўрыкам (ён прыходзіў з заняткаў а 5-й гадзіне). Перашкаджаў сынок, не даваў слова сказаць, а сынку не падабалася, калі яго спынялі ці гналі гуляць. Пабылі яны ў Лаўрыка з 29/V да 13/VI. Сумна было ёй ехаць, тым больш сумна, што ехала яна скарэй, каб правадзіць Ласку. Сумна было пры думцы, што застанецца адна. Але яна была рада за Кузьму і Ласку. Жадала ім «доўга, доўга жыць разам, не разлучацца болей».

19[33]

Студзень, люты, сакавік — складаў Кузьма каштарыс і перапісваў «Віл. кам.». Не было дроў. Доўгая зацяжка з зарплатаю. Недаяданне. І ў красавіку — няма дроў, няма грошы, хочацца есці.

На 1 Мая патраціўся (для дзяцей, ну і для сябе). Купіў віна, цукерак, пячэння. Колькі беганіны, каб дастаць. «Ты не член ІТС, не атрымаеш»... Прыкрыя тлумачэнні. Перапісваў «Віл. кам.». Потым атрымаў ліст ад бацькоў: 24 красавіка вычысцілі з калгасу... Прыкра. Крыўда. Пісаў заяву і не паслаў. Куды і каму жаліцца? Вось і адсвяткаваў... Прыйдзі дамоў, сядай за стол, закурывай і радуйся цёпламу сонейку: яно яшчэ грэе цябе, грэе...

Каля 10-га чэрвеня, цёплым днём, ішоў Кузьма з работы дамоў [1]. Нёс буханку хлеба кіло на тры, купіў на вольным рынку рублёў за 20 з нечым. Кіло хлеба каштавала рублёў 7—8. За колькі дзён перад гэтым атрымаў ён 80 рублёў за складанне каштарыса ў неслужбовы час,— сядзеў над тым складаннем месяца паўтара. Разлічаў бацьком паслаць троху болей і ў сябе звязаць канцы з канцамі, заткнуць дзіркі... Прыходзіць дамоў, у сенцах жонка кажа панурым голасам: «Сядзіць хлопец. Той Вусцінкін сын». Кузьме стала прыкра: як сядзеў Вожычыхін брат, дык нічога, а ад гэтага хлапца ўжо скісла... Але і сам Кузьма здзівіўся: адкуль ён узяўся? І не пазнаў яго: падумаў, што гэта другі сын, большы; толькі пасядзеўшы з ім і пагаманіўшы з гадзіну, разабраў, што гэта той самы Паўка, які ў пачатку леташняга году ехаў з Раманам. Вачом сваім не верыў: так ён вырас. З віду быў не галодны хлопчык, а даволі чысценькі, гладзенькі, як Мішка некалі. На вешалцы вісела яго паддзёвачка, шэрая, ватная, прытулкова-вучнёўскага віду. Толькі на нагах — не бацінкі, а калёшы, падвязаныя вяровачкаю. Пачаў распытваць Кузьма: куды? адкуль? Ласка ўжо пакарміла яго, хоць самім нечага было есці, і цяпер увесь Кузьмоў абед складаўся з аднае няпоўнае талеркі жыдкае бульбы, скупа закрашанае ільняным алеем, і небагатага кавалка чорнага хлеба. Паўка гэта бачыў. Ён сядзеў сабе спакойненька і ленавата адказваў, звязнага апавядання Кузьма ад яго не пачуў. [...] «Чаго ж ты прыехаў? Куды думаў ехаць?» — «Грошы на білет няма. Паеду к брату Мішцы ці к дзядзьку Грышцы...» Зразумеў Кузьма, што збалаваўся хлопчык і грошы на рукі даваць яму небяспечна. І адкуль узяць яму грошы? На работу яго тут паставіць: молад і гультайчык. Так у сябе пакуль што пакінуць, пакуль спісацца з яго братамі: будзе перашкаджаць у гэтай цясноце, і ложка

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Каля~дамоў.»— аўтарская паметка: «Вусцінкіна смерць».

няма дзе паставіць, і наогул ненадзейны хлопчык. Павёў яго на вакзал. Даў яму тую буханку хлеба, кіло два, адрэзаўшы сабе толькі троху. Узяў, не задумаўся і нічога не сказаў. Казаў, каб ехаў назад да бацькоў, на гэтую дарогу грошы знойдуцца, а на вялікую няма. Не хоча назад ехаць: «Як жа я паеду. Можа, я іх там ужо не знайду. Пайшлі ўсе хто куды». [...]

На вакзале стала Кузьме шкода Паўкі. Узяў яму білет да станцыі, дзе жыў той дзядзька Грышка (Паўка і адрас яго даў). Білет каштаваў 47 р. Паглядзеў яго дакументы: старое пасведчанне з ФЗУ. І фатаграфічная картка: ён у форме вучня. Пакінуў яго Кузьма на вакзале, пайшоў дамоў. Ішоў і думаў: «Вось табе і каштарыс... Помняць пляменнічкі пра багатага дзядзьку». Чакаў, што ён скора напіша, як даехаў, а можа, дзядзька ці браты і грошы вышлюць, што даў яму на білет.

Мінаюць дні, мінаюць,— ні ліста, ні грошы.

Ашукаў, грошы не прыслаў і нават не напісаў, дзе дзеўся. [...] І будзеш ты іграць на скрыпцы... Скрыпка незвычайна гучная. Іграць будзеш вельмі добра, нават сам здаволены будзеш, што так добра іграеш. Раптам заўважыш, што ў смычку выцягваецца валоссе. Валасінак усё меней, меней. І няма зусім. Адным кіёчкам цягаеш па струнах, няма чым іграць...

Напісаў сам адкрытку таму дзядзьку Грышку — адказу не дачакаўся. Тады паслаў ліст маладому Грышцы. Прыйшоў адказ. Піша Грыша па-руску, піша з памылкамі, з няправільнымі зваротамі мовы, не ўмее ставіць знакаў прыпынку. Аказваецца, Павел у Мішы. Але Міша просіць Грышу забраць Паўла ў Нетры. Грыша даў згоду і выслаў на дарогу 50 рублёў. А Максім у Калюжным. Піша Грышу, што вельмі галадуе, і просіць забраць к сабе. Даў Грыша згоду і выслаў пробных (?) 50 рублёў. Калі атрымае, зараз вышле яму Грыша на дарогу 200 рублёў. Далей піша: «В июле месяце я получил письмо от папы и мамы, в котором они пишут, что терпят очень большую голодовку. Я выслал им 100 рублей 25/VII и с тех пор не имею никаких ответов. Мне очень хочется папу и маму забрать к себе, но не знаю, как это сделать. Дядя Кузьма, я буду очень вас просить узнать об их существовании и известить мне. Напишите мне, можно ли вам выслать 500 р. денег, на которые вы отправили бы ко мне папу

и маму. Я сам приехать за родными не могу, т. к. утеряю место работы, а также дорого это обойдётся, что мне не в силах...» А грошы, патрачаныя Кузьмою на Паўку, ён не знайшоў патрэбным выслаць, аб гэтым ні слова і не пісаў. А пісаў, што цяпер, пакуль што, дзядзьку Кузьме ён не можа нічым дапамагчы. Кузьма зазлаваўся. Успамінаючы, як непрыхільна апавядаў Паўка аб Рамане, супастаўляючы, што якраз 500 рублёў давалі ці дакляравалі яны і Раману,— падумаў Кузьма, што Грышка баіцца, каб і ён, Кузьма, не скарыстаў з іхных грошы, не прывёзшы ні бацьку, ні матку. Так ужо падазрона навучыўся думаць Кузьма. І думаў-думаў, як адказаць Грышку, і нічога не адказаў. Толькі шкода было яму беднай Вусцінкі. Успаміналася яму маленства... Сям'я, 13 чалавек, за сталом, абедаюць. Вусцінка ў канцы столу, на ступе. Кошка з сабакам ваююць пад сталом, Дарка з Раманам за сталом. Добрая Вусцінка, ласкавая, спакойная, на ступе сядзіць, міла ўсміхаецца. З Кузьмоваю маткаю яна дружыла: дзве лепшыя працаўніцы ў сям'і, дзве лепшыя натуры. І вось: «Упёрлі Вусцінку ў балота, упёрлі!» — плакала яе маці, дзядзіна Кузьмова Алёна, як бы чула яе сэрца. За што яна гаруе?

У верасні атрымаў Кузьма з Камароўкі ліст, пісаны ад імя бацькоў Пракопам 10/IX. У канцы ліста пісалася: «Вусцінкіны дзеці — Паўлуша паехаў у Ленінград, а Максім папаў пад варту, зараз знаходзіцца на Панівойскай горцы. Яны пачалі было рабаваць некаторых жыхароў, за што і папалі ў належнае месца, але Паўлуша неяк адкруціўся, а Максім у кепскім стане. Грышка іх у Петрах».

Увосень, калі ўжо бульбу ў Камароўцы капалі, атрымаў адтуль Кузьма ліст. У лісце, спаміж буйніц і драбніц, было кароткае паведамленне: «Новасць у нас такая, што пакончыла жызнь Вусціння ў дарозе. Прыйшла толькі адна дзевачка. А Церах застаўся там, дзе і быў. Дзевачка ў Даркі...» Бедная, бедная Вусцінка! Пагінула... Горка было Кузьме пачуць гэтую «навасць». Як бы і сябе чуў вінаватым, што не адпісаў Грышцы, у свой час не напісаў нічога Цераху (адрас яго меў ад Рамана). Чуў нейкую нездаволенасць Раманам, а найбольшая злосць была на панічыка Мішку, на такога паганца Паўку, на бесклапотнасць Цераха. Грышка любіў матку, толькі і ён не ўратаваў маці... Але як жа гэта было. Напісаў Кузьма, каб тая Вусцінкіна дзяўчынка прыслала яму ліст. Ліст скора прыйшоў. Пісала яна: «Як дзядзька Раман прыязджаў, то

мы былі ў Зайцаве. Як дзядзька Раман ад нас паехаў, мы пражылі ў Зайцаве толькі чатыры месяцы. [...] Як к вам заязджаў Паўка, мы тады разышліся з Паўкам. Як мы ішлі дамоў, у нас не было хлеба на дарогу. Мы тады прыйшлі ў Крутагорскую губерню. І пачалі мяняць хустку і якраз нарваліся на міліцыянера. І завярнулі нас назад на пасёлак. Мы тады на пасёлку троху пражылі і пайшлі ізноў дамоў. У нас на дарогу хлеба не было, як мы ішлі другі раз дамоў. Калі мы зайшлі ў Крутагорскую губерню, купілі хлеба. Мама з'ела адразу многа хлеба, у яе палучыўся пераварот кішок. І тады мы зайшлі начаваць. Як петухі запелі, і тады мама памёрла. Памылі і надзелі. Хавалі без папа. За труну я заплаціла чатыры рублі. Мы ад таго места атайшлі сто кіламетраў з мамаю. Дзярэўня Рагызыва, Котпанаўскі сельсавет. Нам яшчэ да Крутагорска, яшчэ было 300 кіламетраў. Я цяпер знаходжуся ў цёткі, а тата астаўся на пасёлку. Я ўдвору ехала адна. У Крутагорску мне Гупува давала хлеба. Да Масквы даехала без білета, а ў Маскве далі білет да Чорнае Пушчы. Елена». У чэрвені 1921 г., у матчыным лісце да Кузьмы, пісаў Лаўрык: «Я хачу табе навіну сказаць: што Вусцінцы калюжанскай даў бог дзве дачушкі разам — Хвеньку і Леньку — парнісцікаў...» Значыцца, было цяпер гэтай Леньцы, ці Елене, калі памірала яе маці, 12 гадоў. І чаго было ім ісці? Неяк жа пражылі там самы трудны час: зіму 1932—33 г. На пасёлку, значыць, яны жылі з вясны 1932 г., жылі лета, зіму і яшчэ лета. Маглі ўжо абжыцца, і два сыны зараблялі, вучыцель і геолаг, і Максім і Паўка маглі хадзіць на работу. Ці, можа, бацькі, па кулацкай скупасці, не хацелі, каб сыны на іх дужа траціліся. Ці, можа, Вусцінка, нідзе раней у свеце не быўшы, не выцерпела смутку па радзіме і так парывалася ўцячы адтуль. І як мог дапусціць Церах пайсці яе адну з дзяцьмі? Дый Паўка харош, кінуў матку з малою сястрою і пакаціў к Кузьме. А Вусцінка так і памёрла без пары, у такіх сумных абставінах... Ці веданне?

Паўлюка Ваяводу ў калгас не прымалі [1]. Паўлюковы хадзілі на работу ў саўгас, у Дварэц. Прыходзілі ў Камароўку, к Ганне Стахвапісе: возьмуць калі вядро капусты,

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Паўлюка~прымалі».— аўтарская паметка: «Харошае».

калі кошык бульбы. Стары Паўлюк ужо віў вяроўкі, плёў лапці. Дадон атрымліваў пенсію, гнаў самагонку, лавіў рыбу і так і жыў, п'янстваваў. Люда была ўжо замужам і радзіла сына. Замужам была яна за навуковым працаўніком. Аніка мераў зямлю. [...]

Яблык гэтае лета ўва ўсёй вёсцы не было: папсаваўся цвет [1]. Мука ўлетку каштавала 120 р. пуд. Бульба сёлета была добрая. Буракі і цыбуля таксама былі дужа добрыя. 12/VIII дажалі ўсё жыта і ячмень. І хадзілі на дапамогу жаць у саўгас. Дрэннае зарадзіла жыта ў калгасе: месца пад поле нізкае і ўсё лета ішлі дажджы. Улетку бык забоў Хомку чуць не да смерці. Кіраўніцтва калгасу было новае, у складзе старшыні Маскалёнка Максіма і сяброў: Смакуна Гаўрылы і Шнара Міхася Васілёвага (Будзькі). Старое кіраўніцтва было распушчана за дрэннае кіраванне і расстаноўку рабсілы, ад чаго пала працдысцыпліна, у звязку з чым была зацяжка ў уборцы жыта, лёну і сена. Жыта калгас адсеяў па-ўдарнаму. У верасні астоілася прадобрае надвор'е. Увосень хлеб падзешавеў: у Горадзе прадавалі па 40 р. пуд. Бульба каштавала 5 р. пуд. У кастр. і ліст. ізноў палілі дажджы. Увосень памёрла Паўлючыха, у канцы году памёр Стахван Валентавіч Батура (унук Янкі Вашэнькі і Сахвеі). Ён быў бяздзетны. Засталася жонка і прыймовы сын (Антон Хомчыхін). І памёр Гашкін бацька.

Улетку чакалі ў госці Кузьму. І зноў не прыехаў [2]. Лета прайшло невясёлае: то Кузьму чакалі — не прыехаў, то есці не было чаго, а потым Вусцінка памёрла... Не зарадзіла ні яблык, ні гуркоў. Мёду было мала. Бульбу пачалі капаць рана (4 жніўня), яшчэ дробненькую, бо не было чаго есці. Жылі бульбаю, малаком ды гарбузамі. Карова паслася разам з арцельскімі каровамі. 1/VIII атрымалі ад Кузьмы грошы. І Лаўрык прыслаў 25 рублёў. І купілі парася. Летась аддалі за двух парасёнкаў 60 р., а сёлета за аднаго 68 р. (важыў 17 фунтаў). Далі з калгасу 10 ф. жыта, а Гашцы 10 ф. жыта і 16 ф. ячменю. Прадаць з рэчаў было што, ды ніхто нічога не купляў. Маўра прыехала з дзяцьмі на лета. Гневалася, што Пракоп доўга не

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Яблык~цвет».— аўтарская паметка: «Камароўка».

[2] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Улетку~прыехаў».— аўтарская паметка: «Батуры».

едзе. [...] І потым новага хлеба, жытняй мукі, 15 ф. далі. І куплялі хлеба. Увесь жнівень чакала матка Кузьму, і прайшоў жнівень. У пачатку верасня прыйшло ад яго паведамленне на грошы і ліст, што не прыедзе. Хадзіў бацька на тыя грошы шмат разоў, паштавік адказваў, што іх яшчэ з Целяпеніч не прыслалі. Потым з калгасу далі 3 пуды ячменю і 1 п. 20 ф. жыта (але ў ім больш было касцяру). Падаткаў заплацілі ажно 67 р. (падатку 18 р. 70 к., самаабкладання столькі сама, а рэшта страхоўка). Пракоп прыехаў у водпуск 20 жніўся. Збіраўся паехаць назад чысла 5—6 верасня, але такія пайшлі дажджы, што ён сядзеў да 10 верасня ды чакаў пагоды. 10-га паехалі, ён і жонка з дзяцьмі. Прыязджала ўлетку Лідка Раманава і Толя. Лідка паехала раней, а Толя 20 вер. Потым прыязджаў Раман і забраў з сабою Віктара. Віктар хадзіў на работу, пасвіў скот. Як Пракоп з Маўраю і дзяцьмі паехаў, астоілася пагода, пачалі капаць бульбу. Сумна было старым заставацца на зіму ўдваіх, але сумаваць было некалі, хадзілі на работу патроху: пакапаюць-пакапаюць бульбу ды на печ грэцца. Накапалі больш 7 чацвярцей. Маці была нічога, хрыпка ў яе прайшла. Прыслаў Лаўрык 50 р. і ліст. Купілі двух парасёнкаў і хлеба. Вара пісала, што яе родныя былі нядаўна хворыя. Прыслаў Пракоп сухароў. Увосень дужа многа было вады ў пограбе. Замарыліся выліваючы. Вылівалі дзён 15, вёдзер па 70 кожны дзень. Былі такія дні, што вылівалі вёдзер па 100. Бульбу перакацілі ў другі засек, а пад нізам папсавалася, на чэцверці дзве. Зарэзалі астатнюю авечку. Думалі біць парася, таму што нечым было карміць. Бацька віў вяроўкі. Было ў іх 150 працадзён, у Гашкі 200. Увосень, калі было цяплей, бацька вартаваў амбары. З калгасу атрымалі бульбы пудоў 11. У снежні далі хлеба з калгасу 2 п., 1 п узялі за стрэльбу, 1 пуд купілі за 50 руб. Далі з калгасу 5 п. саломы і 5 п. сена. А дагэтуль было сена з саду. Скоту было: карова і 5 курыц. Маці па авечцы скучала, што авечкі няма. Свінку забілі. Паслалі пасылку Кузьме. Дзве парачкі кілбас, чатыры крошачкі сала, квасолі мяшэчак, дзесяць галовак часнаку, сырцоў штук 15, мёду бутэльку.

Пракоп пісаў, што пераехаў у саўгас. Купілі мануфактуры на 22 р. (бацьку штаны і маці кохту). Быў кравец, пашыў бацьку кажушок і штаны і маці кохту. За работу ўзяў 22 р. Елі скаромнае ў піліпаўкі, маці паслухала бацьку. Так што хоць халодна ў хаце, дык жылі сытней. Ваду

пасілі праменна: маці раз у суткі, а бацька два разы. Трое судоў на суткі хапала. З драўмі так-сяк перабіваліся. Чакаў бацька цёплага дня, а тады прасіў каго і ехаў з ім у дровы. Цяпер прыехаў Толя (ён жа Коля.— *Рэд.*) з Варны на канікулы. З ім прывязлі, на святы хопіць.

Аніка быў у Пальміры. Іван і Дадон у калгасе работалі.

Камароўскі калгас работаў па-ўдарнаму: лён выканаў і перавыканаў, а таксама і ўсе нарыхтоўкі. Малацьба яшчэ ішла.

Ад Пракопа лістоў не было. Прыехаў з Камунацэнтра Петрачонак і казаў, што ў саўгасе Пракоп адмовіўся і што Васілёк нездароў нечым.

Дарка кашляла, ездзіла ў больніцу. Дзяўчынка Вусцінкіна была яшчэ ў яе.

Маці была рада, што Кузьма цяпер часта пісаў.

Перад Новым годам пісаў Лаўрык, што жыў і здароў, чакаў к сабе ў госці Вару з сынам. Пракоп ужо ў саўгасе работу кінуў, таму што там запушчана работа. Валодзька палепшаў. Паслалі ім бацькі пасылачку. Атрымалі з калгасу 7 ф. гароху. Раманавы ўсе былі жывы і здаровы.

Памерла Юлія-Магдалена. Ляжыць у труне ў сваёй кватэры. Адпачывае апошні раз дома — любіла свой кут.— «Што на яе глядзець»,— не пускае Мархва глядзець на Марыю.

Вечар одуму. Лістоў няма 20 дзён. Хвароба ў спіне. Кашаль. Часта баліць галава. Няма грошы на хлеб. Заўтра будзем есці сухары.

Купон яны атрымалі, а грошы яшчэ не[1]. Хлеб яшчэ быў, але не было корму. Купілі 15 пуд. сена па 3 р. пуд. Далі бланку на 30 руб. «культбутавых». Мой і Лаўрыкаў ліст атрымалі разам. Лаўрык пісаў, што едзе на 1 месяц у камандзіроўку. «Настае пост... Я гавару ёй не пасціцца. А яна: нечым пасціцца, няма рыбы». Бульба яшчэ была. Карова павінна была цяліцца да вялікадня. Пуд бульбы каштаваў 10 руб. Хлеб 40—45 р. пуд. «Дажыдаем вас у госці. Прыязджайце».

---

[1] У тэксце, на палях, насупраць слоў: «Купон～не».— аўтарская паметка: «Масленка».

З дрывамі было троху труднавата. Ездзілі ў Чорную Пушчу. Хлеб у горадзе ўжо падаражэў. Адарка з дзяцьмі пераехала ў другі калгас у Целяпенеўшчыну. Памёр у Палянцы Іван Горбік. Памёр Іван Іванавіч (дурны). Ходка радзіла двайнятак: хлопчыка і дзяўчынку. Пракоп даўно не пісаў. Чутна было, што пераехаў на сваю даўнейшую працу ў Камунац[энтр]. Раман абяцаў прыехаць у гэтым месяцы дамоў.— «Калі дасць бог харошае лета, прыязджайце, навясціце маць і аца».

Карова ацялілася, ацяліла цёлачку. Цёлачка пойдзе ў калгас. Налажылі гавядзіны 32 кіло і малака 160 літраў. Далі паўтара пуда касцяру і паўтара пуда жыта. Бульба яшчэ ёсць, малако цяпер ёсць,— аб чым клапаціць? У маці кашаль не ўмяншаецца.

«Сёлета, здаецца, будзе лета харошае, і будуць яблыкі, і пчолы яшчэ жывы, і, можа, будзе ў нас мёд. То прашу прыехаць к нам у госці, і не адкажыце маёй просьбы. Матка просіць бога, каб як-небудзь павідзіцца...»

[19]34

*10/IV.* Зіму перазімавалі. Троху падкашлівалі, ну троху і перастанавалі. Пчолы з зімы добра выйшлі. Былі жывы ўсе чэцвера. Толькі ўкраў нехта 14 клетак лескі, так што сад быў разгароджаны. Хлеб быў. Белага прыслала Маўра дзве буханкі. Корм таксама быў, далі аторы. Цяля аддалі ў калгас на нарыхтоўку мяса; заважыла цёлка 2 пуды. Кармілі б самі, ды не было чым. Правялі празнічкі вясёла. Раманава сям'я жыла нічога. Славік быў нездароў, але папраўляецца. Раман прыязджаў на празнікі. Віктар вучыўся ў ФЗУ, а Толя працаваў (у Пальм[іры]).

Сяння захадзіў Дадон Паўлюкоў з Харошага. Казаў, што бацька быў троху нездароў, а цяпер палепшаў. Служэння ў Харошым не было, нешта там не ўцвярдзілі. Маці скучала, што няма служэння і яна не сходзіць. І яшчэ дужа клапаціла, што Лаўрык паехаў далёка, што больш з ім і ўбачыцца не прыйдзецца. І Кузьма не ехаў.

*12/V.* Грошы па пераводу было надта цяжка атрымаць: калі ні пойдзеш на пошту, усё няма й няма. Хлеба прыкупілі. Бульбы было малавата, заставалася на семя. Не ведалі, як пасеяць бульбу. Бо Пракоп з Маўраю пераехалі ў саўгас, сеялі сабе там бульбу, Маўра не збіралася на лета прыязджаць у Камароўку, думала летаваць там. Паў-

люк Ваявода прыходзіў к сястры ў госці. Малака здалі ўжо 60 літраў, здавалі па 2 літры ў дзень.

Вясна была добрая, сад добра цвіў.

*31/V.* Грошы яшчэ не атрымалі, не было на пошце. Купілі бульбы, заплацілі 33 р. за тры пуды. Бульбу, гародніну пасеялі. Атрымалі адкрытку ад Кузьмы, матка казала: «Дай жа божа, каб праўда было, што прыедуць». Мукі прыкупілі. Мука была па 55 р. пуд. Дарка з сынам пераехала ў свой калгас, а зяць і Ганна засталіся там.

*27/VI.* Пачалі капаць свежую бульбу. Многа ягад і яблыкаў. Учора памёр Сяргей Міранок. Хаўтуры былі з духавою музыкаю, няслі чырвоны сцяг, нібы-то і ў горадзе. Зубы яму забалелі. Бегаў па бабках, лячыў зубы. Дужа балелі, крычаў: «Ратуйце, бабачкі: жыў не буду, так баліць!» Ездзіў у Воршу, там яму прарэзалі. І сам са станцыі прыйшоў, абвязаны. Ён быў хадзяйсцвенік,— яшчэ нешта дзяліў, хадзіў. Гэта якраз перад адзінаццатухаю. Праўда, на кірмаш не паехаў. Матку, жонку Рыпіну выправіў, а сам не паехаў, што яшчэ зубы яму баляць. А тады чэраз дзень ці чэраз два зайшоў да яго (прапушчана слова.— *Рэд.*), кажа: «Можа б, ты схадзіў пакашваў, бо некаму». А ён кажа: «Я й рад бы пакашваць, ды чую слабасць у целе». Гэта ўранні, і забаўляўся на краваці з Лёнікам. Першае дзіця, дык яны цешыліся з яго. А тады як дзяржаў Лёніка, так кацёх так во назад, адваліўся і галавою аб брыж краваці ўдарыўся. Рыпіна падышла: «Што ты ета: галава табе баліць, а ты так нялоўка адваліўся, ударыўся». А ён і маўчыць. Яна: «Мама! Глянь-ка ты...» Падбеглі, ён ляжыць і не адгукаецца. Збегліся людзі, Восіпа гукнулі, нашатырным спіртам цёрлі: не аджыўся... Прывазілі «глаўнага» доктара з Целяпеніч, ён пашчупаў за руку: «Хавайце. Ён ужо не жыў». Пыталіся ў доктара, і Піліп там быў, пытаўся: чаго йта так стала? Доктар казаў, што, можа, яму валненія якое было. Так, глядзі, што ад разрыва сэрца. А ён быў хадзяйсцвенік, а старшынёю калгасу Ганнін сын, рэвізійная камісія — Касцюк. Свае. Старшыня ціхі, усё пытаўся ў Касцюка: што Касцюк скажа, то ён і зробіць. А тады Касцюка некуды назначылі, а другая рэвізійная камісія праверыла і знайшла недахватку і ў бульбе, і ў ячмені, і ў грашох колькі сот. Дык, можа, Сяргей і ўзяў гэта да сэрца.

*24/VII.* Чакалі Кузьму, матка ў кожным лісце прасіла,

каб прыехалі, калі можна. Добра ўсё зарадзіла: бульба, бручка, уся гароднiна. Дасталі троху мёду, здалі нарыхтоўку. Хлеба троху купілі, троху прыслаў Пракоп. Купілі парасят.

Антон Стахванаў пабіў Івана Дземянка. Дземянок ляжыць у больніцы, у Горадзе. Біліся за сена, абодва «нехацімцы».

Увесь ліпень чакалі Кузьму з сям'ёю. К людзям прыязджалі, а ў іх сёлета ніхто не прыязджаў, хацелася ўсіх пабачыць. У жніўні прыехала Маўра з дзяцьмі, пражылі ў Камароўцы месяц. А Пракоп не прыязджаў, яму ўсё было некалі.

*16/IX*. Ужо пачалі капаць бульбу. Квасолю пабралі, боб пабралі, яблыкі пазнялі, нашчыпалі пудоў 10, пчол таксама падгледзелі, мёду ў нарыхтоўку 16 ф. здалі. Маўра з сабою ўзяла 7 ф. Хацелі і Кузьме паслаць, ды ўсё яшчэ чакалі яго ў госці. Усё было добра, і хлеба хапала, ну толькі адно, што здароўе слаба. Маці кашляла. Казала: «Хоць бы скарэй увідзіцца». Лаўрык прыслаў 35 р.

*30/IX*. Бульбу пакапалі, накапалі болей 100 пудоў. Брукшы таксама было пудоў каля 40. Бобу і квасолі налузгалі парадашна. Прыкупілі хлеба. Лаўрык прыслаў спярша 20, потым 25 рублёў. Заплацілі прадпадатку 59 руб. Кармілі парасятак парачку. Раманава сям'я выязджала к Раману. У калгасе ўсё было добра з упраўкаю, толькі ўкралі 3 кані.

*25/X*. Прасілі Кузьму, каб прыехаў хоць к Кастрычніку. Пісаў Лаўрык, што прыедзе. Прасілі, каб і Кузьма прыехаў разам. Лаўрык прыслаў ім сваю картачку, і маці так узрадавалася, што быццам ён сам прыехаў і з імі гамоніць. А Кузьма дакляраваў, што ў жніўні прыедзе, а ўжо другі год, як ён так усё «прыязджае ў жніўні». Лаўрык абяцаў прыехаць з Вараю і з дзяцьмі. А то было ім цяпер сумна, што і Сашка з дзяцьмі паехала. Капусту парубілі, нарубілі дзве кадушачкі.

9—19 лістапада быў у дварэ Лаўрык. Пасля ён апісваў свой прыезд так: «Я адчыніў дзверы ў хату — і ўбачыў тут жа пры дзвярох: нагнулася старэнькая — мама, перабірала буракі. Адзенне нейкае заношанае, старое, на галаве закручана нейкая брудная шмата, нібы баляць зубы і хворая галава. На нагах лапці. Заскаруджаныя рукі, з глыбокімі зморшчкамі. Мама мяне спачатку не спазнала. А потым прыцягнула сабе на грудзі, пачала мяне хлопаць рукамі па спіне і, нібы млеючы, казала спуджана-радасна:

вукова-папулярны і грамадскі часопіс. Выдаваўся ў Санкт-Пецярбурзе (1909—1916 г.г.). Выдавец: В. А. Пассэ.

С. 91. *«Наша ніва»* — легальная штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета, выдавалася ў Вільні з 10 лістапада 1906 г. да 7 жніўня 1915 г. на беларускай мове. З 7 сакавіка 1914 г. рэдактар, потым і выдавец Луцэвіч І. (Янка Купала). З выданнем «Нашай нівы» многія беларускія пісьменнікі атрымалі магчымасць друкаваць свае творы на беларускай мове. «Наша ніва» адыграла значную ролю ў выяўленні і збіранні беларускіх літаратурных сіл, у развіцці беларускай літаратурнай мовы, у выданні і прапагандзе беларускіх кніг. За публікацыю антыўрадавых матэрыялаў асобныя нумары «Нашай нівы» канфіскоўваліся. Перастала выходзіць у сувязі з набліжэннем фронту ў першую сусветную вайну да Вільні.

С. 111. *«З паўгода не пісаў Вандзе. Яна паведаміла яму навіны, што Цётка памёрла».— Ванда* — Лявіцкая Ванда Антонаўна (1895—1969). Беларуская савецкая пісьменніца. Дачка Ядвігіна Ш. Друкавацца пачала з 1909 года ў «Нашай ніве». Пазней — у часопісах «Зоркі», «Беларускі піянер» і інш.

*Цётка* (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна, 1876—1916) — беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка. У 1914 г. кіравала часопісам для дзяцей і моладзі «Лучынка». Уключылася ў рэвалюцыйна-прапагандысцкую працу сярод рабочых. Выдала зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду», «Скрыпка беларуская» і інш. Увайшла ў гісторыю беларускай паэзіі як пяснярка рэвалюцыі 1905—1907 гадоў. Адна з пачынальнікаў беларускага апавядання. Аўтар першай пасля буквара чытанкі «Першае чытанне для дзетак беларусаў» (Пецярбург, 1906). Публіцыст, нарысіст, даследчыца беларускага народнага тэатра.

С. 119. *«Чытаў нізінкаўскі «Вестник».—* Пісьменнік меў на ўвазе газету «Горецкий вестник», якая выходзіла ў 1917—1918 гадах у г. Горкі (Горы-Горкі; цяпер — Магілёўскай вобласці).

С. 123. *«Бальшавікі разагналі Беларускую раду».—* Беларуская рада (Рада беларускіх арганізацый, з кастрычніка 1917 года Вялікая беларуская рада) — арганізацыйны цэнтр беларускай нацыяналістычнай контррэвалюцыі. Утворана ў ліпені 1917 года на з'ездзе прадстаўнікоў розных беларускіх нацыяналістычных партый; блакіравалася з меншавікамі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыта выступала супраць Савецкай улады. З сакавіка 1918 года дзейнічала пад назвай Рада беларускай народнай рэспублікі.

С. 128. *«...ад цямна да цямна слоўнік Насовіча ліставў...» — Насовіч* Іван Іванавіч (1788—1877) — беларускі лексікограф, фальклярыст і этнограф. Аўтар «Слоўніка беларускай мовы» (1870, каля 30 тысяч слоў).

С. 134. *«...«Новые люди» соч. Мордовцева...» — Мардоўцаў* Данііл Лукіч (1830—1905) — рускі і ўкраінскі пісьменнік. Аповесць «Новые русские люди» (1868).

С. 139. *«...у рамане Сянкевіча»* — Сянкевіч Генрык (1846—1916) — польскі пісьменнік, Нобелеўская прэмія — 1905).

С. 169. *«Чытаў кнігу «Протопоп Аввакум» Бороздина.— Барадзін* Аляксандр Карнільевіч (1863—1918) — рускі літаратуразнавец і гісторык. Кніга «Протопоп Аввакум. Очерк из истории умственной жизни русского общества в XVII в.» Выйшла ў 1898 г.

С. 193. «Зоркі» — штомесячны дзіцячы часопіс Народнага камі-

сарыята асветы Беларусі. Выходзіў у Мінску з лютага 1921 года да чэрвеня 1922 года. Выйшла 10 нумароў. Рэдактар — З. Бядуля.

С. 200. *Альманах «Маладая Беларусь»* — навукова-літаратурны зборнік, спытак першы, 1922 г. Выданне Бюро беларускіх студэнцкіх арганізацый у Маскве. Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэнне», Мінск, 1922.

С. 201. *«...кнігі Мечнікава «Этюды о природе».— Мечнікаў* Ілья Ільіч (1845—1916) — рускі біёлаг, адзін з заснавальнікаў параўнальнай паталогіі, эвалюцыйнай эмбрыялогіі, мікрабіялогіі і імуналогіі. Ганаровы член Пецярбургскай АН (1902, чл.-кар. 1883). Ганаровы член амаль усіх акадэмій свету. Нобелеўская прэмія (1908). Кніга «Этюды о природе человека» (1904).

С. 215. *Тэтмаер-Пшэрва* Казімеж (1865—1940) — польскі пісьменнік. Друкаваўся з 1886 г. Для творчасці Тэтмаера характэрны адмаўленне буржуазна-мяшчанскага штодзённага жыцця, адыход у свет фантастыкі.

С. 220. *«...Шмат чытаў Р. Тагора,* [...], *Шпенглера...» — Тагор* Рабіндранат (1861—1941) — індыйскі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Найлепшыя творы Тагора 20-х гадоў — зборнік «Усходні напеў» (1925) і драма «Вызвалены паток» (1922). Тагор — аўтар некалькіх тысяч песень, 2000 малюнкаў і карцін.

*Шпенглер* Освальд (1880—1936) — нямецкі філосаф-ідэаліст, прадстаўнік філасофіі жыцця. У 20-я г. выступаў як публіцыст кансерватыўна-нацыяналістычнага кірунку, блізкі да фашызму, аднак у 1933 годзе адхінуў прапанову нацыстаў аб супрацоўніцтве.

*«...пантаміма «Покрывало Пьеретты» ўсхваляваала яго...»* — «Покрывало Пьеретты» — пантаміма аўстрыйскага драматурга Артура Шніцлера (1862—1931) на музыку венгерскага кампазітара Эрнста Донаньі (1877—1960). Упершыню пастаўлена ў Маскве ў 1913 г. рэжысёрам А. Я. Таіравым.

*«...здабыць лічбы, патрэбныя для яго «Вылічэння народнага прыбытку».—* Пісьменнік мае на ўвазе працу Г. І. Гарэцкага «Народны прыбытак Беларусі (нацыянальны даход Беларусі)». Мн., 1926.

С. 225. *«Адна надзея на «Хрэстаматыю».—* Маецца на ўвазе «Хрэстаматыя беларускай літаратуры. XI век — 1905 г.» Максіма Гарэцкага. Віленскае беларускае выдавецтва Б. Клецкіна. Вільня, 1922.

*«Наша будучыня»* — орган радыкальнай групы сацыялістаў. Вільня. 1922—1923.

С. 226. *«...ён нападаў на сістэму асадніцтва...»* — Асадніцтва ў Польшчы пачалося на аснове закону ад 17 снежня 1920 г. Варожа настроеных супраць Савецкай Расіі салдатаў надзялялі на льготных умовах або дарма ўчасткамі (асадамі), пасялялі галоўным чынам уздоўж савецка-польскай граніцы. Аснадікі эксплуатавалі мясцовых сялян-батракоў, падтрымлівалі палітыку паланізацыі беларускага і ўкраінскага народаў, нярэдка выконвалі паліцэйскія функцыі ў барацьбе з рэвалюцыйным і нацыянальна-вызваленчым рухам.

С. 232. *«Яна, як і Песталёццы, вызнавала, што школа і сям'я павінны быць непадзельнымі».— Песталоцці* Іаган Генрых (1746—1827) — швейцарскі педагог-дэмакрат, адзін з заснавальнікаў народнай школы. Спалучаў ідэі французскіх асветнікаў з тэорыямі нямецкіх філосафаў-ідэалістаў. На падставе нагляднасці стварыў асновы прыватных методык пачатковага навучання.

С. 244. *Фартунатаў* Аляксей Фёдаравіч (1856—1925) — рускі статыстык і эканомікагеограф.

С. 245. *«Жукава магілка яшчэ не апала».*— Як сведчыць дачка пісьменніка Г. М. Гарэцкая, Паўлюк Жук, студэнт Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве, быў пахаваны побач з Ганнай Гарэцкай (Марынай Батурай у «Камароўскай хроніцы») увосень 1923 г.

*«Страціў 4 дні на працу «Экан*[*амічны*] *профіль».*— Маецца на ўвазе праца Г. І. Гарэцкага «Эканамічны профіль». Не друкавалася.

С. 257. *Сянкевіч* Аляксандр Антонавіч (1884—1939) — дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР. У пачатку 10-х гадоў XX ст. у эміграцыі вёў у ЗША рэвалюцыйную работу сярод рускіх і беларускіх рабочых, займаўся медыцынскай практыкай. З 1917 г.— удзельнік партызанскага руху на Далёкім Усходзе. З 1923 г.— на партыйнай і грамадскай рабоце ў Мінску і Маскве.

Прататып доктара Сташынскага ў рамане А. А. Фадзеева «Разгром», Садовіча ў рамане Я. Коласа «На ростанях» і БасаГрэнкі ў п'есе Я. Коласа «Забастоўшчыкі».

С. 269. *Евангелісты, штунда* — рэлігійныя секты.

*«Бязбожнік»* — антырэлігійны часопіс, выдаваўся ў Маскве (з сакавіка 1925 г. па чэрвень 1941 г.). Адказны рэдактар у 1925—1932 г.г. Е. Яраслаўскі, у 1933—1941 г.г. Ф. Пуцінцаў.

*«Беларуская вёска»* — масавая сялянская газета, якая выдавалася ў Мінску з лютага 1921 года на рускай мове («Белорусская деревня») дадаткам да газеты «Звезда». З сакавіка 1924 г. — самастойная газета на беларускай мове. Выпускала дадаткі: «Чырвоны сейбіт», «Беларускі пчаляр» і інш. У 1931 г. перайменавана ў «Калгаснік Беларусі».

С. 278. *Ядвігін Ш.* (1868—1922) — беларускі пісьменнік. Адзін з пачынальнікаў беларускай прозы. Зборнікі «Бярозка» (1912), «Васількі» (1914). Незакончаны раман «Золата» (1920). Аўтар паэмы «Дзед Завала» (1910), «Успамінаў» (1921). Творчасці Ядвігіна Ш. уласцівы філасафічнасць, сатырычныя адносіны да буржуазнай рэчаіснасці, гумар, вера ў чалавека і яго розум.

*Палуян* Сяргей Епіфанавіч (1890—1910) — беларускі пісьменнік, крытык дэмакратычнага кірунку. Супрацоўнічаў у «Нашай ніве». Аўтар празаічных твораў («Вёска» і інш.). Даследаваў беларускую і ўкраінскую літаратуры і ўкраінскую культуру (напісаў цыклы нарысаў «Лісты з Украіны», «З нашага жыцця»). У атмасферы сталыпінскай рэакцыі скончыў самагубствам.

С. 282. *«...слухаю тваё чытанне «Адвечнае песні».*— Маецца на ўвазе паэма Я. Купалы «Адвечная песня» (1908; апубл. 1910).

## Тлумачэнні некаторых слоў у аповесці «Камароўская хроніка»[1]

*Або́рак* — невялікі лужок на полі, наўкол якога ралля.
*Асе́ць* — сушыльня ў гумне (з падвальнай печчу).
*Ато́ра* — дробная салома, каласкі пасля малацьбы.
*Ба́біць* — прымаць дзіця ў парадзіхі.
*Брузэлёвы* — светла-ружовы колер.
*Бры́нда* — шапавальская прылада, якою расчэсваюць шэрсць.
*Во́сва* — аса.
*Вык* — віка.
*Вы́шкі* — а) гара, месца ад столі да страхі;
б) насланыя жэрдкі на бэльках у хляве або ў гумне.
*Гішпа́нка* — іспанка (хвароба).
*Драчо́на* — а) блін з дранай бульбы;
б) ляпёшка з пшанічнай мукі з яйцамі і салам.
*На ду́ха* — рэлігійнае свята.
*Забо́ра* — складка (аборка, брыж).
*Зла́шча* — тым больш, добра калі.
*Зю́каць* — гаварыць.
*Канда́к* — асобая група царкоўных песнапенняў.
*Кватэ́ра* — а) квадрат, роўная чатырохкутковая плошча;
б) невялікі кавалак зямлі.
*Кры́лас* (клірас) — месца ў царкве для пеўчых.
*Ку́рчына* — жэрдка ў хаце пад столлю, на якую вешаюць адзенне.
*Ле́ска* — загарадка з лясковых пруткоў (арэхавых, яловых).
*Лётó* — лата.
*Ло́тра* — гультай, латруга.
*Мост* — падлога ў хаце.
*Мы́каць* — часаць лён на грэбень і потым яго скручваць у мычкі.
*Мыт* — панос.
*Мя́лле* — пацёртыя сцяблы льну (ці пянькі).
*Наво́й* — дэталь у кроснах.
*Наро́жнік* — дзве сценкі хлява, зрубленыя ў вугал.
*Падо́л* — месца на рацэ, дзе мыюць бялізну.
*Пол* — палок з дошак на вышыні метра ад падлогі ў сялянскай хаце, служыць як ложак.
*Праску́рка* — прэсны хлеб (ужываецца ў рэлігійных абрадах).
*Пратэ́сы* (хару́гві) — прыналежнасць рэлігійнага культу.
*Пыла́ла* — прасейвала.
*Пяхце́р* — вяровачная сетка для сена, калі едуць у дарогу.
*Рэз* — кароткая палоска, частка воранай зямлі.
*Рэзь* — дробна нарэзаная салома на корм.
*Са́нкі* — сківіцы.
*Се́чынка* — дробна насечаная трава ці капусны ліст для свіней.
*Сіра́к* — шарак, вопратка з шэрага сукна.
*Спадкабе́рцы* — наследнікі.
*Ста́вы* — варштат ткаць кросны.
*Су́валка* — рэшткі валакна пасля трапання льну, кападель.
*Трапа́р* — від царкоўнага песнапення.
*Фармазо́н* — бязбожнік, вальнадумец.
*Шапава́л* — майстар, які робіць валёнкі.
*Шасці́ны* — памінкі па нябожчыку на шостым тыдні па смерці.
*Шкра́бстваваць* — настаўнічаць.

---

[1] Даюцца значэнні слоў, у якіх яны ўжыты пісьменнікам.

## Спіс прынятых скарачэнняў

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР у Мінску — ЦД ГА БССР.

Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР у Мінску — ЦДАКР БССР.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці ў Магілёве — ДАМВ.

Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры.— Мн., 1969, т. 2 — «Гісторыя...», 1969, т. 2.

Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы.— Мн., 1984 — «Успаміны...»

Адамовіч А. «Браму скарбаў сваіх адчыняю...» — Мн., 1980 — Адамовіч А. «Браму скарбаў...».

Известия Смоленского Совета Рабочих, Солдатских и Крестьянских депутатов — «Известия Смоленского Совета...».

Псеўданімы і крыптанімы рэцэнзентаў твораў М. Гарэцкага даюцца па «Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI—XX ст.ст.)» Янкі Саламевіча.— Мн., 1983.

Пры спасылцы на пэўную газету, часопіс словы «газета», «часопіс» не прыводзяцца.

## 1893

«Радзіўся я ў 1893 г., 6 лютага, ст. ст., у вёсцы Меншай Багацькаўцы, 25 вёрст на паўночны захад ад Мсціслаўля.

Бацькі мае — сяляне, земляробы» *(Аўтабіяграфія.— У кн.: «Пра час і пра сябе».— Мн., 1966, с. 94).*

## 1901—1903

М. Гарэцкі вучыцца ў школе граматы ў вёсцы Вялікая Багацькаўка (цяпер — Большая Багацькаўка) Шамаўскай воласці Мсціслаўскага ўезду Магілёўскай губерні *(«Гісторыя...», 1969, т. 2, с. 532).*

## 1903—1905

Працягвае вучэнне ў сяле Вольшы.

«...успешно окончил курс учения в Ольшанской образцовой второклассной школе Ольшанского прихода Могилевской губернии Оршанского уезда в 1905 году...» *(З пасведчання, выдадзенага 10 чэрвеня 1905 г.— Ф. 7, вопіс I, адзінка захавання 46)* [1].

## 1905—1908

Вучыцца ў той жа школе ў сяле Вольшы ў настаўніцкіх класах. «У 1908 г. Гарэцкі скончыў навучанне ў Вольшах і атрымаў права быць настаўнікам — вучыць грамаце вясковых дзяцей. Праўда, настаўнічаць хлопец практычна не мог — лі-

---

[1] Архіў М. Гарэцкага (фонд 7) захоўваецца ў рукапісным аддзеле ЦНБ імя Я. Коласа АН БССР.

чыўся яшчэ непаўналетнім, бо ішоў яму тады толькі шаснаццаты год. Ды і думалася пра тое, каб вучыцца далей» *(Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі.— Мн., 1968, с. 17).*

## 1908

*Кастрычнік.*

М. Гарэцкі прыехаў у г. Горкі (Горы-Горкі) Магілёўскай губерні. Тут ён рыхтуецца да паступлення ў каморна-аграномічнае вучылішча *(«Камароўская хроніка», с. 59).*

## 1909

*Канец лета.*

Займаецца ў Горках з рэпетытарам Крэерам *(«Камароўская хроніка», с. 59).*

*Восень.*

Паводле ўспамінаў брата пісьменніка Г. Гарэцкага: «У 1909 годзе Максім па вялікаму конкурсу паступіў у Горы-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, якое скончыў у 1913 годзе. Вучыўся на стыпендыю, жыў у інтэрнаце, дзе мастварылася невялічкае вучнёўскае таварыства аматараў маладой беларускай літаратуры» *(«Успаміны...», с. 7).*

## 1912

*Снежань, 31.*

М. Гарэцкі напісаў сваё першае апавяданне «У лазні» *(Гарэцкі М. «Храналогія маіх твораў», ф. 7, воп. I, адз. зах. 43).*

Упершыню — Наша ніва, 1913, № 4, 25 студз. пад псеўданімам Максім Беларус.

## 1913

*Студзень, 10.*

У «Нашай ніве», № 2 пад псеўданімам М. Беларус надрукавана нататка М. Гарэцкага «Шамоўская воласць».

*Люты, 6.*

Напісаны драматычны абразок «Атрута» *(«Храналогія...»).* Упершыню — Наша ніва, 1913, №№ 8, 9, 20 лют., 1 сак. пад псеўданімам М. Беларус.

*Люты, 7.*

У «Нашай ніве», № 6 надрукаваны нататкі М. Гарэцкага «Будзённыя з'явы» пад псеўданімам Максім Беларус і «Не глядзелі б вочы» за подпісам М. Б.

*Май, 16.*

У «Нашай ніве», № 20 пад псеўданімам Максім Беларус надрукавана апавяданне «Стогны душы».

*Май, 23.*

У «Нашай ніве», № 21 надрукаваны нататкі «Весткі з Горак» за подпісам Гарэцкі і «Краіна добрых абычаеў» за подпісам М.Б.

*Ліпень, 26.*

У «Нашай ніве», № 30 надрукаваны нататкі «Модныя абычаі» — пад псеўданімам Максім Беларус, «Адзінаццатуха» — за подпісам М.Б. і «Жывая нябожчыца» — пад псеўданімам Максім Беларус.

*Ліпень, 29.*

М. Гарэцкі закончыў навучанне ў каморніцка-агранамічным вучылішчы. «...постановлением Учебно-хозяйственного совета Горецкого землемерно-агрономического училища от 29 июля 1913 года, он, Горецкий, удостоен звания частного землемера-агронома» *(Пасведчанне № 3351, выдадзенае 29 ліпеня 1913 г., гор. Горкі Магілёўскай губ.— Ф. 7, воп. I, адз. зах. 46).*

*Пасля 29 ліпеня.*

Пасля заканчэння вучылішча М. Гарэцкі на працягу года працуе каморнікам на Віленшчыне *(«Трудовой список»*[1]*, ф. 7, воп. I, адз. зах. 46. Анкета, запоўненая М. Гарэцкім 18 лют. 1926 г., ДАМВ, ф. 536, воп. 2, спр. 97).*

*З 2 жніўня па 5 верасня.*

У «Нашай ніве», №№ 31—34 за подпісам Максім Беларус

---

[1] У ЦНБ АН БССР захоўваецца зробленая аўтарам у 1935 г. копія «Трудового списка». На яе і робяцца спасылкі. Спасылкі на дакументы даюцца на мове арыгінала.

друкуецца апавяданне «Родныя карэнні» (пазней — пад назваю «Роднае карэнне»).

*Жнівень, 9.*

У «Нашай ніве», № 32 змешчаны ліст ад рэдакцыі да пісьменніка: «Максіму Беларусу. Дужа дзякуем за Вашы творы, каторыя Вы нам прысылалі ў апошнія часы. Мы верым, кажучы словамі нашых прадзедаў, што праз Вас «памножана будзе слава слаўнай айчызны нашай», калі толькі агонь, каторы гарыць у Вас, будзе далей разгарацца».

*Верасень, 12.*

У «Нашай ніве», № 37 за подпісам М. Г. надрукавана апавяданне «У панскім лесе».

*Верасень, 28.*

У «Нашай ніве», № 39 за подпісам М.Г. надрукавана апавяданне «Красаваў язмін».

*Кастрычнік, 24.*

У «Нашай ніве», № 43 за подпісам Г. М. змешчана апавяданне «Страхаццё».

*На працягу года.*

У «Каляднай пісанцы» (Вільня) надрукаваны публіцыстычны артыкул М. Гарэцкага «Наш тэатр».

Напісаны апавяданні «Што яно?», «Патаёмнае» (датуюцца паводле «Храналогіі...»), «Буйніцы і драбніцы», «Хаўтуры», «Усё мінаецца» (датуюцца паводле машынапісаў).

## 1914

*Люты, 22.*

Закончана праца над драматызаванай аповесцю «Антон» *(«Гісторыя...», 1969, т. 2, с. 605).*

Упершыню — Гоман, 1918, №№ 4—6, 8, 9, 11—13, 15—30, 33—37; з 11 студз. да 7 мая.

*Сакавік — красавік.*

У «Велікоднай пісанцы» (Вільня) надрукаваны артыкул «Развагі і думкі» *(«Гісторыя...», 1969, т. 2, с. 606).*

*Лета.*

«Улетку 1914 г. пісьменнік павінен быў ісці на ваенную

службу. Каб скараціць тэрмін знаходжання ў салдатах, ён падае заяву аб залічэнні ў «вольнанаёмныя» («вольпапісаныя») *(«Гісторыя...», 1969, т. 2, с. 547).*

*З 1 ліпеня.*

«На абавязковай вайсковай службе ў старой арміі да 1917 г.» *(«Трудовой список»).*

*Да 1 жніўня.*

Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні выдадзены зборнік М. Гарэцкага «Рунь» *(«Гісторыя...», 1969, т. 2, с. 606).*

*Ліпень, 19 (1 жніўня).*

Пачалася Першая сусветная вайна. М. Гарэцкі быў «разведчыкам, група 4, кат[эгорыя] 7» *(Асаб[овая] кніжка запасн[ага], выд[адзеная] Горацкім райвыканкомам 31/X-1927.— «Трудовой список»).*

*Верасень, 18.*

У «Нашай ніве», № 37 пад рубрыкай «Нашы пісьменнікі і грамадскія працаўнікі на вайне» змешчана фота М. Гарэцкага з подпісам «М. Гарэцкі, пісьменнік-містык, родам з Магілёўшчыны, каморнік (землямер)».

*Кастрычнік, 25.*

«Гарэцкі, сувязіст артылерыйскай батарэі, быў цяжка паранены» *(«Гісторыя...», 1969, т. 2, с. 547).*

*Канец кастрычніка.*

М. Гарэцкі ляжаў у шпіталі ў Вільні больш двух месяцаў, потым атрымаў на паўгода адпачынак для папраўкі здароўя *(«Камароўская хроніка», с. 76).*

*Лістапад, 13.*

У «Нашай ніве», № 45 змешчана паведамленне: «Гарэцкі ранены». Наш вядомы пісьменнік М. Гарэцкі, якога фатаграфія была надрукавана ў № 37 «Нашай нівы», ранены ў нагу і цяпер лечыцца ў Вільні ў шпіталі».

*На працягу года.*

Напісана апавяданне «Вясна» (датуецца паводле машынапісу).

Пісьменнік пачаў працу над творам «На імперыялістычнай вайне» *(«Храналогія...»).*

*Студзень — пачатак лютага.*

Пасля лячэння ў Віленскім шпіталі амаль месяц знаходзіцца ў М. Багацькаўцы *(«Камароўская хроніка», с. 77).*

У час знаходжання ў М. Багацькаўцы напісана апавяданне «Чарнічка» *(«Храналогія...»).*

Упершыню — Вольная Беларусь, 1917, № 33, 8 снеж.

*Люты, 16.*

Паступіў у Маскве ў чарцёжнае ўдзельнае ведамства. Працаваў там да канца сакавіка *(«Камароўская хроніка», с. 80).*

*Сакавік, 30.*

Прыехаў у Смаленск *(«Камароўская хроніка», с. 83).*

*З 3 красавіка — май, 20.*

М. Гарэцкі жыве ў М. Багацькаўцы *(«Камароўская хроніка», с. 84).*

*Красавік, 7.*

Закончыў апавяданне «Літоўскі хутарок» *(«Храналогія...»).*

Упершыню — Беларусь, 1920, №№ 124—126; 12, 13, 15 чэрв.

*Красавік, 12.*

Напісаў апавяданне «Дзёгаць».

Упершыню — Наша ніва, 1915, № 19—20, 22 мая.

*Май, 20.*

Паехаў у Магілёў. Ляжаў там тры месяцы ў шпіталі *(«Камароўская хроніка», с. 90).*

*Пачатак жніўня.*

Едзе ў Маскву, знаходзіцца ў шпіталі Маскоўскага біржавага і купецкага таварыства на Валхонцы, 8 *(«Камароўская хроніка», с. 91).*

*Канец верасня.*

З Масквы М. Гарэцкі быў накіраваны ў Пскоў *(«Камароўская хроніка», с. 95).*

*Кастрычнік, 19.*

М. Гарэцкі выехаў з Пскова на пазіцыі. Праездам быў у Старой Русе, Гомелі, Жлобіне, Асіповічах. З Урэчча пешшу ішоў да Слуцка *(«Камароўская хроніка», с. 95—96).*

*На працягу года.*

Напісаны першы варыянт «Зімы» (датуецца 1915, 17/X 1917 г.) *(«Храналогія...»).*

Упершыню — Вольная Беларусь, 1918, №№ 22—24; 23, 30 чэрв.

## 1916

*Канец студзеня.*

М. Гарэцкага накіравалі ў Петраград у Паўлаўскае ваеннае вучылішча *(«Камароўская хроніка», с. 99).*

*Пачатак чэрвеня.*

М. Гарэцкага пасля заканчэння ваеннага вучылішча накіроўваюць у Іркуцк. Там служыць да кастрычніка, потым пераводзіцца ў Гжацк *(«Гісторыя...», 1969, т. 2, с. 547).*

*Кастрычнік — лістапад.*

Знаходзіцца ў Гжацку *(Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі, с. 106).*

У Гжацку М. Гарэцкім напісаны наступныя творы *(датыроўка паводле «Храналогіі...».*

*Кастрычнік, 7—12.*

Напісана апавяданне «Маці».

Упершыню — Вольная Беларусь, 1918, № 27, 4 жн.

*Кастрычнік, 18—19.*

Напісана апавяданне «Хадзяка».

Упершыню — Вольная Беларусь, 1918, № 41.

*Кастрычнік, 20—23.*

Напісана апавяданне «Генерал».

Упершыню — Вольная Беларусь, 1918, № 17, 12 мая.

*Лістапад, 7.*

Напісана апавяданне «Амерыканец».

Упершыню — Вольная Беларусь, 1917, № 29, 14 ліст.

*Лістапад, 8.*

Напісана апавяданне «Прысяга».

Упершыню — Наша ніва, 1920, №№ 1—4; 28 кастр., 1, 12, 16 лістап.

*Лістапад, 10—11.*

Напісан урывак з рамана «Крыж» — «На гаі».

Упершыню — Вольная Беларусь, 1918, № 9, 17 сак.

*Лістапад, 23—24.*

Напісана апавяданне «Асілак».

Упершыню — Известия Смоленского Совета... 1918, № 12/40/, 18 студз. пад назваю «Легенда о богатыре» пад псеўданімам Дед Кузьма.

*Лістапад, 26.*

Напісана апавяданне «Дзве сястрычкі».

Упершыню (пад назваю «Дзве сястры») — Вольны сцяг, 1921, № 3(5), 15 кастр.

*Канец года.*

Пісьменнік зноў трапляе на фронт, у раён пінскіх балот *(«Гісторыя...», 1969, т. 2, с. 547).*

## 1917

*Люты.*

М. Гарэцкі «захварэў, ляжаў у палявым шпіталі, а потым цэлае лета ў Маскве. З Масквы яго накіравалі ў Жалезнаводск» *(«Гісторыя...», 1969, т. 2, с. 547).*

*Жнівень, 8.*

У «Вольнай Беларусі», № 12 змешчаны артыкул М. Гарэцкага «Доктар Францыск Скарына».

*Восень.*

Знаходзіцца на лячэнні ў Жалезнаводску. Тут ім напісана апавяданне «Знібее сэрца» *(«Храналогія...»).*

Упершыню — Известия Смоленского Совета..., 1918, № 44(72), 9 сак. (24 лют.) пад назваю «Щемит сердце».

*Верасень, 28.*

Напісана апавяданне «Габрыелевы алеі» *(«Храналогія...»).*

Упершыню — Вольная Беларусь, 1918, № 6, 24 лют.

*Кастрычнік, 17.*

Закончана апавяданне «Зіма» *(«Храналогія...»).*

*25 кастрычніка (7 лістапада).*

Адбылася Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя.

«Кастрычніцкую рэвалюцыю Максім Гарэцкі сустрэў у Смаленску» *(Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі, с. 114).*

*Кастрычнік, 26.*

У «Вольнай Беларусі», № 26 надрукаваны артыкул «Пытанне на часе» за подпісам М.Г.

Знаходзячыся ў Смаленску, М. Гарэцкі працуе камендантам жыллёвага аддзелу (да чэрвеня 1918) *(«Трудовой список»).*

«Супрацоўнік (сталы) газеты «Известия Смоленского Совета депутатов», спершапачатку па сумяшчэнню са службай у жыллёвым аддзеле» *(«Трудовой список»).*

## 1918

*Студзень.*

Напісана апавяданне «Сука магната» *(«Храналогія...»).*

Упершыню — Известия Смоленского Совета..., 1918. № 9(37), 14 студз. пад псеўданімам Дед Кузьма.

*Люты, 20.*

У «Известиях Смоленского Совета...», № 29(57) пад псеўданімам Дед Кузьма змешчана «Или вас нет? *(Открытое письмо духовенству)».*

*Сакавік, 2.*

У «Известиях Смоленского Совета...», № 38 (66) надрукаваны артыкул «Будем жить!» пад псеўданімам Дед Кузьма.

*Май, 31.*

Напісана прадмова да «Руска-беларускага слоўніка» братоў М. і Г. Гарэцкіх.

*Да 1 мая.*

Закончана аповесць «За што?». Датуецца 1917, 1918. Май («Храналогія...»).

Упершыню — Известия Смоленского Совета..., 1918, № 85 (113), 1 мая пад псеўданімам Дед Кузьма.

*Ліпень, 3.*

Беларускі нацыянальны Камісарыят у Маскве выдаў М. Га-

рэцкаму пасведчанне, што ён камандзіруецца па справах Камісарыята «в гор. Минск и обратно через гор. Оршу. Все местные совдепы, гражданские и военные власти просим оказывать названному товарищу возможное содействие» *(ЦДАКР БССР. ф. 4, воп. I, спр. 34, л. 6 адв.; спр. 69, л. 58; спр. 70, л. 24; Скалабан В. У навальнічным 1918..., ЛіМ, 1983, 25 лют.; Танк М. У истоков новой культуры, Лит. газ., 1983, 4 мая).*

*Ліпень, 12.*

Аб'ява аб выхадзе ў Смаленску «Руска-беларускага слоўніка» М. і Г. Гарэцкіх («Дзянніца», № 19).

Паводле ўспамінаў Г. Гарэцкага: «Брат склаў і выдаў у Смаленску невялічкі руска-беларускі слоўнік; я дапамагаў яму, працуючы ў той час стэнаграфістам абласнога Саўнаргаса» *(«Успаміны...», с. 10).*

*Жнівень.*

«Загадчык розных аддзелаў газеты «Звезда» да 19/IV 1919 г. у Смаленску, Мінску і Вільні» *(«Трудовой список»).*

*Верасень, 13(26).*

Знаходзіцца ў М. Багацькаўцы. Піша ліст да Ц. Гартнага.

З ліста: «Дзядзька Жылуновіч!

Я ўжо меўся выязджаць гэтымі днямі ізноў у Смаленск шукаць працы і выдаваць **беларуска-рускі слоўнік.** Паеду, мусі быць, у суботу 15/IX. Са Смаленска пашлю ў «Жатву»: 1) **Знібее сэрца** — 3 стр.; 2) **Прысяга** — 7 стр.; 3) **Кросны** — 16 стр. і 4) **За што?** — 36 стр. Калі ўсяго друкаваць ня можна, друкуйце **«Кросны»** і **«За што?».** Апавяданні пісаны ў розную пару і ні аднакім правапісам; выбачайце і рабіце «як лепей». Каб выдаць слоўнік, мне не хапае руб. 1000 грошы; добра было б, каб вы выслалі мне (у Смаленскі Камісарыят, пакуль я не ведаю кватэры), колькі можна **авансам**; зрабіце, дзядзька, ласку!» [1]

*Пачатак кастрычніка.*

Прыехаў у Смаленск, «...паступіў у Смаленскі археалагічны інстытут, але хутка пакінуў вучобу — «некалі было хадзіць на лекцыі», бо ўвесь час забірала газетная работа і праца над слоўнікам...» *(Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі, с. 114).*

---

[1] Цытуецца: Скалабан В. У навальнічным 1918..., ЛіМ, 1983, 25 лют.

*Кастрычнік, 25.*

У «Известиях Смоленского Совета...», № 251 пад псеўданімам Дед Кузьма надрукавана апавяданне «Монашенка».

*Лістапад, 7.*

У «Дзянніцы», № 37 апублікавана апавяданне «Знібее сэрца».

*Лістапад, 13.*

У «Западной Коммуне», № 266 змешчан нарыс «Деревня» пад псеўданімам Ваш Амстиславский.

*На працягу года.*

Паводле ўспамінаў Г. Гарэцкага: «У 1918 годзе ў Смаленску жыў Янка Купала. Максім досыць часта наведваў яго, беручы і мяне з сабою. Уладзіслава Францаўна гасцінна нас частавала. Янка Купала і брат гутарылі пра беларускую літаратуру, пра мінулае Беларусі, разглядалі кнігі па гісторыі Смаленска і Мсціслаўля, нумізматычную калекцыю і кнігі па нумізматыцы» *(«Успаміны...», с. 10).*

## 1919

*Пачатак года.*

В. Кнорын запрасіў М. Гарэцкага для супрацоўніцтва ў рэдакцыі газеты «Звязда». М. Гарэцкі прыязджае ў Мінск *(Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі, с. 117).*

*Люты.*

Паводле ўспамінаў Г. Гарэцкага: «З пераездам рэдакцыі «Звязды» ў Вільню туды пераехаў у 1919 годзе і Максім» *(«Успаміны...», с. 11).*

*Красавік.*

«Раптоўны захоп горада польскімі войскамі... перашкодзіў Гарэцкаму вярнуцца ў Савецкую Беларусь» *(Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі, с. 117).*

*Красавік, 30, май, 3.*

У «Беларускай думцы», №№ 2—3 надрукавана апавяданне «Амерыканец».

*Май, 5, 7.*

У «Беларускай думцы», № 4, 5 надрукаваны артыкул «Беларускае драматычнае пісьменства» за подпісам М. Г.

*Май, 26.*

У «Беларускай думцы», № 13 надрукаваны артыкул «На ўгодкі па М. Багдановічу».

*З 20 чэрвеня па 24 ліпеня.*

У «Беларускай думцы», №№ 24, 26, 28, 29, 30, 32, 42, 47, 49, 50, 51, 52, 53 друкуецца аповесць «Дзве душы».

*Чэрвень, 29.*

У «Беларускім жыцці», № 2 надрукавана апавяданне «Ідуць усе — іду я...».

*Ліпень, 2.*

У «Беларускай думцы», № 34 надрукавана «Пісьмо ў рэдакцыю» *(у сувязі з рэцэнзіяй на апавяданне «Ідуць усе — іду я...» у «Беларускай думцы», № 33).*

*Ліпень, 16.*

М. Гарэцкі ажаніўся з настаўніцай малодшых класаў Першай Беларускай гімназіі ў Вільні Чарняўскай Леанілай Усцінаўнай (1893—1976). У далейшым беларуская савецкая пісьменніца, аўтар зборнікаў «Дзяціныя гульні» (1919), «Апавяданні» (1930, 1983), «Лявонка» (1932), «Жук» (1960), «Казёл Мэка і Кудла» (1979). Асобнымі кніжкамі выйшлі «Варка» (1928), «Андрэйка», «Бяздзетуха», «Валуй — камісар часоў керанпічыны», «Падарожніца» (усе — 1930), «Перамога» (1932), «Сталёвы конь» (1933).

*Ліпень.*

«Выкладчык беларускіх настаўніцкіх курсаў у Вільні і адначасова ў Беларускай Віленскай гімназіі. Пасведч[анне] І Віленск[ай] Белар[ускай] гімназіі, № 573 ад 17/VII 1919 г.» *(«Трудовой список»).*

*Жнівень, 15, 31, верасень, 7.*

У «Беларускім жыцці», №№ 10—12 надрукавана апавяданне «Кросны» *(пазней друкуецца пад назвай «Калоніі»).*

*Верасень, 7.*

У «Беларускім жыцці», № 12 надрукаваны артыкул «Вінцук Дунін-Марцінкевіч» за подпісам М. Г.

*Кастрычнік, 6.*

У «Беларускім жыцці», № 16 змешчана фота М. Гарэцкага і невялікая нататка «Нашы пісьменнікі».

*Лістапад, 7.*

У «Беларускім жыцці», № 20 надрукаваны артыкул «Уладзіслаў Галубок» за подпісам М. Г.

*На працягу года.*

Працуе над «Гісторыяй беларускай літаратуры» *(паводле «Храналогіі...»)*.

Выйшлі ў Вільні: драматызаваная аповесць «Антон», аповесць «Дзве душы», «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнічак», падрыхтаваны М. Гарэцкім (слоўнік меў тры выданні).

## 1920

Жыве і працуе ў Вільні.

*Сакавік, 4.*

У «Беларусі», № 48 (104) надрукавана «Спроба пераробак і вольных перакладаў песельнага матэрыялу для пяяння яго па-беларуску» (Пераклаў М. Г.).

*Сакавік, 17.*

У «Беларусі», №№ 59, 60 надрукавана апавяданне «Панская сучка».

*Май, 28, 30.*

У «Беларусі», №№ 112, 114 надрукавана рэцэнзія Зм. Бядулі на аповесць «Дзве душы».

*Ліпень, 7.*

У «Беларусі», № 145 (201) надрукаваны артыкул «Лявон Гмырак (1891—1915)».

*Ліпень, 31 — жнівень, 1.*

Напісаны драматычны абразок «Вучыцель Мутэрка».

Упершыню — Вольны сцяг, 1920, № 2, 25 снеж. (пазней друкуецца пад назвай «Мутэрка»).

*Жнівень, 11.*

Напісана прадмова да «Маскоўска-беларускага слоўніка» братоў М. і Г. Гарэцкіх (выд. 2-е, 1920).

*Верасень, 1.*

У «Вольным сцягу», № 1 надрукавана апавяданне «Тамашы».

*Снежань, 24.*

У «Нашай думцы», № 1 надрукаваны ўрывак з запісак «На імперыялістычнай вайне» — «Герой».

*Снежань, 31.*

У «Нашай думцы», № 2 надрукавана апавяданне «Бірка».

*На працягу года.*

Напісаны ўрывак з аповесці «Меланхолія» — «Як Лявон хадзіў на пошту» *(«Храналогія...»).*

Упершыню — Наша думка, 1921, №№ 7, 8; 18, 25 лют.

У зб. «Нашай нівы» змешчана апавяданне «Патаёмнае» (датуецца 1913, 19/X — 1917, 18/V — 1920 паводле «Храналогіі...»).

Выйшлі ў Вільні: «Маскоўска-беларускі слоўнік» братоў М. і Г. Гарэцкіх (выд. 2-е, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі) і «Гісторыя беларускае літаратуры».

## 1921

Жыве і працуе ў Вільні.

*Студзень, 22.*

У «Нашай думцы», № 3 надрукавана апавяданне «Злосць» за подпісам М. Гарэцкі.

*Студзень, 29.*

У «Нашай думцы», № 4 надрукавана апавяданне «Грэшная чарнушка» (пазней друкуецца пад назваю «Памылка». У «Храналогіі...» — «Чарнушка займаецца зладзействам»).

*Люты, 11.*

У «Нашай думцы», № 6 надрукаваны артыкул «Да амерыканскіх беларусаў» пад псеўданімам Дзед Кузьма.

*Сакавік, 11.*

У «Нашай думцы», № 10 надрукаваны артыкул «75 гадоў оперы «Сялянка» і «Пісьмо з вёскі».

*Сакавік, 13.*
У сям'і Гарэцкіх нарадзілася дачка Галіна.

*Жнівень, 18.*
Напісана апавяданне «Трасца» *(«Храналогія...»).*
Упершыню -- зб. апавяданняў «Досвіткі», Мн., 1926.

*Жнівень, 21.*
Напісана апавяданне «Паншчына» *(«Храналогія...»).*
Упершыню — Беларускія ведамасці, 1921, № 5, 10 кастр. (27 верас.) (пазней друкуецца пад назваю «Смачны заяц»).

*Жнівень, 25.*
Напісана апавяданне «Дурны вучыцель». *(«Храналогія...»).*
Упершыню — Беларускія ведамасці, 1921, № 14, 14 (1) снеж.

*Жнівень, 28.*
Напісана апавяданне «Еду дамоў» *(«Храналогія...»).*
Упершыню — Беларускі звон, 1922, № 14 (39), 4 ліп.

*Жнівень, 29.*
Напісана апавяданне «Страшная музыкава песня» *(«Храналогія...»).*
Упершыню — Беларускія ведамасці, 1921, № 9, 7 лістап.

*Верасень, 7.*
Напісана апавяданне «Скарб» *(«Храналогія...»).*
Упершыню — Беларускія ведамасці, 1921, № 6, 17 кастр. пад назваю «Гутарка аб кладзе».

*Верасень, 9.*
Напісана апавяданне «Сасна» *(«Храналогія...»).*
Упершыню — Беларускі звон, 1922, № 5, 24 лют.

*Верасень.*
М. Гарэцкі з'яўляецца рэдактарам-выдаўцом «Беларускіх ведамасцяў» (газета выдавалася ў Вільні з 14.9.1921 г. да студз. 1922 г. Выйшла 16 нумароў) і «Дэкламатара» (літаратурны і гістарычны матэрыял з «Беларускіх ведамасцяў»).

*Верасень, 14(1).*
У «Беларускіх ведамасцях», № 1 надрукаваны артыкул «Эндэцкія выкрутасы» пад псеўданімам А. Мсціслаўскі і артыкул «Аб беларускай мове ў школе» пад псеўданімам Дзед Кузьма.

*Верасень, 19(6).*

У «Беларускіх ведамасцях», № 2 надрукаваны артыкул «Важны фронт» пад псеўданімам Дзед Кузьма.

*Верасень, 24.*

Напісана «Самае кароткае апавяданне» *(«Храналогія...»)*.

Упершыню — Беларускія ведамасці, 1921, № 4, 3 кастр. (пазней друкуецца пад назваю «Хаўтуры»).

*Кастрычнік, 3.*

У «Беларускіх ведамасцях», № 4 надрукаваны артыкулы «Беларусы, бярыцеся за грамадскую работу» пад псеўданімам Дзед Кузьма і «Аб 1-й Віленскай Беларускай гімназіі» за подпісам М. Гарэцкі.

*Снежань, 9(26 лістап.).*

У «Беларускіх ведамасцях», №№ 12, 13 надрукавана апавяданне «Пакінутыя хаты».

*Снежань, 20(7).*

У «Беларускіх ведамасцях», № 15 надрукавана апавяданне «Удосвецця».

*Снежань, 25.*

У «Беларускіх ведамасцях», № 16 надрукавана апавяданне «Апостал».

*На працягу года.*

М. Гарэцкім напісаны апавяданні: «Прафесар», «У панскай кухні», «Спакой» *(«Храналогія...»)*.

У «Родным краі» (першая пасля лемантара кніжка да чытання. 1921. Выд. 3-е. Укладальнік Л. Гарэцкая) змешчаны за подпісам М. Г.: «Лес», «Дарога ў жыцце» — урыўкі з драматызаванай аповесці «Антон»; «Позняй восенню» — урывак з апавядання «Хадзяка»; «Зіма ў вёсцы» — урывак з апавядання «Зіма».

У Вільні выйшлі: «Гісторыя беларускае літаратуры (выд. 2-е, папраўленае), «Krótki zarys historji literatury białoruskiej» («Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры»), «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік» (выд. 2-е, стэрэатыпнае), «Дэкламатар» (рэдактар-выдавец М. Гарэцкі).

*Студзень, 1.*

У «Беларускіх ведамасцях», № 1 надрукавана апавяданне «Чутае над возерам».

*З 19 на 20 студзеня.*

М. Гарэцкага «арыштавалі і пасадзілі ў адзіночную камеру на Лукішкі. Праз два тыдні яму прад'явілі абвінавачванне «ў прыналежнасці да партыі камуністаў, у арганізацыі тайных баявых дружын з мэтаю замаху на дзяржаўную ўладу, у друкаванай і вуснай прапагандзе». За ўсё гэта прадугледжвалася польскім Карным кодэксам смяротны прысуд ці ў лепшым выпадку — катарга. Праўда, суд не адбыўся» *(Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі, с. 120, 122; гл. таксама «Камароўскую хроніку», с. 186—189).*

Па словах пісьменніка, ён «без суда, са здзекам, быў выкінуты з Вільні ў нейтральны пас паміж польскім і літоўскім франтам» *(Аўтабіяграфія.— У кн.: «Пра час і пра сябе», с. 95).*

*Люты, з 4 на 5.*

М. Гарэцкі развітваецца з сям'ёй. Спачатку Гарэцкага высылаюць у Коўна *(Інфармацыя Г. М. Гарэцкай, гл. таксама «Камароўскую хроніку», с. 189).*

У хуткім часе пісьменнік едзе ў Дзвінск. Тут ён чытае лекцыі на Беларускіх настаўніцкіх курсах *(Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі, с. 122).*

У Дзвінску М. Гарэцкі напісаў некалькі драматычных абразкоў: «Салдат і яго жонка», «Каменацёс», «Свецкі чалавек», «Не адной веры» *(Ф. 7, воп. I, адз. зах. 28, 29, 30, 31).*

*Сакавік, 25, красавік, 1.*

У «Беларускім звоне», №№ 9(34), 10(35) надрукавана апавяданне «У панскай кухні *(Успаміны...)»*.

*Ліпень, 15.*

У сям'і Гарэцкіх нарадзіўся сын Леанід *(Загінуў на фронце 18 лютага 1944 г. Пахаваны ў с. Мядзведзь Шымскага раёна Наўгародскай вобласці).*

*Ліпень, 21.*

Паведамленне: «Рэдактар газеты «Беларускія ведамасці», пісьменнік Максім Гарэцкі, вывезены польскай уладай у Літ-

ву, вярнуўся гэтымі днямі ў Вільню» *(«Беларускі звон», № 15(40).*

*Верасень, 15.*

У «Беларускім звоне», № 19(44) надрукаваны ўрывак з аповесці «За што?».

*Верасень, 19.*

У Маскве трагічна загінула сястра М. Гарэцкага — Ганна. (Нарадзілася 11.IX — 1902 г. у М. Багацькаўцы) *(«Успаміны...», с. 12).*

*Кастрычнік, 21.*

У «Беларускім звоне», № 28(53) надрукавана апавяданне «Дурная галава» пад псеўданімам Кузьмянкоў.

У гэтым жа нумары паведамляецца: «У нядзелю, 22 кастрычніка, у зале Беларускае гімназіі (Вострабрамская, 9) адбудзецца канцэрт-лекцыя. Лекцыю на тэму: «Д-р Францыск Скарына» прачытае Максім Гарэцкі».

*Лістапад, 1.*

У «Беларускім звоне», № 30(55) паведамляецца: «Беларуская вечарына ў зале Беларускай гімназіі. М. Гарэцкі прачытае лекцыю на тэму: «Дунін-Марцінкевіч».

*Снежань, 8.*

У «Нашай будучыні», № 1 надрукаваны «Жарты пана Пісарэвіча (Шматок драмы)» пад псеўданімам А. Мсціслаўскі.

*На працягу года.*

У Вільні выйшлі: «Хрэстаматыя беларускае літаратуры. XI век — 1905 год», «Беларускі дэкламатар» (рэдактар-выдавец М. Гарэцкі).

## 1923

*Май, 18.*

Газета «Новае жыццё», № 13 паведамляе: «М. Гарэцкі напісаў вялікае апавяданне ў дыялагічнай форме «Уцекачы».

*Верасень, 26, 28.*

У «Вольным сцягу», №№ 12, 13 за подпісам Псеўданім надрукаваны драматычныя абразкі «Чырвоныя ружы».

*Канец кастрычніка.*

М. Гарэцкі разам з сям'ёй пераехаў з Вільні ў Савецкі Саюз. Паводле ўспамінаў дачкі пісьменніка, пасяліліся яны «на Савецкай вуліцы насупраць гарадскога сквера. Жылі ў невялікай камунальнай кватэры на трэцім паверсе. Два пакоі мелі» *(«Успаміны...», с. 23).*

«У кастрычніку месяцы прыехаў з Вільні ў Мінск вядомы беларускі пісьменнік М. Гарэцкі. У Мінску ён заняты выкладаннем беларусазнаўства на рабочым факультэце Беларускага універсітэта і асабіста працуе над складаннем новага курсу «Гісторыі беларускае літаратуры» па заказу Камісарыята Асветы. Максім Гарэцкі таксама гатовіць да друку зборы сваіх белетрыстычных твораў» *(«Полымя», № 7—8).*

*Лістапад, да 16.*

Наведаў М. Багацькаўку *(«Камароўская хроніка», с. 237).*

*Лістапад, 16.*

Вярнуўся ў Мінск разам з маці Ефрасінняй Міхайлаўнай *(«Камароўская хроніка», с. 237).*

*Канец лістапада.*

Паездка М. Гарэцкага разам з маці Ефрасінняй Міхайлаўнай у Маскву на магілу яго сястры Ганны *(«Успаміны...»,* с. 24).

*Лістапад.*

Якуб Колас упершыню наведаў сям'ю М. Гарэцкага.

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «Ведаю, што ў лістападзе 1923 г. у першы раз прыйшоў да нас Якуб Колас, пазнаёміўся з мамай, запрасіў у той вечар бацькоў у тэатр. Глядзелі «Машэку» Я. Міровіча *(«Успаміны Г. М. Гарэцкай — У кн.: Адамовіч А. «Браму скарбаў...», с. 93).*

## 1924

*Студзень, 15.*

У «Савецкай Беларусі», № 11 паведамляецца аб выхадзе з друку зборніка «Заходняя Беларусь» (кн. 1, Вільня). У гэтым зборніку надрукаваны «Хомчын канец» (з апавядання «За што?») М. Гарэцкага.

*Студзень.*

М. Гарэцкі наведаў Віцебск. Чытаў там лекцыі па фальклору *(«Успаміны...», с. 24).*

*Чэрвень, 24.*

У «Маладым аратым», № 73 змешчана апавяданне «Патаёмнае».

*На працягу года.*

«Выкладанне беларуск[ай] мовы і літаратуры ў Камуністычным універсітэце БССР спершапачатку па сумяшчэнню з выкладаннем на рабфаку БДУ і з IX 1925 г. да 1/I 1926 г. як асноўная праца ў паказаным камвузе» *(«Трудовой список»).*

Выйшлі з друку: «Гісторыя беларускае літаратуры» (выд. 3-е, перароблепае і дапоўненае разглядам вуснае народнае паэзіі).— М.-Л., «Практычны расійска-беларускі слоўнік» М. Байкова і М. Гарэцкага.— Мн.

## 1925

*Студзень, 2.*

У Доме працаўнікоў асветы адбыўся літаратурны вечар «Маладняка». У першай частцы праграмы «У рожкі са старымі» выступілі А. Бабарэка і Я. Пушча, у другой — «Мяцеліца песень» — прачыталі свае вершы Вольны, Пушча, Дудар, Якімовіч, Зарэцкі, Гурло і інш., у трэцяй — «З гарматы па вераб'ях» — выступілі з крытыкай «Маладняка» Ц. Гартны, М. Грамыка і М. Гарэцкі *(«Полымя», № 1).*

*Студзень, 7.*

У «Савецкай Беларусі», № 5 (1304) надрукаваны артыкул «Маладняк».

*Студзень, 11.*

У «Звяздзе», № 9 (1919) надрукаваны артыкул «Чатырыста гадоў друку на Беларусі».

*Студзень, 16.*

Пастановай НКА БССР зацверджаны новы склад праваздзейных членаў Інбелкульта, у які ўваходзяць Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, Зм. Бядуля, М. Чарот, М. Гарэцкі і інш. *(«Абвеснік НКА БССР», № 4 ад 1 сакавіка»).*

*Канец студзеня — пачатак лютага.*

М. Гарэцкі прывёз з М. Багацькаўкі ў Мінск сваю маці. Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «У пачатку лютага 1925 го-

да кампазітар М. Аладаў запісаў ад Ефрасінні Міхайлаўны мелодыі дваццаці народных песень ... , а ў канцы 1925 года 126 з праспяваных ёю песень паклаў на ноты А. Ягораў» *(«Успаміны...», с. 25).*

*Студзень — сакавік.*

У «Полымі», №№ 1—2 друкуюцца ўрыўкі з запісак «На імперыялістычнай вайне». У «Полымі», № 2 за подпісам Я. К-іч (Жылуновіч Зм.) змешчана рэцэнзія на «Гісторыю беларускае літаратуры» (выд. 3-е, Мн., 1924) М. Гарэцкага.

*Люты, 1, 3.*

У «Савецкай Беларусі», №№ 25, 26 надрукаваны артыкул «Мсціслаўшчына».

*Люты, 15.*

«Абвеснік НКА БССР», № 3 паведамляе: «НКАБ камандзіраваў т. Максіма Гарэцкага ў Калінінскую акругу дзеля чытання лекцый па беларусазнаўству».

*Люты, 26.*

У «Савецкай Беларусі», № 46 надрукаваны «Маленькі фельетон. Пустаслоўе на пустаслоўе...».

*Сакавік.*

«Па сумяшчэнню навук[овы] сакратар літаратурнай камісіі Інстытута Белар[ускай] культуры да 10/VI 1925 г., адначасова з'яўляючыся правадзейным членам Інстытута Беларускай культуры». (Пратак[ол] Прэзідыуму Інст[ытута] Беларуск[ай] культ[уры] № 7 ад 5/III — 1925 г. Пратакол Прэзід[ыуму] Інст[ытута] Бел[арускай] культуры № 18 ад 10/VI — 1925 г. Пастанова НКА ад 16/I — 1925 г. *(Абвеснік НКА № 4 ад 1/III — 1925 г. З «Трудового списка»).*

*Май, 28.*

Адбылося ўрачыстае пасяджэнне літаратурнай секцыі Інбелкульта, прысвечанае 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы.

На пасяджэнні прысутнічалі ўсе члены Інбелкульта, партыйныя таварышы, супрацоўнікі Інбелкульта і шмат гасцей.

«...Добра і падрабязна высветліў ролю Янкі Купалы ў беларускім нацыянальна-культурным адраджэнні пісьменнік Максім Гарэцкі. Па яго прапанове сход ушанаваў маці і жонку песняра, якія прысутнічалі на ўрачыстасці» *(«Савецкая Беларусь», № 121 (1420), 1 чэрв.).*

*Лета.*

«Летам 1925 г. Я. Колас разам з пісьменнікам Максімам Гарэцкім некаторы час знаходзіўся ў Мсціслаўскім педтэхнікуме і чытаў там лекцыі па граматыцы і методыцы выкладання беларускай мовы на курсах па павышэнню кваліфікацыі настаўнікаў» *(Мушынскі М. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці.— Мн., 1982, с. 166).*

*З 14 чэрвеня па 25 ліпеня.*

Чытае лекцыі на Першых Калінінскіх Акруговых настаўніцкіх курсах. У ЦНБ АН БССР захоўваецца копія фотаздымка слухачоў курсаў з надпісам і датай «Першыя Калінінскія Акруговыя настаўніцкія курсы. 14/VI—25/VII—25 г.». На фотаздымку ёсць М. Гарэцкі *(Ф. 7, воп. 2, адз. зах. 46).*

*Верасень, 12.*

Я. Колас падараваў М. Гарэцкаму кнігу «Сымон-музыка» (Мн.: БДВ, 1925) з надпісам: «Дарагому другу Максіму Гарэцкаму ад аўтара. Мінск. 12/IX 1925».

*Лістапад, 22.*

У «Звяздзе», № 268 (2178) паведамляецца, што М. Гарэцкі здаў у друк зборнік апавяданняў «Досвіткі».

*Лістапад, 29.*

У «Звяздзе», № 274 (2184) паведамляецца, што М. Гарэцкі напісаў апавяданне «У чым яго крыўда?».

*Лістапад — снежань*

У «Полымі», № 8 надрукавана п'еса М. Гарэцкага «Жартаўлівы Пісарэвіч».

*На працягу года.*

Выйшлі з друку ў Мінску: «Выпісы з беларускай літаратуры, ч. I» (складальнікі М. Гарэцкі і інш.), «Беларуска-расійскі слоўнічак» М. Гарэцкага (выд. 3-е, перароблenae).

**1926**

*Студзень, 17.*

У «Звяздзе», № 14 (2224) паведамляецца, што М. Гарэцкі здаў у друк апавяданне «У чым яго крыўда?».

*Студзень — люты.*

У «Полымі», № 1 надрукаваны драматычныя абразкі

«Чырвоныя ружы», у гэтым жа нумары паведамляецца, што ў ДВБ выходзіць з друку зборнік апавяданняў «Досвіткі».

*Люты — сакавік.*

У «Полымі», № 2 змешчана рэцэнзія П. Жарскага на зб. апавяданняў «Досвіткі»; у гэтым жа нумары паведамляецца: «М. Гарэцкі пераехаў для працы ў Горкі ў сельскагаспадарчай акадэміі».

*Люты, 1.*

«Выкладчык беларускай мовы і літаратуры ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках» *(«Трудовой список»).*

*Люты 7—10.*

Выступае на Першым Усебеларускім краязнаўчым з'ездзе з дакладам «Збіранне і апрацоўка фальклору» *(«Наш край», №№ 2—3 (5—6). Люты — сакавік. Хроніка пра Першы Усебеларускі краязнаўчы з'езд).*

*Пасля 24 чэрвеня — ліпень.*

Паводле ўспамінаў Г. Гарэцкага: «Максім настолькі захапляўся збіраннем матэрыялаў да «Камароўскай хронікі», што зрабіў у 1926 годзе адмысловае падарожжа ў Сібір, бо туды вялі жыццёвыя шляхі некаторых герояў. З вялікай колькасці кароткіх апавяданняў сібірскага цыклу ў той час надрукавана было менш дзесяці. Але яны маюць важнае значэнне для гісторыі літаратурнай творчасці Максіма як кавалачкі будучай хранікальнай эпапеі» *(«Успаміны...», с. 13).*

У Дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці маецца наступны дакумент: «Прад'яўнік гэтага дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай гаспадаркі Максім Гарэцкі накіроўваецца ў навуковую экскурсію па маршруту: Горкі, Масква, Томск, Благавешчанск і назад, для якой мэты ён, М. Гарэцкі, зволен Праўленнем акадэміі ў водпуск тэрмінам да першага верасня.

Просьба да ўсіх адпаведных устаноў і асоб аказваць М. Гарэцкаму ўсялякую дапамогу» *(Пасведчанне ад 24/VI—26 г., падпісанае рэктарам акадэміі.— Ф. 536, воп. 2, спр. 97, л. 17).*

*Лістапад, 18.*

Выступіў на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, скліканай Інбелкультам, з дакладам «Нашаніўскі перыяд у беларускай літаратуры» *(«Працы*

*Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі». 14—21 лістапада. Выдавецтва ІБК).*

*Лістапад.*

У «Маладняку», № 9 змешчана рэцэнзія Аліча (Аляхновіч М.) на кнігу «На імперыялістычнай вайне».

*На працягу года.*

У Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшлі: «Выпісы з беларускай літаратуры XIX і XX ст.», дзе змешчаны «Аўтабіяграфія» М. Гарэцкага, апавяданне «Панская сучка», драматычныя абразкі «Чырвоныя ружы»; «Гісторыя беларускае літаратуры (выд. 4-е, перароблленае), «Практычны расійска-беларускі слоўнік» М. Байкова і М. Гарэцкага (выд. 2-е, выпраўленае і дапоўненае), аповесці «У чым яго крыўда?», «Ціхія песні», дакументальна-мастацкая кніга «На імперыялістычнай вайне».

## 1927

М. Гарэцкі працягвае працу ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках *(«Трудовой список»).*

*Да 28 красавіка.*

Наведвае Горкі Я. Колас. «Выступае на літаратурным вечары ў студэнцкім клубе сельскагаспадарчай акадэміі. Вечарам на кватэры М. Гарэцкага чытае свае творы выкладчыкам і членам літаратурнага аб'яднання» *(Мушынскі М. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці.— Мн., 1982, с. 178).*

*Май, 28.*

У «Нашай праўдзе», № 16 надрукаваны артыкул «Жыццё Максіма Багдановіча».

*Чэрвень.*

М. Гарэцкі разам з маці Ефрасінняй Міхайлаўнай ездзіў у Маскву на магілу сястры Ганны *(Інфармацыя Г. М. Гарэцкай).*

*Жнівень, 9.*

У «Звяздзе», № 179 (2689) надрукаваны артыкул «Смаленск — Мінск — Вільня» пад псеўданімам Дзед Кузьма.

*Жнівень, 28.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай, М. Гарэцкі паставіў

«у сваёй хаце першае радыё ў Малой Багацькаўцы. Слухалі многія вяскоўцы, па чарзе, праз навушнікі» *(«Успаміны...», с. 35).*

*Кастрычнік, 9, 12.*

У «Савецкай Беларусі», №№ 230 (2122), 232 (2124) надрукаваны артыкул «Творчасць Я. Нёманскага».

*Кастрычнік, 9, 12.*

У «Звяздзе», №№ 231 (2741), 233 (2743) надрукаваны артыкул «Творчасць Міхася Чарота».

*Кастрычнік, 23.*

У «Звяздзе», № 243 (2753) надрукаваны артыкул «Якуб Колас пасля Кастрычніка» за подпісам М. Г.

*Лістапад, 13.*

У «Савецкай Беларусі», № 257 (2149) надрукаваны артыкул «Пэўны гвалт (у справе творчасці М. Грамыкі)».

У «Звяздзе», № 258 (2768) надрукаваны артыкул «Аб творчасці Міхася Зарэцкага».

*Канец лістапада.*

М. Гарэцкі разам з прафесарам Фраловым і студэнтам Ляўковічам ездзіў у Мінск вітаць XI партыйны з'езд *(Інфармацыя Г. М. Гарэцкай).*

26 лістапада выступіў са словамі прывітання: «Мы аддамо ўсе свае сілы на тое, да чаго мы прыстаўлены, і калі б трэба было, мы цяпер жа і без усякіх хістанняў аддалі б усё за заваёвы рэвалюцыі» *(22—29 лістап. 1927 г. Стэнаграфічная справаздача. БДВ. Мн., 1928).*

*На працягу года.*

Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні выдадзены кароткі жалобны абразок у 1-м акце «Атрута».

## 1928

Працуе над «Сібірскімі абразкамі».

*Люты, 5.*

У «Звяздзе», № 31 (2838) надрукаваны абразок «Кіслы ключ» за подпісам М. Г.

*Люты, 12.*

У «Звяздзе», № 37 (2844) надрукаваны абразок «Фельчар Плакун» за подпісам М. Г.

*Люты, 15.*

У «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», № 2 надрукаваны абразок «Агні» за подпісам М. Г.

*Сакавік, 22.*

У «Звяздзе», № 69 (2876) надрукаваны артыкул «Да рэформы беларускага правапісу (Спрашчэнне ці ўскладненне)» за подпісам М. Г.

*Красавік, 15.*

У «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», № 6 надрукаваны абразок «Пабожны мешчанін» за подпісам М. Г.

*Красавік, 22.*

У «Звяздзе», № 94 (2901) надрукаваны абразок «Малы рызыкант».

*Красавік.*

У час. «Октябрь», № 4 надрукаваны артыкул «Белорусская литература. Краткий очерк».

У «Маладняку», № 4 надрукаваны артыкул «Беларуская літаратура пасля «Нашае нівы» *(Агульны агляд)»*.

У «Аршанскім маладняку», № 7 за подпісам М. Г. надрукаваны абразок «Хоцімка» і артыкул «Бядуля пасля Кастрычніка» (Гісторыка-літаратурныя нататкі) за подпісам М. Гарэцкі. Апрацоўка народнай казкі «Чаму ходзяць па месяцу» за подпісам М. Г.

*Май.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «З цікавых падзей хацелася б адзначыць гастролі артыстаў тэатра БДТ-1. Яны ж і ў нас дома гасцявалі...

Засталася падараваная бацьку артыстам Уладзімірам Язэпавічам Уладамірскім фотакартачка, дзе ён у ролі Блазна з «Каваля-Ваяводы» Е. Міровіча. Датавана: «4/V. 1928 год. Горкі» *(«Успаміны...», с. 31)*.

*Май — чэрвень.*

Ва «Узвышшы», № 3 (9) надрукаваны ўрывак пад назвай

«Меланхолія» — раздзел «Прыехаў» і частка раздзела «Малацьба» будучай аднайменнай аповесці.

У «Червонім шляху», №№ 5—6 (Харкаў) надрукаваны артыкул «Білоруська література».

*Чэрвень.*

У «Беларускім піянеры», № 11 надрукаваны абразок «Малы рызыкант».

У «Маладняку», № 6 надрукаваны абразок «Не адной веры» і артыкул «Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова».

*Ліпень — жнівень.*

Паездка з Горак у Крым на лячэнне. Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «Улетку 1928 года паехаў бацька ў Крым падлячыцца. Па дарозе спыняўся ў Смаленску, Маскве, Харкаве. У Маскве сфатаграфаваўся разам з Ул. Дубоўкам. З гэтай картачкі зроблена фотакопія для рускага выдання «Віленскіх камунараў» *(Успаміны Г. М. Гарэцкай.— У кн.: Адамовіч А. «Браму скарбаў...», с. 138).*

*З 1 верасня.*

Сям'я М. Гарэцкага жыве ў г. Мінску па вул. Шпітальнай *(Успаміны Г. М. Гарэцкай.— У кн.: Адамовіч А. «Браму скарбаў...», с. 138).*

*Кастрычнік, 2.*

«Прызначан вучоным спецыялістам Інстытута навуковае мовы Інстытута Беларускае культуры. Пратакол Пасяджэння Прэзідыума ІБК № 44 ад 2/X 1928 г.» *(«Трудовой список»).*

*Кастрычнік, 7.*

У «Чырвонай змене», № 110 (637) надрукаваны артыкул «Творчыя сілы маладнякоўцаў. Сымон Баранаў».

*Кастрычнік, 14.*

У «Чырвонай змене», № 113 (640) надрукаваны артыкул «Творчасць маладнякоўцаў. Ілары Барашка».

*Лістапад, 4.*

У «Літаратурным дадатку да газеты «Савецкая Беларусь», № 18 надрукаваны артыкул «Творчасць Ізраіля Плаўніка».

*Лістапад, 15.*

Я. Колас падараваў М. Гарэцкаму кнігу «Казкі жыцця»

(Мн.: БДВ, 1928) з надпісам: «Міламу Максіму Гарэцкаму ад Якуба Коласа. 15/XI. 1928 г.».

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «Бацька і Якуб Колас былі ў шчырых адносінах, хадзілі адзін да аднаго ў госці, чыталі свае творы, даравалі кніжкі» *(Успаміны Г. М. Гарэцкай.— У кн.: Адамовіч А. «Браму скарбаў...», с. 139).*

*Лістапад, 18.*

У «Чырвонай змене», № 126 (653) надрукаваны артыкул «Творчасць маладнякоўцаў. Платон Галавач».

*Лістапад.*

У «Полымі», № 9 надрукаваны артыкул «Творчасць маладнякоўцаў. Аркадзь Моркаўка».

*На працягу года.*

Выйшлі з друку: «Жартаўлівы Пісарэвіч» (Мн.: БДВ), «Маладняк» за пяць гадоў. 1923—1928 г.г.» (Мн.: БДВ), «Народныя песні з мелодыямі» (Мн.: ІБК). Складальнікі М. Гарэцкі і А. Ягораў.

## 1929

*Студзень.*

М. Гарэцкі «з рэарганізацыяй Інстытута Беларускай Культуры ў Беларускую Акадэмію навук застаўлен на той жа самай пасадзе пры Беларускай Акадэміі навук» *(«Трудовой список»).*

*Люты, 3, 17.*

У «Полесской правде», №№ 27 (2615), 39 (2629) надрукаваны артыкул «Вершаваная паэзія сучасных маладнякоўцаў».

*Красавік, 7.*

«Чырвоная змена», № 77 (746) паведамляе, што ў панядзелак, 8 красавіка, у БДТ адбудзецца грамадскі дыспут на тэму: «Агляд і шляхі беларускай літаратуры». Для ўдзелу ў дыспуце запрошаны і М. Гарэцкі.

Працяг дыспуту ў панядзелак, 15 красавіка, у клубе імя Карла Маркса».

*Май — чэрвень.*

Ва «Узвышшы», № 5 надрукавана п'еса «Гапон і Любачка».

*Лістапад, 29.*

Я. Колас падараваў М. Гарэцкаму кнігу «Збор твораў. Том другі» (Мн.: БДВ, 1929), з надпісам «Максіму Гарэцкаму ад Якуба Коласа. 29/XI. 1929».

*Лістапад, 30.*

З запісной кніжкі М. Гарэцкага: «...здаў «Антона». Надрыхтаваў у новай рэдакцыі...» *(Ф. 7, воп. I, адз. зах. 36).*

*На працягу года.*

Працуе над цыклам «Люстрадзён». Творы з гэтага цыкла падпісвае псеўданімам «Мізэрыус Монус». Напісаны: «Смерць» (пра Паўлюка Труса), датуецца 2 верасня, «Праступда містэра Рамзая» («У Палястыне»), «Пагранічны інцыдэнт на Амуры» («Напад белагвардзейцаў»), «Кірмашовае пабоішча ў Крывічах», «Асляпёны конь», «Жаночая помста» («Сон»), «Гісторыя з доктарам Міленькім» *(Ф. 7, воп. I, адз. зах. 35).*

М. Гарэцкі ўдзельнічае ў перакладзе на беларускую мову артыкулаў і дадаткаў да 3-га тома Збору твораў У. І. Леніна *(У. І. Ленін. Збор твораў: У 12 тамах, т. 3, Мн., 1929).*

## 1930

*Студзень, 25.*

У час. «Чырвоная Беларусь», № 2 змешчана апавяданне «У Палястыне» («Праступда містэра Рамзая») з цыкла «Люстрадзён».

*Студзень.*

У «Маладняку», кн. 1 змешчана апавяданне «Напад белагвардзейцаў» («Пагранічны інцыдэнт на Амуры») з цыкла «Люстрадзён» за подпісам М. Г.

*Чэрвень, 11.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «Цікавая даведка [1] захавалася ад 11 чэрвеня 1930 г. Сведчыць бацька, што жонка яго Леаніла Чарняўская прымала сталы ўдзел у сумеснай літаратурнай рабоце з ім «як у тэхнічнай часці (перапіска, падчытка і т. п.), так і ў стыльрэдакцыі тых перакладных і арыгінальных прац і пераробак для Белдзяржвыдавецтва, якімі я займаўся на даму (слоўнікі, хрэстаматыі, «Падручнік

[1] Захоўваецца ў Г. М. Гарэцкай.

для антырэлігійных рабочых гурткоў» пад рэдакцыяй Е. Ярлаўскага, «У нетрах Усурыйскага краю» Ул. Арсеньева, «Маладняк» за пяць гадоў» М. Гарэцкага і інш.)» *(«Успаміны...», с. 35).*

*Чэрвень, 13.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «...пераехалі мы на Заслаўскую вуліцу ў дом № 5 на Людаманце (потым быў пад № 7, а ў 1974 годзе яго зруйнавалі...)» *(«Успаміны...», с. 35).*

*Чэрвень, 15.*

Напісана замалёўка «Коршун, птушачка і я».

*Чэрвень, 27.*

Напісана замалёўка «Чалавек у кароне».

*Ліпень, 13.*

Напісана замалёўка «Прывязаны хлопчык».

Напісана замалёўка «Бацька осліп».

*Канец чэрвеня — ліпень, да 15.*

М. Гарэцкі паехаў у Крым на лячэнне. Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «У тое лета тата лячыўся ў Еўпаторыі, жыў там на вуліцы Пляханава ў санаторыі «Джаліта».

Вярнуўся к 15 ліпеня, дню нараджэння Лёні. Хадзіў па справах у Дом пісьменніка. Мяне, як часта бывала, з сабою ўзяў. Там настойліва папрасілі ўдакладніць новы адрас (як дабрацца ў тэрміновым выпадку). А праз некалькі дзён давялося нам развітвацца з бацькам» *(«Успаміны...», с. 35, 36).*

*На працягу года.*

У Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшлі аповесць «Ціхая плынь» і пераклады М. Гарэцкага на беларускую мову:

Горкі М. Зброднік. Канавалаў. Чалкаш. (Апавяданні).

Лібядзінскі Ю. Камісары. (Аповесць).

Лібядзінскі Ю. Тыдзень. (Аповесць).

Фадзееў А. Разгром. (Раман).

## 1931

Жыве і працуе ў г. Вятцы (з 1934 г.— г. Кіраў Кіраўскай вобласці РСФСР).

Паводле ўспамінаў Г. Гарэцкага: «У 1931 годзе брат вымушаны быў асесці на пяць гадоў у горадзе Кіраве...

Цяжкія гады, вялікія матэрыяльныя цяжкасці (з выпадковай працай не па спецыяльнасці) і маральная прыгнечанасць не скрушылі, аднак, Максімавага духу і не згасілі прагнасці да літаратурнай творчасці. Упарта працягвалася апрацоўка матэрыялаў да «Камароўскай хронікі», пісаўся раман «Віленскія камунары» *(«Успаміны...», с. 14).*

*Ліпень, 8.*

З ліста[1] да Леанілы Усцінаўны: «Ліст пішу ў бібліятэцы імя Герцэна. Бібліятэка вельмі добрая і мае 600 000 тамоў».

*Жнівень, 16.*

З ліста да Леанілы Усцінаўны: «Учора ў газеце была абвестка, што патрэбны чарцёжнікі ў ФУПе (фабр[ика] учебн[ых] пособий). Дык я да сённяшняга дня ізноў хадзіў на пабудову лазні...»

*Жнівень, 17.*

«Фабрика учебных пособий. г. Вятка. Принят чертежником в отдел капитального строительства. Приказ № 282 § 2—31 г.» *(«Трудовой список»).*

*Жнівень, 18.*

З ліста да Леанілы Усцінаўны: «А ў мяне прыемная навіна. З учарашняга дня ўзялі мяне на чарцёжную работу ў ФУП, у аддзел капітальнага будаўніцтва».

*Кастрычнік, 16.*

З ліста да Леанілы Усцінаўны: «Чытаю. Сёння чытаю «Краму старажытнасцей» Ч. Дзікенса; узяў у фабрычнай бібліятэцы. Як будзеш мець час, Лёля, вышлі мне бандэроллю мае нататкі пра «Віленскіх камунараў»..., можа, я іх тут апрацую да друку (а напішу і па-руску і па-беларуску — дзе-небудзь прымуць)».

*Лістапад, 17.*

З ліста да Леанілы Усцінаўны: «Учора атрымаў рукапіс «Віленскіх камунараў». Вельмі дзякую за высылку...»

*Лістапад, 20.*

З ліста да Леанілы Усцінаўны: «Камунараў» атрымаў, пра што ўжо паведамляў табе. Там частка рукапісу засталася

[1] Лісты і паштоўкі М. Гарэцкага захоўваюцца ў архіве ЦНБ АН БССР (Ф. 7, воп. I, адз. зах. 45).

ў цябе, дык няхай сабе, абыдуся без яе. Што пішу? Усё патроху. Цяпер якраз прыводжу да ладу рукапіс «Камунараў». Яшчэ канчаткова не ведаю, у якім плане напішу. Ці гэта будзе нешта падобнае да нарысу ці да нейкае сыраватае повесці з розных абразкоў і сцэнак».

*Лістапад, 23.*

«Ввиду реорганизации Отдела капитального строительства в «Управление строительством новой фабрики учебных пособий № 5» зачислен чертежником управления строительством» *(«Трудовой список»).*

*Лістапад, 28.*

«Працую над «Камунарамі», пішу ў форме нарыса» *(Запіс на бланку да паштовага пераводу з датай на штэмпелі 28/XI—1931).*

*Снежань, 16.*

М. Гарэцкі піша ліст да Леанілы Усцінаўны. З ліста: «Заўчора атрымаў заказную бандэроль з рэштаю рукапісу «Віленск[ія] камун[ары]»... А ўвечары чытаю «Гісторыю цывілізацыі ў Англіі» Бокля і канчаю апрацоўваць «Віленск[іх] камунар[аў]». Нічога выйшаў нарыс, але папрацую яшчэ».

*Снежань, 27.*

«Камунараў» напісаў, але нешта нездаволены ўжо. Хай паляжаць» *(Ліст да Леанілы Усцінаўны ад 27/XII—1931).*

## 1932

Жыве і працуе ў г. Вятцы.

*Люты, 9.*

Піша ліст да Леанілы Усцінаўны. З ліста: «...вышлі мне заказною бандэроллю мой сшытак «Хронікі», што да «15-га» году. Хоць я яго трохі спарадкую».

*Люты, 26.*

З ліста да Леанілы Усцінаўны: «Добры дзень ці, праўдзівей,— ноч, бо першая гадзіна начы з 25 на 26. Запісаўся «Хронікаю». Атрымаў бандэроль, надта вам дзякую. Як быццам роднае нешта маё прыйшло да мяне ў хату. І хоць усімі сіламі хачу скараціцца, каб хутчэй, і хапаюся, але прыемна

мне, і радуюся, што на лад пісанне маё патрошку пайшло. Калі ласка, прышлі, Лёля, яшчэ матэр'ялы да 1913, 1914 гг. Іх, праўда, вельмі мала, але прышлі. Яны ўкладзены, здаецца, за 1913 г. да выпраўленага друку «У чым яго крыўда?», а за 1914 г. да выпраўл[еных] і друкаван[ых] на машынцы запісак «На імпер[ыялістычнай] вайне». Бандэроль была крыху разарвана, але атрымаў, пэўна, усё: тры сшыткі, першы да 1913 г., другі — 1915 г. і трэці — 1916».

*Сакавік, 4.*

Піша ліст да сына. З ліста: «Увечары пішу «Хроніку» і напісаў да 1903 г.».

*Красавік, 29.*

Піша ліст да Леанілы Усцінаўны. З ліста: «Каб толькі мне напісаць гэтую сваю «Хроніку». Гэта была б рэч, што на працягу пэўнага часу нейкую цану мае».

*Май, 8.*

З ліста да Леанілы Усцінаўны: «...тое-сёе раблю і з сваёю «Хронікаю». Упарадкаваў «1915-ты год».

*Май, 14.*

Піша ліст да Леанілы Усцінаўны. З ліста: «Да каго ж ты паедзеш у Маскву? Хіба ж да жонкі М. Горкага? *(«Чырвоны крыж»).* Ды завязі ёй мой пераклад «Чалкаша», «Канавалава» і «Озорника». А ці маеш ты мой артыкул (1928 г.?) у «Маладняку» (агляд белар[ускай] літар[атуры] пасля «Наш[ай] н[івы]»)? Там у раздзеле аб польскай акупацыі я характарызую польскую шляхту. У падполлі выдана кніжачка майго перакладу «Хто такія камуністы?» (Мініна, здаецца),— з даручэння Міцк[явічуса] — Капсук[аса]».

*Май, 22.*

Піша ліст да Леанілы Усцінаўны. З ліста: «Рукапісы перабяры: «Хроніку» прывязі (17—21 гады прышлі поштаю, маючы час)...»

*Чэрвень.*

Да М. Гарэцкага ў Вятку прыехала жонка Леаніла Усцінаўна з дзецьмі Галінай і Леанідам *(Інфармацыя Г. М. Гарэцкай).*

*На працягу года.*

М. Гарэцкі працуе над «Віленскімі камунарамі» *(Інфармацыя Г. М. Гарэцкай).*

## 1933

Жыве і працуе ў Вятцы.

*Люты, 18.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «18 лютага 1933 года адзначыць бацька свой юбілей» *(«Успаміны...», с. 42).*

*На працягу года.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «У вольныя вечары 1933 года апрацоўваў бацька «Віленскіх камунараў...» *(«Успаміны...», с. 42).*

## 1934

Жыве і працуе ў г. Вятцы.

*Жнівень.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «У жніўні 1934 года бацька паслаў рукапіс «Віленскіх камунараў» у выдавецтва ў Мінск (адзначыць гэта ў «Камароўскай хроніцы»). Пачаў пісаць рускі варыянт «Віленскіх камунараў» — «Виленские воспоминания» *(«Успаміны...», с. 43).*

## 1935

Жыве і працуе ў г. Кіраве (былая Вятка).

*Сакавік, 4.*

Памерла ў М. Багацькаўцы маці пісьменніка — Ефрасіння Міхайлаўна.

*Жнівень, 31.*

«Я атрымаў у аблана Зах[одняй] вобласці прызначэнне — выкладчыкам мовы і літаратуры ў поўнай сярэдняй школе ў г. Пясочню [1]. Заўтра а 7-ай раніцы буду там і напішу вам, што гэта за месца. Загадчык Пясочнінскага райана, з якім я еду з Смаленска разам, вельмі хваліць» *(Ліст да Лёні Гарэцкага ў Кіраў ад 31/VIII — 1935 г. са ст. Смаленск).*

Перавезці адразу ўсіх членаў сям'і на новае месца жыхар-

---

[1] З 1936 г.— г. Кіраў Смаленскай (цяпер Калужскай) вобласці РСФСР.

ства ў г. Пясочню М. Гарэцкі не мог, паколькі захварэла жонка. Ён забірае з сабой сына Лёню, а дачку Галіну пакідае разам з маці ў г. Кіраве (Леаніла Усцінаўна знаходзілася ў бальніцы). Па дарозе ў Пясочню М. Гарэцкі адпраўляе да жонкі і дачкі два лісты ад 2/X — 1935 г. і ад 3/X — 1935 г.

*Кастрычнік, 12.*

Піша ліст да Леанілы Усцінаўны. З ліста: «Гісторык паехаў загадваць сямігодкай, і яго ўрокі я таксама запаўняў. Класнае кіраўніцтва, напачатку, адбірае шмат часу».

*Кастрычнік, 28.*

Піша ліст да Леанілы Усцінаўны. З ліста: «Новы дырэктар — малады, добры працаўнік. Адносіны да мяне ладныя. Мала часу. Гутаркі, палітзаняткі, канец чвэрці, падрыхтоўка».

*Пасля 4 лістапада.*

Прыехалі ў Пясочню жонка і дачка М. Гарэцкага *(Ліст да Леанілы Усцінаўны ад 4/XI — 1935).*

*На працягу года.*

Працуе над «Камароўскай хронікай» і фрагментамі да яе *(Інфармацыя Г. М. Гарэцкай).*

## 1936

Жыве і працуе ў г. Кіраве.

*Чэрвень, 18.*

М. Гарэцкі разам з дачкой Галінай наведаў М. Багацькаўку *(Ліст да Леанілы Усцінаўны ад 18/VI—1936; успаміны Г. М. Гарэцкай — у кн.: «Успаміны...» с. 49).*

*Ліпень 22 (ці 23).*

М. Гарэцкі другі раз наведаў М. Багацькаўку *(Ліст да Леанілы Усцінаўны ад 23 (?)/VII—1936).* Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «22 ці 23 ліпеня бацька зноў прыехаў у М. Багацькаўку... У тое ж лета запісаў бацька «Камароўскі парад» — пералік усіх трыццаці пяці двароў у вёсцы і кароценькія звесткі аб гаспадарах і сем'ях» *(Адамовіч А. «Браму скарбаў...», с. 193).*

*Лістапад.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «На Кастрычніцкія святы 1936 года прыехалі да нас у Пясочню дзядзька Гаўрыла Іванавіч і дзядзіна Лара» *(Адамовіч А. «Браму скарбаў сваіх адчыняю...», с. 161).*

## 1937

*Пачатак года.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «Узімку 1937 года гасцяваў у нас дзед Іван Кузьміч. Тата запісваў ад яго пра службу ў паноў. Засталіся невялікія чарнавікі апавяданняў, напісаных на аснове дзедавых успамінаў і дзіцячых уражанняў бацькі: «Голубая кровь», «Кобылёшка», «Предводитель дворянства Рындин», «Лёксочка», «Хиромант» *(«Успаміны...», с. 55, 56).*

*Пачатак лета.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай, М. Гарэцкі «ненадоўга з'ездзіў у Маскву, наведаў У. І. Пічэту» *(«Успаміны...», с. 56).*

*Канец лета.*

М. Гарэцкі прыехаў у М. Багацькаўку. Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «У канцы лета тата прыехаў за мною ў Малую Багацькаўку. Прыходзілі пагаманіць з бацькам вяскоўцы» *(«Успаміны...», с. 56).*

*Канец жніўня.*

М. Гарэцкі вярнуўся з дачкой у Кіраў *(«Успаміны...», с. 57).*

*Лістапад, 4.*

Паводле ўспамінаў Г. М. Гарэцкай: «У ноч на 4 лістапада 1937 года каля ганка дома нашага развіталіся мы з бацькам назаўсёды...» *(«Успаміны...», с. 58).*

## 1939

*Сакавік, 20.*

М. Гарэцкі памёр у Комі АССР *(«Успаміны...», с. 58).*

## Алфавітны даведнік

## ЗМЕСТ



**МАКСИМ ИВАНОВИЧ ГОРЕЦКИЙ**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ЧЕТЫРЕХ ТОМАХ

ТОМ 4

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*На першым форзацы:*
*Новыя забудовы на вуліцы імя Максіма Гарэцкага ў г. Мсціслаўі.*

*На другім форзацы:*
*Родныя краявіды.*

Рэдактар С. Р. Прыгодзіч. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. М. Собалева
ІБ № 1929
Здадзена ў набор 07.02.86. Падп. да друку 18.08.86. АТ 00627. Фармат 84×108$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 20,16+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 21,42. Ул.-выд. арк. 22,41. Тыраж 8000 экз. Зак. 2193. Цана 2 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.